УДК 329(476)“1943/1995”(093.2)
ББК 66.68(4Беи)
Г20

*Серыя «Бібліятэка Бацькаўшчыны» заснаваная МГА «ЗБС “Бацькаўшчына”» ў 2004 годзе*

Прадмова
др. Вітаўта Кіпеля, др. Янкі Запрудніка

Навуковае рэцэнзаванне
Н. Гардзіенкі, др. Я. Запрудніка, др. В. Кіпеля

Кніга выдаецца супольна з Беларускім інстытутам навукі і мастацтва (Нью-Ёрк, ЗША).

У выданні таксама бралі ўдзел:
Беларускі кангрэсавы камітэт Амерыкі (БККА).
Выдавецкая камісія:
Алена Касоўская (старшыня камісіі), Роберт Цупрык (старшыня БККА), Жорж Арцюшэнка, Ірына Аўдзей, Надзя Запруднік, Таццяна Кулакевіч, Жорж Лешчанка, Ліза Літаровіч, Жорж Навумчык, Валянціна Сенька, Міхась Сенька, Віталь Цярпіцкі.

Аўтар выказвае шчырую падзяку: Аўгену Грушу, Фаніку Корбуту (Аўстралія), Вітаўту Кіпелю, Лізе Літаровіч, Янку і Надзеі Запруднікам, Жоржу Навумчыку, Роберту Цупрыку, Лёлі Касоўскай, Ірэне і Віталю Цярпіцкім, Юрыю і Арлін Арэхвам, др. Жоржу і Лорэйн Кіпелям, Зінаідзе Уладкоўскай, Валі Ковет, Паўлу Бурдзю, Нікаласу Касоўскаму, Н. і В. Сцяжкам, Валянціне і Міхасю Сенькам, Рэні і Нікалаю Касьцюкам, Янку Шыбуту, Уладзіміру і Лідзіі Ракуч, Анатолю Санковічу, Алексу і Аляксандры Касоўскім, Марыі і Кастусю Вераб’ям, Кацярыне Вініцкай, Тамары Стагановіч, Ганне Мерляк, Марату Клакоцкаму, Якубу і Маргарыце Сапяжынскім, Марыі Дземкавіч, Анатолю Праневічу, Жанне Малашэвіч, Ларысе Дубовік, Ніку Лабовічу, Лявону Юрэвічу (ЗША).

**ISBN 978-985-7144-02-0**

# ПРАДМОВА

Беларуская Цэнтральная Рада (БЦР) была створаная ў 1943 г., а спыніла сваё існаванне ў 1995 г. Яе гісторыя, асабліва ў 1943–1945 гг., змяшчае ў сабе і маральна важкае пытанне аб супрацоўніцтве беларускага нацыянальнага актыву з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі — з’ява дасюль не вывучаная ды ў вялікай ступені затуманеная афіцыйнай гістарыяграфіяй. Савецкія і некаторыя постсавецкія гісторыкі, мінаючы важныя факты і аспекты жыцця пад нямецкай акупацыяй, аперуюць штампамі «калабарацыянізм», «калабаранты»[1]. Гэтыя тэрміны, этымалагічна непразрыстыя для бальшыні грамадства, ператвараюць у ягонай свядомасці «калабарантаў» у злачынцаў.

Дарэчы, гэтак жа за савецкім часам дзяржаўная прапаганда карысталася асуджальным і этымалагічна няясным тэрмінам «дысідэнт», які прыкрываў сабою палітычнае і культурнае іншадумства — думанне інакш, чым дазваляла камуністычная партыя.

Каб належна разумець, як выглядаў «калабарацыянізм», чым ён матываваўся, і хто такія былі «калабаранты», якія мэты яны ставілі перад сабой, трэба ведаць значна больш фактаў, чым іх зафіксавала савецкая чорна-белая гістарыяграфія. Менавіта новымі фактамі, вынесенымі на дзённае святло з архіўных крыніцаў, і адзначаецца гэтая кніга гісторыка Алега Гардзіенкі. У працы — шмат дэталяў з самых розных сфераў жыцця падчас нямецкай акупацыі, пад якой беларускія дзеячы імкнуліся працягваць нацыянальную працу сваіх папярэднікаў. Гісторыя Беларусі таго перыяду ў канчальным падліку — гэта гісторыя выжывання ідэі беларускай незалежнасці. І па-

---

[1] Слова «калабарант» мае лацінскае паходжанне. *Collaborare* — працаваць разам, супрацоўнічаць. У англійскую мову згаданы дзеяслоў у тым жа значэнні ўвайшоў даволі позна, у 1871 г., паводле слоўніка Ўэбстэра — скалькаваны з французскага *collaborer*. А выведзены з яго тэрмін «калабарацыянізм», што значыць супрацоўніцтва з варожай акупацыйнай уладай, у англійскай мове ўжываецца з 1923 г. Ён быў узяты таксама з французскай для ацэнак адпаведных сітуацыяў Першай сусветнай вайны.

Шасцітомны «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» (1978) слова «калабарацыянізм» выводзіць з французскай (*collaboration* — супрацоўніцтва) і надае яму звужаны сэнс: здрадніцкае супрацоўніцтва з ворагамі сваёй радзімы ў час акупацыі яе фашысцкімі войскамі ў перыяд Другой сусветнай вайны.

колькі савецкая гістарыяграфія, служанка імперскай Масквы, прывязала беларускім патрыётам бірку «калабарантаў», а Беларусь працягам апошніх трох стагоддзяў была пад ціскам акупантаў з розных бакоў, трэба ставіць на разгляд прынцыповае пытанне пра супрацоўніцтва абаронцаў краю з акупантамі *ўсіх* перыядаў.

«Западнорусы» другой паловы XIX ст. супрацоўнічалі (калабаравалі) з царскай уладай; нашаніўцы — з царскімі чыноўнікамі і кайзераўскімі вайскоўцамі, а таксама з пілсудчыкамі; нацдэмы супрацоўнічалі з расійскімі камуністамі; грамадоўцы і эндэкі ў Заходняй Беларусі — з палякамі; і ўрэшце тыя, каму ўдалося выжыць пасля бальшавіцкага і польскага прыгнёту, — з немцамі ў часе іхнай другой акупацыі. Ёсць і цяперашнім часам у ліку калабарантаў з рэжымам такія, хто намагаецца ўратаваць ідэю незалежнасці Беларусі ды скарбы нацыянальнае культуры, а найперш беларускую мову. Але трэба прызнаць, што, жывучы пад якім бы там ні было чужым рэжымам, нельга абысціся без дачыненняў з ім, бо гэтага вымагаюць абставіны штодзённага побыту, а таксама нацыянальныя інтарэсы. Пад кожнай акупацыяй настаўнікам трэба займацца школьнай моладдзю, дактарам — лячыць хворых, адміністратары мусяць дбаць пра санітарныя ўмовы; мусіць працаваць транспарт, гандаль, канторы сацыяльнага забеспячэння і г. д., і г. д. І зусім натуральна, што грамадзяне акупаванай тэрыторыі, кожны ў сваёй галіне, бяруцца за працу над выжываннем у непадкантрольных акалічнасцях.

Важна тут зазначыць дзеля аб’ектыўнасці, што ў беларускім адраджэнскім руху на ягоным гістарычным шляху былі калабаранты-здраднікі. Але гвалтам над праўдай і справядлівасцю будзе навешванне ярлыка «калабарант» на ўсіх супрацоўнікаў з акупацыйнай уладай. У краінах з дэмакратычным рэжымам былая праца пад акупантам дзеля захавання нацыянальнай культуры і пастулату дзяржаўнасці не асуджаецца. Наадварот. Прыкладам, калі Францыя была вызваленая з-пад нямецкай акупацыі, генерал Дэ Голь падзякаваў настаўнікам, што яны ў цяжкі для нацыі час працягвалі навучанне школьнае моладзі. А што зрабіла савецкая ўлада з беларускімі настаўнікамі, якія працавалі ў школах пад немцамі? Колькі іх загінула на сібірскім марозе?

Вось жа шырокая панарама жыцця пад нямецкай акупацыяй 1941–1944 гг., якую Алег Гардзіенка паказвае чытачу, патрабуе ацэнкі падзеяў у вышэй адзначаным гістарычным кантэксце. Галоўным ацэначным крытэрам тут павінна быць дзяржаўнасць Беларусі.

Беларускі народ да сённяшняга часу не мае свае нацыянальнай зместам дзяржавы. Дэмакратычна абвешчаная ў Мінску 25 сакавіка 1918 г. Беларус-

кая Народная Рэспубліка (БНР) была брутальна акупаваная бальшавіцкай Чырвонай Арміяй, якая пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі падмяніла армію царскую. Мэтай Масквы засталося захаваць цэласць Расійскай імперыі.

Абвяшчэнне БНР было кульмінацыйным пунктам у імкненні беларусаў да рэалізацыі ідэалу нацыянальнай дзяржаўнасці. Але дзеячам БНР не пашчасціла вырваць краіну з маскоўскіх ланцугоў. Творцы і абаронцы Рэспублікі падаліся на эміграцыю, каб праводзіць там дыпламатычную дзейнасць у імя ідэі незалежнасці Беларусі. Але і на Бацькаўшчыне нацыянальныя кадры не бяздзейнічалі: намаганнямі беларусаў-камуністаў, такіх, як Алесь Чарвякоў, Зміцер Жылуновіч, Фабіян Шантыр, Язэп Адамовіч ды іншыя, у Смаленску 1 студзеня 1919 г. была абвешчаная, імітуючы БНР, Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка Беларусь. Гэтая падзея сталася першым крокам да супрацоўніцтва (калабарацыі) беларускіх адраджэнцаў з камуністычнай Масквой.

Колькі ахвяраў каштавала гэтае супрацоўніцтва, яшчэ цалкам не падлічылі, але маштабы трагізму відавочныя: дзеля аслаблення нацыянальнага патэнцыялу беларусаў Масква пайшла, разам з Польшчай, на падзел краю Рыжскім трактатам у 1921 г. За гады супрацоўніцтва з камуністычнай Масквой была зліквідаваная амаль цалкам нацыянальна арыентаваная беларуская інтэлігенцыя, сотні тысяч жыхароў Беларусі былі вывезеныя або расстраляныя. Асабліва жорстка абышлася Масква з «айцамі БССР», як гэта апісаў Аўген Калубовіч у брашуры «“Айцы” БССР і іхны лёс» (Кліўлэнд (ЗША), 1982; перавыдадзеная ў Мінску ў 1994). Супрацоўніцтва з Крамлём ператварыла паваенную Беларусь, падкошаную ў яе нацыянальна-культурным патэнцыяле, у «зборачны цэх» імперыі.

Супрацоўніцтва дзеячаў БНР з палякамі ў міжваеннай Польшчы не сталася дадатным фактарам таксама. Шмат каму з беларускіх паслоў, сенатараў, студэнтаў, палітычных актывістаў давялося сядзець за кратамі або гібець у ізаляцыі на польскіх этнічных землях. Вынікам усяго гэтага ў Заходняй Беларусі стаўся разгром беларускага нацыянальнага руху.

Супрацоўніцтва часткі сябраў Рады БНР з уладамі ў тагачасных Літве і Латвіі таксама не спыніла заняпаду беларускага нацыянальнага жыцця ў гэтых краінах.

У такім стане апынуўся беларускі адраджэнскі рух, пазбаўлены вялікае часткі кадраў, калі выбухнула нямецка-савецкая вайна ды пачалася трохгадовая нямецкая акупацыя Беларусі. Кніга Алега Гардзіенкі прапаноўвае якраз шматбаковае апісанне чарговага этапу супрацоўніцтва нацыянальнага

актыву, гэтым разам з гітлераўскай Нямеччынай, а таксама рэпрэзентацыі паваеннай палітычнай дзейнасці на эміграцыі.

Кантакты беларусаў з нямецкімі органамі ўлады пачаліся задоўга да вайны. На супрацоўніцтва пайшлі галоўна дзеячы, што жылі ў Нямеччыне або, пазней, на акупаваных немцамі польскіх землях. Дзеячы тыя ўважалі, што палітычная бяздзейнасць будзе выкарыстаная палякамі і Саветамі для варожых беларусам мэтаў. Калі выбухнула ў верасні 1939 г. нямецка-польская вайна, супольная дзейнасць вялася ў першую чаргу з нямецкімі вайсковымі коламі, каб найперш вызваліць ваеннапалонных беларусаў, што служылі ў польскай арміі.

Аўтар кнігі, ці не ўпершыню ў беларускай гістарыяграфіі, шырока выкарыстаў архівы не толькі Беларусі, але і перахоўваныя на Захадзе архівы БЦР, асабістыя зборы Радаслава Астроўскага, Івана Касяка, Юрыя Сабалеўскага, Анатоля Плескачэўскага ды іншых лідараў ваеннага часу. Ён паказвае, што супрацоўніцтва з немцамі ў часе акупацыі не было лёгкім — немцы ішлі на саступкі беларусам толькі таму, што ваенныя падзеі развіваліся не так, як Берлін планаваў. Прыходзілі і сыходзілі не толькі палітычныя дзеячы: кс. Вінцэнт Гадлеўскі, Фабіян Акінчыц, др. Іван Ермачэнка ды інш., — мяняліся і арганізацыйныя структуры, спачатку дазволеныя, а пасля зачыненыя немцамі: Беларуская народная самапомач, Беларуская рада даверу, вайсковыя фармацыі, царкоўныя структуры. Нарэшце, напрыканцы 1943 г., была пакліканая генералам Куртам фон Готбэргам (Curt von Gottberg) Беларуская Цэнтральная Рада на чале з прэзідэнтам Радаславам Астроўскім. Калі папярэднія беларускія ўстановы былі фактычна другараднымі адміністрацыйнымі адзінкамі, дык БЦР фармавалася і выступала ўжо як нацыянальны ўрад, у функцыі якога ўваходзілі ўсе сферы жыцця, хоць для немцаў найважнейшай мэтай было мець ад беларусаў ваенную дапамогу. Аўтар аналізуе паўсталую канфліктную сітуацыю: абвешчаная Беларускай Цэнтральнай Радай мабілізацыя ў Краёвую абарону перакрыла разлікі немцаў — даваць зброю такой вялікай вайсковай структуры немцы ўстрымаліся. Сталася відавочным, што супрацоўніцтва перарасло вызначаныя яму межы. Немцы пабаяліся беларускага патэнцыялу.

У кнізе Алега Гардзіенкі — маса арганізацыйных і побытавых дэталяў. Аўтар піша пра адміністрацыйныя функцыі, умовы працы, заработкі, бюджэты, выдаткі; гаворыць пра недахоп адраджэнскіх і прафесійных кадраў.

Дзейнасць БЦР, як і ўся беларуская дзейнасць на бацькаўшчыне пад нямецкай акупацыяй, завяршаецца Другім Усебеларускім кангрэсам 27 чэр-

веня 1944 г. Не зважаючы на відавочны адыход немцаў на Захад, на Кангрэс з'явіліся больш за тысячу дэлегатаў. На гэтым форуме, першым вялікім сходзе пасля Першага Усебеларускага кангрэсу ў снежні 1917 г. (дарэчы, у тым самым будынку), быў выказаны асноўны нацыянальны пастулат — пацверджэнне Акту 25 сакавіка 1918 г. аб дзяржаўнай незалежнасці БНР.

Аўтар кнігі ўсебакова апісвае сітуацыю ў часе Кангрэсу, рэверансы ў бок немцаў, асцярожнасць некаторых прамоўцаў, у нейкай ступені нават «пампезны» антырасійскі тон, але слушна сцвярджае, што на Кангрэсе незалежніцкія імкненні былі заяўленыя, ухваленыя і ўдакументаваныя. Аргументы, выказаныя на Другім Усебеларускім кангрэсе ў абарону права беларускага народу на незалежнасць, важныя і сённяшнім днём.

Шмат новага ў кнізе — пра дзейнасць БЦР у Берліне, яшчэ ў нацысцкай Нямеччыне. Вялікая частка працы прысвечаная агляду і ацэне дзейнасці на эміграцыі пасля вайны, г. зн. пачынаючы з лета 1945 г. Гэтая частка кнігі — цалкам новая ў нашай гістарыяграфіі ды важная як для гісторыі БЦР, гэтак і ўсяе беларускае эміграцыі.

Аўтар дэтальна апісвае працэс эвакуацыі, арганізацыйныя мерапрыемствы ў Нямеччыне падчас вайны, а таксама размяшчэнне беларусаў у паваеннай Нямеччыне ды перасяленне ў заакіянскія краіны. Апісваецца таксама дзейнасць беларускіх арганізацыяў, спрэчкі і канфлікты паміж двума палітычнымі лагерамі: БЦРаўскім на чале з прэзідэнтам Радаславам Астроўскім ды БНРаўскім на чале з прэзідэнтам Міколам Абрамчыкам. Прааналізаваныя рэлігійныя разыходжанні, якія адыгрывалі важную ролю ва ўмовах дыяспарнага існавання, паколькі цэрквы сталіся цэнтрамі эміграцыйных асяродкаў.

Дзейнасць БЦР з 1945 г. найперш адзначалася тым, што бэцээраўцаўцы сталі заснавальнікамі шмат якіх палітычных арганізацыяў і грамадскіх асяродкаў, якія заняліся палітычна-інфармацыйнаю працаю. Разам з тым многія з БЦРаўскай плыні, уважаючы эру дзейнасці БЦР закончанай, перайшлі ў лагер Рады БНР, узмацняючы яго ды ўліваючы кадры ў БНРаўскія структуры.

Аўтар дэтальна ілюструе, як працягам дзесяцігоддзяў гэтыя два лагеры — БЦР і БНР — канкуравалі міжсобку, трацячы на гэта шмат энергіі. Пры гэтым ён фармулюе думку, што галоўнай прычынай супрацьстаяння было нежаданне, а мо і негатовасць лідараў шукаць кампрамісны шлях да, у гэтым выпадку, *беларуска-беларускага* супрацоўніцтва.

Дзейнасць БЦР на эміграцыі ў выніку натуральнага змяншэння кадравага патэнцыялу ды статутовых палажэнняў-вымогаў спынілася ў 1995 г.,

дазваляючы вызначыць гады 1943–1995 як час існавання Беларускай Цэнтральнай Рады.

Азнаямленне з грунтоўнай і патрэбнай працай Алега Гардзіенкі паказвае, што дзейнасць БЦР была чародным этапам супрацоўніцтва ў гістарычным ланцугу акупацыяў Беларусі. Як кожны з гэтых этапаў, ён быў няўхільным, абумоўленым стыхійнымі абставінамі, накіраваным на ратаванне і замацоўванне незалежніцкае ідэі.

На беларускім могільніку ў Саўт-Рывэры ў штаце Нью-Джэрзі (ЗША) на помніку Радаславу Астроўскаму выгравіяваны надпіс: *«Прэзідэнт Беларускай Цэнтральнай Рады — Беларускай Народнай Рэспублікі»*. Такім чынам у аналы гісторыі Беларусі БЦР уваходзіць як праца-змаганне нацыянальнага актыву за адраджэнне свае дзяржаўнасці — Беларускае Народнае Рэспублікі.

*др. Вітаўт Кіпель, др. Янка Запруднік*

# ЛІТАРАТУРА І КРЫНІЦЫ
*Кароткі агляд*

## ПУБЛІКАЦЫІ Ў БССР І РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ

Да пачатку 1990-х пра нямецкую акупацыю Беларусі напісалі шмат, аднак пра Беларускую Цэнтральную Раду асобнага даследавання не з'явілася. У савецкай гістарыяграфіі ўдзельнікі нацыянальных арганізацыяў разглядаліся як памагатыя фашыстаў, і таму БЦР была ў агульным ланцужку «здрадніцкіх» арганізацыяў: Беларуская народная самапомач — Беларуская самаахова — Саюз беларускай моладзі — Рада даверу — Беларуская Цэнтральная Рада.

У 1964 г. выйшла кніга Васіля Раманоўскага *«Саўдзельнікі ў злачынствах»*, ужо адзін загаловак якой выносіў прысуд беларускім дзеячам падчас нямецкай акупацыі — саўдзельнікам злачынстваў нямецкіх акупантаў[2]. Аднак у манаграфіі падрабязна разглядаліся розныя аспекты акупацыйнага жыцця, чаго раней не было, давалася кароткая гісторыя дзейнасці арганізацыяў: Беларускай народнай самапомачы, Саюзу беларускай моладзі і Беларускай Цэнтральнай Рады, г. зн. чытач мог скласці ўяўленне пра гісторыю тых ці іншых аб'яднанняў. Пазней Васіль Раманоўскі абараніў доктарскую *«Нямецка-фашысцкая акупацыйная палітыка і яе крах у Беларусі»*[3].

Закранаўся пытанне беларускага нацыянальнага руху падчас нямецкай акупацыі ў маштабных выданнях, выпушчаных савецкімі гісторыкамі ў 1950–1980-х. Гэта працы Інстытуту гісторыі партыі пры ЦК КПБ і Інстытуту гісторыі АН БССР: *«Партызанская барацьба беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны»*[4], а таксама трохтомнікі *«Усенародны партызан-*

---

[2] Раманоўскі, Васіль. Саўдзельнікі ў злачынствах. Мінск: Беларусь, 1964. — 288 с.

[3] Романовский, В. Ф. Немецко-фашистская оккупационная политика и ее крах в Белоруссии: (1941–1944 гг.): автореф. дис. … докт. ист. наук: 07.00.02 / Академия наук Белорусской ССР, Отделение общественных наук. Минск, 1974. — 46 с.

[4] Партызанская барацьба беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны: Зборнік успамінаў і артыкулаў арганізатараў і актыўных удзельнікаў партызанскай

*скі рух у Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны (чэрвень 1941 — ліпень 1944)»*[5], *«Усенародная барацьба ў Беларусі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у гады Вялікай Айчыннай вайны»*[6]. Але ва ўсіх гэтых кнігах функцыянаванне акупацыйнага палітычнага рэжыму ды нацыянальнага руху асвятлялася павярхоўна, з абавязковым навешваннем ярлыка «здрадніцтва». Спробаў разабрацца ў праблематыцы нацыянальнай дзейнасці падчас вайны (савецкая гістарыяграфія выкарыстоўвала прыметнік «нацыяналістычны», а нацыянальных дзеячаў называла «нацыяналістамі») не было, ды ў той час гэта было і немагчыма. Новы погляд на падзеі Другой сусветнай на тэрыторыі Беларусі быў выкладзены ў выданнях, выпушчаных у пачатку 1990-х. Гэта дапаможнік *«Беларусь у гады Другой сусветнай і Вялікай Айчыннай вайны»*[7], а таксама зборнік *«Старонкі ваеннай гісторыі Беларусі»*[8].

Афіцыйны пункт гледжання быў адлюстраваны ў выдадзенай у 1995 г. у Мінску кнізе Анатоля Салаўёва *«Беларуская Цэнтральная Рада: стварэнне, дзейнасць, крах»*. Аўтар падрабязна прааналізаваў працу БЦР, закранаючы развіццё нацыянальнага руху з 1941 г.[9] Кніга складаецца з пяці раздзелаў: «Стварэнне Беларускай Цэнтральнай Рады», «Фармаванне Беларускай Краёвай Абароны», «2-гі Усебеларускі Кангрэс», «Беларуская Цэнтральная Рада

вайны супроць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у гады Вялікай Айчыннай вайны. Мінск: Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1959. — 364 с.

[5] Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): документы и материалы: в 3 т. Минск: Беларусь, 1967–1982. Т. 1: Зарождение и развитие партизанского движения в первый период войны (июнь 1941 — ноябрь 1942). Минск, 1967. — 743 с.; Т. 2: Развитие всенародного партизанского движения во второй период войны. Кн. 1 (ноябрь 1942 — июнь 1943). Минск, 1973. — 679 с.; Т. 2: Развитие всенародного партизанского движения во второй период войны. Кн. 2 (июль—декабрь 1943). Минск, 1978. — 813 с.; Т. 3: Всенародное партизанское движение в Белоруссии на завершающем этапе (январь—июль 1944). Минск, 1982. — 791 с.

[6] Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны: в 3 т. Т. 1. Минск, 1983. — 590 с.; Т. 2. Минск, 1984. — 550 с.; Т. 3. Минск, 1985. — 530 с.

[7] Беларусь у гады Другой сусветнай і Вялікай Айчыннай вайны (1 верасня 1939 г. — 2 верасня 1945 г.): матэрыял у дапамогу студэнтам / саст. В. Кісялёў. Мінск: БДУ, 1994. — 24 с.

[8] Старонкі ваеннай гісторыі Беларусі: зборнік артыкулаў / Аддзел ваеннай гісторыі Ін-та гісторыі АН Беларусі, Кафедра тэорыі права і гісторыі Акадэміі МУС Беларусі; рэдкал.: А. Літвін (адк. рэд.) і інш. Мінск, 1992. — 211 с.

[9] Соловьев, А. Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах. Минск: Навука і тэхніка, 1995. — 176 с. Палову кнігі займаюць дакументы, у тым ліку перакладзены на рускую мову пратакол Другога Усебеларускага кангрэсу.

ў Берліне», «Крах Беларускай Цэнтральнай Рады». Дзейнасць БЦР тут, як і раней, характарызавалася негатыўна: памагатыя нацыстаў. Фактычна, аўтар паўтарыў погляд на нацыянальны рух пад нямецкай акупацыяй, прапанаваны ў 1964 г. Васілём Раманоўскім. Анатоль Салаўёў рэзюмаваў:

> Адной з яскравых праяваў пасобніцтва нямецка-фашысцкім захопнікам у Беларусі была дзейнасць лідараў і актывістаў БЦР, што аказалася інспіраваная па ўказанні генеральнага камісара Беларусі фон Готбэрга, які падпісаў Статут БЦР і прызначыў Р. К. Астроўскага прэзідэнтам. З дапамогай БЦР фашысты спрабавалі знішчыць партызанскі рух у Беларусі, сфармаваўшы батальёны карнікаў і БКА і падавіўшы любы супраціў акупантам. Актыўнымі памагатымі гітлераўцаў былі тыя, хто адпраўляў тысячы беларусаў на катаржныя працы ў Нямеччыну, аказваў дапамогу карнікам у знішчэнні савецкіх людзей у гета і турмах. Памагатымі акупантаў былі і тыя, хто ўзводзіў паклёп, спрабуючы забіць у народзе надзею на вызваленне Радзімы, усхваляў яе фашысцкія ідэалы, пераконваў моладзь прыняць ідэі фашызму, вербаваў у СБМ, другія нацыяналістычныя арганізацыі, а затым фармаваў з беларусаў часткі СС, пасылаючы іх ваяваць за чужыя інтарэсы ў Італію і Францыю. Яскрава праявілася здрадніцтва лідараў Рады 27 чэрвеня 1944 г. на 2-м Усебеларускім кангрэсе БЦР у Мінску, а затым пасля ўцёкаў у Берлін, дзе БЦР стала прыдаткам адміністрацыйнага апарату Нямеччыны. Аналіз дзейнасці БЦР пацвярджае, што пытанні самавызначэння народу, яго дзяржаўнасці, іншыя нацыянальныя праблемы нельга вырашаць шляхам узброенай барацьбы, абапіраючыся на падтрымку інтэрвентаў ці экстрэмісцкіх элементаў. Гэту выснову варта лічыць адным з сур'ёзных урокаў гісторыі нацыянальнага руху ў Беларусі[10].

Разам з тым, кніга дадала шэраг новых фактаў да гісторыі БЦР, што дазваляе яе выкарыстоўваць як біяграфічны даведнік і крыніцу дакументаў.

Паасобныя старонкі нямецкай акупацыі закранаюцца ў зборніку Аляксея Літвіна *«Акупацыя Беларусі (1941–1944): праблемы супраціву і калабарацыі»*[11]. У кнізе ёсць два асобныя раздзелы, прысвечаныя пытанням калабарацыі: «Беларуская краёвая абарона» і «Калабарацыянізм на тэрыторыі

---

[10] Соловьев, А. Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах… С. 95.

[11] Літвін, Аляксей. Акупацыя Беларусі (1941–1944): пытанні супраціву і калабарацыі. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2000. — 287 с.

Беларусі», у якіх аўтар паставіў у тым ліку і тэарэтычныя праблемы, ацэньваючы дэфініцыі паняццяў, што выкарыстоўваюць для даследавання акупацыі.

Апошнія дасягненні беларускай афіцыйнай гістарычнай навукі выкладзеныя ў пятым томе *«Гісторыі Беларусі»*, падрыхтаванай Інстытутам гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук[12]. Раздзел, прысвечаны падзеям нямецкай акупацыі, называецца «У полымі Вялікай Айчыннай вайны» і складаецца з шасці падраздзелаў: «Абарончыя баі», «Акупацыйны рэжым», «Антыфашысцкая барацьба ў Беларусі», «Калабарацыянізм», «Жыццё насельніцтва ў гады акупацыі» і «Вызваленне». Пра беларускі нацыянальны рух апавядаецца ў раздзеле «Калабарацыянізм» (аўтар — доктар гістарычных навук Аляксей Літвін). Праўда, Беларускай Цэнтральнай Радзе і Беларускай краёвай абароне ў тэксце адводзіцца крыху больш за старонку. БЦР характарызуецца выключна ў негатыўным святле, хоць аўтар і зазначыў, што беларускія дзеячы (тут яны называюцца толькі калабарантамі) разлічвалі выкарыстаць БЦР для ажыццяўлення сваёй мары — стварэння дзяржаўнасці пад нямецкім пратэктаратам. Аляксей Літвін, падсумоўваючы даробак беларускага нацыянальнага руху падчас нямецкай акупацыі, сцвярджае, што кульмінацыйным пунктам было правядзенне Другога Усебеларускага кангрэсу:

> 27 чэрвеня 1944 г., калі Чырвоная Армія ўжо падыходзіла да Мінска, у гарадскім тэатры сталіцы было праведзена апошняе афіцыйнае мерапрыемства БЦР — сход бургамістраў, начальнікаў паліцыі, членаў БЦР і іншых «дэлегатаў беларускага народа», якія назвалі яго «другім усебеларускім кангрэсам». […] Не закончыўшы работу, кангрэсмены збеглі ў Кёнігсберг, а затым у Берлін. Там яны праводзілі антысавецкую работу сярод эмігрантаў беларускага паходжання, а таксама насільна загнаных у Германію з мэтай стварэння так званай беларускай арміі. Такім чынам, стаўка беларускіх калабарантаў на нямецка-фашысцкіх захопнікаў, з дапамогай якіх яны хацелі стварыць пад эгідай Германіі беларускую дзяржаўнасць, беларускі ўрад, беларускае войска, пацярпела крах. Для гэтага не было ні ваенна-палітычных, ні іншых абставінаў. Беларускі народ у сваёй абсалютнай большасці бачыў у гітлераўцах сваіх ворагаў і самаадданна змагаўся з імі[13].

[12] Гісторыя Беларусі: у 6 т. Т. 5. Беларусь у 1917–1945 гг. / А. Вабішчэвіч [і інш.]; рэдкал. М. Касцюк (гал. рэд.) і інш. Мінск: Экаперспектыва, 2007. — 613 с.

[13] Тамсама. С. 517–518.

Паказальна, што асвятленне перыяду нямецкай акупацыі ў пятым томе акадэмічнай «Гісторыі Беларусі» вяртае беларускую гістарычную навуку на пазіцыі 1970–1980-х гг., што моцна дысануе з асвятленнем іншых тэмаў у кнізе: напрыклад, беларускага нацыянальнага руху ў пачатку XX ст. або перыяду БНР і БССР, сталінскіх рэпрэсіяў, якія сваім маштабам і нялюдскім стаўленнем да грамадзянаў прывялі да непрымання часткаю насельніцтва савецкай улады, і, пазней, да супрацоўніцтва з немцамі.

Асобным аспектам падзеяў 1941–1944 гг. на тэрыторыі Беларусі прысвечаныя розныя манаграфіі і выданні. Сяргей Жумар даследаваў акупацыйны друк. Ён склаў бібліяграфію акупацыйных перыядычных выданняў, што друкаваліся на тэрыторыі Беларусі, і выдаў манаграфію *«Акупацыйны перыядычны друк у гады Вялікай Айчыннай вайны»*[14].

У 1990–2000-х выйшлі дзясяткі кніг (як навуковых, гэтак і публіцыстычных), артыкулаў, у якіх тым ці іншым чынам закраналіся падзеі Другой сусветнай вайны на тэрыторыі Беларусі: разглядалася нацыянальная палітыка і міжнацыянальныя адносіны, мілітарызаваныя фармаванні, вываз на прымусовыя працы ў Нямеччыну, антысавецкае падполле, гісторыя рэлігійных канфесіяў, праблемы беларускай эміграцыі[15]. Найбольш грунтоўна падышлі

[14] Библиография оккупационных периодических изданий, выходивших на территории Белоруссии в 1941–1944 гг. / автор-составитель С. В. Жумарь. Минск, 1995. — 43 с.; Жумарь, С. Оккупационная периодическая печать на территории Беларуси в годы Великой Отечественной войны. Минск: БелНИИДАД, 1996. — 283 с.; Оккупационная периодическая печать на территории Беларуси в годы Великой Отечественной войны: (На материалах белорусскоязыч. изданий): автореф. дис. … канд. ист. наук: 07.00.02 / АН Беларуси, Ин-т истории. Минск, 1996. — 17 с.

[15] Беларусь в годы Великой Отечественной войны 1941–1945 / А. А. Коваленя (рук. авт. коллектива), А. М. Литвин, В. И. Кузьменко и др. Минск: БЕЛТА, 2005. — 540 с.; Беляев, А. В. Местная вспомогательная администрация в системе немецко-фашистского оккупационного режима в Беларуси (1941–1944 гг.): автореф. дис. … канд. ист. наук: 07.00.02: 08.06.2005 / Белорусский государственный университет. Минск, 2005. — 22 с.; Блізнюк, Дзмітрый. З гісторыі нацыянальнай палітыкі нямецкіх акупацыйных уладаў на тэрыторыі Беларусі ў 1941–1944 // Этнічныя супольнасці ў Беларусі: гісторыя і сучаснасць. Матэрыялы навуковай канферэнцыі. Мінск, 6–7 снежня 2001 г.; Валаханович, Игорь. Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944–1953 гг. Минск: БГУ, 2002. — 144 с.; Валаханович, Игорь. Специальный батальон «Дальвиц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны. Масавыя забойствы нацыстаў / пад рэдакцыяй К. І. Козака. Мінск, 2005; Гелагаеў, Алесь. Беларускія нацыянальныя вайсковыя фармацыі ў часе Другой сусьветнай вайны. Мінск: Голас краю, 2002. — 70 с.; Гелагаеў, Алесь. Арганізацыя беларускіх узброеных адзінак на тэрыторыі Генэральнай акругі «Беларусь» у 1941–1944 гг. // ARCHE. 2010. № 5; Здановіч, У.

Беларусь у гады Вялікай Айчыннай вайны (1941–1945 гг.) у адлюстраванні айчыннай гістарыяграфіі: аўтарэф. дыс. … докт. гіст. навук: 07.00.09 / Інстытут гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Мінск, 2012. — 46 с.; Знешняя палітыка Беларусі: зборнік дакументаў і матэрыялаў. Т. 4 (чэрвень 1941 — жнівень 1945). Мінск: БДУ, 2001. — 394 с.; Каваленя, Аляксандр. Беларусь у гады Другой сусветнай вайны (1941–1945). Мінск, 1996. — 87 с.; Каваленя, Аляксандр. Прагерманскія саюзы моладзі на Беларусі (1941–1944). Вытокі. Структура. Дзейнасць. Мінск, 1999. — 235 с.; Клыкоўская, Ціна. Саюз беларускай моладзі: вяртанне з небыцця. Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства, 2004. — 226 с.; Коваль, Вольга. Перыядычныя выданні беларускай дыяспары як гістарычная крыніца (1939–1960). Мінск: РІВШ, 2006. — 164 с.; Козак, К. И. Германские и коллаборационистские потери на территории Беларуси в годы Великой Отечественной войны (1941–1944): анализ и итоги. Минск: Логвинов И. П., 2012. — 373 с.; Козак, Кузьма. Германский оккупационный режим на территории Беларуси 1941–1944: историография и источники. Минск: БГУ, 2006. — 267 с.; Крывашэй, Дзмітрый. Нацыянальныя супольнасці Беларусі ў перыяд германскай акупацыі: чэрвень 1941 — ліпень 1944. Мінск: Беларуская навука, 2009. — 196 с.; Кузьменко, В. И. Интеллигенция Беларуси в период немецко-фашистской оккупации (1941–1944). Минск: БГПУ, 2001. — 199 с.; Кузьменко, Владимир; Токарев, Николай. Политика немецко-фашистских оккупационных властей в отношении научной интеллигенции Беларуси (1941–1944). Минск: Белорусская наука, 2007. — 132 с.; Літвін, А. Калабарацыя ў Беларусі падчас Другой сусветнай вайны // Гістарычны альманах. Т. 13. 2007. С. 90–95; Літвін, А. Антысавецкія ваенна-паліцэйскія фарміраванні на тэрыторыі Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, 1941–1944 гг.: Вытокі. Структура. Дзейнасць: аўтарэф. дыс. … докт. гіст. навук: 07.00.02 / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. Мінск, 2000. — 37 с.; Літвін, А. Вяртанне ў рабства: прымусовая праца насельніцтва Беларусі, 1941–1945 гг. / А. Літвін, Я. Грэбень, С. Новікаў; агульная рэдакцыя А. Літвіна; [пераклад дакументаў з нямецкай на беларускую мову: В. Лойка, С. Паўлавіцкі]; Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут гісторыі НАН Беларусі, Фонд «Памяць, адказнасць і будучыня» (Берлін). Мінск: Тэсей, 2010. — 581, [1] с.; Лыч, Леанід. Нацыянальна-культурнае жыццё Беларусі на тэрыторыі функцыянавання нямецкага акупацыйнага рэжыму (чэрвень 1941 — ліпень 1944 г.). Львоў: Воля, 2011. — 287, [1] с.; Лыч, Леанід. Нацыянальна-культурнае жыццё на Беларусі ў часы вайны (1941–1944 гг.) / [літаратурная і навуковая рэдакцыя А. Тараса]. Вільня: Наша будучыня, 2011. — 330, [1] с.; Мігунова, Алена. Прапагандысцкая і культурна-асветніцкая дзейнасць нямецкай акупацыйнай улады ў Генеральнай акрузе «Беларусь»: аўтарэф. дыс. … канд. гіст. навук. Мінск, 1999. — 24 с.; Новікаў, Сяргей. Эканамічная палітыка нацысцкай Германіі (1941–1944): агляд крыніц і германскай гістарыяграфіі 1990-х. Мінск, 2002. — 219 с.; Новікаў, Сяргей. Беларусь у кантэксце германскай гістарыяграфіі гісторыі другой сусветнай вайны. Мінск, 2004. — 222 с.; Силова, Светлана. Православная церковь в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941–1945). Гродно: ГрГУ, 2003. — 105 с.; Сервачинский, И. Ю. Коллаборационизм на оккупированной территории Беларуси (июль 1941 — август 1944 гг.): автореф. дис. … канд. ист. наук: 07.00.02 / БГУ. Минск, 1999. — 16 с.; Снапкоўскі, Уладзімір. Беларуская палітычная эміграцыя (1945–1990) // Полымя,

да гэтых праблемаў навукоўцы Аляксандр Каваленя, Уладзімір Кузьменка, Аляксей Літвін, Сяргей Новікаў.

Падрабязна дачыненні БЦР і БНР на эміграцыі разглядаюцца ў кнігах Наталлі Гардзіенка і Лявона Юрэвіча *«Рада БНР: 1947–1970. Падзеі. Дакументы. Асобы»* і *«Рада БНР: 1970–1982»*. Гэтыя выданні ляжаць на мяжы метрапольнай і эміграцыйнай гістарыяграфіі ды заснаваныя на крыніцах з замежных беларускіх архіваў[16]. У кнігах супастаўляюцца статуты абедзвюх структураў, праграмныя дакументы, асвятляецца канфлікт паміж арганізацыямі, асобныя сюжэты ў складаных узаемаадносінах урадаў і іх лідараў.

Так, у першай кнізе апавядаецца пра БНР часоў прэзідэнцтва Міколы Абрамчыка (1947–1970), падаецца перадгісторыя аднаўлення Рады БНР, канфлікт з БЦР у 1947–1948 гг., «барацьба за эміграцыю», а таксама за «права прадстаўляць» беларускую эміграцыю на Захадзе, у тым ліку і ў ЗША, куды пераехала значная частка беларусаў да пачатку 1950-х, апісваецца супрацоўніцтва з амерыканскімі арганізацыямі і беспаспяховыя стасункі з БЦР. У другой кнізе («Рада БНР. 1970–1982 гг.») расказваецца пра гісторыю БНР падчас старшынёўства Вінцэнта Жук-Грышкевіча. Праўда, дзейнасць БЦР у гэты час адыходзіць на другі план.

## ЭМІГРАЦЫЙНЫЯ І ЗАМЕЖНЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ПУБЛІКАЦЫІ

БЦР надавала вялікае значэнне пытанню нацыянальнага руху падчас нямецкай акупацыі і свайму месцу ў ім, прычым асабліва падкрэслівалася роля Другога Усебеларускага кангрэсу. Ужо праз два месяцы пасля яго заканчэння і праз месяц пасля пераезду ў Берлін Канстанцін Езавітаў выдаў дзве брашуры: *«2-гі Усебеларускі Кангрэс у Менску»*, дзе былі змешчаныя асноўныя матэрыялы форуму[17], ды *«Беларуская Цэнтральная Рада — адзіны*

1997. №2. С. 201–239; Снапкоўскі, Уладзімір. Беларусь у геапалітыцы і дыпламатыі Другой сусветнай вайны і пачатку халоднай вайны (1939–1947) // Внешняя политика Беларуси в исторической ретроспективе. Материалы междунар. науч. конф., 24–25 мая 2002 г., г. Минск / редкол.: В. Астапенко и др. Минск: Адукацыя і выхаванне, 2002.

[16] Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947–1970): Падзеі. Дакументы. Асобы. Мінск: Кнігазбор, 2013. — 648 с.; Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1970–1982): Падзеі і дакументы. Мінск: Кнігазбор, 2014. — 309 с.

[17] Езавітаў, Канстанцін. 2-гі Усебеларускі Кангрэс у Менску. Бэрлін, 1944. — 15 с.

*правамоцны прадстаўнік беларускага народу»*[18]. У гэтых выданнях сфармуляваная і абгрунтаваная ідэя, што БЦР — законная прадстаўніца беларусаў на эміграцыі.

У пачатку 1945 г. асобна быў выдрукаваны даклад віцэ-прэзідэнта БЦР Міколы Шкялёнка *«Беларускі народ уневажняе бяспраўныя пастановы»*, прачытаны ім на Кангрэсе[19]. У спавешчанні падкрэслівалася, што прызнаюцца неправамоцнымі пастановы СССР і Польшчы адносна беларускіх земляў.

Пасля капітуляцыі Нямеччыны і захадаў, звязаных з рэпатрыяцыяй, беларускія грамадскія арганізацыі, у тым ліку і БЦР, былі вымушаныя паўстрымаць дзейнасць. Але пасля таго, як канчаткова акрэсліўся раскол на эміграцыі на прыхільнікаў Рады БНР пад кіраўніцтвам Міколы Абрамчыка і БЦР Радаслава Астроўскага, вярнулася неабходнасць у далейшай папулярызацыі яе ідэяў.

У пачатку 1948 г. пабачыла свет брашура дзеяча Рады БНР 1918–1920 гг. Міколы Шылы *«А што далей?»* з кароткім нарысам узаемадачыненняў беларускіх эмігрантаў[20]. Ветэран нацыянальнага руху падтрымаў у 1948 г. БЦР. Брашуру неўзабаве перавыдалі ў Лондане і выкарыстоўвалі ў прапагандзе супраць Рады БНР і Міколы Абрамчыка. У 1949 г. Яўхім Кіпель у лагеры Бакнанг, Бадэн-Вюртэмбэрг (Backnang, Baden-Württemberg), выдаў асобным друкам рэферат, зачытаны 26 чэрвеня 1949 г., пад назваю *«Другі Ўсебеларускі Кангрэс»*[21]. Тут закранаалася права пераемнасці беларускай палітычнай улады на эміграцыі, і яно прызнавалася за БЦР.

У наступныя гады палеміка паміж Радай БНР і БЦР ішла пераважна праз газетныя артыкулы. Самая значная праца была зробленая ў 1954 г., калі ў Мюнхене намаганнямі БЦР выйшла кніга дакументаў *«Другі Ўсебеларускі Кангрэс»*[22]. Галоўным рэдактарам быў Радаслаў Астроўскі, а тэхнічную апрацоўку і карэктуру зрабіў Палікарп Манькоў. Тут быў змешчаны пратакол

---

[18] Езавітаў Канстанцін. Беларуская Цэнтральная Рада — адзіны правамоцны прадстаўнік беларускага народу. Бэрлін: выданьне Беларускага Інфармацыйнага Бюро, 1944. — 12 с.

[19] [Шкялёнак, Мікола]. Беларускі народ уневажае бяспраўныя пастановы. [Бэрлін]: выданьне Беларускага Інфармацыйнага Бюро, 1945. — 13 с.

[20] Шыла. Мікола. А што далей? (Кароткі нарыс узаемаадносінаў сярод беларускай эміграцыі.) Браўншвайг, 1948. — 16 с.

[21] Кіпель, Яўхім. Другі Ўсебеларускі Кангрэс. Бакнанг, 1949. — 12 с.

[22] Другі Ўсебеларускі Кангрэс. Матар'ялы, сабраныя і апрацаваныя на падставе пратакольных запісаў камісіяй Беларускай Цэнтральнай Рады пад рэдакцыяй праф. Р. Астроўскага. [Мюнхен]: выданьне Беларускай Цэнтральнай Рады, 1954. — 94 с.

Кангрэсу, усе прамовы, некаторыя дакументы, спіс дэлегатаў, што выехалі за мяжу і для якіх не было небяспекі рэпрэсіяў, дадаткова прыводзілася разнастайная статыстыка.

БЦР ва ўступе да выдання падавалася як чарговы этап барацьбы за незалежнасць: Полацкае княства — ВКЛ — вызвольныя антырасійскія паўстанні — нацыянальны рух пачатку ХХ ст. — абвяшчэнне БНР. Уціск нацыянальнага жыцця ў Польшчы, жорсткія сталінскія рэпрэсіі ў БССР у дачыненні інтэлігенцыі, сялянаў і работнікаў, знішчэнне рэлігійнага жыцця — усё гэтаператварыла Беларусь у калонію бальшавіцкай Расіі, як зазначалі выдаўцы. Аўтары прадмовы пісалі, што перыяд нямецкай акупацыі быў адною з трагічных старонак гісторыі краю, аднак нацыянальны рух паспрабаваў у гэты час максімальна дабіцца саступак у новага акупанта:

> …Тэрор акупантаў — Савецкай Расеі і Польшчы, — які трываў 20 год, ня здолеў зьнішчыць імкненьня беларускага народу да адбудовы сваёй дзяржавы. Пад нямецкай акупацыяй беларусы зь вялікай энэргіяй ізноў узяліся за адбудову асноў сваёй дзяржаўнай незалежнасьці. У барацьбе супраць бальшавіцкай, польскай і расейскіх дывэрсіяў беларусы ахоплівалі сваім актывам адміністрацыю, паліцыю, школьніцтва, суд, сацыяльную апеку ды іншыя дзялянкі жыцьця[23].

Аўтары зазначалі, што немцы, пабачыўшы шырокую адбудову нацыянальнага жыцця, былі вымушаныя пайсці на саступкі беларусам, вынікам чаго стала стварэнне нацыянальнага ўраду пад акупацыяй — Беларускай Цэнтральнай Рады:

> У такіх абставінах арганізавалася Беларуская Цэнтральная Рада як нацыянальна-беларускае кіраўніцтва краю. БЦР арганізавала свой адміністрацыйны апарат у форме намесьніцтваў, ахапляючы абшары па-за прыфрантавой паласы, узначаліла школьніцтва, ахову здароўя, сацыяльную апеку, суд ды правяла мабілізацыю ў сваю нацыянальную армію — Беларускую Краёвую Абарону[24].

Распачынаць вайну на два франты — супраць немцаў і бальшавікоў — было б раўназначна самагубству:

---

[23] Другі Ўсебеларускі Кангрэс… С. 8.
[24] Тамсама.

Бальшавікоў усе добра ведалі і зь імі змагаліся, а што да немцаў, былі ўпэўненыя, што Захад ім рукі зьвяжа. У такой сытуацыі трэба было дасягнуць найбольшага і пры тым у легальны спосаб[25].

Апошняя думка стала вызначальнаю для БЦР цягам наступных дзесяцігоддзяў. У згаданых умовах для выяўлення волі беларускага народу падчас адступлення нямецкіх войскаў і быў скліканы Другі Усебеларускі кангрэс, на якім *«беларускі народ заявіў свету, што ёсць дзяржава Беларуская Народная Рэспубліка»*. Падкрэслівалася важнасць пастановаў Другога Усебеларускага кангрэсу, на якім дэнансавалі ранейшыя дамовы Савецкай Расіі ды Польшчы наконт Беларусі. Удзельнікі Кангрэсу дэлегавалі свае паўнамоцтвы (рэпрэзентаваць беларускі народ у свеце) менавіта БЦР з Радаславам Астроўскім на чале.

Кніга ўтрымлівала вялікую колькасць ілюстрацыйнага матэрыялу, тут жа былі надрукаваныя 2-я і 3-я ўстаўныя граматы 1918 г. Выданне шырока распаўсюджвалася па бібліятэках, а ў 1980 г. нават быў зроблены англійскі пераклад[26]. У 1985 г. у Грэнд-Рэпідсе, Мічыган (Grand Rapids, Michigan), накладам 36 асобнікаў быў выдадзены *«Пратакол Другога Ўсебеларускага Кангрэсу ў Менску дня 27 чэрвеня 1944 г.»*[27] Асноваю для выдання паслужыў дакумент, які захоўваў у сваім архіве сакратар Кангрэсу Леанід Галяк.

У 1960 г. у Лондане БЦР выдала яшчэ адну кнігу (яе падрыхтаваў Іван Касяк) — зборнік *«За дзяржаўную незалежнасць Беларусі»*[28]. Тут у роўнай колькасці змяшчаліся як дакументы БНР, гэтак і БЦР: пастановы і граматы, прынятыя Радаю БНР у 1918–1920 гг., рэзалюцыя пра роспуск Рады і ўраду БНР у 1925 г., а таксама ўсе пастановы, прынятыя БЦР у 1944–1945 гг. Падкрэслівалася, што БЦР — паўнавартасная пераемніца Рады БНР, якая прыпыніла дзейнасць у 1925 г. Гэты зборнік у выпадку недаступнасці арыгінальных дакументаў — важная базавая крыніца для вывучэння гісторыі БЦР.

---

[25] Другі Ўсебеларускі Кангрэс… С. 8.

[26] Перакладзены тэкст захоўваецца ў архіве БІНіМу.

[27] Пратакол Другога Ўсебеларускага Кангрэсу ў Менску дня 27 чэрвеня 1944 году. [Grand Rapids], 1985. — 48 с.

[28] За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі = For National Independence of Byelorussia: Дакуманты і матар’ялы, сабраныя і падрыхтаваныя да публікацыі І. Касяком, прагледжаныя і апрабаваныя для друку камісіяй Беларускай Цэнтральнай Рады пад кіраўніцтвам праф. Р. Астроўскага. Лёндан: выданьне Беларускай Цэнтральнай Рады, 1960. — 198 с.

На эміграцыі беларускія дзеячы фармулявалі ўласнае бачанне падзеяў Другой сусветнай вайны, акрэсліўшы гэты перыяд як этап нацыянальнага змагання за незалежнасць. Адным з першых, хто зрабіў кароткі пераказ гісторыі беларускага нацыянальнага руху падчас Другой сусветнай вайны, быў Людвік Галубовіч (Зарэчны), які стварыў, відаць, на запыт брытанскай ці амерыканскай выведкі 30-старонкавы рэферат *«Акупацыя Беларусі нямецкай арміяй і калабарацыя мясцовага насельніцтва»*[29]. Тэкст напісаны ў 1948–1951 гг. на рускай мове і захоўваецца ў зборах Александэра Даліна Гувэраўскага інстытуту (Каліфорнія, ЗША)[30]. Людвік Галубовіч-Зарэчны падрабязна апісаў пярэдадзень вайны і кантакты беларускіх дзеячаў з нямецкімі чыноўнікамі і выведнікамі, ахарактарызаваў акупацыю Заходняй Беларусі ды настрой мясцовага насельніцтва ў першы перыяд вайны, пачатак акупацыі (вайсковае кіраўніцтва) і разбудову беларускай адміністрацыі. Аўтар, які сам быў рэпрэсаваны ў 1935 г. і правёў у высылцы шэсць гадоў, падкрэсліў негатыўнае стаўленне насельніцтва да савецкіх уладаў і чаканні, звязаныя з эканамічнымі захадамі немцаў. Стварэнню БЦР адведзена некалькі раздзелаў. Галубовіч працытаваў статут Готбэрга, коратка распавёў пра мабілізацыю ў БКА, а таксама падрыхтоўку і ходу Другога Усебеларускага кангрэсу, падрабязна апісаў структуры БЦР, якая, на ягоную думку, магла ў зручных умовах пераняць функцыі беларускага ўраду[31]. Відавочна, тэкст Людвіка Галубовіча ствараўся дзеля спецыфічных мэтаў, не планаваўся для публікацыі, і таму можа разглядацца хутчэй як крыніца, а не як гістарычнае даследаванне.

Некаторыя факты аўтар сказіў, нешта змаўчаў. Ён зазначыў, напрыклад, што была дамоўленасць пра пераход беларускай дывізіі на бок амерыканцаў (нібыта Радаслаў Астроўскі даў Канстанціну Езавітаву паўнамоцтвы весці перамовы, але апошні фізічна не змог зрабіць гэтага), а потым прэзідэнт БЦР асабіста даў загад пераходзіць на бок амерыканцаў падчас наведвання

---

29 Оккупация Белоруссии немецкой армией и коллаборация местного населения // Под немцами: Воспоминания, свидетельства, документы. Историко-документальный сборник / составитель К. М. Александров. Санкт-Петербург, 2011. С. 11–42. У кнізе аўтарства тэксту памылкова прыпісваецца прэм’ер-міністру Рады БНР Аўгену Калубовічу.

30 Hoover Institutions Archives, Stanford University. Collection A. Dallin. Box 6. Folder 12.

31 Оккупация Белоруссии немецкой армией и коллаборация местного населения… С. 25–27.

дывізіі[32]. У часе напісання рэферату Галубовіч быў радным БЦР, і яму было важна ў вачах заходніх структураў, на замову якіх ствараўся тэкст, абгрунтаваць права БЦР рэпрэзентаваць беларусаў на эміграцыі. Напісаны Л. Галубовічам агляд не быў шырока вядомы на эміграцыі, аднак аналагічныя ідэі агучваліся ў 1950-х гг. і на старонках БЦРаўскіх перыядычных выданняў.

У 1960-х гг. напісанне працы па гісторыі Беларусі распачаў старшыня Беларускага кангрэсавага камітэту Амерыкі (1957–1989), дзеяч БЦР Іван Касяк. Аўтар скарыстаў максімум дакументаў пра БЦР, але цалкам суб’ектыўна паказаў дзейнасць Рады БНР. У аснову была пакладзеная праца Язэпа Найдзюка *«Беларусь учора і сяння»*[33], да якой Іван Касяк дадаў уласную частку: «Другая сусветная вайна і паваенны час» (больш за 100 старонак). Кніга выйшла ў 1989 г. пад назваю *«Byelorussia: historical outline»*. Беларускую версію перавыдалі ў 1993 г. у Мінску з пазнакаю супольнага аўтарства Язэпа Найдзюка ды Івана Касяка.

Частка «Другая сусветная вайна і паваенны час» уключае асобныя тры раздзелы, прысвечаныя БЦР (у тым ліку раздзел пра Другі Усебеларускі кангрэс). Аўтар глядзеў на падзеі з пазіцыі ўдзельніка (ён быў намеснікам БЦР у Глыбоцкай акрузе), апісваў дасягненні ў галіне школьніцтва, мабілізацыю ў БКА, змаганне з савецкім партызанскім рухам. Згадваў І. Касяк і эвакуацыю з Беларусі ды аднаўленне дзейнасці БЦР у Берліне. Асобныя раздзелы ў кнізе прысвечаныя жыццю і дзейнасці беларусаў пасля капітуляцыі Нямеччыны ў лагерах Ды-Пі, расколу на эміграцыі і выезду за акіян. Аўтар як адзін з ідэолагаў аднаўлення БЦР прызнаваў толькі за ёй права рэпрэзентацыі беларускага народу на эміграцыі ды адмаўляў у гэтым праве сучаснай яму Радзе БНР. Апісваючы грамадскае жыццё ў ЗША з канца 1940-х, І. Касяк падрабязна ахарактарызаваў дзейнасць арганізацыяў, якія трымаліся платформы БЦР, і зусім мала закранаў тыя, што падтрымлівалі Раду БНР. Тым самым ён ствараў уражанне, нібыта праца аб’яднанняў БНРаўскага кірунку была малазначная, што не адпавядае рэчаіснасці.

---

[32] Оккупация Белоруссии немецкой армией и коллаборация местного населения… С. 29–30.

[33] Najdziuk, Jazep. Białoruś učora i siahońnia. Karotki papularny histaryčny narys. Vilnia, 1940; Найдзюк, Язэп. Беларусь учора і сяньня: Папулярны нарыс з гісторыі Беларусі. Менск, 1944. — 304 с.

Частков дзейнасць БЦР закранаглася ў кнізе Івана Касяка *«З гісторыі праваслаўнай царквы беларускага народу»*[34]. Аўтар апісаў складаныя ўзаемадачыненні з іерархамі, якія ўсяляк супраціўляліся беларусізацыі і аўтакефаліі, падрабязна разгледзеў пасляваенны перыяд БАПЦ, далучэнне да РЗПЦ, марныя захады беларускіх дзеячаў дзеля вяртання епіскапаў у аўтакефалію. Касяк адлюстраваў у кнізе погляд на праблему з боку БЦР, што, натуральна, адрозніваўся ад гледзішча епіскапаў, выкладзенага, напрыклад, у мемуарах Апанаса (Мартаса) *«На ніве Хрыстовай»*[35] або ў манаграфіі *«Беларусь у гістарычным, дзяржаўным і царкоўным жыцці»*[36]. Параўнанне цікавае і важнае хаця б таму, што Апанас на эміграцыі трымаўся беларускага кола, ухваляў аднаўленне БЦР, быў яе радным і шчыльна кантактаваў у царкоўных пытаннях менавіта з Іванам Касяком.

Больш сцісла тэма нямецкай акупацыі закранутая ў кнізе даследніка Янкі Запрудніка *«Беларусь на гістарычных скрыжаваннях»*[37], дзе ёсць асобны падраздзел — *«Вайна 1941–1945 гг.»*, у якім найбольшая ўвага нададзеная культурнаму жыццю пад акупацыяй і Другому Усебеларускаму кангрэсу:

> Вынесшы прысуд бальшавіцкаму рэжыму за знішчэнне «1 800 000 лепшых сыноў нашага народу», з'езд прыняў лаканічную рэзалюцыю. Не разглядаючы будучыні беларускага народу і не згадваючы пра Нямеччыну, дэлегаты пацвердзілі Акт незалежнасці БНР ад 25 сакавіка 1918 г., дэнансавалі ўсе дамовы, падпісаныя Расіяй і Польшчай у дачыненні да Беларусі, і абвясцілі, што «адзіным сапраўдным прадстаўніком беларускага народу і яго краю ёсць сёння Беларуская Цэнтральная Рада на чале з прэзідэнтам Радаславам Астроўскім» […] З'езд дэлегатаў у Мінску стаўся лебядзінай песняй беларускага нацыяналізму пад нямецкай акупацыяй[38].

Важнае значэнне ў гістарыяграфіі БЦР маюць працы беларускага гісторыка з Варшавы Юрыя Туронка, які ў 1980-х гг. заняўся вывучэннем

[34] Касяк, Іван. З гісторыі праваслаўнай царквы беларускага народу. Нью-Ёрк, 1956. — 190 с.

[35] Афанасій [Апанас (Антон Мартас)]. На ніве Хрыстовай: у пяцідзесятыя ўгодкі сьвятарства, 1928–1978: успаміны. Нью Ёрк [і інш.], 2005. — 192 с.

[36] Афанасий [Апанас (Антон Мартас)]. Беларусь в исторической, государственной и церковной жизни. Буэнос Айрес, 1966. Пазней кніга перавыдавалася ў Мінску двойчы: у 1990 г. (262 с.) і ў 2000 г. (351 с.)

[37] Запруднік, Янка. Беларусь на гістарычных скрыжаваннях. Мінск, 1996. — 264 с.

[38] Тамсама. С. 113.

нацыянальнага руху часу Другой сусветнай вайны. Працуючы з дакументамі польскіх і нямецкіх архіваў, даследнік вывучаў як аспекты акупацыйнай палітыкі нямецкіх уладаў, гэтак і пытанні беларускай нацыянальнай дзейнасці. Гісторыя Саюзу беларускай моладзі падрабязна разгледжаная ў кнізе *«Людзі СБМ»*[39], пра беларускі друк у часы акупацыі распавядала *«Беларуская кніга пад нямецкім кантролем (1939–1944)»*[40]. Пытанні перадгісторыі БЦР закраналіся ў даследаванні *«Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі»*[41]. У апошнім раздзеле гэтай манаграфіі Юры Туронак, разважаючы пра прычыны забойства бургамістра Мінску, зазначыў, што дачыненне да замаху на Іваноўскага (6 снежня 1943 г.) мог мець Радаслаў Астроўскі, які ставіў мэту вярнуцца на мінскі палітычны алімп, таму расчышчаў дарогу перад стварэннем Беларускай Цэнтральнай Рады.

Падрабязна разглядаліся кантакты БЦР з польскімі дзеячамі ў артыкулах Юрыя Туронка *«Беларускае пытанне ў палітыцы лонданскага лагеру (1941–1944)»*[42] і *«Генэза і дзейнасць Беларускай Цэнтральнай Рады (снежань 1943 — чэрвень 1944)»*[43]. Аўтар падаў тут гісторыю БЦР мінскага перыяду, прааналізаваў супрацоўніцтва з немцамі, разбудову і дзейнасць арганізацыі, ахарактарызаваў мабілізацыю ў Беларускую краёвую абарону, стварэнне намесніцтваў і залежнасць іх ад немцаў. Юры Туронак адказаў на пытанне, навошта немцам было стварэнне БЦР:

> Асноўнай мэтай Готбэрга было зьнішчэньне савецкай партызанкі, дзейнасьць якой у Беларусі набыла надзвычайны маштаб і вынікі якой балюча адчуваліся Вэрмахтам і нямецкай цывільнай адміністрацыяй. [...] Такім чынам, прымаючы ініцыятыву Астроўскага ў

---

39 Туронак, Юры. Людзі СБМ. Вільня, 2007. — 224 с.

40 Туронак, Юры. Беларуская кніга пад нямецкім кантролем (1939–1944). Менск, 2002. — 144 с.

41 Turonek, Jerzy. Wacław Iwanowski i odrodzenie Białorusi. Warszawa, 1992. — 160 s. Пераклад на беларускую асобным выданнем: Туронак, Юры. Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі. Мінск: Медысонт, 2006. — 178 с., а таксама ў кнізе: Туронак, Юры. Мадэрная гісторыя Беларусі. Вільня, 2006. С. 140–256.

42 Turonek J. Kwestia białoruska w polityce obozu londyńskiego (1941–1944) // Studia z dziejów ZSRR i Europy Srodkowej. T. XIX. Wrocław, 1983. S. 131–158. Беларускі пераклад надрукаваны ў: Туронак, Юры. Мадэрная гісторыя Беларусі. Вільня, 2006. С. 464–484.

43 Turonek J. Geneza i działalność Białoruskej Centralnej Rady (grudzeń 1943 — czerwiec 1944) // Studia z dziejów ZSRR i Europy Srodkowej. T. XXI. Wrocław, 1985. S. 99–120. Беларускі пераклад надрукаваны ў: Туронак, Юры. Мадэрная гісторыя Беларусі. Вільня, 2006. С. 485–500.

справе стварэньня БЦР, Готбэрг не кіраваўся адмысловым клопатам пра абуджэньне беларускага нацыяналізму. Значна большую ролю пры гэтым адыгрывалі спадзяваньні на тое, што БЦР у пэўнай меры спрычыніцца да забесьпячэньня нямецкіх пазыцый у Беларусі ў апошняй фазе акупацыі і пры адступленьні[44].

Найбольш грунтоўнае даследаванне, прысвечанае беларускаму нацыянальнаму руху ў 1941–1944 гг., — манаграфія Юрыя Туронка *«Беларусь пад нямецкай акупацыяй»*, якая выйшла па-польску ў 1989 г., а пасля выдання ў Мінску па-беларуску ў 1993 г. стала бестселерам[45]. Тут упершыню ў беларускай гістарыяграфіі шматбакова паказваўся беларускі нацыянальны рух падчас нямецкай акупацыі, падаваліся розныя погляды на супрацоўніцтва з немцамі, падрабязна апісваліся механізмы берлінскай акупацыйнай палітыкі. Аўтар засведчыў, што ў Трэцім Рэйху не было адзінага стаўлення да ўсходняга пытання, і гэта давала магчымасць для лавіравання як чыноўнікам у Берліне і Рызе, гэтак і беларускім дзеячам у Мінску. Юры Туронак падрабязна спыніўся на арганізацыях: Беларускай народнай самапомачы, Радзе даверу, Саюзе беларускай моладзі, а таксама Беларускай Цэнтральнай Радзе, якой адвёў адзін з раздзелаў кнігі: «Напярэдадні татальнай катастрофы». Як і ў артыкуле «Генэза і дзейнасць Беларускай Цэнтральнай Рады», аўтар зазначаў, што БЦР была праектам Радаслава Астроўскага, якім у прапагандысцкіх мэтах скарыстаўся Курт фон Готбэрг. Імкненні ды магчымасці нацыянальнага руху і жаданні нямецкага акупанта, такім чынам, супалі. Уся гэтая дзейнасць мела вялікі прапагандысцкі эфект, што моцна паўплывала на настрой насельніцтва і актывізацыю нацыянальнага руху:

У гэты час ужо ні ў каго не заставалася ілюзій, канец акупацыі непазбежна набліжаўся, і трэба было лічыцца з тым, што савецкая ўлада неўзабаве вернецца. Аднак гэта не азначала, што прапагандысцкія захады Готберга, у т. л. і БЦР, не прынеслі ніякага плёну. Ужо сам факт яе стварэння істотна ўплываў на рост нацыяналістычных тэндэнцый у грамадстве. Нягледзячы на яе няпэўны статус, які звычайна мала каго бянтэжыў, на гэты орган глядзелі як на пэўную форму беларускага ўрада, як на праяву новай нямецкай палітыкі ў Беларусі,

---

44 Туронак, Юры. Генэза і дзейнасьць Беларускай Цэнтральнай Рады (сьнежань 1943 — чэрвень 1944) // Туронак, Юры. Мадэрная гісторыя Беларусі. Вільня, 2006. С. 497.

45 Туронак, Юры. Беларусь пад нямецкай акупацыяй. Мінск, 1993. — 236 с.

урэшце, як на своеасаблівы прывілей, зроблены для яе. […] Пэўная частка мясцовых жыхароў лепш згаджалася жыць у акупацыйных умовах і мець перад сабой імглістую нацыянальную перспектыву, чым апынуцца зноў у савецкай рэчаіснасці. Такія ж настроі неслі з сабой і ўцекачы з усходу[46].

У 2006 г. манаграфія Юрыя Туронка была ўключаная ў ягоныя збор працаў *«Мадэрная гісторыя Беларусі»*[47], а ў 2008 г. з дапаўненнямі і рэдактарскімі праўкамі была яшчэ раз перавыдадзеная[48]. Гісторыкі ў Беларусі не змаглі адрэагаваць на кнігу ўласным выданнем, а кароткая адліга ў вывучэнні гісторыі Другой сусветнай вайны ў тым жа Інстытуце гісторыі НАН Беларусі скончылася на пачатку XXI ст. адкатам на старыя пазіцыі з перавагаю вывучэння партызанскага руху і антыфашысцкай барацьбы.

Грунтоўна займаецца даследаваннем нацыянальнага руху падчас нямецкай акупацыі беларускі гісторык, які цяпер жыве ў Варшаве, Юры Грыбоўскі. У 2011 г. у Польшчы выйшла ягоная вялікая польскамоўная манаграфія *«Пагоня паміж белым арлом, свастыкай і чырвонай зоркай. Беларускі незалежніцкі рух у 1939–1956 г.»*[49] Аўтар вельмі падрабязна, спасылаючыся на польскія, нямецкія, беларускія, расійскія крыніцы, прааналізаваў гісторыю беларускага нацыянальнага руху ў азначаны перыяд. У кнізе разглядаецца праца беларускіх дзеячаў і такіх арганізацыяў, як Беларуская народная самапомач, Рада даверу, Саюз беларускай моладзі, Самаахова. Юры Грыбоўскі падрабязна спыніўся на мінскім перыядзе дзейнасці БЦР, арганізацыі Беларускай краёвай абароны. Асобны падраздзел кнігі прысвечаны БЦР у Берліне, а таксама пасляваеннаму часу. Грунтоўна разгледзеў даследнік і працу беларускіх арганізацыяў на эміграцыі, давёўшы іх гісторыю да 1956 г.

Асобныя аспекты дзейнасці беларускіх структураў закранаюцца ў шэрагу артыкулаў Юрыя Грыбоўскага: *«Беларускі камбатанцкі рух на Захадзе пасля*

---

[46] Туронак, Юры. Беларусь пад нямецкай акупацыяй // Туронак, Ю. Людзі СБМ. Беларусь пад нямецкай акупацыяй. Смаленск, 2008. С. 543.

[47] Туронак, Юры. Мадэрная гісторыя Беларусі. Вільня, 2006. — 877 с.

[48] Туронак, Юры. Людзі СБМ. Беларусь пад нямецкай акупацыяй. Смаленск, 2008. — 587 с. Перавыданне з праўкамі і дапаўненнямі аўтара.

[49] Grzybowski, Jerzy. Pogoń między Orłem Białym, Swastyką i Czerwoną Gwiazdą. Białoruski ruch niepodległościowy w latach 1939–1956. Warszawa, 2011. — 907 s.

*Другой сусветнай вайны»*[50], *«Беларускі легіён СС: міфы і рэчаіснасць»*[51], *«Польска-беларускі канфлікт у генеральнай акрузе «Беларусь» (1941–1944)»*[52], *«Наваградскі эскадрон Барыса Рагулі: вядомае і невядомае»*[53], *«Службы бяспекі ПНР і польскія нацыяналісты і іх палітычныя цэнтры на Захадзе»*[54]. Можна казаць пра значны даробак даследніка ў вывучэнні беларускага нацыянальнага руху ў сярэдзіне XX ст.

Шмат увагі аддадзена дзейнасці БЦР на эміграцыі і прыхільным ёй грамадскім, культурным і царкоўным арганізацыям у Злучаных Штатах у грунтоўнай кнізе Вітаўта Кіпеля *«Беларусы ў ЗША»*[55].

Згадваюцца пытанні беларускага нацыянальнага руху ў працах Алега Раманька, Б. К'яры, І. Ярмолава, С. Драбязкі, Р. Мюлера ды інш.[56] У 2011 г. пабачыла свет праца брытанска-амерыканскага аўтара, выкладчыка Ельскага ўніверсітэту Эндру Ўілсана *«Беларусь. Апошняя еўрапейская дыктату-*

[50] Грыбоўскі, Юры. Беларускі камбатанцкі рух на Захадзе пасьля Другой сусьветнай вайны // Запісы БІНіМ. №32. 2009.

[51] Грыбоўскі, Юры. Беларускі легіён СС // Беларускі гістарычны агляд. Т. 14. Сш. 1–2 (26–27). Снежань 2007. С. 97–140.

[52] Грыбоўскі, Юры. Польска-беларускі канфлікт у генеральнай акрузе «Беларусь» (1941–1944) // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 2006. №26. С. 116–167.

[53] Грыбоўскі, Юры. Наваградскі эскадрон Барыса Рагулі: вядомае і невядомае. // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 2008. №30.

[54] Грыбоўскі, Юры. Службы бяспекі ПНР і польскія нацыяналісты і іх палітычныя цэнтры на Захадзе // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 2007. №28.

[55] Кіпель, В. Беларусы ў ЗША. Мінск, 1993. — 348 с.

[56] Романько, О. Коричневые тени в Полесье. Белоруссия, 1941–1945. Москва: Вече, 2008. — 428 с.; Романько, О. Легион под знаком Погони. Белорусские коллаборационистские формирования в силовых структурах нацистской Германии (1941–1945). Симферополь: Антиква, 2008. — 304 с.; К'яры, Б. Штодзённасць за лініяй фронту: акупацыя, калабарацыя і супраціў у Беларусі (1941–1944 г.). Мінск, 2005. — 389 с; Ермолов, И. Г. Три года без Сталина: оккупация: советские граждане между нацистами и большевиками, 1941–1944. Москва: Центрполиграф, 2010. — 381 с.; Дин, Мартин. Пособники Холокоста: преступления местной полиции Белоруссии и Украины, 1941–1944 гг. / [перевод с английского]. Санкт-Петербург: Академический проект: ДНК, 2008. — 267 с.; Дробязко, С., Романько, О., Семенов, К. Иностранные формирования Третьего рейха. Москва: АСТ, 2011. — 830, [1] с.; Мюллер, Р.-Д. На стороне вермахта: иностранные пособники Гитлера во время «крестового похода против большевизма», 1941–1945 гг. Москва: РОССПЭН, 2012. — 301 с.; Бартушка, М. Партызанская вайна ў Беларусі ў 1941–1944 гг. / [пераклад з нямецкай мовы, прадмова А. Смалянчука]. Вільня: Інстытут беларусістыкі — Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства, 2011. — 187 с.

*ра»*[57]. Аўтар падзяліў змест кнігі на дзве часткі: «Беларусь гістарычная» і «Беларусь сучасная» (з 1991 года). Пра БЦР коратка гаворыцца ў першай частцы (раздзел 6, «Belarus Begins Again: the Traumatic Twentieth Century», падраздзел «Вайна»). Тут у аповедзе пра стварэнне БЦР параўноўваецца калабарацыянізм у Беларусі з калабарацыянізмам украінцаў і балтаў:

> Найважнейшай калабарацыяніцкай структурай была Беларуская Цэнтральная Рада, створаная ў снежні 1943 г. з Радаславам Астроўскім (1887–1976) на чале як «прэзідэнтам». БЦР, у сваю чаргу, арганізавала ў лютым 1944 г. пад кіраўніцтвам Ермачэнкі *[аўтар памыляецца, БКА кіраваў Ф. Кушаль. — А. Г.]* дваццацітысячную Беларускую краёвую абарону (БКА). Але БКА выкарысталі найперш супраць партызанаў перад самым канцом вайны. А сімвалічны Усебеларускі кангрэс правялі ў чэрвені 1944 г., але яго лідары ўцяклі на Захад цягніком за шэсць дзён да прыходу Чырвонай Арміі. Завяршальным стаўся дэсант нацыяналістычных партызанаў, скінутых з парашутамі пад канец 1944 г. — аперацыя, ведамая пад назваю «Чорны кот», — але гэта доўжылася нядоўга.
>
> Кароткачасовыя палітычныя структуры, тым не менш, пакінулі па сабе трывалы эфект. У 1990 г. умераныя хрысціянска-дэмакратычныя беларускія палітыкі абураліся, калі прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка асудзіў іх як «нацыстаў». Ідэя, што людзі, якія прызнаюць бел-чырвона-белы сцяг, былі сімпатыкамі Гітлера, крайне абсурдная, хоць калабарацыя была пашыранай. Фактычна, Лукашэнка крыху перагнуў палку. Ствараючы пад немцамі сваю квазідзяржаву ў 1943–1944 гг., беларускія нацыяналісты дыскрэдытавалі сябе глыбей, чымся іхныя ўкраінскія калегі. […] Але калі Беларуская Народная Рэспубліка мела толькі абмежаваны ўплыў у 1918 г., то Беларуская Цэнтральная Рада ў 1944 г. здабыла большы эфект. Яе «нацыянальныя» сімвалы: Пагоня і бел-чырвона-белы сцяг — былі сімваламі мясцовай адміністрацыі ды больш ужываліся ў 1943–1944 гг., чым у 1918 г. […]. Разам з тым прыхільнікаў у Астроўскага было няшмат у параўнанні з калабарацыяй у балтыйскіх краінах[58].

Такім чынам, разгляд Беларускай Цэнтральнай Рады, як і іншых структураў, створаных у часе Другой сусветнай вайны, у публікацыях даволі

---

[57] Wilson, Andrew. Belarus. The last European Dictatorship. New Haven and London: Yale University Press, 2011. — 256 p.

[58] Wilson, Andrew. Belarus. The last European Dictatorship… P. 109–110.

часта залежыць ад палітычных (ці ідэалагічных) пазіцыяў аўтараў: погляд гісторыкаў з БССР і РБ істотна адрозніваўся і адрозніваецца ад бачання ўдзельнікаў-эмігрантаў або ад бачання даследнікаў на Захадзе. Акрамя таго, нават у выпадку спробаў больш-менш узважанага, заснаванага на сур’ёзным аналізе крыніцаў, падыходу БЦР ніколі не разглядалася ў якасці асобнага феномену, чыя дзейнасць ахоплівала не толькі ваенны, але і значна больш працяглы паваенны час і сур’ёзна паўплывала на дзейныя і да сёння беларускія дыяспары на Захадзе. Менавіта разгляд гісторыі БЦР як цэласнага працэсу з 1943 да 1995 гг. у кантэксце беларускага нацыянальнага руху XX ст. і будзе асноўнаю мэтаю гэтай кнігі.

## КРЫНІЦЫ З ЭМІГРАЦЫЙНЫХ АРХІВАЎ

Найбольшая колькасць крыніцаў па тэме Беларускай Цэнтральнай Рады захоўваецца ў архіве царквы св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі), куды яны перадаваліся з другой паловы 1970-х. Аснову збораў складаюць паперы Радаслава Астроўскага і дакументы, якія збіраў старшыня выканаўчага органу Аляксандр Русак, а таксама архівы другога і трэцяга прэзідэнтаў БЦР Нікандра Мядзейкі і Міхася Зуя (у выпадку апошняга спецыяльна перададзеныя з Аўстраліі), дзеячаў Юрыя Сабалеўскага, Анатоля Плескачэўскага, Юркі Віцьбіча, Юрыя Попкі ды іншых.

Згаданыя дакументы цалкам ахопліваюць гісторыю БЦР з 1943 да 1995 гг. Што да ваеннага перыяду, то амаль 100% складаюць пратаколы паседжанняў і пастановы прэзідэнта Радаслава Астроўскага і прэзідыуму БЦР. Ліставанне часоў вайны, канцылярскіх папераў, дакументаў, якія б характарызавалі бюджэт БЦР, у саўт-рывэрскім архіве не выяўлена.

Спынімся падрабязней на *архіве Радаслава Астроўскага*, які налічвае тры вялікія скрыні і падзяляецца на тэчкі. Гэтак, у скрыні з умоўным *нумарам 2* захоўваецца 14 тэчак, падтэчак і канвертаў, дзе ўтрымліваецца перапіска са старшынямі выканаўчага органу Аляксандрам Русаком і Аркадзем Арэхвам, кіраўніком Беларускага вызвольнага фронту і прадстаўніком БЦР у Нямеччыне Дзмітрыем Касмовічам, Нікандрам Мядзейкам; змяшчаюцца таксама статут Кангрэсу беларусаў Амерыкі 1950-х гг., карэспандэнцыя сына прэзідэнта БЦР Віктара Астроўскага, брашура «Здрада» М. Зніча (Антона Адамовіча), што датычыць пераходу беларускіх епіскапаў у РЗПЦ у 1946 г., брашура Міколы Шылы «А што далей» (1948), Статут Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, шэраг іншых дакументаў.

Яшчэ адна скрыня з паперамі (умоўная *нумар 3*) Радаслава Астроўскага ўтрымлівае ліставанне за 1957 г. Аркадзя Арэхвы — у той час старшыні выканаўчага органу БЦР — з Радаславам Астроўскім, Яўхімам Кіпелем, Сяргеем Розмыслам, Вячаславам Селях-Качанскім; а таксама ўспаміны Юрыя Сабалеўскага пра Беларускую сялянска-работніцкую грамаду[59]; гістарычныя мапы Віктара Астроўскага, ягонае ліставанне; асобную тэчку матэрыялаў да гісторыі Праваслаўнай царквы ў Беларусі; выразкі з савецкіх газетаў (напрыклад, з «Голасу Радзімы») з артыкуламі пра дзейнасць падчас нямецкай акупацыі Дзмітрыя Касмовіча; дакументы Беларускага вызвольнага руху, Беларускага вызвольнага фронту; выразкі з газеты «Беларускі голас» (Таронта), дзе крытыкавалася дзейнасць эміgranцкіх арганізацыяў і, у прыватнасці, БЦР.

Асобная скрыня *«Архіў БЦР»* утрымлівае карэспандэнцыю Аляксандра Русака з Чаславам Найдзюком, Уладзіславам Рыжым-Рыскім; ліставанне Радаслава Астроўскага з Іванам Касяком, дакументы БЦР за 1949–1953 гг., 1957 г., 1953–1990-я гг., дакументы дэлегатураў БЦР у Англіі ды Канадзе.

Што да іншых архіваў, то аснова іх — паперы, збіраныя Аляксандрам Русаком, які ўзначальваў Выканаўчы камітэт БЦР у 1952–1955 гг., дакументы Нікандра Мядзейкі і архівы Радаслава Астроўскага.

Архівы Радаслава Астроўскага складаюцца з дзвюх частак: першую перадалі ягоныя паплечнікі, другую — дачка Галіна Мінкевіч (увесь амерыканскі перыяд свайго жыцця — чатырнаццаць гадоў — Радаслаў Астроўскі жыў у доме дачкі і зяця Мікалая Мінкевіча).

Збор Радаслава Астроўскага ўтрымлівае бягучую дакументацыю, пратаколы пленумаў, запрашэнні на паседжанні ды імпрэзы, часопісы, мемарандумы, адозвы, а таксама багатае ліставанне з рознымі дзеячамі (найперш з Юрыем Сабалеўскім, Дзмітрыем Касмовічам, Аляксандрам Русаком, Аркадзем Арэхвам). Большая частка дакументаў датычыць паваеннага перыяду дзейнасці БЦР. Ёсць таксама паперы заходнебеларускага перыяду жыцця Радаслава Астроўскага: дырэктарства ў Віленскай беларускай гімназіі і дзейнасці ў Беларускай сялянска-работніцкай грамадзе. Аналіз архіваў прэзідэнта БЦР, тым не менш, дазваляе заўважыць, што не ўсё матэрыялы, нават з паваеннага перыяду, захоўваюцца ў Саўт-Рывэры. Прыкладам, тут мала дакументаў з часу перабывання Радаслава Астроўскага ў Вялікай Брытаніі (1954–1962 гг.).

[59] Згаданыя ўспаміны Юрыя Сабалеўскага змешчаныя ў лонданскім часопісе «Аб’еднаньне» ў 1960-х і перадрукаваныя ў часопісе «Запісы БІНіМ» (№34. 2011. С. 325–421).

Цікавыя матэрыялы змяшчае *архіў Аляксандра Русака,* дзе сабраныя не толькі дакументы перыяду ягонага кіравання Выканаўчым камітэтам БЦР (1952–1955). Асаблівую ўвагу прыцягвае тут таксама «нямецкі перыяд» жыцця дзеяча, калі той быў кіраўніком найбуйнейшага беларускага асяродку ў лагеры для перамешчаных асобаў (Ды-Пі) у Рэгенсбурзе, старшынём Цэнтральнага прадстаўніцтва беларускай эміграцыі ды адным з ініцыятараў стварэння ў Саўт-Рывэры і Нью-Джэрзі новага беларускага асяродку. Аляксандр Русак рэкамендаваў, каго запрашаць з Нямеччыны, падаваў спісы, дасылаў неабходныя паперы, даваў парады, вёў шырокае ліставанне. Усю гэтую дзейнасць і адлюстроўвае ягоны архіў.

Дакументы, што захоўваюцца ў *архіве Нікандра Мядзейкі*, другога прэзідэнта БЦР (1977–1987), датычаць пераважна перыяду прэзідэнцтва. Матэрыялы, якія храналагічна адносяцца да часу кіравання Міхася Зуя (1988–1995), змешчаныя ў *архіве Віталя Цярпіцкага* — сакратар БЦР таксама перадаў свае паперы ў саўт-рывэрскі збор. Цікавыя і зборы Юрыя Попкі, Анатоля Плескачэўскага, Юркі Віцьбіча.

## КРЫНІЦЫ Ў АРХІВАХ БЕЛАРУСІ

Пэўная колькасць дакументаў да гісторыі БЦР у мінскі перыяд яе дзейнасці перабывае ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь (Мінск). Гэта *фонд 381*, які змяшчае 45 адзінак захоўвання (справаў), падзеленых на два вопісы. Пераважна гэта фінансавыя дакументы аддзелу сацыяльнага забеспячэння, бягучае ліставанне з акругамі, а таксама дакументы, што датычаць дзейнасці Беларускага навуковага таварыства (БНТ) і Магілёўскага медычнага інстытуту. Асобныя тры справы ўтрымліваюць заявы грамадзянаў аб вызваленні сваякоў з турмаў і прымусовых працаў. У вопісе №2 фонду 381 змяшчаюцца дакументы, што бегла характарызуюць дзейнасць Другога Усебеларускага кангрэсу: зварот да дэлегатаў Кангрэсу, рукапісны пратакол-стэнаграму, даклады кіраўнікоў СБМ, звароты дзеячаў да прысутных на форуме.

У *фондзе 383 Галоўнага ўпраўлення вайсковых справаў БЦР* (13 адзінак захоўвання) утрымліваюцца дакументы аб берлінскім перыядзе дзейнасці БЦР і працы Галоўнага кіраўніцтва вайсковых справаў (ГКВС). Гэта загады БЦР (Радаслава Астроўскага) і ГКВС (Канстанціна Езавітава), справаздачы наконт фармавання Першага кадравага батальёну БКА і Беларускага легіёну, анкеты і заявы аб уступленні ў Беларускі легіён, спісы вайскоўцаў.

Ёсць таксама ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь *фонд мінскага намесніцтва БЦР* (*Ф. 400,* 7 адзінак захоўвання) з фінансавымі дакументамі, а таксама паперамі Смалявіцкага, Заслаўскага і Койданаўскага батальёнаў БКА. У *фондзе 557* (2 адзінкі захоўвання) — справы Беларускага культурнага згуртавання пры БЦР. Дакументаў аб БЦР у беларускіх архівах няшмат, хутчэй за ўсё частку вывезлі на эміграцыю або здалі ў спецсховішчы. У параўнанні з саўт-рывэрскімі архівамі, дакументы наконт БЦР у Нацыянальным архіве значна бяднейшыя.

Важны таксама пры даследаванні БЦР *архіў Дзмітрыя Касмовіча*, які цяпер захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. Гэта каля дзясятка скрыняў са справамі, што змяшчаюць паваеннае ліставанне дзеяча, а таксама дакументы, датычныя Беларускага вызвольнага фронту, якім Касмовіч кіраваў з 1954 г. Пераважна гэта мемарандумы, пратаколы, адозвы ды іншыя паперы.

## ІНШЫЯ КРЫНІЦЫ

Важная крыніца гісторыі БЦР — мемуарная літаратура. На жаль, успамінаў пра БЦР Радаслава Астроўскага пакуль не выявілі. Спіс мемуараў, прыведзены ў гэтай кнізе ніжэй, налічвае каля чатырох дзясяткаў пазіцыяў. Пераважна БЦР там згадваецца «наўздагон», у кантэксце Рады БНР ці часу нямецкай акупацыі.

Успаміны, непасрэдна звязаныя з Другою сусветнаю, склалі змест дакументальнай аповесці Кастуся Акулы *«Змагарныя дарогі»*[60]. Гістарычнай асновай яе сталі лісты Франца Кушаля. Праўда, мастацкая апрацоўка Акулам пададзенай у карэспандэнцыі інфармацыі прывяла да пэўных скажэнняў, таму выкарыстоўваць «Змагарныя дарогі» як гістарычную крыніцу даволі складана.

Сярод больш каштоўных сведчанняў можна адзначыць некалькі раздзелаў ва ўспамінах Язэпа Малецкага *«Пад знакам Пагоні»*[61], а таксама *«Успаміны»* Леаніда Галяка[62]. У 2007 г. пабачыў свет зборнік успамінаў *«Паваенная*

---

[60] Акула, Кастусь. Змагарныя дарогі: аповесць. Таронта—Мюнхен, 1962. — 586 с. Перавыдадзена як: Акула, Кастусь. Змагарныя дарогі: раман. Мінск: Мастацкая літаратура, 1994. — 572 с.

[61] Малецкі, Язэп. Пад знакам Пагоні: успаміны. Таронта: Пагоня, 1976. — 198 с.

[62] Галяк, Леанід. Успаміны: у 2 т. Кн. 1. ЗША, 1982. — 248 с.; Кн. 2. ЗША, 1983. — 166 с.

*эміграцыя: скрыжаваньне лёсаў»*, запісаных Аляксандрам Адзінцом. У некаторых з іх закранаецца тэма БЦР (успаміны Віталя Цярпіцкага, Міхася Сенькі, Юрыя Весялкоўскага, Барыса Кіта ды інш.)[63].

Успаміны пра нямецкую акупацыю, жыццё ў паваенных лагерах і на эміграцыі (кнігі выйшлі асобнымі выданнямі) пакінулі Алесь Алехнік, Міхась Белямук, Юрый Весялкоўскі, Міхась Зуй, Дзмітры Касмовіч, Апанас Мартас, Кастусь Мерляк ды інш.[64]

У прыватнасці, падрабязна апавядаецца пра станаўленне БЦР ва ўспамінах Яўхіма Кіпеля *«Эпізоды»*. Першае выданне выйшла ў 1998 г.[65], а другое, дапрацаванае, з падрабязнымі каментарамі, у 2013 г.[66] Тэкст, напісаны ў 1964–1969 гг., уяўляе з сябе аўтабіяграфію з апісаннем падзеяў з дзяцінства (аўтар нарадзіўся ў 1898 г.) і да пачатку 1950-х гг. Тут расказваецца пра навучанне ў школе, службу ў Чырвонай Арміі, навуковую дзейнасць у 1920-х, а таксама рэпрэсіі і дзве высылкі. У 1942 г. Яўхім Кіпель з сям'ёй вярнуўся ў Мінск, дзе далучыўся да грамадскага руху, а таксама стаў адным з найбліжэйшых паплечнікаў прэзідэнта БЦР Радаслава Астроўскага. Аўтар ва ўспамінах падрабязна апісаў першыя месяцы дзейнасці БЦР, працу ў навуковым аддзеле, падрыхтоўку і скліканне Другога Усебеларускага кангрэсу, працу ў Берліне, кантакты з атачэннем генерала Уласава і Беларускі камітэт у ім. Закрануў ён і першыя гады пасля капітуляцыі Нямеччыны, а таксама пачаткі грамадскага жыцця ў ЗША. Раздзелы, прысвечаныя гэтаму часу, так

---

[63] Адзінец, Аляксандар. Беларуская эміграцыя: скрыжаваньні лёсаў. Мінск: Медысонт, 2007. — 703 с.

[64] Алехнік, Алесь. Пад бел-чырвона-белым. Вільня: Рунь, 1999. — 223 с.; Белямук, Міхась. Свайго лёсу не мінеш. Вільня, 2006. — 203 с.; Весялкоўскі, Юры. Няясна мроіліся новыя дарогі: [успаміны]. Лондан, 1997. — 141 с.; Зуй, Міхась. Мая аўтабіяграфія // Ёрш, С. Вяртанне БНП. Мінск, 1998. С. 55–67; Касмовіч, Дзьмітры. За вольную і сувэрэнную Беларусь. Вільня, 2006. — 223 с.; Мартас, Апанас. На ніве Хрыстовай: у пяцідзесятыя ўгодкі сьвятарства: 1928–1978. Нью-Ёрк—Мінск—Варшава, 2008. — 192 с.; Мерляк, Кастусь. Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі: пранціклівасьць і практычны падыход. Нью-Ёрк, 1992. — 476 с.; Пазьняк, Зянон. Гутаркі з Антонам Шукелойцем. Варшава—Вільня, 2003. — 143 с.; Шнэк, Сьцяпан. Узброеная Случчына: Да гісторыі Беларускай Краёвай Абароны // Беларускі рэзыстанс. 2004. №1. С. 43–57; Юрэвіч, Лявон. Вырваныя бачыны: Да гісторыі Саюзу беларускай моладзі: [успаміны Міколы Ганька, Валера Навіцкага, ліставанне Надзеі Абрамавай]. Мінск: Энцыклапедыкс, 2001. — 211 с.; Юрэвіч, Лявон. Жыцьцё пад агнём: Партрэт беларускага военачальніка і палітычнага дзеяча Барыса Рагулі на фоне яго эпохі. Мінск, 1999. — 256 с.

[65] Кіпель, Яўхім. Эпізоды. Нью-Ёрк: выдавецтва газеты «Беларус», 1998. — 305 с.

[66] Кіпель, Яўхім. Эпізоды. Выд. 2-е. Мінск: Лімарыус, 2013. — 386 с.

і называюцца: «БЦР», «Беларуская краёвая абарона», «Другі Усебеларускі кангрэс», «На эміграцыю (Уласаў і Уласаўскі камітэт)», «Да і пасля капітуляцыі Нямеччыны», «У Злучаных Штатах».

Іншы дзеяч — Барыс Данілюк — назіраў, як арганізоўваецца БЦР на Слонімшчыне[67]. Аднак аўтар успамінаў пад назвай *«Азіраючыся расой выетымі вачыма»* найперш сканцэнтраваўся на дачыненнях з партызанамі і сваёй дзейнасці асветным афіцэрам у беларускім батальёне, а таксама пакінуў падрабязныя ўражанні ад наведвання Другога Усебеларускага кангрэсу. Куды больш прыгадаў Б. Данілюк з паваеннага жыцця ў Нямеччыне, зафіксаваў падзеі расколу на прыхільнікаў БНР і БЦР (ён стаў на бок БНР).

Схематычна з пазіцыі актывіста адноўленай Рады БНР (віцэ-прэзідэнта) апісаў БЦР і Аляксандр Стагановіч[68]. Стаўленне да Беларускай Цэнтральнай Рады 1944 г. у яго выразна негатыўнае, як і да эміграцыйнага перыяду яе дзейнасці. Гэта тлумачыцца палітычнымі прыярытэтамі аўтара, што быў паплечнікам Міколы Абрамчыка.

Асобныя аспекты гісторыі і біяграфіяў асобаў, звязаных з БЦР, закранулі ў сваіх тэкстах Галіна Руднік[69], Дзмітрый Сямёнаў[70]. Яскравыя ўражанні ад кантактавання з іерархамі Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы падчас побыту ў Тырсгайме (Thiersheim) у Баварыі пакінуў у сваіх успамінах Святаслаў Шабовіч[71].

Закранаецца перыяд дзейнасці БЦР у Мінску і некаторыя аспекты падчас эвакуацыі (г. зв. пазнанскі перыяд летам 1944 г.), а таксама пытанні расколу ды варагавання Міколы Абрамчыка і Радаслава Астроўскага ва ўспамінах Вітаўта Кіпеля «Жыць і дзеіць»[72].

Цікавыя факты пра стварэнне Беларускай краёвай абароны, блуканне жаўнераў БКА да Францыі і Заходняй Нямеччыны (у звязку з выданнем кнігі Кастуся Акулы «Змагарныя дарогі») утрымліваюцца ў кнізе Лявона

---

[67] Данілюк, Барыс. Азіраючыся расой выетымі вачыма. Мінск, 2012. — 522 с.

[68] Стагановіч, Аляксандр. Успаміны пасла. Мінск: Лімарыус, 2011. — 268 с. (Перавыд. 2014.)

[69] Руднік, Галіна. Птушкі пералётныя. Радыё Свабодная Еўропа / Радыё Свабода, 2011. — 186 с.

[70] Сямёнаў, Дзмітрый. Дзённік. 1943–1947. Мінск: Медысонт, 2012. — 317 с.

[71] Шабовіч, Святаслаў. З фальварка Марцінова да Фармінгтонскіх узгоркаў: гісторыя аднаго падарожжа. Мінск, 2015. — 257 с.

[72] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць: успаміны. Мінск, 2015. — 442 с.

Юрэвіча *«Шматгалосы эпісталярыум»*[73]. Гэтак, досыць вялікі, больш за 130 старонак, раздзел «Выпадак Кастуся Акулы» адлюстроўвае гісторыю напісання кнігі, кансультацыі аўтара, лісты да яго перад выданнем кнігі і пасля, удакладненні, пазначэнне памылак і г. д. Тут жа змешчаныя лісты Акулы (да розных асобаў), Франца Кушаля, Віктара Сянькевіча, Віктара Чабатарэвіча, Міколы Шчорса, Міколы Абрамчыка, Уладзіміра Шыманца. Лісты дапамагаюць удакладніць гісторыю БКА і БЦР.

На сёння апублікавалі даволі шмат мемуарных і эпісталярных сведчанняў дзейнасці БЦР як у Беларусі, гэтак і на эміграцыі. Нягледзячы на сваю зразумелую суб'ектыўнасць, яны дадаюць своеасаблівы «чалавечы» аспект у гісторыю Беларускай Цэнтральнай Рады і таму маюць адмысловую каштоўнасць.

Разнастайнасць архіўных і апублікаваных крыніцаў, наяўнасць даследаванняў асобных этапаў і аспектаў дзейнасці Беларускай Цэнтральнай Рады дазваляюць прасачыць паслядоўную гісторыю гэтай важнай інстытуцыі ад заснавання да канца функцыянавання, зразумець прычыны і механізмы яе стварэння, магчымасці ўплыву на грамадства як у Беларусі, гэтак і на эміграцыі ды вызначыць ролю ў гісторыі нацыянальнага руху ХХ ст.

---

[73] Юрэвіч, Лявон. Шматгалосы эпісталярыум: Гісторыя людзей і ідэй на эміграцыі ў ліставанні. Мінск: Кнігазбор, 2012. — 657 с.

# БЕЛАРУСКІ АКТЫЎ ДА СТВАРЭННЯ БЦР

## НАДЗЕІ БЕЛАРУСКІХ ПАЛІТЫКАЎ НАПЯРЭДАДНІ І НА ПАЧАТКУ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

Беларускае пытанне ў 1920–1930-х гг. не было вырашанае ні Савецкім Саюзам, ні Польшчаю. Самастойнасць БССР у Савецкім Саюзе была фікцыяй: ад ураду ў Мінску мала што залежала. У 1930-х на фоне масавых рэпрэсіяў адбыўся разгром нацыянальнага руху. У выніку некалькіх мэтанакіраваных кампаніяў — працэсы «Саюзу вызвалення Беларусі» ў 1930 г., «Беларускага нацыянальнага цэнтру» ў 1933 г., рэпрэсіі супраць нацыянальнага руху ў 1937–1938 гг. — былі вынішчаныя тысячы прадстаўнікоў нацыянальнай эліты (агульная колькасць рэпрэсаваных ішла на сотні тысячаў). У часе нямецкай акупацыі беларускі актыў сутыкнуўся з вялікімі праблемамі ў беларусізацыі ўсходніх і цэнтральных раёнаў — настолькі яны аказаліся дэбеларусізаваныя за адно дзесяцігоддзе. У складзе польскай дзяржавы беларусы таксама адчувалі нацыянальны ўціск. Аднак ён быў тут меншы, чым у СССР, а праблема самаідэнтыфікацыі, хутчэй, залежала ад асабістага выбару, а не вонкавых фактараў[74].

---

[74] Юры Туронак, які нарадзіўся ў 1929 г. на тэрыторыі Польшчы, на літоўска-польска-беларускім памежжы, згадвае: *«Я не меў патрэбы самастойна даходзіць да беларускай нацыянальнай свядомасці. Яна была натуральным вынікам сямейнага патрыятычнага ўзгадавання, паводле якога маёй Бацькаўшчынай мелася быць Беларусь, а не тое ці іншае месца пражывання. Літоўскае асяроддзе не садзейнічала асіміляцыі, хутчэй наадварот — давала добры прыклад захавання сваёй нацыянальнай адметнасці. Таксама ў Польшчы не адчуваў паланізацыйных націскаў. Дылема захаваць сваю нацыянальнасць ці паддацца асіміляцыі несумненна існавала, але яе рашэнне залежала перш за ўсё ад асабістага выбару. Польскія эліты былі розныя, але кантакт з імі таксама быў вынікам асабістага стаўлення. Гэтаксама вырашалася важнае пытанне стварэння сваёй сям'і — шмат было прывабных польскіх дзяўчат, але і беларускіх прыгажуняў было нямала. […] Таму з жалем і непрыхільнасцю адносіўся да тых беларусаў, якія паддаваліся ўплывам паланізацыі. Яны, відаць, не ўяўлялі, што на гарадскіх паркетах можна было захоўваць сваю*

У першай палове 1930-х на арэну еўрапейскай палітыкі выйшла нацысцкая Нямеччына. Гітлераўскія дэкларацыі пра перадзел свету і будучую Новую Еўропу, у якой знойдзецца месца ўсім пакрыўджаным еўрапейскім народам, абудзілі ў нацыянальных дзеячаў спадзевы на станоўчае развязанне «беларускага пытання». Праўда, спачатку большасць заходнебеларускіх палітыкаў крытычна паставілася да гітлераўскіх дэкларацыяў. Але з цягам часу, калі пад канец 1930-х стала відавочна, што Нямеччына ўзяла адкрыты курс на перадзел свету, і будучай вайны не пазбегчы, стаўленне нацыянальнага актыву да заходняга фактару памянялася. Некаторыя палітыкі дапускалі, што Гітлер дапаможа вырашыць пытанне беларускай дзяржаўнасці. Адну з такіх групаў узначальваў Фабіян Акінчыц (1886–1943) — лідар беларускіх нацыянал-сацыялістаў. Ён завязаў кантакты з Берлінам на пачатку 1930-х, а ў лістападзе 1933 г. разам з Уладзіславам Казлоўскім (1896–1943) заснаваў у Вільні часопіс «Новы шлях». У 1937 г. польскія ўлады забаранілі і дзейнасць актыву дзеля стварэння Беларускай нацыянал-сацыялістычнай партыі, і выданне «Новага шляху», аднак Фабіян Акінчыц захаваў сваё месца на заходнебеларускай палітычнай арэне. У 1939 г. ён выехаў у Берлін, дзе скантактаваўся з Абвэрам (контрвыведкаю) і Міністэрствам унутраных справаў.

У 1936–1938 гг. прыхільнае стаўленне да тагачаснага нямецкага ўплыву заняла таксама заснаваная ў 1936 г. ксяндзом Вінцэнтам Гадлеўскім газета «Беларускі фронт».

Прыкладна ў той жа час зацікавіўся беларускаю тэмай і Нямецкі інстытут вывучэння замежных праблемаў пры Берлінскім універсітэце на чале з прафесарам Кёнігсбергскага ўніверсітэту Гергардам фон Мэндэ[75] (Gerhard von Mende) ды Берлінскі інстытут вывучэння межаў і замежных краінаў.

Сталіца Трэцяга Рэйху паступова ператваралася ў цэнтр палітычнай беларускай прысутнасці ў Заходняй Еўропе. Тут размяшчалася сімвалічнае консульства БНР, якое ўзначальваў Андрэй Бароўскі; у пачатку 1930-х гг. было створанае Беларускае студэнцкае згуртаванне (кіраўнік — студэнт Палітэхнікі Анатоль Шкутка); у Нямеччыну ехалі на заробкі жыхары Заходняй Беларусі. Апроч таго, у выніку паразы Польшчы ў верасні 1939 г. на нямецкай тэрыторыі апынуліся каля 70 тыс. ваеннапалонных беларусаў. Для апекі над імі ды дапамогі пры ўладкаванні на працу ў лістападзе 1939 г. у

---

*нацыянальную адметнасць і мову»* (Туронак, Юры. За кардонам Бацькаўшчыны: Успаміны. Мінск, 2010. С. 9).

[75] Туронак, Юры. Людзі СБМ. Беларусь пад нямецкай акупацыяй… С. 257.

Берліне паўстала Беларускае прадстаўніцтва, якое ўзначаліў Анатоль Шкутка (пазней — Фабіян Акінчыц, Бернард Букатка (1910–1990)).

Дзейнасць гэтых арганізацыяў не мела палітычнага характару. Вясной 1940 г. з ініцыятывы юрыста Міколы Шкялёнка (1899–1946) у Берліне быў заснаваны Беларускі камітэт самапомачы (БКС). Спачатку планавалася, што арганізацыя будзе называцца «Беларускі нацыянальны камітэт», і ў такім выпадку стане галоўным беларускім аб'яднаннем на эміграцыі. Але нямецкія ўлады выказаліся супраць, бо супольнасць са словам «нацыянальны» ў найменні магла лічыцца палітычнаю.

У снежні 1939 г. у Берліне заснавалі грамадска-палітычную газету «Раніца», што адыграла важную ролю ў гуртаванні беларускіх сілаў у Нямеччыне і на тэрыторыях, акупаваных Рэйхам[76].

Другім асяродкам палітычнай прысутнасці беларусаў у Еўропе была Прага, дзе з пачатку 1920-х гг. жылі дзеячы Рады БНР. Менавіта тут пры канцы 1930-х актывізаваў сваю дзейнасць доктар *Іван Ермачэнка* (1894–1970), былы генеральны консул БНР у Канстанцінопалі і на Балканах. Ён пераехаў у чэшскую сталіцу ў 1922 г., скончыў медычны факультэт Карлавага ўніверсітэту ды зрабіў прафесійную кар'еру. Займаўся і актыўнаю грамадскаю дзейнасцю: узначальваў беларускі аддзел спартовага таварыства «Сакол», фундаваў розныя беларускія праекты, у тым ліку часопіс «Іскры Скарыны», друкаваў свае працы[77].

20 красавіка 1939 г. старшыня Рады БНР Васіль Захарка і Іван Ермачэнка накіравалі мемарандум Адольфу Гітлеру з нагоды 50-гадовага юбілею. Дакумент перадалі фюрэру праз былога пасла Нямеччыны ў Чэхаславакіі А. Гэнке (Henke). На 16 старонках выкладалася гісторыя Беларусі, пачынаючы з часоў Полацкага княства, аднак найбольшы акцэнт рабіўся на XX ст. Зазначалася, што ў 1918 г. Беларусь абвясціла дзяржаўную незалежнасць, але абараніць яе пад уздзеяннем вонкавых фактараў не здолела. Гэтымі вонкавымі фактарамі былі: Польшча і бальшавіцкая Расія. Зазначалася таксама, што заходнія дэмакратыі не былі зацікаўленыя ў існаванні незалежнай беларускай дзяржавы, у адрозненне ад самастойнасці краінаў Балтыі і Фінляндыі. Пасля Версальскай мірнай канферэнцыі 1919 г. пачаўся моцны

[76] «Раніца» дала пуцёўку ў жыццё некаторым беларускім літаратарам. Напрыклад, на яе старонках упершыню былі надрукаваныя вершы Ларысы Геніюш.

[77] Гл.: [Ермачэнко, Я.] Жыцьцё Беларусаў у 7–10 вв. Прага: [Беларускае выдавецтва Яна Ермачэнкі], 1941. — 12 с.; Ермачэнко, Я. Пранцы (сыфіліс). Прага: Беларускае выдавецтва Яна Ермачэнкі, 1941. — 10 с.

ўціск беларусаў, як у польскай дзяржаве, гэтак і ў СССР. Новая мірная дамова паміж Польшчай і СССР перакрэсліла спадзевы беларускага народу на шчаслівую будучыню, сцвярджалася ў мемарандуме. Таму беларускія дзеячы ўскладалі вялікія надзеі на Новую Нямеччыну як буйнога гульца на міжнароднай арэне. Аўтары тэксту звярталі ўвагу на тое, што замена ў Расіі бальшавіцкага ўраду на нацыянальна-дэмакратычны сітуацыі не вырашыць, бо ўціск беларусаў будзе працягвацца.

Мемарандум спачатку быў напісаны на рускай мове, потым перакладзены на чэшскую, і толькі пасля — на нямецкую. Пры канцы ў ім зазначалася:

> Будучи убежденным в том, что какие бы события ни разыгрались в Европе, Германская империя будет всегда играть в них первую роль, я покорнейше прошу ВАШЕ ПРЕВОСХОДИТЕЛЬСТВО *[вылучана тут і далей вялікімі літарамі В. Захаркам. — А. Г.]* соблаговолить иметь при этих событиях ввиду и законные стремления белорусского народа к тому, чтобы стать суверенным хозяином на своей собственной земле.
>
> При согласии же со стороны ВАШЕГО ПРЕВОСХОДИТЕЛЬСТВА признать право белорусского народа на независимое национально-государственное существование, я покорнейше прошу ВАШЕ ПРЕВОСХОДИТЕЛЬСТВО, когда наступит время, поддержать это право как силой ВАШЕГО гениального авторитета, так и силой возвышенной ВАМИ Германской империи [В. Захарко][78].

Цалкам верагодна, што напісанню мемарандуму паспрыяла развязанне славацкага пытання: дзякуючы Нямеччыне Славакія атрымала 15 сакавіка 1939 г. незалежнасць ад Чэхіі.

Беларускі мемарандум заўважылі. Івана Ермачэнку і Васіля Захарку 2–9 жніўня 1939 г. запрасілі на сустрэчу ў Міністэрства замежных справаў у Берлін, дзе беларускія дзеячы спаткаліся з кіраўніком аддзелу Гайдэнгагенам[79] (Heydenhagen). Сустрэча праходзіла 4 і 5 жніўня і доўжылася некалькі гадзінаў. Беларускія дзеячы падалі на ёй праграму супрацоўніцтва з Беларуссю. Паводле Захаркі:

> Прадстаўнік нямецкага ўрада даў гарачыя запэўненні, што нямецкі ўрад не забудзе беларускі народ, *«які праз вякі не толькі сва-*

[78] НАРБ. Ф. 908 (фонд Івана Ермачэнкі). Воп. 1. Спр. 2.

[79] Снапкоўскі, У. Аб прагерманскай арыентацыі лідараў беларускай палітычнай эміграцыі ў Празе (1938–1941) // Веснік БДУ. Сер. 3. 2009. №1. С. 4–9.

*ёй слаўнай мінуўшчыны, але і горкай нядолі і няволі прынёс у чысціні свой антрапалагічны тып, сваю самабытную культуру, свой дух да змагання за лепшую долю».* Ён упэўніў, што немцы возьмуць пад увагу (калі кола гісторыі так павернецца) дамаганні беларускага народу і дадуць яму ўсе магчымасці самастойнага культурнага існавання[80].

Таксама нямецкі чыноўнік заявіў, што стасункі беларусаў і немцаў на парытэтных асновах немагчымыя, *«хоць беларусы ў будучыні пры спрыяльных абставінах могуць спадзявацца на нямецкую падтрымку»*[81].

Пазней Васілю Захарку і Івану Ермачэнку прапанавалі аб'ехаць Заходнюю Беларусь, каб абгаварыць наяўную сітуацыю з актывам. Становішча абмяркавалі з дзеячамі Беларускага прадстаўніцтва ў Берліне Анатолем Шкуткам і Фабіянам Акінчыцам, а таксама з кс. Вінцэнтам Гадлеўскім (1898–1942). Пастанавілі: наведаць усе беларускія асяродкі ў Заходняй Беларусі, стварыць Галоўны беларускі нацыянальны цэнтр за мяжою з мэтай аб'яднання беларускіх эміграцкіх дзеячаў і забеспячэння іхнага адзінства[82].

У лютым 1940 г. Васіль Захарка падаў нямецкаму ўраду дакладную запіску аб арганізацыі беларускай эміграцыі ў Еўропе, дзе выказвалася надзея на дапамогу 20-мільённаму беларускаму народу, што *«пакутуе, паняволены Расіяй і Польшчай»*. Старшыня Рады БНР пісаў пра тое, што разгром нямецкай арміяй польскай дзяржавы выклікаў станоўчыя пачуцці ў нацыянальна свядомых масаў, але захоп Заходняй Беларусі Савецкім Саюзам кінуў яе ў яшчэ большую няволю.

Другую частку запіскі Васіль Захарка прысвяціў апісанню стану справаў на эміграцыі. Цэнтрам беларускага жыцця на Захадзе называлася Прага, двума другімі значнымі асяродкамі — Берлін і Варшава. Каардынаваць нацыянальны рух мусіў агульны цэнтр, у якасці кіраўніка якога прапаноўвалі Івана Ермачэнку[83].

Каб прыцягнуць да дзейнасці будучага цэнтру аўтарытэтных беларускіх дзеячаў, Васіль Захарка і Іван Ермачэнка ў лютым 1941 г. наведалі Варшаву,

---

[80] Цыт. паводле: Снапкоўскі, У. Аб прагерманскай арыентацыі лідараў беларускай палітычнай эміграцыі ў Празе… С. 4–9.

[81] Касяк, Іван. Другая сусьветная вайна і паваенны час // Найдзюк, Язэп; Касяк, Іван. Беларусь учора і сяньня. Мінск, 1993. С. 256.

[82] НАРБ. Ф. 908. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 1–2.

[83] Снапкоўскі, У. Аб прагерманскай арыентацыі лідараў беларускай палітычнай эміграцыі ў Празе…

Кракаў, Лодзь ды іншыя гарады Польшчы, дзе былі беларускія камітэты, а таксама спаткаліся з доктарам Мікалаем Шчорсам (1913–1995), кіраўніком Беларускага камітэту ў Варшаве, і Радаславам Астроўскім.

Калі стала зразумела, што немцы не збіраюцца ісці на стварэнне беларускага ўраду, а беларусам у будучыні адводзіцца месца выканаўцы загадаў нямецкага кіраўніцтва[84], Васіль Захарка спыніў супрацоўніцтва з немцамі і стаў у сваіх артыкулах востра крытыкаваць нацыстаў. У той жа час Іван Ермачэнка сканцэнтраваўся на дзейнасці ў Празе, дзе стварыў Камітэт самапомачы.

Новаму ўзвышэнню Івана Ермачэнкі паспрыялі і таварыскія адносіны з пражскім доктарам Вагнэрам, якога неўзабаве перавялі ў Берлін кіраваць аддзелам, што курыраваў дзейнасць камітэтаў самапомачы. Свайго беларускага калегі Вагнэр не забыў, а наадварот, увёў у кола берлінскай палітыкі. Не выключана, што менавіта ён і пазнаёміў Ермачэнку з Альфрэдам Розэнбэргам (Alfred Rosenberg). Прынамсі ў 1941 г. апошні не меў больш надзейнай кандыдатуры для супрацоўніцтва з беларускімі палітычнымі коламі, чым Іван Ермачэнка.

Паралельна ў 1939–1940 гг. акрэслілася іншая беларуская палітычная *групоўка: Шчорса — Гадлеўскага*, якая наладзіла шчыльны кантакт з Абвэрам і СД. Юры Туронак у сваёй працы «Беларусь пад нямецкай акупацыяй» зазначае, што логіка супрацоўніцтва была вельмі зразумелай: нямецкія войскі акупуюць беларускія землі, і патрэба стварэння беларускага ўраду стане неаспрэчным фактам, які будзе адбівацца на далейшых паводзінах акупацыйных уладаў[85]. Стасункі з Абвэрам і СД групы Шчорса — Гадлеўскага грунтаваліся на планах вербавання і перасылцы ў Савецкую Беларусь агентаў, падрыхтаваных у абвэраўскім цэнтры пад Варшаваю. Вясною 1941 г. група Шчорса пачала набіраць добраахвотнікаў у дыверсійныя групы. Паўстаў 50-асабовы атрад, які 18 чэрвеня 1941 г. перакінулі цераз мяжу ў раёне Сувалак з заданнем правесці дыверсіі на чыгунцы Стоўбцы–Баранавічы (г. зв. Беларускі штурмовы звяз)[86].

Варшаўскі камітэт пры дапамозе СД сфармаваў таксама групу з некалькіх дзясяткаў чалавек, каб потым ва ўмовах нямецкай акупацыі перакінуць іх у Беларусь для кіравання будучымі органамі адміністрацыі.

---

84 Касяк, Іван. Другая сусьветная вайна і паваенны час… С. 256.
85 Туронак, Юры. Людзі СБМ. Беларусь пад нямецкай акупацыяй… С. 271.
86 Тамсама. С. 272.

Актывізацыі беларускай палітычнай дзейнасці паспрыялі сігналы з Берліну, ініцыяваныя ведамствам Розэнбэрга. Адначасова аналагічныя працэсы назіраліся і ў суседніх паняволеных СССР народаў. 22 красавіка 1941 г. на таемнай нарадзе ў Нямеччыне Літоўскі фронт актывістаў (*LFA*) стварыў Часовы ўрад Літвы на чале з паслом у Берліне палкоўнікам Казісам Шкірпам (1895–1979). Меркавалася, што пасля нападу Нямеччыны на СССР Часовы ўрад сфармуе паўнацэнны ўрад і адновіць незалежнасць Літвы. Праўда, немцы не ацанілі стварэння Часовага ўраду, а Шкірпу пасадзілі пад хатні арышт.

Тым не менш, пасля нападу на СССР чальцы *LFA* разгарнулі баявыя дзеянні супраць войскаў Чырвонай Арміі, узняўшы паўстанне ды захапіўшы 23 чэрвеня шэраг гарадоў. *LFA* абвясціў стварэнне Часовага ўраду на чале з Юозасам Амбразявічусам (1903–1974). Немцы чарговы раз адмовіліся прызнаваць Часовы ўрад, а таксама аднаўляць незалежнасць Літвы. Быў створаны Рэйхскамісарыят Літвы (з цэнтрам у Каўнасе, генеральны камісар — Тэадор Рэнтэльн (Theodor Renteln)), уключаны разам з Беларуссю ў склад Остланда.

Адначасова была створаная дапаможная літоўская адміністрацыя на чале з начальнікам Генштабу ў 1929–1934 гг. генералам Пятрасам Кубілюнасам (1894–1946), які лічыўся генеральным дарадцам пры Рэнтэльну. 5 жніўня 1941 г. Часовы ўрад быў канчаткова распушчаны[87].

2 красавіка 1941 г. на паседжанні дарадчага камітэту Міністэрства ўнутраных справаў Альфрэд Розэнбэрг прапанаваў у будучыні падзяліць Савецкі Саюз на сем рэгіёнаў:

– Вялікую Расію з цэнтрам у Маскве;

---

[87] **Юозас Амбразявічус (Juozas Ambrazevičius-Brazaitis)** з кастрычніка 1941 г. узначаліў падпольны супраціў — «Літоўскі фронт». З кастрычніка 1943 г. ён быў віцэ-прэзідэнтам літоўскай падпольнай арганізацыі «Вярхоўны камітэт вызвалення Літвы». З лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Нямеччыне, да 1951 г. быў прадстаўніком антысавецкага літоўскага падполля ў замежжы. У 1952 г. эміграваў у ЗША. Пакінуў мемуары *«All alone»* (1964). Памёр у 1974 г.

**Пятрас Кубілюнас (Petras Kubiliūnas)**, як і беларус Канстанцін Езавітаў, у 1945 г. быў выкрадзены з брытанскай зоны акупацыі Нямеччыны савецкім агентам. Пакараны смерцю 22 жніўня 1946 г. у Маскве.

**Казіс Шкірпа (Kazys Škirpa)** быў увесну 1944 г. арыштаваны Гестапа і змешчаны ў канцлагер Бад-Годэсбэрг (Bad Godesberg). Па капітуляцыі Нямеччыны жыў у Берліне, Дубліне (Ірландыя). У 1949 г. пераехаў у ЗША, працаваў у бібліятэцы Кангрэсу ў Вашынгтоне. Напісаў кнігу пра барацьбу за аднаўленне незалежнасці ў 1941 г. Памёр у 1979 г. Пахаваны ў Вашынгтоне. У 1995 г. перапахаваны ў Каўнасе на могілках Пятрашунай (Petrašiūnų kapinės).

– Беларусь — напачатку са сталіцай у Мінску, а затым і Смаленску;
– Балтэнланд (у складзе Літвы, Латвіі і Эстоніі);
– Украіну і Крым;
– Данскую вобласць (з цэнтрам у Растове-на-Доне);
– Каўказскі рэгіён;
– Туркестан[88].

Праз месяц, у траўні 1941 г., на нарадзе палітычнага камітэту Нацыянал-сацыялістычнай партыі Розэнбэрг падаў наступную прапанову: на занятай нямецкімі войскамі тэрыторыі Остланду тэрытарыяльна-адміністрацыйная адзінка Беларусь будзе фармальным пратэктаратам Вялікай Нямеччыны[89].

Калі нямецка-савецкая вайна стала справаю найбліжэйшага часу, беларускія дзеячы ў Нямеччыне і Генеральнай губерні вырашылі стварыць супольны Каардынацыйны камітэт. 19 чэрвеня 1941 г. у Берліне склікалі нараду, у якой узялі ўдзел Мікалай Шкялёнак (старшыня Беларускага камітэту самапомачы ў Берліне), Анатоль Шкутка (прадстаўнік Беларускага бюро даверу ў Берліне), Вітаўт Тумаш (1910–1998, старшыня камітэту самапомачы ў Лодзі), Вінцэнт Гадлеўскі (прадстаўнік Беларускага камітэту ў Генеральнай губерні)[90]. Нарада пастанавіла арганізаваць супольны Беларускі нацыянальны цэнтр, які меўся каардынаваць палітычную дзейнасць у Нямеччыне і Генеральнай акрузе ды чакаць пачатку вайны з СССР. На старшыню БНЦ завочна абралі Мікалая Шчорса, на сябраў — Міколу Шкялёнка, Анатоля Шкутку, кс. Вінцэнта Гадлеўскага, Часлава Ханяўку (1910–2005), Вітаўта Тумаша. Пасля гэтай нарады апошні трапіў пад хатні арышт. Гестапа загадала яму нікуды не выязджаць, а заставацца ў Берліне. 21 чэрвеня Тумашу паведамілі, што ў хуткім часе пачнецца нямецка-савецкая вайна, і што яго прызначылі на пасаду бургамістра Мінску[91].

Мікалай Шчорс у Варшаве падрыхтаваў і накіраваў у Берлін мемарандум на імя Гітлера, у якім выказвалася жаданне высветліць намеры немцаў адносна беларусаў. У дакуменце ставілася пытанне аб незалежнасці Беларусі ў яе этнаграфічных межах пры палітычным і эканамічным супрацоўніцтве з

[88] Романько, Олег. Коричневые тени в Полесье. Белоруссия в 1941–1945 гг… С. 23.

[89] Кіпель, В. Другі Усебеларускі Кангрэс — аналіз тагачаснае палітычнае сытуацыі… Рэфэрат, чытаны ў Саўт-Рывэры з нагоды 30-х угодкаў 2-га Кангрэсу // Беларуская думка (Саўт-Рывэр). №18–19. 1974–1975. С. 4.

[90] За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі… С. 77.

[91] Вельмі падрабязна прызначэнне В. Тумаша і наступствы апісваюцца ва ўспамінах Вітаўта Кіпеля: Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць… С. 312–318.

Нямеччынай і выказвалася надзея, што сучасны Берлін не паўторыць памылкі 1918 г., а прызнае незалежнасць краю. Нямецкі генерал, які прыехаў спецыяльна ў Варшаву, запэўніў Міколу Шчорса, што прапановы мемарандуму будуць прынятыя пад увагу і ажыццёўленыя ў будучыні[92].

Але ўжо 20 чэрвеня на нарадзе найвышэйшага ваенна-палітычнага кіраўніцтва Нямеччыны Розэнбэрг падаў Гітлеру новы план таго, што мусіла застацца ад СССР. Згодна з гэтым планам, на тэрыторыі СССР па меры прасоўвання фронту на ўсход меліся ўтварыць пяць адміністрацыйных адзінак: рэйхскамісарыяты Масковія (уключаў бы цэнтральныя раёны Еўрапейскай Расіі), Остланд (краіны Балтыі і Беларусь), Украіна (разам з Крымам), Каўказ (Паўночны Каўказ, Закаўказзе і Калмыкія), Туркестан (Сярэдняя Азія, Казахстан, Паволжа і Башкірыя)[93]. Гітлер план упадабаў, і 17 ліпеня 1941 г. падпісаў загад аб увядзенні цывільнага кіравання на акупаваных савецкіх тэрыторыях. Стваралася Міністэрства акупаваных усходніх тэрыторыяў (*Reichministerium fur die besetzen Ostgebiete — Ostminetsreium/Omi*) — галоўны кіраўнічы орган для згаданых адміністрацыйных адзінак[94]. Яго ўзначаліў менавіта Альфрэд Розэнбэрг. Ваенныя падзеі пайшлі не гэтак, як планавалі напачатку ў Берліне, таму адміністрацыйная структура на Усходзе абмежавалася стварэннем двух рэйхскамісарыятаў — Украіна і Остланд. Камісарам Остланду, са сталіцай у Рызе, быў вызначаны Гінрых Лёзэ (Hinrich Lohse).

## ПЕРШЫ ПЕРЫЯД АКУПАЦЫІ

22 чэрвеня 1941 г. Нямеччына напала на СССР, і ў гэты дзень па радыё ў Берліне выступіў са зваротам кс. Вінцэнт Гадлеўскі, які заклікаў беларусаў змагацца за вызваленне ад маскоўскага камунізму[95].

Нямецкі наступ развіваўся хутка. 28 чэрвеня войскі ўвайшлі ў Мінск[96], да сярэдзіны ліпеня акупавалі большую частку тэрыторыі БССР.

---

[92] Касяк, Іван. Другая сусьветная вайна і паваенны час… С. 257.

[93] Романько, О. Коричневые тени в Полесье. Белоруссия в 1941–1945 гг… С. 24.

[94] Тамсама.

[95] Пазней Гадлеўскі неаднаразова выступаў з такімі прамовамі, пацвярджаючы сваё месца аднаго з ідэолагаў беларускага нацыяналізму.

[96] Прыход немцаў у Мінск апісаў ва ўспамінах Дзмітры Касмовіч: *«28 чэрвеня студэнты пастанавілі вярнуцца ў Менск. Вярталіся бочнымі дарогамі. На ўскраіне гораду стаялі ўжо нямецкія танкі, і ў іх сядзелі на варце нямецкія танкісты. Вартаўнікі бяз слоў ці пытаньняў прапусьцілі студэнтаў у Менск… Мясцовыя студэнты і студэнткі, пераважна жыды і мяшчане, разышліся па сваіх хатах. Я*

Неўзабаве Беларускі нацыянальны цэнтр пачаў прысылаць на акупаваныя тэрыторыі грамадскі актыў — дзеячаў з Нямеччыны, Генеральнай губерні, Літвы. Першая група прыехала ў Мінск 3 ліпеня. Сярод прыбылых былі Вітаўт Тумаш, Радаслаў Астроўскі, Канстанцін Дземідовіч-Дземідэцкі, Антон Бяленіс, Часлаў Ханяўка ды іншыя.

5 ліпеня доктара Вітаўта Тумаша прызначылі кіраўніком Мінскай гарадской управы[97]. Дзмітры Касмовіч, Міхась Вітушка і Ігар Шчорс, што прыехалі з Нясвіжу, заняліся арганізацыяй мінскай гарадской паліцыі.

---

*астаўся адзін. Горад гарэў. Пачуцьцё было жудаснае… Знайшоў адзін склад, у якім сядзелі «бяздомныя», тыя, якія былі ня зь Менску і не хацелі трапіць у небясьпеку падчас павароту дахаты ў вёскі або іншыя гарады. […] Я ішоў па палаючых вуліцах, і перада мной раскрывалася жудасная карціна… На вуліцах, сярод палаючых дамоў ляжалі трупы байцоў і жыхароў Менску. Галодныя асірацелыя дзеці, жанчыны і старыя шукалі сярод трупаў родных ці пажыўных рэчываў. Калі ж я запытаў жанчын, дзе мужчыны гораду, мне адказалі, што ў горадзе было абвешчана, каб усе мужчыны адразу ішлі на зборны пункт каля Драздоў. Не адкладаючы на потым я пайшоў праверыць лёс гэтых людзей.*

*Я ня думаў, што мяне могуць таксама затрымаць на гэтым зборным пункце. Я дзівіўся гэтаму нямецкаму прыказу, бо памятаў нямецкую акупацыю Нясьвіжу падчас I сусьветнай вайны. Тады ўсе жыхары гораду былі ў хаце, а не скліκаліся ў зборны пункт.*

*Каля Драздоў я пабачыў жудасную карціну. Дзясяткі тысяч жыхароў Менску і ягоных ваколіцаў зьявіліся добраахвотна на зборны пункт, а немцы сагналі іх у лягер «Дразды», і тут яны пад адкрытым небам чакалі невядомага. Трохі далей ад іх сядзелі тысячы байцоў, якія самі добраахвотна здаліся немцам, бо не хацелі змагацца за сталінскі рэжым. Яны сядзелі таксама пад адкрытым небам. Галодныя, сасьмяглыя, змучаныя, часта пакалечаныя і хворыя, у страшнай цеснаце, безь ніякай людзкай дапамогі, за калючым дротам пад наглядам штыкоў. Яны сядзелі і чакалі на невядомы іхні лёс.*

*Яшчэ далей за дратамі, на пустым полі, у такіх жа страшэнных умовах знаходзіліся тысячы камандзіраў Чырвонай арміі. Усе гэтыя байцы, камандзіры і цывільнае насельніцтва Беларусі з радасьцю чакалі вызвольную нямецкую армію, чакалі вызваленьня ад ненавіснага сталінскага рэжыму. Амаль усе яны дабравольна здаваліся ў палон або прыйшлі на зборны пункт, каб тут неспадзявана апынуцца за калючым дротам, у горшых варунках, чым жыве апошняя бяздомная жывёла»* (Касмовіч, Дзьмітры. За вольную і сувэрэнную Беларусь: Успаміны… С. 91–93).

[97] Дырэктар Беларускага інстытуту навукі і мастацтва Вітаўт Кіпель, які на эміграцыі быў блізкім супрацоўнікам Вітаўта Тумаша, згадвае, што 12 снежня 1981 г. апошняга выклікалі ў *Immigration Service* (Кіпель пайшоў разам у якасці перакладчыка) з прычыны ягонай дзейнасці за часам нямецкай акупацыі. Тумаш казаў пра тое, што галоўная задача, пастаўленая перад ім немцамі, была ў наступным: *«Расчыстка гораду, каб не пачалася эпідэмія. Тумаш быў доктарам паводле прафесіі і сферы заняткаў. Першая цяжкасць, якую меў ён, як знайсці людзей на працу.*

Усяго ў ліпені 1941 г. у Мінск пераехалі звыш 30 дзеячаў (большасць — з Вільні)[98], і ў кароткія тэрміны была створаная разгалінаваная гарадская ўправа. 27 ліпеня 1941 г. выйшаў першы нумар «Менскай газэты», якая стала галоўным выданнем для беларускай тэрыторыі (з лютага 1942 г. — «Беларуская газэта»). Агульных грамадска-палітычных перыёдыкаў пад немцамі на тэрыторыі Беларусі выходзіла не так ужо і шмат: крыху пазней пачалі друкаваць «Голас вёскі» — выданне, адрасаванае сялянам у розных аспектах, была таксама «Баранавіцкая газэта», у 1943 г. заснавалі некалькі газетаў у рэгіёнах.

Мікола Шчорс у другой палове ліпеня 1941 г. аб'ехаў гарады Заходняй Беларусі, абмеркаваў бягучае становішча з павятовымі камендантамі-немца-

---

*Немцы далі грузавік з рупарам і ездзілі, заклікаючы людзей на працу па ачыстцы гораду. Аплатай быў бохан хлеба і суп. У часе «допыту» амерыканцы ўвесь час націскалі: ці Тумаш як бургамістр меў якое-небудзь дачыненне з нямецкімі банкамі. Тумаш адказваў, што ніякага. Ежу за працу дастаўляў Вермахт. Арганізацыя гета таксама не ўваходзіла ў кампетэнцыю бургамістра. «Допыт» Тумаша цягнуўся каля 12 гадзінаў, і ў канцы амерыканскія чыноўнікі рэзюмавалі: «Вы нам усё выяснілі, можаце быць спакойныя, больш Вас турбаваць не будзем»* (Ліст Вітаўта Кіпеля з праўкамі да рукапісу кнігі аўтара ад 2 чэрвеня 2011 г.).

[98] Адным з прыбылых быў Леанід Галяк, які занатаваў ураженні ад пабачанага ў Мінску: *«Разглядаюся ў ваколіцы. Насупраць, праз вуліцу — будынкі ўнівэрсытэту займаюць цэлы блёк уздоўж Ленінградзкай і ў глыбіню да Савецкай, царскай Захараўскай. З вакон з другога боку від на поле руінаў: камінoў ад спаленых драўляных дамоў і некалькі недабудаваных са стаячымі побач пад'ёмнымі кранамі. Так больш-менш выглядаў цэлы цэнтар гораду, хоць час ад часу спатыкаліся захаваныя будынкі.*

*Прадмесьці захаваліся лепш, а пачынаюцца яны часта пару блокаў ад галоўнай Савецкай вуліцы і прадстаўляюць сабою старыя, яшчэ зь перад Першай вайны драўляныя дамкі, вельмі патрабуючыя рамонту. Са значнейшых захаваных будынкаў, захаваўся Дом Саветаў, дзе мясьціліся галоўныя ўрады. Дом Саветаў — вялізарны будынак бэтоннага колеру. Цэнтар будынку адсунуты далей ад вуліцы і творыць пляцык, на якім перад цэнтрам будынку п'едэстал, на якім засталіся два боты належачыя Леніну, самога-ж Леніна скінулі хутка пасьля заняцьця гораду. Зь іншых значных будынкаў захаваліся: Тэатар [сённяшні Купалаўскі тэатр. — А. Г.], дом Кампартыі, дом Чырвонай Арміі [сёння Дом афіцэраў. — А. Г.], тры бакі Пляцу Волі, Музэй [відаць, маецца на ўвазе сённяшні Нацыянальны гістарычны музей, Маркса 12. — А. Г.], гарадзкая ўправа, тэлефонная станцыя і Бібліятэка [маецца на ўвазе ранейшы будынак Нацыянальнай бібліятэкі, Чырвонаармейская. — А. Г.]. Захаваўся Чырвоны Касьцёл на Савецкай вуліцы, які быў перароблены на дзіцячы тэатар, нават з рухомай сцэнай, Жоўтая царква [Петрапаўлаўская царква, Няміга, перад гандлёвым домам «На Нямізе». — А. Г.], царква Чыгуначнікаў [Свята-Казанская царква, разбураная ў 1962 г. Сёння на гэтым месцы сыходзяцца вуліцы Бабруйская, Савецкая і Мяснікова — г. зв. плошча Мяснікова. — А. Г.] ды будынак падручнага астрогу, бо галоўны згарэў* (Галяк, Леанід. Успаміны. Кн. 1… С. 155–156).

мі, звярнуўшы ўвагу на ўзмацненне палякаў у адміністрацыі. Аднак немцы варожа паставіліся да прапановы замены палякаў на беларусаў, у тым ліку і з прычыны адсутнасці актыўнага беларускага элементу. У выніку Мікола Шчорс спыніў палітычную дзейнасць і вярнуўся ў Варшаву. Калі ў верасні 1941 г. яму прапанавалі ўзначаліць Беларускую народную самапомач у Мінску, ён адмовіўся.

17 ліпеня 1941 г. дэкрэтам Гітлера Беларусь была падзеленая на некалькі частак:

– Беласток і Гродна з акругамі былі далучаныя да Усходняй Прусіі — пазней яны павінны былі ўтварыць акругу Паўднёва-Усходняя Прусія;

– Вільня (Вільнюс) з прылеглаю тэрыторыяй былі далучаныя да генеральнай акругі Літва;

– Палессе з гарадамі Брэст, Пінск, Гомель — да рэйхскамісарыяту Украіна.

Рэшта Беларусі са Смаленшчынай і Браншчынай меліся ўтварыць Беларускі генеральны абшар (*Weissruthenische Generalbezirk*), які павінен быў дзяліцца на пяць галоўных акруг (*Hauptbezirk*) з цэнтрамі ў Мінску, Баранавічах, Магілёве, Віцебску і Смаленску. Адпаведна, *Hauptbezirk* падзяляліся на меншыя акругі (гебіты). Улада ў іх мелася належаць цывільным структурам, што сталі арганізоўвацца з 1 верасня 1941 г.

Аднак з прычыны спынення нямецкіх войскаў пад Масквою цывільнай адміністрацыі перадалі ўладу толькі ў дзесяці акругах-гебітах агульнаю плошчаю 53 660 км$^2$: Баранавічы, два заходнія паветы Барысаўскай акругі, Вілейка, Ганцавічы, Глыбокае, Ліда, Мінская акруга, Навагрудак, Слонім, Слуцк. Таксама былі створаныя два галоўныя камісарыяты: у Мінску і Баранавічах — ды асобны гарадскі камісарыят у Мінску.

Такім чынам, ні пра якую самастойную беларускую адзінку пад нямецкім пратэктаратам гаворкі не вялося. Адзінае, што першапачаткова паўстала ў сярэдзіне ліпеня 1941 г., — гэта вялікая Мінская акруга (намесніцтва), якая ўключала ў сябе 21 раён (павет), у тым ліку заходнебеларускія землі (Навагрудчына і Баранавіччына). Узначаліў Мінскае намесніцтва Радаслаў Астроўскі, які прызначыў ва ўсе паветы старшыняў і камендантаў паліцыі, загадаўшы стварыць валасныя камітэты. Разгалінаваная структура намесніцтва ўключала: агульны аддзел, аддзел аховы парадку, прававы, статыстычны, галоўнай бухгалтэрыі, фінансавы, зямельна-гаспадарчы аддзел з пададдзеламі агранамічным, жывёлагадоўлі і ветэрынарыі, землеўпарадкавання,

меліярацыі і торфу, механізацыі; аддзел нарыхтовак, лясны, прамыслова-гандлёвы, дарожны, аддзел аховы здароўя, народнай асветы, будаўнічы[99].

Аднак пасля стварэння нямецкай цывільнай адміністрацыі патрэба ў дзейнасці Мінскага намесніцтва (а яго аддзелы дублявалі працу акруговых управаў) знікла. 15 верасня 1941 г. намесніцтва пераўтварылі ў дапаможнае бюро (*Neben-buro*), а з 30 верасня яго дзейнасць была цалкам згорнутая.

Радаслаў Астроўскі ў Мінску не затрымаўся, у выніку канфлікту з Вільгэльмам Кубэ[100] (Wilhelm Kube) ён выехаў на ўсход, дзе, на ягоную думку, пры вайсковым кіраўніцтве было больш магчымасцяў для самастойнай працы. Можна меркаваць, што беларускі дзеяч таксама ўлічваў і ранейшую канцэпцыю Розэнбэрга пра стварэнне адміністрацыйнай каланіяльнай адзінкі з цэнтрам у Смаленску і таму жадаў быць бліжэй да гушчы падзеяў.

Радаслаў Астроўскі з Дзмітрыем Касмовічам, Міхасём Вітушкам і генералам Краацам (начальнікам тылу вайсковай палявой камендатуры) пакінулі Мінск 30 кастрычніка 1941 г.[101] Ужо 6 лістапада будучы прэзідэнт БЦР узначаліў адміністрацыю Бранскай акругі. На гэтай пасадзе ён працаваў чатыры з паловай месяцы, пасля чаго 20 красавіка 1942 г. быў пераведзены ў Смаленск.

---

[99] Найдзюк, Язэп; Касяк, Іван. Беларусь учора і сяньня. Мінск, 1993. С. 261–262; Гардзіенка, А. Жыццё мінчан у гады нямецкай акупацыі (1941–1944) // Беларусь у XX ст. Выпуск 2. Мінск, 2003. С. 79.

[100] Леанід Галяк пісаў з гэтай нагоды: *«Астроўскаму казалі спакойна сядзець і чакаць, пакуль наладзіцца праца. Астроўскі сядзеў тыдзень, сядзеў два, сядзеў тры, аж нарэшце сеў ды напісаў ліст, у якім выказаў, што праца, якая пачала разгортвацца пры вайсковай адміністрацыі, зусім замерла пасьля перадачы адміністрацыі ў цывільныя рукі, хоць рабіць ёсьць што. У гэтых абставінах, напісаў Астроўскі, ён ня можа бязьдзейна сядзець і чакаць, а лічыць сваім абавязкам далейшае змаганьне супраць бальшавізму, і дзеля гэтага пакідае Менск і едзе далей на Усход, дзе працуе нямецкая вайсковая адміністрацыя. Астроўскі… папрасіў мяне занесьці гэты ліст у Генэральны Камісарыят, пасьля таго, як адыдзе цягнік на Усход [Астроўскі выехаў на ўсход аўтамабілем. — А. Г.]. Гэтак я і зрабіў. Праз пару гадзінаў у памяшканьні зьявілася нямецкая паліцыя, шукаючы Астроўскага, схапілі толькі аўта, што было ў карыстаньні Шавеля, і паехалі. Немцы пазьней расказвалі, што Кубэ чуць не ашалеў са злосьці, што нехта асьмеліўся яго крытыкаваць, і гразіўся, што Астроўскага расстраляе, як толькі яго зловяць. З таго часу, аж да сьмерці Кубэ, Астроўскі, калі заяжджаў у Менск, дык затрымліваўся вельмі коратка і паказваўся толькі некальківм асобам»* (Галяк, Леанід. Успаміны. Кн. 1… С. 233).

[101] Касмовіч, Дзьмітры. За вольную і сувэрэнную Беларусь… С. 133.

Цывільная адміністрацыя на чале з Кубэ кантралявала невялікую тэрыторыю: дзесяць акругаў (гебітаў) плошчай 52 000 км$^2$ і насельніцтвам 2,9 млн чалавек. Улада ва ўсходніх рэгіёнах Беларусі падпарадкоўвалася вайсковай зоне тылу, таму пра стварэнне цэнтральнай беларускай адміністрацыі гаворкі не вялося.

На тэрыторыі, падуладнай цывільнай адміністрацыі, у 1941 г. была магчымая дзейнасць толькі адной арганізацыі — Беларускай народнай самапомачы (БНС), дазвол на стварэнне якой Альфрэд Розэнбэрг даў 26 верасня 1941 г. Менавіта БНС стала тою структураю, што запачаткавала і ўзначаліла на кароткі час беларускі грамадскі рух пад немцамі.

## БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ САМАПОМАЧ

Вільгэльм Кубэ 22 кастрычніка 1941 г. выдаў адозву аб стварэнні на тэрыторыі Генеральнага абшару Беларусь арганізацыі «Беларуская народная самапомач». Праз шэсць дзён, 28 кастрычніка, адозву надрукавалі ў «Менскай газэце».

Задачамі арганізацыі былі: апека над насельніцтвам, ахова здароўя і пытанні культуры. Прадугледжвалася стварэнне інтэрнатаў, дзіцячых садкоў, іншых аналагічных установаў. У галіне культуры БНС магла выдаваць кнігі, газеты, часопісы, арганізоўваць дамы культуры, ладзіць імпрэзы і вечарыны[102]. У падпарадкаванне БНС пераходзіла маёмасць і памяшканні Беларускага Чырвонага Крыжа, створанага ў ліпені 1941 г. Іванам Антановічам.

Пра галоднае і халоднае жыццё ў Мінску зімой 1941 г. і дзейнасць Самапомачы піша ў сваіх успамінах Галіна Руднік.

> Зіма 1941–1942 году была жахлівая. У печы не было чым паліць, вада ў хаце замярзала, спалі ў цёплай вопратцы й у рукавіцах. Удзень дзяжурылі пад вокнамі нямецкай кухні й зьбіралі бульбяныя лупіны. Калі яны былі таўсьцейшымі, то абразалі й варылі. А калі не, то замешвалі разам з мукой, а часьцей з вотруб’ем і варылі ці пяклі. А часам гэтыя лупіны былі ўжо мёрзлыя. Бралі й такія. (…)
>
> Памерці з голаду ўсім нам не дала адчыненая на пачатку 1942 года Самапомач. Раз на дзень нам пачалі выдаваць тры порцыі рэдзенькай гарачай зупы й грамаў 100–150 на дзень на асобу чорнага

[102] НАРБ. Ф. 384. Воп. 1. Спр. 3а. Арк. 18–19.

хлеба. Ісьці па гэтыя «смакалыкі» трэба было далёка, але гэта быў наш ратунак[103].

Управы БНС ствараліся ва ўсіх акругах. Баранавіцкую ўзначаліў Віктар Войтанка (пазней яго змяніў Міхась Тулейка), Навагрудскую — Павел Якуцэвіч, Слонімскую — Рыгор Зыбайла, Лідскую — Адольф Клімовіч, Слуцкую — Сяргей Ліхадзіеўскі, Барысаўскую — Барыс Шчорс, Ганцавіцкую — Антон Сокал-Кутылоўскі, гораду Мінску — Леанід Маракоў, Мінскую — Юльян Саковіч, Вілейскую — Аляксандр Калодка (затым яго змяніў Часлаў Найдзюк), Глыбоцкую — Іван Гінько[104].

У студзені 1942 г. *«для агульнага кіраўніцтва і каардынацыі дзейнасці на месцах»* была створаная Цэнтральная рада БНС (або Цэнтраля, Галоўная ўправа): Іван Ермачэнка (старшыня), Янка Станкевіч (першы намеснік, затым яго змяніў доктар Уладзімір Валькевіч), архіепіскап Філафей (Нарко), кс. Вінцэнт Гадлеўскі, бургамістр Мінску Вацлаў Іваноўскі, кіраўнік Баранавіцкага акруговага суда Павел Свірыд, дзеяч культуры Кастусь Мікалаевіч; рэдактар «Менскай газэты» Антон Адамовіч, кіраўнік нямецкага Цэнтральнага гандлёвага таварыства ў Беларусі Сымон Кандыбовіч, кнігавыдавец Язэп Найдзюк, грамадскія дзеячы Іван Касяк, Уладзімір Шавель і Юльян Саковіч[105]. У канцы 1942 г. у склад Цэнтралі быў уключаны Радаслаў Астроўскі. Аддзелы БНС ствараліся ва ўсіх павятовых цэнтрах. Аднак у некалькіх раёнах, найперш у Лідскай і Вілейскай акругах, стварэнню супрацiўляліся польскія дзеячы.

Грамадскі дзеяч у Вілейцы Аляксандр Калодка ў лісце да Івана Ермачэнкі ў студзені 1942 г. пісаў:

> Наша Вілейская акруга бедная на беларускую інтэлігенцыю, а нават і тая інтэлігенцыя, якая ёсьць — нейкая аспалая, павольная. Трэба было б падаслаць трохі стойкіх беларусаў-нацыяналістаў[106].

Колькасць сябраў БНС залежала ад умоваў працы ў кожным рэгіёне. У *Слуцкай акрузе* на 1 траўня 1942 г. налічвалася 413 сябраў, тады як у суседняй *Баранавіцкай* — у дзесяць разоў болей, 4202[107], пры тым што

---

[103] Руднік Галіна. Птушкі пералётныя. Радыё Свабода, 2011. С. 48.
[104] Гардзіенка, А. БНС: спроба стварэння беларускага ўрада // Беларусь у XX ст. Выпуск 1. Мінск, 2001.
[105] Тамсама.
[106] НАРБ. Ф. 384. Воп. 1, Спр. 4. Арк. 4.
[107] НАРБ. Ф. 384. Воп. 1. Спр. 14. Арк. 26; Спр. 6. Арк. 14–15.

насельніцтва Баранавіцкай акругі перавышала насельніцтва Слуцкай усяго ў паўтара разу.

Гэтыя лічбы можна патлумачыць тым, што, па-першае, паветы, якія ўваходзілі ў склад Баранавіцкай акругі, да 1939 г. належалі Польшчы, дзе не было мэтанакіраванага знішчэння беларускай інтэлігенцыі і нацыянальная свядомасць была вышэйшая; па-другое, у Баранавічах існаваў асобны камісарыят, які ў нечым павышаў ролю гораду да ўзроўню Мінску. Шмат залежала і ад ініцыятывы мясцовай адміністрацыі. Бургамістрам Баранавічаў у 1941–1942 гг. быў дзеяч нацыянальнага руху з часоў Беларускай сялянска-работніцкай грамады Юры Сабалеўскі, які шмат зрабіў для беларусізацыі акругі. Апроч пачатковых школаў тут працавалі навучальныя ўстановы сярэдняй ступені: мастацкая, дарожна-будаўнічая, медычная, адміністрацыйна-гандлёвая школы, настаўніцкая семінарыя, бухгалтарскія курсы[108].

Цэнтральная Рада БНС імкнулася ахапіць і іншыя сферы грамадскага жыцця. Гэтак, перад прыездам у Мінск вясною 1942 г. міністра ўсходніх тэрыторыяў Альфрэда Розэнбэрга быў падрыхтаваны мемарыял, дзе выказвалася занепакоенасць стаўленнем нямецкай адміністрацыі да беларусаў[109]. Прапаноўвалася стварыць пры Генеральным камісарыяце (ГКБ) нацыянальнае прадстаўніцтва даверу, а пры акруговых камісарыятах — акруговыя прадстаўніцтвы, рэарганізаваць паліцыю і стварыць добраахвотніцкі вайсковы аддзел для барацьбы з партызанамі. БНС таксама заяўляла пра неабходнасць уключэння ў ГКБ усіх этнічных беларускіх земляў, заснавання школаў сярэдняй і вышэйшай ступені, Акадэміі навук[110]. Але Розэнбэрг, які наведаў Мінск 30 траўня 1942 г., праігнараваў прапановы.

Трэба зазначыць, што ў 1942 г. у берлінскіх найвышэйшых колах у поглядах на ўсходнюю палітыку ішла барацьба паміж г. зв. «русафіламі» і «сепаратыстамі». «Русафілы» — прадстаўнікі армейскай верхавіны — лічылі, што ў змаганні з бальшавізмам трэба рабіць стаўку на прадстаўнікоў прарасійскіх антысталінскіх колаў. «Сепаратысты», якіх рэпрэзентаваў Розэнбэрг, меркавалі, што ў змаганні з бальшавізмам, наадварот, трэба рабіць стаўку на нацыянальныя рухі ў СССР. Аднак пакуль Нямеччына ў 1942 г.

---

[108] Найдзюк, Язэп. Да гісторыі разьвіцьця асьветы на Беларусі // Беларуская газэта. 17 лютага 1943.

[109] Літвін, Аляксей. Акупацыя Беларусі (1941–1944): пытанні супраціву і калабарацыі… С. 169.

[110] Тамсама. С. 169–170.

досыць паспяхова пачувалася на Усходнім фронце, перамагала канцэпцыя «русафілаў», і паплечнікі Розэнбэрга не мелі падтрымкі ў Берліне.

Але ў Беларусі вырашылі дзейнічаць паводле сваіх меркаванняў. 29 чэрвеня 1942 г. Вільгэльм Кубэ выдаў загад аб стварэнні інстытуту мужоў даверу пры ГКБ як дарадчага органу. Функцыі мужоў даверу акрэсліваліся гэтак:

> §3. Да кампэтэнцыі Галоўнага Мужа Даверу пры Генэральным Камісарыяце Беларусі належаць пытаньні нацыянальнага існаваньня і разьвіцьця, культурнага і палітычнага жыцьця і гаспадарчага парадку Беларускага народу і наогул усялякія справы, могучыя проста ці ўскосна датычыцца беларускага народу.
>
> §4. Іншых Мужоў Даверу ў Генэральным Камісарыяце Беларусі вызначае Генэральны Камісар на прапанову Галоўнага Мужу Даверу.
>
> §5. Да кампэтэнцыі Мужоў Даверу пры Генэральным камісарыяце належаць справы, зазначаныя галіной іх дзейнасьці (школьныя, палітычныя і інш.). Яны зьяўляюцца ўрадоўцамі паасобных рэфэратаў Генэральнага камісарыяту і падпарадкаваныя Генэральнаму Камісару.
>
> §6. Мужоў Даверу пры Акруговых Камісарах вызначае Генэральны Камісар Беларусі на прапанову Галоўнага Мужа Даверу пры Генэральным Камісары Беларусі…[111]

Галоўным мужам даверу і дарадцам пры генеральным камісару прызначылі Івана Ермачэнку. Ён мусіў курыраваць і аддзел палітыкі пры Генеральным камісарыяце. Аддзел школьніцтва ўзначаліў Яўхім Скурат, аддзел культуры — Іван Касяк, аддзел прапаганды — Антон Адамовіч. Пры акруговых камісарыятах функцыі ўскладаліся на: Мінск (акруга) — Юльян Саковіч, Мінск (горад) — Іван Касяк, Баранавічы — Юры Сабалеўскі, Слонім — Аляксандр Сівец, Навагрудак — Барыс Рагуля, Ліда — Нікандр Мядзейка, Ганцавічы — Антон Сокал-Кутылоўскі, Слуцк — Сцяпан Шнэк, Вілейка — Вінцэнт Склубоўскі, Глыбокае — Іван Гінько, Барысаў — Станіслаў Станкевіч[112].

Была таксама рэарганізаваная Цэнтральная рада БНС. Пры ёй ствараліся палітычны, вайсковы, школьны, культурны аддзелы, аддзелы прапаганды і аховы здароўя. Акруговыя рады БНС таксама рэарганізоўваліся.

---

111 НАРБ. Ф. 384. Воп. 1. Спр. 64. Арк. 2–3.

112 НАРБ. Ф. 384. Воп. 1. Спр. 56. Арк. 7–8; Туронак, Юры. Беларусь пад нямецкай акупацыяй… С. 118.

29 чэрвеня Кубэ абвясціў пра стварэнне для барацьбы з партызанамі Вольнага корпуса самаахОВЫ (Беларуская самаахова — БСА)[113]. Зварот ад імя беларускага народу падпісалі Іван Ермачэнка, Вінцэнт Гадлеўскі, Вацлаў Іваноўскі, архіепіскап Філафей, Уладзіслаў Казлоўскі і Юльян Саковіч[114].

На думку Юрыя Туронка, стварэнне беларускіх узброеных сілаў для барацьбы з савецкімі партызанамі было не адзіным матывам у дзейнасці Кубэ. Праект нарадзіўся пасля таго, як зазналі паразу ранейшыя спробы арганізацыі беларускіх вайсковых фармаванняў. З іншага боку, праект папярэднічаў дырэктыве Гітлера ад 18 жніўня, якую Кубэ атрымаў толькі ў канцы жніўня. Такім чынам, генеральны камісар выдаў загад аб Самаахове без згоды Гімлера і Розэнбэрга[115]. Не было таксама яснасці і з колькасным складам. Кубэ заявіў, што гэта будзе Вольны корпус (*Freikorps*), які паводле нямецкай традыцыі меўся складацца з добраахвотнікаў без кантраляванай колькасці байцоў. *«Затое ў кіраўніцтве БНС гэта ўспрынялі як намер стварыць Армейскі корпус (Armee-Korps) — у многіх краінах гэта была найбуйнейшая вайсковая адзінка, якая звычайна складалася з трох дывізій. Пры арганізацыі БНС гэта выклікала вялікія непаразуменьні. Шмат клопату нарабіла і другая праблема: каму былі павінны падпарадкоўвацца гэтыя часьці? 29 чэрвеня Кубэ даручыў іх фармаваньне Ермачэнку і адначасова папярэдзіў, што яны будуць падпарадкоўвацца камандзіру СС і паліцыі на Беларусі. Ніякіх іншых дэталяў ён ня значыў — іх распрацоўкай павінна было заняцца кіраўніцтва БНС»*[116].

Галоўным камендантам БСА стаў Іван Ермачэнка, які меў досвед вайсковай службы: у Першую сусветную вайну — афіцэр расійскай арміі, а ў 1919–1920 гг. — ад'ютант у стаўцы генерала Урангеля. У галоўную вайсковую камісію ўвайшлі: Уладзімір Валькевіч, Юльян Саковіч, Іван Касяк, Франц Кушаль, Міхаіл Пугачоў, Віктар Чабатарэвіч[117].

Камісіі Самааховы ствараліся ў кожнай акрузе. Франц Кушаль падрыхтаваў праект унутранай арганізацыі БСА, паводле якога (беларусы паверылі ў магчымасць стварэння найбуйнейшай вайсковай адзінкі) корпус самааховы меўся складацца з трох дывізіяў (кожная з некалькіх батальёнаў): у Мінску,

---

[113] Туронак, Ю. Беларусь пад нямецкай акупацыяй // Туронак, Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі… С. 606–607.
[114] Тамсама.
[115] Тамсама.
[116] Тамсама.
[117] Гардзіенка, А. БНС: спроба стварэння беларускага ўрада…

Вілейцы і Баранавічах[118]. Але, натуральна, праект быў адкінуты. Немцы, якія мелі на ўвазе фармаванне добраахвотнікаў *Freikorps*, дазволілі толькі арганізаваць у кожным павеце па адной дробнай вайсковай адзінцы (ад роты да батальёну). Усяго на 68 паветаў, падкантрольных цывільнай адміністрацыі, паўсталі 20 батальёнаў[119]. Так, яны мелі цалкам беларускі камандны склад, але на ўзроўні павету падначальваліся пасту нямецкай жандармерыі, а ў акругах — паліцай-гебітскаменданту. На найвышэйшым узроўні — ГКБ — Самаахова была падпарадкаваная начальніку паліцыі і войскаў СС[120].

27 ліпеня 1942 г. адкрыўся курс афіцэраў БСА. Франц Кушаль пазней пісаў з гэтай нагоды:

> У сваёй прамове Кубэ называў нашых афіцэраў сваімі сябрамі і абяцаў ім будучыню ў беларускім войску, якое, безумоўна, пры нямецкай дапамозе зарганізуецца. Пасьля прамовы Кубэ д-р Ермачэнка ўзьнёс Беларускі Нацыянальны Сьцяг перад Пагоняй і партрэтам Гітлера, і гэтым курс уважаўся адчыненым... Здавалася, што ўсё будзе як найлепей, усе верылі ў абяцанкі немцаў[121].

У гэты ж дзень, 27 ліпеня 1942 г., Вільгэльм Кубэ дазволіў выкарыстанне бел-чырвона-белага сцяга на розных урачыстасцях, што выклікала энтузіязм у грамадскага актыву:

> 1. Я дазваляю ў Генэральным камісарыяце Беларусі пры розных урачыстасьцях ці для высьвятленьня беларускай нацыянальнасьці побач зь нямецкімі знакамі адрозьненьня вывешваць на дамах і насіць беларускія нацыянальныя знакі і эмблемы.
> 2. За нацыянальныя знакі і эмблемы беларускія на падставе гэтага распараджэньня прызнаюцца:
> а) беларуская нацыянальная «Пагоня» згодна з прыкладзеным узорам;
> б) беларускі нацыянальны сьцяг таксама згодна з прыкладзеным узорам;
> в) нарукаўныя нашыўкі для сябраў Беларускай нацыянальнай самапомачы.

---

118 Кушаль, Франц. Спробы стварэньня беларускага войска. Менск, 1999. С. 44.
119 Тамсама. С. 44.
120 НАРБ. Ф. 384. Воп. 1. Спр. 69. Арк. 3–4.
121 Кушаль, Франц. Спробы стварэньня беларускага войска… С. 48.

Усе гэтыя знакі і эмблемы знаходзяцца пад дзяржаўным ахоўніцтвам[122].

Беларускія дзеячы бачылі ў Самаахове зародак будучага нацыянальнага войска і магчымасць далейшых саступак нямецкіх уладаў. Але ўжо праз некалькі тыдняў справа БСА пачала тармазіцца немцамі. Івана Ермачэнку пазбавілі пасады галоўнага каменданта, галоўная вайсковая камісія і камісіі ў акругах распусцілі, на змену ім прыйшлі вайсковыя рэфераты (фактычна, адзінка, ніжэйшая за аддзел), якія складаліся з аднаго чалавека. Адмяняліся афіцэрскія званні, а пытанне пастаўкі зброі і амуніцыі адкладалася на няпэўны час[123]. 3 кастрычніка 1942 г. аддзелы Самааховы наогул перадалі пад кантроль павятовых пастоў жандармерыі. БНС спрабавала пратэставаць, але выніку гэта не дало. Арганізацыя сканцэнтравалася на культурніцкіх ініцыятывах, выданні кніг[124], а таксама на дзейнасці створанага ўлетку 1942 г. з ініцыятывы Івана Ермачэнкі Беларускага навуковага таварыства (старшыня — І. Ермачэнка, ганаровы старшыня — В. Кубэ, віцэ-прэзідэнты — В. Іваноўскі ды І. Касяк)[125].

Пра значнасць уплыву тагачаснай БНС сведчыць тое, што на паседжаннях Цэнтралі вырашаліся пытанні прызначэння на пасаду дырэктара Мінскага гарадскога тэатру, а таксама разглядаліся пытанні арганізацыі праваслаўнай

---

[122] Гардзіенка, А. Асноўныя накірункі акупацыйнай палітыкі нямецкіх уладаў у сферы культуры (1941–1944) // http://asvieta.net/hardzienka.html

[123] Літвін, Аляксей. Акупацыя Беларусі (1941–1944): пытанні супрацьву і калабарацыі… С. 175–177.

[124] Першай пад грыфам БНС накладам 50 000 асобнікаў выйшла брашура Янкі Станкевіча «Крыўя-Беларусь у мінуласці» (Менск, 1942). Пазней быў выдадзены таго ж Янкі Станкевіча «Лемантар пераходны з лацініцы на кірыліцу» (Менск, 1942), зборнік калядных песень «Ой, прыйшла каляда» (Менск, 1942), беларускі лемантар «Зорка» (Баранавічы, 1942), «Страявы вайсковы статут», апрацаваны Віталём Мікулам (Менск, 1943). Былі падрыхтаваныя для друку некалькі календароў. Падрабязней пра кнігадрук гл.: Туронак, Ю. Беларуская кніга пад нямецкім кантролем…

[125] У склад Беларускага навуковага таварыства ўвайшлі: прафесар Эдуард Шыперка, Антон Адамовіч, Бухвалаў, Крэчка, Наталля Арсеннева, Мікалай Шкялёнак, Павел Свірыд, Янка Станкевіч, праф. Язэп Лычкоўскі, Станіслаў Грынкевіч, дацэнты Платон Жарскі, Яўхім Скурат, Мацвей Смаршчок, архіепіскап Філафей, кс. Вінцэнт Гадлеўскі, доктар Баляслаў Грабінскі, дацэнт Грыскевіч, інжынер Уладзімір Тамашчык, епіскап Афанасій Мартас, доктар У. Валькевіч, доктар Яўген Станкевіч, інжынер Яўген Малевіч, інжынер Адольф Клімовіч, кс. Адам Станкевіч, Ларыса Геніюш і Рыгор Мурашка (НАРБ. Ф. 908. Воп. 1. Спр. 57). Пасля разгрому БНС дзейнасць Навуковага таварыства аднаўлялася двойчы: улетку 1943 г. і ўзімку 1944 г.

і каталіцкай цэркваў[126]. Гэтак, на паседжанні 22 верасня 1942 г. кс. Вінцэнт Гадлеўскі выказаў ідэю заснаваць асобную беларускую каталіцкую мітраполію (арцыбіскупства), наўпрост залежную ад Рыму. Гадлеўскі прапанаваў два варыянты:

1) прызначыць трох генеральных вікарных, па адным у кожную з дыяцэзіяў: Віленскую, Пінскую, Мінска-Магілёўскую;

2) аб'яднаць беларускія каталіцкія парафіі Генеральнай акругі Беларусь у адно біскупства на чале з генеральным вікарным (прапаноўвалася кандыдатура кс. Гадлеўскага)[127].

Аднак нямецкія чыноўнікі выказаліся катэгарычна супраць. Чыноўнік Генеральнага камісарыяту Вэбэр (Weber), які кантраляваў дзейнасць БНС, параіў Гадлеўскаму не займацца грамадскаю дзейнасцю, а сканцэнтравацца на педагагічнай: напрыклад, выдаць падручнік па гісторыі Беларусі (святар кіраваў Школьным інспектаратам пры ГКБ)[128]. 24 снежня 1942 г. кс. Гадлеўскі быў арыштаваны СД і ў той жа дзень расстраляны ў Трасцянцы.

Але БНС і далей працягвала актыўна ўмешвацца ў грамадскае жыццё ў Беларусі[129]. Яе дзеячы заяўлялі, што арганізацыя даўно перарасла былыя функцыі ды павінна займацца палітычнымі справамі. 5 студзеня 1943 г. пытанне дзейнасці БНС нават абмяркоўвалася ў Берліне, але агульнага рашэння наконт перспектываў Беларусі не прынялі[130].

Кропку ў гісторыі «першай» Самапомачы паставілі на з'ездзе 4–7 сакавіка 1943 г. у Мінску, калі кіраўніцтва арганізацыі прыняло мемарандум да нямецкіх уладаў, у якім прасіла шырокай аўтаноміі Беларусі:

> Неадкладна стварыць для аб'яднаных беларускіх земляў нацыянальны Ўрад з Прэзыдэнтам Беларусі, старшынём Ураду і з кіраўнікамі наступных аддзелаў: унутраных спраў, палітычных спраў, фінансаў, гаспадарчага, культуры і асьветы, вайсковага, юстыцыі, аховы здароўя і сацыяльнага забесьпячэньня. Гэты Ўрад абвесьціць аддзяленьне Беларусі ад Савецкага Саюзу і аб'явіць яму вайну як ворагу беларускага народу, які пасягае на ягоную незалежнасьць.

---

[126] НАРБ. Ф. 384. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 5–8

[127] НАРБ. Ф. 384. Воп. 1. Спр. 64. Арк. 7.

[128] НАРБ. Ф. 384. Воп. 1. Спр. 36. Арк. 20.

[129] НАРБ. Ф. 384. Воп. 1. Спр. 3а. Арк. 111–117. На канец верасня 1942 г. у БНС налічвалася 20 737 чалавек.

[130] Літвін, Аляксей. Акупацыя Беларусі (1941–1944): пытанні супраціву і калабарацыі… С. 174.

> Адпаведна з гэтым належыць арганізаваць уладу на месцах.
> Адмяніць дзейнічаньне бальшавіцкага закону аб нацыяналізацыі нерухомасьці.
> Для ўтрыманьня супакою, ладу і парадку ў краі і барацьбы з агульным ворагам — бальшавізмам — арганізаваць Беларускую Нацыянальную Армію і забясьпечыць яе зброяй і амуніцыяй.
> Дазволіць сьцягнуць неабходныя нацыянальныя сілы, якія знаходзяцца за граніцамі Беларусі[131].

Нямецкія кіраўнікі паставіліся да мемарандуму адмоўна. Івана Ермачэнку абвінавацілі ў гаспадарчых злоўжываннях (немцы пазбягалі «палітычных» справаў), пазбавілі пасады і выслалі ў Прагу пад нагляд гестапа[132]. Адпраўленых у Лідскую акругу сябраў Цэнтралі Юльяна Саковіча і Леаніда Маракова ў чэрвені 1943 г. застрэлілі польскія падпольшчыкі.

У траўні 1943 г. цалкам спынілася дзейнасць Самаахowы, а 30 чэрвеня БНС была рэарганізаваная ў Беларускую самапомач (БСП), функцыі якой

---

[131] НАРБ. Ф. 908. Воп. 1. Спр. 5. Арк. 774–775.

[132] Наступствы мемарандуму апісаў у сваіх пазнейшых успамінах Віктар Чабатарэвіч — сябра Галоўнай камісіі БСА: *«Хутка пасьля нашае рэзалюцыі немцы распачалі сьледзтва, ім было не ў спадобу, што нейкія там унтэрменшы сьмеюць уваходзіць у калізію зь іх «геніяльнымі» плянамі паняволеньня беларускага народу і ўстанавіць эксплюатацыю зямель у карысьць іхняга райху. Рэзалюцыя была й не на руку Ген. камісару, што ён дапусьціўся да такой свабоды выяўленьня беларусамі сваёй волі. Тым больш яна была не на руку др. Ермачэнкі, які мроіў аб уласнай кар'еры. (...) Пасьля рэзалюцыі пайшло сьледзтва. Спэцыяльна прысланая немцамі з Бэрліну камісія стала па чарзе дапытваць сяброў рэзалюцыйнае камісіі. Шмат хто зь беларусаў чакаў, што сяброў рэзалюцыйнае камісіі спаткае лёс Мазура [беларускі лейтэнант паліцыі, які адмовіўся зьнішчаць вёску ля Мінску за сувязь з партызанамі. — А. Г.]. Др. Ермачэнка на дапросе адмовіўся зусім ад ідэі незалежнасьці Беларусі. Мы ўсе сябры камісіі прынялі сьледзтва спакойна, паўтарылі ім нашыя перакананьні, расказалі ім праўду.Мушу аддаць справядлівасьць, немцы на дапросах былі на месцах, абышлося без пагрозаў, адно што толькі злосьціліся, калі дайшло да др. Ермачэнкі. Відавочным было, што немцы перасталі яму верыць. Некаторым з нас, дапрашаваных, яны заявілі, што др. Ермачэнка абманваў вас, беларусаў, і нас, немцаў, і нам трэба гэта прыпыніць. Хутка пасьля гэтага др. Ермачэнка паляцеў з займанай ім у немцаў пасады і ўсьлед за гэтым разышлася вядомая чутка аб ягонай спэкуляцыі салам і г. д. Насьледкам нашае рэзалюцыі было тое, што спэцыяльныя нямецкія пасланцы стараліся выяўляць сапраўдную беларускую апінію. У сувязі з гэтым было дапрошана многа беларускіх дзеячоў...»* (Ліст Віктара Чабатарэвіча да Кастуся Акулы ад 14 снежня 1962 г. // Юрэвіч, Лявон. Шматгалосы эпісталярыум. Мінск, 2012. С. 253–254).

выключна палягалі ў *«заданні забяспечыць жыхарства Генеральнай Акругі Беларусі апекай і аховай здароўя»*[133].

## РАДА ДАВЕРУ

Пра стварэнне Рады даверу абвясцілі 27 чэрвеня 1943 г. Яна мелася складацца з 16 чалавек: 6 — з Мінску і па адным прадстаўніку (мужу даверу) — ад кожнай з акруг. У дэкларацыі зазначалася:

> Рада даверу становіць адміністрацыйную камісію і зьявіцца дарадным органам для нямецкага цывільнага кіраўніцтва, прычыняючыся да разьвязаньня адміністрацыйных задачаў вялікага значэньня, якія павінны служыць новаму рэфармаваньню Беларускага Краю[134].

Урачысты сход з нагоды стварэння Рады даверу прайшоў 27 чэрвеня ў Акруговым камісарыяце. У ім узялі ўдзел 200 чалавек: беларускі актыў, а таксама прадстаўнікі нямецкіх уладаў.

Кіраўніком Рады быў прызначаны бургамістр Мінску Вацлаў Іваноўскі, намеснікам — Юры Сабалеўскі. У склад РД увайшлі: Міхась Ганько — сакратар (як шэф СБМ), Надзея Абрамава (кіраўніца юначак СБМ), Канстанцін Рабушка (прафсаюзы), Аўген Калубовіч (кіраўнік Беларускай культурнай рады), Канстанцін Гуло (старшыня Рудзенскага раёну, як прадстаўнік Мінскай акругі), Іван Галяк (старшыня Радашковіцкага раёну, Вілейская акруга), Уладзімір Казёл (старшыня Глыбоцкага павету), Язэп Душэўскі (старшыня Грэскага павету Слуцкай акругі), Віктар Трахімовіч (старшыня Бягомльскага павету Барысаўскай акругі), Мікалай Буляк (старшыня гораду Навагрудку і Навагрудскага павету), Сямён Цытовіч (старшыня Слонімскага павету Слонімскай акругі), Мадэст Яцкевіч (старшыня Лідскага павету Лідскай акругі), Грыгорый Зуй (старшыня Ганцавіцкага павету), Аляксандр Русак (бургамістр Баранавічаў)[135]. Беларускія дзеячы скліканіся ў Раду даверу на год. Ва ўрачыстай прамове Вільгэльм Кубэ прапанаваў беларусам выказваць свае заўвагі наконт будучай канцэпцыі развіцця краю, але дзейнасць новай рады фактычна заставалася на паперы.

---

[133] Гардзіенка, А. БНС: спробы стварэння беларускага ўрада…
[134] Baranavickaja Hazeta. 30 cerwienia 1943.
[135] НАРБ. Ф. 380. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 6.

Самаю значнаю падзеяй у кароткай гісторыі Рады даверу стала паседжанне 25 жніўня, якое прайшло супольна з нямецкаю цывільнай адміністрацыяй ды афіцэрамі. Аўген Калубовіч згадваў, што перад паседжаннем Рада даверу сабралася ў Галоўнай цэнтралі БСП (сённяшняя Камсамольская 13). Парадак дня будучай сесіі і агульная напружаная палітычная атмасфера ў Мінску не выключалі, паводле яго, магчымасць арыштаў. Івanoўскі нават падрыхтаваў кароткую сімвалічную Дэкларацыю незалежнасці Беларусі, якую меўся зачытаць у выпадку арышту[136].

У агульнай сесіі бралі ўдзел з нямецкага боку: Вільгэльм Кубэ, шэфы аддзелаў і чыноўнікі Генеральнага камісарыяту, вялікая дэлегацыя ад прадстаўнікоў СД і паліцыі (40 чалавек). На нарадзе разглядалася некалькі пытанняў: вяртанне маёмасці, нацыяналізаванай саветамі (з дакладам выступаў Іваноўскі), пытанне школьнай адукацыі.

Найбольшую цікавасць выклікаў трэці пункт: «Аб партызанскім руху», які чытаў бургамістр Баранавічаў Аляксандр Русак. Ён заявіў, што нямецкая пацыфікацыйная акцыя супраць партызанаў не толькі не дала вынікаў, а наадварот, партызанскі рух ахапіў усю Беларусь, і ў нямецкіх руках застаюцца толькі акруговыя і павятовыя цэнтры. Рада даверу сцвярджала, што больш эфектыўна б было, каб насельніцтва само ўдзельнічала ў такой барацьбе. У якасці прыкладу прыводзіліся атрады самааховы на Палессі, а таксама дзейнасць Чыгуначнага батальёну, што ахоўваў чыгунку Брэст — Гомель.

Рада даверу прасіла:

1. Пайсці на стварэнне супольнага нямецка-беларускага органу для барацьбы з партызанамі, у якім былі б прадстаўнікі ад Генеральнага камісарыяту, СД, СС і беларускага грамадства.

2. Не ўжываць болей метадаў запалохвання беларускага насельніцтва ў выглядзе палення вёсак і г. д.

3. Ствараць надалей беларускія аддзелы пры СД для кожнай акругі на ўзор Мінску і, апрача гэтага, стварыць ахову ў кожнай вёсцы.

4. Заснаваць беларускую тайную паліцыю для барацьбы з бандытызмам *«ва ўсякай неабходнай форме там, дзе гэтай паліцыі яшчэ няма»*.

5. Арганізаваць асобны паліцэйскі корпус, які б падпарадкоўваўся беларускай паліцыі.

---

[136] Калубовіч, Аўген. Прафэсар Вацлаў Іваноўскі і Беларуская Рада Даверу // Калубовіч, Аўген. Крокі гісторыі: Дасьледаваньні, артыкулы, успаміны. Беласток—Вільня—Менск, 1993. С. 148–149.

6. Ажывіць прапаганду шляхам распаўсюду беларускай прэсы, сучасны стан якой быў нездавальняльны (самае масавае выданне — «Беларуская газэта» — выходзіла два разы на тыдзень)[137].

Калубовіч зазначаў, што даклад Русака выклікаў негатыўную рэакцыю з боку прадстаўнікоў нямецкай паліцыі. Аднак ніякіх адмоўных наступстваў гэта не мела.

> Нашыя пабойваньні арышту Рады Даверу ня спраўдзіліся. Іваноўскаму не давялося чытаць Дэкляацыі Незалежнасьці, якая ляжала ў нутраной кішэні ягонага пінжака. Але даўжэйшы час нас не пакідала думка, што немцы могуць з намі расправіцца[138].

Праз месяц быў забіты Вільгэльм Кубэ, дзейнасць Рады прыпынілі. Апроч таго, на палітычную сцэну Мінску вярнуўся Радаслаў Астроўскі, які здолеў пераканаць новага генеральнага камісара Курта фон Готбэрга ў неабходнасці большай аўтаноміі беларускага актыву. 6 снежня 1943 г. на Вацлава Іваноўскага здзейснілі замах, на наступны дзень бургамістр Мінску памёр ад ранаў.

Наконт забойства бургамістра існуе некалькі версіяў. Паводле афіцыйнай савецкай (яна прыводзіцца ў кнізе Івана Новікава «Дарогі скрыжаваліся ў Мінску»), Вацлава Іваноўскага забілі савецкія партызаны Аляксандр Камінскі і Яўген Кунцэвіч[139]. Беларускія ж дзеячы лічылі, што бургамістра маглі ліквідаваць як немцы, гэтак і савецкія партызаны. Яўхім Кіпель ва ўспамінах зазначыў:

> У 1943 г. пачалася падрыхтоўка да фармавання беларускага ўрада. Адным з найактыўнейшых у гэтай справе — я сказаў бы, кіраўніком гэтай дзейнасці з беларускага боку — быў прафесар В. Іваноўскі, бурмістар Менска.
>
> Іваноўскі добра ведаў тагачасных беларускіх дзеячоў, быў ведамы немцам, і было як бы паўсакрэтам, што Іваноўскі мае сувязі з польскім падполлем. Але — што для нас было найважнейшым — мы, нацыянальны актыў, добра ведалі Іваноўскага і з ім цесна супрацоўнічалі. У мяне няма ніякага сумневу (ды гэтак уважалі бадай усе актыўныя працаўнікі беларускага апарату ў Менску), што Іваноў-

---

[137] НАРБ. Ф. 380. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 79–84.

[138] Калубовіч, Аўген. Прафэсар Вацлаў Іваноўскі і Беларуская Рада Даверу… С. 153.

[139] Новікаў, Іван. Дарогі скрыжаваліся ў Мінску: Дакументальная аповесць. Мінск: Беларусь, 1964. — 431 с.

скі быў найбольш падрыхтаваны і здольны палітык не толькі сфармаваць урад, але і наагул наладзіць дзяржаўна-арганізацыйную структуру на тэрыторыі, якая была адведзеная немцамі беларускай адміністрацыі. Івановускі быў, кром таго, ведамы і папулярны ў шырэйшым грамадстве як сярод тагачасных заходнікаў, так і сярод усходнікаў, аб чым я добра ведаў, маючы кантакты з Магілёвам, Барысавам, Гомелем.

Пра папулярнасць Івановускага добра ведалі і немцы, і савецкія партызаны, і польскі элемент. Нашым ворагам гэта калола вочы. Ім патрэбная была палітычная сітуацыя, пры якой не было б папулярных беларускіх дзеячоў і на чале руху стаялі б выпадковыя людзі.

[...]

Калі ж пад канец лета 1943 года з Берліна прыйшла вестка, што там згадзіліся на ўтварэнне беларускага ўрада (як ведама, аб патрэбе стварэння беларускага ўрада беларусы гаварылі немцам ад самага пачатку вайны), дык было ясна, што найбольш адпаведная асоба на становішча кіраўніка ўрада будзе прафесар Вацлаў Івановускі. Аднак да нас хутка дайшлі весткі праз беларускую паліцыю, якая мела сваю контрвыведку ў радах савецкіх партызанаў, што асобай праф. Івановускага ў ролі кіраўніка будучага беларускага ўраду надта запалоханыя камуністы, ды што камуністам будзе вельмі на руку Івановускага знішчыць.

Беларуская контрвыведка таксама даводзіла да ведама, што нейкі Івашкевіч уцягнуты ў змову супраць В. Івановускага. Прозвішча Івашкевіча ўсплывала ўжо сярод менскага нацыянальнага актыву не раз. Справа ў тым, што гэтая асоба была ў даверы ў шмат каго ў беларускім актыве, ды бараніў Івашкевіча і сам праф. Івановускі, калі аднойчы на зборцы «пяцёркі» яму было аб гэтым сказана. (Здаецца, гэты Івашкевіч быў у нейкім сваяцтве з Івановускім праз ягоную першую жонку.) Былі моцныя падозранні, што і Івашкевіч, і ягоная жонка Вольга Менжыеўская звязаныя і з бальшавіцкімі партызанамі, і з палякамі.

Незадоўга перад трагічным днём на пасяджэнні аднае з «пяцёрак» прадстаўнік беларускае паліцыі зноў сказаў Івановускаму, што вакол яго стаяць занадта падазроныя асобы. Івановускі гэтаму запярэчыў і не прыняў папярэджання сур'ёзна. Неўзабаве, аднак, выявілася, што нейкія колы былі ўсё ж моцна занепакоеныя тым, што запланаваны беларускі ўрад можа быць ачолены праф. Вацлавам Івановускім. Івановускі быў зрэзаны куляй і стаўся чародная палітыч-

най ахвярай. Для нас гэта быў вельмі трагічны выпадак, бо наш рух страціў умелага палітыка і актыўнага дзеяча. Трагічнасць паглыбілася яшчэ і тым, што ў гэтым забойстве заставалася шмат няяснага. У Мінску хадзіла колькі версій магчымых прычынаў забойства Іваноўскага. Адна з іх была гэткая: у дзень забойства Іваноўскі працаваў паводле іншага раскладу, як звычайна. Быў з ім у Гарадской Управе той самы Івашкевіч. Івашкевіч з працы пайшоў быццам бы раней і спаткаўся каля Управы з нейкімі людзьмі. Аб гэтым нам казалі беларускія паліцыянты. Іваноўскі нібыта паехаў дахаты з працы іншай дарогай, і каля будынка Смаленскага СД адбыўся замах на яго. Замах быў выкананы, як казалі, двума мужчынамі. Хутка пасля забойства паліцыя затрымала Івашкевіча па дарозе ў лес да партызанаў. Што з ім сталася далей — няведама.

Вось гэткія ў маёй памяці засталіся ўспаміны аб гэтай трагічнай падзеі. Для нас тады ў Менску было ясна, што ў гэтым забойстве шмат загадкавых момантаў. Гэтак мне яно здаецца і цяпер…[140]

Юрый Туронак у кнізе «Беларусь пад нямецкай акупацыяй» выказаў меркаванне, што Вацлава Іваноўскага забілі немцы паводле ініцыятывы Радаслава Астроўскага, якому трэба было прыбраць суперніка, што замінаў на шляху да стварэння БЦР. Астроўскі перабраўся ў Баранавічы са Смаленску не раней за кастрычнік 1943 г., разам са штабам камандуючага цэнтральнага адцінку фронту Клюге (Günther von Kluge). У той жа час у Мінску размясцілася смаленскае СД, з якім Астроўскі пастараўся не губляць кантактаў[141].

На думку Туронка, Астроўскі (асабіста альбо праз пасярэдніцтва сваіх нямецкіх спонсараў) адразу ўзяўся за справу і паспяшаўся пераканаць Готбэрга ў мэтазгоднасці стварэння на Беларусі органу цэнтральнага самакіравання.

Тры важкія акалічнасьці перашкаджалі ажыцьцяўленьню гэтага праекту: па-першае, бэрлінскія інструкцыі забаранялі стварэньне такога органу, па-другое, фармальна яшчэ існаваў Камітэт Даверу, а зь ім Готбэрг супрацоўнічаць не хацеў, бо ня мог пагадзіцца з пазыцыяй Іваноўскага, нарэшце па-трэцяе, ён ня верыў у магчымасьці беларускага нацыяналізму і не сьпяшаўся разыгрываць гэту карту. З другога боку, Готбэрг разумеў, што такі орган адыграе пэўную прапаганды-

[140] Кіпель, Яўхім. Эпізоды. Выд. 2-е… С. 207–211.

[141] Туронак, Ю. Беларусь пад нямецкай акупацыяй // Туронак, Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі… С. 653.

сцкую ролю і стане карысным інструмэнтам у барацьбе з партызанамі[142].

Праекты і засцярогі Готбэрга, які па-ранейшаму не спяшаўся давяраць беларусам, былі агучаныя ў Берліне 22–23 лістапада 1943 г. на спецыяльнай канферэнцыі. Да таго ж праект Астроўскага, на думку Туронка, тармазіўся тым, што Раду даверу трэба было рэарганізаваць, а кіраўніком заставаўся Іваноўскі.

> Аднак Готбэрг, хаця і быў зацікаўлены ў тым, каб пазбыцца Іваноўскага, ня стаў яго звальняць ці патрабаваць, каб ён падаў у адстаўку, а пакінуў гэту справу Астроўскаму і яго паслугачам.
>
> Спачатку яны думалі, што ананімнымі лістамі ім удасца запалохаць Іваноўскага і прымусіць яго пакінуць Мінск, але спроба не ўдалася. І тады пачалася да замаху. 6 сьнежня, калі Іваноўскі ў адкрытай брычцы вяртаўся дадому з гарадзкой управы, на яго напалі двое мужчын, адзін зь якіх — Аляксандр Камінскі — раней служыў у менскай паліцыі і ўцёк у партызаны, — прагучала некалькі стрэлаў. Іваноўскі быў паранены, але не сьмяротна. Яго адразу ж перавялі ў гарадзкі шпіталь і пакінулі бязь лекарскай дапамогі. Назаўтра, 7.12.1943 Вацлаў Іваноўскі памёр. Готбэрг ужо 23 лістапада падчас раней згаданай канфэрэнцыі выразна намякаў на тое, што на Іваноўскага рыхтуецца замах, і выканаюць яго самі беларусы. Ён зьвязваў гэта з актывізацыяй Рады Даверу. Адказнасьць за сьмерць Іваноўскага кладзецца як на плечы Астроўскага, так і Готбэрга — першы быў ініцыятарам замаху, другі ведаў пра яго ад пачатку і дазволіў, каб ён адбыўся[143].

Аўген Калубовіч, паплечнік Іваноўскага і сябра Рады даверу (а на эміграцыі некаторы час адзін з ідэолагаў адноўленай Рады БНР і праціўнік Астроўскага), адзначаў, што бургамістра ўсё ж забілі немцы:

> У той нешчасьлівы дзень, як пасьветчылі аб гэтым ягоная сакратарка й фурман, Іваноўскі перад канцом працы заехаў у Генэральны Камісарыят *[сёння раён будынку Адміністрацыі прэзідэнта. — А. Г.]* і стуль вяртаўся дадому *[жыў на вуліцы Ратамскай. — А. Г.]* зусім іншым маршрутам. Ехаў вуліцаю Францішка Скарыны *[сёння Энгельса. — А. Г.]* паўз гарадзкі тэатар да вуліцы 25 Сакавіка *[сёння*

---

[142] Туронак, Ю. Беларусь пад нямецкай акупацыяй // Туронак, Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі… С. 653.

[143] Тамсама. С. 654.

*праспект Незалежнасці. — А. Г.]*, зь яе былой Ленінскай *[сёння Леніна. — А. Г.]* на Пляц Волі. Там, мінуўшы будынак паліцыі й пачатак Рэвалюцыйнай вуліцы, якойсь вулачкай, цяпер ня памятаю назову, спусьціўся ўніз да вуліцы Астроўскага *[сёння Раманаўская Слабада. — А. Г.]*. Ён сапраўды быў забіты там, дзе паказвае савецкая вэрсія. Пра гэта тады шырока гаварылася і ў менскай беларускай прэсе пісалася. Але спэцгрупа «НКВД» на тым месцы не магла зрабіць забойства: аўтары савецкай вэрсіі, відаць, ня ведалі і таму не ўзялі пад увагу, што месца тое было насупраць будынку Смаленскага СД (незадоўга перад гэтым сюды эвакуяванага), ля брамы каторага дзень і ноч стаяла ўзброеная варта[144].

Сведчанне Аўгена Калубовіча пацвярджае думку Юрыя Туронка пра тое, што Радаслаў Астроўскі мог ведаць пра падрыхтоўку замаху. З некаторымі супрацоўнікамі СД ён быў знаёмы па працы ў Смаленску.

Блізкі супрацоўнік дзеяча Іван Касяк зазначаў, што Вацлава Іваноўскага забіў М. Васьковіч — работнік мінскай гарадской управы, які пасля ўцёк да партызанаў[145].

Так ці інакш, але смерць спачатку Вільгэльма Кубэ, а затым і Вацлава Іваноўскага адкрыла Радаславу Астроўскаму дарогу да ўлады, да стварэння Беларускай Цэнтральнай Рады.

---

[144] Калубовіч, Аўген. Прафэсар Вацлаў Іваноўскі і Беларуская Рада Даверу… С. 155.

[145] Касяк, Іван. Другая сусьветная вайна і паваенны час… С. 303.

# БЕЛАРУСКАЯ ЦЭНТРАЛЬНАЯ РАДА АД СТВАРЭННЯ ДА КАНГРЭСУ (СНЕЖАНЬ 1943 — ЧЭРВЕНЬ 1944)

## СТВАРЭННЕ БЦР

21 снежня 1943 г. генеральны камісар Беларусі Курт фон Готбэрг падпісаў загад аб стварэнні Беларускай Цэнтральнай Рады пад кіраўніцтвам Радаслава Астроўскага.

Астроўскі меў вялікі досвед грамадскай і педагагічнай дзейнасці — больш за 30 гадоў. Ягоная грамадская актыўнасць пачалася яшчэ ў 1907 г. За ўдзел у студэнцкім гуртку Астроўскага выключылі з матэматычнага факультэту Пецярбургскага ўніверсітэту, ён давучваўся ў Дэрпцкім універсітэце (Тарту). У 1913–1915 гг. выкладаў у Мінскім настаўніцкім інстытуце, быў у эвакуацыі. Летам 1917 г. у Слуцку арганізаваў першую беларускамоўную гімназію, быў прадстаўніком Часовага ўраду на Случчыне, удзельнікам Першага Усебеларускага кангрэсу, у 1920–1923 гг. — супрацоўнікам Амерыканскай арганізацыі дапамогі (АРА) у Заходняй Беларусі, што шмат зрабіла для апекі над ахвярамі наступстваў Першай сусветнай ды іншых войнаў[146].

У лістападзе 1923 г. Астроўскі быў запрошаны на пасаду дырэктара Віленскай беларускай гімназіі, якую займаў з невялікімі перапынкамі да 1936 г. У гэты час ён напісаў некалькі школьных падручнікаў па арыфметыцы. Адначасова браў актыўны ўдзел у грамадска-палітычным жыцці Заходняй Беларусі. У 1925–1927 гг. быў адным з кіраўнікоў Беларускай сялянска-работніцкай грамады, дырэктарам Кааператыўнага банку, праз які Масква фінансавала беларускія арганізацыі, але пасля разгрому БСРГ згарнуў дзейнасць і разам з Антонам Луцкевічам, Фабіянам Акінчыцам і Янкам Станкевічам стаў заснавальнікам Цэнтральнага саюзу грамадскіх і культурных арганізацыяў

---

[146] Найбольшы ўклад АРА зрабіла ў барацьбу з голадам у БССР і Савецкай Расіі (Паволжжа).

(Цэнтрасаюзу), які ва ўмовах нацыянальнага ціску з Варшавы і рэпрэсіяў супраць нацыянальнай інтэлігенцыі ў БССР лічыў за неабходнасць супрацоўніцтва з польскімі палітычнымі арганізацыямі. Пад уплывам Цэнтрасаюзу былі Таварыства беларускай асветы, Навуковае і Дабрачыннае таварыствы, Беларускі студэнцкі саюз. Але Цэнтрасаюз прайграў выбары ў польскі Сейм у 1930 г., што прывяло да расколу, і Астроўскі сканцэнтраваўся на педагагічнай дзейнасці. У 1936 г. яго знялі з пасады дырэктара Віленскай беларускай гімназіі ды выслалі ў Лодзь, на захад Польшчы. У 1939 г., на пачатку Другой сусветнай вайны, Астроўскі арганізаваў там Беларускі камітэт.

У пачатку ліпеня 1941 г. Радаслаў Астроўскі вярнуўся ў Беларусь, у Мінск, дзе з 15 ліпеня да 30 верасня займаў пасаду кіраўніка Мінскага намесніцтва. З прычыны канфлікту з Вільгэльмам Кубэ, незадаволенасці адміністрацыйным падзелам Беларусі і слабасцю цывільнай улады ў Мінску Астроўскі ў кастрычніку 1941 г. пакінуў сталіцу і выехаў на ўсход. Спачатку ён узначаліў адміністрацыю Бранскай (лістапад 1941 — красавік 1942 г.), а затым Смаленскай акруг (красавік 1942 — красавік 1943 г.). Як зазначалася раней, берлінскае кіраўніцтва ўлетку 1941 г. не выключала магчымасці стварэння вялікай беларускай акругі ўключна з Браншчынаю ды Смаленшчынаю са сталіцай у Смаленску, але за два наступныя гады нічога ў гэтай справе не зрушылася.

Перад наступам Чырвонай Арміі, у красавіку 1943 г., Радаслаў Астроўскі пераехаў у Магілёў, дзе таксама заняў пасаду кіраўніка акруговай адміністрацыі. Пры ягоным кіраўніцтве ў траўні 1943 г. быў заснаваны Магілёўскі медычны інстытут (у Беларусі тады не было вышэйшых навучальных установаў). Але фронт працягваў рухацца ў заходнім кірунку, і ў верасні 1943 г. Астроўскі перабраўся ў Баранавічы, дзе жылі ягоныя дачка і зяць — Галіна і Мікалай Мінкевічы. У архіве ў Саўт-Рывэры ёсць згадкі, што ён нават купіў пляц пад пабудову дому. Цалкам дапушчальна, што 57-гадовы дзеяч быў гатовы закончыць грамадскую кар’еру і заняцца гадаваннем унукаў.

Аднак праз два тыдні грамадска-палітычная сітуацыя змянілася: 22 верасня 1943 г. у выніку тэракту загінуў Вільгэльм Кубэ. На думку Юрыя Туронка, Астроўскі выкарыстаў наступныя тыдні, каб пераканаць Готбэрга ў неабходнасці большых саступак грамадскаму актыву[147].

---

[147] Туронак, Ю. Беларусь пад нямецкай акупацыяй // Туронак, Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі… С. 653–654.

У тыя месяцы рэзка змяніліся і вонкавыя фактары. У верасні 1943 г. Чырвоная Армія ўвайшла на тэрыторыю Беларусі, вызваліўшы некалькі райцэнтраў на ўсходзе, а 26 лістапада — першы абласны горад, Гомель. Усходні фронт выйшаў да Дняпра, адлегласць да Мінску цяпер складала 200 км. Таму, каб замацавацца на тэрыторыі Беларусі, Готбэрг пайшоў на стварэнне нацыянальнага прадстаўніцтва з прыкметамі ўраду, хоць і цалкам залежнага ад немцаў.

Гэтак мары беларускага актыву супалі з планамі нямецкай адміністрацыі. Каб надаць абвяшчэнню БЦР правамоцнасць і выгляд кансультацыяў з актывам, Готбэрг звярнуўся да кіраўніка адзінай на той час агульнанацыянальнай арганізацыі — *Беларускай самапомачы* — Юрыя Сабалеўскага, прапанаваўшы менавіта яму ўзначаліць БЦР. Той адмовіўся, аднак склікаў нараду ў вузкім коле з удзелам рэдактара «Беларускай газэты» Мікалая Шкялёнка і Радаслава Астроўскага[148]. Сабалеўскі прапанаваў узначаліць беларускі ўрад апошняму. Той адмовіўся спачатку на карысць Шкялёнка, потым на карысць Сабалеўскага, але затым пагадзіўся з умоваю, каб кандыдатуру ўхваліла шырокае кола грамадскасці.

12 снежня 1943 г. са згоды акругова камісара Вэрнэра (Werner) прайшоў сход у Баранавічах[149]. У нарадзе бралі ўдзел 30 чалавек (кіраўнікі аддзелаў самапомачы, школьныя інспектары, дарадцы пры акруговых камісарыятах). Радаслаў Астроўскі выступіў на сходзе з праграмнаю прамовай, у якой выклаў канцэпцыю бачання Беларусі. Гэты сход апісаў у справаздачы ў СД кіраўнік аддзелу СБМ Фёдар Шпак. Паводле яго, Астроўскі выступаў востра, што было незвычайна для таго часу.

> Вельмі зьдзіўленым паказаўся мне даклад якога-то Астроўскага, які моцным аратарскім голасам крэчэў на ўсю залю, што: «усё сказанае вышэй ёсьць пустое, нам неабходна будаваць сваю дзяржаву, цэнтралізаванае кіраўніцтва, што мы ўсе працуем і ня маем ніякай ідэі, а ўсё чакаем ад немцаў якойсьці аўтаноміі ці рэспублікі, даволі ўжо гэтага чаканьня!
>
> Мы павінны ўсе сьмела і рашуча выступіць да немцаў выпрацаваўшы мімарандум, каб на нашай бацькаўшчыне Беларусі былі кіраўнікі самі беларусы. Даволі ўжо прасіцца ў немцаў ды падкупліваць салам, водкай ці бабамі ўладу, і тады ніякі з нас беларус ня

[148] Касяк, Іван. Другая сусьветная вайна і паваенны час… С. 312.
[149] Малецкі, Язэп. Пад знакам Пагоні… С. 118–119.

можа знайсьці праўды. Мы павінны паставіць у мімарандум моцна пытаньне перадачы ўлады нам, беларусам, усюды, і ў паліцыі, і ўстановах, а асабліва павінны выгнаць усіх зондарфюрараў, якія, як удзельныя князькі, таргуюць уладай, абставіўшы сябе польскімі паненкамі, п'янствуюць і разлагаюць сваім прыкладам масы. У іншым выпадку мы павінны паўстаць самі, толькі хто-ж нам дасьць права, бо мала трэбуем ад немцаў, якія назначаюць усюды людзей не пытаючыся ў нас [...]».

Безумоўна гэта быў польска-нацыяналістычны сход за падзел міністэрскіх партфэляў і атрыманьня маёнткаў, і каб я меў права, то гэтага прамоўца і яго падхалімаў пасадзіў бы ў цяжкія ўмовы фізычнай працы або проста зьнішчыў[150].

Блізкі паплечнік Радаслава Астроўскага Іван Касяк адзначаў, што перад тым, як пагадзіцца на ўзначаленне БЦР, той паставіў тры ўмовы нямецкаму кіраўніцтву:

1) Дапамагчы арганізаваць Беларускую Краёвую Абарону (БКА).
2) БКА не павінна быць высыланая на заходні фронт.
3) павінен быць скліканы Другі Усебеларускі Кангрэс.

Фон Готбэрг прыняў гэтыя ўмовы і абяцаў Астроўскаму поўную дапамогу[151].

Але наўрад ці ў снежні 1943 г. Радаслаў Астроўскі мог дыктаваць умовы генеральнаму камісару, які сам быў зацікаўлены ў стварэнні БКА ды пачаў спрыяць развіццю беларускага руху ў прапагандысцкіх мэтах[152]. Важна іншае: беларускі актыў ухапіўся за магчымасць стварэння цэнтральнай адміністрацыі.

Урачыстае абвяшчэнне БЦР прайшло 21 снежня 1943 г. у Генеральным камісарыяце. У паседжанні ўдзельнічалі 200 чалавек: найвышэйшыя нямецкія

---

[150] Ліст прадстаўніка Беларускай самапомачы [Ф. Шпака, кіраўніка СБМ у акрузе Баранавічы] кіраўніку прапагандовага аддзелу Баранавіцкай акругі [Бядрыцкаму] // Запісы БІНіМ. №26. Нью-Ёрк—Менск, 2003. С. 128–129.

[151] Касяк, Іван. Другая сусьветная вайна і паваенны час… С. 312.

[152] Гэта пацвярджаецца пратаколам паседжання акруговых намеснікаў БЦР і начальнікаў БКА, якое прайшло 12–13 траўня 1944 г. у Мінску. Адным з пунктаў парадку дня было тое, што *«Прэзыдэнт быў вызначаны генэралам фон Готбэргам без спэцыяльнага паразуменьня зь беларускім народам, і склад БЦР быў вызначаны Прэзыдэнтам, неабходным зьяўляецца скліканьне прадстаўніцтва народу для выбару ці зацьверджання Цэнтральнай Рады»* (За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі… С. 108).

чыны і беларускі актыў з Мінску і акруг[153]. У тагачаснай прэсе адзначалася, што Готбэрг увайшоў у галоўную залу ў суправаджэнні кіраўніка Беларускай самапомачы Юрыя Сабалеўскага і Радаслава Астроўскага (што павінна было падкрэсліваць партнёрскія адносіны беларусаў і немцаў). Апошні называўся былым дырэктарам Віленскай беларускай гімназіі. Аркестр пад кіраўніцтвам Міколы Шчаглова выканаў святочны марш[154].

Готбэрг выступіў з вялікаю прамовай, у якой ахарактарызаваў беды беларусаў у СССР і распавёў пра вызваленне, якое прынесла ў 1941 г. нямецкая армія. Генеральны камісар падкрэсліў пазітыўную ролю папярэднікаў БЦР — Беларускай самапомачы і СБМ, назваў беларусаў фанатычнымі ворагамі бальшавіцкага рэжыму[155]. Урэшце Готбэрг урачыста абвясціў рэарганізацыю Рады даверу ў Беларускую Цэнтральную Раду:

> Я наважыўся даць Радзе даверу жывую форму, пераканстытуаваць яе як Беларускую Цэнтральную Раду. Яна згуртуе ў сабе найдастайнейшых, найзаслужанейшых і найздальнейшых прадстаўнікоў беларускага народу. Як ейнага прэзыдэнта я вызначыў на прапанову галоўных прадстаўнікоў-беларусаў спадара дырэктара Радаслава Астроўскага. Маю цяпер гонар, мае спадары прадстаўнікі беларускага народу, абвесьціць вам мною ўстаноўлены Статут Беларускае Цэнтральнае Рады. Я, прадстаўнікі працоўнага беларускага народу, пастанавіў адразу ж пачаць і правесьці цэлы шэраг мерапрыемстваў, якія могуць весьці беспасярэдне да пастаўленай мэты[156].

Готбэрг казаў пра стварэнне абаронных пунктаў і вёсак, абяцаў, што кожны чалавек, які будзе несці службу ў такой вёсцы, атрымае ў вечную ўласнасць зямлю. Ён абяцаў павялічыць выпуск тавараў для павышэння дабрабыту насельніцтва, палепшыць яго харчаванне: павысіць нормы тлушчаў і мяса для работнікаў, занятых на цяжкай працы, і агульную норму харчовага пайка; павысіць заробкі, сацыяльны пакет, субсідыяванне прафесійнага навучання, усебаковую падтрымку школьніцтва. Уся гэтая праграма, на думку

---

153 Малецкі, Язэп. Пад знакам Пагоні… С. 120.

154 Baranavickaja Hazeta. 25 śniežnia 1943.

155 Туронак, Ю. Беларусь пад нямецкай акупацыяй // Туронак, Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі… С. 655.

156 Беларусь змагаецца, каб зьнішчыць бальшавізм: Генеральны камісар паклікаў Цэнтральную Беларускую Раду. Дырэктар Астроўскі прызначаны Прэзыдэнтам Цэнтральнае Беларускае Рады // Baranavickaja Hazeta. 25 śniežnia 1943.

Готбэрга, павінна была пачаць праводзіцца ў жыццё *«сёньня і зараз»*[157] (Загад пра страхаванне ад хваробаў і няшчасных выпадкаў і асаблівае забеспячэнне быў падпісаны праз два дні — 23 снежня 1943 г.).

Прамова Радаслава Астроўскага была значна карацейшая. Ён адзначыў, што Беларусь заўсёды шукала ў асобе Нямеччыны сябра і партнёра, згадаў, што ў 1918 г. Рада БНР звярнулася да кайзера Вільгэльма з прывітальнай тэлеграмаю, падзякаваўшы тады за вызваленне ад бальшавізму, а праз 23 гады Нямеччына прыйшла, каб абараніць беларусаў ад вынішчэння сталінскім рэжымам. Астроўскі заўважыў, што такое доўгае вырашэнне беларускага пытання немцамі (больш за 2,5 года) было абумоўленае часам вайны:

> Калі грымяць гарматы і трашчаць кулямёты, калі Нямеччына мае шмат вялікіх ды важных заданьняў, трудна было спадзявацца хуткага вырашэньня нашага беларускага пытаньня ў поўнай шырыні[158].

Радаслаў Астроўскі запэўніваў, што беларускі народ апраўдае аказаны давер і працягне змагацца за незалежнасць краю. Яго першаю пастановаю была наступная:

> У поўнай сьведамасьці важнасьці перажыванай хвіліны і адказнасьці перад Народам і гісторыяй, з пачуцьцем шчырага жаданьня аддаць усяго сябе на службу шматпакутнай маёй Бацькаўшчыне, каб супольна зь лепшымі сынамі беларускага народу вывесьці яе на шырокі шлях самастойнага і незалежнага існаваньня, я з гэтага 21 сьнежня 1943 г. абыймаю становішча Прэзыдэнта Беларускай Цэнтральнай Рады[159].

У зачытаным Готбэргам статуце Беларуская Цэнтральная Рада абвяшчалася прадстаўніцтвам беларускага народу, галоўная мэта якога — мабілізацыя ўсіх сілаў на знішчэнне бальшавізму. Паўнамоцтвы акрэсліваліся досыць цьмяна: Рада павінна была праводзіць у жыццё *«ўсе патрэбныя мерапрыемствы»*[160]. У палітычнай і ваеннай сферах прапановы мусілі падавацца на разгляд нямецкага кіраўніцтва, БЦР аддалі толькі сацыяльнае, культурнае і

---

[157] Baranavickaja Hazeta. 25 śniežnia 1943; Туронак, Ю. Беларусь пад нямецкай акупацыяй // Туронак, Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі… С. 655.

[158] Baranavickaja Hazeta. 25 śniežnia 1943.

[159] Пастанова №1 Прэзыдэнта БЦР // Зборнік дакументаў БЦР. Частка 1. Снежань 1943 — 28 чэрвеня 1944 г. Копія зборніку захоўваецца ў аўтара гэтай кнігі.

[160] Статут БЦР. Тэкст прыводзіцца ў раздзеле «Дакументы».

школьнае жыццё — ва ўмовах блізкага краху немцы перасталі ім цікавіцца. Канчаткова пытанне школьніцтва перадалі ў кампетэнцыю БЦР у сакавіку 1944 г.

Статут рэгламентаваў, што Радзе падпарадкоўваюцца іншыя арганізацыі на тэрыторыі Генеральнай акругі. Аднак прэзідэнт БЦР прызначаўся і звальняўся генеральным камісарам, ён жа (генеральны камісар) прызначаў і звальняў астатніх сябраў Рады, даваў згоду на ўсе распараджэнні БЦР. У грамадска-палітычным жыцці БЦР была цалкам падкантрольная немцам.

Магчыма, некалькі наступных тыдняў пасля стварэння Радаслаў Астроўскі думаў, што далей рабіць, ці варта дзейнічаць у такіх абмежаваных умовах. І ён вырашыў скарыстаць з мінімальных магчымасцяў, дадзеных немцамі. Праз месяц, выступаючы на першым паседжанні БЦР, Астроўскі дакладна сфармуляваў канцэпцыю нацыянальнага руху:

> Мы не фантасты, а рэальныя палітыкі і, маючы 25-гадовы досьвед нашай народнай трагедыі, добра разумеем, што пры сучасных абставінах беларускі народ, ідучы па шляху да зьдзяйсьненьня свайго найвышэйшага ідэалу, павінен сабе шукаць помачы з боку больш магутнага прыязнага суседа. Палітычная каньюнктура ў сучасны момант склалася так, што гэтым апекуном-пратэктарам для беларускага народа зьяўляецца Нямеччына[161].

10 студзеня 1944 г. Радаслаў Астроўскі звярнуўся з Адозваю да беларускага народу, у якой заклікаў партызанаў і насельніцтва, што заставалася ў лесе, адмовіцца ад супрацыву. Прэзідэнт БЦР вымушаны быў казаць пра шчыльнае супрацоўніцтва з Нямеччынай і вайсковы талент ды геній Адольфа Гітлера і нямецкай арміі.

> У 1941 годзе магутная Нямецкая Армія пад кіраўніцтвам Адольфа Гітлера ліквідавала бальшавіцкі тэрор у нашай краіне і адчыніла новыя пэрспэктывы ў нашай працы і барацьбе за свабоду сваёй радзімы. Беларускі народ з радасьцю вітаў сваіх вызваліцеляў і ў барацьбе супраць свайго апошняга ворага бальшавізму ён з самага пачатку ішоў поруч з пераможнай Нямецкай Арміяй.
>
> Будаваньне нашага нацыянальнага жыцьця ў нашай краіне пачалося. Хаця ўмовы вайны не дазвалялі яшчэ выкарыстоўваць усе магчымасьці, мы ўсё ж можам з чыстым сумленьнем сьцьвярджаць,

[161] Голас вёскі. 26 студзеня 1944.

што за гэтыя два з паловай гады мы дабіліся немалых посьпехаў. Нямецкае камандаваньне прыняло нас і, наколькі дазволілі ўмовы вайны, аказала нам дапамогу ў нашай працы[162].

У адозве гучалі абвінавачанні на адрас Масквы ў каланізацыі і вынішчэнні краю. Дасягненнем Радаслаў Астроўскі падаваў ініцыятыву Готбэрга ў стварэнні абаронных вёсак:

Кожная беларуская вёска павінна ператварыцца ў непрыступную для бандытаў крэпасьць, кожны беларус і беларуска павінны прымаць актыўны ўдзел у зьнішчэньні бальшавіцкіх гнёздаў у нашых лясах[163].

Астроўскі, у тым ліку звяртаючыся і да прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў, заклікаў кінуць усе сілы на барацьбу з бальшавізмам. Адозва была распаўсюджаная ў выглядзе плакатаў, а таксама выдрукаваная ў «Беларускай газэце» 12 студзеня 1944 г. Тут жа быў змешчаны рэдакцыйны артыкул «Новыя перспектывы», дзе тлумачыўся сэнс стварэння БЦР — змаганне за незалежнасць Беларусі.

Праз утварэньне БЦР мы атрымалі вельмі шырокія магчымасьці ў адбудове і змаганьні за вольнасьць нашай Беларусі. Неабходна толькі зрабіць усё, каб гэтыя магчымасьці належна выкарыстаць. Для кожнага беларуса павінна стацца ясным, што Рада — гэта той асяродак, каля якога маюць згуртавацца ўсе творчыя сілы нашага народу ў гэтым адказным моманьце нашай гісторыі.

Мы ведаем, што на шляху для асягненьня сваіх мэтаў БЦР спаткае нямала перашкодаў, але мы ўсе павінны ведаць і тое, што праз адпаведнае згуртаваньне гэтых сілаў усе перашкоды будуць зламаныя. Сьведамасьць гэтага павінна быць найважнейшай пабудовай да арганізаванае, напружанае працы й змаганьня. […]

Зьмяшчаючы сяньня адозву БЦР, мы перакананыя, што яна знойдзе водгук у сэрцы кожнага беларуса, інакш і быць ня можа… Могуць нас называць шавіністымі, фанатыкамі, але мы ведаем адно — бяз вольнай Беларусі мы ня будзем мець ніякага жыцьця, бо ў найлепшым выпадку атрымаем толькі права на павольнае кананьне.

---

162 Голас вёскі. 26 студзеня 1944.

163 Тамсама.

Таму абавязкам кажнага ёсьць арганізаванае і ахвярнае змаганьне за Беларусь, да чаго й кліча нас спадар Прэзыдэнт Радаслаў Астроўскі[164].

У студзені 1944 г. у Генеральнай акрузе прайшлі дэманстрацыі падтрымання БЦР[165], да прапагандысцкай акцыі таксама далучылася Праваслаўная царква: ад імя мітрапаліта Панцеляймона выдалі спецыяльнае пастырскае пасланне[166].

Цягам больш як трох тыдняў Радаслаў Астроўскі быў адзіным сябрам БЦР. Толькі 15 студзеня 1944 г. ён запрасіў у Раду яшчэ 14 чалавек. На пасаду першага віцэ-прэзідэнта прапанаваў Міколу Шкялёнка, на той час рэферэнта (дарадцы) пры аддзеле прэсы Генеральнага камісарыяту; на пасаду другога віцэ-прэзідэнта — Юрыя Сабалеўскага, галоўнага старшыню Цэнтралі Беларускай самапомачы. Гэта былі дзеячы, з якімі Астроўскі кансультаваўся наконт стварэння БЦР у снежні 1943 г.

Сябрамі Рады сталі: Франц Кушаль, на той час галоўны ўпаўнаважаны пры беларускай паліцыі; Сымон Кандыбовіч, кіраўнік Беларускай секцыі Цэнтральнай гандлёвай арганізацыі (ЦГА); Павел Свірыд, старшыня акруговага суда ў Баранавічах; Вячаслаў Селях, загадчык аддзелу культуры пры БЦР; Аўген Калубовіч, кіраўнік Беларускай культурнай рады; Станіслаў Грынкевіч, старшыня Беларускага навуковага таварыства ў Вільні; Усевалад Родзька, старшыня гораду Віцебску; Міхаіл Астроўскі[167], дырэктар настаўніцкай семінарыі ў Слоніме; Мікалай Буляк, старшыня гораду Навагрудак; Пётра Орса, загадчык мяснога і малочнага аддзелаў ЦГА ў Баранавічах; Сцяпан Стаськевіч, дырэктар рамеснай школы ў Мінску; а таксама Сцяпан Калядка[168]. Аднак С. Грынкевіч, М. Буляк і М. Астроўскі не маглі пакінуць сваіх пасадаў у рэгіёнах, і колькасць сябраў БЦР склала 12 чалавек[169].

22 студзеня 1944 г. адбылося першае ўстаноўчае паседжанне, на якім абвясцілі Дэкларацыю. Менавіта дзень 22 студзеня 1944 г., а не 21 снежня 1943 г. лічыўся сябрамі БЦР пачаткам яе рэальнай дзейнасці.

---

164 Беларуская газэта. 12 студзеня 1944.
165 Тамсама.
166 Туронак, Юры. Людзі СБМ. Беларусь пад нямецкай акупацыяй… С. 527.
167 Міхаіл Астроўскі — цёзка на прозвішча Радаслава Астроўскага, не сваяк.
168 Загад №2 Прэзыдэнта БЦР ад 15 студзеня 1944 г.
169 НАРБ. Ф. 383. Воп. 1. Спр. 9. Арк. 13.

У Дэкларацыі сцвярджалася, што ў межах агучанага генеральным камісарам Статуту ў сваёй дзейнасці БЦР будзе ажыццяўляць наступную праграму.

У галіне асветы — выхаванне маладога пакалення ў нацыянальным духу і любові да Радзімы. БЦР збіралася развіваць і ўдасканальваць пачатковую бясплатную адукацыю, развіваць агульную спецыяльную адукацыю. Асаблівую ўвагу БЦР мусіла скіраваць на арганізацыю дашкольнай і пазашкольнай адукацыі, як і на забеспячэнне найбольш здольных дзяцей матэрыяльнымі магчымасцямі для навучання.

У галіне культуры БЦР мелася праводзіць палітыку пашырэння нацыянальнага беларускага мастацтва ва ўсіх галінах (літаратуры, музыцы, жывапісе, культуры і архітэктуры, тэатральным мастацтве), а таксама адраджэння, захавання і пашырэння беларускай культуры і традыцыяў (абрадаў, нацыянальнага адзення і арнаменту, народных песень і танцаў, фальклору і г. д.).

Дэкларавалася, што БЦР будзе гуртаваць найлепшыя сілы творчай інтэлігенцыі і апекавацца ўсімі культурнымі ўстановамі (тэатрамі, народнымі дамамі, хатамі-чытальнямі, бібліятэкамі, музеямі, радыё, мастацкімі школамі, выдавецтвамі мастацкай і музычнай літаратурай і г. д.).

Абвяшчалася ўсемагчымая падтрымка моладзі як будучыні Беларусі, у тым ліку Саюзу беларускай моладзі. БЦР брала абавязак стаяць за поўную свабоду рэлігійных веравызнанняў.

Зазначалася, што аснова грамадскага жыцця народу — сям'я: *«БЦР будзе клапаціцца пра аздараўленьне і ўмацаваньне сям'і, якая павінна зрабіцца ачагом любові да радзімы і здаровага маральнага жыцьця»*.

Больш разгорнута Дэкларацыя разглядала зямельнае пытанне: адзначаючы, што адвечнае імкненнем беларускага сялянства — валоданне ўласнаю гаспадаркаю, БЦР выступала за ўпарадкаванне зямельных адносінаў у Беларусі і абвяшчала наступныя ініцыятывы:

а) поўная ліквідацыя памешчыцкай і калгаснай сістэмаў і перадача зямлі ў рукі працоўнага сялянства на правах індывідуальнай уласнасці;

б) стварэнне ў краіне хутарской сістэмы гаспадарання, якая найбольш адпавядае жыццю беларускага народу;

в) стварэнне такога гаспадарання, якое забяспечыла б інтарэсы сялянскіх гаспадарак і іх матэрыяльнае падтрыманне;

г) развіццё ініцыятывы ва ўсіх галінах сельскагаспадарчай прамысловасці;

д) развіццё прыватнай ініцыятывы ва ўсіх галінах сельскагаспадарчага прадпрымальніцтва;

е) уздым земляробчай культуры ў краіне шляхам спецыяльнага навучання і стварэння ўзорных сельскіх гаспадарак.

Закраналася таксама пытанне прапаганды. БЦР імкнулася, каб *«беларускае друкаванае слова магло задаволіць патрэбы ў ім беларускага насельніцтва і было пачутае ва ўсіх кутках Беларусі»*. Гэта мелася спрыяць пашырэнню нацыянальнай самасвядомасці і супрацьдзейнічаць бальшавіцкай прапагандзе.

У сферы прававых адносінаў БЦР мела прапановы для нямецкага кіраўніцтва з мэтаю дамагчыся: аднастайнага, адпаведнага прававой псіхіцы беларускага народу заканадаўства; удасканалення існай судовай сістэмы і пашырэння кампетэнцыі беларускіх судоў як у галіне грамадзянскага, гэтак і працэсуальнага права.

Гандаль, на думку дзеячаў БЦР, мусіў развівацца на аснове кааперацыі, пакідаючы шырокае поле дзейнасці прыватнай ініцыятыве.

Ішлося таксама пра падтрымку прафесійных саюзаў у Беларусі, *«каб яны сталі кузьняй нацыянальнага руху беларускіх рабочых, несьлі яму матар'яльную дапамогу і давалі заслужаны культурны адпачынак»*.

У галіне выдавецкай дзейнасці БЦР гарантавала забеспячэнне школаў падручнікамі[170].

20 студзеня 1944 г. Радаслаў Астроўскі спраектаваў наступную структуру БЦР:

1. Канцылярыя прэзідэнта (сакратарыят).

2. Агульная канцылярыя:

а) гаспадарчы аддзел,

б) фінансавы аддзел.

3. Персанальны аддзел.

4. Аддзел моладзі:

а) пададдзел юнакоў;

б) пададдзел дзяўчат.

5. Школьны аддзел:

а) пададдзел пачатковых і народных школаў;

б) пададдзел сярэдніх школаў;

---

[170] Беларуская газэта. 25 студзеня 1944.

в) пададдзел прафесійных школаў:
г) Навуковае таварыства;
д) пададдзел метадычнай адукацыі;
е) пададдзел дашкольнага і пазашкольнага навучання.
6. Аддзел культуры:
а) рэферат культуры;
б) рэферат літаратуры;
в) рэферат прафесійнага мастацтва;
г) рэферат музыкі;
д) рэферат краязнаўства і музеяў.
7. Сацыяльны аддзел:
а) рэферат дзіцячых і інвалідных дамоў;
б) рэферат сацыяльнага забеспячэння і апекі;
в) рэферат аплаты адпачынку і інвалідных рэнтаў;
г) Беларуская самапомач.
8. Аддзел прапаганды.
9. Аддзел прафсаюзаў:
а) рэферат справаводства;
б) рэферат харчавання, вопраткі і памяшкання;
в) рэферат прапаганды, фільмаў, прэсы, культуры.
10. Аддзел праектаў (прапановаў):
а) рэферат мабілізацыі, размеркавання і апекі Краёвай абароны;
б) рэферат адміністрацыі (кіраўніцтва) і камунальнай гаспадаркі;
в) рэферат судоў;
г) рэферат сельскай і лясной гаспадаркі;
д) рэферат аховы здароўя;
е) рэферат кааперацыі і гандлю;
ж) рэферат прамысловасці і рамесніцтва;
і) рэферат адбудовы і дарог;
к) рэферат фінансаў[171].

Аднак пазней немцы зменшылі колькасць аддзелаў і адхілілі прапанову заснаваць асобнае беларускае прадстаўніцтва пры Генеральным камісарыяце.

24 студзеня 1944 г. была створаная галоўная кіраўнічая структура БЦР — прэзідыум, які павінен быў весці працу паміж пленумамі, што былі

[171] Загад №3 Прэзыдэнта БЦР // Зборнік дакументаў БЦР. Ч. 2. С. 133–134. Машынапіс. Копія захоўваецца ў архіве аўтара кнігі.

найвышэйшай формай прадстаўніцтва. У склад прэзідыуму ўвайшлі шэсць чалавек: Радаслаў Астроўскі, Мікола Шкялёнак, Юры Сабалеўскі, Франц Кушаль, Усевалад Родзька, Сымон Кандыбовіч.

Пры БЦР былі створаныя наступныя аддзелы:

*асветы, навукі і культуры* (кіраўнік — Радаслаў Астроўскі) з пададдзеламі: *школьным* (Яўхім Скурат), *культуры* (Вячаслаў Селях), *навукі* (пазней — навукова-метадычны)*; аддзел прапаганды і прэсы* (Мікола Шкялёнак); *аддзел сацыяльнага забеспячэння* (Юры Сабалеўскі, з 24 красавіка 1944 г. — Мікола Хмыз); *аддзел фінансаў* (Міхаіл Астроўскі); *аддзел моладзі* (Усевалад Родзька); *агульна-адміністрацыйны аддзел* (Сымон Кандыбовіч); *гаспадарчы аддзел* (Георгій Барташэвіч); *аддзел праектаў* (Павел Свірыд). Стварaліся таксама *кантрольная палата, аддзел веравызнанняў* (з 29 лютага 1944 г. — Мікалай Будзіловіч), *бюро нацыянальнасцяў*. Франц Кушаль прызначаўся начальнікам аддзелу будучай вайсковай адзінкі — Краёвай абароны.

Яўхім Кіпель пісаў аб працы ў аддзеле асветы, навукі і культуры:

> Астроўскі быў фактычна намінальны кіраўнік *[аддзелу. — А. Г.]*, яму хапала працы і ў іншых дзялянках, асабліва вайсковай і адміністрацыйнай, а кожны з гэтых пададдзелаў працаваў самастойна. […] У аддзеле навукі мы склалі рэестр кадраў, распрацавалі планы бліжэйшай працы. Установілі кантакты з Медычным інстытутам у Магілёве, іншымі школамі ды спланавалі працу на 1944 год, каб адчыніць яшчэ пяць інстытутаў, а таксама вышэйшы інстытут па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы настаўнікаў і выкладчыкаў для вышэйшых навучальных установаў[172].

Цалкам апарат БЦР, з шафёрамі, рабочымі і нават супрацоўнікамі кухні, па стане на чэрвень 1944 г. налічваў ад 70 да 80 чалавек. Сакратарыят складаўся з 22 чалавек (персанальны сакратар Астроўскага — Раіса Евец, кіраўнік агульнай канцылярыі — Аляксей Васіленя).

Школьны пададдзел налічваў восем чалавек (Яўхім Скурат, Гелена Паваротная, Фёдар Нічыпаровіч, Аляксандр Гузарэвіч ды інш.); навукова-метадычны пададдзел — шэсць чалавек (Яўхім Кіпель, Уладзімір Сірачынскі, Казімір Яськовіч, Кастусь Шкуцька, Язэп Гладкі, Раіса Галяк); пададдзел культуры — 12 чалавек (Вячаслаў Селях — кіраўнік, Уладзімір Гуцька — кіраўнік аддзелу прапаганды, Мікола Шчаглоў — кіраўнік музычнага аддзелу, Антон Шукелойць — кіраўнік новастворанага аддзелу музеяў,

[172] Кіпель, Яўхім. Эпізоды. Выд. 2-е… С. 212–213.

Серафім Шчарбакоў (Юрка Віцьбіч) — рэдактар часопісу «Узвышша», Аўген Кавалеўскі — кіраўнік інспекцыі драматычнай самадзейнасці, Янка Ліманоўскі — рэпарцёрскі сектар, Аляксандр Ягораў-Ясноўскі — інспектар аддзелу музыкі, Ларыса Святагор-Шкуцько, Лідзія Ясенка — машыністкі)[173].

Аддзел БКА складаўся з 7 чалавек (Франц Кушаль — кіраўнік, Віталь Мікула — заступнік шэфа, Сымон Раманчук — рэферэнт персанальных справаў, Аляксей Васіленя — загадчык канцылярыі, Глеб Будзіловіч — перакладчык з нямецкай, Уладзіслаў Рыжы — сакратар рэдакцыі, Тодар Цімафейчык — сакратар канцылярыі); аддзел праектаў — з 2 чалавек (Мікалай Астроўскі, Уладзімір Каракулька); аддзел веравызнанняў — 1 чалавек (Мікалай Будзіловіч); бюро пратаколаў — 1 чалавек (Іван Гінько)[174].

Самым вялікім быў агульны аддзел, які пераважна складаўся з абслугі (рабочых, кухараў, шафёраў і г. д.)[175]. Шырокія штаты сведчылі таксама і пра неабходнасць забеспячэння людзей працаю ды харчовымі карткамі для выжывання ў галодным Мінску.

Мітынгі і дэманстрацыі падтрымання БЦР прайшлі ў розных гарадах і вёсках. Найбольшы адбыўся ў Мінску 25 лютага 1944 г. на пляцы Волі (плошчы Свабоды) пад бел-чырвона-белымі сцягамі і гербам Пагоня. Перад мітынгоўцамі выступілі прафсаюзны лідар Канстанцін Рабушка і Радаслаў Астроўскі, а па выніках мітынгу прынялі рэзалюцыю аб падтрымцы БЦР[176].

З ініцыятывы БЦР упершыню падчас акупацыі афіцыйна быў адзначаны Дзень Волі. Святочныя ўрачыстасці прайшлі па ўсёй Генеральнай акрузе 25–26 сакавіка. Найбольшыя святкаванні адбыліся ў Мінску, упрыгожаным на тыя дні бел-чырвона-белымі сцягамі. Урачыстасці пачаліся а 10-й раніцы 25 сакавіка імпрэзамі ў школах, а 13:30 яны прайшлі на гарадскіх прадпрыемствах. А 15:30 пачалося шэсце ад Гарадскога тэатру да Вайсковых могілак: да магілы Усевалада Ігнатоўскага — аднаго са змагароў за незалежнасць Беларусі[177].

---

[173] НАРБ. Ф. 381. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 31.

[174] Тамсама.

[175] НАРБ. Ф. 381. Воп. 1. Спр. 12. Арк. 31–32.

[176] Беларуская газэта. 1 сакавіка 1944.

[177] Вітаўт Кіпель пісаў пра гэты дзень: *«Пару слоў пра магілу Усевалада Ігнатоўскага. 25 сакавіка 1944 г. пры гэтай магіле мы складалі прысягу Беларусі. Быў той дзень вельмі ўрачысты. Нас, юнакоў, было сотні паўтары, а можа і болей. Сябры Саюзу беларускай моладзі былі зь менскіх школаў, вялікі зьвяз моладзі з радыёзаводу, з сэмінарыі, з фэльчарскае школы ды нават зь іншых мясцовасьцяў. Цырымонія доўжылася пару гадзін, былі дзясяткі бел-чырвона-белых сьцягоў і*

26 сакавіка святкаванні працягнуліся. Раніцай на пляцы Волі адбылася ўрачыстая прысяга БКА, прайшлі царкоўныя службы ў Мітрапалітальнай царкве і Чырвоным касцёле, а скончылася адзначэнне Дня Волі ўрачыстасцю ў Гарадскім тэатры[178].

Перад 25 сакавіка старшыня гораду Анатоль Комар выдаў распараджэнне пра перайменаванне вуліцаў у беларускія (раней выкарыстоўваліся савецкія або нямецкія назвы). Вуліца Савецкая (сённяшні праспект Незалежнасці) зрабілася вуліцаю 25 Сакавіка. Леніна — вуліцаю Пагоні, Маркса пераназвалі ў Каліноўскага, Энгельса — у Язэпа Лёсіка, Камсамольскую — у Алеся Гаруна, Чырвонаармейскую (за немцамі Патсдамскую, дзе была сядзіба БЦР) — у вуліцу Ігнатоўскага, савецкага пісьменніка Мікалая Астроўскага — у вуліцу Вацлава Іваноўскага[179].

Такім чынам, БЦР беларускімі дзеячамі задумвалася як паўнацэнны ўрад, з нарошчваннем сілаў, разгалінаваннем структураў, каб у зручны момант, калі б такі здарыўся, можна было цалкам замяніць нямецкую адміністрацыю.

## РАЗБУДОВА І ДЗЕЙНАСЦЬ

У лютым 1944 г. у падпарадкаванне БЦР перайшлі Беларускае культурнае згуртаванне (у юрысдыкцыю аддзелу культуры), Беларускае навуковае таварыства (да аддзелу навукі), Самапомач, прафсаюзы і Каса хворых (да сацыяльнага аддзелу). Былі ўведзеныя новыя пасады: Пётру Орсу прызначылі кіраўніком аддзелу зямельных пытанняў, Сцяпана Стаськевіча — аддзелу пытанняў прафесійнай асветы, Сцяпана Калядку — прафсаюзаў[180].

Беларускай Цэнтральнай Радзе перадалі будынак акруговага камісарыяту, які размяшчаўся ў Ленінскай бібліятэцы (сёння тут працуе Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь). Уваход у сядзібу ахоўваў беларускі паліцэйскі аддзел СД, супрацоўнікі якога пільна абшуквалі наведнікаў, што мусілі абавязкова здаць зброю. Пропуск супрацоўнікам БЦР выпісваўся

---

*гарністы… Праўда, быў вельмі халодны дзень, і ў тых уніформах было здорава холадна»* (Вайсковыя могілкі ў Менску // Наша Ніва. №4. 22 студзеня 2001).

178 Беларуская газэта. 25 сакавіка 1944.

179 Тамсама.

180 Пастанова №3 БЦР ад 24 студзеня 1944 г. // За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі… С. 84–86.

на месяц[181]. Захады бяспекі былі абумоўленыя неспакойным становішчам у Мінску.

7 лютага 1944 г. паўсталі першыя тры намесніцтвы БЦР. Станіслава Станкевіча прызначылі кіраўніком Баранавіцкай акругі, Аляксандра Аўдзея — Слонімскай, Барыса Рагулю — Навагрудскай[182]. У гэтых акругах былі найбольш развітыя структуры беларускіх арганізацыяў і разгалінаваная адміністрацыя.

29 лютага Івана Касяка паставілі кіраўніком Глыбоцкай, Язэпа Малецкага — Вілейскай, Піліпа Жука — Мінскай, Івана Гінька — Слуцкай акругі[183] (з красавіка яго змяніў Іван Хіхлуша[184]). Толькі 5 красавіка 1944 г. быў вызначаны кіраўнік БЦР на Мінск: пасаду заняў старшыня гораду Анатоль Комар[185]. У красавіку Адольф Клімовіч узначаліў Лідскую акругу, Антон Сокал-Кутылоўскі — Ганцавіцкую. Вакантным заставалася кіраўніцтва ў Барысаўскай акрузе, дзе цывільная адміністрацыя кантралявала толькі два заходнія паветы.

У падпарадкаванні БЦР, як і ГКБ, былі 68 паветаў з тэрыторыяй 52 000 км$^2$ і насельніцтвам крыху большым за 2 млн. Пасля таго, як Чырвоная Армія ўвайшла на тэрыторыю Заходняй Украіны і перастала існаваць акруга Валынь, палескі рэгіён (Брэсцкі, Пінскі, Кобрынскі і Петрыкаўскі раёны) былі далучаныя да ГКБ. На гэтай тэрыторыі ў красавіку стварылі Брэсцкае намесніцтва БЦР на чале з Міхаілам Васілеўскім[186].

Падрабязнасці прызначэння намеснікам Вілейскай акругі апісаў ва ўспамінах Язэп Малецкі. У 1942 г. ён пераехаў з Вільні, у якой кіраваў Беларускім камітэтам, у Баранавічы, дзе ўзначаліў Медычную школу, а таксама працаваў у гарадскім шпіталі. Малецкі ведаў Астроўскага з супольнай працы ў Вільні ў 1930-х.

---

[181] Зборнік дакументаў БЦР. Ч. 1. Машынапіс. Копія захоўваецца ў архіве аўтара кнігі.

[182] Загад №5 Прэзыдэнта БЦР ад 7 лютага 1944 г. // За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі… С. 86.

[183] Пастанова №7 БЦР ад 29 лютага 1944 г. // Зборнік дакументаў БЦР. Ч. 1. С. 12. Машынапіс. Копія захоўваецца ў архіве аўтара кнігі.

[184] Пастанова №27 БЦР за 5 красавіка 1944 г. // Зборнік дакументаў БЦР. Ч. 1. С. 42.

[185] Пастанова №24 БЦР за 5 красавіка 1944 г. // Зборнік дакументаў БЦР. Ч. 1. С. 38.

[186] Другі Ўсебеларускі Кангрэс… С. 71.

> ...Позьнім вечарам я правёў гутарку з прэзыдэнтам БЦР Р. Астроўскім. Я даводзіў, што немцы вайну на ўсходзе ўжо прайгралі, і таму пытаньне, ці патрэбнае і карыснае нам зь імі супрацоўніцтва. Астроўскі не пагаджаўся ды высоўваў гэткія аргумэнты: вайна яшчэ ня скончаная, і Беларусы ў гэтым, немцам нявыгадным, палажэньні маюць магчымасьць мацней стаць на ногі і нацыянальна, і дзяржаўна, ды, сама важнае, могуць стварыць сваю збройную сілу [...] Астроўскі біў патрыятычным аргумэнтам: нам трэба браць у свае рукі зброю, арганізаваць за ўсякую цану сваё войска, заняць ключавыя становішчы, важныя для свае дзяржаўнасьці. І на гэта не было контраргумэнтаў[187].

Язэп Малецкі ўрэшце пагадзіўся і перабраўся ў Вілейку. Ва ўспамінах ён пісаў, што мясцовы гебітскамісар ва ўсім яго падтрымліваў — такі быў загад цэнтральных уладаў.

> У хуткім часе мы дасталі дом пад намесьніцтва БЦР. Вывесілі шыльду з Пагоняй ды надпісам лацініцай: *«Намесьнік Беларускай Цэнтральнай Рады на Вілейскую акругу»*. Перад фронтам намесьніцтва на высокай мачце лунаў беларускі сьцяг. Тут было бюро намесьніцтва ды ахова ў сіле 8 чалавек. Працы ў арганізаваньні намесьніцтва было шмат[188].

Планавалася, што намесніцтвы будуць налічваць 16–18 чалавек адміністрацыі, аднак колькасць супрацоўнікаў рознілася. Штат Вілейскага намесніцтва налічваў 11 чалавек: 6 чалавек — агульная канцылярыя, 4 — аддзел асветы і культуры, 1 — аддзел грамадскай апекі. Аддзел БКА меў асобную структуру і складаўся з 12 чалавек (Якуб Бабіч — кіраўнік, Уладзімір Дубовік — намеснік, Васіль Місюль — асветавы афіцэр), таксама ў яго штаце былі работнікі канцылярыі, бухгалтар, кладаўшчык і нават прыбіральшчыца[189].

Слуцкае акруговае намесніцтва было меншае: агульны аддзел налічваў усяго 2 чалавекі: намеснік БЦР Іван Хіхлуша і начальнік канцылярыі Язэп Амбражэвіч; аддзел асветы і культуры таксама налічваў 2 чалавекі, затое аддзел БКА — 8 чалавек (Сцяпан Шнэк — кіраўнік, Антон Даніловіч — афіцэр-прапагандыст).

---

[187] Малецкі, Язэп. Пад знакам Пагоні... С. 124.
[188] Тамсама. С. 129.
[189] НАРБ. Ф. 381. Воп. 1. Спр. 29. Арк. 54.

Найбольшым з намесніцтваў БЦР было Мінскае, якое разам з аддзелам БКА (кіраўнік Міхаіл Пугачоў) налічвала 19 чалавек[190].

Большасць грошай ішла на ўтрыманне аддзелаў БКА і акруговых батальёнаў. У траўні 1944 г. Вілейскае намесніцтва атрымала ад БЦР 12 тыс. рэйхсмарак (РМ), з іх 1429 РМ пайшло на выплату заробкаў супрацоўнікам намесніцтва, 1123 РМ — работнікам аддзелу БКА. Уласна на ўтрыманне некалькіх батальёнаў БКА выдаткавалі 7934 РМ[191]. Гэта адносна невялікая ў той час сума.

Праца ў структурах БЦР добра аплочвалася. Заробкі значна перавышалі «сярэдні» па краі. Аклад намесніка БЦР на Вілейскую акругу ў месяц складаў 300 РМ «бруднымі» (падатку вылічвалася 26,10 РМ), заробак загадчыка канцылярыі быў 175 РМ, загадчыка аддзелу асветы і культуры — 225 РМ, загадчыка культурнага згуртавання — 225 РМ, прыбіральшчыцы ў намесніцтве атрымлівалі па 35 РМ[192].

---

[190] НАРБ. Ф. 381. Воп. 1. Спр. 29. Арк. 23.

[191] НАРБ. Ф. 381. Воп. 1. Спр. 29. Арк. 54.

[192] Летам 1943 г. было распрацаванае распараджэнне, якое рэгулявала аплату працы службоўцаў адміністрацыі ў Генеральнай акрузе Беларусь. Уводзілася 5 катэгорыяў: кіраўніцтва атрымлівала 140–180 РМ, топ-работнікі — 110–140 РМ, службоўцы з закончанаю вышэйшай асветай, якія працавалі па спецыяльнасці, — 90–110 РМ, службоўцы з сярэдняй асветай — 70–90 РМ, тэхнічныя службоўцы — 60–70 РМ. Заробак настаўніка быў куды меншы, чым кваліфікаванага рабочага, ён вагаўся ў памеры 30–40 РМ. Значна болей атрымлівалі дырэктары школаў і гімназіяў. Дырэктар Мінскай прагімназіі меў 150 РМ за месяц, ягоны намеснік — 100 РМ, загадчык бібліятэкі — 75 РМ. У гарадах і вёсках заробкі вясковых настаўнікаў былі значна меншыя. Настаўнікі ў Лагойску атрымлівалі 25 РМ (Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці (ДАМВ). Ф. 1039. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 12).

У заходніх вобласцях заробак быў крыху вышэйшы: ад 35 да 45 РМ. У памеры 25–40 РМ вагаўся заробак дактароў. Заробак загадчыка раённага шпіталю не перавышаў 55 РМ. Людзі, датычныя да кіраўніцтва на павятовым узроўні, мелі больш. Акруговы старшыня зарабляў 180 РМ, ягоны намеснік — 150 РМ, сакратар — 58 РМ. Паліцыянт атрымліваў 0,80 РМ за суткі (жанаты — 1,80 РМ), камандзір аддзялення — 1,00 РМ (жанаты — 2,00 РМ), звязовы — 1,50 РМ (жанаты — 3,00 РМ), ротны — 2,30 РМ (жанаты — 3,80 РМ), батальённы — 3,30 РМ (жанаты — 4,80 РМ) (ДАМВ. Ф. 1613. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 57). Апроч таго, у паліцыянтаў было казённае харчаванне, а іхныя сем’і карысталіся рознымі ільготамі.

Аднак каб ацаніць рэальны ўзровень прыбыткаў насельніцтва, варта звярнуць увагу таксама і на цэнавую палітыку ўладаў. Адміністрацыя гораду імкнулася рэгуляваць цэны на харчы, раз-пораз выдаючы пералік тавараў і іх афіцыйных коштаў. Гэтак, згодна з распараджэннем нямецкіх уладаў, 1 кг сала ў краме і на рынку мусіў каштаваць 35 руб. (3,5 РМ), масла — 35 руб., яйкі — 7 руб. за дзясятак, літр малака — 3,60 руб., свініна — 15 руб., алей — 20 руб. за літр, бульба — 50 руб. за мех

Месячны заробак прэзідэнта БЦР складаў 600 РМ (таксама часам праводзіліся штомесячныя выплаты памерам 50% ад заробку), у Мікалая Шкялёнка — 500 РМ (+250 РМ прэміі), у Франца Кушаля, Усевалада Родзькі, Сцяпана Калядкі, Вячаслава Селяха, Аляксандра Калодкі — 400 РМ (+200 РМ прэміі)[193].

5 лютага 1944 г. зацвердзілі статут Культурнага згуртавання (старшыня — Аўген Калубовіч), якое павінна было займацца пытаннямі культуры на падкантрольных БЦР тэрыторыях.

У статуце БКЗ заяўлялася, што Згуртаванне *«створана з мэтай арганізацыі найбольш інтэнсіўнага разьвіцця і пашырэньня сярод насельніцтва Беларусі нацыянальнай беларускай культуры і набліжэньня яе да еўрапейскага культурнага сьветапогляду»*[194].

У кампетэнцыю БКЗ уваходзіла яднанне беларускіх культурных сілаў і кіраванне ўсімі беларускімі культурнымі ўстановамі (тэатрамі, бібліятэкамі, музеямі і народнымі дамамі). Таксама БКЗ мела права само арганізоўваць новыя ўстановы такога кшталту. Бюджэт фармаваўся з сяброўскіх складак, індывідуальных унёскаў, прыбыткаў ад культурнай дзейнасці. Цэнтральнае кіраўніцтва (урад) БКЗ мелася складацца з пяці аддзелаў: літаратуры, музыкі, прафесійнага мастацтва, музеяў і краязнаўства, прапаганды беларускай культуры[195]. У статуце зазначалася, што кіраўнікі аддзелаў і рэдактар часопісу «Узвышша» ствараюць цэнтральную раду Згуртавання, кіраваць аддзеламі могуць толькі беларусы, а старшыню БКЗ прызначае і адклікае прэзідэнт БЦР[196].

19 сакавіка 1944 г. зацвердзілі новы статут Беларускага навуковага таварыства (БНТ) і выбралі новае кіраўніцтва. Старшынём прэзідыуму стаў прафесар Эдуард Шыперка, ягонымі намеснікамі — дацэнт Платон Жарскі і прафесар Дакунін, неадменным сакратаром — дацэнт Антон Бухвалаў, кіраўніком аддзелу гуманітарных навук — Янка Станкевіч, аддзелу прыроды,

(50 кг), 1 кг чорнага хлеба — 1,20 руб., ялавічына першага гатунку — 9 руб., другога гатунку — 6 руб. (Беларуская газэта. 8 чэрвеня, 10 чэрвеня 1942.) Аднак гэта былі дэкларатыўныя цэны, бо рэальныя — у некалькі разоў іх перавышалі. Прыкладам, на чорным рынку 1 кг хлеба каштаваў 3,50 РМ. Жыццё ў гарадах было галоднае.

[193] НАРБ. Ф. 381. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 24.

[194] Зборнік дакументаў БЦР. Ч. 1. С. 9–11.

[195] Тамсама.

[196] Статут Беларускага культурнага згуртавання… С. 10.

медыцыны і сельскай гаспадаркі — прафесар Дарошкін, кіраўніком аддзелу матэматыкі і тэхнічных навук — прафесар Уладзімір Сірачынскі[197]. У БНТ уваходзілі два дзясяткі сябраў, найбольшымі былі фізіка-матэматычны і тэхнічны аддзелы[198]. Таварыства атрымлівала добрыя субсідыі ад БЦР на навукова-даследчую дзейнасць. Месячны заробак кіраўніка таварыства складаў 300 РМ, іншых сябраў — 250 РМ. У планах было выданне трох тамоў «Працаў навуковага таварыства», дзе кожны друкаваны аркуш (23 старонкі) ацэньваўся высокім ганарарам 100 РМ[199].

Навуковыя работнікі, як і работнікі БЦР, часам павінны былі выконваць распараджэнні гарадскіх уладаў. У траўні 1944 г. выйшла спецыяльная пастанова гарадскога камісарыяту, згодна з якой супрацоўнікі БЦР, у тым ліку і навуковага аддзелу, мусілі браць абавязковы ўдзел у акопных работах. Збіраліся а 5:15 (працоўны дзень у БЦР пачынаўся а 8-й). У выпадку нез’яўлення на акопныя работы для навукоўцаў прадугледжваліся спагнанні[200].

Дзейнасць БНТ часоў БЦР мала адрознівалася ад дзейнасці Навуковага таварыства ўзору 1942 і 1943 гг.: яднанне пазасталых кадраў, апека і матэрыяльная падтрымка навукоўцаў, навуковыя даследаванні.

Навуковы аддзел БЦР разам з БНТ распрацавалі ідэюаднаўлення ў Мінску ўніверсітэту, які меўся грунтавацца на аснове двух факультэтаў: юрыдычных і гуманістычных навук (даклад на адмысловым паседжанні 3 чэрвеня 1944 г. рабілі Платон Жарскі і Яўхім Кіпель)[201]. Жарскаму да-

---

197 Пастанова №12 БЦР // Зборнік дакументаў БЦР. Ч. 1… С. 18.

198 У гэтыя аддзелы ўваходзілі: матэматыкі Антон Бухвалаў, Альгерд Мароз, Васіль Ляўковіч, фізік Уладзімір Сірачынскі, тэхнолаг Парфіры Трысмакоў, спецыяліст у галіне каналізацыі і водаправоду Васіль Калоска, інжынер-цеплатэхнік Алесь Шушкевіч, інжынер-тэхнолаг Антон Васільеў, інжынер-канструктар Іван Клімаў, архітэктар Камінскі, будаўнік-механік Будзька, архітэктар Безгалоўскі, батанік-сістэмолаг Дзянісаў (НАРБ. Ф. 381. Воп. 1. Спр. 33. Арк. 2).

199 НАРБ. Ф. 381. Воп. 2. Спр. 5. Арк. 8. Таксама немалыя грошы атрымоўвалі і супрацоўнікі Беларускага культурнага згуртавання. У чэрвені 1944 г. была заключаная дамова паміж Аўгенам Калубовічам і Янкам Ліманоўскім, паводле якой за пераклад п’есы вядомага драматурга Гэрмана Зудэрмана (Hermann Sudermann, 1857–1928) «Гонар» (1889) Ліманоўскі меўся атрымаць 1250 РМ. Аналагічную дамову падпісалі з Ізідарам Плашчынскім, які павінен быў перакласці на беларускую мову п’есу Льва Каралёва «Нашы дні». За гэтую працу яму належала 1000 РМ (НАРБ. Ф. 381. Воп. 1. Спр. 22).

200 НАРБ. Ф. 381. Воп. 1. Спр. 33. Арк. 11.

201 Увосень 1943 г. Вацлаў Іваноўскі распрацаваў праект адкрыцця Беларускага ўніверсітэту. Установа складалася б з чатырох факультэтаў, што мелі б статус вышэйшых школаў: Медычнага інстытуту, Юрыдычна-адміністрацыйнага, Ветэры-

ручылі распрацаваць праект адкрыцця ўніверсітэту[202]. Таксама ў чэрвені 1944 г. Сцяпан Калядка і Сцяпан Стаськевіч зрабілі праект аддзелу працы, прафесійнага руху і рамесніцтва пры БЦР[203], аднак абодва праекты не былі зрэалізаваныя з прычыны хуткага сканчэння нямецкай акупацыі.

Увага надавалася сацыяльнаму забеспячэнню насельніцтва. Для страхавых выплатаў пры акруговых намесніцтвах засноўваліся Спецыяльныя (Выраўнальныя) касы. Кожны працадаўца павінен быў пералічваць з заробкаў падначаленых 6%. Аднак ахапіць усё насельніцтва страхаваннем не ўдалося. Паводле звестак аддзелу сацыяльнага забеспячэння, застрахаваныя такім чынам былі толькі 17 627 асобаў (якія працавалі на 494 прадпрыемствах), з іх мужчынаў — 9389, жанчын — 8238. Агульная сума назапашаных сродкаў склала 55 321 РМ, з іх выплаты па хваробе — 8368 РМ[204].

Быў таксама зацверджаны распарадак працы прэзідэнта БЦР. У панядзелак з 8:00 да 10:00 ён прымаў са справаздачамі кіраўнікоў аддзелаў: Франца Кушаля, кіраўніка БНТ Эдуарда Шыперку, Яўхіма Кіпеля. У аўторак з 8:00 да 10:00 праходзіла паседжанне прэзідыуму БЦР. У чацвер у гэты час да Астроўскага з'яўляліся з дакладамі Яўхім Скурат і Аўген Калубовіч. Чатыры дні на тыдзень (панядзелак, аўторак, чацвер і пятніца) з 10-й да 12-й гадзіны прэзідэнт прымаў грамадзянаў.

Насельніцтва бачыла ў БЦР уладу, здольную абараніць ад самаволі немцаў і паліцыі. У фондзе БЦР у Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь ёсць некалькі тэчак са зваротамі жыхароў Мінску да Радаслава Астроўскага з просьбаю вызваліць арыштаваных сваякоў. Гэтак, Клаўдзія Баяровіч прасіла вызваліць яе сына, затрыманага паліцыяй падчас аблавы:

> 1943 лістапада 10 дня ў гадзіннай майстэрні на Садовай вуліцы, куды зайшоў мой сын Баяровіч Уладзімір, па нацыянальнасьці беларус, нараджэньня 1926 года, за атрыманьнем уласнага гадзіньніка, быў арыштаваны і накіраваны ў турму, дзе ён знаходзіўся да лютага 1944 г. У пачатку лютага ён быў пераведзены ў лягер па вуліцы Шырокай, дзе і знаходзіцца ў сучасны момант. [...] Будучы яшчэ маладым хлопцам з незлажыўшымся характарам, ён калі і нешта ўтварыў процівапраўнае, дык не па злому ўмыслу і злачыннай волі,

---

нарнага і Тэхнічнага са статусам Палітэхнікі. Зрэалізаваць удалося толькі стварэнне Медычнага інстытуту (НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 31. Арк. 35).

[202] НАРБ. Ф. 381. Воп. 1. Спр. 33-1. Арк. 13.

[203] НАРБ. Ф. 381. Воп. 1. Спр. 20. Арк. 1–2.

[204] НАРБ, Ф. 381. Воп. 1, Спр. 3. Арк. 3–4.

> а бессазнацельна і не аддаючы сабе адчоту, і час, адбыты ў заключэньні, зьявіўся ня толькі дадатковай карай, але і вялікім урокам і перасьцярогай на ўсё жыцьцё. Я глыбока перакананая ў тым, што ён не прадстаўляе ніякай сацыяльнай небясьпекі, і з аслабленьнем яго з заключэньня ён быў карысным для новага справядлівага парадку жыцьця[205].

Баяровіч казала пра тое, што яе сын прыслужваў падчас набажэнстваў у архіепіскапа Філафея (была нават прыкладзена даведка ад сакратара мітраполіі Віталя Баравога), а таксама згадвала, што ейная сям'я зазнавала рэпрэсіі з боку бальшавікоў: дзядзька — вядомы беларускі кампазітар Уладзімір Тэраўскі — быў рэпрэсаваны савецкай уладай[206].

Пры спрыянні БЦР адбылося святкаванне 25-годдзя Віленскай беларускай гімназіі. 29–30 красавіка 1944 г. юбілею прысвяцілі адмысловае паседжанне БЦР. Даклад зрабіў сам Радаслаў Астроўскі. Удзельнікі пастанавілі: усталяваць у актавай зале гімназіі мемарыяльную дошку ад імя БЦР; заснаваць пяць стыпендыяў па 100 РМ штомесячна найлепшым студэнтам Медычнага інстытуту; узнагародзіць Срэбным Крыжам Заслугі III ступені настаўніцу Алену Сокалаву-Лекант і ксяндза Адама Станкевіча. Для ўдзелу ў святкаванні ў Вільню накіравалася афіцыйная дэлегацыя: Астроўскі, Кушаль, Родзька і Калубовіч[207]. Шэраг сябраў і супрацоўнікаў, якія навучаліся ў гімназіі, таксама паехалі ў Вільню.

Вялікая ўвага надавалася студэнтам заснаванага ў траўні 1943 г. і эвакуяванага ўвосень пад Вільню (у Новую Вялейку, сёння Нова-Вільня) Магілёўскага медычнага інстытуту. Першапачаткова туды прымалі студэнтаў былых савецкіх інстытутаў 3–5 курсаў, а з восені 1943 г. набіралі ўсіх, хто меў сярэднюю адукацыю. У чэрвені 1944 г. планавалася выпусціць 32 спецыялістаў[208]. Студэнтам штомесячна выплачвалася стыпендыя 70 РМ, аплочвалася жыллё, харчаванне і кнігі[209].

У галіне школьніцтва БЦР занялася працай, якую раней вёў Генеральны інспектарыят беларускіх школаў. Як і ў папярэднія гады, у якасці асноўнай формы навучання прадугледжвалася пачатковая адукацыя. На студзень

---

[205] НАРБ. Ф. 381. Воп. 1. Спр. 13. Арк. 2.
[206] НАРБ. Ф. 381. Воп. 1. Спр. 13. Арк. 2.
[207] За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі… С. 104–105.
[208] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 40. Арк. 2.
[209] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 40. Арк. 2.

1944 г. колькасць пачатковых школаў была наступная: Баранавіцкая акруга — 445, Вілейская — 429, Ганцавіцкая — 117, Глыбоцкая — 479, Лідская — 397, Мінская (з Мінскам) — 638, Навагрудская — 311, Пінская — 126 (+39 украінскіх), Слонімская — 224, Слуцкая — 341. Функцыянавалі таксама пачатковыя школы на тэрыторыях, падуладных вайсковай адміністрацыі: Бабруйская акруга — 314, Барысаўская — 147, Віцебская — 367, Гомельская — 342, Магілёўская — 298, Смаленская — 296[210].

Сярэднія медычныя школы працавалі ў Баранавічах і Мінску, гімназіі і курсы сярэдняй адукацыі — у Віцебску, Оршы, Быхаве, Баранавічах, Навагрудку, Гомелі.

Гандлёва-адміністрацыйныя школы дзейнічалі ў Баранавічах, Валожыне і Маладзечне, настаўніцкія семінарыі — у Нясвіжы, Паставах, Навагрудку, Вілейцы, Ганцавічах; рамесніцкія школы — у Баранавічах, Слоніме, Клецку, Магілёве, Віцебску, Слуцку і Быхаве, Мінску, прагімнізіі (ніжэйшая форма гімназіі) — у Баранавічах, Навагрудку, Слоніме, Смаргоні, Глыбокім, Мінску[211].

БЦР паспрабавала таксама паставіць пад свой кантроль Беларускую праваслаўную царкву. Быў створаны аддзел у пытаннях веравызнанняў на чале з Мікалаем Будзіловічам[212]. Радаслаў Астроўскі паспрабаваў адхіліць епіскапа Філафея ад кіраўніцтва справамі створанай у 1942 г. Беларускай мітраполіі ды прызначыць на ягонае месца епіскапа Стэфана (Сеўбу), але мітрапаліт Панцеляймон катэгарычна адкінуў прапанову[213].

Увесну 1944 г. у юрысдыкцыю БАПЦ перайшоў епіскап Іаан (Лаўрыненка), які належаў да Украінскай аўтаномнай царквы. У траўні 1944 г. ён быў прызначаны епіскапам Брэсцкім і Палескім[214].

У траўні 1944 г. з ініцыятывы нямецкіх уладаў у Мінску быў скліканы Царкоўны сабор. Іерархі мусілі публічна асудзіць дзейнасць патрыярха маскоўскага Сергія, які выступаў за падтрымку савецкай улады. Апроч таго, Радаслаў Астроўскі запатрабаваў ад епіскапаў падпарадкавання БЦР. Згодна

---

210 Касяк, Іван. Другая сусьветная вайна і паваенны час… С. 323.

211 Тамсама.

212 Праз некалькі месяцаў Мікалай Будзіловіч узначаліў Беларускі камітэт ва ўласаўскім Камітэце вызвалення народаў Расіі. Ягоны сын Пётр Будзіловіч пазней у Амерыцы стаў уладальнікам вядомай фірмы ў галіне PR-тэхналогіяў і адным з ідэолагаў і гісторыкаў рускай эміграцыі, шматгадовым кіраўніком (у 1970-х гг.) Кангрэсу рускіх амерыканцаў.

213 Касяк, Іван. З гісторыі праваслаўнай царквы беларускага народу… С. 130.

214 Тамсама. С. 131.

з ягоным праектам, усе святары і дыяканы маглі прызначацца, высвячацца і пераводзіцца на іншае месца працы са згоды аддзелу веравызнанняў, прычым спісы кандыдатаў павінны былі падавацца за два тыдні да высвячэння[215]. Епіскапы зрэагавалі адмоўна. Яны пагаджаліся на неабходнасць беларусізацыі царквы, але рашуча адкідалі спробы кантролю з боку БЦР:

> Ніякія распараджэньні або загады Беларускай Цэнтральнай Рады, якія супярэчаць істотным правілам кіраўніцтва Праваслаўнымі Цэрквамі, ні адна царкоўная ўстанова і ні адзін адказны царкоўны прадстаўнік ня маюць права выконваць[216].

Аднак Сабор епіскапаў абяцаў забавязаць усё духавенства ў пропаведзях, у школах і камунікацыі з прыхаджанамі карыстацца выключна беларускаю моваю. Прадугледжвалася таксама адкрыццё праваслаўных духоўных школаў, выданне часопісаў, календароў, рэлігійнай літаратуры, Закону Божага па-беларуску[217].

На Саборы абралі новы Сінод: кіраўнікі — архіепіскап Філафей, епіскап Апанас, епіскап гомельскі Грыгорый (Барышкевіч), намеснікамі сталі епіскап Смаленскі Стэфан (Сеўба) і архіепіскап Палескі Іаан (Лаўрыненка), мітрапаліт Панцеляймон быў уганараваны тытулам Яго Блажэнства. Сабор разгледзеў пытанне аб прыняцці ў склад БПЦ Палесся (Пінская, Палеская і Брэсцкая акругі). Новыя землі былі падзеленыя на дзве епархіі: Брэсцкую на чале з архіепіскапам Іаанам і Палеска-Пінскую на чале з мітрапалітам Аляксандрам Іназемцавым[218].

Падзеі Сабору 1944 г. выклаў вельмі сцісла ў сваіх успамінах епіскап Афанасій Мартас, відаць, не надаючы ім вялікага значэння з увагі на вонкавапалітычную сітуацыю і хуткую эвакуацыю:

> У траўні 1944 года нямецкі генэральны камісар патрабаваў склікаць Сабор Епіскапаў Беларусі для асуджэньня быццам бы незаконных выбараў у Маскве патрыярха Сергія. Епіскапы зьехаліся на пачатку траўня і засядалі некалькі дзён. Ганаровым госьцем на Саборы быў прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады Радаслаў Астроўскі. Ён жа быў галоўным стрыжнем скліканьня гэтага Сабору. На Сабор былі запрошаныя ня толькі беларускія епіскапы, але і зь Пінску і Брэ-

[215] Касяк, Іван. З гісторыі праваслаўнай царквы беларускага народу… С. 131.
[216] Тамсама.
[217] Тамсама. С. 132–133.
[218] Тамсама.

сту, якія не ўваходзілі ў склад Беларускай царквы. Сабор гэты вынес пастанову адносна Маскоўскага патрыярха Сергія, нямецкія ўлады задаволіліся і нават фатаграфавалі, надаючы гэтаму вялікае значэньне, епіскапа, які падпісваў пастанову. На гэтым справа і скончылася. Надаўшы мітрапаліту Панцеляймону тытул «Найшчасьлівейшага», Сабор завяршыўся. Архірэі пасьпешліва разьехаліся ў свае епархіі, бо хутка прасоўваўся фронт з усходу на захад і пагражаў Мінску і іншым гарадам. Украіна ўжо была занятая савецкімі войскамі. Гэта пагражала і Беларусі. Немцы адступалі, іх цясьнілі з Усходу і Захаду[219].

Такім чынам, да эвакуацыі Беларуская мітраполія складалася з дзевяці епархіяў: Мінска-Віленскай, Навагрудска-Баранавіцкай, Брэсцкай, Пінска-Палескай, Смаленска-Бранскай, Віцебска-Полацкай, Магілёўска-Мсціслаўскай, Гомельска-Мазырскай і Гродзенска-Беластоцкай. Але такое падпарадкаванне засталося хіба на паперы. Пасля заняцця тэрыторыі Беларусі савецкімі войскамі тут аднавіла структуры Руская праваслаўная царква.

219 Апанас, архіепіскап (Мартас, Антон). На ніве Хрыстовай: у пяцідзясятыя ўгодкі сьвятарства 1928–1978. Успаміны. Нью-Ёрк—Менск—Варшава, 2005. С. 92.

# ДРУГІ УСЕБЕЛАРУСКІ КАНГРЭС

Беларускія дзеячы былі незадаволеныя, што ініцыятыва стварэння БЦР сыходзіла ад немцаў. Радаслаў Астроўскі меркаваў, што гэта істотна зніжае аўтарытэт Рады ў вачах грамадскасці.

Ужо ў студзені 1944 г., у першыя дні існавання Рады, узнікла ідэя склікаць шырокі народны сход накшталт Першага Усебеларускага кангрэсу[220], бо БЦР лічыла сябе прадаўжальніцаю справы Рады БНР, што, як тады меркавалася, прыпыніла дзейнасць у сакавіку 1943 г. са смерцю старшыні Васіля Захаркі[221]. Таму Другі Усебеларускі Кангрэс стаў разглядацца наступным этапам нацыянальнага руху ў гісторыі Беларусі.

Яўхім Кіпель згадваў:

> Як толькі была аформлена БЦР, прыкладна ў студзені 1944 г., я памятаю, гутарыў са Шкялёнкам.
>
> — Мікола, што ж мы рабіць будзем далей? Рада назначаная, але наша становішча невыразнае, нешта трэба рыхтаваць далей.
>
> На гэта Шкялёнак адказаў прыблізна так:
>
> — Трэба склікаць Народны сход, трэба выстаўляць прынцып незалежнасці.
>
> Праз пару тыдняў мы зноў сабраліся, гэтым разам да нас далучыліся Ю. Сабалеўскі і Ф. Кушаль. Сабалеўскі сказаў, што і Астроўскі думае пра сход, а Кушаль проста гаварыў: мы павінны мець зусім незалежнае ад немцаў камандаванне, бо яны стрымліваюць нашу працу. Прыблізна да канца студзеня 1944 г. ідэя Другога Усебеларускага кангрэсу (менавіта так мы вырашылі назваць сход), абнародавання БЦР у вузкім коле беларускіх актывістаў Менску была сфармуляваная.

---

[220] Кіпель, Яўхім. Эпізоды. Выд. 2-е… С. 214–215.

[221] Васіль Захарка, паводле тастаменту, перадаў паўнамоцтвы нагляду за архівам БНР і апекаванне Радаю БНР Ларысе Геніюш і Міколу Абрамчыку. Аднак апошні праз некаторы час трапіў пад нагляд гестапа, а пасля таго, як без дазволу наведаў Беларусь, увосень 1943 г. быў высланы з Берліну ў Парыж. У выніку на нейкі час Мікола Абрамчык быў вымушаны паўстрымаць сваю грамадскую дзейнасць.

> Праўда, Астроўскі мне і Шкялёнку неяк зазначыў: трэба быць асцярожнымі, бо немцам на нас паступілі даносы, што мы ў змове. Ясна, гэта былі правакацыі, але ў тым часе немцы, церпячы паразы на фронце, былі вельмі насцярожаныя, і пастраляць змоўшчыкаў ім нічога не значыла. Дзеля гэтага мы пачалі весці абмеркаванне нашых планаў толькі ў прыватных памяшканнях[222].

Беларускі актыў быў асцярожны, бо рэакцыя немцаў (ідэя Кангрэсу была цалкам беларуская) магла быць непрадказальная. З іншага боку, ва ўмовах паразы на франтах нямецкія ўлады чапляліся за любую магчымасць замацавацца на тэрыторыі Беларусі, таму агульнабеларускі сход, на якім было б заяўлена пра незалежнасць Беларусі ад савецкай Масквы, мог быць мэтазгодны і ў прапагандысцкіх мэтах.

> На пачатку красавіка быў створаны падрыхтоўчы камітэт, былі выпрацаваныя інструкцыі, у акругі пайшлі дырэктывы падрыхтоўкі да выбараў дэлегатаў Кангрэса. Відавочна, абмяркоўвалася правядзенне і самога Кангрэса. Тут вызначыліся дзве плыні. Р. Астроўскі і яго гарачыя сябры ўважалі, што ўсё ў часе працы Кангрэса павінна быць у руках заходнікаў. Ясна, што Астроўскі меў падставу давяраць знаёмым яму асобам, а гэта былі людзі з былое Заходняй Беларусі. Аднак М. Шкялёнак, быўшы добра знаёмым са мной і з колькімі дзясяткамі актыўнейшых усходнікаў, ад пачатку арганізавання працэсу лічыў, што ўсходнікі таксама павінны граць важную ролю на Кангрэсе. Тут Шкялёнак прапаноўваў на старшыню маю кандыдатуру. Калі стала відавочным, што шмат хто з абраных на Кангрэс дэлегатаў і ў акругах, і ў гарадах будзе падтрымліваць маю кандыдатуру, на гэта згадзіўся Астроўскі[223].

Першапачаткова планавалася склікаць Кангрэс на 22–24 чэрвеня 1944 г. з удзелам 800 чалавек[224]. Актыўная падрыхтоўчая праца пачалася прыкладна за месяц, 19 траўня 1944 г. Астроўскі правёў кансультацыі з рознымі групамі наконт фармату сходу. Прэзідэнт БЦР больш давяраў віленскім паплечнікам. Леанід Галяк зазначаў, што Астроўскі пры канцы траўня правёў з імі адмыс-

---

[222] Кіпель, Яўхім. Эпізоды. Выд. 2-е… С. 215.

[223] Тамсама.

[224] Пратакол №7 паседжаньня прэзыдыюму БЦР. Менск, 16 траўня 1944 г. // За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі… С. 109.

ловую нараду, прычым усе ўдзельнікі нарады — былыя вучні прэзідэнта з Віленскай беларускай гімназіі.

> У канцы траўня Радаслаў Астроўскі запрасіў да сябе Братоў *[Лявона і Юрку Луцкевічаў. — А. Г.]*, Антона Шантыра, Глеба Багдановіча, Язэпа Найдзюка і мяне з жонкаю ды сказаў, што мае намер склікаць кангрэс Беларусаў, каб на ім можна было выказаць свае пагляды і пажаданьні, а з другога боку, каб атрымаць ад кангрэсу мандат на становішча БЦР. Усе прысутныя гэтую думку як такую падтрымалі, але высунулі таксама і свае засьцярогі. […]. Чаму Астроўскі правёў з намі гэтую гутарку, ня ведаю, відаць, чамусьці лічыў, што пералічаныя асобы твораць нейкую групу.
>
> Наагул, усе вельмі блага арыентаваліся ў становішчы на фроньце, хоць было ясна, што Саветы ўсё пасоўваюцца наперад. Перад самым ужо Кангрэсам часта чулася артылерыйская далёкая кананада, але гаварылі, што Немцы праводзяць вялікую акцыю супраць савецкіх дэсантнікаў, і ўсе наагул прыймалі гэта як праўду[225].

Правесці ўсеагульныя выбары з тайным галасаваннем было немагчыма ў ваенных умовах. Пастанавілі абаперціся на нацыянальны актыў. Меркавалася, што з кожнай акругі абяруць ад 60 да 80 дэлегатаў. Самая вялікая Баранавіцкая акруга дала 155 дэлегатаў, Мінск — 201.

Язэп Малецкі, якому даручылі вызначэнне дэлегатаў у Вілейскай акрузе, згадваў:

> Праз кур'ера я атрымаў загад Прэзыдэнта Астроўскага: на 27 чэрвеня прысласць зь Вілейскай акругі на кангрэс 40 дэлегатаў, выбіраючы з паветаў і валасьцей знатнейшых Беларусаў розных заняткаў і рознага становішча. Адпаведны загад па акрузе я выдаў. Усе дэлегаты 26 чэрвеня мелі быць у Вілейцы, на вызначаным месцы, для супольнага ад'езду. Транспарт давалі Немцы. Да Вілейкі прыбылі аднак жа ня ўсе дэлегаты. Некаторым зручней было ехаць адразу да Менска, і там мы зь імі сустрэліся[226].

Аналагічным чынам вызначаліся дэлегаты і ў іншых акругах. У Ганцавіцкую быў камандзіраваны з Мінску Антон Шукелойць.

---

[225] Галяк, Леанід. Успаміны. Кн. 1… С. 181.
[226] Малецкі, Язэп. Пад знакам Пагоні… С. 170.

Кіпель аднаго разу выклікаў мяне і кажа, што патрэбны чалавек паехаць на Палессе, і тут ён мае весткі, што гэта найбольш падыходзіць для мяне. Трэба было паехаць у Ганцавічы, і я паехаў. Мне далі ахову: трох хлопцаў з 13-га батальёну.

Мне даручана было забяспечыць з гэтай акругі 25 дэлегатаў.

Я прыехаў туды і адразу пайшоў адведаць таго немца, што быў там галоўнаю фігураю. Цікавы даволі чалавек, беларусаў добра ведаў. Ён мяне павіншаваў з прыездам, што вось малады чалавек у цывільным касцюме, першы раз заехаў у Ганцавічы з Менску… Я затрымаўся ў Сокал-Кутылоўскага [намеснік БЦР у акрузе]. У Ганцавічах мы з ім праводзілі выбары дэлегатаў.

Прынцып выбараў. Кажуць, што быццам бы дэлегатаў прызначаў нехта. Няпраўда. Ня ведаю, як у іншых выпадках, але ў маім выпадку, у Ганцавічах, быў выбар. Выбар па прафесійным характары. Настаўнікі выбралі сваіх людзей, Саюз моладзі выбраў, вайскавікі выбралі, работнікі чыгункі…[227]

Пакінуў свае ўспаміны пра выбары на Кангрэс і былы пасол польскага Сейму ў канцы 1920-х Аляксандр Стагановіч. Падчас нямецкай акупацыі ён працаваў на Навагрудчыне, а на Кангрэс ехаць адмовіўся:

Якась у сярэдзіне чэрвеня 1944 г. я як вайсковы камандзір 2-й кампаніі БКА заходжу ў павятовую ўправу ў аддзел кадраў да свайго знаёмага жыхара Навагрудка, які вельмі добра знаў усіх жыхароў гарадка і ўсю іхную паднаготную, — сп. Дзяковіча. З ім міла было падзяліцца думкамі, уражаннямі, намерамі, навінамі, усім тым, што наганяла сум. А ён да мяне: «А, добры дзень, што завіталі. Ёсць для вас пакліканне паехаць у Мінск на кангрэс БЦР, які адбудзецца ў канцы гэтага месяца».

«Як жа гэта сталася так, мяне ніхто не пытаў і не прапаноўваў, дайце спакой», — кажу я Дзяковічу. Тады стараста павета М. Буляк [будучы прыхільнік БЦР у Англіі] паклікаў мяне ў свой пакой і кажа: «Нам трэба паслаць 24 чалавекі ў Менск на кангрэс, які склікае Р. Астроўскі». Я яму гавару: «Гэта выходзіць па-дыктатарску», — а Буляк адказвае: «Іншай Рады ў нас няма». І сапраўды, што можна зрабіць. Стараста падпісаў мандат на кангрэс, які мусіў зацвердзіць Астроўскага прэзідэнтам БЦР. Кажу я: «Сп. Дзяковіч, мандат я вазь-

[227] Успаміны Антона Шукелойця, запісаныя аўтарам 15 жніўня 2010 г. у Саўт-Рывэры. Таксама гл.: Пазьняк, Зянон. Гутаркі з Антонам Шукелойцем… С. 88–89.

му, не хачу вам рабіць клопатаў, але на гэты кангрэс я не паеду, не хачу быць пасмешышчам над народам. Нямецкі генерал назначыў, а народ мусіць зацвердзіць. Не, гэтага не павінна быць. На маю думку, сп. Дзяковіч, Астроўскі добра ведае, што вайна заканчваецца, і яму, Астроўскаму, патрэбна засведчанне кангрэсу на тое, каб ён, выехаўшы на Захад, мог афішавацца перад заходнімі краінамі як праўна выбраны прэзідэнт Беларускай Рэспублікі і гэтым шкодзіць рэпрэзентантарам БНР»[228].

Тут трэба нагадаць, што ўспаміны Стагановіча былі напісаныя ў другой палове 1940-х, калі вялася зацятая барацьба паміж Радай БНР і БЦР за палітычнае вяршэнства на эміграцыі ды неабходна было абгрунтаваць свае пазіцыі. А паколькі аўтар быў адным з ідэолагаў (нават віцэ-прэзідэнтам) Рады БНР, у сваіх успамінах ён «дапусціў» такую трактоўку сітуацыі, жорстка крытыкуючы Астроўскага, які і на эміграцыі заставаўся кіраўніком БЦР:

Думкамі сягаючы ў мінулае, задаеш сабе пытанне: дзеля чаго, на якое ліха сядзеў у Менску так званы прэзідэнт Астроўскі? Адно з двух: альбо Астроўскі падпісваў гэтым ганебныя загады над нашым народам, або яго не пыталі. У абодвух выпадках Р. Астроўскі нясе поўную адказнасць, нават калі яго не пыталі, бо яго святым абавязкам было адмовіцца ад гэтай ганебнай фікцыі, якая прыкрывала ўсе зверскія ўчынкі нямецкіх культурных разбойнікаў. За гэта Р. Астроўскаму не даруе ні гісторыя, ні Беларускі Народ[229].

Пакінуў свае ўспаміны пра выбары на Кангрэс і іншы дзеяч паваеннай БНР, Барыс Данілюк — працаўнік самапомачы і перакладчык пры 48-м батальёне. Гэтыя ўспаміны больш лагодныя. Аўтар, хоць на эміграцыі быў адным з прыхільнікаў Рады БНР, паспрабаваў паглядзець на падзеі лета 1944 г. нейтральнымі (тагачаснымі) вачыма, таму, відаць, здолеў перадаць агульны настрой часу сярод беларускай інтэлігенцыі ў рэгіёнах.

Недзе ці пад канец травеня было абвешчана, што 27 чырвеня 1944 г. Цэнтральная Рада склікае Ўсебеларускі кангрэс, на які ў акругах і раёнах будуць выбраныя дэлегаты. Былі абвешчаныя й нейкія правілы выбараў гэтых дэлегатаў, але таму, што ў апанаваных партызанамі сельскіх ваколіцах праз якія-кольвечы выбары нельга было

[228] Стагановіч, Аляксандр. Успаміны пасла… С. 117–118.
[229] Тамсама. С. 117.

думаць, у практыцы гэных дэлегатаў у Слонімскай акрузе выбіралі ці прызначалі рады беларускага актыву пры акруговай і раённай управах Самапомачы ды старшыні раённых управаў цывільнае беларускае адміністрацыі. Гэткім чынам у ліку Слонімскае дэлегацыі апынуўся й я, а ў Дзярэчынскую быў залічаны мой бацька *[Хведар Данілюк, вядомы грамадскі і царкоўны дзеяч, святар. — А.Г.]*

Дзярэчынская дэлегацыя, на жаль, зьявіцца на ад'езд із Слоніма не пасьпела, як таксама й, здаецца, Казлоўшчынская, дык у Менск падаліся дэлегаты толькі з самога Слоніма й, мабыць, колькі з раёну. Дэлегаты ж ад Быценьскага й Косаўскага раёнаў паехалі з станцыі Даманава ў Менск праз Баранавічы.

Слонімская дэлегацыя налічвала, як мне падказвае мая памяць, чалавек пад дваццаць, але ўспомніць па прозьвішчах магу адно колькі чалавек, а гэта бургамістра места Аляксандра Кіслага, акруговага школьнага інспэктара й правадніка СБМ Барыса Суравага, рэдактара газэты «Слонімскі кур'ер» й загадчыка мясцовае бібліятэкі Сяргея Сіняка (Хмару), тады яшчэ ахвіцэра без прызначэньня Язэпа Дакіневіча ды машыністку канцылярыі Самапомачы Надзю Клочка.

Атрымаўшы auswies'ы ад гэбітскамісарыяту на праезд цягнікам (мяне штабсьляйтэр Вольтэр, на шчасьце, на сьпіску ня згледзеў), мы выехалі са Слоніма dienstzugam, калі не мыляюся, раніцай у панядзелак, 26 чэрвеня, і без прыгодаў прыехалі ў Менск вечарам таго ж дня[230].

Як і дзе разьмеркавалі нас на начлегі, дзе мы павячэралі, ужо ня памятаю, але назаўтра, у аўторак, давялося ўстаць рана, бо на Кангрэс у гарадзкім тэатры трэба было зьявіцца перад яго пачаткам а 8-й г. раніцы.

Кангрэс загадзя быў прызначаны на 22 чэрвеня, але быў перанесены на 27 чэрвеня. Напэўна, немцы не хацелі, каб ён прыпадаў на «Дзень вызвалення», жадаючы адзначыць першую дату з размахам, што і адбылося. Апроч таго, сам Радаслаў Астроўскі захацеў дыстанцыяваць з'езд ад «вызвалення», паказаўшы Кангрэс як выключна беларускую незалежную ініцыятыву.

Такім чынам, Другі Усебеларускі кангрэс прайшоў 27 чэрвеня (гэта быў аўторак) у Мінскім гарадскім тэатры (цяпер будынак Купалаўскага), г. зн. у тым самым памяшканні, дзе ў снежні 1917 г. праходзіў Першы Усебеларускі кангрэс.

230 Данілюк, Барыс. Азіраючыся расой выетымі вачыма… С. 293–294.

Горад упрыгожылі кветкамі ды зелянінаю, адмыслова да падзеі пусцілі трамваі. Ахоўвалі тэатр курсанты Мінскай афіцэрскай школы. На сцэне вісеў вялікі плакат з надпісам *«З Цэнтральнаю Радаю — за Вольную Беларусь»*, а ўваход у тэатр аздаблялі галінкі дрэваў, бел-чырвона-белыя сцягі ды герб Пагоня[231].

Яўхім Кіпель, адзін з арганізатараў, згадваў:

Дзень 27 чэрвеня 1944 году ўспамінаецца мне ўрачыстым, пасапраўднаму святочным: у Мінску пачалі хадзіць трамваі, упрыгожаныя нацыянальнымі бел-чырвона-белымі сцягамі, на вуліцах шмат руху, усюды ва ўстановах людзі з правінцыі, багата моладзі — большыня ва ўніформах СБМ.

Але адначасна заўважалася і напружанасць. Пару дзён перад Кангрэсам мне было сказана, што плануецца колькі замахаў. Ахову будынка тэатра, у якім адбываўся Кангрэс, даручылі Беларускай афіцэрскай школе, аднак былі таксама і афіцэры з паліцыі.

Апрача таго, сярод дэлегатаў Кангрэсу былі асобы, якія дамагаліся больш жорсткае паставы да немцаў; некаторыя, я ведаў, хацелі дамагацца ўлучэння больш шырокіх тэрыторыяў пад беларускае адміністраванне. Адным словам, нашыя беларускія праблемы панавалі. З іншага боку, трэба было быць асцярожнымі, каб не папасціся на правакацыю[232].

Ягоны сын Вітаўт Кіпель дадаваў:

У горадзе адчувалася — не тое што паніка — але большы рух [маецца на ўвазе чэрвень 1944], больш з’явілася нямецкага войска, аўтамабіляў, танкетак.

Панаваў настрой, што нешта рыхтуецца, хоць у хаце я асабліва не заўважаў. Праўда, прыходзіла шмат незнаёмых людзей з правінцыі.

---

231 Касяк, Іван. Другая сусьветная вайна і паваенны час… С. 324. У савецкія часы шмат падраблялі фотаздымкі, нібыта сцэна была ўпрыгожаная нацысцкімі сцягамі. Гэта трапіла ў нямецкія кнігі.

232 Кіпель, Яўхім. Эпізоды. Выд. 2-е… С. 216. Аб прыездзе на Кангрэс Аляксей Вініцкі пісаў: *«Едзем як дэлегаты ў Менск на Кангрэс. На чыгуначнай станцыі Гарадзеі трапляем у вагон, у якім ехалі дэлегаты з Беласточчыны. Знаёмімся, гутарым на актуальныя тэмы і даяжджаем да Менска. Пакідаем вагоны цягніка. Беластаччане разгарнулі беларускі нацыянальны сьцяг і стаялі ў шэрагу, а каля іх і мы. Нас сустракаюць, вітаюць і развозяць па кватэрах»* (Вініцкі, Алесь. Матар’ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939–1951 гг. Ч. I. Лос-Анджэлас, 1968. С. 48).

Але дакладна я нічога не ведаў, мяне ніхто не інфармаваў, што рыхтаваўся Другі ўсебеларускі кангрэс. Пра кангрэс мне сказала маці ў сам дзень кангрэсу, так і сказала, што бацька шмат працаваў арганізацыйна. І тыя людзі, якія бывалі ў хаце, — гэта ўсё звязана з Кангрэсам.

Кангрэс адбыўся 27 чэрвеня. У гэты сонечны і вельмі прыгожы дзень горад быў урачысты, трамваі хадзілі з бел-чырвона-белымі сцягамі.

Я ў гэты дзень з раніцы быў на Нямізе і бачыў, што беларускія сцягі лунал і нават на пляцы Волі, што бывала не заўсёды. У горадзе было поўна людзей, шмат незнаёмых, што прыехалі на кангрэс. Я да гэтага ніякага дачынення не меў, а бацька быў поўнасцю заняты ў падрыхтоўцы, дык я яго і не бачыў…[233]

Барыс Данілюк:

Будынак тэатру звонку вітаў нас вывешанымі бел-чырвона-белымі сьцягамі й сваёй роднай з курсантаў Ахвіцэрскае школы БКА створанай аховай, а ўсярэдзіне сапраўдныя пісары хутка зьверылі загадзя на месцах выпісаныя мандаты, і мы ўвайшлі ў амаль поўную тэатральную залю. На трыбуне былі ўжо сябры Цэнтральнае Рады з прэзыдэнтам Радаславам Астроўскім на чале й у перадпаседжаньневым гомане адчуваўся ўздым, які не муціла нават прысутнасьць заселых у ложах немалым лікам нямецкіх партыйцаў у іхных рыжых уніформах…

…Апісваць усё гэта падрабязна тут няма патрэбы, бо зацікаўленыя могуць знайсьці даволі дакладнае апісаньне тае падзеі ў кніжыцы «Другі Ўсебеларускі Кангрэс», выдадзенай Цэнтральнай Радай у Нямеччыне ў 1954 г. Трэба, аднак, сказаць, што, нягледзячы на сьведамасьць, што Цэнтральная Рада была ў залежнасьці ад немцаў, скліканы ёй Кангрэс не пабаяўся зрабіць выклік гэтай залежнасьці, як і расейска-савецкаму захопніцтву, наварат якога няўхільна набліжаўся. І гэта дэманстрацыя, нягледзячы на тое, што ейныя пастановы ня збыліся, мае немалое гістарычнае значаньне, бо давала довад, што ні беларускі актыў, ані беларускі рух падчас нямецкага займу ня быў калябарантам з захопнікамі.

Мне ж той Кангрэс яшчэ памятны тым, што на ім першы й апошні раз пашчасьціла пабачыць гэткіх выдатных адзінак у нашым адра-

---

233 Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць… С. 132.

джэньні, як Натальля Арсеньнева, Ларыса Геніюш, Мікола Шкялёнак...[234]

У Кангрэсе[235] павінен быў узяць удзел 1151 дэлегат, аднак на раніцу зарэгістраваліся 1039 чалавек (з арганізатарамі). Частка ўдзельнікаў спазнілася.

Сярод дэлегатаў Кангрэсу былі: пісьменнікі Хведар Ілляшэвіч, Уладзімір Клішэвіч, Алесь Салавей, Лявон Случчанін, Юрка Віцьбіч, юрыст Аркадзь Арэхва, святар Язэп Балай, дырэктар Віленскай беларускай гімназіі Францішак Грышкевіч, кіраўнік баптыстаў Лукаш Дзекуць-Малей, грамадскі дзеяч Канстанцін Езавітаў, выдавец Язэп Найдзюк, пасол польскага Сейму Васіль Рагуля ды інш.

Некалькі чалавек з прысутных бралі ўдзел яшчэ ў Першым Усебеларускім кангрэсе: Радаслаў Астроўскі, Эдвард Будзька, Канстанцін Езавітаў, Мікола Шыла, Янка Станкевіч, Фабіян Ярэміч, настаўніца Гелена Паваротная і інш. Іх часткова запрасілі ў ганаровы прэзідыум.

Статыстычныя выкладкі аб удзельніках Кангрэсу выглядаюць наступным чынам:

Мінск (горад) — 201 дэлегат, Мінская акруга — 115, Баранавіцкая — 155, Глыбоцкая — 105, Слуцкая — 94, Слонімская — 69, Вілейская — 65, Навагрудская — 62, Лідская — 36, Ганцавіцкая — 20, Пінская — 6, Берасцейская і Кобрынская — па 5. Былі таксама дэлегаты ад тэрыторыяў, што намінальна не належалі да Генеральнай акругі Беларусь (цывільнае

---

[234] Данілюк, Барыс. Азіраючыся расой выетымі вачыма... С. 294–295.

[235] На момант склікання Кангрэсу кіраўніцтва БЦР мела наступны склад: Радаслаў Астроўскі — прэзідэнт, магістр Мікола Шкялёнак — першы віцэ-прэзідэнт, справы прэсы і прапаганды; Юры Сабалеўскі — другі віцэ-прэзідэнт, справы сацыяльнай апекі, самапомачы і кантролю; Сымон Кандыбовіч — фінансы; Аўген Калубовіч — культура; Яўхім Скурат — школьныя справы; Франц Кушаль — вайсковыя справы; Павел Свірыд — юрыдычныя і рэлігійныя справы; Сымон Калядка — лясная гаспадарка; інжынер Сцяпан Стаськевіч — прафесійныя справы; Міхась Ганько і Надзея Абрамава — Саюз беларускай моладзі; Пётра Орса — аддзел сельскай гаспадаркі.

Кіраўніцтва намесніцтваў: Баранавіцкая акруга — доктар Станіслаў Станкевіч, Берасцейская акруга — Міхал Васілеўскі, Вілейская акруга — Язэп Малецкі, Ганцавіцкая акруга — Антон Сокал-Кутылоўскі, Глыбоцкая акруга — Іван Касяк, Лідская акруга — Адольф Клімовіч, горад Мінск — Анатоль Комар, Мінская акруга — Пiліп Жук, Навагрудская акруга — Барыс Рагуля, Слонімская акруга — Аляксандр Аўдзей, Слуцкая акруга — Іван Хіхлуша (Другі Ўсебеларускі Кангрэс... С. 71).

кіраўніцтва): найбольшая колькасць была ад Беластоцкай акругі — 17, ад Віленшчыны (з Вільняй) і Смаргоні — разам 33, Віцебскай — 11, Магілёўскай — 10, Бабруйскай і Смаленскай — па 3, Гродна — 2, Гомельскай — 7, Аршанскай — 2, Барысаўскай, Бранскай, Арлоўскай, Чарнігаўскай — па 1. Разам 1023 дэлегаты.

У выпадку Смаленскай, Арлоўскай, Гомельскай і іншых акруг гаворка вялася пра ўцекачоў, якія раней пакінулі радзіму і рэпрэзентавалі гэтыя акругі, занятыя Чырвонай Арміяй, намінальна.

Былі таксама прадстаўнікі ад замежных згуртаванняў:

Кёнігсберг і Рыга — па 4, Лодзь — 3, Варшава — 2, Вена, Берлін, Кракаў — па 1 асобе.

З 1039 дэлегатаў мужчынаў было 904, жанчын — 135.

Узрост удзельнікаў:

ад 41 да 60 гадоў — 467 дэлегатаў; ад 23 да 40 гадоў — 428; да 22 гадоў — 129; больш як 60 гадоў — 15 дэлегатаў.

Паводле адукацыі:

з вышэйшай адукацыяй — 217 асобаў; з сярэдняй — 496; з ніжэйшай і пачатковай — 326.

Паводле прафесіі:

настаўнікаў — 276, земляробаў (сялянаў) — 245, службоўцаў — 234, работнікаў — 142, інжынераў — 31, юрыстаў — 25, лекараў — 20, журналістаў — 14, аграномаў — 13, іншыя прафесіі — 34.

Паводле веравызнання:

праваслаўных — 903, каталікоў — 125, старавераў — 5, баптыстаў — 4, лютэранаў — 1, мусульманаў — 1[236].

Ад прадстаўнікоў нямецкіх уладаў на Кангрэсе прысутнічаў кіраўнік палітычнага аддзелу Генеральнага камісарыяту Фішэр з падначаленымі, Сэп — кіраўнік палітаддзелу СД. Готбэрг на Кангрэсе не прысутнічаў, але яму выслалі прывітальную тэлеграму.

Кангрэс пачаўся а 8-й раніцы. Кіраўніцтва БЦР размясцілася ў ложы на правым балконе. Кангрэс адкрыў Радаслаў Астроўскі, прапанаваўшы на пасаду старшыні сходу Яўхіма Кіпеля[237], у склад прэзідыуму — Івана Ка-

---

[236] Паводле справаздачы старшыні мандатнай камісіі Платона Жарскага // Другі Ўсебеларускі Кангрэс… С. 38–40.

[237] Планавалася, што старшынём будзе К. Езавітаў (НАРБ. Ф. 381. Воп. 2. Спр. 2. Арк. 1).

сяка, Васіля Рагулю (віцэ-прэзідэнтаў), Леаніда Галяка (сакратара) і Лявона Бранавіцкага (другога сакратара).

Парадак дня быў наступны:

а) Справаздача Астроўскага аб дзейнасьці Рады;
б) выбары мандатнай камісіі й камісіі для апрацоўкі рэзалюцый;
в) зачытаньне прывітаньняў;
г) рэфэрат віцэ-прэзыдэнта Міколы Шкялёнка «Аб няважнасьці дагавораў, зробленых чужынцамі ў адносінах да Беларусі»;
д) справаздача мандатнай камісіі;
е) рэфэрат Аўгена Калубовіча «Аб аканчальным разрыве Беларусі з Масквою і аб уневажненьні маскоўскага голасу ў беларускіх справах»;
ж) прыняцьце выніковых рэзалюцый[238].

Прамовы былі загадзя падрыхтаваныя, і ўвогуле Кангрэс выглядаў добра зрэжысураваным. Пра гэта згадваў у сваіх успамінах Аляксей Вініцкі:

…наведваю *[перад пачаткам Кангрэсу. — А. Г.]* сп. Мая *[Эмануіла. — А. Г.]* Ясюка, які меў кватэру ў будынку Цэнтральнай Рады. Паказаў ён мне атрыманую ім ад Цэнтральнай Рады гатовую, надрукаваную на машынцы прамову, якую ён павінен быў прачытаць на пасяджэньні Кангрэсу. Такім чынам зусім выпадкова даведаўся, што ўсе прамовы былі загадзя падрыхтаваныя й разданыя некаторым дэлегатам для прачытаньня іх на пленарным пасяджэньні Кангрэсу[239].

Яўхім Кіпель, наадварот, падкрэсліваў, што зрэжысураванасць была абумоўленая тым, каб правесці на Кангрэсе тыя палажэнні, якія ўважаліся магчымымі на той момант і былі патрэбныя беларускаму нацыянальнаму руху[240].

Усе прамоўцы крытыкавалі пасяганне на Беларусь Масквы і Варшавы, але ні слова не сказалі пра нацысцкі рэжым. З іншага боку, зразумела, што любы выпад у бок немцаў мог прывесці да арышту ўдзельнікаў. Дэлегаты таксама разумелі, што нямецкая акупацыя неўзабаве скончыцца, а суседзі з

[238] Пратакол Другога Ўсебеларускага Кангрэсу…
[239] Вініцкі, Алесь. Матар’ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939–1951 гг. Ч. I… С. 48. Пра тое самае згадваў у сваіх успамінах і Антон Шукелойць.
[240] Кіпель, Яўхім. Эпізоды. Выд. 2-е… С. 216.

іх тэрытарыяльнымі прэтэнзіямі застануцца. Падпарадкаванне Берліну ва ўмовах імклівага набліжэння фронту рабілася ўжо другасным.

З галоўнаю прамоваю-справаздачай аб зробленай працы на Кангрэсе выступіў Радаслаў Астроўскі. Закранаючы падзеі XX ст., ён спыніўся на Рыжскім міры 1921 г., што падзяліў Беларусь на дзве часткі, польскім уціску, вылучыўшы разгром БСРГ і нацдэмаўшчыны. Прэзідэнт БЦР быў метафарычны ў сваёй прамове, апісваючы новую нямецкую акупацыю:

> Народ пачаў паступова загойваць раны. І… нарэшце стаў на ногі. Ясна, ня так хутка можна было паправіцца пасьля 24-гадовай цяжкай хваробы, каб адразу стаць здольным да працы. Патрэбна было яшчэ два гады, каб выпрастаць свае плечы. А гэта было цяжка, тым больш што навакол было полымя ваеннага пажару, навакол трашчэлі кулямёты і стралялі гарматы. Сілы варочаліся паступова і памалу. Нарэшце Народ акрыяў. Пачалася адбудова зьнішчанага краю. Дасягненьні ва ўсіх галінах, культурнае і эканамічнае працы былі даволі значныя. Празь нейкі час наш Народ пачаў уключацца ня толькі ў гаспадарчую і культурную працу, але паступова добраахвотна пачаў брацца за зброю, каб дзейна памагчы Нямеччыне справіцца зь яе вялікім заданьнем, якое, пры канчальнай перамозе, прывяло б да вызваленьня Беларусі. З кажным днём усё большыя і большыя сілы прымалі ўдзел у змаганьні з насланымі на наш край сталінскімі бандытамі і партызанамі, абдуранымі камуністычнай прапагандай. Акцыя змаганьня настолькі пашырылася, што паўстала неабходнасьць канцэнтрацыі ўсіх параскіданых сілаў, жадаючых змагацца за сваю Бацькаўшчыну.
>
> Гэтую магчымасьць нямецкае кіраўніцтва дало нашаму народу, паклікаючы БЦР як найвышэйшае народнае прадстаўніцтва, як кіруючы нацыянальны цэнтар[241].

Ацаніў Радаслаў Астроўскі і праробленую працу БЦР. Як вялікае дасягненне падавалася ім мабілізацыя ў БКА, пра хібы і промахі, у тым ліку слабое ўзбраенне і праблемы з абмундзіраваннем, не згадвалася. Прэзідэнт абяцаў павышэнне заробкаў школьным настаўнікам, новыя навучальныя праграмы, забеспячэнне падручнікамі. Казаў, што 30 найлепшых настаўнікаў выправяцца на экскурсію ў Нямеччыну для азнаямлення з сістэмай школьнай адукацыі; абяцаў адкрыццё Інжынерна-металургічнага і Ветэры-

---

[241] Пратакол Другога Ўсебеларускага Кангрэсу… С. 5.

нарнага інстытутаў, Юрыдычна-адміністрацыйнай акадэміі, гуманістычнага факультэту Педагагічнага інстытуту, удасканаленне сістэмы страхавання, росквіт культурнага і навуковага жыцця. Прамова Прэзідэнта БЦР доўжылася 1 гадзіну 8 хвілінаў. Дзеяч афіцыйна склаў з сябе паўнамоцтвы, аднак дэлегаты папрасілі яго працягнуць працу на пасадзе кіраўніка БЦР.

На Кангрэсе зачыталі некалькі прывітанняў, у тым ліку ад генеральнага камісара Беларусі Курта фон Готбэрга, Камітэту самапомачы ў Нямеччыне, СБМ, Службы парадку Усходняга фронту. Ад імя беларускага сялянства, работніцтва і інтэлігенцыі прамаўляла Апалонія Савёнак, якая пазбегла антысеміцкай рыторыкі, часам уласцівай іншым выступоўцам[242]. Абышоўся без рэверансаў у бок немцаў і ксёндз Пётра Татарыновіч, які выступаў ад імя беларускіх каталікоў[243].

Затым вялікі даклад «Аб прызнанні няважнымі дагавораў, зробленых чужымі ўрадамі, калі гэтыя дагаворы адносяцца да тэрыторыі Беларусі» зрабіў першы віцэ-прэзідэнт БЦР Мікалай Шкялёнак. Ён фактычна агучыў палітычны рахунак Маскве, абвінавацiўшы яе ў злачынствах супраць беларускага народу. Ён зазначаў, што ў 1920–1930-х гг. савецкая Масква знішчыла 1,8 млн беларусаў, а таму не мае больш права ўмешвацца ў беларускія справы:

> …Вы ненавідзіце беларускую культуру, вы думалі, што зьнішчылі яе аканчальна, тым часам яна жыве й квітнее, і таму злобна шыпіце «Сьмерць беларускай культуры». Вы ненавідзіце ўсё беларускае, для Беларусі ў вас ёсьць толькі адно: вашае бальшавіцкае права, імя

---

[242] Апалонія Савёнак сказала: *«Народ наш ужо цалкам выказаў сваю палітычную дасьпеласьць і спадзяецца цяпер ад Кангрэсу вырашэньня ўсіх балючых пытаньняў. Народ наш цалкам зразумеў патрэбу змаганьня з бальшавізмам. Кажная частка нашага народу мае свае патрэбы: селянін хоча сваёй зямлі, работнік свайго варштату, інтэлігэнцыя хоча свабодна жыць і працаваць дзеля свайго народу ды весьці яго да заняцьця належнага месца сярод вольных народаў і дзеля гэтага з поўным даверам перадае свой лёс у рукі БЦР на чале прэзыдэнтам яе, Р. Астроўскім»* (Прывітаньне ад беларускіх сялянаў, работнікаў і інтэлігенцыі // Другі Ўсебеларускі Кангрэс… С. 34.

[243] Прывітанне, зачытанае Пятром Татарыновічам, было ці не найкарацейшае: *«Паважаны гаспадар Прэзыдэнт Беларускае Цэнтральнае Рады і беларусаў бяз розьніцы веравызнаньняў. Сваё пераступленьне да працы беларускае каталіцкае духавенства выразіла не сягоньня. І не сягоньня і на прышласьць пацьвярджае сваё супрацоўніцтва ў беларускай адраджэнскай працы. Няхай жыве Незалежная Беларусь! Няхай жыве Прэзыдэнт і Беларуская Цэнтральная Рада»* (Другі Ўсебеларускі Кангрэс… С. 38).

якому — сьмерць! Мы гэта ведаем. Але хочам, каб і вы ведалі наш адказ. Ён кароткі. Сьмерць бальшавіцкай Маскве![244]

Удзень сход перапыніўся на абед.

Палуднавалі, між іншым, дэлегаты падчас перапынку ў знаёмай мне фабрыцы-кухні. Затое багатую й смачную вячэру я зьеў у нейкае багатае і элегантнае дамы і такое ж ейнае дачкі ў выгоднай іхняй кватэры, куды мяне запрасілі сустрэтыя на Кангрэсе Рыгор Зыбайла й Язэп Дакіневіч. Усё ж настрой падчас вячэры ня быў вясёлы ці хоць бы бесклапотны, бо ўжо стала ведама, што савецкае войска прарвала Ўсходні фронт і што займо чырвонай пожрай прыйдзе неўзабаве[245].

Пасля абеду быў заслуханы рэферат Аўгена Калубовіча «Аб аканчальным разрыве Беларусі з Масквою і аб уневажненні маскоўскага голасу ў Беларускіх справах». Аўтар прапанаваў на падставе арт. 15 Канстытуцыі БССР (БССР пакідае за сабой права вольнага выхаду з СССР), разарваць усе адносіны з бальшавіцкаю Масквою.

Адначасна мы сьцьвярджаем, што ўсялякі голас Масквы ў Беларускіх справах павінен уважацца імі *[так у тэксце — А. Г.]* за ня маючы ніякай праўнай сілы, а твораныя Масквою нібы беларускія ўрады — ніякіх праўных кампэтэнцый.

Да гэтага аканчальнага разрыву з Масквой клічуць косьці загубленых ёю 1 800 000 найлепшых сыноў нашага народу!

Да гэтага клічуць нас пралітыя ёю рэкі сьлёзаў і крыві нашага народу! Кожная кропля гэтай нявіннай крыві пякучым агнём гарыць у нашых сэрцах і кліча да помсты!

Гэтага патрабуюць ад нас нават каменьні разбураных бальшавікамі нашых сьвятыняў і помнікаў.

Няхай жа памяць крывавага бальшавіцкага панаваньня ў нашым краі зарасьце чартапалохам і крапівою…[246]

Дэлегаты Кангрэсу прынялі рэзалюцыю, якая пацвярджала Акт 25 сакавіка, палажэнні Трэцяй Устаўной граматы 25 сакавіка 1918 г.:

---

[244] Рэфэрат віцэ-прэзыдэнта БЦР мгр. Шкялёнка // Другі Ўсебеларускі Кангрэс… С. 41–50.

[245] Данілюк Барыс. Азіраючыся расой выетымі вачыма… С. 295.

[246] Рэфэрат сябры БЦР гасп. Аўгена Калубовіча // Другі Ўсебеларускі Кангрэс… С. 52–64.

Другі Ўсебеларускі Кангрэс, сабраўшыся ў Менску, праз чвэрць стагодзьдзя пасьля Першага Ўсебеларускага Кангрэсу і выслухаўшы даклады аб падзеях на Беларусі ў часе паміж абодвума кангрэсамі, аднагалосна пастанавіў:

1. Вызнаць правільнай і зноў пацьвердзіць гістарычную пастанову Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, якая, маючы паўнамоцтвы Першага Ўсебеларускага Кангрэсу 1917 г., на сваім сходзе 25 сакавіка 1918 г. урачыстай 3-й Устаўнай Граматай вырашыла аб канчальным разрыве Беларусі з Бальшавіцкай Масквой і расейскай дзяржавай ва ўсіх яе формах.

2. Пацьвердзіць, што Беларускі Народ ніколі не прызнаваў, не прызнае цяпер і ніколі не прызнае ў будучыні за форму сваёй беларускай дзяржаўнасьці накіненыя яму маскоўскімі захопнікамі формы БССР.

3. Паведаміць усе ўрады і народы сьвету, што голас Масквы і СССР у беларускіх справах ня мае ніякай праўнай сілы, а ўсе, твораныя Масквою нібыта беларускія ўрады, ня маюць ніякіх праўных кампэтэнцый, бо не вызнаюцца Беларускім Народам.

Таму ўсе ўмовы ці аднабаковыя пастановы ўрадаў СССР, былой Польшчы й сучаснага гэтак званага эміграцыйнага ўраду Польшчы, якія датычаць тэрыторыі Беларусі й Беларускага Народу і якія былі зробленыя раней або будуць зроблены ў будучыні, — Другі Ўсебеларускі Кангрэс абвяшчае ня маючымі ніякай праўнай сілы; як ня будуць мець сілы і ўсялякія іншыя магчымыя спробы падзелу Беларусі з боку іншых дзяржаваў і народаў.

4. Адзіным прадстаўніком Беларускага Народу й ягонага краю зьяўляецца сягоньня Беларуская Цэнтральная Рада з Прэзыдэнтам Радаславам Астроўскім на чале[247].

Пры канцы паседжання выступіў ізноў Радаслаў Астроўскі, які сказаў пра пераемнасць традыцыяў Рады БНР і прызнанне Акту 25 сакавіка за вяршэнства волі беларускага народу[248].

---

[247] За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі… С. 116–117.

[248] Тэксты заключнай прамовы Радаслава Астроўскага адрозніваюцца. У кнізе «Другі Ўсебеларускі Кангрэс» прыводзіцца наступны тэкст: *«Дэлегаткі і дэлегаты! Прыняўшы толькі што прачытаную рэзалюцыю, 2-гі Ўсебеларускі Кангрэс тым часам скончыў працу, распачатую 1-шым Усебеларускім Кангрэсам, якому бальшавікі не далі магчымасьці яе закончыць. Гэты Кангрэс яшчэ раз пацьвердзіў правільнасьць таго шляху, які выбраў Першы Кангрэс. Беларускі Народ безупынна, такім чынам,*

Аднак нават вонкава незалежныя паводзіны дэлегатаў не спадабаліся немцам. Пры канцы паседжання адзін з нямецкіх прадстаўнікоў перадаў старшыні Кангрэсу падрыхтаваны тэкст тэлеграмы, якую прасіў выслаць Гітлеру ад імя Кангрэсу. Яўхім Кіпель заўважыў, што прапанова выслаць тэлеграму паступіла не ад дэлегата Кангрэсу, таму яна не правамоцная, і высылацца не будзе. Радаслаў Астроўскі адказаў, што адправіць тэлеграму ад свайго імя, такім чынам падаўшы гэта ўласнай ініцыятываю[249].

На наступны дзень дэлегаты былі вымушаныя пакідаць не толькі Мінск, але і Беларусь, адступаючы разам з немцамі на Захад. Праз шэсць дзён у Мінск увайшла Чырвоная Армія, а да 28 ліпеня, цягам месяца пасля Кангрэсу, ад нацыстаў ачысцілі ўсю Беларусь.

Кангрэс жа скончыўся тэатральным паказам — гэта была п’еса Тодара Лебяды[250] «Загубленае жыццё» пра гвалтоўную калектывізацыю ў Беларусі і вынішчэнне сялянскай сям’і. Язэп Малецкі пісаў:

---

*імкнецца да волі і змагаецца за сваю свабоду, і таму ён асабліва ў гэтую, сучасную, цяжкую хвіліну павінен напружыць усе свае сілы дзеля асягненьня гэтае мэты. Мы ня хочам, каб вярнуліся старыя парадкі, мы змагаемся за Новую Эўропу, у якой Беларускі Народ павінен атрымаць належнае яму месца»* (Другі Ўсебеларускі Кангрэс… С. 68). Леанід Галяк, які быў сакратаром Кангрэсу, прыводзіць наступны тэкст: «*Гэты, Другі Ўсебеларускі Кангрэс, працягвае тую ж працу, якую распачаў Першы Кангрэс, скліканы ў 1917 г. у гэтым жа Менску, а які разагналі бальшавікі. Гэты Кангрэс яшчэ раз пацьвярджае правільнасьць таго шляху, які выбраў Усебеларускі Кангрэс 1917 года. Беларускі Народ будзе заўсёды імкнуцца да волі й змагацца за сваю свабоду і таму ён асабліва ў сучасную хвіліну павінен напружыць усе свае сілы, дзеля асягненьня гэтай мэты. Мы ня хочам, каб вярнуліся старыя парадкі, мы змагаемся за Новую Эўропу, у якой Беларускі Народ павінен атрымаць належнае яму месца. Мы ня хочам, каб вярнуліся старыя парадкі, мы змагаемся за справядлівы лад на сьвеце, у якім беларускі народ павінен заняць сваё пачэснае месца. За гэты новы парадак змагаюцца цяпер усе эўрапейскія народы, на чале з Нямеччынай. Па іхным боку ідзе таксама і Беларускі народ!»* (Пратакол Другога Ўсебеларускага Кангрэсу…)

[249] *«Правадыру Вялікай Нямеччыны Адольфу Гітлеру, галоўная кватэра*

*Другі Ўсебеларускі Кангрэс, на які зьехаліся ў сталічны горад Беларусі — Менск 1039 прадстаўнікоў Беларускага Народу 27.6.1944 даручыў мне паслаць Вам, Фюрэр, прывітаньне й запэўніць Вас, што Беларускі народ будзе нязломна змагацца побач зь нямецкім жаўнерам супраць супольнага нашага ворага — бальшавізму.*

*Мы спадзяемся й верым у канчатковую перамогу, каторая, пад Вашым кіраўніцтвам, пры будове Новае Эўропы, прынясе шчасьлівую будучыню вольнаму Беларускаму Народу. Няхай жыве перамога!*

*Р. Астроўскі»* (За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі… С. 117–118).

[250] Тодар Лебяда (Пятро Шыракоў) быў асуджаны ў 1936 г. на пяць гадоў сталінскіх лагераў, улетку 1944 г. пакінуў, як і сотні беларускіх інтэлігентаў, Беларусь.

> Калі каля 6-й гадзіны вечара Кангрэс канчаўся беларускім нацыянальным гімнам, дык заля была ўжо на 25% пустая. Калі ж мы выйшлі з тэатру, дык выявілася, што дэлегаты з усходняй Беларусі, з ваколіцаў Полацку, Віцебску, Оршы, Магілёву, Барысава, Гомелю, ня могуць ужо вярнуцца да сваіх хатаў, бо там ужо чырвоныя акупанты.
>
> Вечарам таго дня, ня маючы магчымасьці хуткага выезду, я з сваім сябрам Цьвячкоўскім пайшоў у тэатар. Ставілі антыбальшавіцкую драму. Народу, на дзіва, было поўна, ды білі брава як ніколі. На залі сядзелі два рады дзяўчат у шэрых уніформах з Пагоняй на бэрэтах. Былі гэта сяброўкі СБМ з Жлобіна. Яны ведалі, што дамоў вярнуцца ўжо ня могуць[251].

Можна па-рознаму ацэньваць ролю Кангрэсу ў беларускай гісторыі. Але важна тое, што яго дэлегаты нават у такіх умовах нагадалі пра існаванне незалежніцкіх памкненняў Беларусі, няхай і ў шчыльным звязе з нацысцкаю Нямеччынаю. Важна і тое, што на Кангрэсе зноў, хоць і сімвалічна, заявілі пра магчымасць аднаўлення незалежнасці ад Масквы. У будучыні беларускія дзеячы маглі апеляваць да пастановаў Другога Усебеларускага кангрэсу, паказаўшы яго як чарговы этап у барацьбе за беларускую дзяржаўнасць.

> Нам часта задаюць пытанне-закід: чаму вы не абвесцілі незалежнасці Беларусі? Адказ гэткі: абвяшчаць незалежнасць на Другім Кангрэсе азначала б зняважыць пастановы Першага Кангрэсу і Акт 25 Сакавіка. Незалежнасць Беларусі была абвешчана ў 1918 годзе. Нашую тагачасную дзейнасць мы разглядалі як прадаўжэнне дзейнасці на платформе 25 Сакавіка. Аднак мы імкнуліся сказаць тое, што яшчэ не сказала БНР, не выказаў наш палітычны рух да 1944 года, стаім на Акце Незалежнасці і парываем з усім, што ад нашага імя рабілася ў міжчасе. На ўвесь голас мы заявілі, што беларускі народ не прызнае ні маскоўскіх, ні польскіх, ні якіх іншых пастановаў адносна беларускае зямлі і беларускага народу. На Другім Усебеларускім Кангрэсе

---

У 1945 г. вырашыў вярнуцца на радзіму ў пошуках жонкі, якая выцягнула яго з лагера ў 1940 г.; быў арыштаваны і асуджаны на 25 гадоў. Падчас хрушчоўскай адлігі ў 1956 г. — вызвалены, вярнуўся ў Беларусь, але быў вымушаны выехаць у Расію, дзе і памёр у 1970 г. Аналагічны лёс чакаў і іншых удзельнікаў Кангрэсу, калі б яны не выехалі на эміграцыю.

[251] Малецкі, Язэп. Пад знакам Пагоні… С. 178.

мы яшчэ раз пацвердзілі волю нашага народу да адраджэння Беларускай Народнай Рэспублікі[252].

Аналагічную выснову пра Кангрэс прывёў і Антон Шукелойць, які на эміграцыі сімпатызаваў лагеру БНР.

Але ў выніку гэтага ўсяго Кангрэс прыняў за аснову Акт 25 сакавіка 1918 года, абвешчаньне незалежнасьці Беларусі. Гэта пацьверджана ў пратаколе. Пратакол напісаў Леанід Галяк. Ягоны пратакол ёсьць найважнейшы. Бо ёсьць некалькі пратаколаў. Я ўважаю, што самы салідны варыянт — гэта пратакол Галяка, які быў сакратаром Кангрэсу[253].

Другі Усебеларускі кангрэс, на якім чарговы раз абвясцілі права беларусаў на самавызначэнне, сапраўды стаў важным этапам у гісторыі беларускага нацыянальнага руху. Для параўнання можна выкарыстаць не толькі аналогіі з Першым Усебеларускім кангрэсам, які адбыўся ў снежні 1917 г. ва ўмовах бальшавіцкай прысутнасці, ці з Актам 25 сакавіка 1918 г. (першай нямецкай акупацыі), але і з абвяшчэннем незалежнасці Літвою 16 лютага 1918 г. ва

[252] Кіпель, Яўхім. Эпізоды. Выд. 2-е… С. 217. Яўхім Кіпель, дарэчы, выступіў з заключным словам на Кангрэсе. Звярнуўшыся да дэлегатаў, ён сказаў: *«Сёньняшні дзень — гэта вялікі дзень у гісторыі беларускага нацыянальна-вызвольнага руху. Сёньня тут на Кангрэсе былі прынятыя аднагалосна ўсе найважнейшыя пастановы, патрэбныя для пасьпяховай барацьбы за нацыянальныя ідэалы нашага народу…*

*Сёньняшні Кангрэс яшчэ паважны і тым, што ён нацыянальна беларускі. Гэта значыць, што нацыянальная сьведамасьць нашага народу ўзьнялася вельмі высока. Сёньняшнім актам наш народ давёў усяму сьвету, што ён ня хоча ні маскоўскае, ні польскае апекі. Усе пастановы аб выхадзе з так званага Савецкага Саюзу і абануляваньні маскоўска-польскіх дамоваў аб Беларусі прыняты аднагалосна. А гэта вельмі важна. Сярод тысячы двухсот чалавек не знайшлося нікога, хто б хацеў звароту бальшавікоў, які б хацеў панаваньня польскіх паноў на Беларусі. Бясспрэчна, гэта воля ня толькі дэлегатаў як людзей, гэта — воля ўсяго беларускага народу. Наш народ ня хоча ні маскоўскага панаваньня на Беларусі, ні польскага. Сёньняшні дзень давёў усяму сьвету, што ад імя Беларусі ня маюць права гаварыць ні Масква, ні польскія эмігранты ў Лёндане.*

*Вось, у гэтым гістарычнае значэньне сёньняшняга дня! Аднак беларускі народ ня толькі дэманструе сваю волю, ён будзе змагацца са зброяю ў руках супраць сваіх векавечных ворагаў. Гаспадары Дэлегаты, калі прыедзеце ў вашыя гарады, у вашыя вёскі, дык перадайце ўсё гэта ўсяму беларускаму насельніцтву, няхай яны ня вераць бальшавіцкім чуткам. Што-б ня здарылася на сьвеце, але ў нашай барацьбе з бальшавізмам мы пераможам і будзем вольныя»* (Другі Ўсебеларускі Кангрэс… С. 69).

[253] Пазьняк, Зянон. Гутаркі з Антонам Шукелойцем… С. 89.

ўмовах нямецкай акупацыі падчас Першай сусветнай вайны. Праз некалькі месяцаў, калі абрынулася Германская імперыя, маладая Літва да абвяшчэння рэальнай незалежнасці паспела стварыць усе адміністрацыйныя структуры і сфармаваць урад.

Правядзенне Другога Усебеларускага кангрэсу і яго рэзалюцыя аб незалежнасці давала падставы для будучай дзейнасці эміграцыі, якая магла абапірацца на агучанае права беларусаў на самавызначэнне.

# БЕЛАРУСКАЯ КРАЁВАЯ АБАРОНА

## ПАДРЫХТОЎКА І МАБІЛІЗАЦЫЯ

Нямецкая адміністрацыя бачыла ў БЦР выключна спосаб мабілізацыі насельніцтва для барацьбы з партызанамі і дапамогу ў змаганні з Чырвонай Арміяй. Досвед супрацьстаяння партызанам паліцэйскіх аддзелаў, якія налічвалі 20 тыс. чалавек[254], нельга было занесці ў актыў: паліцыі не ўдалося сцішыць партызанскіх раёнаў. Да таго ж у народзе да паліцыі часта ставіліся негатыўна.

Трэба было прыдумаць такую форму мабілізацыі, каб надаць ёй бачнасць стварэння «нацыянальных аддзелаў». У выніку з’явілася назва Краёвая (ці Беларуская краёвая) абарона. На першым этапе дыскутавалася пытанне наконт спосабу мабілізацыі: добраахвотна ці прымусова. Выбар зрабілі на карысць прымусовай: і немцы, і БЦР пабойваліся, што насельніцтва праігнаруе заклік добраахвотна ісці на прызыўныя пункты[255].

Актыўна рыхтаваліся да мабілізацыі ў другой палове студзеня — пачатку лютага 1944 г. Патрыятычны ўздым, звязаны са стварэннем БЦР, закрануў шэраг асобаў, у тым ліку і тых, хто раней цвяроза глядзеў на падзеі нямецкай акупацыі. Ф. Кушаль зазначаў:

> правядзеньне мабілізацыі… было вельмі важнай справай. Гэта быў першы факт у гісторыі Беларусі, калі беларускі народ паклікаўся ў беларускае войска беларускімі ўладамі[256].

На першым этапе прайшла падрыхтоўчая праца на месцах. Радаслаў Астроўскі і Франц Кушаль, прызначаны начальнікам аддзелу БКА, асабіста наведвалі беларускія акругі, падкантрольныя БЦР. З імі ездзілі сакратар Астроўскага, яго былы паплечнік у працы на Смаленшчыне Іван Няронскі, ды прадстаўнік штабу Готбэрга Эміль Кумэр (Kummer). Кушаль пакінуў пра

[254] Кушаль, Франц. Спробы стварэньня беларускага войска… С. 73.
[255] Тамсама.
[256] Тамсама.

паездку ў Слуцк, Баранавічы і Слонім падрабязныя нататкі, зазначаючы, што ў большасці народ і грамадскі актыў на месцах прыхільна паставіліся да мабілізацыі.

Першай мэтай нашага падарожжа была Слуцкая акруга. Калі мы прыбылі ў Слуцк, то гэбітскамісар Слуцку, папярэдне паведамлены немцамі аб нашым прыезьдзе, вельмі ветліва прыняў нас. Прэзыдэнт папрасіў гэбітскамісара, каб той склікаў на першы дзень нашага побыту ў Слуцку начальнікаў раёнаў, якія былі ўсе беларусамі, а на другі дзень — агульны сход беларускага насельніцтва акругі.

На сабраньні начальнікаў раёнаў, калі Прэзыдэнт прадставіў справу мабілізацыі, усе начальнікі, апрача Капыльскага, які рабіў засьцярогі адносна мажлівасьці правядзеньня мабілізацыі з погляду на моцную партызаншчыну ў ягоным раёне, запэўнілі Прэзыдэнта, што гэтая справа зусім магчымая і што насельніцтва ахвотна пойдзе на заклік Прэзыдэнта ў беларускае войска.

На наступны дзень адбыўся сход насельніцтва. Народу прыбыло вельмі шмат. Шмат было людзей зь вёсак. Вялікая заля кіна не магла зьмясьціць усіх удзельнікаў сходу, народ запоўніў ня толькі ўсе калідоры, але шмат было прымушана стаяць на вуліцы. Прэзыдэнт быў прывітаны бурнымі авацыямі. У Случчыне Астроўскі быў асабліва папулярны, як сам Случчанін. Прамова Прэзыдэнта зрабіла на ўсіх вялікае ўражаньне. Арганізацыю беларускага войска ўсе вельмі віталі. Паасобныя прамоўцы з удзельнікаў запэўнілі Прэзыдэнта, што на ягоны заклік уся Случчына стане як адзін чалавек. Уражаньне ад Слуцка засталося як найлепшае. З гэтым добрым уражаньнем выехалі мы ў Баранавічы.

На прыезд Прэзыдэнта Баранавічы прыгатовіліся па-сьвяточнаму. Пры ўезьдзе ў горад Прэзыдэнта спаткалі ганаровая рота, складзеная зь беларускае паліцыі, Старшыня гораду Русак Аляксандар і шмат народу з хлебам і сольлю. Гэбітскамісар прыняў нас вельмі гасьцінна. Тут, як і ў Слуцку, сьпярша адбыўся сход раённых начальнікаў, пасьля — беларускага насельніцтва. І тут гэтак сама было пастаноўлена праводзіць мабілізацыю і тварыць беларускае войска.

З Баранавіч мы паехалі ў Слонім. У Слоніме гэтак сама спаткалі нас урачыста, адбыліся гэткія самыя сходы і гэтак сама было пастаноўлена праводзіць мабілізацыю й арганізоўваць беларускае войска. Тут трэба адзначыць, што слонімская акруга асабліва вітала ар-

ганізацыю БКА, бо мела за сабой прыгожую традыцыю змаганьня з партызаншчынай за часы існаваньня самааховы.

Пасьля аб'езду слонімскае акругі мы вярнуліся ў Менск. Цяпер можна было прыступіць да працы з пэўнасьцю, што мабілізацыя безумоўна ўдасца. А праца чакала нас вельмі вялікая...[257]

Праведзеная інспекцыя, паводле Франца Кушаля, паказала, што насельніцтва на падкантрольных немцам тэрыторыях прыхільна ставіцца да ідэі стварэння беларускага войска пад нямецкім кантролем.

18 лютага 1944 г. Радаслаў Астроўскі накіраваў Готбэргу прапанову аб стварэнні БКА. 23 лютага апошні пасля кансультацыяў у Берліне выдаў загад аб мабілізацыі. Гэтак дзень абвяшчэння БКА супаў з прынятай у савецкай гістарыяграфіі датаю заснавання Чырвонай Арміі ў 1918 г.

Мабілізацыя ў БКА павінна была праводзіцца ў сямі з дзесяці акруг: Мінскай, Баранавіцкай, Вілейскай, Глыбоцкай, Навагрудскай, Слонімскай і Слуцкай[258]. Загад таксама прадугледжваў, што мабілізоўваць будуць беларусаў на тэрыторыях, падкантрольных вайсковаму кіраўніцтву, але гэтага не адбылося.

Не праводзілася мабілізацыі ў Лідскай акрузе: тут панавалі моцныя прапольскія настроі, Лідчына была базаю для папаўнення Арміі Краёвай, — а таксама ў паліцэйскай акрузе Прыпяць (створанай на беларускіх тэрыторыях, сённяшні поўдзень Гомельскай вобласці, пасля заняцця Чырвонай Арміяй украінскіх тэрыторыяў акругі Жытомір). У Мінскай акрузе мабілізацыі не было ў «польскіх» раёнах (Узда ды Івянец), у Вілейскай — у раёнах Валожын і Мядзел, у Глыбоцкай — у Браславе, у Слонімскай — у Казлоўшчынскім раёне і частцы Дзярэчынскага, у Навагрудскай — у частцы Дзятлаўскага раёну, на захад ад ракі Моўчадзь, у Ганцавіцкай акрузе. Першапачаткова планавалася, што з кожнага раёну прызавуць у БКА каля 500 чалавек (г. зн. усяго каля 20–25 тыс. чалавек). У акругах ствараліся адмысловыя прызыўныя камісіі, якія ўлучалі: намесніка БЦР (старшыня камісіі), акруговага начальніка БКА, старшыню гораду, двух дактароў. У паветах прызыўныя камісіі складаліся з павятовага старшыні, двух афіцэраў і двух дактароў[259].

---

[257] Кушаль, Франц. Спробы стварэньня беларускага войска… С. 73–75.

[258] Мабілізацыйны загад // За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі… С. 89–90.

[259] Загад Готбэрга [Вышэйшага СС і Паліцэйфюрэра Цэнтральнай Расіі і Беларусі ад 23.02.1944], апублікаваны ў: Кушаль, Франц. Спробы стварэньня беларускага войска… С. 156–158). Тое самае гл.: НАРБ. Ф. 382. Воп. 1. Спр. 8. Арк. 3–4.

Мабілізацыя павінна была працягвацца тры дні ды ахапіць мужчынаў 1908–1917 і 1921–1924 гадоў нараджэння. У першапачатковым варыянце загаду Готбэрга зазначалася, што юнакі ўзросту 1925–1927 гадоў нараджэння будуць мабілізоўвацца ў СБМ, але пазней гэты пункт адмянілі[260].

> Для адчытаньня гэтага загаду адбыўся сход у кабінэце Прэзыдэнта ў канцы лютага 1944 г. На сходзе зь беларускага боку былі прысутныя: Прэзыдэнт БЦР, Першы Віцэ-Прэзыдэнт, ад Галоўнага Кіраўніцтва БКА я і Мікула і з боку нямецкага прысутнічалі начальнік штабу Готбэрга падпалкоўнік Каўфман з адʼютантам, кіраўнік палітычнага аддзелу пры СД у Мінску штурмбанфюрэр Сэп, нямецкія акруговыя начальнікі паліцыі, акруговыя начальнікі БКА і намесьнікі. На гэтым сабраньні адʼютант начальніка штабу Готбэрга прачытаў загад Готбэрга аб арганізацыі БКА[261].

З самага пачатку стварэнне БКА цалкам залежала ад нямецкіх уладаў і паліцыі. Намеснік прэзідэнта БЦР праз акруговага каменданта паліцыі павінен быў перадаваць кіраўніку СС і паліцыі Беларусі ды БЦР звесткі аб колькасці мабілізаваных, ніжэйшыя чыны мусілі даваць справаздачу пра мабілізацыю ў паветах. У загадзе Готбэрга зазначалася, што ўніформа для афіцэраў і падафіцэраў не прадугледжваецца, былі толькі запраектаваныя пагоны[262].

25 лютага Радаслаў Астроўскі зацвердзіў склад кіраўніцтва БКА: начальнікам у Мінскай акрузе стаў былы афіцэр Чырвонай Арміі капітан Міхаіл Пугачоў, у Навагрудскай — старшы лейтэнант Барыс Рагуля, у Слуцкай — капітан Сцяпан Шнэк, у Баранавіцкай — лейтэнант Уладзімір Русак, у Глыбоцкай — лейтэнант Рыгор Зыбайла, у Слонімскай — старшы лейтэнант Язэп Дакіневіч[263], у Вілейскай — в. а. начальніка Якуб Бабіч[264].

Франц Кушаль зазначаў, што гэтыя людзі былі мала знаёмыя з вайсковаю справай або слаба падрыхтаваныя (як Русак, Бабіч, Зыбайла, Рагуля), але ў

---

[260] Пункт 8 загаду абвяшчаў: *«Падрыхтоўку да мабілізацыі праводзіць намесьнік праз павятовых старшыняў. Мабілізацыя пачынаецца ў 3 дні пасьля заканчэньня інструктажу афіцэраў і падафіцэраў і абымае годнікі 1908 да 1917 і 1921 да 1924 [Годнікі 1925, 1926, 1927 мабілізуюцца ў СБМ. Дата мабілізацыі апошніх 3-х гадавікоў будзе пададзена пасьля]»*. НАРБ. Ф. 382. Воп. 1. Спр. 8. Арк. 3–4.

[261] Кушаль, Франц. Спробы стварэньня беларускага войска… С. 79.

[262] Тамсама.

[263] У другой палове 1940-х Язэп Дакіневіч апынуўся ў Бразіліі, быў прадстаўніком Беларускага цэнтральнага прадстаўніцтва на гэту краіну.

[264] Зборнік дакументаў БЦР. Ч. 1… С. 7.

большасці яны былі адданыя беларускай справе. Выняткам у прафесійным сэнсе былі кадравыя вайскоўцы з вялікім досведам службы ў Чырвонай Арміі — Міхаіл Пугачоў і Сцяпан Шнэк[265].

Напярэдадні мабілізацыі беларускія дзеячы сутыкнуліся з яшчэ адною важнаю праблемай: мала таго, што не было найвышэйшага кіраўнічага складу, існавалі праблемы і з беларускім афіцэрствам. Кадравых афіцэраў не было ў Генеральнай акрузе зусім[266]. Яны або ваявалі ў Чырвонай Арміі, або сядзелі ў нямецкім палоне. Заставаліся толькі афіцэры царскай арміі ў сталым веку. Адзіным штабным афіцэрам з вышэйшаю вайсковай адукацыяй быў падпалкоўнік генеральнага штабу царскай арміі Язэп Гуцька, аднак той адмовіўся ад любой працы ў БКА[267]. На пасаду свайго намесніка Франц Кушаль запрасіў падпаручніка польскай арміі Віталя Мікулу, які скончыў кадэцкі корпус і артылерыйскую вайсковую школу. Кіраўніком агульнай канцылярыі прызначылі Аляксея Васіленю, рэферэнтам персанальнага аддзелу — Сымона Раманчука, начальнікам санітарнай часткі — доктара Пражогу, пазней — Глеба Багдановіча. Кіраўніком аддзелу прапаганды стаў дзеяч культуры, пісьменнік Уладзімір Гуцька (Дудзіцкі), у гаспадарчы аддзел увайшлі Анатоль Плескачэўскі, Ян Скуратовіч і Каспяровіч[268].

Франц Кушаль пісаў з гэтай нагоды:

> Вось і ўвесь склад штабу. Ніводнага чалавека, апрача кіраўніка санітарнай часьці, не было спэцыяліста ў прынятай на сябе функцыі. З гэтым штабам я прыступіў сьпярша да прыгатаўленьня мабілізацыі, а пасьля да кіраваньня БКА. Між іншым, мушу сказаць, што БЦР ніяк не магло пагадзіцца з накінутым немцамі назовам *«аддзел БКА»*, а дзеля таго, што на назоў «штаб» немцы не хацелі згадзіцца, то БЦР вырашыла наш штаб называць *«Галоўным Кіраўніцтвам БКА»*.
>
> У прыгатаўленьні пляну мабілізацыі прымалі ўдзел апрача штабу і радныя БЦР. Праектаў, якія паступалі ў Галоўнае Кіраўніцтва БКА, было шмат, але ўсё ж аканчальны плян апрацоўвалі я зь Мікулам. Плян быў апрацаваны вельмі падрабязна[269].

Пра тыя самыя праблемы ў стварэнні БКА пісаў і Яўхім Кіпель:

---

265 Кушаль, Франц. Спробы стварэньня беларускага войска… С. 78.

266 Тамсама.

267 У траўні 1944 г. да Язэпа Гуцькі звярнуліся з паўторнаю прапановай, але ён ізноў катэгарычна адмовіўся.

268 Кушаль, Франц. Спробы стварэньня беларускага войска…С. 76–77.

269 Тамсама.

Я быў на Першай сусветнай вайне, амаль усю грамадзянскую вайну правёў на фронце, ладны час працаваў у штабах, таму вайсковыя справы былі мне блізкімі, і я дзяліўся з Францішкам Кушалем сваімі паглядамі. Мушу адзначыць, Кушаль быў тады цалкам на сваім месцы: ён ведаў, што напачатку Беларускай Краёвай Абароне прыйдзецца трымацца на афіцэрскім складзе вельмі разнашэрсным — і ў сэнсе ваеннай падрыхтоўкі, і ў сэнсе нацыянальнай сведамасці, а таму падрыхтоўка нацыянальнага беларускага афіцэрства — першая задача. Я з ім цалкам згаджаўся і дапамагаў парадамі ў падрыхтоўцы навучальнай праграмы для афіцэрскай школы, якая неўзабаве была адчынена. Мабілізацыя ў БКА прайшла выдатна, хоць перашкоды былі аграмадныя як з боку савецкіх партызанаў, гэтак і ў не меншай меры з боку палякаў: Арміі Краёвай, сукрытых польскіх калабарантаў, дыверсантаў. Уздым беларушчыны быў надзвычайны — фармавалася беларуская нацыянальная армія. Беларускія патрыёты былі з ёю[270].

Першачарговаю справаю была перападрыхтоўка афіцэраў і падафіцэраў. У сакавіку 1944 г. у Мінску адкрылі курс, разлічаны на 50 і 150 чалавек, адпаведна. Курс быў інтэнсіўны і напружаны, заняткі праходзілі цэлы дзень. Кіраўніком з нямецкага боку быў капітан Шнайдэр (Schneider), з беларускага планавалася, што курс узначаліць былы маёр савецкай арміі Бядрыцкі, але той катэгарычна адмовіўся ад прапановы, і кіраўніком стаў Віктар Чабатарэвіч[271].

Франц Кушаль пісаў, што тэрмін мабілізацыі ў БКА трымаўся ў глыбокай таямніцы, аднак тое няпраўда. Пра гэта ведалі акруговыя нямецкія камісары, якія не толькі не перашкаджалі, але часта і дапамагалі справе[272].

Пытанні таксама выклікала падпарадкаванне БКА. Нямецкае кіраўніцтва лічыла, што БЦР павінна толькі правесці мабілізацыю, а далей — кіраваць і распараджацца жаўнерамі будуць яны самі. БЦР і Кушаль, у сваю чаргу, стараліся дамагчыся як мага большай аўтаноміі для БКА. Пасля доўгіх пера-

[270] Кіпель, Яўхім. Эпізоды. Выд. 2-е… С. 214.

[271] *«Гутарка зь Бедрыцкім адбывалася ў габінэце Прэзыдэнта. Калі Прэзыдэнт запрапанаваў Бедрыцкаму становішча камандзіра курсаў, то Бедрыцкі катэгарычна адмовіўся, матывуючы сваю адмову сваёй хваробліваcьцю. Пры гэтым ён літаральна плакаў і гаварыў, што ён так кепска чуецца, што пэўна яшчэ ў гэтым годзе памрэ. Наагул, ён зрабіў на нас уражаньне нейкага духовага і фізычнага ўбоства»* (Кушаль, Франц. Спробы стварэньня беларускага войска… С. 80).

[272] Кушаль, Франц. Спробы стварэньня беларускага войска… С. 78.

моваў паміж прадстаўніком Готбэрга, палітычным рэферэнтам Генеральнага камісарыяту доктарам Маркусам (Marcus) і Радаславам Астроўскім з другога боку пастанавілі, што пры БЦР будзе створаны аддзел БКА, які

> прыгатуе мабілізацыю, правядзе яе й будзе супрацоўнічаць з штабам Готбэрга ў справах прапаганды, гаспадарчых, санітарных і вайсковай падрыхтоўкі. Уся апэрацыйная справа належыць толькі да нямецкага штабу Готбэрга[273].

Кушаль зазначаў, што немцы не мелі намеру дазволіць беларусам стварыць самастойную збройную сілу:

> ім патрэбны былі толькі людзі, якіх беларусы павінны былі ім даць, а кіраваць людзьмі меліся яны самі бяз нашае помачы[274].

6 сакавіка 1944 г. у Мінскім гарадскім тэатры прайшла вялікая акцыя, мэтай якой было падштурхнуць насельніцтва да мабілізацыі. Да прысутных звярнуўся збеглы капітан Чырвонай Арміі Ігар Капор, які нібыта 15 лютага перайшоў лінію фронту (Бярэзінскі ўчастак, служыў у штабе Беларускага фронту). Капор сцвярджаў: калі Чырвоная Армія зойме Беларусь, усё мужчынскае ваенназдольнае насельніцтва накіруюць або на фронт, або ў Сібір. Рэшту людзей адправяць на Данбас, а дзяцей ва ўзросце да 14 гадоў — у дзіцячыя дамы[275].

У гэты ж дзень, 6 сакавіка, Радаслаў Астроўскі выдаў загад аб мабілізацыі ў БКА, прызначыўшы яе на 7 сакавіка. У БКА прызываліся афіцэры і падафіцэры ва ўзросце да 55–57 гадоў, а таксама ўсе мужчыны 1908–1917 і 1921–1924 гадоў нараджэння. Мабілізацыя ўскладалася на намеснікаў БЦР і акруговых начальнікаў БКА. Падкрэслівалася, што праз тры гадзіны пасля абвяшчэння гэтага загаду кожная асоба, якая падпадала пад прызыў, павінна накіравацца на зборны пункт у воласці. З сабою належала ўзяць камплект адзення і абутак, 3 пары бялізны, лыжку, ручнік, асабістыя рэчы. Тым, хто не з’явіўся, пагражала пакаранне смерцю.

Спачатку ў Мінску мабілізацыі не праводзілі — тут было шмат важных для немцаў прадпрыемстваў, і адток працоўных рэсурсаў быў непажаданым. Загад пра мабілізацыю ў сталіцы аддалі толькі 15 красавіка — яе прызначылі

---

[273] Кушаль, Франц. Спробы стварэньня беларускага войска… С. 75.
[274] Тамсама.
[275] Шатанскі плян Сталіна зьнішчыць беларускі народ выкрыты! // Беларуская газэта. 8 сакавіка 1944.

на 18 красавіка і толькі ў адным зборным пункце. Мабілізоўваліся ў сталіцы толькі афіцэры: былой царскай арміі, польскай арміі, пачынаючы ад падхаружых (падпаручнікаў), а таксама былыя савецкія афіцэры[276].

Тэмпы мабілізацыі перавысілі чаканні: на зборныя пункты прыйшлі 40 тыс. чалавек[277], лічба вялікая для таго часу. У шэрагу раёнаў немцы паспрабавалі выкарыстаць тых, хто з'явіўся на мабілізацыйныя пункты, як бясплатную працоўную сілу, а савецкія партызаны актыўна супрацьстаялі працэсу, пабачыўшы ў мабілізацыі небяспеку ва ўплыве на настроі насельніцтва.

> Ужо дзявятага сакавіка пад вечар у большай частцы Беларусі былі расклееныя абвешчаньні Прэзыдэнта БЦР аб мабілізацыі ў БКА. Дзесятага па паўдні прыйшлі ў БЦР першыя весткі аб ходзе мабілізацыі. Весткі гэтыя былі вельмі добрыя. Народ масава пайшоў да прыёмных камісіяў. На колькі народ здаў экзамэн сваёй нацыянальнай і грамадзкай сьведамасьці, сьведчыць беларускае насельніцтва тых раёнаў, якія цалкам былі апанаваныя партызанамі. Улада ані нямецкая, ані беларуская туды не сягалі. Прызыўныя гадавікі маглі зусім бяскарна да прыймовых камісіяў не зьявіцца, аднак усе зьявіліся.
>
> Абвешчаньне мабілізацыі зрабіла на партызанаў вялікае ўражаньне. Не прадугледжваючы падобнай рэчы, партызаны ня мелі адной лініі адносінаў да прызыўнікоў, якія выконвалі загад Прэзыдэнта. Дзеля гэтага захоўваліся яны ў кожнай частцы Беларусі па-рознаму. Так, напрыклад, у некаторых месцах яны павыстаўлялі на дарогах пасты, якія не прапушчалі прызыўнікоў да прыёмных камісіяў, у іншых наадварот, раілі прызыўнікам ісьці і браць зброю ў рукі, каб пасьля павярнуць яе супраць немцаў. З раёнаў, у якіх партызаны патварылі кардоны, не прапушчаючы прызыўнікоў, апошнія пракраліся праз гэтыя кардоны празь лясы, каб зьявіцца перад прыймовай камісіяй. Адзінаццатага сакавіка я наведаў прыймовую камісію Менскага раёну. Вялікая плошча каля будынку, у якім працавала камісія, была застаўлена вазамі, на якіх прызыўнікі чакалі сваёй чаргі. Настрой у людзей быў сьвяточны, усе спадзяваліся, што сапраўды створыцца беларуская збройная сіла, якая адвае лепшае месца ў сьвеце для беларускага народу[278].

[276] Беларуская газэта. 15 красавіка 1944.
[277] Туронак, Юры. Людзі СБМ. Беларусь пад нямецкай акупацыяй… С. 531.
[278] Кушаль, Франц. Спробы стварэньня беларускага войска… С. 81.

Франц Кушаль крыху прыхарошваў сітуацыю: у частцы рэгіёнаў на прызыўныя ўчасткі прыйшлі 60–70%, рэшта не змагла або не захацела, паколькі гэтыя рэгіёны былі апанаваныя партызанкаю. Частка прыбылых потым звольнілася праз стан здароўя ці сямейныя абставіны. Гэтак, у Смалявіцкім павеце агульны лік тых, каго мусілі мабілізаваць, быў роўны 1726, на прызыўныя ўчасткі прыйшлі 1212 чалавек, не з'явіліся 514 (з іх 502 — з прычыны заняцця воласцяў партызанамі, 4 — уцяклі ў партызаны). Але ўрэшце ў БКА прызвалі ўсяго 26% з ліку тых, хто падпадаў пад мабілізацыю: 457 чалавек. Праз сямейныя абставіны (збольшага на ўласнае жаданне) вызвалілі ад службы 534 чалавекі, атрымалі кароткую адтэрміноўку — 74, вызвалілі як працаўнікоў вайсковых аддзелаў ці прадпрыемстваў — 119 чалавек. 28 чалавек пазней вызвалілі, бо прызналі не беларусамі[279].

Несуцяшальныя лічбы былі і ў Заслаўскім павеце. Тут падпадалі пад мабілізацыю 1138 чалавек, але былі прызваныя толькі 251 (22%), вызвалілі праз сямейныя абставіны — 250, праз хваробу — 180, колькасць тых, хто не з'явіўся на прызыўныя ўчасткі, — 402[280].

Тым не менш лік тых, хто прыйшоў на прызыўныя ўчасткі, быў значны, і гэта напалохала мясцовыя нямецкія ўлады, таму частку мабілізаваных вярнулі дахаты. У Баранавіцкай акрузе на мабілізацыйныя пункты прыйшлі 24 422 салдаты, 1386 падафіцэраў і 242 афіцэры, з іх годнымі да вайсковай службы былі прызнаныя 19 252 жаўнеры, 923 падафіцэры і 154 афіцэры, але пасля звальнення засталася толькі траціна: 64 афіцэры, 382 падафіцэры і 6049 стральцоў. Станіслаў Станкевіч, выступаючы на сходзе акруговых намеснікаў БКА і БЦР 28–30 сакавіка 1944 г., зазначыў, што масавае звальненне акруговым камісарам усіх работнікаў нямецкіх установаў адмоўна ўспрымаецца мясцовым насельніцтвам[281].

Былі звальненні і на ўласнае жаданне. У фондзе БКА ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь прыводзяцца дзясяткі, калі не сотні лістоў-просьбаў аб вызваленні ад службы ў БКА, напісаныя або самімі прызыўнікамі Мінскай акругі, або іхнымі роднымі. У большасці выпадкаў сцвярджалася, што прызыўнік — адзіны карміцец у сям'і, і сям'я знаходзіцца на мяжы выжывання. Таксама заяўлялася пра тое, што ў таго ці іншага чалавека

---

[279] НАРБ. Ф. 382. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 217.

[280] НАРБ. Ф. 381. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 246.

[281] Пратакол №1а паседжаньня акруговых намесьнікаў БЦР і акруговых начальнікаў БКА. Менск, 28, 29, 30 сакавіка 1944 г. // За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі… С. 95–98.

старыя бацькі, малыя дзеці, вялікі надзел зямлі. У скрайнім выпадку людзі прасілі пра адтэрміноўку на перыяд веснавой сяўбы. Звярталіся найчасцей да каменданта Мінскай акругі Міхаіла Пугачова (часам яго называлі або галоўнакамандуючым БКА, або нават кіраўніком Беларускай вайсковай акругі, як за часамі СССР). Таксама з просьбай аб дапамозе звярталіся і да прэзідэнта БЦР. У якасці прыкладу падамо ліст, напісаны да Радаслава Астроўскага ад жыхара вёскі Замасточча Казіміра Янкоўскага:

> Згодна з Вашым загадам аб мабілізацыі я быў прызваны на прызыўны пункт, дзе залічаны на службу ў рады БКА. Сям'я мая засталася дома наступная: двое дзяцей нараджэньня 1937 года і 1940 года, жонка хворая, к цяжкой працы ня здольная, на што маецца доктарскае пасьведчаньне. Гаспадарка мае надзел зямлі ў колькасьці 8 га.
>
> Пагэтаму прашу даць мне адтэрміноўку або звольніць ад службы ў БКА, так як у маёй сям'і зусім ня маецца для апрацоўкі зямлі і дагляду гаспадаркі.
>
> Прашу не адмовіць у маёй просьбе[282].

Усяго ў архіўнай справе ахоўваецца пяць просьбаў ад жыхароў Замасточча вызваліць іх ад службы[283].

У Слуцкай акрузе на мабілізацыйныя ўчасткі з'явіліся 7 тыс. чалавек, пасля звальненняў засталося 3982 (5 батальёнаў), у Навагрудскай засталося 2047 чалавек (3 батальёны), у Глыбоцкай — 2800 стральцоў, 13 афіцэраў і 97 падафіцэраў, у Вілейскай — 2330 стральцоў, 60 афіцэраў і 24 падафіцэры, у Мінскай — 2139 стральцоў, 65 афіцэраў і 154 падафіцэры. Па Слонімскай акрузе звестак няма, але мабілізацыя тут была сарваная праз кепскую арганізацыю. Такім чынам, без уліку Слонімскай акругі, у шэрагах БКА пасля адсейвання засталіся 20 206 чалавек. Мабілізацыя скончылася толькі 15 красавіка[284].

Было створана 39 батальёнаў пяхоты:

№1 — Баранавічы, №2 — Глыбокае, №3 — Навагрудак, №4 — Мінск (камандзір — ст. лейтэнант Сяргей Кабарда (з 27 траўня — Васіль Крупенчанка), №5 — Слуцк, №6 — Вілейка (Леанід Шмацін), №7 — Слонім, №8 — Новая Мыш, №9 — Пліса-Лужкі, №10 — Заслаўе (ст. лейтэнант Антон Яноўскі), №11 — Грэск, №12 — Маладзечна (ст. лейтэнант Рамуальд Вальчынскі),

---

282 НАРБ. Ф. 382. Воп. 1. Спр. 2. Т. 2. Арк. 1.
283 НАРБ. Ф. 382. Воп. 1. Спр. 2. Т. 1. Арк. 191.
284 Кушаль, Ф. Спробы арганізацыі беларускага войска… С. 81.

№13 — Івацэвічы, №14 — Любча, №15 — Гарадзішча, №16 — Шаркаўшчына, №17 — Койданава (Іван Бараноўскі), №18 — Капыль, №19 — Ілля (Міхаіл Дубовік), №20 — Быцень, №21 — Карэлічы, №22 — Нясвіж, №23 — Докшыцы, №24 — Рудзенск (Васіль Крупенчанка), №25 — Семежава, №26 — Радашковічы (лейтэнант Васіль Цыбін), №27 — Клецк, №28 — Мёры, №29 — Смалявічы, №30 — Дзярэчын, №31 — Ляхавічы, №32 — Варапаева, №33 — Лагойск (лейтэнант Іван Кактур), №34 — Стоўбцы, №35 — Паставы (Леў Глінскі), №36 — Мір, №37 — Дзісна, №38 — Старобін, №39 — Крывічы (Іван Хрулёў)[285]. Таксама былі створаныя 6 сапёрных батальёнаў.

Кіраўнік БКА на Мінскую акругу Міхаіл Пугачоў распрацаваў падрабязную канцэпцыю ўтварэння батальёнаў. Меркавалася, што кожны батальён будзе складацца з чатырох ротаў і налічваць 679 чалавек (21 афіцэр, 80 падафіцэраў, 578 шараговых). Кожная рота (172 чалавекі) мелася складацца з трох звязаў (узводаў), кожны па 50 чалавек.

У ідэале БКА налічвала б больш за 26 тыс. чалавек, але пачаліся звальненні «спецыялістаў» і «сямейных», і колькасць службоўцаў у батальёне часта не перавышала 500 чалавек (максімум 63%). У Заслаўскім батальёне БКА службу неслі ўсяго 284 чалавекі (42%), прычым мясцовых было 225, а 59 былі камандзіраваныя ў падмогу з Мінску[286].

Расклад дня жаўнера БКА на перыяд ягонага навучання службе ўсталёўваўся такі:

Пад’ём: 6:00
Фіззарадка 6:00–6:15
Туалет: 6:20–6:40
Паверка і сьпяваньне песень: 6:40–7:00
Сьнеданьне: 7:00–8:00
Заняткі: 8:00–12:00
Абед і адпачынак 12:00–14:00
Заняткі: 14:00–18:00
Вячэра: 18:00–19:00
Свабодная гадзіна: 19:00–20:00
Паверка, зачытка загадаў, пяяньне песень 20:40–21:00
Адбой 21:00[287]

---

[285] Литвин, Алексей. Белорусская Краёвая Оборона // Літвін, Алексей. Акупацыя Беларусі (1941–1944): пытанні супраціву і калабарацыі. Мінск, 1999. С. 157–195.

[286] НАРБ. Ф. 382. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 2.

[287] НАРБ. Ф. 382. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 18.

Быў таксама складзены дзённы рацыён жаўнера БКА, прычым падкрэслівалася, што ён павінен быць не меншы, чым у паліцыі: хлеба — 700 г, мяса — 70 г, бульбы — 1000 г, тлушчу — 100 г, каўбасы або кансервы — 35 г, солі — 15 г, сухой гародніны — 40 г, крупаў — 50 г, гароху — 50 г, кавы — 9 г[288].

14 сакавіка 1944 г. Франц Кушаль выдаў загад аб прызнанні ў БКА дня 25 сакавіка нацыянальным святам:

> а) Дзень 25 Сакавіка вольным ад заняткаў,
> б) асьветавыя афіцэры правядуць у паветавых аддзелах гутаркі й даклады на тэмы, зьвязаныя з гадаўшчынай абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі,
> в) кашары і будынкі, занятыя жаўнерамі БКА, упрыгожыць нацыянальнымі сьцягамі,
> г) арганізаваць у паразуменьні зь мясцовымі цывільнымі ўладамі тэатралізаваныя й кіновыя паказы, канцэрты й выступленьні мясцовых гурткоў самадзейнасьці,
> д) завесіць выкананьне менш важных пакараньняў для жаўнераў[289].

Урачыстая прысяга жаўнераў БКА прайшла 25–26 сакавіка. У Мінску яна адбылася 26 сакавіка на пляцы Волі. Прысягу прымалі курсанты афіцэрскай і падафіцэрскай школаў у прысутнасці Курта фон Готбэрга, Радаслава Астроўскага, адміністрацыі, нямецкіх чыноўнікаў і насельніцтва[290].

Галаўным болем кіраўніцтва БКА і БЦР быў недахоп зброі ды абмундзіравання. БЦР памылкова ўзяла на сябе задачу забяспечыць абмундзіраванне, але пралічылася, не ацаніўшы ні выдаткаў, ні магчымасцяў. Зброяй БКА мусілі забяспечыць немцы, а з гэтым ва ўмовах наступу Чырвонай Арміі былі сур’ёзныя праблемы. Адну вінтоўку дзялілі 5–7 чалавек. З батальёну ў Смалявічах пісалі:

> стан вопраткі і абутку зусім дрэнны і патрабуе хуткай рэалізацыі. Каля 40% жаўнераў зусім босыя, што зьяўляецца асноўнай перашкодай у правядзеньні заняткаў і засваеньні праграмнага матэрыялу[291].

---

288 НАРБ. Ф. 382. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 38.
289 НАРБ. Ф. 382. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 31.
290 Касяк, Іван. Другая сусьветная вайна і паваенны час… С. 319.
291 НАРБ. Ф. 382. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 223.

Аналагічныя звесткі паступалі і з іншых батальёнаў. Не хапала зброі: гэтак, Койданаўскі батальён быў забяспечаны вінтоўкамі толькі на 20%, палова жаўнераў жыла ў сваіх хатах. Камандзір батальёну пісаў:

> Ва ўсіх прызваных людзей прыдушаны настрой, амаль усе думаюць, што яны будуць пасланыя на фронт. Многія з прызваных маральна разложаны, сталі п’янстваваць[292].

Настрой быў настолькі прыдушаны, што сябры БЦР не раз ставілі пытанне пра роспуск БКА. Франц Кушаль гаварыў пра гэта на сустрэчы з Готбэргам у красавіку, генеральны камісар паабяцаў, што пытанне з амуніцыяй і ўзбраеннем хутка вырашыцца.

12 траўня Радаслаў Астроўскі чарговы раз загаварыў аб роспуску БКА. Гэтаму запярэчыў намеснік БЦР у Вілейскай акрузе Язэп Малецкі, які заявіў, што нават змяншэнне аддзелаў падарве народны давер як да БКА, гэтак і да БЦР агулам[293].

Пастанавілі афіцыйнага роспуску БКА не праводзіць, але зменшыць яе склад шляхам пазбаўлення «непатрэбнага элементу» (слабая нацыянальная свядомасць, хваробы, сямейнае становішча). Планавалася для падрыхтоўкі афіцэрскіх кадраў стварыць у Мінску 4–6-месячную афіцэрскую школу, правесці перападрыхтоўку былых афіцэраў, а для навучання падафіцэрскіх кадраў стварыць у кожнай акрузе школьныя батальёны[294].

Неўзабаве батальёны пачалі атрымліваць зброю. Але пастаўкі былі нецэнтралізаваныя, вінтоўкі былі розныя: нямецкія, французскія, польскія, расійскія, што таксама значна ўскладняла агульнае навучанне.

Пытанне з абмундзіраваннем у выніку гэтак і не развязалася. Тыповым выглядам жаўнера БКА быў разуты, кепска апрануты стралец. Гэта не метафара, такое пабачыў Франц Кушаль падчас інспектавання батальёну ў Капылі:

> У Капылі, Слуцкай акрузе, у даждлівы і вельмі халодны дзень я засьпеў жаўнераў БКА на пастах. Яны былі босыя, стаялі вышэй косткаў у халодным балоце па некалькі гадзін бязь зьмены. Нягледзячы на такія ўмовы, жаўнеры БКА вельмі сумленна выконвалі свае

---

292 НАРБ. Ф. 382. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 231, 227.

293 Пратакол паседжаньня акруговых намесьнікаў, начальнікаў БКА з дня 12 і 13 траўня 1944 г. // За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі… С. 107.

294 За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі… С. 108.

абавязкі. Да канца мая 1944 г. былі абмундзіраваныя цалкам толькі сапёрныя батальёны, але зброі яны так і не пабачылі[295].

Адзінае, што магла зрабіць у такіх умовах БЦР, гэта дапамагчы жаўнерам і іхным сем'ям, якія апынуліся пад жорсткім партызанскім прэсінгам. 25 траўня 1944 г. Радаслаў Астроўскі выдаў пастанову аб арганізацыі акруговых фондаў дапамогі сем'ям жаўнераў БКА. У фонды пералічвалася з Мінску па 5 тыс. РМ. Меркавалася, што насельніцтва таксама будзе рабіць ахвяраванні. Але выплаты былі нязначныя, памер аднаразовай дапамогі кожнай сям'і не перавышаў 300 РМ. Такім чынам, у кожнай акрузе маглі падтрымаць 15–20 сем'яў[296].

10 чэрвеня 1944 г. з'явілася пастанова аб знаках адрознення для дактароў БКА. Батальённаму доктару прысвойвалася званне старшага лейтэнанта, што азначала павышэнне заробку, акруговаму — капітана, галоўнаму доктару (лекару) БКА — маёра, дырэктару (доктару акруговага шпіталю БКА) — капітана, іншым дактарам акруговага шпіталю — старшага лейтэнанта, іншым лекарам шпіталю — лейтэнанта. Усе дактары на пагонах павінны былі насіць спецыяльную адзнаку — вужаку[297].

Пытанне ўзбраення гэтак і не вырашылася канчаткова да канца чэрвеня 1944 г. Толькі лічаныя батальёны бралі ўдзел у баях з партызанамі. Праз недахоп зброі ў Глыбоцкай акрузе два батальёны былі разбітыя, рэшта салдатаў разбеглася[298]. У Шаркаўшчыне савецкія партызаны напалі на казармы, дзе размяшчаўся батальён, спалілі іх, а жаўнераў разагналі. У Паставах падраздзяленне БКА перайшло на бок польскіх партызанаў[299].

Былі і факты паспяховага супрацьстаяння БКА савецкім партызанам, напрыклад, у баях пад Бягомлем і Плешчаніцамі[300]. З канца траўня 1944 г. немцы пачалі выкарыстоўваць БКА для большых аперацыяў. 15-ты батальён, які ўзначаліў Усевалад Родзька, узяў удзел у зачыстцы ад партызанаў ваколіцаў Лепелю і Барысава. За гэтую аперацыю Родзька атрымаў ад нямецкага камандавання Жалезны Крыж — высокую нямецкую ўзнагароду. 34-ты

---

[295] Кушаль, Франц. Спробы стварэньня беларускага войска… С. 88.

[296] Пастанова №38 Прэзыдэнта БЦР // За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі… С. 111.

[297] Пастанова №41 Прэзыдыюма БЦР, ад 10 чэрвеня 1944 г. // За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі… С. 115.

[298] Касяк, Іван. Другая сусьветная вайна і паваенны час… С. 319.

[299] Тамсама.

[300] Тамсама. С. 320.

батальён у чэрвені 1944 г. удзельнічаў у акцыі супраць партызанаў на Слонімшчыне, а навагрудскі батальён БКА пад кіраўніцтвам Барыса Рагулі — у супрацьпартызанскім выступе на Глыбоччыне[301].

## АФІЦЭРСКІЯ КУРСЫ І ШКОЛА БКА

Месячны курс навучання, у якім узялі ўдзел каля 50 афіцэраў і 200 падафіцэраў, быў адкрыты ў сярэдзіне сакавіка 1944 г. Наступны пачаўся ў канцы красавіка. Усяго навучанне будучых пехацінцаў, якое ішло па-беларуску, прайшлі каля 400 чалавек. На курсах займаліся шыхтоваю падрыхтоўкаю, праводзіліся заняткі па тактыцы вядзення баявых дзеянняў — як асобнага салдата, гэтак і батальёну.

У траўні 1944 г. пастанавілі адкрыць пашыраны курс, расцягнуўшы яго на чатыры месяцы і назваўшы Афіцэрскаю школаю. Планавалася, што туды будуць прымаць беларусаў 17–27 гадоў з адукацыяй, не ніжэйшай за 7 класаў, фізічна здольных для вайсковай службы, якія раней не былі караныя за крымінальныя злачынствы. Набор ішоў да пачатку чэрвеня, а потым быў працягнуты да 14 чэрвеня[302]. У школу, разлічаную на 450 чалавек, запісаліся толькі 280 навучэнцаў[303].

Кіраўнік школы Віктар Чабатарэвіч пісаў, што да афіцыйнага адкрыцця школы справа так і не дайшла, адкрыццё неаднаразова адкладалася, у тым ліку і з прычыны адсутнасці неабходнай колькасці кандыдатаў ды незацікаўленасці немцаў.

> Зь вялікай радасьцяй я прыняўся за падрыхтоўку да адчыненьня афіцэрскай школы юнакоў. Я закапаўся па вушы ў працы, працуючы амаль што 24 гадзіны ў суткі, прыгатаўляючы пляцы заняткаў, стукаючы да розных установаў, каб сабраць усё тое, што патрэбна для

---

[301] Касяк, Іван. Другая сусьветная вайна і паваенны час… С. 320–322.

[302] НАРБ. Ф. 382. Воп. 1. Спр. 2. Т. 1. Арк. 109.

[303] Франц Кушаль пісаў: *«Атрымаўшы згоду ген. Готбэрга, БЦР правяла адпаведную прапаганду, і роўналежна з трэцім афіцэрскім курсам у другой палове чэрвеня 1944 г. зьехаліся 280 кандыдатаў у афіцэрскую школу. Гэта былі маладыя хлопцы, у бальшыні з закончанай сярэдняй асьветай. Курс навукі прадугледжваўся 6-месячны, пасьля чаго кандыдатам мела быць нададзеная першая афіцэрская ранга. Маладыя кандыдаты зь вялікай верай і запалам узяліся за навуку. На жаль, ня суджана было гэтым маладым беларускім патрыётам атрымаць афіцэрскія рангі беларускага войска. 28 чэрвеня бальшавіцкая армія пачала набліжацца да Менску»* (Кушаль, Франц. Спробы стварэньня беларускага войска… С. 85–86).

ўтрыманьня школы, як вопратка, харчаваньне, зброя, мэбля і г. д. Мы ўжо мелі свой інструктарскі штаб і гатовы былі падзякаваць немцам за іх услугі. Афіцэрская школа мела быць адкрытай у пачатку чэрвеня 1944 г. Паступленьне ў школу было на прынцыпе самаахвотнасьці. Мы мелі запаўненьне ад беларускіх раённых уладаў, што будзе вялікі наплыў кандыдатаў. Аднак аказалася, што адкрыць школу ў пачатках чэрвеня ня ўдасца зь недахопу кандыдатаў. Школа была падрыхтавана на 450 чалавек, а на прызначаны тэрмін прыбыло некалькі дзясяткаў юнакоў. Прыйшлося чакаць. Аказалася тое, што беларускі народ стаў прадбачыць хуткі наступ бальшавікоў, і людзі не хацелі ўцягвацца, паводле іх паглядаў, у смяртэльную акцыю. Хутка сытуацыя выкрышталізавалася, і здэцыдаваныя на адступленьне беларусы, каб не астацца пад бальшавікамі, давалі дазвол сваім сынам паступаць у афіцэрскую школу ў Менску, а сярод іх знайшлося многа такіх, якія не былі зарыентаваныя ў сытуацыі наагул, яны сьледавалі прыкладу іншых. Прызнаюся, што я й сам у тую пару не арыентаваўся ў сытуацыі. Таму за некалькі дзён да адступленьня адаслаў сям'ю зь Менску на вёску. Як бы ні было, паволі сталі зьяжджацца ў школу юнакі. Я аддаў загад, каб у міжчасе, пакуль набярэцца патрэбная колькасьць юнакоў, камандзіры роты ўводзілі рэкрутаў у казарменнае жыцьцё, праводзілі выхаваўчыя й агульнаадукацыйныя гутаркі, вучылі беларускія вайсковыя песьні. На рэгулярныя заняткі трэба было чакаць афіцыйнага адчыненьня. Сам я быў заняты па вушы. І як помню, толькі адзін раз зрабіў гутарку зь юнакамі з мэтай прадставіцца ім. Наагул усё ішло сьлемазарна, была поўная неразьбярыха, чаго я не любіў зносіць. Мне было прыказана нічога са школьнікамі не распачынаць, а немцы радзілі мне наогул не паказвацца на школьным пляцы. Чаму, я й сягоньня толкам гэтага ня знаю. Магу толькі здагадвацца па пазьнейшых падзеях. І так яно дайшло да канца чэрвеня, да Другога Ўсебеларускага Кангрэсу. Увечары таго самага дня, 27 чэрвеня, калі Кангрэс скончыў нарады, БЦР і Галоўнае камандаваньне атрымалі загад ад адступленьні. Мяне асабіста ніхто ад гэтым не паінфармаваў і ніякіх інструкцыяў мне ня даў. Ажно забег да мяне інф. Комар, тагдышні бургомістар гораду Менску, і сказаў, што ён зьбіраецца на выезд. Я хутчэй падаўся ў школу, каб ратаваць сытуацыю, бо чуў, як усё пачало лопацца. Я стаў прыгатоўваць усё к адступленьню школы. Многа ўначы зрабіць ня можна было, тым больш што былі паветраныя алярмы і «крыйся ў акопах». Ужо выразна было чуваць бальшавіцкую артылерыйскую кананаду, а ў

> паветры разьведвальныя самалёты і ўсьлед за імі цяжкія бамбардзіроўшчыкі зь іх зьнішчальным агнём. У такі час няма нічога дзіўнага, калі чалавек побач выкананьня свайго абавязку думае й аб сваіх найбліжэйшых, аб сваёй сям'і[304].

Падчас Другога Усебеларускага кангрэсу курсанты бралі ўдзел у ахове Гарадскога тэатру. Кіраўнік жа школы Віктар Чабатарэвіч звярнуўся да дэлегатаў з прывітальным словам[305].

28 чэрвеня школа пачала эвакуацыю. Прадугледжвалася, што курсанты будуць адступаць у кірунку Гродна, але імклівае набліжэнне Чырвонай Арміі зламала планы. Курсанты, дакладней, толькі іх палова, праз Маладзечна выехалі ў Вільню: частка разбеглася па дамах[306].

Пра злыбеды эвакуацыі пакінуў успаміны і Віктар Чабатарэвіч, які ў першыя дні вымушаны быў выехаць на Стаўбцоўшчыну забраць сям'ю, а потым праз Баранавічы і Ліду 2 ліпеня дабраўся да Вільні.

> 2 ліпеня мы былі ў Вільні. Там засталі школу, якая прыбыла на дзень раней за нас, хоць і не ў камплекце. Яна страшна парадзела. Сумнае ўражаньне зрабіла на мяне школа. Не гаворачы аб стомленасьці й поўнай дэзарганізацыі, яна не рабіла ўражаньне вайсковае адзінкі. Гэта былі адступаючыя бежанцы. Капітан Мікула й іншыя далажылі мне, што ў тракце маршу многія школьнікі й афіцэры пакінулі школу. Некаторыя пакідалі аружжа і пайшлі дамоў, а некаторыя далучыліся да партызанаў. Горш за ўсё, што адыходзячыя да партызанаў застрэлілі нашых найлепшых інструктараў. Пад канец апошняга курсу стала вядома, што партызаны залажылі ячэйку з мэтай зьнішчыць лепшых інструктараў. Але я ніколі не спадзяваўся, што яны пракраліся ў неадкрытую школу. Сьмерць нашых калегаў зрабіла на мяне вельмі прыгнятаючае ўражаньне. Толькі менш чым палова школьнікаў і чвэрць каманднага саставу сабралася ў Вільні, каб прадаўжаць адыход. Школа фактычна перастала існаваць, і апошнія надзеі на яе адкрыцьцё зьніклі[307].

---

304 Ліст Віктара Чабатарэвіча да Кастуся Акулы ад 14 снежня 1962 г. // Юрэвіч, Лявон. Шматгалосы эпісталярыум… С. 260–262.

305 В. Д. З успамінаў аб Беларускай ахвіцэрскай школе // Беларуская моладзь. №20. Нью-Ёрк, 1964. С. 6–17; Ліст Віктара Чабатарэвіча да Кастуся Акулы ад 14 снежня 1962 г. // Юрэвіч, Лявон. Шматгалосы эпісталярыум… С. 264.

306 В. Д. З успамінаў аб Беларускай ахвіцэрскай школе…

307 Ліст Віктара Чабатарэвіча да Кастуся Акулы ад 14 снежня 1962 г. // Юрэвіч, Лявон. Шматгалосы эпісталярыум… С. 266.

У Вільні Чабатарэвіч пабачыўся з Радаславам Астроўскім і настаяў на фактычнай ліквідацыі школы. Рэшту курсантаў аб’ядналі ў школьную роту, якую пазней далучылі да г. зв. брыгады нямецкага генерала Зыглінга (Siegling), які падзяліў яе на асобныя пададдзелы[308]. Разам з тым у часе эвакуацыі ніхто не замінаў *«уз’яднанню курсантаў з бацькамі і сваякамі»*.

Не найлепшы лёс быў і аддзелаў БКА ды Самаахловы, якія пераважна засталіся ў Беларусі. Эвакуявалася толькі нязначная частка. Выезд з Нясвіжу апісаў у сваіх успамінах Аляксей Вініцкі:

> Пад вечар 30-га чэрвеня я прыйшоў на пляц каля казармаў, у якіх кватэраваў Беларускі батальён Самаахловы. Мне паабяцалі даць калёсы на выезд у няведамае. Калёсаў я тут не атрымаў, але прыпадкам быў сьведкам дэмабілізацыі батальёну, які налічваў каля 700 жаўнераў. Перад фронтам выстраеных ваякаў стаў камандзер батальёну. Пасьля кароткай інфармацыі аб існаваўшай сытуацыі на фроньце ён скончыў гутарку гэтак: «Хто паедзе з намі, дык астацца на месцы ў шэрагу, а рэшта можа ісьці дамоў».
>
> Раптам жаўнерская маса ўзварухнулася й рынула ў казармы, каб забраць там свае рэчы й бегчы дамоў. На месцы ў шэрагу засталося 18 ваякаў, пераважна падахвіцэраў, а назаўтра на выезд зьявілася ўжо меншая колькасьць. Я стаяў, глядзеў, слухаў і не разумеў, чаму так сталася й гэтак проста, за пару мінутаў быў зьліквідаваны батальён як вайсковая адзінка…[309]

Цягам першай паловы 1944 г. склалася цікавая сітуацыя. З аднаго боку, насельніцтва, якое не трапіла пад савецкую прапаганду, вітала стварэнне БКА, што мелася абараніць яго ад партызанскіх рабункаў і гвалту. З іншага боку, удзельнічаць у гэтай абароне людзі не жадалі. Яны спадзяваліся, што гэта будзе зроблена іншымі рукамі. Да пачатку 1944 г. насельніцтва расчаравалася ў немцах, і пасля шматлікіх рэквізіцыяў, карных акцыяў і гвалту з вялікім недаверам ставіліся да ўсіх новых ініцыятываў, нават калі вонкава яны сыходзілі ад «новай беларускай улады».

Магчыма, жыхары Беларусі сапраўды спачатку паверылі ў нацыянальную беларускую ўладу, але сітуацыя на месцах пераконвала іх у тым, што рэальную ўладу ў павеце мае нямецкая камендатура ці паліцэйскі гарнізон, а

---

[308] Кушаль, Франц. Спробы стварэньня беларускага войска… С. 86.

[309] Вініцкі, Алесь. Матар’ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939–1951 гг. Ч. I… С. 49–50.

беларусы ў найлепшым выпадку здольныя абараніць ад нямецкай самаволі. Пра гэтыя ідэалістычныя шмат у чым настроі насельніцтва і нежаданне ўжо ўмешвацца ў канфлікт двух бакоў — нацыстаў і Саветаў — пісаў у сваёй справаздачы ў красавіку 1944 г. старшыня Койданаўскага павету:

> Настрой насельніцтва па Койданаўскаму павету зводзіцца да таго, каб у скорым настала тая пара, у якой можна было б вольна жыць і вольна працаваць на собскіх палёх, без усялякага ўмяшацельства пабочнай, нікому не патрэбнай прыгонкі.
>
> Належыць адзначыць той недахоп, які маецца ў нашага насельніцтва, што яно цяжкае на пад'ём для аховы сваіх інтарэсаў, і яно сваю ахову ўскладае на каго-та другога. Гэта сьцьвярджаецца тым, што праведзеная мабілізацыя па загаду прэзыдэнта Астроўскага хаця і прайшла па яўцы здавальняюча, але пасьля прызваныя амаль кажны падаў заяву аб звальненьні з шэрагаў БКА, выдумваючы ўсемагчымыя прычыны, па якіх ён ня можа заставацца ў іх шэрагах...[310]

У лісце ад 5 студзеня 1959 г. да Кастуся Акулы, які тады пісаў раман «Змагарныя дарогі», Франц Кушаль зазначаў поўную адсутнасць самастойнасці БКА і невялікія заслугі.

> Вялікім мінусам БКА было тое, што БКА было падпарадкавана не нямецкаму войску, а войскам СС, і таму немцы ўважалі нас за дапамогавую сілу СС[311]. Аб гэтым факце ў гутарках з амэрыканцамі аб нашай збройнай сіле я замоўчваю. Не ўжываю таксама назовы «СС», калі даводзіцца пісаць пра БКА нават у нашай прэсе. Усе камандзіры БКА, пачынаючы ад галоўнакамандуючага, былі цалкам пад нямецкім кантролем. Я, прыкладам, быў падпарадкаваны начальніку СС паліцыі Гэнэральнага камісарыяту Беларусі гэн. Готбэргу. Наш галоў-

---

[310] НАРБ. Ф. 400. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 7.

[311] Кушаль у адным з лістоў да К. Акулы патлумачыў розніцу паміж падпарадкаваннем Вермахту і СС: *«Нямецкія ўзброеныя сілы ў часе Другой сусьветнай вайны дзяліліся на дзьве групы. Першую — Вэрмахт, нармальную армію, і другую — г. зв. «Вафэн СС». Галоўнакамандуючым Вафэн СС быў Гімлер, усяго там было да 37 дывізій [у Вермахце на 22.06.1941 — 103 дывізіі. — А. Г.]. Розьнілася Вафэн СС ад Вэрхмату тым, што гэта было войска выключна ў руках партыйных нацыстаў. Напачатку вайны ў дывізіі Вафэн СС прымаліся людзі выключна нардысцкага паходжаньня. Дывізіі гэтыя ўжываліся на фроньце побач з Вэрмахтам, а апрача гэтага ўжываліся да розных заданьняў спэцыяльных, як ахова канцлягераў, ліквідацыя яўрэяў, змаганьне з партызанамі і г. д.»* (Ліст Ф. Кушаля да К. Акулы ад 29 верасня 1958 г. // Юрэвіч, Лявон. Шматгалосы эпісталярыум… С. 168–169).

ны штаб быў таксама залежны ад штабу гэн. Готбэрга. Усе загады, якія наш штаб пасылаў у батальёны, праходзілі праз гэты готбэргаўскі штаб. Ясна, што гэткая залежнасьць нашая ад немцаў не дала магчымасьці беларускаму штабу выявіць сваю собскую ініцыятыву, і гэта адʼемна адбівалася на ўсіх нашых плянах. Асабліва адчувалася гэта ў часе адступленьняў немцаў зь Беларусі. Афіцэрскі склад БКА быў вельмі слабы з гледзішча фаховае веды, бальшыня нашых афіцэраў былі з падафіцэраў і атрымалі афіцэрскія рангі праз штаб БКА ад Прэзыдэнта БЦР. Некаторыя з гэтых афіцэраў з падафіцэраў выявілі камандзірскія здольнасьці й маглі б у будучыні сыграць вялікую ролю ў нашай збройнай сіле. Роля БКА ў нашай вонкавай палітыцы была невялікая, але гэта сталася ня з нашае віны, а толькі зь віны немцаў, якія спэцыяльна нам баранілі да гэтага кожнае магчымасьці. Затое БКА сыграла вялізную ролю ў справе прапаганды беларускае вайсковасьці. Масавы беларускі вайсковы рух, які ахапіў усю Беларусь у часе мабілізацыі ў БКА, не астанецца бязь сьледу ў нашай гісторыі. Ад БКА нарадзілася беларуская вайсковая традыцыя. Нашая моладзь да сяньня пяе ўсюды з гордасьцяй беларускія вайсковыя песьні, якія паўсталі ў радох БКА і якіх да гэтага ў нас зусім не было. У гэтым, бясспрэчна, вялікая заслуга БКА[312].

[312] Ліст Франца Кушаля да Кастуся Акулы ад 5 студзеня 1959 г. // Юрэвіч, Лявон. Шматгалосы эпісталярыум… С. 183–184.

# БЕЛАРУСКАЯ ЦЭНТРАЛЬНАЯ РАДА АД ЭВАКУАЦЫІ І ДА КАНЦА ВАЙНЫ (ЛІПЕНЬ 1944 — ВЯСНА 1945)

## ЭВАКУАЦЫЯ

Загад эвакуявацца з Мінску абвесцілі 28 чэрвеня, на наступны дзень пасля Другога Усебеларускага кангрэсу. Месцам размяшчэння вызначылі Кёнігсберг.

Раніцаю 29 чэрвеня быў прызначаны збор супрацоўнікаў з сем'ямі (таксама дазвалялася выязджаць і іншым людзям) у сядзібе БЦР.

Нельга сказаць, што эвакуацыя была нечым нечаканым. За два тыдні да гэтага, у сярэдзіне чэрвеня 1944 г., старшыня гораду Анатоль Комар звярнуўся да мінчанаў з заклікам выйсці на абарончаыя працы, і на заклік добраахвотна адгукнуліся 8 тыс. чалавек[313]. Аднак рабіліся захады і для прадухілення перадэвакуацыйнага псіхозу. У траўні — чэрвені ў Мінску праводзіліся розныя спаборніцтвы: на найлепшага садоўніка і агародніка, найлепшы дом. Пусцілі трамвай, адчынілі музычную школу. Часам шараговаму жыхару здавалася, што эвакуацыя калі і будзе, дык не цяпер. Разыходзіліся таксама нямецкія чуткі пра тое, што савецкі ўдар будзе скіраваны найперш па Украіне, а беларускі плацдарм немцы не толькі захаваюць, але ён стане базаю для хуткага ўдару па Маскве[314].

22 чэрвеня 1944 г., у г. зв. «Дзень вызвалення» і першую гадавіну СБМ, у Мінску адбыліся вялікія ўрачыстасці. Яны павінны былі сведчыць пра адно: моц і непарушнасць нямецкай улады і беларускай адміністрацыі пры ёй. Прайшоў вайсковы парад, у якім удзельнічалі часткі вермахту, Краёвай абароны, курсанты Афіцэрскай школы; парад юнакоў і юначак СБМ,

---

[313] Кнатько, Г. Последняя неделя оккупации глазами комиссара Беккера — шефа немецкой городской администрации Минска // Народная газета. 28–30 чэрвеня 1997.

[314] Тамсама.

дэманстрацыя працоўных. Але ўжо праз паўтара тыдня ў горад увайшла Чырвоная Армія.

Цывільны камісар Мінску Бэкер 29 чэрвеня 1944 г. выдаў 5 тыс. ахоўных лістоў на эвакуацыю мясцовым супрацоўнікам нямецкіх установаў і прадпрыемстваў, а супрацоўнікам БЦР быў выдзелены спецыяльны цягнік. Ноч перад эвакуацыяй прайшла ў актавай зале сядзібы БЦР.

Пра характар і калізіі выезду з Мінску падрабязныя і цікавыя ўспаміны пакінуў Леанід Галяк:

> Разлажыліся да спаньня на падлозе ў холе *[сядзібы БЦР. — А. Г.]*. Спаньня, праўда, многа не было, бо па-першае й непрывычна спаць на падлозе, а па-другое, усю ноч лётала некалькі савецкіх самалётаў, дзесьці кідалі па бомбе, а па іх стралялі, і гэтак было да расьсьвету. [...] Каля дзясятай гадзіны пачалі перавозіць нас да цягніка, які стаяў у полі з усходняга боку Менску. [...] Такім чынам пагрузка ў цягнік была толькі раніцай 29 чэрвеня 1944 году. У наш вагон, гэта значыць той вагон, куды мы ўлезьлі нашым калгасам (Багдановіч, Шукелойць, Шантыр, мая жонка, сястра й я), пагрузіліся яшчэ трое Кушаляў, трое Кіпеляў, сям'я Шчагловых (Куліковічаў), трое Савёнкаў, цётка Барзабагатая, Ліманоўскі і яшчэ пара незнаёмых.
>
> На месцы пагрузкі прастаялі амаль да вечара, а тады эшалён паволі пасунуўся. Эшалён складаўся з уцекачоў, як мы, юнакоў, трохі вайсковых на плятформах з аўтамі. Усе выгадна разлажыліся на падлозе. Эшалён мінуў Менскую станцыю, дзе на пэроне валялася многа валізкаў і раскіданых рэчаў. Выглядала так, што людзі пакідалі рэчы, сядаючы ў цягнік. Пераехалі пасажырскую станцыю й затрымаліся на Таварнай на цэлую ноч. Таварная станцыя была перапоўненая эшалёнамі. Уся ноч была неспакойная, бо некалькі разоў бамбілі й выглядала, што паважней, як да гэтага часу. Раніцай 30 чэрвеня, відаць, дайшла чарга й на наш эшалён, і мы паволі пасунуліся...[315]

Цікава паглядзець на эвакуацыю вачыма мінскага маладзёна Дзмітрыя Сямёнава (у 1944 г. яму было 18 гадоў), які скіраваўся на Захад без бацькоў. Дарэчы, аб прабегу Кангрэсу ён напісаў адным словам: «Кангрэс».

> *28 чэрвеня 1944. Серада.*
>
> З тае прычыны, што я сказаў у Штабе, што буду заняты на Кангрэсе 3 дні, на працу не пайшоў. Дагаварыўся з Шукелойцам, што прыду

[315] Галяк, Леанід. Успаміны. Кн. 1… С. 181.

ў Музэй. Ня памятаю чаму, але прыйшоў запозна. Шукелойца не было, і дзядзька Пішлевіч сказаў мне, што той чакае мяне ў Радзе. Я — у Раду. Знайшоў толькі Калечыца, які сказаў мне, каб я чакаў А. А. *[Шукелойця. — А. Г.]*. Настрой у Радзе так сабе. Фронт блізка. Ужо каторы дзень чуваць гарматную страляніну. Стала ведама аб раптоўным начным ад'езьдзе Гэнэральнага Камісарыяту. Над сквэрам лётае попел і кавалкі паперы, рэшткі спаленых справаў.

Урэшце дачакаўся А. А. Ён даў мне ключы, а сам пабег недзе яшчэ. Я прыйшоў у Музэй і пачаў пароцца ў падвале. На дапамогу мне зьявіўся скора і А. А. Мы шукалі матар'ялу, каб упакаваць іконы і інш. каштоўнасьці і перадаць іх вільненскім дэлегатам *[той, хто прыехаў на Другі Усебеларускі кангрэс з Вільні. — А. Г.]*.

Празь некаторы час Шукелойць ізноў пабег у Раду. Прыляцеў надта скора назад і агарошыў мяне эвакуацыяй. Прэзыдэнт, сабраўшы ўсіх працаўнікоў, абвесьціў, што кожны павінен ісьці зараз-жа дамоў, узяць самае каштоўнае і неабходнае і сяброў сям'і і зьбірацца як мага хутчэй у памешканьне Рады.

Мы рвалі і мяталі. Бедныя гобэлены! Спачатку сьцізорыкам, а потым проста так — рукамі мы выдзіралі іх з рамаў. Манэты ссыпалі ў адну кучу, у драціну, і абвязвалі нейкай анучай. Іконы насьпех закруцілі ў жыдоўскія хламіды і разьбегліся па дамам. Я пайшоў, вярней, паляцеў да бацькі. Ён крыху ўстрывожана выслухаў мае навіны і параіў зьбегаць яшчэ да мамы, узяць яе і ісьці дадому. Ён тым часам звольніцца, і будзем разам пакавацца, каб ехаць з БЦР.

У Гарадзкім Камісарыяце — пустата, цішыня і ўстрывожаныя твары, чакаючыя якіх-небудзь навін.

Маці зь сьлязьмі ўваччу разьвіталася з супрацоўнікамі, і мы выйшлі на вуліцу, засьцеленую пеляной сонца-сьвету.

Ужо па дарозе мама пачала адгаворваць мяне ад якой бы ні было паездкі і прасіла застацца тут. Я як быў паставіўшы на сваім, так і датрываў да канца — я еду.

Пакінуўшы маці на рагу Трубнай, завярнуў у Штаб, каб павідацца з Дзімай і паставіць у вядомасьць маё начальства. […]

Дома ішла ўжо ўпакоўка. Маці, плачучы горка, укладала мой рукзак. Бацька, як я бачу, паехаў-бы з прыемнасьцю, але маці… […]

Потым былі яшчэ раз у Музэі з Антонам Антонавічам. Я прыпадкам забыўся там свайго нажа, які дагэтуль там. Узялі запакаванае і пацягнулі ў Раду. Крыху ўсё ўпарадкавалі, і толькі рушыў бежкі дадому, як чую, Шукелойць крычыць: «Дзіма!» Я абярнуўся, ажно бацька

стаіць з пакункам у руках, і зь ім дзядзька з чамаданам. Бацька, глытаючы сьлёзы, расказаў, што маці плача і нізавошта ня хоча ехаць. Ён-жа прынёс мне паліто, марынарку і боты, загорнутыя ў коўдру.

Яшчэ адно разьвітаньне — з бацькам. Аддаўшы мяне пад апеку Антона Антонавіча, бацька пайшоў хуценька дамоў, не азіраючыся. Ён пакінуў мне 200 RM. Цяпер грошай у мяне чорт ведае колькі. У касе атрымаў за месяц, што прапрацаваў, і за тры месяцы наперад[316].

Ад’езд з Мінску Сямёнаў апісваў у тэлеграфным стылі.

*29.6.44*

10 г. — пачатак пагрузкі.

6 г. — выезд зь мейсца пагрузкі.

7 г. — затрыманьне за Таварнай станцыяй, начлег і бамбёжка. Разьвітаўся з бацькамі.

*30.6.44*

Ад’езд а 2-ой гадзіне раніцы. Затрымка ў Койданаве. Затрымка ў Стоўбцах, начлег 3–4 км перад Гарадзеяй.

*1.7.44*

Раніцою ад’езд, стаянка некалькі кілёмэтраў за Гарадзеяй. Даўгая стаянка. А 9-ай Баранавічы. 10-ая — выезд з Баранавіч у кірунку на Ліду і начлег 15–20 км за Баранавічамі.

*2.7.44*

7 гадз. выезд. 12 гадз. — Ліда. 1-ая гадз. — праехалі Скрыбава. 2-ая гадз. — міна, 4-ая гадз — цэлыя вагоны назад на Скрыбава.

*3.7.44*

Начлег у Скрыбаве і вечарам ад’езд у кірунку Ваўкавыску, потым у Мастох даведаўся, што едзем у Горадню. Уначы праехалі Гародню.

*4.7.44*

Раніцою Беласток. Варшава[317].

---

316 Сямёнаў, Дзмітрый. Дзённік: 1943–1947. Мінск, 2012. С. 111–112.

317 Тамсама. С. 113–115.

Больш разгорнута распавёў пра эвакуацыю Вітаўт Кіпель, у каментарах да ўспамінаў Дзмітрыя Сямёнава.

> Мы ехалі ў адным вагоне. Было гэта так. Бацька [Яўхім Кіпель] пра эвакуацыю нічога ня ведаў. Я быў на возеры. Калі пачалі зьбірацца каля БЦР, Шукелойць убачыў бацьку і спытаў, дзе сям'я. Бацька сказаў, ня ведае. Тады Шукелойць дастаў машыну і паехаў з бацькам да нас на Берасьцянскую. Я ўжо быў дома, як і маці. Шукелойць сказаў нам усім залезьці ў кузаў. Узяць мы амаль нічога не змаглі — валізка ды пара клумкаў. Праўда, я захапіў мех нямолатае пшаніцы. Калі мы пад'ехалі да БЦР, амаль усе ўжо былі на станцыі. Шукелойць упіхнуў нас у вагон, дзе, яму здавалася, будзе месца. Быў гэта вагон, дзе сядзелі Кушалі, Галяк, Савёнкі, Шчагловы, др. Багдановіч і яшчэ 5–7 асобаў. Нас яны прынялі зь вялікім скандалам, але Шукелойць сказаў, што прывядзе паліцэйскага, каб нас упіхнуць. Усю дарогу ўсе дуліся на нас («Вось гэтыя Кіпелі!»). Але спадару Шукелойцу мы абавязаныя, што ён нас трох сабраў. Літаральна сабраў. Ён да бацькі адносіўся з вялікай пашанай. Ага, а мех пшаніцы я абмяняў на масла і хлеб у Скрыбоўцах[318].

Апісала эвакуацыю з Мінску і Галіна Ганчарэнка-Руднік, ёй было 14 гадоў:

> У канцы чэрвеня 1944 года цёця Барбара *[Вержбаловіч, артыстка Купалаўскага тэатру. — А. Г.]* прыбягае дадому й кажа, што сёньня выяжджае зь Менску Цэнтральная Рада... Для сем'яў даюць таварны цягнік. Артыстам тэатру могуць выдзеліць два вагоны. Куды дакладна пойдзе гэты цягнік, ніхто ня ведаў. Ясна было толькі, што пойдзе ён на захад. На роздумы не было часу. Калі нам пашанцуе, то можа патрапім да дзядзі ў Беласток. За нейкіх пару гадзін мы сабралі нашыя самыя каштоўныя рэчы, павязалі іх у клункі. Прыехаў сусед з падводай, пагрузілі нашыя рэчы. Месца было досыць, дык узялі з сабой дыван, які вісеў на сьцяне. Прыехалі на станцыю, кінулі рэчы ў таварны вагон, у якім ужо было шмат цёціных калегаў з тэатру. Праз пару гадзін цягнік крануўся.
>
> Пра тое, што дарога будзе доўгая й напэўна захочацца есьці, неяк ніхто не падумаў. Але гэта ня стала вялікай праблемай. Цягнік ішоў

---

318 Сямёнаў, Дзмітрый. Дзённік: 1943–1947… С. 112 (успамін Вітаўта Кіпеля ў каментарах).

павольна, шмат затрымліваўся, часам недалёка ад нейкай вёскі. Так што была магчымасьць выпіць малака з хлебам ці варанай бульбай. З вадой было горш: лета было вельмі гарачае. А з гігіенай — яшчэ складаней: мыцца не было дзе…

Празь які тыдзень дабраліся мы да Ліды. Там крыху пастаялі й паехалі далей. Дзень быў сонечны, неба блакітнае-блакітнае. Па абодва бакі густы лес. Дзьверы нашага вагону былі адчыненыя, некаторыя сядзелі зьвесіўшы ногі. Я зь сяброўкай Алай глядзела ў вузенькае акенца. Звычайна да яго нельга было дабрацца — яно было вельмі высока, але ў нашым вагоне ўся падлога была ўслана багажом, так што мы даставалі да гэтага акна. Цягнік рабіў паварот, так што мы бачылі паравоз і ўсе тыя вагоны, што перад намі. Раптам бачым наперадзе чорнае воблака, там, дзе толькі што быў паравоз, а празь некалькі сэкундаў — страшэнны грукат. Тыя, што сядзелі ў дзьвярах, пападалі пад адхон. Мяне з Алай кінула праз увесь вагон. Цягнік стаў. Аказалася, што цягнік наляцеў на міну. Адразу за паравозам былі прычэпленыя пустыя плятформы. Яны першымі пайшлі пад адхон. Тады перакуліліся некалькі вагонаў зь людзьмі. А той вагон, што быў перад нашым, урэзаўся ў зямлю. Так што й наш вагон, і тыя, што былі за ім, засталіся на рэйках.

Паніка была страшэнная. Міну падклалі партызаны, і ўсе чакалі, што зараз яны па нас прыйдуць. Але ці таму, што не было ніводнага немца, ці таму, што не было ніякай зброі, або проста таму, што была нейкая забытая міна, партызаны на нас не напалі. Мы заначавалі на тым месцы, сярод лесу, а на другі дзень наш цягнік адцягнулі назад у Ліду. Празь некалькі дзён мы зноў былі ў дарозе[319].

Вітаўт Кіпель пісаў, што для тых, хто працаваў у адміністрацыі ці быў на першых ролях у нацыянальным руху, выбару фактычна не было, а для звычайных жыхароў паўставала дылема.

Жыла на Горным завулку Маня Ждановіч, гадоў на восем за мяне старэйшая, іхная хата заставалася — яна была вельмі актыўныя ў сэнсе дапамагаць старым. І адзін раз яна бачыць, як я іду ў форме СБМ, і кажа: «Вітка, вы тут напэўна ўжо ня будзеце, як нашы прыйдуць?» Я кажу: «Напэўна ня будзем…» — «А што будзе са мной?.. Я ж нікуды не паеду — у мяне татусь хворы, мама хворая…» і боязь. Людзі ба-

[319] Руднік, Галіна. Птушкі пералётныя… С. 58–59.

яцца! Яны гэтых немцаў ня лічаць «нашымі», ні ў якім разе, і баяцца тых, хто для іх «нашы»! Што я мог Мані адказаць? Разупэўніць?

Развагі, думкі пра «нашых» нікога не пакідалі ў спакоі. Думаю, людзі спадзяваліся на зьмены, на тое, што «нашыя» ня будуць такімі, якімі яны былі да вайны. І гэтым яны, мабыць, апраўдвалі сваё рашэньне, што яны нікуды не паедуць.

(...)

Для мяне гэта ўсё былі пустыя развагі, бо я ведаў, што маёй сям'і бацька яшчэ ў Арле задаў кірунак уцякаць далей, кажа: «Я доўга хадзіў, цэлы тыдзень, і разважаў — ці застацца пад немцамі. І вырашыў, што мне горш, чым было пры саветах, нідзе ўжо ня будзе...» Толькі ўцякаць — далей, далей і далей. Ну, безумоўна, па-сыноўску, я далучаўся да бацькавых паглядаў. Я пачынаў усьведамляць, што і мне пры савецкай сыстэме ходу ня будзе — калі й выжыву, то ў Сібіры[320].

Напісала ўспаміны пра эвакуацыю і сённяшняя старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла, якая пакінула радзіму ў васьмігадовым узросце:

У 1944 годзе сям'я выехала таварным цягнікам з Баранавічаў у Кёнігсбэрг. Бацьку і маці тады было па 33 гады, брацiку Лёніку — сем годзікаў, а сястрычцы Прадславе — дзевяць месяцаў.

Ехалі двое сутак — да Беластоку з сотнямі іншых жыхароў гораду ў таварным цягніку, а далей, прадаўшы ровар, які былі захапілі з сабой, у пасажырскім. Праз Усходнюю Прусію прыйшлося прабірацца дзевяць месяцаў. Жахлівы гэта быў час[321].

Кіраўнікі прадпрыемстваў пакінулі Мінск у ноч на 1 ліпеня. Напярэдадні і ў гэты дзень гарадскія прадпрыемствы ды крамы рабавалі: спачатку нямецкія салдаты, а пасля іхнага адыходу — мясцовыя жыхары[322]. Перад самым наступам Чырвонай Арміі сталіца Беларусі нібы вымерла.

У суботу, 1 ліпеня, вечарам паміж 18:00 і 20:00 я яшчэ раз праехаў па гарадскіх жылых кварталах, каб пераканацца ў тым, што вядомыя мясцовыя жыхары, што былі на службе ў маёй установе, такія, як обер-бургамістр, мае начальнікі аддзелаў, суддзі, і г. д. пакінулі

---

[320] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць... С. 131–132.

[321] Сурвіла, Івонка. Дарога: Стоўцы—Капэнгаген—Парыж—Мадрыд—Атава—Менск. Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2008. С. 12.

[322] Кнатько, Г. Последняя неделя оккупации глазами комиссара Беккера...

горад. Пры гэтым я пераканаўся, што гарадскія вуліцы былі пустыя, нібы падмеценыя. Да таго часу ўжо больш за палову яго жыхароў, асабліва мужчыны, пакінулі яго[323].

Эвакуацыю намаляваў у сваіх успамінах і Барыс Данілюк, які прыехаў на Кангрэс са Слоніму, але паспеў даехаць з Мінску да Баранавічаў і выязджаў ужо адтуль:

> На таварнай станцыі ў Баранавічах, аднак, падобна як падчас маіх папярэдніх падарожжаў у Менск, толькі горш, упрасіцца на які-колечы цягнік, што йшоў на захад, або нават даведацца, ці гэткі калі-колечы зьявіцца, было немагчыма. Нарэшце, пасьля колькі гадзінаў роспачнае мітусьні й пытаньняў ды ўпрашаньняў, калі ўжо зусім цямнела, нам дазволілі ўзьлезьці на таварны цягнік з адкрытых вагонаў, што меўся неўзабаве ехаць праз Слонім некуды далей на захад.
>
> Ледзь пасьпелі мы з нашымі клункамі памясьціцца на тых вагонах-плятформах паміж нейкімі артылерыйскімі вазкамі, лёгкімі арматамі й падобным дабром, як зараўлі сырэны й здалёк пачуўся моцны гуд самалётаў — набліжаўся першы за ўсю вайну налёт савецкае авіяцыі. […]
>
> Перачакаўшы шчасьліва налёт, мы ўзноў ушчарэпкаліся на тыя самыя вагоны й палёгшы, хто дзе й як мог, пакрысе амаль усе ўжо паснулі, калі цягнік урэшце зрушыў зь мейсца[324].

Падобную сітуацыю эвакуацыі з Беларусі малююць і іншыя аўтары. Пасол польскага Сейму Аляксандр Стагановіч апісаў выезд з Навагрудку, дзе ён працаваў у гарадской управе.

> 4 ліпеня 1944 г., пушчаючыся ў невядомы шлях, без жадных сродкаў з сям’ёю, быў самым цяжкім момантам у маім жыцці, але што можна было прыдумаць іншае перад надыходзячымі азіяцкімі ардамі з усходу.
>
> Мінуўшы акраіну горада, мы змушаны былі затрымацца, бо далей маглі спаткацца з партызанамі, якія не пашкадавалі б куляў для ўсіх. Распрэглі кабылу, прынеслі ёй бярэмя канюшыны, каб наелася ў дарозе; малодшыя ўлегліся спаць, а старэйшыя сталі на ахове. Дачакаўшыся раніцы, сп. Якуцэвіч пайшоў пяшком у горад, але хутка

323 Кнатько, Г. Последняя неделя оккупации глазами комиссара Беккера…
324 Данілюк, Барыс. Азіраючыся расой выетымі вачыма… С. 295–296.

вярнуўся, інфармуючы мяне, што шмат якія зараз будуць ехаць. Мы, не чакаючы, пусціліся ў падарожжа.

Каля паўдня нас нагнала даволі шмат знаёмых з Наваградка. У Бярозаўцы затрымаліся падсілкавацца, а праз пару гадзін рушылі далей і, пераехаўшы Нёман, на ноч затрымаліся каля вёскі на выгане начаваць. Тут сабралася даволі вялікая грамада. У гэтай вёсцы стаяў вялікі паліцэйскі пост. Вечарам яны пачалі на выгане паліць розныя рэчы, якія перад гэтым рэквізавалі ў мясцовага насельніцтва. Бліжэй да ночы прыехаў і затрымаўся швадрон Рагулі, які вяртаўся з Глыбокага, дзе яны ліквідоўвалі партызаншчыну[325].

Эвакуацыю з Нясвіжа згадваў ва ўспамінах Аляксей Вініцкі.

Нас уцекачоў было больш ста фурманак. Абапал дарогі, як толькі можна было бачыць, панавала мёртвая цішыня: усё жывое схавалася. Скора над намі зьявіліся савецкія самалёты. Прывіталі яны нас кулямётнымі стрэламі й паляцелі ў заходнім кірунку. Зноў каля рэчкі на поплаве пасьвілася чарада жывёлы, пакінутая немцамі.

Праехаўшы 18 км, мы змушаныя былі затрымацца ў мястэчку Снове. Кругом яго пачалася ружэйная і кулямётная страляніна. Хутка зьявіліся два танкі, якія разагналі партызанаў і далі нам магчымасьць ехаць далей. Адразу за мястэчкам дыміўся нямецкі грузавы самаход, а побач яго, каля дарогі, быў насыпаны сьвежы курганчык зямлі з пастаўленым на ім крыжам і сталёвым шлемам на ягоным версе.

Праехалі вуліцаю доўгай вёскі. Цішыня. Абсалютна нікога жывога ня бачылі. Едзем уздоўж чыгункі. Раптам выбух. Гэта ўзарвалася міна пад калёсамі цягніка, які йшоў на ўсход. Трывожна. На вазох едуць жанчыны і дзеці, а каля іх ідуць мужчыны і ўважна разглядаюцца. На фоне паважнай сытуацыі й адпаведных ёй паводзінаў уцекачоў рэзка выдзялялася, здавалася, закаханая пара: былы дырэктар сярэдняй школы, з шырокай усьмешкай, якая ня сходзіла зь ягонага твару, бяз шапкі, з гітарай у руцэ й маладая дзяўчына, учарашняя вучаніца, вялі шчасьлівую гутарку й голасна сьмяяліся.

Перад Баранавічамі затрымаліся на начлег у вёсцы. Уладзіліся адпачываць на саломцы ў хляве. Ня спалася. Прыблізна сярод ночы савецкія самалёты павесілі над горадам лятарні й пачалі бамбардаваць яго.

---

[325] Стагановіч, Аляксандр. Успаміны пасла… С. 119.

На другі дзень, яшчэ напрыцямку — каля 3-й гадзіны раніцы, мы даехалі да шашы. Па ёй у некалькі радоў на вазох, запрэжаных коньмі або каровамі, ехалі жыхары Беларусі на Захад. Шмат іх ішло й пехатою[326].

Вачыма 12-гадовага юнака, якога прытуліў у Радашковічах святар Ян Жарскі, можна ўбачыць эвакуацыю ў мемуарах Святаслава Шабовіча:

Падрыхтоўка да ад’езду пачалася адразу. Жарскія аддалі сваю любіміцу-карову суседзям. Шмат якія груваcткія рэчы параздавалі тым, хто хацеў іх забраць. Мэблю і піяніна пакінулі ў доме чакаць новых гаспадароў — заставалася толькі спадзявацца, што яны будуць вартыя такога падарунка. Калі ж дайшла справа да высокага гадзінніка з боем, цётка Тоня нізавошта не хацела з ім разлучацца. Гадзіннік узялі з сабой. Вузлы з вопраткай, пасцельнай бялізнай, ручнікамі і кухоннымі прыладамі склалі ў грузавік. Перад самым ад’ездам цётка купіла некалькі вядзерцаў сала, каб узяць у дарогу.

Дзень нашага ад’езду прыйшоўся на крытычны час. Пакуль мы цярпліва чакалі магчымасці пакінуць Радашковічы, мясцовыя вайсковыя і цывільныя ўлады абвясцілі ўсеагульную эвакуацыю. Кожны, хто хацеў з’ехаць з мястэчка, мог гэта зрабіць. А вось дзяржаўным службоўцам, настаўнікам, паліцыянтам і асобам, якія прапагандавалі беларускія нацыянальныя інтарэсы, не проста давалі магчымасць, а настойліва прапаноўвалі выехаць разам з сем’ямі. Неўзабаве пачаўся масавы сыход людзей. Дарога, па якой мы ехалі, была забітая ўцекачамі, паколькі хапала вачэй. Запрэжаныя коньмі вазы, на якіх сядзелі жанчыны, дзеці і старыя, рухаліся па дарозе адзін за адным, след у след. Такое відовішча не забываецца![327]

Такая сітуацыя была і ў іншых рэгіёнах краіны. Своеасабліва падсумаваў эвакуацыю Аўген Калубовіч:

У апошнім годзе 2-ой сусьветнай вайны, улетку 1944 году, перад новай акупацыяй Беларусі Чырвонай Арміяй і зваротам на беларускія землі расейска-савецкага тэрору й дэспатыі, зь Беларусі пакацілася 8-ая хваля масавай беларускай эміграцыі. У ёй на Захад

---

[326] Вініцкі, А. Матар’ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939–1951 гг. Ч. 1… С. 49–50.

[327] Шабовіч, Святаслаў. З фальварка Марцінова да Фармінгтонскіх узгоркаў: Гісторыя аднаго падарожжа. Мінск, 2015. С. 89–90.

> крануліся розныя нацыянальныя беларускія ўстановы, арганізацыі й вайсковыя фармацыі — Беларуская Цэнтральная Рада на чале з прэзыдэнтам Р. Астроўскім, Сабор япіскапаў Беларускае Аўтакефальнае Царквы на чале зь мітрапалітам Панцялейманам, 10 200 сяброў Саюзу Беларускае Моладзі з сваім Галоўным Штабам, Слонімскі батальён Беларускай Службы Бацькаўшчыне, Менская Беларуская афіцэрская школа Беларускай Краёвай Абароны, Беларускі чыгуначны батальён і г. д. Адначасна — шэраг сьвятароў усіх хрысьціянскіх веравызнаньняў. Беларуская інтэлігенцыя — паэты, пісьменьнікі, кампазытары, артысты, навукоўцы, настаўнікі, лекары, юрысты, інжынэры... і сяляне[328].

Магчыма, Калубовіч перабольшвае, калі кажа пра сотні тысячаў тых, хто падаўся на эміграцыю. У кастрычніку 1944 г. БЦР ацэньвала тых, хто ў 1944 г. выехаў і апынуўся на тэрыторыі Нямеччыны, на 80 тыс. чалавек. Аднак частка ўцекачоў асела ў Польшчы і Літве ці Усходняй Прусіі, пазней адрэзанай ад Трэцяга Рэйху. Усяго ж на тэрыторыі Нямеччыны перабывалі пры канцы вайны, паводле розных падлікаў, ад 700 тыс. да 1 млн беларусаў[329].

Беларусы беглі ад савецкай улады: усходнія — згадваючы жорсткія рэпрэсіі 1930-х, заходнія — 1939–1940 гады. Людзі баяліся расплаты не толькі за тое, што займалі пасады ў беларускай адміністрацыі ці былі ў СБМ, БКА, паліцыі, працавалі ў школах, шпіталях, на прадпрыемствах, а ўвогуле за тое, што проста імкнуліся выжыць ва ўмовах нямецкай акупацыі, не пайшлі ў партызанку ці падполле. Страхі былі небеспадстаўныя.

У канцы чэрвеня 1944 г. Радаслаў Астроўскі выдаў некалькі пастановаў: пацвердзіў ранг палкоўніка беларускага войска ў 1918–1920 гг. Канстанціну Езавітаву, прысвоіў званне падпалкоўніка Францу Кушалю, выдаў загад аб вылучэнні грашовай дапамогі мастаку Мікалаю Казаку, які вучыўся ў Вене[330]. 26 чэрвеня ў склад БЦР былі ўключаныя кіраўнікі СБМ Міхась Ганько і Надзея Абрамава, а таксама Канстанцін Езавітаў як прадстаўнік беларусаў

---

[328] Калубовіч, Аўген. Нашы папярэднікі // Калубовіч, Аўген. Крокі гісторыі. Беласток—Вільня—Менск, 1993. С. 37–38.

[329] Лічбу больш за 700 тыс. называў сам Радаслаў Астроўскі: Да ўсіх беларускіх камітэтаў і бюро ў Нямеччыне // Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі. №20. Жнівень 1984. С. 1.

[330] Пастановы БЦР за 28 чэрвеня 1944 г. // Зборнік дакументаў БЦР. Ч. 1. С. 77–80.

у Латвіі[331]. Адным з апошніх дакументаў, выдадзеных БЦР у Беларусі, была прапанова Франца Кушаля, ухваленая Радаславам Астроўскім, аб наданні рангаў маёра Людвіку Галубовічу і Віталю Мікулу[332].

28 чэрвеня адбылося апошняе ў Беларусі паседжанне прэзідыуму БЦР (прысутнічалі: Радаслаў Астроўскі, Мікалай Шкялёнак, Сымон Кандыбовіч, Усевалад Родзька, Аўген Калубовіч і Павел Свірыд).

Радаслаў Астроўскі пакінуў Мінск 30 чэрвеня а 15-й гадзіне[333]. Ён выехаў у Вільню ў суправаджэнні свайго ад'ютанта Анатоля Плескачэўскага і прыехаў туды апоўдні 1 ліпеня. Затрымаўся Астроўскі ў кватэры на адрасе Вастрабрамская 8, дзе сустрэўся з дзеячамі, якія таксама эвакуяваліся з Беларусі (15 чалавек). На нарадзе абмеркавалі бягучыя справы, прэзідэнт выпісаў некалькі пропускаў на выезд у Нямеччыну[334]. 2 ліпеня ён машынаю выехаў у Берлін праз Каўнас, Кутна і Лодзь[335].

---

[331] Grzybowski, Jerzy. Białoruska Centralna Rada w latach 1943–1956. Proba podsumowania problemu w świetle dotychczasowych badań i najnowszych źrodel // Białoruskie Zeszyty Historyczne. №32. 2009. S. 165.

[332] Пастанова БЦР ад 28 чэрвеня 1944 г. // Зборнік дакументаў БЦР. Ч. 1. С. 79.

[333] Kalush, V. In the service of the people for a free Byelorussia. London, 1964. 92 p.

[334] Малецкі, Язэп. Пад знакам Пагоні… С. 182.

[335] Уцёкі з Вільні апісаў у сваіх успамінах Язэп Малецкі: *«1-га ліпеня 1944 году ў Вільні было яшчэ спакойна. Узяў я возьніка ды паехаў на Шкляны завулак [сёння вуліца Стыклю, Stiklių gatvė. — А. Г.] да сваёй колішняй гаспадыні Мілашэўскай. Стомлены падарожжам, зваліўся як сноп на адпачынак.*

*Назаўтра раніцай будзіць мяне гаспадыня.*

*— Уставайце, доктар! — кажа, — нейкая трывога. Жмудзякі зь Вільні ўцякаюць!*

*Калі выйшаў на вуліцу, дык пабачыў сам, што й сапраўды трывога. Машыны вязьлі з шпіталёў на станцыю раненых Немцаў. Шмат жаўнераў ішлі самі або ў асісьце сёстраў. Іншых вялі мацнейшыя сябры.*

*І сярод Жамойцаў жудасны перапалох. З хатаў павыходзілі яны з клункамі, мітусяцца, крычаць: няма транспарту, каб нейк ім вырвацца зь небясьпечнага мяшка. А тут віленскія возьнікі, народ хітры, дасьветчаны, пахавалі коней ды самі разьбегліся.*

*Мітусьня ў Вільні была страшная: ці каму трэба ці ня трэба — усе хацелі ўцякаць! Трагічныя сцэны дзеіліся ў былых францішканскіх будынках пры касьцеле сьв. Рафала на Вілкамірскай 1, дзе быў шпіталь РОА («Расейская вызвольная армія»). Адтуль хворыя ўцякалі, як хто мог, даслоўна ад сьмерці.*

*Каля пятай гадзіны я зь іншымі суродзічамі наведаў прэзыдэнта Р. Астроўскага ў яго кватэры на Вострабрамскай 8. Нас было чалавек 15. Усе сумныя, заклапочаныя. Прэзыдэнт Астроўскі падбадзёрвае, супакойвае, каб ня трацілі надзеі. Ягоны сакратар сьпісаў усіх, каму патрэбны пропуск у Нямеччыну. Яны будуць зараз выпісаныя ў кірунку на Кэнігсбэрг, Ліцманштат (Лодзь), а там будуць далейшыя інструкцыі. Я вярнуўся ў сваю кватэру ды праспаўся ўночы. 3-га ліпеня, калі я рані-*

Маршрут цягніка БЦР быў іншы. Ён ішоў у Кёнігсберг вакольнымі шляхамі: Стоўбцы, Ліда, Ваўкавыск, Беласток. За станцыяй Скрыбава пад Ваўкавыскам, як ужо згадвалася вышэй ва ўспамінах, цягнік наехаў на партызанскую міну, шмат людзей загінула.

> …Праехалі пару кілямэтраў і раптам пачулі, што цягнік пачаў раптоўна тармазіць, але ня роўна, а рыўкамі; амаль затрымаецца, а тады пасунецца ізноў, ізноў амаль затрымаецца, а тады ізноў пасунецца. Нехта высунуўся з вагона і сказаў: *«Ну, тут нашаму доктару будзе работы»*.
>
> Цягнік, нарэшце, затрымаўся зусім, усе павыскаквалі з вагонаў са зброяй і пабачылі, што перад нашым вагонам засталося толькі тры цэлыя вагоны, а ўсе, што былі перад гэтымі трыма, вагонаў якіх шэсьць і паравоз, былі ў адной вялікай кучы, адны вагоны ўлезшыя ў сярэдзіну іншых, другія стаўшыя надыбы, іншыя павернутыя бокам. Навокал — жытнія палі. Вайсковыя патрулі з кулямётамі пабеглі й заляглі ў жыце, спадзеючыся нападу, але нападу не было. Назьбіралі кучу посьцілак, падзерлі іх, і г. Багдановіч пачаў аглядаць тых, каму яшчэ гэты агляд быў патрэбны.
>
> Усіх пацярпеўшых, забітых і раненых было асобаў сорак. Не было больш, бо пярэднія плятформы былі з аўтамі, а пад аўтамі былі людзі, але ня так многа, як у вагонах толькі зь людзьмі. Хутка прыляцеў самалёт, пакружыўся над эшалонам і паляцеў. Трохі пазьней прыехалі самаходы й пазабіралі ўсіх раненых. Пад вечар да цягніка прычапілі ззаду паравоз і адцягнулі назад на станцыю Скрыбава. Там стаялі амаль цэлы наступны дзень, чакаючы, пакуль паправяць лінію. Пад вечар паехалі далей…[336]

4 ліпеня цягнік прыбыў у Беласток, а затым праз Варшаву, Торунь, Марыенбург — у Кёнігсберг. У сталіцы Усходняй Прусіі БЦР доўга не затрымалася і неўзабаве ўзяла курс на Берлін[337].

---

*цай падаўся да прэзыдэнта Астроўскага, каб, як дамовіліся, разам выяжджаць зь Вільні, места відавочна пусьцела. І ў ягонай кватэры пусьцюсенька…»* (Малецкі, Язэп. Пад знакам Пагоні… С. 182–183).

[336] Галяк, Леанід. Успаміны. Кн. 1… С. 188. Паводле звестак БЦР, якія вымагаюць верыфікацыі, загінулі 30 чалавек, у тым ліку 4 супрацоўнікі БЦР, 18 супрацоўнікаў былі параненыя.

[337] Яўхім Кіпель у сваіх успамінах адзначаў, што ў Кёнігсберг цягнік прыехаў 4 ліпеня, а на наступны дзень рушыў у Берлін (Кіпель, Яўхім. Эпізоды. Выд. 2-е…

Такім чынам, эвакуацыю БЦР з Беларусі фактычна арганізавалі немцы, ад іх залежала атрыманне транспарту і яго рух. Тым не менш, кіраўніцтва БЦР, наколькі гэта было магчыма, клапацілася пра сваіх супрацоўнікаў і падкантрольныя яму беларускія структуры. Ахвотныя выехаць змаглі гэта зрабіць або пры дапамозе БЦР, або самастойна.

## БЕРЛІН

Улетку 1944 г. у Берліне адбыліся змены ва ўсходняй палітыцы. На пачатку ліпеня 1944 г. у межах Галоўнага ведамства СС паўстаў *Freiwilligen-Leitstelle Ost* (Аддзел добраахвотных сілаў з Усходу), які ўзначаліў штурмбанфюрэр СС доктар Фрыц Арльт (Fritz Arlt). Аддзел падзяляўся на нацыянальныя секцыі: беларускаю (*Weissruthenische Leitcstelle*) кіраваў доктар Любэ[338]. Задачай установы быў кантроль за ўсімі беларускімі арганізацыямі ў Нямеччыне.

Ні БЦР, ні Радаслаў Астроўскі нічога пра гэтыя змены не ведалі. Па дарозе ў Берлін прэзідэнт на некаторы час спыніўся ў Лодзі, дзе апынуліся сем'і Высоцкіх, Вайцяхоўскіх, іншых дзеячаў. У гэтым горадзе працаваў Беларускі камітэт самапомачы і філіял Беларускага прадстаўніцтва. У Лодзі Астроўскі жыў у 1936–1941 гг. і захаваў ранейшыя сувязі. Сюды ж у ліпені 1944 г. трапіў і Франц Кушаль, які спрабаваў аб'яднаць разбітую БКА, хоць нейкім чынам скаардынаваўшы яе працу[339]. Частка вайскоўцаў апынулася ў батальёне «Дальвіц»[340].

---

С. 218). Леанід Галяк сведчыў, што ў Кёнігсберг БЦР прыехала 7 ліпеня (Галяк, Леанід. Успаміны. Кн. 1… С. 188).

338 Туронак, Юры. Людзі СБМ. Беларусь пад нямецкай акупацыяй… С. 551.

339 Тамсама. С. 552; Галяк, Леанід. Успаміны. Кн. 2… С. 6.

340 Дыверсійны батальён «Дальвіц» (Dallwitz) быў заснаваны ў ліпені 1944 г. ва Усходняй Прусіі пры нямецкай дыверсійна-выведнай школе (Дальвіц — назва мястэчка). Начальнікам школы быў маёр Герўліс (Gerullis), ягонымі намеснікамі — Барыс Рагуля і Усевалад Родзька. Апошні адказваў за палітычную падрыхтоўку асабовага складу батальёну.

«Дальвіц» камплектаваўся з афіцэраў і стральцоў БКА, пераважна сябраў Беларускай незалежніцкай партыі. Летам 1944 г. у батальёне было больш за 200 чалавек, падзеленых на дзве роты: Паўднёвую і Паўночную. Курсанты вывучалі падрыўную і сапёрную справы, тапаграфію, тактыку вядзення партызанскага бою, тыпы зброі. Рыхтавалася група дзяўчат-радыстак. Увосень на Беларусь скінулі з самалётаў некалькі атрадаў і асобных дэсантнікаў. Частку адразу адлавіла і зліквідавала савецкая дзяржбяспека, іншым удалося арганізаваць партызанскую барацьбу. На

Праз некаторы час, з прычыны зменаў ва ўсходняй палітыцы ды істотнага павелічэння колькасці беларусаў у Нямеччыне, у Берліне пастанавілі працягнуць дзейнасць БЦР. Таму цягнік Рады з Кёнігсбергу скіравалі ў Берлін, адпаведна туды ж выклікалі з Лодзі Астроўскага і Кушаля.

У сталіцы Трэцяга Рэйху БЦР «пасялілася» спачатку ў чатырохпавярховым палацы «Дэльфі» (Delphi), праўда, ненадоўга[341]. Усіх прыбылых падзялілі на некалькі групаў. Першую скіравалі ў Сілезію, у горад Ратыбор (Ratibor, сёння Рацібуж, Racibyrz), туды ж адправілі архіў Акадэміі навук[342]. Іншыя атрымалі працу ў «Вінэце» (Vineta, прапагандысцкае бюро для трансляцыі на акупаваныя ўсходнія тэрыторыі). СБМаўцы паехалі на дапаможныя працы. Групу з 50–60 чалавек, г. зв. «сярэдзіну БЦР», выправілі ў Познань[343]. Магчыма, гэтая захада абумоўлівалася адносна́ю блізкасцю гораду да Беларусі (бліжэй, чым Берлін) ды меншаю канцэнтрацыяй там людзей ды розных іншанацыянальных арганізацыяў. Групу ў Познань вывезлі вельмі хутка, цягам аднаго дня.

Дэталёва апісаў пазнанскі перыяд жыцця ў сваіх успамінах Вітаўт Кіпель (сын Яўхіма Кіпеля), якому праз некалькі тыдняў было даручана ў Познані адсачыць прыбыццё вагонаў з рэчамі і архівамі БЦР і вярнуць іх назад у Берлін.

---

пачатку лістапада 1944 г. «Дальвіц» перадыслакаваўся ў Вальбуш пад Быдгашчам (Польшча). Пазней пераехаў пад Берлін, затым у Чэхію. У канцы сакавіка 1945 г. Родзька заключыў пагадненне з кіраўніком «Ягдфэрбанд-Ост СС» Ота Скарцэні (SS-Jagdverband OST, Otto Skorzeny) аб павелічэнні складу «Дальвіцу» да 700–800 чалавек і яго перакідцы з Чэхіі ў Беларусь. Ажыццявіць задуму не ўдалося. У траўні 1945 г. «Дальвіц» быў разьброены чэшскімі партызанамі, Родзька абвесціў пра роспуск. Батальён быў падзелены на групы, якія прабіваліся на Захад або ў Беларусь. Атрад Родзькі перабраўся на Беласточчыну, кіраўніка арыштавалі ў чэрвені 1945 г. у Беластоку. Рэшта ўдзельнікаў дабралася да Беларусі ды ўвязалася ў партызанскую дзейнасць у Белавежскай і Налібоцкай пушчах.

«Дальвіц» не быў падпарадкаваны БЦР. Падрабязней пра батальён можна прачытаць у кнізе Сяргея Ярша і Сяргея Горбіка «Беларускі супраціў» (2006), кнізе Сяргея Ярша «Дэсант у няпэўнасць: Беларускі парашутны батальён «Дальвіц» (Менск, 2012).

341 Руднік, Галіна. Птушкі пералётныя… С. 61.

342 Экспанаты Гістарычнага музею былі перавезеныя напачатку ў Інстэрбург (Insterburg, Усх. Прусія), а затым у вёску Гехльштэт ля Ульму (Ulm). Гэты перыяд падрабязна апісаў у сваіх успамінах Дзмітрый Сямёнаў, які знаходзіўся пры экспанатах і паперах.

343 Успамін Вітаўта Кіпеля (пазнанскі перыяд), напісаны ў жніўні 2010 г. Захоўваецца ў архіве аўтара кнігі.

У Познань група БЦР — яе ўзначаліў Аўген Калубовіч (Кахаяоўскі)[344] — прыбыла 10–12 ліпеня. Усіх размясцілі ў лагеры на Глёгаўэр-штрасэ (Glogauer Straße) за двума калючымі дратамі. З 10 баракаў для БЦРаўцаў вылучылі два. Адзін аддалі пад душ, іншы — пад сталовую. Праз два-тры дні ўсе атрымалі спецыяльныя пропускі, з якімі ахова выпускала ў горад. Калубовіч рэгулярна праводзіў нарады[345].

У Познані ў падпарадкаванне БЦР перайшоў Саюз беларускай моладзі: 8 жніўня 1944 г. горад наведаў шэф Кіраўнічага штабу Міхась Ганько[346].

Праз два тыдні «пазнанская» група атрымала загад вярнуцца назад у Берлін — берлінскае кіраўніцтва цалкам вызначылася ў сваіх прыярытэтах. Праўда, Яўхім Кіпель пісаў, што вяртанне ў Берлін было ўласнай ініцыятывай сябраў Рады.

> У Познані я правёў не больш за тыдзень. Там меў некалькі дыскусій з Кандыбовічам, Селяхам, Калубовічам, у часе якіх выказваў думку, што БЦР у тым складзе, у якім яна выязджала з Мінска, не можа заставацца, бо на мой пагляд, гэта не была працаздольная ўстанова. А. Калубовіч з такім паглядам зусім не згаджаўся, С. Кандыбовіч займаў пазіцыю вычэквання, а цалкам мяне падтрымлівалі В. Селях, А. Комар, Ю. Барташэвіч і пару іншых асобаў. Я ўважаў, што наагул у Познані не было патрэбы сядзець і чакаць ініцыятывы Астроўскага, а трэба было быць у Берліне. Таму я і выехаў з Познані[347].

Насамрэч вяртанне БЦР у Берлін было вынікам дырэктывы Міністэрства ўсходніх акупаваных тэрыторыяў ад 20 ліпеня 1944 г., у якой пералічваліся новыя *«рэальныя задачы і паўнамоцтвы»* Рады на эміграцыі. Гэтыя задачы адрозніваліся ад зазначаных у першым статуце БЦР, напісаным Готбэргам:

> 1. Барацьба з бальшавізмам шляхам: удзелу ў падрыхтоўцы да стварэння беларускіх вайсковых фарміраванняў; у стварэнні партызанскіх групаў за лініяй фронту; актыўнай прапагандысцкай дзейнасцю сярод беларускіх рабочых.
> 2. Аб'яднанне ўсіх беларусаў у Саюзе вызвалення Беларусі.

---

344 Аўген Калубовіч з прычыны боязі быць выдадзеным у СССР змяніў прозвішча на Каханоўскі.

345 Успамін Вітаўта Кіпеля (пазнанскі перыяд), напісаны ў жніўні 2010 г. Захоўваецца ў архіве аўтара кнігі.

346 Раніца. 3 верасьня 1944.

347 Кіпель, Яўхім. Эпізоды. Выд. 2-е… С. 219.

3. Культурная, сацыяльная і прававая апека над усімі беларусамі ў Германіі.
4. Моладзевая праца (СБМ, вайсковая дапаможная служба).
5. Жаночая праца[348].

27 ліпеня 1944 г. Радаслаў Астроўскі выдаў пастанову, у якой сцвярджалася, што БЦР — адзінае прадстаўніцтва беларускага народу і будзе працягваць дзейнасць на эміграцыі, іншыя арганізацыі перадаюцца ёй у падпарадкаванне:

> БЦР, прызнаная 2-м Усебеларускім Кангрэсам адзіным і паўнапраўным прадстаўніцтвам Беларускага Народу, працягвае і тут на эміграцыі сваю дзейнасьць. Ейная праца ўжо разгортваецца ва ўсіх галінах нацыянальна-палітычнага й грамадзкага жыцьця. Усе існуючыя цяпер у Нямеччыне беларускія арганізацыі і ўстановы — Беларускае Прадстаўніцтва, Беларускі Камітэт Самапомачы й іншыя аб'ядноўваюцца для супольнага змаганьня пад сьцягам БЦР. Новая сядзіба БЦР — Бэрлін[349].

Праз тры тыдні, 20 жніўня, з'явіўся мемарандум, у якім БЦР акрэсліла сваё бачанне вонкавапалітычнай сітуацыі:

> БЦР як адзінае і поўнапраўнае прадстаўніцтва сувэрэнных правоў Беларускага Народу гэтым пратэстуе перад усімі ўрадамі й народамі сьвету супраць гвалту й зьдзекаў, якія чыняць над Беларускім Народам бальшавіцкія ўлады ў акупаваных імі беларускіх тэрыторыях. Гэтыя акты бальшавіцкай Масквы БЦР разглядае як новае гвалтоўнае парушэньне міжнароднага права.
>
> Сучаснае заняцьце бальшавікамі тэрыторыі Беларусі БЦР разглядае як часовую ваенную акупацыю й мабілізуе ўвесь Беларускі Народ, як у краі, так і за яго межамі да хутчэйшага вызваленьня свае Бацькаўшчыны.
>
> Гэтае змаганьне Беларускага Народу яшчэ не закончанае й будзе працягвацца надалей супольна зь нямецкім і нам саюзнымі народамі, аж да канчальнага вызваленьня ўсяе тэрыторыі Беларусі з-пад чужацкага панаваньня[350].

---

[348] Туронак, Юры. Людзі СБМ. Беларусь пад нямецкай акупацыяй… С. 553–554.
[349] Раніца. 6 жніўня 1944.
[350] Раніца. 3 верасьня 1944.

З прыездам новых эмігрантаў улетку 1944 г. Берлін зведаў усплёск беларускага жыцця. Тут з пачатку 1940-х дзейнічала некалькі беларускіх арганізацыяў, шматтысячны Камітэт самапомачы, выдавалася «Раніца» і адрасаваны остарбайтарам «Беларускі Работнік»[351]. Новая хваля эміграцыі паспрыяла значнай актывізацыі жыцця. Гэтак, 27 жніўня 1944 г. у жаночым манастыры (Папэн-алея 66) адбылася першая багаслужба для беларусаў, якую адправіў уніяцкі святар Леў Гарошка. У манастыры нават спяваў хор пад кіраўніцтвам Міколы Равенскага. Службы для беларусаў планавалася праводзіць раз на тыдзень[352]. А ў жніўні 1944 г. быў створаны беларускі праваслаўны прыход (а. Канстанцін Комар), службы ладзіліся ў памяшканні лютэранскай кірхі святога Лукі на Бэрнбургер-штрасэ 4 (St.-Lukas-Kirche, Bernburger Straße)[353].

У жніўні 1944 г. нарады БЦР праходзілі ў офісе аддзелу Камітэту самапомачы на Брэдаўштрасэ 8 (Bredowstraße), а ў пачатку верасня БЦР атрымала два пад’езды пад жылыя і офісныя памяшканні на Гумбінэр-штрасэ (Gumbinner Straße) ў прадмесці Вайсэнзээ (Weißensee), што на паўднёвым захадзе Берліну[354].

З прыездам у нямецкую сталіцу Радаслаў Астроўскі актыўна прапагандаваў БЦР, ён аб’ездзіў шэраг асяродкаў з заклікам гуртавацца вакол Рады ды ідэі беларускага нацыянальнага вызвалення. Выступаючы перад рабочымі Берліну (прамову транслявала Берлінскае радыё[355]) 26 жніўня 1944 г., Астроўскі заявіў пра стварэнне адзінага супрацьбальшавіцкага фронту з іншымі народамі, што трапілі пад акупацыю СССР[356].

Да сярэдзіны верасня структуры БЦР цалкам перанеслі сваю дзейнасць у Нямеччыну. Цяпер Рада складалася з васьмі аддзелаў: асабісты сакратарыят прэзідэнта; агульна-адміністрацыйны; вайсковы і кіраўніцтва БКА; культуры і прапаганды; асветы і школы; апекі над уцекачамі; моладзі; жаночы[357].

---

[351] «Раніцу» можна было свабодна купіць у любым кіёску: нумар газеты, якая выходзіла двойчы на тыдзень, каштаваў 20 пфенігаў (танна па тых часах), а яе наклад сягаў пад 20 тыс. асобнікаў, больш за палову з якіх рассылалася падпісчыкам. У той жа час абвестка пра пошук родных каштавала 1 марку. А такіх абвестак былі дзясяткі, калі не сотні (інфармацыя Вітаўта Кіпеля ад 19 снежня 2010 г.).

[352] Раніца. 3 верасьня 1944.

[353] Тамсама.

[354] Галяк, Леанід. Успаміны. Кн. 2… С. 14.

[355] Беларускія праграмы штодня ў Берліне ў 1944 і 1945 гг. перадаваліся а 06:45 і 16:45 праз радыёстанцыю «Вайсхэль» на сімвалічнай хвалі 1939. Былі таксама штотыднёвыя беларускія радыёпраграмы з Гамбургу.

[356] Раніца. 5 лістапада 1944.

[357] НАРБ. Ф. 383. Воп. 1. Спр. 9. Арк. 14.

Першае афіцыйнае паседжанне ў Берліне прайшло 1 верасня 1944 г. На ім абмеркавалі шэраг бягучых пытанняў, у тым ліку і магчымасць аднаўлення БКА[358].

Праз два тыдні, 15 верасня, адбылося першае на выгнанні паседжанне Пленуму БЦР. У ім узялі ўдзел Радаслаў Астроўскі, Мікалай Шкялёнак, Кастусь Езавітаў, Сымон Кандыбовіч, Аўген Калубовіч, Павел Свірыд, Франц Кушаль, Вячаслаў Селях, Сцяпан Стаськевіч, Сцяпан Калядка, Надзея Абрамава, Міхась Ганько. На нарадзе абмяркоўвалі стварэнне Саюзу вызвалення Беларусі (СВБ) — новай арганізацыі, якая мела аб’яднаць эміграцыю. На думку Міхася Ганька, СВБ мусіў стаць партыяй, якая б спалучыла ўсю дыяспару ў Нямеччыне. Ідэю падтрымалі Надзея Абрамава і Сцяпан Калядка. Аднак Астроўскі, Шкялёнак, Калубовіч, Езавітаў пабачылі ў СВБ небяспеку паглынання БЦР і прапанавалі адкласці абмеркаванне. У выніку статут СВБ надоўга заграз у архівах нямецкіх устаноў.

У верасні 1944 г. з Радаславам Астроўскім скантактаваліся прадстаўнікі былога гетмана Украіны Пятра Скарападскага, які з 1919 г. жыў у Берліне. Нягледзячы на некалькі сустрэчаў, бакі да згоды не прыйшлі. Гетман марыў пра Вялікую Украіну, якая б уключала польскія землі, прэзідэнт БЦР настойваў, што Палессе павінна застацца ў складзе Беларусі. Пазней кантакты ўвогуле былі згорнутыя: хутка высветлілася, што гетман рэпрэзентуе толькі адну са шматлікіх украінскіх арганізацыяў на эміграцыі.

БЦР звязалася з прадстаўнікамі іншых суполак, якія ўтваралі Украінскі нацыянальны камітэт (кіраўнік — генерал Паўло Шандрук). Астроўскі наладзіў супрацоўніцтва з вызваленым з канцлагеру Заксэнгаўзэн (Sachsenhausen) у верасні 1944 г. Сцяпанам Бандэрам — лідарам Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў. Вынікам перамоваў з украінцамі было арганізаванне Блоку народаў Усходу Еўропы, куды ўвайшлі прадстаўнікі ад беларусаў, украінцаў, каўказцаў, данскіх казакоў, а таксама народаў Сярэдняй Азіі. Блок дзейнічаў у супрацьвагу Уласаўскаму камітэту, які стаяў на пазіцыях *«адзінай і недзялімай Расіі»*, або «непрадрашэнства»: г. зн. каардынацыі барацьбы супраць бальшавікоў пад агульнай расійскай лініяй. Кастусь Езавітаў ва ўспамінах пісаў нават пра тэарэтычную падрыхтоўку супольнага паўстання на беларускіх і ўкраінскіх землях. З беларускага боку гэты праект меліся рабіць дэсантнікі «Дальвіцу» на чале з Усеваладам Родзькам. На выпадак

---

[358] НАРБ. Ф. 383. Воп. 1. Спр. 9. Арк. 9.

капітуляцыі Нямеччыны меркавалася таксама наладзіць сувязі з заходнімі саюзнікамі, але гэтыя планы засталіся на паперы[359].

Таксама ў пачатку 1945 г. Кастусь Езавітаў вёў перамовы наконт далучэння Беларусі да Блоку балтыйскіх дзяржаваў (разам з Латвіяй, Літвой і Эстоніяй). Гэтак беларусы атрымалі б выхад да партоў Балтыкі для вывазу і ўвозу тавараў. Абмеркаванне ішло з прадстаўнікамі Латвійскага камітэту, кіраўніком Латвійскага легіёну ды Латвійскага нацыянальнага камітэту, былым міністрам абароны (1926–1928) генералам Рудольфам Бангерскім, начальнікам упраўлення інфармацыі дырэкцыі ўнутраных справаў Пятром Брачам, міністрам фінансаў Мезісам[360]. Меркавалася, што ідэя згаданага блоку ажыццявіцца ў выніку паразы Нямеччыны і далейшай вайны заходніх саюзнікаў супраць СССР. Праект таксама застаўся на паперы[361].

Больш плёну было ад кантролю над беларускімі арганізацыямі. Гэтак, БЦР імкнулася ўплываць на прэсу, напрыклад, падпарадкаваць газету «Раніца». Колькасць падпісчыкаў «Раніцы» ў верасні 1944 г. налічвала 10 тыс. чалавек, «Беларускага работніка» (газеты для беларускіх остарбайтараў) — 4 тыс.[362] Станіслава Грынкевіча адхілілі ад пасады рэдактара і на ягонае месца прызначылі Станіслава Станкевіча. Да праблемы выдання «Раніцы» БЦР не раз вярталася на паседжаннях. Раду не задавальняла залежнасць газеты ад бачання немцамі *«замежнай палітыкі»*, нараканні выклікалі стыль і карэктура[363].

У верасні 1944 г. пры БЦР заснавалі Жаночы аддзел на чале з Надзеяй Абрамавай, а ў кастрычніку 1944 г. — Беларускае жаночае аб’яднанне для *«дапамогі сем’ям, сіротам, адарваным вайной, а таксама для азнаямленьня жанчын з практыкаю хатняй гаспадаркі»*. У верасні 1944 г. пры беларускай службе прапагандысцкага бюро «Вінэта», куды ўключылі прадстаўніка БЦР Сяргея Хмару, утварыўся музычна-вакальны і драматычны ансамбль з 15 артыстаў. Першапачаткова ён складаўся з вакальнага жаночага квінтэту пад кіраўніцтвам Міколы Равенскага, балетнай групы, камедыйнай групы (кіраў-

---

359 Падрабязна пра гэтыя ініцыятывы Кастусь Езавітаў распавёў у сваіх успамінах, напісаных у засценках НКВД: Езавитов, Константин. Воспоминания // Нёман. 1993. №3.

360 Езавитов, Константин. Воспоминания… С. 154.

361 Тамсама.

362 Пратакол Пленуму Прэзыдыюму БЦР ад 15 верасьня 1944 г. // За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі… С. 121–122.

363 Гэтае пытанне актыўна абмяркоўвалася на паседжанні прэзідыуму 4 снежня 1944 г. (За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі… С. 143–145).

нік Аўген Кавалеўскі) і некалькіх салістаў[364]. Пазней колькасць удзельнікаў вырасла да 30 чалавек, і калектыў быў перайменаваны ў канцэртна-эстрадную групу «Жыве Беларусь».

21 кастрычніка 1944 г. у «Вінэце» прайшоў генеральны прагляд канцэрту групы перад ад'ездам яе на гастролі па лагерах. На ім прысутнічала нямецкае кіраўніцтва «Вінэты», прадстаўнікі Міністэрства ўсходніх тэрыторыяў, Міністэрства прапаганды, БЦР і Камітэту самапомачы. Прагучалі выступы Алімпа і Валянціны Мяленцьевых (акардэон), С. Піўнёва (баян), вакальны выступ Барбары Вержбаловіч. Артысты выканалі танцы «Бульба», «Лявоніха», «Крыжачок», паказалі вадэвіль «Нечаканыя заручыны» (аўтар Аўген Кавалеўскі выканаў у ім галоўную ролю)[365]. Калектыў «Жыве Беларусь» аб'ехаў з канцэртамі ўсю Усходнюю Нямеччыну, адведваючы беларускія працоўныя лагеры і лагеры СБМ. Згадвае Галіна Руднік:

> Цёця *[Барбара Вержбаловіч. — А. Г.]* даведалася, што на Інвалідэнштрасэ *[Invalidenstraße ў Берліне. — А. Г.]* ёсьць арганізацыя «Вінэта», якая набірае артыстаў (сьпевакоў, танцораў, музыкаў), арганізоўвае тэатральныя групы, якія маюць даваць канцэрты ў лягерах для прымусова вывезеных людзей («остаўцаў»). У «Вінэце» вельмі прыхільна паставіліся да цёці і да трох танцорак Менскага тэатру, зь якімі яна туды пайшла. Справа ў тым, што рускіх групаў было ўжо некалькі, украінскіх таксама, а беларускай ніводнай. Да іх далучыўся актор Аўген Кавалеўскі й рэжысэр Іван Кір'янаў з жонкай Зінай (ён — рускі, яна — беларуска з Барысава). Не ўдалося ўкамплектаваць групу выключна беларускімі артыстамі, а таму яе дапоўнілі артыстамі рускімі з умовай, што рэпэртуар мае быць выключна беларускі. Не абышлося і без кур'ёзаў. Адна руская сьпявачка ніяк не магла вымавіць слова «яшчурок». У яе атрымлівалася «яшчюрок». Або: *«А Лявоніху Лявон палюбіл, Лявонісе чаравічкі купіл»*. Нарэшце дамовіліся, што той хто не ведае нашай мовы, будуць прыслухоўвацца да тых, хто яе ведае.
>
> Беларускай групе прызначылі адміністратара, рускую немку Веру Міхайлаўну, і група адправілася ў турнэ. Спачатку яны выяжджалі на пару тыдняў, тады вярталіся, аднаўлялі рэпэртуар — і ізноў у дарогу. Цяпер ужо вярталіся не раней, чымся празь месяц. [...]

---

[364] Раніца. 8 кастрычніка 1944.
[365] Раніца. 26 кастрычніка 1944.

Праца артыстаў была вельмі цяжкая. Езьдзілі яны цягнікамі, на дарозе ўсё часьцей бамбілі. У такім выпадку цягнік спыняўся, усе мусілі выбегчы зь яго, часам проста пад адхон або ў поле. Цёцю ў дарозе параніла ў калені. Але найгорш было тое, што цягнік давозіў тэатральную групу да якога-небудзь гораду, а адтуль яны мусілі пешшу дабірацца да лягеру, дзе меліся выступаць, і цягнуць на сабе строі, ноты, асабістыя рэчы.

Узнагародай за ўсе гэтыя цяжкасьці было тое, як гэтую групу там прымалі. Людзі плакалі, не адпушчалі са сцэны. Некаторыя мелі пры сабе нацыянальныя строі. Я да гэтага часу перахоўваю саматканую спадніцу й чаравікі, якія адна жанчына падаравала цёці ў часе гэтых падарожжаў.

Цяжкія абставіны вельмі зблізілі ўсіх артыстаў беларускай групы, якую назвалі «Жыве Беларусь». Калі напачатку рускія калегі скептычна ставіліся да беларускага рэпэртуару (яны проста ня ведалі, якія ў нас прыгожыя песьні й танцы), то з часам яны так захапіліся нашай музыкай, што ўжо не прабавалі «працягнуць» у праграмы рускія рамансы ці частушкі. Апрача таго, яны зразумелі, што працуюць ва ўнікальнай трупе, адзінай на ўсю велізарную арганізацыю. І вымаўленьне ва ўсіх палепшылася, яны спрабавалі нават часам гаварыць паміж сабой па-беларуску.

Канцэртаў даводзілася даваць вельмі шмат, бо ў кожным лягеры для прымусова вывезеных на працу ў Нямеччыну было шмат беларусаў. Гэтае мерапрыемства было задумана немцамі дзеля прапагандысцкіх мэтаў, каб людзі лепш працавалі. Але карысьці для немцаў не было ніякай. Наадварот, бедныя, прымусова вывезеныя з родных месцаў, пераважна маладыя людзі яшчэ больш сумавалі па сваіх блізкіх і толькі й марылі вярнуцца хутчэй дадому. […]

У нашага рэжысэра Кір’янава было двое дзяцей: васьмігадовая дзяўчынка й чатырохгадовы хлопчык. За імі паехалі ў Вольфэн *[Wolfen, горад на паўднёвы ўсход ад Берліну, у які немцы перасялілі бацькоў і ўдзельнікаў групы «Жыве Беларусь». Пасля капітуляцыі Нямеччыны горад трапіў у савецкую зону акупацыі. — А. Г.]* цешча Кір’янава й ейны неафіцыйны муж, паляк. Чаго толькі гэтыя бедныя бацькі не прадпрымалі, каб знайсьці сьлед дзяцей пасьля вайны. Яны зьвярнуліся ў Чырвоны Крыж і ў розныя міжнародныя арганізацыі. Вынікаў не было ніякіх. Кір’янаў з роспачы павесіўся на дрэве ў Рэгенсбургу, а яго жонка Зіна хварэла на сухоты шмат гадоў…[366]

---

366 Руднік, Галіна. Птушкі пералётныя… С. 61–67.

Увосень 1944 г. беларускі аддзел прапагандысцкага бюро «Вінэта» быў падпарадкаваны БЦР і ператвораны ў Беларускае інфармацыйнае бюро (БІБ), якое збіралася распачаць кнігавыдавецкі праект. Але БІБ паспела надрукаваць толькі дзве брашуры: Кастуся Езавітава «Беларуская Цэнтральная Рада — адзіны правамоцны прадстаўнік беларускага народу» і Міколы Шкялёнка «Беларускі народ уневажняе бяспраўныя пастановы». Рэшта кніг, якія заставаліся ў наборы, згарэла падчас авіяналётаў[367].

Апекавалася берлінская БЦР і школьным жыццём. У верасні 1944 г. у «Раніцы» быў надрукаваны зварот, у якім прапаноўвалася паведамляць адрасы месцаў, дзе застаюцца дваццаць і болей дзяцей узростам 8–13 гадоў[368]. Планавалася, што ў такім выпадку будуць ствараюцца беларускія пачатковыя школы, — БЦР ацаніла колькасць дзяцей у лагерах на 2500 чалавек. У верасні 1944 г. у аддзеле культуры і прапаганды паўстаў школьны пададдзел (кіраўнік — Аляксандр Орса), які займаўся стварэннем школаў на тэрыторыі Нямеччыны. Да канца года былі арганізаваныя 11 пачатковых школаў. Яшчэ чатыры адчыніліся ў студзені[369]. У сакавіку 1945 г. пачала працу школа ў Паўднёвай Баварыі, якую арганізаваў Сымон Жамойда ў курортным Гарміш-Партэнкірхэне (Garmisch-Partenkirchen), — шмат остаўцаў працавала ў Альпах[370]. Агульных лічбаў аб колькасці вучняў у Нямеччыне няма.

Чатыры школы былі адчыненыя таксама ў Вене, там навучаліся 111 чалавек[371]. Настаўнік Алесь Яцэвіч, які арганізоўваў тамтэйшае школьніцтва, пісаў:

> Заняткі ў школах праводзіліся кажны дзень, нават у суботы. На просьбу бацькоў, якія баяліся, каб у часе зімовых вакацый фабрычная адміністрацыя не змабілізавала б некаторых старэйшых дзяцей на працу, некаторыя школы калядных перапынкаў не рабілі, маты-

---

[367] Туронак, Юры. Беларуская кніга пад нямецкім кантролем… С. 66–67.

[368] НАРБ. Ф. 383. Воп. 1. Спр. 9. Арк. 10.

[369] Беларускія пачаткавыя школы ў Нямеччыне і Аўстрыі // Вініцкі, А. Матар’ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939–1951. Ч. 1… С. 80.

[370] Вітаўт Кіпель згадвае, што на вуліцы Гармішу ён размаўляў з бацькам пабеларуску, Жамойда выпадкова гэта пачуў, забраў іх і забяспечыў існаванне да капітуляцыі Нямеччыны, за што сям’я Кіпеляў была яму ўдзячная (Ліст да аўтара кнігі ад 2 чэрвеня 2011 г.).

[371] Беларускія пачатковыя школы ў Нямеччыне і Аўстрыі // Вініцкі, А. Матэрыялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939–1951 гадох. Мінск: Тэхналогія, 1993. С. 56–62.

вуючы патрэбамі навучаньня з прычыны спозьненага адчыненьня школы[372].

## ВАЙСКОВАЯ СПРАВА

На Пленуме БЦР 15 верасня 1944 г. дыскутавалася пытанне будучыні беларускага войска. Радаслаў Астроўскі паведаміў, што ініцыятыва немцаў, якія адправілі Беларускі батальён на Заходні фронт, зазнала паразу: беларусы пры дывізіі Зыглінга пераходзілі на бок англійска-амерыканскіх саюзнікаў[373]. Частка радных (на чале з Усеваладам Родзькам) былі зацятыя прыхільнікі барацьбы з СССР і меркавалі, што трэба выкарыстоўваць любыя формы змагання супраць бальшавізму, у тым ліку актыўна супрацоўнічаць з Камітэтам вызвалення народаў Расіі, якім кіраваў генерал Андрэй Уласаў. На Пленуме БЦР было заяўлена, што БКА афіцыйна не распускалася і можа быць адноўленая ў любы момант. Франц Кушаль нават наведаў вайсковую камендатуру Берліну, папрасіўшы вылучыць памяшканні для адноўленай БКА[374]. Кастусь Езавітаў напісаў праект арганізацыі вайсковай адзінкі (узяўшы за аснову створаны ў 1943 г. Латвійскі легіён). Нават назваць прапанаваў аналагічна, Беларускі легіён, але пастанавілі пакінуць назву БКА.

Радаслаў Астроўскі праект ухваліў. Зацвердзілі кіраўнічы штат БКА: камандуючы, ад'ютант, начальнік штабу, машыністка, перакладчык. Утварылі Кіраўніцтва вайсковых справаў пры БЦР (ваеннае міністэрства) на чале з Кастусём Езавітавым, начальнікам канцылярыі прызначылі Аляксея Васіленю, справаводам — Канстанціна Вадэйку, перакладчыкам — Альберта Ракіцкага, супрацоўнікам Статутнай камісіі — Уладзіміра Гуцьку (Дудзіцкага, былога начальніка аддзелу прапаганды БКА). Пасаду ад'ютанта камандуючага БКА заняў Дзмітрый Чайкоўскі[375].

Падрабязней пытанне Беларускага легіёну абмяркоўвалася на прэзідыуме 26 верасня 1944 г. Яго стварэнне павінна было пачацца з рыхтавання афіцэрскіх і падафіцэрскіх кадраў, дзеля гэтага планавалася адкрыць дзве

---

372 Беларускія пачатковыя школы ў Нямеччыне і Аўстрыі… С. 57. У навучальным працэсе карысталіся «Беларускім лемантаром» Пятра Кісяля, «Зборнікам арытмэтычных задач» З. Дабжыньскай і Завусцінскага.

373 Пратакол № паседжаньня Пленуму БЦР ад 15 верасьня 1944 г. // За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі… С. 121.

374 Кушаль, Франц. Спробы стварэньня беларускага войска… С. 104.

375 Загад №2 ад 17 верасьня 1944 г. // За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі… С. 123–124.

школы, афіцэрскую і падафіцэрскую, аб’яднаўшы ў 1-шы школьны (навучальны) батальён БКА. У перспектыве мелася паўстаць дзве дывізіі (баявая і рэзервовая). Франц Кушаль ацэньваў патэнцыял будучага фармавання (г. зн. колькасць беларускіх жаўнераў, раскіданых па нямецкіх частках) на 10 000 чалавек, у афіцэрскую і падафіцэрскую школы меркавалася набраць 500 афіцэраў[376].

Такім чынам, Першы школьны батальён павінен быў складацца з афіцэрскага і падафіцэрскага курсаў; афіцэрскай і падафіцэрскай школаў, гаспадарчай роты. Агульнае камандаванне даручалася Францу Кушалю[377]. Праз тое, што беларускіх школаў не было, а навучанне ў нямецкіх для беларусаў было непрымальнае, пастанавілі набраць чатырохтыднёвы афіцэрскі кароткі курс. Пасля гэтага выпускнікі павінны былі накіроўвацца ў звычайныя батальёны на аднамесячную практыку.

5 кастрычніка 1944 г. Радаслаў Астроўскі выдаў загад, паводле якога ўсе афіцэры, падафіцэры і жаўнеры БКА ды іншых беларускіх вайсковых фармаванняў, якія не былі пры вайсковых гарнізонах, залічваліся ў рэзерв пры Галоўным кіраўніцтве вайсковых справаў[378]. 15 кастрычніка 1944 г. Кастусь Езавітаў выдаў загад аб стварэнні 1-га Кадравага батальёну БКА[379]. 15 кастрычніка 1944 г. у 1-м батальёне налічваліся: 71 афіцэр, 122 падафіцэры, 149 стральцоў (салдат), а таксама 2 машыністкі — усяго 344 асобы[380]. Пры батальёне нават быў створаны духавы аркестр з 22 чалавек[381]. Праз тыдзень, 17 кастрычніка 1944 г., батальён вырас ужо да 492 асобаў (афіцэраў 88, падафіцэраў 119, стральцоў 191)[382].

Камандзірам афіцэрскіх курсаў і часовым в. а. камандзіра быў прызначаны Пятро Касацкі (агульнае камандаванне ажыццяўляў кіраўнік БКА — Франц Кушаль), камандзірам падафіцэрскіх курсаў — Антон Сокал-

376 Пратакол паседжаньня Прэзыдыюму БЦР ад 26 верасьня 1944 г… // За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі… С. 127.

377 Кушаль, Франц. Спробы стварэньня беларускага войска… С. 105.

378 Загад №5 Галоўнага Кіраўніцтва Вайсковых Спраў БЦР. З архіву БЦР. Копія захоўваецца ў прыватным архіве аўтара кнігі.

379 Загад №3 Галоўнага Кіраўніцтва Вайсковых Спраў БЦР. [Аб утварэнні 1-га Кадравага батальёна БКА]. З архіву БЦР. Копія захоўваецца ў прыватным архіве аўтара кнігі.

380 Загад №5 Галоўнага Кіраўніцтва Вайсковых Спраў БЦР…

381 Загад №6 Галоўнага Кіраўніцтва Вайсковых Спраў. Бэрлін, 27 кастрычніка 1944 г. З архіву БЦР. Копія захоўваецца ў прыватным архіве аўтара кнігі.

382 Загад №6 Галоўнага Кіраўніцтва Вайсковых Спраў БЦР…

Кутылоўскі, камандзірам вучэбнай каманды — Язэп Сажыч, камандзірам каманды аховы і гаспадаркі — Іван Кісель, намеснікам кіраўніка падафіцэрскіх курсаў — Мікалай Дзямідаў, старшым доктарам батальёну — Баляслаў Грабінскі[383].

Наўрад ці Кушаль, Астроўскі і нават Езавітаў думалі пра рэальны супраціў Чырвонай Арміі ва ўмовах немінучай нямецкай паразы. Яны проста стараліся аб'яднаць беларускіх салдатаў і афіцэраў. Апроч таго, прыналежнасць да 1-га кадравага батальёну абараняла ад прымусовага прызыву ў нямецкую армію і вывазу на прымусовыя працы, ад чаго не былі застрахаваныя нават радныя БЦР[384]. Таксама служба ў батальёне гарантавала грашовае забеспячэнне і харчаванне. Капітан атрымліваў 200 марак на месяц, надлейтэнант — 170, лейтэнант — 150, сцяжны (прапаршчык) — 100, старшына — 80, звязовы (узводны) — 60, дружыновы — 50, стралец — 30. Апроч таго, выдаваліся сутачныя памерам 5 марак; незалежна ад рангу і ступені, пакуль вайсковец не атрымае вайсковага правіянту, выплачваліся 150 марак на месяц сям'і[385].

Як і пры БЦР, пры Кадравым батальёне і ГКВС ствараліся шматлікія камісіі ды арганізацыі. 16 кастрычніка была заснаваная Статутная камісія Кіраўніцтва вайсковых справаў на чале з Кастусём Езавітавым. У камісію ўвайшлі Франц Кушаль, Уладзімір Гуцька, Віталь Мікула, Усевалад Родзька, Барыс Рагуля, Віктар Чабатарэвіч, Антон Адамовіч, Андрэй Бароўскі, Аркадзь Арэхва, Вольга Зубко[386]. У тым жа месяцы Езавітаў абвесціў пра напісанне гісторыі БКА, заклікаўшы стральцоў, падафіцэраў і афіцэраў запісваць свае ўспаміны: хто і як трапіў у БКА, дзе стаяла частка, як ішло навучанне, побыт, удзел у баях, абставіны і шляхі адступлення на захад[387]. Таксама меліся стварыць спецыяльную рэдакцыйную камісію для выдання

---

[383] Загад №3 Галоўнага Кіраўніцтва Вайсковых Спраў БЦР…

[384] Пра адзін з такіх выпадкаў не без гумару распавёў у сваіх успамінах Леанід Галяк: *«У міжчасе забесьпячэньнем належнымі дакумэнтамі пачалі займацца нямецкія ўлады, якім падлягалі справы ўсходніх работнікаў. Між іншым выклікалі да сябе пана БЦРады Пятра Орсу, павесілі яму на шыю знак усходніх работнікаў (літара «О») ды парадкавы нумар і сфатаграфавалі, сказаўшы прыйсьці на наступны дзень па гатовы дакумэнт. Гэтую і аналягічныя справы я меў палагодзіць у Остміністэрыюм»* (Галяк, Леанід. Успаміны. Кн. 2… С. 19).

[385] Загад №5 Галоўнага Кіраўніцтва Вайсковых Спраў БЦР…

[386] Загад Аб складзе Статутнай камісіі // Зборнік дакументаў БЦР. Ч. 2. С. 53.

[387] Раніца, 22 кастрычніка 1944.

ўспамінаў. Але праект так і застаўся нерэалізаваны. Вядома толькі, што ўспаміны пра Слуцкі збройны чын і падзеі 1917–1921 гг. напісалі Франц Кушаль, Хведар Данілюк, Антон Сокал-Кутылоўскі і Антон Бочка[388].

25 кастрычніка 1944 г. прэзідэнт БЦР выдаў загад аб часовых знаках адрознення ў БКА. Прадугледжвалася, што на шапцы стральцы будуць насіць Пагоню, на каўняры — шаўрон з выяваю крыжа Ярылы, на правым рукаве, вышэй за локаць — шчыток з бел-чырвона-белымі колерамі і надпісам «Беларусь» (лацінкаю)[389].

Аднак заснаванне беларускага войска зацягнулася на некалькі месяцаў. Астроўскі наракаў на вермахт, што нібыта сустрэчнай ініцыятывы з боку немцаў няма. Гэтак, 6 лістапада 1944 г. «высветлілася», што арганізацыя аддзелаў БКА належыць да кампетэнцыі СС, а не вермахту. Як вынік, гэтае пытанне зноў было прынятае да больш падрабязнага высвятлення і азнаямлення[390].

У лістападзе 1944 г. справу стварэння Беларускага батальёну адсунула на другі план сітуацыя вакол Арміі Уласава, якая мелася ахапіць усіх прадстаўнікоў СССР. 16 верасня адбылася сустрэча Андрэя Уласава і Гімлера, на якой была дасягнутая дамоўленасць аб арганізацыі супольнага Камітэту вызвалення народаў Расіі і арміі. Гэтыя структуры мусілі аб'яднаць усе народы СССР. Кіраўніцтва канцылярыі СС прапанавала БЦР далучыцца да Камітэту. Прэзідэнт на сустрэчы з Уласавым у Галоўным упраўленні бяспекі Рэйху катэгарычна заявіў: *«Нашыя шляхі розныя. Вы — за вольную Расію, я — за вольную Беларусь»*[391]. Сваю пазіцыю Радаслаў Астроўскі пацвердзіў і падчас візіту да Альфрэда Розэнбэрга ў канцы кастрычніка 1944 г.[392]

14 лістапада 1944 г. (спачатку меркавалася зрабіць гэта 7 лістапада, на ўгодкі Кастрычніцкай рэвалюцыі, але справа адклалася на тыдзень, узгадняліся пункты Маніфесту) у Празе адбыўся ўстаноўчы сход Камітэту вызвалення народаў Расіі (КВНР). Абвяшчэнне КВНР прайшло ўрачыста — у

---

[388] Успаміны змешчаныя ў кнізе: «Слуцкі збройны чын 1920 г. у дакумэнтах і ўспамінах» / [укладальнік, падрыхтоўка тэкстаў, ілюстрацыяў, аўтары заўваг і каментарыяў, паказальнікі: А. Гесь, У. Ляхоўскі, У. Міхнюк]. — Мінск, 2006. 399 с. [Другое выданне].

[389] Змешчаны ў: Загад №6 ад 27 кастрычніка 1944 // За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі… С. 134.

[390] Пратакол паседжаньня Прэзыдыюму БЦР ад 6 лістапада 1944 г. // За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі… С. 136.

[391] Туронак, Юры. Людзі СБМ. Беларусь пад нямецкай акупацыяй… С. 560.

[392] Тамсама.

прысутнасці нямецкіх чыноўнікаў, святароў, шырока асвятлялася прэсаю. Стварэнне Камітэту мела за мэту павысіць баявы настрой раскіданых па Нямеччыне і Чэхіі «ўсходніх» батальёнаў шляхам звядзення іх у вялікае фармаванне і надання статусу арміяў саюзных дзяржаваў[393]. У склад КВНР увайшлі Нацыянальная рада народаў Каўказу, Нацыянальная рада народаў Туркестану, Украінская нацыянальная рада. Прадстаўнікі ад Беларусі меліся далучыцца ў якасці Беларускага камітэту.

Маніфест быў шматстаронкавы, з вялікаю прэамбулай, у якой было адзначана, што прыйшоў час цяжкіх выпрабаванняў, калі трэба *«вырашыць лёс нашай Радзімы, нашых народаў, наш уласны лёс»*, што чалавецтва перажывае эпоху найвялікшых узрушэнняў, і сусветная вайна ідзе не толькі з Расіяй, але і супраць імперскіх ЗША і Англіі.

> Сусветная вайна — гэта смяротная барацьба супрацьлеглых палітычных сістэмаў. Змагаюцца сілы імперыялізму на чале з плутакратыяй Англіі і ЗША, веліч якіх будуецца на прыгнёце і эксплуатацыі іншых краінаў і народаў. Змагаюцца сілы інтэрнацыяналізму на чале з клікаю Сталіна, які марыць аб сусветнай рэвалюцыі і знішчэнні нацыянальнай незалежнасці іншых краінаў і народаў. Змагаюцца свабодалюбныя народы, якія прагнуць жыць сваім жыццём, вызначаным іхным уласным гістарычным і нацыянальным развіццём. [...]
>
> Два гады таму Сталін яшчэ мог падманваць народы словамі аб айчынным, вызваленчым характары вайны. Але цяпер Чырвоная Армія перайшла дзяржаўныя межы Савецкага Саюзу, уварвалася ў Румынію, Балгарыю, Сербію, Харватыю, Венгрыю і залівае крывёю чужыя землі. Цяпер відавочным становіцца праўдзівы характар вайны, што працягваецца бальшавікамі. Мэта яе — яшчэ больш умацаваць панаванне сталінскай тыраніі над народамі СССР, усталяваць гэта панаванне ва ўсім свеце[394].

У маніфесце сцвярджалася, што народы Расіі пакутуюць ад бальшавіцкай тыраніі больш як чвэрць стагоддзя і маюць права не толькі на нацыянальную незалежнасць, але і на рэалізацыю сацыяльных ды эканамічных правоў, на дэмакратычны лад жыцця. *«Таму намаганні ўсіх народаў павінны быць накіраваныя на разбурэнне жахлівай машыны бальшавізму і на захаванне*

---

[393] Окороков, А. Антисоветские воинские формирования в годы Второй мировой войны. Москва, 2000. С. 111.

[394] Манифест Комитета Освобождения Народов России. Гл.: http: // ruslo.cz/articles/1075/.

*права кожнага чалавека жыць і тварыць свабодна, у меру сваіх сілаў і здольнасцяў, на стварэнне парадку, які абараняе чалавека ад самавольства і які не дапускае прысваення вынікаў ягонай працы, кім бы там ні было, у тым ліку і дзяржаваю»*, — зазначалася ў дакуменце.

Сваёй мэтаю Камітэт вызвалення народаў Расіі меў:

а) Зрынанне сталінскай тыраніі, вызваленне народаў Расіі ад бальшавіцкай сістэмы і вяртанне народам Расіі правоў, заваяваных імі ў народнай рэвалюцыі 1917 года;
б) спыненне вайны і заключэнне ганаровага міру з Нямеччынаю;
в) стварэнне новай свабоднай народнай дзяржаўнасці без бальшавікоў і эксплуататараў[395].

Новая дзяржаўнасць народаў Расіі павінна была грунтавацца на 14 галоўных прынцыпах, у тым ліку:

Роўнасць усіх народаў Расіі і сапраўднае іх права на нацыянальнае развіццё, самавызначэнне і дзяржаўную самастойнасць.
Зацверджанне нацыянальна-працоўнага ладу, пры якім усе інтарэсы дзяржавы падпарадкаваныя задачам узняцця дабрабыту і развіцця нацыі.
Захаванне міру і ўсталяванне прыязных адносінаў з усімі краінамі і ўсялякае развіццё міжнароднага супрацоўніцтва.
Ліквідацыя калгасаў, бязвыплатная перадача зямлі ў прыватную ўласнасць сялянаў. Свабода формаў працоўнага землекарыстання; усталяванне недатыкальнай прыватнай працоўнай уласнасці. Аднаўленне гандлю, рамёстваў, саматужнага промыслу і наданне прыватнай ініцыятыве права і магчымасці ўдзельнічаць у гаспадарчым жыцці краіны.
Знішчэнне рэжыму тэрору і гвалту. Ліквідацыя гвалтоўных перасяленняў і масавых ссылак. Увядзенне сапраўднай свабоды рэлігіі, сумлення, слова, сходаў, друку. Гарантыя недатыкальнасці асобы, маёмасці і жытла. Роўнасць усіх перад законам, незалежнасць і галоснасць суда.
Вызваленне палітычных вязняў бальшавізму і вяртанне на радзіму з турмаў і лагераў усіх, хто зазнаў рэпрэсіі за барацьбу супраць бальшавізму. Ніякай помсты і праследу тых, хто спыніць барацьбу

---

[395] Манифест Комитета Освобождения Народов России…

за Сталіна і бальшавізм, незалежна ад таго, вёў ён яе з перакanання або вымушана[396].

Падкрэслівалася, што знішчэнне бальшавізму — неадкладная задача ўсіх прагрэсіўных сілаў. Камітэт быў упэўнены, што аб’яднаныя намаганні народаў Расіі знойдуць падтрымку ва ўсіх свабодалюбных нацыяў свету, і заклікаў усіх салдатаў і ўцекачоў з СССР аб’яднацца ў агульнай барацьбе супраць бальшавізму.

Беларусы ў Нямеччыне па-рознаму адрэагавалі на стварэнне Камітэту вызвалення народаў Расіі. Частка грамадскіх дзеячаў не пабачыла гарантыяў незалежнасці Беларусі ў заявах Камітэту. Кастусь Езавітаў пісаў, што 3 тысячы жаўнераў катэгарычна адмовіліся ісці ў Армію Уласава[397]. Іншыя ўцекачы лічылі, што трэба пагаджацца на змаганне супраць Саветаў «хоць разам з чортам». На супрацоўніцтва з Уласавым пайшла частка сябраў БЦР, незадаволеных з нерашучасці Радаслава Астроўскага ў барацьбе з бальшавізмам, і тыя, для каго нацыянальнае пытанне на той час не было вызначальнае (выключна прадстаўнікі Усходняй Беларусі, пазней да іх далучыўся заходнік Уладзімір Лазарэвіч).

У склад Беларускага камітэту, што ствараўся пры КВНР, увайшлі: Мікалай Будзіловіч (кіраўнік, былы шэф бюро нацыянальнасцяў пры БЦР), Яўхім Кіпель, Вячаслаў Селях, старшыня Мінску Анатоль Комар, кіраўнік БКА на Мінскую акругу Міхаіл Пугачоў, шэф аддзелу прапаганды БКА пісьменнік Уладзімір Гуцька (Дудзіцкі), журналіст Мікола Дземчанка, падпалкоўнік Мікалай Падлазнік ды інш.[398]

Яўхім Кіпель падрабязна апісаў падзеі тых месяцаў:

> Напрыканцы кастрычніка я склікаў сябраў, якія прыхіляліся да ўдзелу ва «ўласаўскім камітэце» (без Будзіловіча *[ініцыятара стварэння Беларускага камітэту. — А. Г.]*) ды паставіў простае пытанне: ці будзем супрацоўнічаць з Уласавым ці не? Пры гэтым я падкрэсліў, калі мы не пойдзем, Уласаў і Будзіловіч знойдуць іншых супрацоўнікаў. Тыя, хто былі на гэтым пасяджэнні, вырашылі ва «ўласаўскім камітэце» супрацоўнічаць. […]

---

[396] Манифест Комитета Освобождения Народов России…
[397] Езавитов, Константин. Воспоминания… С. 155.
[398] Кіпель, Я. Эпізоды. Выд. 2-е… С. 225.

У тым часе рыхтавалася цырымонія падпісання «ўласаўскага» маніфеста, праграмы дзеянняў. Планавалася гэта падзея, на жаданне Уласава, у Празе, дзе і адбылася 14 лістапада 1944 года. Там жа ў Празе быў зацверджаны Камітэт Вызвалення Народаў Расеі (КОНР — *Комитет Освобождения Народов России*) ды выбраны прэзідыум камітэта. Ад беларусаў у склад прэзідыума ўвайшоў Будзіловіч, а ад беларусаў паставіў подпіс пад маніфестам лейтэнант У. Дубавец. Відавочна, «уласаўскі» маніфест быў крокам наперад, бо ў ім змяшчаўся пункт аб праве народаў на самавызначэнне і дзяржаўную самастойнасць, аднак усё тагачаснае расейскае кіраўніцтва не надавала гэтаму важнаму пункту ніякага значэння. На мой погляд, для іх гэта быў звычайны, без зместу, хоць і патрэбны параграф. […]

Беларуская секцыя камітэта мела некалькі пасяджэнняў. Часам мы запрашалі Будзіловіча. З нацыянальнага пункту гледзішча мы Будзіловічу не давяралі — ён быў русафіл. У беларускую секцыю, апрача мяне, уваходзілі Селях-Качанскі, Комар, Барташэвіч, Пугачоў, Падлазнік, Дудзіцкі, Дземчанка. Дземчанка трымаўся найбольш з Будзіловічам. Напачатку мы хацелі выдаваць газету, аднак праца паралiжавалася бамбаваннямі, неарганізаванасцю цэлага камітэту дый няўпэўненасцю ў ходзе працы. Капітан Пугачоў меў зборкі з дзясяткам афіцэраў-беларусаў, якія мусілі прыступіцца да арганізацыйнае працы — фармавання беларускіх вайсковых адзінак. Ведаю, што Пугачоў распрацоўваў адзнакі беларускай вайсковай уніформы. Дземчанка выязджаў з Берліна ў «остаўскія» лагеры. Была падрыхтаваная (аднак не выйшла) брашура аб бальшавіцкіх злачынствах на Беларусі.

На пасяджэнні нашага камітэта ў лютым 1945 года мы пастанавілі назву Беларускі нацыянальны камітэт перамяніць на Беларуская нацыянальная рада і адзначыць 25 Сакавіка. Аднак далейшай працы перашкодзілі штодзённыя бамбаванні, амаль поўны разгром камунікацый і ў выніку — выезд на пачатку сакавіка 1945 года з Берліна. Увесь «уласаўскі» камітэт быў накіраваны ў Судэты ў горад Карлсбад (Карлавы Вары).

У Карлсбадзе мы мелі пару зборак. Пугачоў прыпушчаў, што хутка будзе сфармаваны першы беларускі батальён. Хоць скромна, але мы адзначылі 25 Сакавіка: мелі пасяджэнне ў гатэлі «Рычманд», запрасілі некалькі гасцей. Аднак было відавочна, што агульныя падзеі развіваюцца не на карысць нямецкага боку. На адным з пасяджэнняў КОНР Уласаў паведаміў, што яму, як і ўсім сябрам КОНР, ёсць магчы-

> масць вырабіць дакументы і пераехаць у Іспанію. Гэтай прапановай ніхто не зацікавіўся, бо ўсе думалі: чаго недзе ўцякаць? Аліянты павернуць зброю супраць саветаў, мы ж ваюем толькі супраць саветаў. Мы правялі яшчэ некалькі зборак, пастанавілі, што беларускія батальёны пры ўласаўскіх войсках будуць мець свае нацыянальныя адзнакі і што ўся прапаганда, скіраваная як у лагеры «остаўцаў», гэтак і на Беларусь, будзе весціся на беларускай мове, к таму часу Дземчанка склаў некалькі лістовак, а Пугачоў рыхтаваў перавыданне «Беларускага вайсковага статуту».
>
> Дык вось, я ўважаю, што ў тым часе супрацоўніцтва з камітэтам Уласава было патрэбнае. Сярод тысячаў і тысячаў палонных савецкае арміі быў высокі працэнт беларусаў. Уласаў разлічваў стварыць сваю армію з тых палонных, добраахвотнікаў, ідэёвых ворагаў камунізму і змагароў з бальшавікамі. Паколькі нацыянальная сведамасць тых савецкіх жаўнераў была амаль ніякая, трэба было быць у камітэце, каб дамагчыся стварэння беларускіх аддзелаў. Хоць супрацоўніцтва з Уласавым было правільным, без ніякага сумневу, правільна рабіла і БЦР, увесь час адстойваючы перад немцамі незалежную беларускую пазіцыю[399].

Пазней прыхільнікі Уласава былі моцна раскрытыкаваныя на паседжанні прэзідыуму БЦР (12 снежня 1944 г.), а шэфа аддзелу прапаганды галоўнага кіраўніцтва БКА, надлейтэнанта, пісьменніка Уладзіміра Гуцьку (Дудзіцкага) 15 снежня 1944 г. нават разжалавалі ў салдаты[400].

Немцы, аднак, мелі варыянт для тых, хто не хацеў далучацца да Уласава. 18 лістапада 1944 г. у Берліне Альфрэд Розэнбэрг, што як шэф Міністэрства ўсходніх тэрыторыяў працягваў пікіравацца з шэфам СС Гімлерам, у падпарадкаванні якога быў КВНР, склікаў паседжанне прадстаўнікоў народаў СССР. У ім узялі ўдзел старшыні: Баявога саюзу волжскіх татараў «Ідэль-Урал» Абдулрахман Шафаеў, Армянскага камітэту Вардан Саркісьян, Азербайджанскага камітэту Алі Фатайлібейлі[401], Грузінскага камітэту Міхаіл Кедзія, Паўночна-Каўказскага камітэту Алі-хан Кантэмір, Крымска-татарскага нацыянальнага цэнтру Эдыге Керымал, Туркестанскага нацыянальнага

---

[399] Кіпель, Яўхім. Эпізоды. Выд. 2-е… С. 223–225.

[400] Зборнік дакументаў БЦР. Ч. 2. С. 74.

[401] Алі Фатайлібейлі (пазней шэф азербайджанскай службы радыё «Вызваленне») быў забіты ў Мюнхене ў 1954 г. савецкімі спецслужбамі, прыкладна ў той самы час, калі і супрацоўнік беларускай службы Леанід Карась.

камітэту Велі Каюм-хан, прадстаўнікі ўкраінскіх нацыяналістаў (у прыватнасці, адзін з лідараў АУН Андрэй Мельнік). Ад беларусаў браў удзел прэзідэнт БЦР Радаслаў Астроўскі. Мэтаю сустрэчы было прадэманстраваць адзінства ў барацьбе супраць СССР. Удзельнікі нарады звярнуліся з мемарандумам да Розэнбэрга, пратэстуючы супраць дзеянняў Уласава.

Радаслаў Астроўскі перасцерагаў беларускіх дзеячаў ад залішняй веры ва Уласава. На паседжанні прэзідыуму прэзідэнт БЦР адзначаў:

> З моманту ўтварэньня Ўласаўскага Камітэту вызваленьня гэты Камітэт імкнецца да падпарадкаваньня сабе іншых народаў, зусім ня лічачыся з іх існуючымі арганізацыямі. З гэтым імкненьнем ні беларусы, ні іншыя народы не маглі пагадзіцца і падалі нямецкім уладам супольны пратэст. Камітэт вызваленьня ня мае права выступаць ад іншых народаў паміма іх рэпрэзэнтацыйных органаў. Гэтыя народы становяць 90 мільёнаў усяго насельніцтва былой Расеі, і яны не могуць пагадзіцца безагаворачна ўвайсьці ў склад «едзінай і недзелімай Расеі», да чаго імкнецца Камітэт вызваленьня. Мы й іншыя народы для змаганьня з бальшавікамі можам зь імі заключыць ваенны саюз, а не падпарадкавацца яму[402].

Радаслава Астроўскага падтрымаў віцэ-прэзідэнт Мікола Шкялёнак, які казаў, што ўласаўскія паўнамоцтвы нават у нямецкіх умовах вельмі абмежаваныя, і сам Уласаў мала на што ўплывае. За шчыльнае супрацоўніцтва з Уласаўскім камітэтам на паседжанні выступілі радныя Усевалад Родзька, Сцяпан Калядка, Вячаслаў Селях, Уладзімір Лазарэвіч[403]. Родзька заяўляў пра поўную падтрымку Уласава:

> Мы павінны падтрымаць матэрыяльна, збройнай сілай і маральна — усякую сілу, накіраваную супраць бальшавікоў. Самі мы, адны, нічога ня здолеем зрабіць. Мы павінны ісьці з тымі, з кім мы можам зьдзейсьніць нашыя імкненьні й гэта гарантуе нам нашыя дамаганьні. Дзеля гэтага мы павінны зрабіць усё, каб ісьці супольна з гэнэралам Уласавым[404].

Павел Свірыд казаў, што падпарадкаванне БЦР Камітэту вызвалення народаў Расіі азначае адыход ад шляху, вызначанага Першым і Другім Усебе-

---

402 Пратакол паседжаньня Прэзыдыюму БЦР. Бэрлін, 12 сьнежня 1944 г. // За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі… С. 152.

403 Тамсама.

404 Тамсама.

ларускімі кангрэсамі. У выніку дыскусіяў БЦР працягнула сваю дзейнасць, але частка радных засталася ў Беларускім нацыянальным камітэце.

20 студзеня 1945 г. быў атрыманы дазвол на стварэнне Беларускага легіёну. У гэтыя дні савецкая армія заняла Варшаву, выйшла да ракі Одэр, і да Берліну заставалася сотня кіламетраў. 19 студзеня ў нямецкай сталіцы адбыўся сход афіцэрскага корпусу 1-га кадравага батальёну БКА, на якім разгледзелі пытанне Беларускай брыгады. Былі выстаўленыя наступныя патрабаванні:

1. Брыгада па сваім асабовым складзе павінна быць чыста нацыянальная й насіць беларускую назву.
2. Беларуская брыгада павінна выступаць заўсёды як цэласьць.
3. Камандны склад уключна да камандзіра палка павінен быць беларускім.
4. Афіцэрскі камандны склад прызначаецца Галоўным Кіраўніцтвам Вайсковых Спраў пры БЦР.
5. Усе каманды й загады праводзяцца выключна ў беларускай мове.
6. Усе жаўнеры носяць беларускія адзнакі.
7. Утварыць Штаб Беларускай брыгады мяшаны зь немцаў і беларусаў, альбо паралельна са штабам брыгады нямецкім існуе беларускі, праз рукі якога праходзяць загады да камандзіра палкоў.
8. Беларускія афіцэры фактычна маюць усе правы як нямецкія афіцэры.
9. Афіцэрскія школы мусяць існаваць і далей.
10. Беларускае войска можа быць накіравана толькі на Усходні фронт.
11. Усе непаразуменьні, выкліканыя паміж нямецкімі і беларускімі камандзірамі, вырашае мяшаная нямецка-беларуская вайсковая камісія.
12. Сем’і беларускіх жаўнераў маюць правы на забесьпячэньне нараўне зь нямецкімі.
13. Харчаваньне знаходзіцца ў беларускіх руках.
14. Афіцэры 1-га кадравага батальёну просяць канчаткова выясьніць справу маёра Мікулы[405].

[405] НАРБ. Ф. 383. Воп. 1. Спр. 11а. Арк. 1–2. Намеснік шэфа БКА Віталь Мікула прапаў у Берліне, і беларускія дзеячы дапушчалі, што яго арыштавалі, а таму

24 студзеня ў Берліне адбылося супольнае беларуска-нямецкае паседжанне, у якім з беларускага боку ўдзел бралі Радаслаў Астроўскі і Кастусь Езавітаў, з нямецкага — Ганс Зыглінг. Навастораны легіён атрымаў назву «1-я грэнадзёрская штурмовая брыгада "Беларусь"»[406]. Месцам яе дыслакацыі вызначылі мястэчка Гіршаў (Hirschau). Вырашылі, што брыгада будзе складацца з трох батальёнаў, у двух з якіх будзе поўнае нямецкае кіраўніцтва, у адным — беларускае. Адначасна з фармаваннем батальёнаў мусіла пачацца стварэнне палка як адзінкі папаўнення брыгады. Калі б колькасць добраахвотнікаў была вялікай, мусіў быць арганізаваны яшчэ адзін полк[407].

Уся дывізія павінна была знаходзіцца пад кіраўніцтвам Ганса Зыглінга. Для сувязі ў беларускім батальёне прызначаўся нямецкі афіцэр, а ў батальёнах з нямецкімі афіцэрамі — беларускія. Прадугледжвалася, што будуць створаныя афіцэрская і падафіцэрская школы. ГКВС абавязвалася выслаць у брыгаду 28 афіцэраў: 4 — у штаб, 17 — у складзе беларускага батальёну, 6 афіцэраў сувязі — пры «нямецкіх» батальёнах; 1 афіцэр сувязі мусіў заставацца пры Зыглінгу. У беларускім батальёне і асобных беларускіх палках прадугледжвалася камандаванне па-беларуску. У нямецкіх батальёнах ад вайскоўца-беларуса патрабавалася толькі веданне асноўных нямецкіх камандаў; вайсковы суд меўся быць супольны; у штаб брыгады павінны былі ўваходзіць і немцы, і беларусы; апека над роднымі беларускіх вайскоўцаў ажыццяўлялася нароўні з нямецкімі жаўнерамі; у брыгадзе прызначаўся капелан-беларус. Штотыдзень адзін афіцэр і два салдаты-беларусы павінны былі складаць рапарт кіраўніку ГКВС пра стан і бягучыя падзеі, планавалася таксама ўвесці ўніформу з нашыўкамі Пагоні[408].

15 студзеня 1945 г. БЦР выдала камунікат аб арганізацыі Беларускай штурмовай брыгады[409]. Да яе далучыліся выпускнікі кадравага батальёну, а таксама раскіданыя па Нямеччыне беларускія добраахвотнікі.

Тое, што кіраўніком брыгады быў пастаўлены Зыглінг, зрабіла на беларусаў адмоўнае ўражанне. Франц Кушаль пісаў:

> У другой палове студзеня 1945 г. Зіглінг прыслаў у школьны батальён у Бэрлін «штурмбанфюрэра «(маёра) Гэнігфэльда, які, прыбыўшы ў батальён, як у падуладны яму аддзел, выбраў наймаладзей-

---

патрабавалі высветліць сітуацыю.

406 Грыбоўскі, Юры. Беларускі легіён СС… С. 126.

407 Тамсама. С. 126–127.

408 НАРБ. Ф. 383. Воп. 1. Спр. 11а. Арк. 82.

409 НАРБ. Ф. 383. Воп. 1. Спр. 11а. Арк. 7.

шых і найлепшых афіцэраў і падафіцэраў, паглядзеў на стральцоў і заявіў, што хутка яны паедуць на месца арганізацыі дывізіі. На афіцэраў і стральцоў гэты факт зрабіў як найгоршае ўражаньне. Яны выразна адчулі, што беларускае вайсковае кіраўніцтва адыходзіць на другі плян[410].

Афіцэрам сувязі паміж нямецкім кіраўніцтвам і беларускімі жаўнерамі быў прызначаны Барыс Рагуля[411].

25 студзеня 1945 г. Радаслаў Астроўскі выдаў адозву, у якой заклікаў усіх баяздольных мужчынаў і жанчын запісвацца ў Беларускі легіён. Кастусь Езавітаў падпісаў загад аб прызыве 28 студзеня 1945 г.

У адрозненне ад фактычнай прымусовай мабілізацыі ў БКА, уступленне ў Беларускі легіён было добраахвотнае. Прызыўнікам абяцалі вайсковае навучанне, забеспячэнне зброяй, вопраткай, абуткам, харчаваннем, а таксама грашовае ўтрыманне. Запісацца ў Беларускі легіён можна было ў Канцылярыі ГКВС БЦР, у філіялах і канцылярыях Беларускага прадстаўніцтва і камітэтаў самапомачы, а таксама ва ўсіх нямецкіх паліцэйскіх і вайсковых установах. Для гэтага трэба было мець пры сабе асобнік «Раніцы» з надрукаваным фармулярам[412].

БЦР прызначыла прадстаўнікоў, што меліся весці вярбоўку. Івана Кляткоўскага накіравалі ў Дрэздэнскую акругу, Анатоля Плескачэўскага — у Венскую, Кіслага і Івана Пісарыка — у Браўншвайгаўскую, Аркадзя Качана і Кастуся Глінскага— у Мюнхенскую. Пад мабілізацыю падпадалі: афіцэры векам да 45 гадоў, падафіцэры — да 40 гадоў, жаўнеры — да 35 гадоў[413].

Франц Кушаль крытыкаваў набор у Беларускі легіён, заўважаючы, што ГКВС прымала і хворых, і старых людзей, таму шмат набраных давялося адсеяць[414]. Часам не хапала нават нармальнай камунікацыі паміж рознымі фармаваннямі. Зыглінг, каб унікнуць росту самастойнасці батальёну, панізіў афіцэрскую школу да ўзроўню падафіцэрскай[415].

Лічбы добраахвотнага набору ў легіён, што ў нямецкай класіфікацыі атрымаў парадкавы № 76 і назву грэнадзёрскі полк, былі невялікія. У студзені

---

410 Кушаль, Франц. Спробы стварэньня беларускага войска… С. 108–109.

411 Тамсама.

412 Загад Кіраўніка вайсковых спраў БЦР // За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі… С. 180–181 (цалкам тэкст Загаду прыводзіцца ў «Дакументах»).

413 НАРБ, Ф. 383. Воп. 1. Спр. 11а. Арк. 20.

414 Кушаль, Франц. Спробы стварэньня беларускага войска… С. 110.

415 Тамсама.

1945 г. у яго з’явіліся 100 чалавек (хоць выказалі намер — 282)[416]. Усяго за чатыры месяцы з кастрычніка 1944 г. заявы ў легіён падалі 950 чалавек, але з’явіліся толькі 369 асобаў[417]. З лютага, калі пачалася масавая эвакуацыя з Берліну, звестак аб добраахвотным наборы няма.

Даследнік Юры Грыбоўскі на падставе нямецкіх дакументаў зазначае, што стрыжань легіёну павінны былі складаць былыя 75-ты і 76-ты палкі 30-й дывізіі СС. На базе 75-га палка ствараўся 3-ці батальён, а з 76-га — 1-шы і 2-гі батальёны брыгады. 9 сакавіка 1-я беларуская штармавая брыгада была трансфармаваная ў 30-ю дывізію СС (1-ю беларускую). Канчаткова сфармаваны быў толькі 75-ты грэнадзёрскі полк (1-шы беларускі), які складаўся са штабу, штабной роты, 1-га фюзілерскага, 2-га і 3-га грэнадзёрскага батальёнаў. Назваў, якія выкарыстоўваюцца ў беларускай эміграцыйнай літаратуры, «1-шы беларускі нацыянальны полк» або «1-шы беларускі полк», на думку Юрыя Грыбоўскага, у рэальнасці не існавала[418].

Камандны склад 75-га грэнадзёрскага палка быў наступны:

– камандзір палка — штурмбанфюрэр Франц Генінгфэльд (з 1 сакавіка — Ганс Эстэрайх (Hans Österreich), ад’ютанты — Хведар Данілюк і Якуб Бабіч;

– штабная рота — Янка Юзэфовіч;

– намеснік камандзіра па гаспадарчых справах — Вінцэнт Паплаўскі;

– афіцэр вайсковай падрыхтоўкі — Аляксей Грыцук.

1-шы фюзілерскі батальён (камандзіры штурмбанфюрэры — Сцяпан Шнэк і Антон Сокал-Кутылоўскі) складаўся з трох пяхотных і адной супрацьтанкавай роты. 2-гі грэнадзёрскі батальён (камандзіры Пятро Касацкі і Зміцер Чайкоўскі) складаўся з трох звычайных ротаў і адной супрацьтанкавай. Быў таксама і 3-ці грэнадзёрскі батальён (камандзіры Юры Сабіла і Туміла)[419].

Акрамя таго, у склад палка ўваходзілі: 30-ты конны эскадрон разведкі (Канстанцін Кіслы), рота сапёраў (Павел Тапіца), 30-я супрацьтанкавая рота (Уладзімір Беняш), супрацьгазавы ўзвод (Мартынаў), 30-я санітарная рота. Палкавым лекарам прызначылі доктара Мікалая Шчорса, лекарамі ў трох батальёнах лічыліся Аляксандр Наймік, Станіслаў Грынкевіч і Мікалай Мінкевіч[420]. Нямецкае камандаванне палка было наступнае: 1-шы батальён —

---

[416] Грыбоўскі, Юры. Беларускі легіён СС… С. 129–130.

[417] Справаздача аб ходзе падачы заяваў аб уступленні ў Беларускае войска добраахвотнікамі // Зборнік дакументаў БЦР. Ч. 2. С. 123.

[418] Грыбоўскі, Юры. Беларускі легіён СС… С. 129–130.

[419] Тамсама. С. 130.

[420] Тамсама. С. 131–133.

Альбэрт Лефлёр, 2-гі батальён — Райнгольд Ніпэль, 3-ці батальён — Райнгольд Баўсэль[421]. Для палка былі ўведзеныя нацыянальныя знакі адрознення: бел-чырвона-белая нашыўка на рукаве з надпісам «Belarus». Легіён не ўзяў удзелу ні ў адным баі (25 сакавіка Кастусь Езавітаў выдаў паўторны загад з заклікам запісвацца ў нацыянальныя фармаванні[422]). Напярэдадні капітуляцыі немцы ўзяліся за яго расфармаванне, і толькі тады беларусам удалося паставіць брыгаду (легіён называлі брыгадай) пад свой кантроль. На прапанову Кушаля на пасады кіраўнікоў трох батальёнаў былі прызначаныя беларусы: Антон Сокал-Кутылоўскі, Дзмітры Чайкоўскі і Таміла, аднак Зыглінг паспеў забраць некалькі беларускіх афіцэраў (Рыгор Зыбайла, Аўген Трусаў) і адправіць іх у дывізію «Нібелунгі», куды былі ўключаныя і беларускія жаўнеры з іншых вайсковых фармаванняў. Легіён гэтак і не атрымаў зброі. Толькі 28 красавіка беларусам удалося разжыцца з нямецкага абозу 80 вінтоўкамі[423].

Франц Кушаль скантактаваўся з генералам Расійскай вызвольнай арміі Аляксандрам Мальцавым, і 30 красавіка брыгада «Беларусь» разам з палком РВА, унікаючы сутычак і савецкага палону, перайшла лінію фронту і здалася амерыканцам каля баварскага мястэчка Кам[424]. Разам з навучэнцамі школьнага батальёну і аскепкамі былой расійскай брыгады Зыглінга пры канцы красавіка Беларуская брыгада налічвала 1094 чалавекі: афіцэраў — 50, падафіцэраў — 132, стральцоў — 912[425] — і складалася з трох батальёнаў. Для брыгады гэта сталася самым сапраўдным палонам, у якім жаўнеры заставаліся 13 месяцаў. Той час апісаў у кнізе «Дванаццатка» Янка Запруднік:

> Прабыўшы 10 месяцаў у нямецкім войску, мы з Вадзімам *[Сурко. — А. Г.]* пачалі 13-месячны палон у амэрыканцаў. З тыдзень часу нас трымалі на адкрытым полі каля Каму. Разам з намі і ўласаўцамі была там таксама нейкая вугорская вайсковая адзінка. Ночы стаялі яшчэ халодныя, і вугорцы, у якіх былі лапаткі, дагадваліся выкопваць у часе дня неглыбокія пляскатыя ямкі, у якіх ня так даймаў начны холад. Пад вечар, бывала, паўставалі задзіркі, наўмысна пачатыя нашымі ці ўласаўцамі з аднаго боку ды вугорцамі. І як толькі ўспыхвала бойка, раздаваўся кліч «рускага б'юць», і ўсе гуртам, і нашы і

---

421 Грыбоўскі, Юры. Беларускі легіён СС… С. 133.
422 НАРБ. Ф. 383. Воп. 1. Спр. 11а. Арк. 301.
423 Кушаль, Франц. Спробы стварэньня беларускага войска… С. 124.
424 Тамсама.
425 А таксама коней — 50, вазоў — 16, кухняў — 6 (Кушаль, Франц. Спробы стварэньня беларускага войска… С. 121).

ўласаўцы, кідаліся на вугорцаў, выганялі іх з іхных ямак ды ўмошчваліся там самі нанач. «Выгнанцы» назаўтра капалі новыя ямкі, і эпізод з бойкай і клічам «рускага б'юць» паўтараўся. Вугорцаў хутка некуды забралі, а нас, жаўнераў дывізіі «Беларусь», ды ўласаўцаў перакінулі ў лягер ваеннапалонных у Рэгенсбургу. Там, седзячы за дротам у балоце, мы зь Дзімам (Вадзімам) упершыню даведаліся, што гэта — сапраўдная смага (без вады пасьля салёнае кансэрвы); атрымалі некалькі разоў ад сваіх амэрыканскіх ахоўнікаў па сьпіне дошкаю: трэба было прабягаць паміж радоў скрынак з кансэрвамі, хапаць працягнутую табе амэрыканцам банку і тут жа ад другога атрымліваць удар дошкаю па сьпіне. Гэтак разраджалася напружаньне ў пераможцаў, якое накапілася за гады вайны.

Прасядзеўшы ў загарадзі тыдняў два, мы былі перавезеныя пад баварскі гарадок Плятлінг. Там на голым полі паўстаў, пабудаваны нашымі рукамі, цэлы барачны пасёлак, агароджаны калючым дротам і вышкамі, у якім мы прабылі аж да канца травеня 1946 году. Адтуль нас вывозілі на розныя работы, патрэбныя акупацыйнай уладзе.

У Плятлінгу недзе на пачатку 1946 г. усе палонныя прайшлі праз амэрыканска-савецкі ваенны трыбунал. Мэтай яго было ўстанавіць, хто быў да вайны савецкім грамадзянінам і дзеля гэтага падпадаў пад дэпартацыю ў Савецкі Саюз. Нас з Вадзімам, як і шмат іншых беларусаў з Заходняй Беларусі, уратаваў ад такога ліха факт, што мы нарадзіліся пад Польшчай, а значыцца на нас не распаўсюджвалася дамоўленасьць заходніх аліянтаў са Сталіным аб выдачы яму савецкіх грамадзянаў. Вынікам трыбуналу сталася тое, што ўсе ваеннапалонныя, якія паходзілі з савецкай тэрыторыі ў межах да 17 верасьня 1939 г., былі сілаю дэпартаваныя.

Аднае марознае раніцы 1946 г. усіх нас гвалтам выгналі з баракаў на двор і падзялілі на дзьве групы — адных направа, другіх налева. Першых пасадзілі на грузавікі і — на чыгуначную станцыю ў Плятлінг. Там іх чакалі таварныя вагоны з канваірамі. І, як расказвалі пасьля, там жа адбываліся трагічныя сцэны супраціву, уключна з самагубствамі.

Трапілі ў гэтую катэгорыю, праўда, ня ўсе былыя савецкія грамадзяне. Некаторым хапіла празорлівасьці ці проста шчасьлівага выпадку прызнацца на трыбунале, што яны былі рэпрэсаваныя. Іх пакінулі. Але такіх, відаць, было ня шмат — далёка ня ўсе прызнаваліся, бо ня ведалі, што лепш: быць уваччу амэрыканцаў саюзнікамі Сталіна, ворагам камуністычнага рэжыму ці ляяльным савецкім

грамадзянінам. Уратаваліся ад дэпартацыі таксама тыя, хто на чыгуначнай станцыі ў Плятлінгу параніў сябе ў спробе самагубства. У ліку такіх былі й нашыя суродзічы з Усходняй Беларусі[426].

## СТАТУТ І КАНСТЫТУЦЫЯ БЦР

18 снежня 1944 г. на чарговым Пленуме БЦР Радаслаў Астроўскі заявіў пра неабходнасць грунтоўнай перапрацоўкі Статуту, бо напісаны Готбэргам у снежні 1943 г. дакумент ужо не адпавядаў сітуацыі. На Пленуме таксама вырашылі павялічыць колькасць сябраў Рады да 20 асобаў[427].

Падрабязней гэтае пытанне абмеркавалі на прэзідыуме 21 снежня 1944 г. З асноўным дакладам выступіў Аўген Калубовіч, які прапанаваў у дадатак да Рады стварыць Выканаўчы камітэт (сённяшнімі словамі — урад). БЦР планавала стварыць паўнавартасныя дзяржаўныя структуры на выпадак атрымання Беларуссю аўтаноміі[428].

Выканаўчы камітэт, паводле Калубовіча, складаўся б з дзевяці дэпартаментаў: замежных справаў, вайсковых справаў, культуры і прапаганды, сацыяльнай апекі, фінансаў і адміністравання, галоўнага вайсковага камандавання і канцылярыі Выканаўчага камітэту. Справамі палітычнага характару займалася б Рада, а пры дэпартаментах ствараліся б асобныя аддзелы-рэфераты: юрыдычных справаў — пры дэпартаменце сацыяльнай апекі, веравызнанняў — пры дэпартаменце культуры і прапаганды або сацыяльнай апекі, аховы здароўя — пры дэпартаменце сацыяльнай апекі, моладзі — пры старшыні Выканаўчага камітэту[429].

Радаслаў Астроўскі прапанаваў стварыць наступную дзяржаўную структуру: з’езд дэлегатаў фармаваў бы першую ніжнюю палату, Рада — верхнюю палату (сенат), выканаўчы орган — сакратарыят Рады, або дырэкторыю. У мірны час сакратарыят складаўся б з 17 дэпартаментаў, у ваенных умо-

---

[426] Запруднік, Янка. Дванаццатка: Дакумэнтальная аповесьць пра дванаццацёх беларускіх хлапцоў у Нямеччыне, Вялікабрытаніі й Бэльгіі (1948–1954). [Нью-Ёрк—Беласток]: Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, 2002. С. 23–24.

[427] За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі… С. 158.

[428] Да Ялцінскай канферэнцыі 3–4 лютага 1945 г., на якой прынялі рашэнне пра падзел Еўропы на заходнюю і савецкую сферы ўплыву, было яшчэ паўтара месяца, таму планы аб будучыні Беларусі не выглядалі як нешта нерэальнае.

[429] Пратакол паседжаньня Прэзыдыюму БЦР, 21 сьнежня 1944 г. // За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі… С. 159–162.

вах дэпартаментаў было б 5: 1) палітыкі, 2) сацыяльнага забеспячэння, 3) прапаганды і культуры, 4) вайсковых справаў, 5) планавання і фінансаў[430].

Пасля прапановаў Паўла Свірыда, Міколы Шкялёнка, Франца Кушаля і Сцяпана Калядкі аб рэарганізацыі вырашылі спачатку спыніцца на пашырэнні Рады, а пытанне Статуту БЦР абмеркаваць пазней. У выніку яго прынялі на сесіях Рады 14, 15, 17 студзеня 1945 г.[431]

Статут складаўся з 38 артыкулаў. Паводле яго, БЦР мелася заняць нішу Рады і ўраду БНР і павінна была стаць галоўным прадстаўніцтвам беларускага народу на эміграцыі. Трэба адзначыць, што нямецкія ўлады пад канец вайны амаль перасталі надаваць увагу існаванню і дзейнасці БЦР, таксама як і іншым нацыянальным структурам, напрыклад, украінскім ці армянскім.

У новай рэдакцыі Статуту БЦР абвяшчалася *«адзіным праўным прадстаўніцтвам сувэрэнных правоў беларускага народу, пакліканым Другім Усебеларускім Кангрэсам у Менску»*[432]. Галоўным палітычным заданнем вызначалася *«арганізацыя ўсіх сілаў беларускага народу для змаганьня за вызваленьне Беларусі й здабыцьцё сваёй незалежнасьці»*. Зазначалася, што БЦР ажыццяўляе праўную, сацыяльную і культурную апеку над усімі беларусамі, якія апынуліся па-за межамі Беларусі[433].

Паводле арт. 3 Статуту, паўнамоцтвы БЦР трывалі да Трэцяга Усебеларускага кангрэсу, які Рада абавязаная была склікаць пасля вызвалення Беларусі. Ачольваў БЦР прэзідэнт, які павінен быў рэпрэзентаваць Раду перад урадамі ды нацыянальнымі прадстаўніцтвамі іншых дзяржаваў. «Вырашаючым» (заканадаўчым) органам БЦР абвяшчаўся Пленум Рады на чале з прэзідыумам (старшыня, намеснік і сакратар, што выбіраліся тэрмінам на адзін год), у склад якога ўваходзілі ўсе сябры БЦР (агульны лік сябраў не павінен быў перавышаць 25 чалавек, Міхась Ганько выказаў прапанову пашырыць да 60, аднак яе адхілілі).

Да кампетэнцыі Пленуму Рады належала: перагляд Статуту БЦР; выбар кандыдатаў на пераемнікаў прэзідэнта; разгляд і прыняцце праграмы і

---

[430] Пратакол паседжаньня Прэзыдыюму БЦР, 21 сьнежня 1944 г. // За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі… С. 159–161.

[431] Тамсама.

[432] Статут Беларускае Цэнтральнае Рады [другая рэдакцыя] // За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі… С. 173–175.

[433] Тамсама.

палітычнай лініі; ратыфікацыя дамоваў з нацыянальнымі прадстаўніцтвамі; прапановы прэзідэнту кандыдатаў у радныя і аб адкліканні радных[434].

Выканаўчым органам БЦР абвяшчалася Калегія (першым шэфам Калегіі прызначылі Мікалая Шкялёнка), у склад якой уваходзілі кіраўнікі ўсіх аддзелаў БЦР. Калегія павінна была выконваць усю працу БЦР у розных сферах[435].

20 студзеня 1945 г. у склад Рады прапаноўвалася ўключыць: журналіста Антона Адамовіча, рэдактара «Раніцы» Станіслава Станкевіча, журналіста Сяргея Хмару, інжынера Івана Касяка, юрыста Леаніда Галяка, дзеячаў берлінскага асяродку: інжынера Кастуся Калошу, Бернарда Букатку, Пятра Бакача, новага кіраўніка Самапомачы Антона Бяленіса, вайскоўца Барыса Рагулю[436]. БЦР меліся папоўніць: архіепіскап Філафей як прадстаўнік праваслаўнай Беларускай мітраполіі, ад беларускіх католікаў — кс. Пётра Татарыновіч; а таксама грамадскія дзеячы Андрэй Бароўскі, Мікалай Шчорс, журналіст Станіслаў Грынкевіч, інжынер Уладзімір Тамашчык[437]. Аднак афіцыйна яны так і не былі ўключаныя з прычыны недахопу часу — пачалася эвакуацыя. У пачатку лютага 1945 г. частка сябраў БЦР выехала з Берліну, і склікаць паўнацэнны Пленум, які мусіў зацвердзіць новых чальцоў, не ўдалося.

Як адзначаў у сваіх успамінах, напісаных, што праўда, у засценках НКУС Канстанцін Езавітаў, у гэты ж час быў падрыхтаваны праект Канстытуцыі БНР, дапасаванай да ўмоваў новага часу. Праект прадугледжваў, што незалежная Беларусь у сваіх этнаграфічных межах будзе называцца, як было абвешчана ў 1918 г.: Беларускай Народнай Рэспублікай. На чале БНР — абраны ўсеагульным галасаваннем прэзідэнт і Рада. У галасаванні маглі браць удзел грамадзяне, старэйшыя за 18 гадоў[438]. Звярталася ўвага, што да вяртання на тэрыторыю Беларусі прэзідэнт БНР — Радаслаў Астроўскі, а функцыі Рады БНР будзе выконваць зацверджаная Другім Усебеларускім кангрэсам БЦР.

Праект Канстытуцыі прадугледжваў стварэнне ўраду, падсправаздачнага парламенту (Радзе БНР). У першапачатковай рэдакцыі ўрад называўся Кабінетам Міністраў, на чале яго павінен быў стаяць прэм’ер-міністр, які прызначаўся прэзідэнтам і атрымліваў ад яго даручэнне сфармаваць Кабінет Міністраў. Але пасля Кабінет Міністраў пастанавілі назваць Калегіяй, а міністраў — сябрамі Калегіі. Таксама быў спраектаваны адміністрацыйна-

---

[434] Статут Беларускае Цэнтральнае Рады [другая рэдакцыя]…
[435] Тамсама.
[436] Езавитов, Константин. Воспоминания… С. 138–140.
[437] Тамсама.
[438] Тамсама.

тэрытарыяльны падзел: акругі (як у БССР), падзеленыя, у сваю чаргу, на паветы і воласці. У валасцях, паветах і акругах мусіла дзейнічаць мясцовае самакіраванне, органамі самакіравання былі б валасная, павятовая і акруговая рады[439].

Банкі, буйная прамысловасць і гандлёвыя адносіны з замежжам, паводле праекту, заставаліся ў руках дзяржавы. Дробны гандаль і рамесніцтва — у прыватных руках, аднак зазначалася, што пераважаць пры дзяржаўнай падтрымцы будуць кааператывы і арцелі. Усе працоўныя меліся быць застрахаваныя ад няшчасных выпадкаў і хваробаў, частка заробку пералічвалася ў пенсійны фонд (выхад на пенсію — у 55 гадоў). Інваліды працы атрымлівалі б пенсію незалежна ад узросту.

У аснове землекарыстання ў Беларусі павінна быць хутарская гаспадарка, але ахвотныя маглі аб'ядноўвацца ў калектыўныя гаспадаркі. Дзяржава магла мець вялікія ўладанні. Памешчыцкіх латыфундыяў і назапашвання вялікай плошчы зямлі ў адных прыватных руках не дапускалася, найбольшая колькасць зямлі, якой магла валодаць адна гаспадарка, — 30–50 гектараў.

Рэлігія прызнавалася прыватнай справай вернікаў, патрабавалася толькі, каб рэлігійныя супольнасці прызнавалі беларускую народнасць і БНР. Меркавалася стварыць Праваслаўную мітраполію, Беларускае баптысцкае епіскапства, Каталіцкую мітраполію.

20 студзеня 1945 г., як пісаў Езавітаў, на аснове новай Канстытуцыі быў скліканы прэзідыум. Старшынём яго абралі Юрыя Сабалеўскага, таварышам старшыні (намеснікам) — Антона Адамовіча, сакратаром — Сямёна Кандыбовіча. 21 студзеня была канчаткова сфармаваная Калегія (урад). У склад яе ўвайшлі: Мікалай Шкялёнак (старшыня / прэм'ер-міністр), Кастусь Езавітаў (начальнік ваеннага кіраўніцтва), Бернард Букатка (загадчык адміністрацыйнага аддзелу, які меўся стаць Міністэрствам унутраных справаў), Аўген Калубовіч (загадчык аддзелу прапаганды і культуры), Сяргей Хмара (намеснік аддзелу прапаганды), Уладзімір Каракулька (загадчык аддзелу фінансаў), Уладзімір Тамашчык (загадчык аддзелу планавання), Лявон Бяленіс (загадчык аддзелу сацыяльнага забеспячэння), Павел Свірыд (загадчык аддзелу юрыспрудэнцыі і веравызнання).

У дэкларацыі БЦР Мікола Шкялёнак падкрэсліваў, што новая Канстытуцыя дае магчымасць БЦР весці далейшую канцэнтрацыю вакол сябе ўсіх беларускіх грамадзянаў у эміграцыі, а таксама стварае афіцыйную прагра-

---

[439] Езавитов, Константин. Воспоминания… С. 138–140.

му барацьбы за незалежнасць БНР/БЦР. Дэкларацыя і склад Калегіі былі зацверджаныя Пленумам БЦР. З гэтага часу лічылася, што ўрад Беларусі на эміграцыі — БЦР, а Калегія БЦР пасля разгрому Нямеччыны стане называцца Кабінетам Міністраў БНР[440].

## НОВАЯ ЭВАКУАЦЫЯ

У пачатку лютага 1945 г. моцна бамбілі Берлін: згарэла шмат пабудоваў, 3 лютага саюзніцкая авіяцыя знішчыла будынак Міністэрства ўсходніх тэрыторыяў.

Пра бамбаванні Берліну ёсць нямала ўспамінаў беларускіх дзеячаў. Вось што згадвала пра лютаўскія падзеі Галіна Руднік:

> Нехта мне сказаў, што ёсьць адна ўстанова, дзе жыхарам Бэрліну выдаюць дазвол на куплю білету на цягнік *[14-гадовай Галіне трэба было выбрацца самастойна да цёткі ў Вену. — А. Г.]*. Знаходзіцца гэта ўстанова на пляцы *Anhalter Bahnhof*. На наступны дзень я туды паехала. Гэта быў даўгі барак. Там стаяла шмат столікаў, за кожным сядзеў урадовец. Пакуль я выбірала сабе асобу больш сымпатычную, завыла сырэна, і ўсе пабеглі ў бамбасховішча. Па дарозе туды я выпадкова сустрэла нашу паэтэсу Натальлю Арсеньневу. Мы зь ёй разам спусьціліся на станцыю мэтрапалітэну. У тым месцы станцыя была двухпавярховая. Мы пайшлі на ніжэйшы паверх. У часе налёту падавалі пустыя цягнікі мэтро. У іх можна было выгодна сядзець. Мы ўжо адразу адчулі, што бамбёжка была нейкая асаблівая. Па-першае, было яшчэ сьветла, па-другое, яна вельмі доўга трывала. Мы адчувалі, што бомбы рвуцца проста над намі. Адна бомба прабіла два паверхі, але яна, відаць, не разарвалася. Калі згасла сьвятло, а праз наш вагон праляцеў мужчынскі капялюш, то стала вельмі страшна.
>
> Урэшце бамбёжка скончылася, і я наіўна падумала, што дастану доўгачаканую паперу. Мы выбраліся на паверхню й пабачылі, што бараку, дзе выдавалі дазволы, ужо няма: пустое месца! Усё наўкола гарыць, уключна зь люксусовым гатэлем «Эксэльсіёр». Хоць гэта яшчэ быў дзень, але ад дыму зрабілася зусім цёмна. Нам нічога не заставалася, як пачаць дабірацца дадому. Транспарту, ясна, не было ніякага. На вуліцах стаялі пабітыя трамваі, ляжалі слупы, цэгла, электрычныя правады. Маставыя былі пашкоджаныя бомбамі. Натоўп

[440] Езавитов, Константин. Воспоминания… С. 138–140.

людзей накіроўваліся ў адзін бок. Мы за імі. Раптам усе павяртаюць назад, там не прайсьці. Прабавалі другі напрамак — тое самае. Нарэшце знайшлі вуліцу, дзе на адным баку дагаралі высокія будынкі, а з другога боку была рэчка. З-за дыму цяжка было дыхаць. Твары мы закрылі каўнярамі паліто. Я прабіралася першай. Натальля Арсеньнева за мной. Я ўвесь час аглядалася, ці ідзе яна ззаду. Раптам бачу, што яе няма. Я — назад, яна заблыталася ў правадах і ўпала. Я ёй дапамагла выбрацца, і як толькі мы прайшлі некалькі мэтраў, фасад будынка рухнуў на вуліцу й падмяў па сабой ня ведаю колькі дзясяткаў людзей[441].

3 лютага 1945 г. пасля Ялцінскіх перамоваў былі акрэсленыя будучыя акупацыйныя зоны саюзнікаў. СССР аддавалася ўсходняя частка Нямеччыны. Сябры БЦР і большасць грамадскіх дзеячаў пастанавілі выязджаць з Берліну на Захад. Частка чальцоў Рады выязджала асобна[442]. Больш арганізаваная група з 51 асобы пад кіраўніцтвам Юрыя Сабалеўскага скіравалася ў горад Гёкстэр (Höxter, Паўночны Рэйн-Вэстфалія) за 350 км ад Берліну. Леанід Галяк успамінаў:

З аднаго боку, гэта былі працаўнікі БЦРады, або самыя радныя зь сем'ямі; з другога боку, некаторыя беларусы, якія, даведаўшыся аб выезьдзе Рады з Бэрліну, далучыліся да выяжджаючых. З працаўнікоў Рады былі: Валянціна й Ніна Якубовіч, А. Сакалоў, У. Саўка, Раіса Евец, мая жонка Раіса й я, Гелена Палуйчык, сястра Раісы Евец, Пётра Орса — радны з жонкай і сынам, М. Мінкевіч — радны, на прапанову Кандыбовіча, з жонкай Галінай з дому Астроўскай, Фішчук і яго матка Васільева, Каракулька з жонкай і сынам, Язэп Гладкі, Віталі Кажан, А. Арэхва, А. Кароль, таксама маці Мінкевіча й двое ягоных дзяцей, Аўген Люткевіч.

Да гэтай групы далучыліся на станцыі ў Шэнэбэрг у Бэрліне: сям'я Каравайчыкаў, К. Дземідовіч-Дэмідэцкі, сям'я Скрыньнікаў ды сястра жонкі Скрыньніка Гортынска з сынам, жонка Дзямідава з сваёй сястрой, айцец С. Радзевіч, Антон Мілішкевіч, Сьвятаслаў Коўш з жонкай і сынам, [Мікалай] Поль і Лявон Случчанін і жонкай. Празь некалькі дзён В. Пануцэвіч прывёз у Гэкстэр жонку Ірэну, Эдуарда Будзьку з жонкай Валерыяй і дачкой Людвікай ды пакінуў іх у Гэкстэры, нягледзячы на пратэсты «ўладаў», а сам выехаў. Разам з Па-

441 Руднік, Галіна. Птушкі пералётныя… С. 68–69.
442 Пераважна ў паўднёва-заходнім кірунку ад Берліну.

нуцэвічам прыехаў яшчэ Дзямешка. У гэтым самым часе радны БЦР С. Калядка прывёз сваю жонку, а сам вярнуўся ў Бэрлін. У такім складзе пачалі жыцьцё ў Гэкстэры[443].

Апісаў эвакуацыю з Берліну, хаатычную і змрочную, таксама Дзмітрый Сямёнаў, што апынуўся ў горадзе пад апекай Наталлі Арсенневай:

На першы цягнік мы ня ўлезьлі. Другім неяк дамучыліся. Такім чынам, а нейкай чацьвёртай гадзіне мы былі на парозе ў невядомае. Чакаць прыйшлося страшэнна доўга. Пераносілі з аднаго боку плятформы на другі, групіраваліся і перагрупіроўваліся, урэшце выстраіліся ўсе мужчыны на краю пэрону, маючы за сабой рэчы і жанчын. А палове дзевятай падалі цягнік, і пачалося. Некалькі хлопцаў скочыла ў вокны, а астатнія пачалі шпурляць у вагон рэчы, запіхваць дзяцей і жанчын. Маланкава, аж немцы рты парасчынялі, усё было *fix und fertig*[444]. Праз вокны дзе-нідзе тырчэла нага чы галава, а зь сярэдзіны вагону даносіўся гук, нібы трактар працуе.

Трэба-ж і мне ўлазіць. Першы раз у жыцьці даю нырца ў вакно і… стаю ў некага на галаве. Раздаецца ў цемры ёнк і стогн. Тады хапаюся за багажныя паліцы наверсе і падцягваюся. Некалькі часу болтаюся над купэ ў паветры. Потым нехта бярэ мае ногі й ставіць іх на нешта, на чым можна стаяць. Звальваюся ў праход. Тут знаходжу Ўладзіка *[Кушаля. — А. Г.]* й Галю *[Ганчарэнку, пазней Руднік. — А. Г.]*. Другія суседзі — два немца. Яшчэ трошкі мітусьні, пад час якой знаходзім торбу Н. А. *[Наталлі Арсенневай. — А. Г.]*, што ляжала пад нагамі сп-ні Калубовіч (Яні), яшчэ некалькі рэчаў выпарваем з самых нечаканых мейсцаў, аддаем чужое, і ўсе спакойны. Аказваецца, што я апынуўся каля вакна бяз шыбы. Страшэнна дзьме.

Паволі кранаецца цягнік, гляджу ў апошні раз на *S-Bahn*, на бэрлінцаў, на ўсё, што называецца так падабаўшымся мне Бэрлінам. Немцы завешваюць вакно коўдрай. Кладу рукзак і сядаю на яго з Галей. Уладзік разьмясьціўся на яе куфры[445].

Частка радных БЦР (Сымон Кандыбовіч, Аўген Калубовіч, Франц Кушаль ды інш.) выехалі ў Гіршаў, дзе размяшчалася Беларуская штурмовая

---

443 Галяк, Леанід. Успаміны. Кн. 2…
444 Fix und fertig (ням.) — як перуном спалена.
445 Сямёнаў, Дзмітрый. Дзённік: 1943–1947… С. 209–210.

брыгада. Меркавалася, што пры канцы вайны яны паспрабуюць наладзіць кантакты з саюзнікамі, навязаўшы сувязі з першаю групаю[446].

У лютым 1945 г. памяшканні ў Вайсэнзээ (Weißensee) былі разбомбленыя, і пазасталыя ў Берліне сябры БЦР атрымалі новыя офісы на Яновіц-штрасэ. Да канца сакавіка ў Берліне заставаліся Радаслаў Астроўскі з ад'ютантам Няронскім, Кастусь Езавітаў, Анатоль Шкутка, Мікола Дзямідаў, Бернард Букатка, Кастусь Калоша, Сцяпан Калядка, Павал Свірыд. У канцы лютага ў Берлін вярнуўся Юры Сабалеўскі, які падаў у адстаўку з пасады кіраўніка «Гёкстэрскай групы» з прычыны ўнутраных непаразуменняў. У канцы сакавіка — пачатку красавіка і астатнія прадстаўнікі БЦР пакінулі сталіцу Нямеччыны.

21 сакавіка 1945 г. выйшаў апошні нумар «Раніцы». Тады ж, відаць, выехаў з Берліну Радаслаў Астроўскі. 25 сакавіка ён ужо браў удзел ва ўрачыстасцях, якія ладзіліся Беларускаю брыгадай у Гіршаве[447]. З Гіршава прэзідэнт БЦР перабраўся ў Гёкстэр.

З пачатку 1945 г. дзеячы БЦР рабілі неаднаразовыя спробы наладзіць кантакты з заходнімі саюзнікамі. Меркавалася паслаць перамоўцаў у Францыю, Швейцарыю, Швецыю. Данію, Нарвегію, Італію. Станіслаў Грынкевіч (былы рэдактар «Раніцы») меў намер выехаць у Швейцарыю, дзе мусіў скантактавацца з прадстаўнікамі заходніх саюзнікаў праз княгіню Магдалену Радзівіл, а Дзмітры Касмовіч збіраўся скіравацца ў Францыю. Аднак гэтая ініцыятыва скончылася нічым. Станіслава Грынкевіча затрымалі амерыканцы, што арыштавалі яшчэ некалькі беларусаў. Вызваліць з палону, дзякуючы хадайніцтву а. Мікалая Лапіцкага, змаглі толькі Лявона Савёнка і Станіслава Грынкевіча. Астатнія дзесяць чалавек былі выдадзеныя саветам увосень 1946 г.

9 красавіка БЦР атрымала загад эвакуявацца далей. Рада перабралася ў Шнайдлінген (Schneidlingen), куды ўжо 11 красавіка ўвайшлі амерыканцы. Але па капітуляцыі Нямеччыны высветлілася, што Шнайдлінген перададуць у савецкую зону акупацыі, і беларускі актыў пастанавіў выехаць у брытанскую зону.

> Проста на захад ад Шнайдлінген, ужо за граніцай прызначанай на савецкую зону, знайшлі нейкі назоў Шлядэн, недалёка ад Браўншвайгу. Пастанавілі ехаць туды. Нанялі трактар з прычэпленымі

[446] Езавитов, Константин. Воспоминания… С. 150.
[447] Кушаль, Ф. Спробы арганізацыі беларускага войска…

дзвюма платформамі, і прыгожай раніцай 17 чэрвеня 1945 году паехалі ў няведамае. Ехалі праз Эгельн, Гальбэрштат, Вэрнігэродэ, Бад Гарцбург, Фінэбург. Дарога вельмі прыгожая, уздоўж паўночных схілаў гор Гарца. Рух на дарогах вялікі, многа таксама пешых. Нас міналі цэлыя транспарты рэпатрыянтаў на ўсход. Грузавікі ўпрыгожаныя зеленяй, на некаторых іконы Сталіна й іншых савецкіх «сьвятых». Зь некаторых машынаў, едучых нам на сустрэчу, махаюць кулакамі, хіба зразумеўшы, што мы ўцякаем ад Саветаў[448].

Дзмітрый Сямёнаў з Кушалямі апынуўся ў Амбэрзе (Amberg, Баварыя, Верхні Пфальц). У сваім дзённіку за 16 чэрвеня ён занатаваў:

Камандант лягеру сабраў сёньня ўсіх тых сваіх падданых, што не хацелі ехаць да бацькі, і сказаў ім наступнае: «Я трымаў і бараніў колькі мог. Цяпер жа выйшаў новы загад аб звароце вас і вам падобных на радзіму. Вы мусіце ехаць. Гэта датычыцца ўсіх тых, што да 1939 г. жылі ў Саюзе».

У нас паўстае ціхая паніка. Ня хочацца думаць аб блізкай сьмерці. Але я не паеду!!![449]

Савецкая выведка палявала на дзеячаў БЦР. Арыштавалі Міколу Шкялёнка і Кастуся Езавітава — аперацыя выкрадання апошняга доўжылася паўгода. Езавітава спрабавалі схапіць яшчэ ў Рызе, куды ў верасні 1944 г. праз лінію фронту скіраваўся агент, але ў сталіцы Латвіі дзеяча ён ужо не заспеў і выехаў у Нямеччыну. У лістападзе 1944 г. агент «Марс» дабраўся да Берліну, увайшоў у кантакт з Кастусём Езавітавым: той прыняў яго на працу ў Галоўнае кіраўніцтва вайсковых справаў.

Перадача мной Езавітава ў распараджэнне аддзелу «Смерш» адбылася наступным чынам. Прыкладна 9 красавіка 1945 г. Езавітаў паехаў у Фюрстэнвальдэ аперавацъ грыжу. Перад ад'ездам я спытаў яго, як доўга ён плануе быць у Фюрстэнвальдэ. Ён паведаміў, што прыкладна тыдзень, а можа быць і болей, і абяцаў вярнуцца ў Берлін. Я спытаў адрас, дзе ён будзе аперавацца, і ён мне яго даў.

Прыкладна 10–11 красавіка 1945 г. рэшткі аддзялення беларускіх справаў Остміністэрства эвакуявалася ў Цюрынгію, у Эйнэборн (вёску). Таксама з імі былі і рэшткі канцылярыі БЦР. [...] Я яшчэ заставаўся ў Берліне ў чаканні Езавітава, хаця павінен быў ехаць у Цюрынгію.

[448] Галяк, Леанід. Успаміны. Кн. 2… С. 39–40.
[449] Сямёнаў, Дзмітрый. Дзённік: 1943–1947… С. 257.

Прачакаў у Берліне да 17 красавіка, але Езавітаў яшчэ не вярнуўся. У той час становішча на фронце хутка мянялася, і каб не выпусціць з віду Езавітава і не згубіць з ім сувязь, я паехаў да яго і застаў яго ў гарадской больніцы. Нашы войскі ўсё бліжэй і бліжэй пасоўваліся да гораду. Езавітаў пачаў непакоіцца, як яму прасунуцца далей на Захад, каб трапіць да англа-амерыканцаў. Я яшчэ спрабаваў яго пераканаць, каб ён застаўся яшчэ на некалькі дзён… 20 красавіка Езавітаў выехаў у Бад-Лібэнвэрдэ.

Калі нашыя ваенныя часткі набліжаліся і да Бад-Лібэнвэрдэ, ён стаў непакоіцца і нерваваца, настойваць, каб нейкім чынам трапіць да англа-амерыканцаў. А калі ўвайшлі ў горад часткі Чырвонай Арміі, спрабаваў скончыць жыццё самагубствам, але я гэтага не даў[450].

Міхась Ганько і Усевалад Родзька самі вырашылі вярнуцца ў Беларусь. Радаслаў Астроўскі палічыў за найлепшае часова знікнуць з палітычнай сцэны і некаторы час жыў пад прозвішчам Калюш, якім карыстаўся яшчэ ў 1941 г., калі быў кіраўніком Мінскага намесніцтва (прынамсі, такім прозвішчам ён падпісваў пастановы). Сымон Кандыбовіч, каб не быць выдадзеным у СССР, узяў прозвішча Кабыш, Аўген Калубовіч стаў Кахаоўскім.

6 жніўня 1945 г. Радаслаў Астроўскі ад імя БЦР другі раз звярнуўся да прэзідэнта Польскага эміграцыйнага ўраду ў Лондане Уладзіслава Рачкевіча і нагадаў пра тое, што ўдзельнікі Другога Усебеларускага кангрэсу сваім рашэннем *«анулявалі ня толькі пастановы Савецкай Расеі, датычныя Беларусі, але і рашэньні Рыскай мірнай дамовы адносна падзелу Беларусі, падпісаныя Варшавай»*[451]. Радаслаў Астроўскі пісаў, што Варшава павінна трымацца прынцыпаў «вольны з вольным» і «роўны з роўным» у супрацоўніцтве з Беларуссю і паважаць беларускае пытанне. Ён таксама нагадваў, што ў 1942 г. вёў перамовы з прадстаўніком польскага эміграцыйнага ўраду наконт будучай мяжы Беларусі і Польшчы, перамовы скончыліся безвынікова[452].

Пакідаць палітычнай сцэны Радаслаў Астроўскі не збіраўся. Згодна з пастановамі Другога Усебеларускага кангрэсу, Статутам і праектам Канстытуцыі БЦР, ён быў кіраўніком беларускага ўраду ў выгнанні. Аднак пасля капітуляцыі Нямеччыны дзеяч застаўся генералам без войска.

---

[450] Дакумент надрукаваны ў кнізе: Соловьев, А. Белорусская Центральная Рада: Создание, деятельность, крах… С. 137–142.

[451] Ліст Р. Астроўскага да У. Рачкевіча. Копія захоўваецца ў архіве аўтара.

[452] Тамсама.

У берлінскі перыяд дзейнасці Беларуская Цэнтральная Рада працавала ў двух кірунках: яна спрабавала аб’яднаць усе нацыянальныя арганізацыі і апекавацца беларусамі (як уцекачамі, гэтак і вывезенымі на прымусовыя працы), не дапусціўшы іхнай «міграцыі» ў іншыя этнічныя групы. Таксама БЦР спрабавала рэарганізавацца, стварыць структуры, якія б нагадвалі ўрад на эміграцыі. Пытанне аб вяртанні на радзіму ўжо не ставілася, трэба было рыхтавацца да жыцця на чужыне. У апошнія дні існавання Трэцяга Рэйху БЦР спрабавала як мага зменшыць сваю залежнасць ад нацысцкага ўраду і паспрабаваць завязаць кантакты з заходнімі саюзнікамі, аднак зазнала паразу.

# БЕЛАРУСКАЯ ЦЭНТРАЛЬНАЯ РАДА Ў НЯМЕЧЧЫНЕ АД КАПІТУЛЯЦЫІ ДА КАНЦА 1940-Х ГГ.

## БЕЛАРУСЫ Ў НЯМЕЧЧЫНЕ ПАСЛЯ КАПІТУЛЯЦЫІ

Пасля капітуляцыі Трэцяга Рэйху на тэрыторыі Нямеччыны і Аўстрыі аказаліся 11 млн чалавек не нямецкага паходжання. 5,9 млн з іх перабывалі на тэрыторыях, якія трапілі пад кантроль ЗША, Вялікай Брытаніі ды Францыі[453], 5 млн заставаліся на тэрыторыях, падкантрольных СССР. Большасць з іх складалі былыя ваеннапалонныя, вязні канцэнтрацыйных лагераў або асобы, вывезеныя на прымусовыя працы. Ялцінскія пагадненні ад 3 лютага 1945 г., падпісаныя ЗША, Вялікай Брытаніяй ды СССР, прадугледжвалі вяртанне на радзіму такіх людзей.

Шмат хто з вымушаных перасяленцаў уцякаў ад савецкай улады і на радзіму вяртацца не жадаў. Для іх рэпатрыяцыя была прымусовай. Найперш гэта датычыла казакоў, салдатаў Арміі Уласава, іншых фармаванняў, што ваявалі на баку Нямеччыны. Падчас прымусовай рэпатрыяцыі даходзіла да крокаў адчаю, напрыклад, выпадкаў самагубстваў: расказвалі, што ў Кемптэне (Kempten, Баварыя) калектыўна скончылі жыццё самагубствам, абы не вяртацца ў СССР, 35 чалавек, сярод якіх былі некалькі беларусаў. Аналагічныя выпадкі былі зафіксаваныя ў лагерах Дахаў (Dachau) і Плятлінг (Plattling). Уцекачы спрабавалі выступаць супраць рэпатрыяцыі.

Пра адзін з такіх выпадкаў распавяла ва ўспамінах Галіна Ганчарэнка.

> На пачатку чэрвеня ў Рэгенсбургу адбылася такая падзея. У лягеры разышлася такая пагалоска, што савецкая рэпатрыяцыйная місія будзе хапаць Ды-Пі й прымусова вывозіць у Савецкі Саюз. Уначы ніхто ня спаў. А раніцай 4-га чэрвеня, як толькі пачулі гул грузавікоў,

---

453 Паводле: Kay, D., Miles, R. Refugees or Migrant Workers? European Volunteer Workers in Britain 1946–1951. London—New York, 1992. P. 44.

кіраўнікі беларускага лягера дапамаглі людзям схавацца ў полі, у кустах, у канавах. Аднак грузавікі абмінулі беларускі лягер і акружылі рускі. Там арыштавалі каля 40 мужчынаў. Як толькі грузавікі адʼехалі, на вуліцу высыпалі ўсе жыхары лягера розных нацыянальнасьцяў, і шматтысячны натоўп накіраваўся да вайсковай управы гораду Рэгенсбург. Дэманстрацыя гэтая была стыхійная. Папярэдзе ішлі праваслаўныя, каталіцкія й грэка-каталіцкія сьвятары. Калёну спыніла амэрыканская вайсковая паліцыя. Усе ўдзельнікі дэманстрацыі сталі на калені. Губэрнатар пагадзіўся прыняць сьвятароў. У выніку гэтай дэманстрацыі схопленыя мужчыны на другі дзень вярнуліся ў лягер…[454]

У хуткім часе выпадкі прымусовай рэпатрыяцыі апісала заходняя прэса, шакаваўшы грамадскую думку. Амерыканскія ўлады ў Нямеччыне (на той час камандуючы войскамі ЗША ў Еўропе, будучы 34-ты прэзідэнт генерал Дўайт Айзэнгаўэр, Dwight Eisenhower) у верасні 1945 г. перагледзелі метады рэпатрыяцыі. 15 лістапада 1945 г. камітэт прадстаўнікоў арміі, флоту і Дзярждэпартамент ЗША падрыхтавалі дакумент, згодна з якім пад рэпатрыяцыю падпадалі тры катэгорыі насельніцтва:

– асобы, захопленыя ў нямецкай ваеннай форме, як людзі, што здрадзілі свайму ўраду;

– тыя, хто дэмабілізаваўся да 21 чэрвеня 1941 г.;

– асобы, якія актыўна дапамагалі немцам, але ў гэтым выпадку савецкі бок мусіў падаць пераканаўчыя доказы іхнай віны.

Цывільныя ўцекачы мелі права застацца на Захадзе. Але гэтая «дырэктыва МакНарні—Кларка» (названая паводле прозвішчаў камандуючых амерыканскімі войскамі ў Нямеччыне і Аўстрыі, Joseph Taggart McNarney і Mark Wayne Clark) паступіла на месцы ў канцы снежня 1945 г., а Брытанія далучылася да яе толькі ў чэрвені 1946 г. Тым не менш, дакумент значна затрымаў тэмпы рэпатрыяцыі: з 1946 г. да 1949 г. амерыканскія ўлады перадалі савецкаму боку толькі 4 тыс. чалавек (да гэтага – каля 5 млн)[455]. Таму для большасці ўцекачоў, у тым ліку і для беларусаў, дырэктыва стала выратавальнай.

Усе, хто не пажадаў вярнуцца на радзіму і змог давесці права застацца на Захадзе, атрымлівалі статус перамешчаных асобаў, або *Displaced Persons*

[454] Руднік, Галіна. Птушкі пералётныя… С. 75.

[455] Нитобург, Э. Л. Русские в США. История судьбы. 1870–1970. Москва, 2005. С. 171–178.

(Ды-Пі). Да часу свайго пераезду (ці вяртання на радзіму або выезду ў іншыя краіны) яны сяліліся ў адмысловых лагерах, якімі апекавалася *UNRRA* (Адміністрацыя Аб'яднаных Нацыяў дзеля дапамогі ды рэабілітацыі — *United Nations Relief and Rehabilitation Administration*)[456]. З 1 ліпеня 1947 г. яе замяніла Міжнародная арганізацыя ў справе ўцекачоў (*International Refugees Organization — IRO*), якая і занялася непасрэдным вывазам невяртанцаў у розныя краіны на сталае жыхарства.

*IRO* ацаніла колькасць расселеных з Нямеччыны беларусаў на 25 тыс., прычым беларусамі, паводле гэтых звестак, запісаліся толькі 5145 чалавек, а ў ЗША выехалі 1135 асобаў[457]. Але Беларускі нацыянальны камітэт у Рэгенсбурзе, які пасля вайны апекаваўся рэгістрацыяй і ўладкаваннем суайчыннікаў у амерыканскай зоне акупацыі, ацаніў колькасць беларускіх невяртанцаў на 75–100 тысячаў[458]. З іх у ЗША перабраліся каля 50–70 тыс. чалавек.

Лагеры Ды-Пі арганізоўваліся паводле нацыянальнай прыкметы і мелі ўнутраную адміністрацыю. Іх насельнікі жылі ў былых казармах ці бараках пры фабрыках, заводах або ў спецыяльна адведзеных для гэтага гарадскіх будынках. У лагерах дзейнічалі школы, садкі, шпіталі, прафесійныя курсы, дазвалялася мінімальная грамадская дзейнасць. Жыхары забяспечваліся з боку *UNRRA* харчаваннем (з разліку ў сярэднім 2000–2300 калорыяў на дзень), вопраткай і абуткам[459].

Паводле звестак Беларускага цэнтральна-дапамаговага камітэту, на канец 1946 г. беларусы афіцыйна жылі (г. зн. былі зарэгістраваныя) у дзвюх з паловаю дзясятках беларускіх і інтэрнацыянальных лагераў: у 17 — у амерыканскай зоне і 5 — у брытанскай (звесткі Аляксея Вініцкага)[460]. Першы беларускі лагер у амерыканскай зоне акупацыі (яна займала паўднёвую частку Нямеччыны, землі Баварыя і пераважна Бадэн-Вюртэмбэрг) быў заснаваны на ўскраіне Рэгенсбургу, у паселішчы імя Людвіга Ганггофэра (Ludwig Ganghofer) у чэрвені 1945 г. Акрамя таго, у згаданай зоне беларусы жылі ў Остэргофэне (Osterhofen), куды з розных маленькіх мястэчак іх звезлі

---

456 На эміграцыі ўжываецца скарот УНРРА, у Беларусі — ЮНРРА, абодва ад англійскага *UNRRA*.

457 Нитобург, Э. Л. Русские в США… С. 178.

458 Кіпель, Вітаўт. Беларусы ў ЗША… С. 159.

459 Вініцкі, Алесь. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939–1951 гадох. Ч. 1… Інфармацыя пра беларускія лагеры і іх насельнікаў змяшчаецца на старонках 124–184.

460 Тамсама.

600 чалавек. Першым камендантам быў Аляксандр Шостак, затым — Станіслаў Станкевіч. У Гоэнфэльсе (Hohenfels) і Кобурзе (Coburg) жылі па 500 чалавек, у Міхэльсдорфе (Michelsdorf) — 373 чалавекі, у Майнцы-Кастэлі (Mainz-Kastel), Ашафэнбурзе (Aschaffenburg) і Аўгсбурзе (Augsburg) — па 300 чалавек, у Этлінгене (Ettlingen) і Фоэнштраўсе (Vohenstrauß) — па 250 чалавек, у Вільдфлекене (Wildflecken) — 224 чалавекі, у Дынгольфінгу (Dingolfing) — 220 чалавек, Алендорфе (Alendorf) — 130 чалавек, Кульмбаху (Kulmbach) — 110 чалавек, Фэльдмохінгу (Feldmoching) — 115 чалавек, Інгальштаце (Ingolstadt) і Мітэнвальдзе (Mittenwald) — па 50 чалавек, Нотэрнбэргу — 31 чалавек, Гарміш-Партэнкірхэне — 30 чалавек. Усяго — 4377 беларусаў. Не ўлічаныя таксама звесткі з лагераў у Мэндорфе, Крэйц-Марбурзе, Герэнбурзе, Шварцэрнборне, дзе жылі нашыя землякі, бо дакладных лічбаў няма[461].

У брытанскай зоне найбольшы беларускі лагер быў у Ватэнштэце (Watenstedt), 600 чалавек. Пры ўкраінскім лагеры ў Гайдэнаў (Heidenau) жылі 500 чалавек, у Гановэры (Hannover) — 400, Гослярды (Goslar) — 200, Бургдорфе (Burgdorf) — 150[462].

На канец 1946 г. у беларускіх лагерах у амерыканскай і брытанскай акупацыйных зонах жылі 6227 чалавек. У французскай акупацыйнай зоне беларускіх лагераў не было, але тут налічвалася каля тысячы нашых суайчыннікаў[463], пры канцы 1947 г. было заснаванае Беларускае дэмакратычнае згуртаванне, а пры Тубінгенскім універсітэце ў 1948 г. — студэнцкае згуртаванне.

## СТВАРЭННЕ БЕЛАРУСКІХ КАМІТЭТАЎ

Пасля капітуляцыі Нямеччыны дзейнасць усіх ранейшых беларускіх арганізацыяў і выданняў, як і любых нямецкіх, спынілася. БЦР фактычна не працавала ўжо з пачатку красавіка 1945 г. — з часу эвакуацыі апошняй групы дзеячаў з Берліну. Пасля капітуляцыі Нямеччыны 15 ліпеня 1945 г. Радаслаў Астроўскі выдаў адозву «Да ўсіх беларускіх камітэтаў і бюро ў Нямеччыне», у якой заклікаў гэтыя структуры апекавацца ўцекачамі. Прэзідэнт нагадваў,

---

[461] Вініцкі, Алесь. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939–1951 гадох. Ч. 1… С. 124–184.

[462] Тамсама. С. 200–245.

[463] Тамсама. С. 246–252.

што БЦР раней вяла рэгістрацыю суайчыннікаў праз прэсу: газеты «Раніца» і «Беларускі работнік»[464].

Першым камітэтам, які з’явіўся пасля капітуляцыі, стала ***Беларуская служба*** (БС) у Мюнхене, заснаваная а. Львом Гарошкам (у яе ўваходзілі Баляслаў Грабінскі, Янка Станкевіч і Усевалад Родзевіч) адразу пасля заняцця гораду амерыканцамі (30 красавіка 1945 г.)[465]. БС змяніла сабой Беларускае прадстаўніцтва ў Мюнхене, якое дзейнічала падчас вайны пад кіраўніцтвам Караля Шаняўскага[466]. Беларуская служба стала апекавацца суайчыннікамі, якія жылі ў горадзе, а таксама студэнтамі[467]. Праіснавала яна, праўда, нядоўга: у горадзе не ўдалося стварыць беларускага лагеру, і патрэба ў дзейнасці арганізацыі адпала.

У брытанскай зоне акупацыі (Ніжняя Саксонія, Шлезвіг-Гольштайн (Schleswig-Holstein) і Паўночны Рэйн-Вэстфалія) першая беларуская арганізацыя паўстала ў траўні-чэрвені 1945 г. — гэта было ***Беларускае бюро ў Браўншвайгу*** (Braunschweig, кіраўнік — Анатоль Шкутка, намеснік — Леанід Галяк, сакратар — Раіса Евец)[468]. Бюро займалася рэгістрацыяй беларусаў, юрыдычнаю дапамогай, выдаваннем дакументаў на харчовыя карткі тым, хто жыў па-за лагерам. Яно заснавала камітэты ў Госляры (кіраўнік — Анатоль Сакалоў, Уладзімір Падагель), Гановэры і Гамбурзе. Крыху пазней былі створаныя камітэты ў Герсфэльдзе (Gersfeld) і Фульдзе (Fulda)[469].

30 ліпеня 1945 г. у Ніжняй Саксоніі, у Ватэнштэце, быў заснаваны ***беларускі лагер ABC***. Шматгадовым камендантам тут быў Святаслаў Коўш. Лагер пачаўся з прыезду 48 добраахвотнікаў[470], і далей колькасць пасяленцаў

---

464 Da ŭsich biełaruskich kamitetaŭ i biuro ŭ Niamieččynie // Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі. №20. Жнівень 1984.

465 Вініцкі, Алесь. Матар’ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939–1951 гадох. Ч. 1… С. 94.

466 Леў Гарошка ў сваіх успамінах адзначаў, што Караль Шаняўскі ўрэшце навязаў шчыльныя кантакты з савецкай рэпатрыяцыйнай місіяй (Вініцкі, Алесь. Матэрыялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939–1951 гадох. Мінск, 1994. С. 72–74).

467 Тамсама. С. 73–74.

468 Вініцкі, Алесь. Матар’ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939–1951 гадох. Ч. 1… С. 159.

469 Da ŭsich biełaruskich kamitetaŭ i biuro ŭ Niamieččynie // Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі. №20. Жнівень 1984. С. 3.

470 Коўш, Сьвятаслаў. Беларускі лягер у Ватэнштэце. Альбом — гістарычная даведка. [Саўт Рывэр], 1981. С. 8.

увесь час расла. На 1 студзеня 1948 г. тут ужо жылі 716 чалавек. У лагеры былі арганізаваныя дзіцячы сад, пачатковая школа, гімназія, праваслаўны прыход (а. Аўген Сурвіла, а. Мікалай Смірноў, а. А. Ражановіч), а таксама створаная адзіная ў Нямеччыне беларуская каталіцкая парафія (а. Міхась Маскалік)[471].

У верасні 1945 г. у Ватэнштэце прайшоў з'езд беларускіх дзеячаў брытанскай зоны, на якім быў заснаваны ***Беларускі дапамаговы камітэт*** (БДК). У склад ураду БДК увайшлі: Анатоль Шкутка (старшыня), а. Аўген Сурвіла, Леанід Галяк і Хведар Ілляшэвіч[472]. З красавіка 1946 г. у Ватэнштэце пачало выходзіць перыядычнае выданне «Шляхам жыцьця»[473], а затым — «Апошнія весткі».

Больш беларусаў апынулася ў амерыканскай акупацыйнай зоне, асабліва ў Баварыі. Першы беларускі лагер тут быў арганізаваны 6 чэрвеня 1945 г. у Рэгенсбурзе Аляксандрам Русаком[474], які аб'ездзіў шмат мястэчак і гарадоў у пошуках будучых насельнікаў-беларусаў (для адкрыцця лагеру патрабавалася пэўная колькасць чалавек)[475]. У Рэгенсбурзе заснавалі прафесійныя курсы, дзіцячы садок, курсы беларусаведы, пачатковую школу. У снежні 1945 г. адчынілася гімназія, якая праз паўтара года атрымала імя Янкі

---

[471] Вініцкі, Алесь. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939–1951 гадох. Ч. 1… С. 200–236.

[472] Тамсама. С. 160.

[473] Першыя нумары рэдагаваў Янка Сурвіла, затым рэдактарства пераняў Хведар Ілляшэвіч.

[474] Вітаўт Кіпель зазначыў: *«Аўтарытэтнасьць Русака, добрыя дачыненьні з вайсковымі ўладамі і зь нямецкай (малой) адміністрацыяй спрыялі таму, што пра гэтага беларускага дзеяча ведалі, і таму ехалі ў Рэгенсбург. Кажу, малая адміністрацыя, бо калі паўстала патрэба абсталёўваць гімназію (дошкі, парты), то Русак з Шыбутам атрымалі ўсё гэта ад немцаў…»* (Ліст В. Кіпеля да аўтара кнігі ад 2 чэрвеня 2011).

[475] Вітаўт Кіпель згадваў: *«З наведвальнікамі ён [Русак. — А. Г.] сустракаўся рэдка, за гэта адказвалі Міхась Міцкевіч, Хведар Шыбут (пазьней), А. Вініцкі, часам А. Каханоўскі. У А. Русака была вялікая машына зь бел-чырвона-белымі сьцяжкамі. За машынай даглядалі «два Іваны», як мы казалі: Іван Тугалукаў — рускі з Асколу й Іван Нядзьвіга — украінец, казак з Кубані. […] Былі яны з палонных уласаўцаў, але добра ведалі аўтамабілі, і таму А. Русак узяў іх за шафёраў. […] У машыне, на якую ён меў дазвол, Русак езьдзіў па акругах Рэгенсбургу, шукаў беларусаў, прывозіў іх у горад, бо патрэбная была пэўная колькасьць асобаў, каб атрымаць квоту ў плянаваным лягеры DP. Фактычна А. Русак і запачаткаваў першы беларускі лягер».* (Кіпель, Вітаўт. Сапраўды забыты дзяяч? Што я ведаю-прыпамінаю аб Аляксандру Русаку // Беларус. №556. Травень 2009).

Купалы. У чэрвені 1945 г. у Рэгенсбурзе быў створаны ***Беларускі нацыянальны камітэт***, сядзіба якога размяшчалася на адрасе Маршалштрассэ 5 (Marschallstraße). Непадалёк на гэтай вуліцы размяшчалася савецкая рэпатрыяцыйная місія, і суіснаванне дзвюх установаў часам прыводзіла да канфліктаў. Алесь Вініцкі пісаў:

> Рэгістраваць суродзічаў з Усходняй Беларусі і выдаваць ім пашпарты БНК ня меў права, а іх з кажным днём прыходзіла штораз болей. Прыйшлося зьвярнуцца ў гэтай справе ў *Military Government* да амэрыканскага палкоўніка сп. Яраміра Посьпішыла, зь якім Камітэт увесь час трымаў сувязь. З паходжаньня ён быў чэх, гаварыў з намі па-чэску, а мы па-польску, і зусім добра разумеліся. Аднойчы ў гутарцы зь ім запытаўся, ці БНК можа рэгістраваць сваіх суродзічаў з Усходу і даваць ім пашпарты? На пытаньне палкоўнік таксама адказаў пытаньнем: «А ці напісана ў іх на лбе, што яны з Усходняй Беларусі?» Пасьля гэтага пачалі рэгістраваць усіх беларусаў, у якіх на лбе не было напісана, адкуль яны. [...] БНК з чыста гуманітарных паглядаў рэгістраваў і расейцаў як беларусаў з Заходняй Беларусі і даваў ім пашпарты. Але гэты гуманізм у часе лягернага жыцьця ДП і нараджэньня Зарубежніцтва згуляў адмоўную ролю ў нацыянальным жыцьці беларускай эміграцыі. Рэгістрацыя беларусаў і выдача ім пашпартоў працягвалася аж да часу выданьня арганізацыяй ЮНРРА рэгістрацыйных картак, якія замянілі пашпарты, выдадзеныя Камітэтамі. БНК зарэгістраваў звыш тысячы беларусаў[476].

15 жніўня ў памяшканні Беларускага нацыянальнага камітэту прайшоў сход грамадскага актыву, у якім удзельнічалі 12 чалавек. На сход прыехаў прэзідэнт БЦР Радаслаў Астроўскі ў суправаджэнні Барыса Рагулі і Сцяпана Стаськевіча. Паседжанне адкрыў Аўген Каханоўскі, які прапанаваў, каб БЦР перадала новай інстытуцыі — ***Беларускаму нацыянальнаму цэнтру*** — паўнамоцтвы на кіраванне справамі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне[477].

---

[476] Вініцкі, Алесь. Матэрыялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939–1951 гадох. Мінск, 1994. С. 76–77.

Вітаўт Кіпель згадваў, як сапраўды тысячам пабочных людзей выдалі беларускія дакументы, у тым ліку сотням рускіх, што сведчыць пра беларускі гуманізм. *«Я спатыкаў сотні «чыстых расейцаў», хто меў беларускія дакумэнты»* (Ліст В. Кіпеля да аўтара кнігі ад 2 чэрвеня 2011).

[477] Максімюк, Ян. Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне 1945–1950 гг. Нью-Ёрк—Беласток, 1994. С. 45.

Ідэя стварэння БНЦ была не новая[478]. Ранейшая арганізацыя была створаная ў Берліне 19 чэрвеня 1941 г. пад старшынёўствам Міколы Шчорса і павінна была апекавацца беларусамі ў Трэцім Рэйху і ў Генеральнай губерні. БНЦ таксама разглядаўся тады як правобраз магчымага будучага ўраду Беларусі. Цяпер новаствораны ці адроджаны Цэнтр меўся стаць галоўным прадстаўніцтвам беларусаў на Захадзе[479].

Радаслаў Астроўскі пагадзіўся з ідэяй стварэння БНЦ. Разумеючы сваё няпэўнае становішча, ён сам прапанаваў на пасаду старшыні кандыдатуру Міколы Абрамчыка, намеснікам старшыні БНЦ абралі Аўгена Каханоўскага. Прэзідэнт нават аддаў грошы з рахунку БЦР на дзейнасць новай інстытуцыі. Мікалай Шчорс прапанаваў адпаведнаю пастановаю падпарадкаваць БНЦ Беларускай Цэнтральнай Радзе, але супраць гэтага запратэставаў Аўген Каханоўскі, заявіўшы, што сувязь з Радаю пасля капітуляцыі можа пашкодзіць.

Канчаткова дзейнасць БЦР была прыпыненая на 11-м Пленуме, што прайшоў у мястэчку Эшэрсбэкене пад Вюрцбургам (Würzburg, паўночная Баварыя) 23–24 верасня 1945 г. Удзел у паседжанні пад старшынёўствам Радаслава Астроўскага бралі радныя Франц Кушаль, Аўген Каханоўскі, Сымон Кабыш (Кандыбовіч), Пётра Орса, Станіслаў Станкевіч, а таксама грамадскія дзеячы Мікола Шчорс і Аляксей Сянькевіч. Прэзідэнт казаў, што абставіны не дазваляюць працягваць працу БЦР, аднак арганізацыю трэба захаваць, на пэўны час прыпыніўшы яе дзейнасць:

> каб […] ня даць бальшавікам магчымасьці выкарыстаць перад заходнімі саюзьнікамі фармальна тактычнае супрацоўніцтва зь немцамі ў мэтах канчальнага зьнішчэньня супрацьбальшавіцкага актыву[480].

Ідэю падтрымала большасць прысутных. Такім чынам, 11-ты Пленум часова прыпыняў дзейнасць БЦР, аднак пытанне пра гэта нават не ставілася

---

[478] Упершыню назва «Беларускі нацыянальны цэнтр» прагучала ў 1933 г., калі НКВД планавала разгром беларускай інтэлігенцыі ў Мінску. Гл. напр.: Крыжоваю дарогаю (да 20-х угодкаў справы БНЦ) // Крывічанін, Лявон. Беларусізацыя пад №. Нью-Ёрк: БІНіМ, 1968. С. 158–161.

[479] Беларускі нацыянальны цэнтар // Антысавецкія рухі ў Беларусі, 1944–1956. Мінск, 1999. С. 124–126.

[480] Пратакол паседжаньня Беларускай Цэнтральнай Рады ў Эшэрсбэкене (Нямеччына) з дня 23–24 верасьня 1945 г. Захоўваецца ў архіве БЦР у царкве св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі, ЗША).

на галасаванне, таму праца Рады магла аднавіцца ў любы момант. Тым не менш, сам Радаслаў Астроўскі на некаторы час добраахвотна сышоў у цень.

Прыкладна ў той самы час, калі БЦР спыніла дзейнасць, старшыня Беларускага нацыянальнага цэнтру Мікола Абрамчык выказаў ідэю аднаўлення Рады БНР. Апошняя не была звязаная з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі, што, на думку шэрагу дзеячаў, было добрым аргументам для заходніх саюзнікаў. Апроч таго, папярэдні старшыня Рады БНР (1928–1943) Васіль Захарка перад смерцю перадаў Міколу Абрамчыку свае паўнамоцтвы праз тастамент:

> Будучы доўга і моцна хворым, што можа прынесьці хутчэй кепскі, чым добры канец майму жыцьцю, я гэтым перадаю Вам, пане Інжынэр, становішча Старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.
>
> Гэтым жа самым назначаю на становішча Сакратара Прэзыдыюму Рады БНР Ларысу Антонаўну Геніюш.
>
> Усе абавязкі ляжаўшыя раней на мне згодна з пастановай Пленуму Рады БНР накладаюцца цяпер на Вас, пане Інжынэр, і на грамадзянку Геніюш […][481].

На той час вакол Міколы Абрамчыка пачала гуртавацца інтэлектуальная эліта эміграцыі, у тым ліку і з былых паплечнікаў Радаслава Астроўскага. Спачатку дзеячы лічылі, што, аддаючы даніну павагі БЦР, якая ачоліла беларускі рух у канцы нямецкай акупацыі Беларусі, цяпер яе варта пакінуць гісторыі ды аднавіць Раду БНР. Аднак ужо ў хуткім часе прыхільнікі Міколы Абрамчыка сталі сур'ёзна крытыкаваць БЦР з прычыны супрацоўніцтва з нацыстамі.

Увосень 1945 г., пасля таго як у Рэгенсбург перабралася вялікая колькасць беларускіх перасяленцаў, абралі новую раду Беларускага нацыянальнага камітэту. Яе ўзначаліў Аўген Каханоўскі, управу — Васіль Кендыш, якога хутка змяніў на пасадзе Алесь Вініцкі. Пры БНК утварылі некалькі аддзелаў-рэфератаў: культурна-асветны (кіраўнік — Хведар Шыбут), сацыяльны (кіраўнік — Ксенафонт Вайцяхоўскі), арганізацыйны (кіраўнік — Алесь Вініцкі), фінансавы (кіраўнік — Дакіневіч)[482].

У снежні 1945 г. Камітэт звярнуўся ў Галоўны штаб амерыканскай арміі ў Франкфурце-на-Майне з просьбай адкрыць свае філіялы ў розных частках

---

481 Тэстамэнт Васіля Захаркі. Копія захоўваецца ў Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лондане.

482 Максімюк, Ян. Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне 1945–1950 гг… С. 45.

Нямеччыны — паводле статуту, дзейнасць БНК абмяжоўвалася Ніжняй Баварыяй і Верхнім Пфальцам. Амерыканскія вайсковыя ўлады зварот праігнаравалі[483], а магчыма, ён проста згубіўся сярод бюракратычных папераў.

Тады пастанавілі стварыць новую структуру: дапаможны камітэт на ўсю Нямеччыну. 25 лютага 1946 г. БНК склікаў у Рэгенсбурзе з’езд прадстаўнікоў (52 дэлегаты) трох акупацыйных зонаў, дзе быў заснаваны ***Беларускі цэнтральны дапамаговы камітэт у Нямеччыне*** (БЦДК), кіраўніком якога стаў а. Мікалай Лапіцкі[484]. Функцыі БЦДК складалі: сацыяльная апека над хворымі, сіротамі ды інвалідамі, культурна-асветная праца, прававая дапамога. Уводзіліся пасады трох намеснікаў — па адным прадстаўніку ад кожнай з зонаў: Леанід Галяк (брытанская), Алесь Вініцкі (амерыканская), Віктар Войтанка (французская). Пазней у БЦДК амерыканская зона як найбольшая паводле колькасці беларусаў была падзеленая на тры акругі з адмысловым прадстаўніцтвам: Грос-Гэсэнская (Барыс Рагуля), Штутгарцкая (Мікола Сільвановіч) і Мюнхенская (Мікола Гарошка). У склад управы БЦДК увайшлі: Янка Станкевіч, Іван Касяк, Алесь Вініцкі і Франц Кушаль. Як і ў выпадку з БНЦ, хутка ўся ўправа БЦДК і галоўныя пасады ў БНК апынуліся ў руках прыхільнікаў Міколы Абрамчыка, а ягоныя праціўнікі (Мікалай Шчорс, Аляксандр Багдановіч, Юры Віцьбіч) былі адхіленыя ад кіраўніцтва[485]. Заставаўся толькі а. Мікалай Лапіцкі на пасадзе кіраўніка БЦДК, які, аднак, не мог ціснуць на палітычных супернікаў[486].

Ужо адно з першых паседжанняў БЦДК скончылася скандалам. Янка Станкевіч абвінаваціў Івана Касяка ў тым, што той падчас вайны напісаў

---

[483] Алесь Вініцкі тлумачыў ігнараванне звароту ціскам з боку СССР, які не рэкамендаваў стварэння нацыянальных камітэтаў (Беларускі (крывіцкі) цэнтральны дапамаговы камітэт у Нямеччыне (справаздача зь дзейнасьці БЦДК у Нямеччыне за час ад 25.2.1946 да 24.4.1948) // Вініцкі, Алесь. Матар’ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне. Ч. III. Арганізацыі. Лос-Анджэлес, 1968. С. 4).

[484] Алесь Вініцкі ў згаданым артыкуле, напісаным на падставе ўласных успамінаў, зазначыў: *«Адзін з дэлегатаў зьезду, паважна ці на жарт, падаў быў кандыдатуру аднаго зь беларускіх япіскапаў, зразумела, ня ведаючы, што япіскапы БАПЦ спакаваліся, сядзелі на сваіх куфэрках і чакалі пераезду ў Расейскую Зарубежную Праваслаўную Царкву. Кандыдатура япіскапа адразу адпала. Урэшце старшынём БЦДК быў выбраны а. Мікалай Лапіцкі»* (Беларускі (крывіцкі) цэнтральны дапамаговы камітэт у Нямеччыне… С. 4).

[485] Адкрыты ліст да беларускай грамадскасці ад 14 лістапада 1947 г. Юрыя Стукаліча // Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі. №62. Сьнежань 1988. С. 128–130.

[486] Беларускі (крывіцкі) цэнтральны дапамаговы камітэт у Нямеччыне… С. 4.

данос у СД на бургамістра Мінску Вацлава Іваноўскага[487]. Касяк не адмаўляў, патлумачыўшы, што данос быў напісаны як рэакцыя на данос, напісаны Іваноўскім на дзеячаў праваслаўнага веравызнання, у тым ліку на яго самога, і ён у такі спосаб бараніўся. У выніку Іван Касяк выйшаў са складу Камітэту, што таксама стала адным з каталізатараў наступнага палітычнага размежавання[488].

Паралельна з супрацьстаяннем у БЦДК разгортваліся падзеі вакол Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы на эміграцыі, а таксама разгарэўся лінгвістычна-тэрміналагічны канфлікт, які перарос у палітычны. Усё гэта разам прывяло да расколу беларускай эміграцыі ў Нямеччыне.

## ЛІНГВІСТЫЧНА-ТЭРМІНАЛАГІЧНЫ КАНФЛІКТ

Шмат для якіх заходніх чыноўнікаў слова *Byelorussia* трывала асацыявалася са словам *Russia* ці з абрэвіятурай — БССР, што таксама ўспрымалася як прыналежнасць да СССР. Часта супрацоўнікі саюзніцкай адміністрацыі, ды і самі этнічныя групы ў паваенных лагерах, блыталі «беларусаў» з «белымі рускімі» (белагвардзейцамі), што стварала нязручнасці для нацыянальнага атаясамлення. Таксама не было адзінага тэрміну ў англійскай мове, каб правільна перакласці слова «Беларусь». Яшчэ ў часы наццэмаўшчыны тэрмін-назва «Беларусь» перадаваўся як «White Ruthenia». На Захадзе з расійскіх крыніцаў замацаваўся тэрмін «White Russia», немцы пісалі «White Ruthenian». Справа ўскладнілася, калі з'явіўся новы тэрмін: «Byelorussia, Byelorussian SSR».

У выніку згаданых складанасцяў у коле прыхільнікаў Рады БНР узнікла ідэя адысці ад этноніму «Беларус» і «беларускі», вярнуўшы больш старажытны і гістарычны, на іхную думку, тэрмін «крывічы», «крывіцкі». Да таго ж выказвалася меркаванне, што тэрміны «беларус» і «беларускі» — каланіяльныя, прышчэпленыя Расіяй у сярэдзіне XIX ст. замест спрадвечна гістарычных. Увядзенне іншай саманазвы, на іхную думку, павінна было дыстанцыяваць беларусаў ад Расіі ды СССР, асабліва ў вачах Захаду.

Ідэя была далёка не новая. Яе аўтарам у пачатку XX ст. быў палітычны дзеяч і філолаг Вацлаў Ластоўскі, а падчас нямецкай акупацыі актыўна прапа-

---

[487] Галяк, Леанід. Успаміны. Кн. 2… С. 62.

[488] *«…Гэты факт быў адным з момантаў, што прычыніліся да паўстаньня гэтак зв. “зарубежніцтва”»*, — пісаў ва ўспамінах Леанід Галяк (Галяк, Леанід. Успаміны. Кн. 2… С. 62).

гандаваў Янка Станкевіч. Апошні нават выдаў у 1941 г. серыю гістарычных нарысаў пад назваю «Крыўя-Беларусь у мінуласьці» (Менск, 1942), што выйшлі і асобнаю кнігай, і друкаваліся на старонках самага масавага падчас акупацыі перыядычнага выдання — «Менскай (пазней Беларускай) газеты».

Янка Станкевіч, стаўшы першым камендантам беларускага лагеру ў Рэгенсбурзе, павесіў на дзвярах шыльду «Крывіцкае селішча». Праўда, калі ў лістападзе 1945 г. новым камендантам стаў Франц Кушаль, ён вярнуў лагеру першасную назву (Беларускі). Аднак ідэяй замены прыметніка «беларускі» на «крывіцкі» паспелі прасякнуцца выкладчыкі Беларускай гімназіі: Антон Адамовіч, Аляксандр Орса, Аўген Каханоўскі, Парфірый Трысмакоў ды інш. Праз некаторы час афіцыйна навучальная ўстанова стала звацца Крывіцкая (Беларуская) гімназія імя Янкі Купалы. Дайшло нават да перайменавання прадметаў (крывіцкая мова, гісторыя Крывіі), а таксама выпраўлення вершаў пісьменнікаў (слова «беларускі» ў творах замянялася на «крывіцкі»)[489].

Хутка ідэя Крывіі выйшла за межы гімназіі; частка эмігрантаў, найперш скаўцкае галоўнае кіраўніцтва, ухваліла прапанову перайменавання. Сталі ствараца моладзевыя арганізацыі, якія мелі ў сваіх назвах слова «крывіцкі» (Крывіцкае студэнцкае згуртаванне, Згуртаванне крывіцкіх скаўтаў на чужыне і г. д.). Янка Станкевіч заснаваў у лагеры курсы лекцый беларусаведы, на якіх актыўна прапагандаваў ідэю Крывіі.

5 траўня 1946 г. на сходзе ў Рэгенсбурзе Антон Адамовіч і Янка Станкевіч выступілі з супольным дакладам «Крывічы ці беларусы», дзе прапанавалі ў дужках пасля этноніма «беларусы» пазначаць «крывічы», што прыхільна сустрэлі ўдзельнікі сходу[490].

Але з'явілася і апазіцыя. Першымі засупраціўляліся перайменаванню бацькі вучняў гімназіі. 27 чэрвеня 1946 г. па сканчэнні першага навучальнага года яны склалі пратэст, у якім выказвалі нязгоду з адмовай ад словаў «беларус», «беларускі». Бацькі пісалі, што назва Крывія не агульнапрынятая сярод беларускага народу і зусім невядомая ў іншых народаў.

> Ужываньне назову «Крывіцкая» ў дачыненьні гімназіі на школьных пасьведчаньнях можа выклікаць сумлівы што да важнасьці і сапраўднасьці іх як дакумэнтаў, і ў значнай меры пашкодзіць нашым дзецям пры пераходзе альбо паступленьні ў іншыя беларускія і

---

[489] Белямук, Міхась. Лёсу свайго не мінеш. Вільня, 2006. С. 62.
[490] Тамсама. С. 63.

небеларускія вышэйшыя ці сярэднія школы, а таксама можа быць перашкодаю ў прыняцьці на якую-небудзь працу[491].

Прыхільнікі Радаслава Астроўскага выкарысталі гэты момант у супрацьвагу «крывічам», каб адваяваць свае пазіцыі, і пачалі сябе пазіцыянаваць як *беларусаў,* у тым ліку і даводзячы, што тэрмін «Беларусь» — якраз вельмі старажытны, вядомы з пачатку XIII ст. (упершыню згадваецца ў нямецкіх хроніках у 1217 г.) і застаецца прыкладам кансалідацыі народу, у адрозненне ад тэрміну «крывічы», які разам з тэрмінамі «дрыгавічы», «радзімічы» прыводзіць да падзелу маналітнага народу.

Рэдакцыя парыжскай газеты «Беларускія навіны»[492] вымушаная была надрукаваць у сакавіку 1947 г. спецыяльны артыкул, дзе расстаўляліся ўсе кропкі над «і». У тэксце звярталася ўвага на шкоднасць замены этнонімаў «Беларусь» і «беларускі» на «Крывія» і «крывіцкі», што, на думку падпісантаў ліста, *«можа прывесьці да непаразуменьняў на эміграцыі, а гэта вельмі небясьпечна для беларускай грамады»*.

Калі сапраўды зьявіцца патрэба ў перамене нацыянальнага назову, дык правесьці гэта ў жыцьцё зможа толькі Беларуская дзяржава, у той час як побач з існаваньнем дзяржавы Беларусь якогась іншага назову — зьяўляецца чыстай утопіяй. Назоў Беларусь за апошнія пяць гадоў канчаткова ўсталяваўся ў цэлым цывілізаваным сьвеце. Тысячы штодзённых газэтаў зь мільённымі тыражамі, радыё, навуковыя інстытуты й школы ўсяго сьвету пачалі ўжываць слова Беларусь[493].

Аднак вызначэнне «крывічы» выкарыстоўвалі яшчэ доўга, а ў беларускіх асяродках у іншых краінах, найперш у Вялікай Брытаніі, разгарнуліся дыскусіі наконт таго, як называцца ўцекачам — беларусамі ці крывічамі. Пазней словам «крывічы» прыхільнікі БЦР сталі называць прыхільнікаў Рады БНР[494].

---

[491] Падпісалі зварот старшыня бацькоўскага камітэту Хведар Шыбут, сакратар Ксенафонт Вайцяхоўскі, сябры: Мікола Куліковіч, І. Асмалоўскі, П. Гарох (Паводле: Максімюк, Ян. Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне… С. 65).

[492] «Беларускія навіны» выходзілі ў Парыжы са снежня 1945 г. да чэрвеня 1947 г. Рэдактарам быў Лявон Рыдлеўскі, а таксама да выдання мелі дачыненне Мікола Абрамчык і Леў Гарошка. Выйшла восем нумароў.

[493] Беларускія навіны. №2. 25 сакавіка 1947.

[494] Часам даходзіла да вострых канфліктаў. На царкоўна-грамадскім свяце ў Міхэльсдорфе (куды быў пераведзены лагер з Рэгенсбургу) у траўні 1948 г. прадстаўнікі царкоўнага камітэту (г. зн. «беларусы») сарвалі скаўцкі сцяг з надпісам «Крывія». Як

# РЫХТАВАННЕ ДА АДНАЎЛЕННЯ РАДЫ БНР

Пра аднаўленне Рады БНР было заяўлена яшчэ ў 1945–1946 гг. У «Інфармацыі №1 прадстаўнікам Ураду БНР у розных дзяржавах сьвету», складзенай у жніўні 1948 г. будучым прэм’ер-міністрам БНР Аўгенам Каханоўскім у якасці інструкцыі, адзначалася, што сфармаваны ў чэрвені 1948 г. урад БНР (г. зн. Кабінет Міністраў) быў ужо 11-м з ліку. Калубовіч таксама пералічваў усе ўрады з лютага 1918 г.[495]

Згодна з інфармацыяй Каханоўскага, пасля роспуску ўраду БНР у 1925 г. на эміграцыі працягнула дзейнасць Рада на чале з Пётрам Крэчэўскім, а таксама кабінет Васіля Захаркі (8-мы з ліку, кастрычнік 1925 — сакавік 1943), які не пагадзіўся з самароспускам ураду. 9-ты Кабінет Міністраў пасля смерці Захаркі ўзначаліў у сакавіку 1943 г. Мікола Абрамчык, ён жа быў і старшынём Рады БНР. З сакавіка 1946 г. да 21 чэрвеня 1948 г. дзейнічаў 10-ы Кабінет (пашыраны) — інжынера М. Абрамчыка[496].

Праўда, ніякіх звестак пра яго склад не выяўлена. Але, як мяркуюць аўтары кнігі «Рада БНР. 1947–1970» Наталля Гардзіенка і Лявон Юрэвіч…

> …паколькі далей абвяржэнняў з боку апанентаў ці прыхільнікаў Рады БНР адносна агучанай храналогіі не ўзнікала, можна меркаваць, што папярэдняя спроба фармавання арганізацыйнай структуры аднОўленага палітычнага прадстаўніцтва адбылася ўжо ў сакавіку 1946 г. Магчыма, менавіта тады і быў прадэманстраваны тастамент Васіля Захаркі як пацверджанне паўнамоцтваў Міколы Абрамчыка. Аднак паколькі палітычная дзейнасць у лагерах *DP* была забаронена, падзея гэта, як і некаторыя іншыя, у *DP*-скай прэсе не адлюстроўвалася. У той самай «Інфармацыі №1» сцвярджаецца пра канспіратыўны характар двух згаданых «кабінетаў» БНР. З увагі на падзеі сакавіка 1946 г. робіцца зразумелым паходжанне і першага афіцыйнага дакумента, падпісанага ад імя ўраду БНР ужо ў ліпені 1946 г. Маецца на ўвазе «Пратэст ураду БНР», пададзены ў часе мірнай канферэнцыі ў Парыжы (29 ліпеня — 15 кастрычніка 1946 г.) прадстаўнікам Аб’една-

---

вынік, увосень 1948 г. раскол напаткаў Беларускую гімназію. Прыхільнікі Рады БНР (большасць настаўнікаў, але меншасць вучняў) перабраліся ў Віндышбэргердорф (Windischbergerdorf), а «астроўшчыкі» (меншасць настаўнікаў, большасць вучняў) засталіся ў Міхэльсдорфе.

495 Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР 1947–1970. Падзеі, дакументы, асобы. Мінск: Кнігазбор, 2013. С. 403–405.

496 Тамсама.

ных Нацый. У дакуменце гаварылася пра тое, што дэлегацыя БССР не можа афіцыйна рэпрэзентаваць інтарэсы беларускага народу, бо адзіным законным рэпрэзентантам з’яўляецца ўрад БНР[497].

Такім чынам, у 1946–1947 гг. пачалося паступовае афармленне Рады БНР. Яе прыхільнікі гуртаваліся ў лагеры Остэргофэн[498]. Грамадскі дзеяч, пасол польскага парламенту ў 1920-х Аляксандр Стагановіч пісаў:

Гэта быў 1945 ці 1946 г., калі атрымаў ліст ад Аляксандра Орсы *[дырэктара Беларускай гімназіі ў Рэгенсбурзе. — А. Г.]*, у якім ён прасіў мяне прыехаць у Рэгенсбург у вельмі пільнаважнай справе. Не адкладаючы, еду да А. Орсы, які паінфармаваў мяне, што згодна сп. Прэзідэнта спадара М. Абрамчыка неабходна ўтварыць урад БНР, і я павінен узначаліць адно з міністэрстваў. На маю адмову, што я не адпавядаю на такое высокае становішча, А. Орса адказаў: «Рабіць Вы нічога не будзеце, урад неабходны для вонкава-дэмакратычнага заходняга свету». Калі гэта патрэбна дзеля Бацькаўшчыны-Народу, я, не зважаючы, які б мяне й маю сям’ю спаткаў лёс, даў згоду[499].

Прыкладна тое ж згадваў і Барыс Рагуля, зазначаючы, што ён пазнаёміўся з Абрамчыкам недзе ў 1946 г., *«калі ён пачаў арганізоўваюць Раду БНР»*[500].

У 1946–1947 гг. у эміграцыйным асяродку вялася дыскусія наконт БНР / БЦР. Гэтак, прыхільнік Радаслава Астроўскага, будучы дзеяч БЦР пісаў свайму калегу-юрысту Леаніду Галяку наконт правамернасці Міколы Абрамчыка называцца кіраўніком БНР, нагадваючы пра смерць Васіля Захаркі

---

[497] Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР 1947–1970… С. 12. Паводле дакументу: Пратэст Ураду БНР // Беларускія навіны №1 (6). Парыж, студзень 1947. С. 3.

[498] Беларускі лагер у Остэргофэне быў створаны ўвосень 1946 г. шляхам пераезду сюды 400 беларусаў з лагераў у Дынгольфінгу, Ханакеры, Пасаў (Passau). Пазней сюды пачалі пераязджаць беларусы (пераважна прыхільнікі «крывічоў») з іншых лагераў, у тым ліку і з Міхэльсдорфу, калі прайгралі там выбары. Першым камендантам лагеру быў Аляксандр Шостак, затым Язэп Арцюх, потым — Станіслаў Станкевіч. Да сярэдзіны 1947 г. Остэргофэн стаў цэнтрам «крывічоў», тут быў адноўлены Беларускі нацыянальны цэнтр, БНК на Амерыканскую зону, сюды перавялі БЦДК, тут заснавалі газету «Бацькаўшчына», часопіс «Сакавік», дзейнічала Беларуская гімназія (дырэктар — Лявон Савёнак). Лагер праіснаваў да лета 1949 г., 13 чэрвеня 1949 г. насельнікаў перавялі ў Розэнгайм (Rosenheim).

[499] Стагановіч, Аляксандр. Успаміны пасла… С. 125–126.

[500] Цытуецца паводле: Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР 1947–1970… С. 11.

і пастановы Другога Усебеларускага кангрэсу, які фактычна назваў сябе спадкаемцам Рады БНР.

Галяк адказваў, што пытанне законнасці ў юрыдычным аспекце няважнае, куды больш важная — актыўная прэзентацыя на міжнародным узроўні ў паваенны час:

> Разважыўшы гэтую справу, я прыйшоў да пераконаньня, што ў гэтай справе пытаньне юрыдычнай важнасьці ці няважнасьці перадачы Захаркаю сваіх паўнамоцтваў інж. Абрамчыку зьяўляецца менш важным. Мне здаецца, што ў гэтым выпадку было-б больш адпаведным, не займаючыся юрыдычнымі разважаньнямі, разважыць іншае пытаньне, а іменна: ці існуе патрэба юрыдычна абасноўваць і гэтым падмацоўваць факт перадачы ўлады Абрамчыку? У гэтым разважаньні трэба было-б кіравацца не пытаньнем праўнасьці, а пытаньнем дамэтнасьці, патрэбнасьці ці неабходнасьці гэтага. [...]
>
> Калі ходзіць аб прызнаньні Абрамчыка Прэзыдэнтам, дык мне здаецца, што трэба задумацца аб тым, ці нам гэта патрэбна і карысна. Паводле вестак, якія даходзяць з Парыжу, ён шырака ўжывае гэты тытул і наагул праяўляе досыць актыўную дзейнасьць. Ходзіць па консулятах розных дзяржаваў з рознымі справамі, ужо тым самым напамінаючы ці інфармуючы аб самым факце існаваньня Беларусі. А гэта значыць, што пагляды Захаду на гэтую справу вельмі мутныя. У такім стане рэчаў кажная прапагандовая акцыя зьяўляецца, на мой погляд, карыснай. Мне здаецца, што выступаць супраць таго, што ён тытулюе сябе Прэзыдэнтам, не прыходзіцца, з гэтым трэба на даный мамэнт пагадзіцца, пакольк ў ягонай дзейнасьці не акажацца нейкіх шкодных мамэнтаў.
>
> З другой стараны, я лічыў-бы непатрэбным публічна дэманстраваць сваё прызнаньне, ствараючы гэтым некаторыя праўныя падставы мацнейшыя нават аб перадачы яму ўлады Захаркаю, высылаючы яму нейкія вернападданчыя тэлеграмы. Мне наагул не падабаецца ў дзейнасьці Абрамчыка пэўная тэндэнцыя ня толькі карыстацца ў сучаснасьці з тытулу, але перадусім запэўніць гэта сабе і ў далейшай будучыні. З гэтай тэндэнцыяй вынікаюць спробы юрыдычнага падмацаваньня перадачы праз тварэньне асобных фактаў, прызнаючых гэты стан. Ваш выпадак з тэлеграмай гэта таксама ня прыпадак, але частка сьведамай акцыі, ведзенай некаторымі коламі...[501]

[501] Цытуецца паводле: Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР 1947–1970… С. 13–14.

Невялікі розгалас у эміграцыйным асяродку пра аднаўленне дзейнасці БНР у 1946 г., магчыма, тлумачыцца тым, што Мікола Абрамчык сутыкаўся з праблемамі з даездам у Нямеччыну з Францыі. У заходнія акупацыйныя зоны ён мог трапіць толькі з дапамогаю транзітнай візы ў іншую краіну. Таму затрымоўвацца і браць удзел у нейкіх афіцыйных імпрэзах было рызыкоўна — магло быць расцэнена як парушэнне візавага рэжыму. Таму візіты Абрамчыка ў Нямеччыну былі нешматлікія і кароткія ды насілі прыватны характар. Увосень 1947 г., калі адбываўся студэнцкі з’езд у Марбурзе, Абрамчык афіцыйнага ўдзелу не браў, але сустракаўся з некаторымі дзеячамі па-за ім[502].

Такім чынам, цягам 1947 г. Рада БНР займалася г. зв. «нарошчваннем» сілаў у лагерах Ды-Пі, паціху выціскаючы прыхільнікаў Астроўскага. Тыя, у сваю чаргу, пасля выхаду са структураў БНК і БЦДК пачалі ствараць свае арганізацыі. Напрыклад, у амерыканскай акупацыйнай зоне на з’едзе ў Міхэльсдорфе 27 чэрвеня 1947 г. была створаная ***Беларуская міжлагерная рада*** (БМР). У з’едзе бралі ўдзел дэлегаты ад Беларускага студэнцкага згуртавання, лагераў у Міхэльсдорфе, Віндышбэргердорфе, Остэргофэне, Фоэнштраўсе, а таксама прадстаўнікі Беларускага епіскапату. Старшынём арганізацыі абралі Міхася Ігнатовіча, якога лічылі русафілам[503]. У склад управы быў улучаны і колішні кіраўнік БЦДК Мікалай Лапіцкі[504].

Удзельнікі з’езду прызналі БМР адзінаю над-арганізацыяй, якая павінна была рэпрэзентаваць беларускія асяродкі перад амерыканскімі ўладамі, *UNRRA*, *IRO*, іншымі этнічнымі арганізацыямі, а таксама мела права кантраляваць грамадскае жыццё ў беларускіх лагерах і асяродках. Сядзіба ўраду БМР была ў Міхэльсдорфе[505].

У хуткім часе, 6 ліпеня 1947 г., у Остэргофэне прайшлі перавыбары ў Беларускі нацыянальны камітэт. Новы склад управы, цяпер цалкам прабэнэраўскі, сфармавалі Васіль Кендыш, Антон Адамовіч, Алесь Вініцкі, Франц Кушаль, Аўген Каханоўскі, Леў Гарошка, Барыс Рагуля, Станіслаў Грынкевіч, Станіслаў Станкевіч, Аляксандр Стагановіч[506]. Такім чынам, у

---

[502] Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР 1947–1970… С. 14.

[503] Беларуская міжлягерная рада // Вініцкі, Алесь. Матар’ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне. Ч. III. Арганізацыі… С. 25.

[504] Вініцкі, Алесь. Матар’ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне. Ч. III. Арганізацыі… С. 25.

[505] Тамсама.

[506] Панькоў, Мікола. Хроніка беларускага жыцьця на чужыне… С. 30.

амерыканскай зоне акупацыі Нямеччыны летам 1947 г. сталі паралельна дзейнічаць дзве беларускія над-арганізацыі: Беларуская міжлагерная рада і Беларускі нацыянальны камітэт. І абедзве прэтэндавалі на ролю адзінага прадстаўніка беларусаў на эміграцыі.

У брытанскай зоне акупацыі, у Ватэнштэце, 24 жніўня 1947 г. прайшоў з’езд грамадскіх дзеячаў, які наведалі Станіслаў Станкевіч (даверaная асоба Міколы Абрамчыка), Радаслаў Астроўскі і епіскап Апанас. Аднак расколу на дзве часткі не адбылося. Лагер, у якім налічвалася больш за 700 чалавек, амаль адзінадушна падтрымаў прыхільнікаў прэзідэнта БЦР. І праз некаторы час 27 чалавек, праціўнікаў лагернай адміністрацыі на чале з Леанідам Галяком, выехалі ў Галендорф (Halendorf)[507].

Чарговы агляд сілаў прыхільнікаў БНР прайшоў увосень 1947 г. у Марбурзе падчас сходу беларускіх студэнтаў. На сходзе было створанае Цэнтральнае беларускае студэнцкае аб’яднанне на чужыне, а яго ўдзельнікі выказалі падтрымку Міколу Абрамчыку[508].

1 лістапада 1947 г. у Марбурзе прайшоў сход, у якім бралі ўдзел 45 дзеячаў розных поглядаў: Франц Кушаль, Пётра Манькоўскі, Аляксандр Орса, Барыс Рагуля, з аднаго боку, а з іншага — Іван Касяк, Святаслаў Коўш, Міхаіл Ігнатовіч. Мікалай Шчорс спрабаваў трымацца нейтралітэту, заклікаў да кампрамісу. Аднак пасля выступаў Барыса Рагулі і Пётры Манькоўскага стала відавочна, што паразумення не будзе. Барыс Рагуля рэзка выказаўся аб прысутным на нарадзе архіепіскапу Філафею, а Пётра Манькоўскі заявіў, што ніякага пагаднення быць не можа, ды абвінаваціў Юрку Віцьбіча (аднаго з ідэолагаў лагеру Радаслава Астроўскага) у пісанні даносаў[509].

Паралельна ў паваенных лагерах у 1945–1947 гг. аформілася некалькі «палітычных партыяў», якія, аднак, ахоплівалі толькі па некалькі дзясяткаў чалавек, а часам аб’ядноўвалі адных і тых жа асобаў. Янка Станкевіч заснаваў Крывіцкую партыю, Аўген Каханоўскі — Беларускую нацыянал-дэмакратычную партыю. Разам з Беларускай незалежніцкай партыяй, партыяй Беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў і Рэвалюцыйна-рэспубліканскім усебеларускім хаўрусам (РУХ) гэтыя партыі 12 сакавіка 1949 г. прынялі Дэкларацыю Беларускай міжпартыйнай канферэнцыі, у якой абвясцілі

---

507 Галяк, Леанід. Успаміны. Кн. 2… С. 80.
508 Тамсама.
509 Тамсама. С. 82.

пра адмову ад міжпартыйнага змагання[510]. Іншы палітычны фланг таксама абрастаў партыямі. Яўхім Кіпель разам з Сымонам Жамойдам, Сымонам Шаўцовым, Міколам Сцяпанавым і Мікалаем Падлазнікам заснавалі ў 1946–1947 гг. Беларускую народную партыю, якой удалося згуртаваць паплечнікаў у некалькіх лагерах, а таксама стаць на чале беларускай групы ў інтэрнацыянальным лагеры ў Шлясгайме[511].

БНП на найбліжэйшы час ставіць перад сабой наступныя задачы:

а) узьняцьце і арганізацыя беларускіх народных масаў на зьвяржэньне камуністычнага рэжыму на Беларусі як найгоршай таталітарнай, антынароднай сыстэмы і дзяржаўнага рабаўласьніцтва, якія вядуць да зьнішчэньня Беларускі Народ;

б) стварэньне Незалежнае Беларускае Дзяржавы ў форме Беларускае Народнае Рэспублікі;

в) стварэньне ў незалежнай Беларускай дзяржаве такога грамадзкага і эканамічнага ладу, які будзе найлепш спрыяць разьвіцьцю і росту ўсяго насельніцтва, якое жыве на тэрыторыі Беларусі;

г) ахова незалежнае Беларускае Дзяржавы і яе нутранога ладу ад ворагаў, якія будуць імкнуцца зруйнаваць гэтую дзяржаву і яе лад[512].

Юры Сабалеўскі, Мікалай Шчорс і Юрка Віцьбіч у 1946–1947 гг. стварылі Сялянска-работніцкую партыю вызвалення Беларусі (партыя вызваленцаў). Пазней да яе далучыўся Радаслаў Астроўскі (а Віцьбіч хутка сышоў), і партыя стала сябе пазіцыянаваць як прадаўжальніца Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Васіль Рагуля аднавіў на эміграцыі дзейнасць Беларускага сялянскага саюзу. Усе гэтыя партыі ў 1948 г. стварылі свой Міжпартыйны камітэт[513].

---

510 Дэкларацыя Беларускае міжпартыйнае канфэрэнцыі, прынятая 12 сакавіка 1949 г. // Летапіс беларускай эміграцыі. №62. Сьнежань 1988. С. 130.

511 Кіпель, Яўхім. Эпізоды. Выд. 2-е… С. 231.

512 Праграма Беларускае Народнае Партыі // Кіпель, Яўхім. Эпізоды: Успаміны. Нью-Ёрк, 1998. С. 191.

513 Касяк, Іван. Беларусь у гады Другой сусьветнай вайны і паваенны час… С. 353.

# АДНАЎЛЕННЕ РАДЫ БНР

Рада БНР была адноўленая 28–29 снежня 1947 г. на паседжанні грамадскага актыву ў Остэргофэне, прысвечаным 30-й гадавіне Першага Усебеларускага кангрэсу. Не выключана, што ў сустрэчы браў удзел і Мікола Абрамчык[514].

Варта зазначыць, што Остэргофэн быў адным з асноўных асяродкаў беларускага жыцця ў паваеннай Нямеччыне, а пасля падзелу на прыхільнікаў Абрамчыка і Астроўскага стаў цэнтрам гуртавання сімпатыкаў Рады БНР. Тут, як і ў Міхэльсдорфе, працавалі дзіцячы сад, пачатковая школа і гімназія імя Янкі Купалы (таксама пасля падзелу), дзейнічалі некалькі грамадскіх камітэтаў, а ў лістападзе 1947 г. была заснаваная газета «Бацькаўшчына» — першая легальная беларуская газета ў Нямеччыне[515].

На сходзе ў Остэргофэне прынялі Статут Рады БНР і Дэкларацыю. У Дэкларацыі пералічваліся асноўныя прынцыпы адноўленай Рады БНР: імкненне да незалежнасці, абвешчанае на Першым Усебеларускім кангрэсе і пацверджанае Актам 25 сакавіка 1918 г., непрызнанне БССР. Зазначалася, што адзінапраўным і найвышэйшым прадстаўніком волі беларускага народу павінен выступаць урад БНР на падставе мандату Першага Усебеларускага кангрэсу, падкрэслівалася, што прэзідэнт БНР — найвышэйшы прадстаўнік суверэнных правоў беларускага народу.

Дэклярацыя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі
Прынятая 31-га сьнежня 1947 г.

Рада Беларускае Народнае Рэспублікі, сабраўшыся на сход у гістарычны дзень 30-х угодкаў абвешчаньня І-ым Усебеларускім Кангрэсам у Менску Беларускае Народнае Рэспублікі, урачыста заяўляе, што яна й надалей:

1. імкнецца да ажыцьцяўленьня волі беларускага народу да незалежнага гаспадарствавага жыцьця, выказанай ім вуснамі 1-га Ўсебеларускага кангрэсу й Актам 25 Сакавіка;

2. не прызнае й ніколі не прызнае БССР за форму беларускага незалежнага гаспадарства, уважаючы яе за расейска-камуністычную

---

514 На карысць гэтага факту сведчыць ліст Міколы Абрамчыка да Вінцэнта Жук-Грышкевіча ад 26 красавіка 1948 г.: *«Адзіная мая, як табе ведама, апошняя паўлегальная паездка да 3х лагераў, якой я рызыкаў вельмі многім, дала мне змогу ўвайсці ў кантакт з групай Астроўскага (абед у Ігнатовіча), якой я абяцаў за месяц прыехаць і дакончыць з імі размовы ў тым як раз напрамку згоды — але гэтага яны якраз і злякаліся…»* (Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР 1947–1970… С. 17).

515 Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР 1947–1970… С. 16.

фікцыю беларускае гаспадарствавасьці, накінутую Масквою, як сродак паняволеньня беларускага народу, ягонага нацыянальнага, матэрыяльнага а нават і фізычнага вынішчэньня;

3. не прызнае й ніколі не прызнае на будучыню, як неабавязваючыя беларускі народ, усе ўмовы й забавязаньні, якія напраўна ад імя беларускага народу падпісалі ўрады СССР, Польшчы й г.зв. «урад БССР» — маскоўска-акупацыйная адміністрацыя ў Беларусі;

4. маючы мандат ад І-га Ўсебеларускага кангрэсу, застаецца адзінапраўным і найвышэйшым рэпрэзантантам гаспадарствавае волі беларускага народу, упаўнамоцваючым выступаць ад ягонага імя ўрад БНР;

5. выказвае давер і застаецца вернай Прэзыдэнту Беларускае Народнае Рэспублікі — найвышэйшаму прадстаўніку сувэрэнных правоў беларускага народу;

6. імкнецца да салідарнасьці і супрацоўніцтва з усімі паняволенымі й загрожанымі маскоўскім камунізмам народамі, якія прызнаюць сувэрэнныя правы беларускага народу ў ягоных этнаграфічных межах.

Рада ўважае, што ў перажываны мамэнт ейным галоўным абавязкам ёсьць поўная кансалідацыя ўсіх нацыянальных беларускіх сілаў і змабілізаваньне іх на змаганьне за канчальнае вызваленьне беларускага народу ад маскоўскае няволі й аднаўленьне Беларускае Народнае Дэмакратычнае Рэспублікі.

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР)[516].

Тэкст Дэкларацыі быў выдрукаваны толькі 22 лютага 1948 г. Магчыма, гэта быў тактычны крок, а магчыма, на сходзе ў снежні 1947 г. не ўзгаднілі канчатковага варыянту. Можа, спазненню паспрыяў і той факт, што 31 снежня выдаў «Зварот да беларускай эміграцыі» Радаслаў Астроўскі, падпісаўшы яго як прэзідэнт БЦР. Дзеячам БНР не выгадна было суседзіць у інфармацыйным полі з Астроўскім, хацелася аформіць прыняцце дакументу як самастойную падзею. Пазней нават дату Дэкларацыі змянілі на 29 снежня (г. зн. на два дні раней за зварот прэзідэнта БЦР)[517].

Таксама пры публікацыі ў «Бацькаўшчыне» 22 лютага з Дэкларацыі прыбралі імя Абрамчыка. Яго не згадвалі на старонках газеты да 25 сакавіка 1948 г., хоць тэлеграмы дзеля ягонага падтрымання рэгулярна друкаваліся.

516 Дэклярацыя Рады БНР // Бацькаўшчына. 22 лютага 1948.
517 Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР 1947–1970… С. 18.

Магчыма, гэтак рабілі, каб не нашкодзіць прэзідэнту БНР у ягоных перамяшчэннях па Нямеччыне[518].

У Маніфесце Рады БНР не пазначалася размяшчэння сядзібы старшыні Рады БНР. На старых бланках, узятых у архіве Васіля Захаркі, проста закрэслівалася слова «Прага» і пісалася «Гаспода» (г. зн. сядзіба). Магчыма, на той час не было пэўнасці з месцам жыцця Міколы Абрамчыка, які, урэшце, застаўся ў Парыжы.

Згодна са Статутам, што налічваў 7 раздзелаў і 39 артыкулаў, Рада БНР абвяшчалася адзіным праўным прадстаўніцтвам суверэнных правоў беларускага народу. Свае правы Рада выводзіла з неабмежаваных паўнамоцтваў, дадзеных ёй Першым Усебеларускім кангрэсам у 1917 г. Статут дэклараваў, што старшыня Рады БНР Васіль Захарка перад сваёй смерцю перадаў паўнамоцтвы Абрамчыку. Галоўным палітычным заданнем Рады БНР была адбудова незалежнай беларускай дзяржаўнасці на ўсіх землях, *«якія ў 1917–1918 гг. належалі да беларускага этнаграфічнага абшару»,* дадзеныя Першым Усебеларускім кангрэсам паўнамоцтвы меліся працягвацца да першых свабодных выбараў у Беларусі[519].

Прэзідэнт БНР называўся праўным і адзіным найвышэйшым прадстаўніком беларускага народу. Адначасна ён з'яўляўся і старшынём Рады БНР[520]. Радныя прызначаліся прэзідэнтам на прапанову Рады або яе прэзідыуму. Рада абвяшчалася найвышэйшым органам БНР. На чале быў прэзідэнт, абіраўся таксама прэзідыум Рады, куды ўваходзіў прэзідэнт, ягоны намеснік, сакратар і два сябры, выбіраныя і адкліканыя Радаю[521].

Да кампетэнцыі Рады БНР належала: прыняцце і змена Статуту Рады, ратыфікацыя падпісаных дамоваў, выпрацоўванне палітычнай лініі ды тактыкі дзеяння, прыняцце законаў, выбары органаў Рады, прапановы прэзідэнту

---

[518] Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР 1947–1970… С. 18–19.

[519] Статут Рады Беларускай Народнай Рэспублікі // Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР 1947–1970… С. 392–396.

[520] Да кампетэнцыі прэзідэнта належала: рэпрэзентацыя БНР перад урадамі і нацыянальнымі прадстаўніцтвамі іншых народаў; пакліканне сябраў Рады БНР, прызначэнне прадстаўнікоў БНР пры ўрадах і нацыянальных прадстаўніцтвах іншых народаў; прызначэнне і адкліканне прэм'ер-міністра БНР; зацверджанне складу Рады Міністраў БНР. Свайго наступніка прэзідэнт БНР вызначаў таксама палітычным тастаментам, а ў выпадку немагчымасці наступнікам лічыўся першы намеснік старшыні Рады БНР да склікання Пленуму Рады БНР (Статут Рады Беларускай Народнай Рэспублікі… С. 392–396).

[521] Статут Рады Беларускай Народнай Рэспублікі… С. 392–396.

кандыдатаў у сябры Рады і аб адкліканні іх. Паседжанні Рады павінны былі склікацца раз на шэсць месяцаў. Пастановы прымаліся звычайнай большасцю галасоў, а ў выпадку роўнасці вырашальным быў голас старшыні. Пастановы Рады зацвярджаліся прэзідэнтам БНР, у выпадку незацверджання іх дакументы маглі быць прынятыя паўторна 3/4 галасоў.

Прэзідыум абвяшчаўся заканадаўчым органам Рады БНР і меўся весці справы паміж сесіямі. Урад быў выканаўчым органам БНР. Яго ўзначальваў прэм'ер-міністр, які прызначаўся прэзідэнтам БНР. Прэм'ер адбіраў патрэбную колькасць кандыдатаў у міністры і падаваў іх на зацверджанне прэзідэнта БНР. Выпрацавалі таксама прысягу радных БНР[522], заснавалі суд Рады БНР, які рэгуляваў спрэчкі паміж сябрамі Рады БНР[523].

На думку аўтараў кнігі «Рада БНР 1947–1970» Наталлі Гардзіенкі і Лявона Юрэвіча, за аснову Статуту Рады БНР узялі Статут БЦР ад студзеня 1945 г., у які ўнеслі адмысловыя праўкі і прынцыповыя артыкулы, што змянілі БЦРаўскі варыянт[524]. Звярталася ўвага на пераемнасць паўнамоцтваў ад Васіля Захаркі і стварэнне больш арыентаванай на асобу кіраўніка структуры. Гэтак, калі прэзідэнт БЦР абіраўся Пленумам тэрмінам на 5 гадоў (што пазней і было) і не меў іншых пасадаў, то прэзідэнт БНР адначасова быў старшынём Рады і прэзідыуму[525]. Апроч таго, ён аднаасобна вызначаў прэм'ер-міністра і зацвярджаў пададзены апошнім склад ураду (БЦР вызначала склад ураду таксама на Пленуме). Прэзідэнт БНР не толькі ставіў радных, але і склікаў сесіі Рады, зацвярджаў суд, а таксама вызначаў свайго пераемніка. Да таго ж у Статут Рады БНР быў спецыяльна ўнесены «тастаментавы» прынцып перадачы ўлады, што замацоўвала неабмежаваныя ў тэрміне паўнамоцтвы прэзідэнта[526].

---

522 Тэкст прысягі быў наступны:

«*Я, сябра Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, урачыста прысягаю перад Богам і Беларускім Народам, што буду непахісна стаяць на прынцыпах Акту 25 Сакавіка, дзеяць у кірунку ягонага ажыцьцяўленьня, падпарадкоўвацца ўсім пастановам, прынятым Радаю і Урадам БНР, сьвята захоўваць усе тайніцы Рады і Ураду БНР.*

*У выпадку парушэньня мною гэтае прысягі прымаю на сябе ўсе санкцыі, вынесеныя судовымі органамі Рады БНР*» (Статут Рады Беларускай Народнай Рэспублікі… С. 394).

523 Статут Рады Беларускай Народнай Рэспублікі… С. 392–396.

524 Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР 1947–1970… С. 24–25.

525 Тамсама. С. 25.

526 Тамсама.

§8. Да кампэтэнцыі Прэзыдэнта БНР належыць:

а. Рэпрэзэнтаваньне БНР перад урадамі і нацыянальнымі прадстаўніцтвамі іншых народаў.

б. Пакліканьне сяброў Рады БНР.

в. Прызначэньне прадстаўнікоў БНР пры ўрадах і нацыянальных прадстаўніцтвах іншых народаў.

г. Прызначэньне і адкліканьне прэм’ер-міністра БНР.

д. Зацьверджаньне складу Рады Міністраў БНР.

ж. Іншыя правы, вынікаючыя з займанага становішча, а не засьцярожаныя іншым органам.

§9. Свайго наступніка Прэзыдэнт БНР вызначае палітычным тэстамэнтам. У выпадку завакаваньня становішча Прэзыдэнта БНР яго наступнікам зьяўляецца Першы Заступнік Старшыні Рады БНР да часу скліка80ньня Пленуму Рады БНР[527].

Параграфы 19 і 20 Статуту прадугледжвалі адказнасць за разгалошванне таямніцы справаў БНР:

§19. Усіх сяброў Рады абавязвае поўная тайніца адносна справаў, парушаных на паседжаньнях Рады, ці аб якіх сябра Рады даведаўся з тытулу свайго належаньня да Рады.

§20. За зраду тайніцы БНР адказваецца, як за зраду дзяржаўнай тайніцы[528].

У лютым 1948 г. у «Бацькаўшчыне» пачалася кампанія дыскрэдытацыі прыхільнікаў Радаслава Астроўскага, якім закідалася супрацоўніцтва з нацыстамі падчас Другой сусветнай вайны. Актыўны ўдзел у гэтымі бралі былыя дзеячы БЦР: Барыс Рагуля (колішні намеснік прэзідэнта БЦР на Навагрудскую акругу), Станіслаў Станкевіч (колішні намеснік у Баранавічах), Аўген Каханоўскі (аўтар галоўнага дакладу на Другім Усебеларускім кангрэсе). Паказальны ў гэтым сэнсе быў артыкул, праўдападобна, Антона Адамовіча (як цвердзіў Л. Галяк) «Антыбальшавізм і антыфашызм», дзе даваўся паказальны адлуп «беларускім квіслінгам»[529], а таксама ўдакладняльны рэдакцыйны артыкул «Хто такія квіслінгі»[530]. Адметна, што Антон

[527] Статут Рады Беларускай Народнай Рэспублікі… С. 392–396.

[528] Тамсама. С. 394.

[529] Бацькаўшчына. №3 (6). 8 лютага 1948. С. 1–2. Артыкул не падпісаны.

[530] Найменне «калабарант» у дачыненні тых, хто супрацоўнічаў з акупацыйнымі ўладамі яшчэ падчас Першай сусветнай вайны, выкарыстоўвалася ў англійскай мове з 1923 г. У першыя гады пасля Другой сусветнай вайны беларусы на эміграцыі

Адамовіч у 1942–1943 гг. быў рэдактарам «Беларускай газэты», а пасля ад'езду ў Берлін працаваў у Антыкамінтэрне — аддзеле, што спецыялізаваўся на рыхтаванні прапагандысцкіх матэрыялаў для ўсходніх акупаваных тэрыторыяў пры Імперскім міністэрстве прапаганды (ды ўваходзіў у берлінскую структуру БЦР). Слова «квіслінгі» было абразлівае для тых, хто працаваў пад нямецкай акупацыяй, і, магчыма, стала адным з каталізатараў гуртавання БЦРаўцаў[531].

Першы ўрад БНР быў сфармаваны ў чэрвені 1948 г. Яго ўзначаліў Вітаўт Тумаш, якога таксама прызначылі міністрам аховы здароўя. Аўген Каханоўскі стаў 1-м віцэ-прэм'ерам і міністрам замежных справаў, Мікола Гарошка — 2-м віцэ-прэм'ерам і міністрам народнай гаспадаркі, доктар Станіслаў Грынкевіч — міністрам унутраных справаў, Францішак Кушаль — вайсковых справаў, Аляксандр Орса — культуры і веравызнанняў, Антон Адамовіч — прэсы і інфармацыі, Леанід Галяк — юстыцыі, Лявон Рыдлеўскі — працы і сацыяльнага забеспячэння, Гіпаліт Паланевіч — дзяржаўным сакратаром[532].

---

называлі тых, хто супрацоўнічаў з немцамі, паводле прозвішча нарвежскага прэм'ер-міністра Відкуна Квіслінга (Vidkun Quisling), які ў 1940 г. падпісаў з гітлераўцамі замірэнне, — квіслінгі. З 1950-х стала выкарыстоўвацца найменне «калабаранты», якое замацавалася ў савецкай гістарыяграфіі.

[531] Праз тыдзень у «Бацькаўшыне» быў змешчаны яшчэ адзін артыкул пад спецыяльнаю назваю: «Хто гэткія квіслінгі». У ім гаварылася:

*«У перадавым артыкуле папярэдняга нумару нашай газэты быў ужыты палітычны тэрмін апошніх часоў — «квісьлінгі». Хоць там-жа адразу-ж было паясьнена, хто разумеецца пад гэтай катэгорыяй («пакліканыя фашыстамі «правадыры» й «прэзыдэнты» твораных імі марыянэткавых «урадаў» і «радаў»), сям-там пачынаецца спэкуляцыя гэтым тэрмінам і падцягваецца пад яго шырэйшае кола асобаў, як кажуць, Богу душой невінаватых»). Таму выясьняем ізноў падрабязьней:*

*Квісьлінг — гэта запраўднае прозьвішча Нарвэжца, якога, акупаваўшы Нарвэгію, Гітлер зрабіў фюрэрам нарвэскага народу і «прэзыдэнтам ураду». Таму, што ён аказаўся аж занадта верным служкам акупантаў, ягонае прозьвішча сталася агульным абазначэньнем падобных тыпаў — пакліканых фашыстамі «фюрэраў» і «прэзыдэнтаў» ды толькі іх і абазначае. Гэткімі «квісьлінгамі» з ласкі Гітлера былі: маршал Петэн у Францыі, генэрал Недыч у Сэрбіі, Павэліч у Харватыі, Гаха ў Чэхіі й інш.*

*У нас на Беларусі паступова зьмяніліся тры такія «квісьлінгі». Называць іх прозьвішчы тут тымчасам няма патрэбы: самі сябе яны добра знаюць, знаюць іх і людзі, што жылі на Бацькаўшчыне за нямецка-гітлераўскай акупацыяй»* (Бацькаўшчына. №4 (8). 15 лютага 1948 г.).

[532] Інструкцыя №1 Прадстаўнікам Ураду БНР у розных дзяржавах сьвету // Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР. 1947–1970… С. 399–400.

Праз некалькі тыдняў Вітаўт Тумаш падаў у адстаўку з пасады прэм'ер-міністра, і 15 жніўня 1948 г. Кабінет Міністраў Рады БНР узначаліў Аўген Кахаоўскі (Калубовіч)[533].

На 2-й сесіі Рады БНР прынялі дакумент, які рэгламентаваў вонкавую палітыку Рады. У ім Рада БНР заяўляла свае правы на Кёнігсберг і Усходнюю Прусію.

> Гэтая беларуская незалежная дзяржава павінна абыймаць усе этнаграфічныя беларускія землі з улучэньнем у яе часткі Ўсходніх Прусаў з Кёнігсбэргам, што павінна быць справядлівай рэкампэнсатай за ўсе калясальныя зьнішчэньні Беларусі і беларускага народу, спрычыненыя нямецкім гітлерызмам у часе Другой Сусьветнай Вайны, і што б дало магчымасьць доступу Беларусі да мора, канечнага для ейнага эканамічнага разьвіцьця. Гэтае дамаганьне абгрунтоўваецца яшчэ і тым, што на тэрыторыю Ўсходніх Прусаў, прылучанай сёньня да РСФСР, прымусовая перасеиленая апошнімі гадамі савецкімі ўладамі вялікая колькасьць беларускага жыхарства з этнаграфічнай Беларусі.
>
> Адначасна змагацца за зварот беларускага этнаграфічнага прастору, адрэзанага ад Беларусі на карысьць Польшчы лініяй Керзона на аснове Ялцінскай умовы[534].

Таксама Рада БНР заяўляла, што падтрымлівае барацьбу ўсіх паняволеных народаў Расіі і не супраць будучага саюзу з іншымі дзяржавамі, напрыклад, беларуска-балтыйска-скандынаўскага блоку[535]. Пра БЦР у гэтых дакументах не згадвалася.

## АДНАЎЛЕННЕ БЦР

31 снежня 1947 г., праз дзень пасля абвяшчэння аб аднаўленні дзейнасці Рады БНР у Остэргофэне, Радаслаў Астроўскі выдаў зварот «Беларусы і беларускі». Ён заклікаў спыніць усе спрэчкі паміж грамадскім актывам і прапанаваў правесці выбары ў Цэнтральнае прадстаўніцтва беларускай эміграцыі. Хоць Радаслаў Астроўскі падпісаўся пад зваротам як прэзідэнт, пра аднаўленне дзейнасці БЦР пакуль не вялося. У звароце сцвярджалася:

533 Інструкцыя №1 Прадстаўніком Ураду БНР у розных дзяржавах сьвету… С. 399–400.

534 Сэсія Рады БНР: Паведамленне беларускага прэсбюро // Бацькаўшчына. 4 ліпеня 1948.

535 Тамсама.

> Арганізацыяй беларускай эміграцыі ў Нямеччыне заняўся гэтак званы Беларускі Цэнтр, які і павінен быў стварыць беларускае аўтарытэтнае эміграцыйнае прадстаўніцтва. І вось прайшло ўжо больш двух гадоў, а такога беларускага аўтарытэтнага эміграцыйнага прадстаўніцтва, на жаль, як не было, так і няма. Замест гэтага ўтварыліся шматлікія, часта нават фікцыйныя арганізацыі і ўстановы, якія, безумоўна, усяе беларускае эміграцыі не рэпрэзэнтуюць і рэпрэзэнтаваць яе ня могуць…[536]

Радаслаў Астроўскі пафасна заклікаў *«спыніць гэтыя шкодныя сваркі»*, каб правесці ў акупацыйных зонах выбары для стварэння беларускага эміграцыйнага прадстаўніцтва[537].

Пазней дзеяча абвінавацілі ў тым, што, выдаўшы зварот, ён свядома пайшоў на раскол эміграцыі. У сярэдзіне 1980-х выдаўцы нью-ёркаўскага «Летапісу жыцця беларускай эміграцыі», перадрукоўваючы адозву, нават зрабілі на першай старонцы адмысловую пазнаку: *«З гэтага звароту пайшоў раскол беларускай эміграцыі»*[538]. Але цалкам дапушчальна, што Радаслаў Астроўскі да моманту аднаўлення Рады БНР яшчэ спадзяваўся на паварот сітуацыі ў дэмакратычнае рэчышча, г. зн. на магчымасць для актыву выбраць паміж двума кандыдатамі: Міколам Абрамчыкам і Радаславам Астроўскім — хто мае права казаць ад імя беларускага народу на эміграцыі. У лісце да Леаніда Галяка, сакратара Другога Усебеларускага кангрэсу, ад 4 студзеня 1948 г. ён тлумачыў, чаму ўвосень 1945 г. адышоў у палітычны цень і крытычна ацаніў як бягучую сітуацыю, гэтак і акалічнасці абвяшчэння БЦР у 1943 г. Прэзідэнт нават заяўляў, што не лічыць патрэбным рэпрэзентаваць беларусаў на эміграцыі:

> …я ж ніколі не лічыў сябе ўсебеларускім рэпрэзэнтантам. Гэтую функцыю ў пэўным часе павінен быў выконваць дзеля таго, што сапраўднай дэмакратычнай усенароднай рэпрэзэнтацыі тады атрымаць было нельга. БЦР мела ды й мае мандат выключна ад 1200 дэлегатаў ІІ Кангрэсу, якія фактычна нікім не выбіраліся, а мо нікім і не дэлегаваліся.
>
> Тым, чым мы ашукваем навонкі, нельга ашукваць саміх сябе, праўда? Дык вось, каб даць магчымасьць перш усім беларусам на

---

[536] Астроўскі, Радаслаў. Беларусы і беларускі. [Зварот да беларускай грамадскасці]. Эміграцыя, снежань, 1947. 2 с.

[537] Тамсама.

[538] Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі. №18. Красавік 1984. С. 1.

чужыне свабодна выбраць на дэмакратычных падставах сваю нацыянальную аўтарытэтную рэпрэзэнтацыю, з аднаго боку, ды выбіць грунт з-пад ног у Саветаў, якія, безумоўна, пастараліся б выкарыстаць фармальнае супрацоўніцтва БЦР перад заходнімі саюзьнікамі дый лягчэй зьнішчыць непажаданую ім беларускую інтэлігенцыю ды працоўны актыў, з другога боку, на абавязку маім было тое, што я зрабіў, — «завесіцца», так сказаць. А першае г. зв. згуртаваньне ўсіх беларусаў на чужыне ды стварэньне цэнтральнае нацыянальнае рэпрэзэнтацыі ляжала якраз, даражэнькі, на Вас, — актыве беларускай інтэлігенцыі[539].

Погляды Радаслава Астроўскага змяніліся праз некалькі дзён, як толькі стала вядома пра аднаўленне Рады БНР. Аддаваць першынство Міколу Абрамчыку ён не збіраўся. Наступны ягоны ліст да Галяка, за 30 студзеня 1948 г., — больш эмацыйны і рэзкі. Ён піша, што *«зь ім не параіліся»*, і закідае палітычным апанентам непатрэбную канспірацыю.

Вы ня толькі ведалі аб тым, што сталася, але ў гэтым і самі актыўны ўдзел прымалі. Я ж даведаўся толькі 15.1 *[15 студзеня 1948 г. — А. Г.]*. у Міхельсдорфе ад Калубовіча і іншых. І ўсе Вы не лічылі абавязкам ня толькі парадзіцца са мною, але проста хоць паведаміць. (…)

Ваша канспірацыя тут якраз прынесла толькі шкоду, бо я нічога ня ведаючы ад «Уваскрашэньні» РБНР выдаў адозву як Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады. Добра, што яна датычыцца прадстаўніцтва эміграцыйнага…[540]

У сярэдзіне студзеня 1948 г. быў выдадзены зварот «Да беларускай эміграцыі», падпісаны сенатарам польскага Сейму Васілём Рагулем, паслом польскага Сейму Юрыем Сабалеўскім, рэктарам Медычнага інстытуту ў Магілёве ў 1943–1944 гг. Міколам Сцяпанавым, сябрам Рады БНР у 1918–1920 гг. Міколам Шылам ды камендантам беларускага лагеру ў Ватэнштэце Святаславам Каўшом. Аўтары дакументу ўхвалілі снежаньскі зварот Радаслава Астроўскага ды заявілі, што бяруць на сябе ініцыятыву ў рыхтаванні выбараў у Цэнтральнае беларускае прадстаўніцтва на эміграцыі[541].

---

[539] Ліст Р. Астроўскага да Л. Галяка ад 4 студзеня 1948 г. // Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі. №18. Красавік 1984. С. 2–3.

[540] Ліст Р. Астроўскага да Л. Галяка ад 30 студзеня 1948 г. // Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі. №15. 1983.

[541] Да беларускай эміграцыі. [Зварот] // Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі. №18. Красавік 1984. С. 1–2.

Выбары павінны былі прайсці шляхам агульнага, тайнага і прапарцыйнага галасавання. Квота была наступная: па 22–23 дэлегаты ад брытанскай і амерыканскай зонаў акупацыі як найбольшых у колькасці беларусаў, 5–6 дэлегатаў — ад французскай як найменшай. Адзін дэлегат меўся рэпрэзентаваць 100 выбарнікаў і мець узрост не менш за 25 гадоў (выбарнік — не менш за 21 год). Галоўныя сядзібы, якія павінны былі каардынаваць працэс выбараў, былі вызначаныя ў Міхэльсдорфе (амерыканская зона акупацыі), Ватэнштэце (брытанская), Заўльгаў (Saulgau, французская)[542]. Эміграцыйны беларускі парламент мусіў налічваць 50–52 дэлегатаў, што меліся выступаць ад імя 5 тыс. выбарнікаў — менавіта столькі беларусаў не пабаяліся заявіць пра сваю нацыянальнасць у паваенных лагерах Нямеччыны або бралі ўдзел у актыўным грамадскім жыцці. Паказальна, што гэтая лічба супадае з названай *IRO* колькасцю беларусаў, г. зн. тых, што пазначылі сябе такімі.

Выбары ў ***Беларускае цэнтральнае прадстаўніцтва*** (БЦП) прайшлі ў красавіку 1948 г., але яны мелі сімвалічнае значэнне, бо дэлегаты абіраліся толькі ў асяродках, прыхільных да Радаслава Астроўскага, і не адлюстроўвалі пазіцыяў усёй беларускай эміграцыі ў Нямеччыне. Рэальная патрэба ў БЦП адпала яшчэ раней: 25 сакавіка 1948 г. Радаслаў Астроўскі выдаў дэкрэт пра аднаўленне дзейнасці БЦР. Дзеяч звяртаўся да пастановаў Другога Усебеларускага кангрэсу, дэлегаты якога ўпаўнаважылі БЦР *«выконваць функцыі прадстаўніцтва Беларускага народу і краю»*, бо Кангрэс *«узлажыў на БЦР абавязак часова заступаць парламент Беларускай Народнай Рэспублікі»*[543]. Ідэя, што БЦР — беларускі парламент на эміграцыі, потым доўгі час асабліва падкрэслівалася дзеячамі лагеру Радаслава Астроўскага ў шматлікіх зваротах да міжнародных арганізацыяў або ўрадаў тых ці іншых краінаў.

Згодна з дэкрэтам Радаслава Астроўскага, БЦР з 25 сакавіка 1948 г. рэарганізоўвалася: прэзідэнт паклікаў у яе склад асобаў, што мелі на эміграцыі бясспрэчны аўтарытэт. Да ліку такіх асобаў належалі:

> 1. Тыя сябры Рады, якія былі ў яе складзе ў часе Другога Кангрэсу і дагэтуль дабравольна сваіх мандатаў не зракліся, а таксама статутова не былі адкліканыя.

---

[542] Шляхам жыцьця. №1 (25–26). Студзень—люты 1948. С. 3.

[543] Дэкрэт Прэзыдэнта БЦР [аб аднаўленьні дзейнасьці Беларускай Цэнтральнай Рады ад 25 сакавіка 1948 г.]. Цытуецца паводле: Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі. №18. Красавік 1984. С. 2–3.

2. Увесь Прэзыдыюм Другога Ўсебеларускага Кангрэсу *[Іван Касяк, Леанід Галяк, Васіль Рагуля, Яўхім Кіпель, Леанід Бранавіцкі*[544]*. — А. Г.]*.

3. Старыя Сябры Рады БНР — удзельнікі Першага Ўсебеларускага Кангрэсу[545].

4. Сэнатары і паслы з заходняй часткі Беларусі, якія ў сваім часе атрымалі мандат усяго беларускага народу шляхам дэмакратычных выбараў[546].

5. Прадстаўнікі Беларускага праваслаўнага, рыма-каталіцкага і др. веравызнаньняў духавенства.

6. Дэлегаты беларускага эміграцыйнага прадстаўніцтва, выбранага на дэмакратычных асновах, у лічбе роўнай колькасьці папярэдніх пяці групаў, узятых разам[547].

9 траўня 1948 г. у Эльвангене (Ellwangen, Баварыя) прайшоў 12-ты Пленум БЦР, на якім рашэнне аб аднаўленні арганізацыі афармілі юрыдычна[548]. Удзельнікі прынялі пастанову, што БЦР — спадкаеміца Першага і Другога Усебеларускіх кангрэсаў і *«адзіны дастойны прадстаўнік беларускага народу ў сучаснасьці»*. Адзначалася, што Беларускі нацыянальны цэнтр, створаны ў жніўні 1945 г. у Рэгенсбурзе, не выканаў ускладзеных на яго абавязкаў, *«стаўшы прыдаткам крывіцкага руху»*[549]. Аднаўленне Рады і ўраду БНР прызнавалася нелегітымным, а прыпыненне дзейнасці БЦР у верасні 1945 г. — адзіна правільным на той час крокам. Адозва Радаслава

[544] З пералічаных сябраў прэзідыуму ў БЦР увайшлі Іван Касяк, Васіль Рагуля і Яўхім Кіпель. Леанід Галяк адмовіўся, а Леанід Бранавіцкі летам 1944 г. застаўся ў Мінску і, верагодна, быў рэпрэсаваны.

[545] Паводле звестак газеты «Беларускае слова» ў Другім Усебеларускім кангрэсе (1944) бралі ўдзел 20 удзельнікаў Першага Усебеларускага кангрэсу, у тым ліку сам Радаслаў Астроўскі (5-годдзе Другога Усебеларускага Кангрэсу // Беларускае слова. №7–8. 18 чэрвеня 1949).

[546] Аднаўленне БЦР падтрымалі Юры Сабалеўскі і Васіль Рагуля.

[547] Дэкрэт Прэзыдэнта БЦР [аб аднаўленьні дзейнасьці Беларускай Цэнтральнай Рады ад 25 сакавіка 1948 г.]…

[548] Частка планаваных радных адмовілася ад кааптацыі ў БЦР. Частка з іх падтрымала аднаўленне Рады БНР, як, напрыклад, Леанід Галяк, якому Радаслаў Астроўскі даслаў мандат раднага (Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі. №18. Красавік 1984. С. 9).

[549] Рэзалюцыя Пленуму Беларускай Цэнтральнай Рады з дня 9 мая 1948 г. у справе працы Беларускай Цэнтральнай Рады. Захоўваецца ў архівах БЦР у царкве св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі, ЗША).

Астроўскага да беларускай эміграцыі (у снежні 1947 г.) і аднаўленне БЦР 25 сакавіка 1948 г. называліся мэтазгоднымі ды лагічнымі крокамі. У пастанове адзначалася, што толькі БЦР і Радаслаў Астроўскі, як носьбіты ідэалаў Першага і Другога Усебеларускага кангрэсаў і Акту 25 сакавіка 1918 г., маюць права рэпрэзентаваць беларускі народ на эміграцыі. Удзельнікі Пленуму чарговы раз заявілі пра тое, што БЦР — прадаўжальніца дзейнасці Рады БНР, якая існавала ў 1918–1925 гг.

1. Прызнаць, што БЦР на чале з Прэзыдэнтам Р. Астроўскім, як носьбіт ідэалаў І-га Ўсебеларускага Кангрэсу, БНР, Акту 25.3.1918 г., і адзіны праўны прадстаўнік Беларускага Народу ў сучаснасьці, у часе паміж Другім Усебеларускім Кангрэсам і капітуляцыяй Нямеччыны, не зважаючы на незвычайна цяжкія варункі эміграцыйнага жыцьця, дастойна рэпрэзэнтавала Беларускі Народ і наш край, выконваючы непахісна наказ, дадзены Другім Усебеларускім Кангрэсам;

2. Прызнаць правільным часовае спыненьне дзейнасьці БЦР ад моманту заканчэньня 2-й сусьветнай вайны да сьнежня 1947 г., маючы на ўвазе асаблівыя абставіны, якія вынікалі ў той час для беларускай эміграцыі зь Ялцінскіх і Патсдамскіх дагавораў заходніх саюзьнікаў з Савецкім Саюзам.

3. Сьцьвердзіць невыкананьне праз БНЦ узложаных на яго абавязкаў, які загубіў агульна нацыянальны характар, стаўшы на вузка групoвы грунт і горача вітаць выступленьне Прэзыдэнта БЦР у сьнежні мінулага года, узнаўляючае дзейнасьць БЦР, з заклікам да ўтварэньня аўтарытэтнага агульна-эміграцыйнага Беларускага Цэнтральнага Прадстаўніцтва і шчыра дзякаваць ініцыятарам рэалізацыі гэтага заклiку, якія, праводзячы выбары ў беларускае эміграцыйнае прадстаўніцтва, палажылі ўрэшце канец таму хаосу, які дасюль меў месца ў беларускім эміграцыйным жыцьці, і зактывізавалі беларускія эміграцыйныя масы, даючы ім сапраўднае аўтарытэтнае прадстаўніцтва.

4. Лічыць зусім абаснаванымі і справядлівымі тыя падставы рэарганізацыі БЦР, якія акрэсьленыя Дэкрэтам Прэзыдэнта з дня 25.3.48 году, бо яны кладуць канец усім тым фікцыйным «рэпрэзэнтацыям», якія, з шкодаю для Беларускага Народу, натвораныя невялікаю групкаю безадказных адзінак з-пад знаку «крывічоў» (так званых «Нацыянальных цэнтраў», «Радаў» і крывіцкіх «Урадаў БНР», а адначасна давядуць да канца кансалідацыю ўсёй беларускай эміграцыі пад кі-

раўніцтвам адзінай праўнай дзяржаўнай рэпрэзэнтацыі, якая неперарванаператрывала па сягоньняшні дзень[550].

У Пленуме ў Эльвангене ўдзел узялі 48 чалавек: Радаслаў Астроўскі, Янка Бекіш, Аляксандр Буглай, Аляксандр Вабішчэвіч, Ксенафонт Вайцяхоўскі, Людвік Галубовіч, Аляксандр Гузоўскі, Сцяпан Дашкевіч, Раіса Евец, Міхаіл Ігнатовіч, Хведар Ілляшэвіч, Ілля Калько, Іван Касяк, Яўхім Кіпель, Барыс Крэстовіч, Янка Кудрук, Антон Курыловіч, Уладзімір Лазарэвіч, Мікалай Лапіцкі, Нік Лапушынскі, Іван Любачка, Віктар Мелюк, Мікалай Мінкевіч, Часлаў Найдзюк, Алесь Падун, Анатоль Плескачэўскі, Юры Прускі, Васіль Рагуля, Усевалад Родзевіч, Сяргей Розмысл, Аляксандр Русак, Юрый Сабалеўскі, Ціхан Селівончык, Уладзімір Сенька, Юрый Стукаліч (Віцьбіч), Масей Сяднёў, Павел Свірыд, Аляксей Сянькевіч, Анатоль Ушал, Віктар Чабатарэвіч, Андрэй Чарэўка, Іван Шакун, Сымон Шаўцоў, Анатоль Шкутка, Марк Шпакоўскі, Мікалай Шчорс, Хведар Шыбут, Эмануіл Ясюк[551]. Частка з іх (Бекіш, Гузоўскі, Калько, Мелюк, Ушал, Чарэўка) у хуткім часе адышлі ад грамадскай дзейнасці.

Радаслаў Астроўскі адзінагалосна быў абраны прэзідэнтам БЦР на чатырохгадовы тэрмін. Першым віцэ-прэзідэнтам БЦР стаў Васіль Рагуля, 2-м віцэ-прэзідэнтам — Мікалай Шчорс, старшынём Рады Міністраў — Юры Сабалеўскі, сакратаром БЦР — Іван Касяк[552].

Эмануіл Ясюк абраны міністрам замежных справаў, Юры Стукаліч (Віцьбіч) — міністрам прэсы і прапаганды, Мікалай Сцяпанаў — міністрам культуры і асветы. Аляксандр Русак — міністрам фінансаў, Сцяпан Шнэк — міністрам Краёвай абароны, Іван Касяк — міністрам унутраных справаў, Мікалай Мінкевіч — міністрам аховы здароўя і грамадскай апекі, Уладзімір Каракулька — першым віцэ-міністрам фінансаў, Усевалад Родзевіч — другім віцэ-міністрам фінансаў, Уладзімір Сенька — віцэ-міністрам унутраных справаў, Ксенафонт Вайцяхоўскі — віцэ-міністрам культуры і асветы, Ана-

---

550 Рэзалюцыя Пленуму Беларускай Цэнтральнай Рады з дня 9 мая 1948 г. у справе працы Беларускай Цэнтральнай Рады…

551 Сьпіс удзельнікаў Сэсіі БЦР (12-ты Пленум) у Эльвангене. Захоўваецца ў архівах БЦР у царкве св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі, ЗША).

552 На пасаду першага віцэ-прэзідэнта былі вылучаныя тры кандыдатуры: Васіль Рагуля (19 галасоў), Юры Сабалеўскі (14) і Анатоль Шкутка (7). Што да пасады другога віцэ-прэзідэнта, то Мікалай Шчорс набраў 29 галасоў, Анатоль Шкутка — 17 (паводле чарнавікоў пратаколу і бягучых папераў 12-га Пленуму БЦР у Эльвангене, што захоўваюцца ў архівах БЦР у царкве св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рывэры).

толь Шкутка — віцэ-старшынём Рады міністраў. Янку Бекіша і Сцяпана Рудзя як удзельнікаў Першага Усебеларускага кангрэсу прызначылі раднымі БЦР, а Івана Ермачэнку — паўнамоцным паслом БЦР у ЗША[553] (Ерамчэнка жыў у Амерыцы з 1947 г., а ў 1948 г. стварыў першую паваенную беларускую арганізацыю — Злучаны беларуска-амерыканскі дапамаговы камітэт[554]).

З 48 удзельнікаў 12-га Пленуму ў склад БЦР былі абраныя 32 радныя: Васіль Рагуля, Юры Сабалеўскі, Яўхім Кіпель, Іван Касяк, Янка Бекіш, Павел Свірыд, епіскап Апанас (Мартас), Пётра Орса, а. Мікалай Лапіцкі, У. Бруй, У. Родзевіч, Часлаў Найдзюк, Мікалай Шчорс, Хведар Шыбут, Эманіул Ясюк, а. Іван Жарскі, Аляксандр Русак, Мікалай Сцяпанаў, Уладзімір Лазарэвіч, Сымон Шаўцоў, Анатоль Плескачэўскі, Святаслаў Коўш, Сцяпан Шнэк, Аляксандр Буглай, Анатоль Шкутка, Аляксей Сянькевіч, Мікалай Мінкевіч, Аркадзь Евец, Хведар Ілляшэвіч, Уладзімір Сенька, Міхаіл Завістовіч[555].

Удзельнікі Пленуму цьмяна акрэслілі стаўленне да пазіцыі беларускага епіскапату, прыняўшы рэзалюцыю, якая, з аднаго боку, заяўляла аб агульным падтрыманні епіскапаў БПЦ, а з іншага — выказвала надзею на тое, што іерархі вернуцца на незалежніцкія пазіцыі:

> 12-ты Пленум БЦР прыймае становішча Радаслава Астроўскага, апублікаванае ў часопісе «Апошнія весткі» з кананічнага пункту гледжаньня аўтакефаліі. Беларуская Царква яшчэ не аформленая, а знаходзіцца ў стане гэтага афармленьня. Абавязак епіскапаў давесьці гэтае афармленьне да канца. Аўтакефалія нашай царквы сталася фактам даказаным, бо так хацеў беларускі народ.
>
> Імкнучыся да свае палітычнае дзяржаўнае незалежнасьці Беларуская Царква ня можа пагадзіцца і ніколі не пагодзіцца на існаваньне ў незалежнай дзяржаве падпарадкуючыся чужым дзейнікам свае царквы[556].

---

553 Паводле загадаў Радаслава Астроўскага, што захоўваюцца ў архівах БЦР у царкве св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі, ЗША).

554 Гардзіенка, Алег. Беларускі кангрэсавы камітэт Амэрыкі (БККА). Смаленск, 2009. С. 28.

555 Пратакол 12-га Пленуму БЦР. Захоўваецца ў архівах БЦР у царкве св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі, ЗША).

556 Рэзалюцыі 12-га Пленуму БЦР. Захоўваюцца ў архіве Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі (Івана Касяка) у Ратгерскім універсітэце (Нью-Джэрзі, ЗША). Скрыня №2.

# СТАТУТ БЦР

За аснову праграмы БЦР была ўзятая 2-я рэдакцыя Статуту БЦР, прынятая 14–17 студзеня 1945 г. у Берліне. На пленумах 1952 і 1954 г. у Статут унеслі папраўкі. БЦР абвяшчалася *«адзіным праўным прадстаўніцтвам сувэрэнных правоў беларускага народу з функцыямі найвышэйшых дзяржаўных органаў Беларускай Народнай Рэспублікі»*[557].

Палітычныя заданні БЦР былі вызначаныя пастановамі Другога Усебеларускага кангрэсу: вызваленне Беларусі і здабыццё дзяржаўнай незалежнасці ў форме БНР. Зазначалася, што БЦР ажыццяўляе праўную, сацыяльную і культурную апеку над усімі беларусамі, якія апынуліся па-за межамі Бацькаўшчыны. Статут вызначаў, што адбудаваная БНР павінна быць дэмакратычнаю народнаю дзяржаваю з забеспячэннем усіх палітычных, сацыяльных, гаспадарчых, рэлігійных і культурных свабодаў і правоў як для беларусаў, гэтак і для нацыянальных меншасцяў. Паўнамоцтвы БЦР абвяшчаліся дзейнымі да Трэцяга Усебеларускага кангрэсу, які Рада абавязаная склікаць пасля вызвалення Беларусі[558].

Ачольваў БЦР прэзідэнт, які павінен быў рэпрэзентаваць Раду перад урадамі ды нацыянальнымі прадстаўніцтвамі іншых дзяржаваў. Паводле Статуту, прэзідэнт БЦР быў кіраўніком дзяржавы, БНР, і ўсіх беларускіх збройных сілаў. Да кампетэнцыі прэзідэнта належалі: а) рэпрэзентацыя БНР перад урадамі і нацыянальнымі прадстаўніцтвамі іншых дзяржаваў і народаў, б) мабілізацыя ў войска і вызначэнне яго галоўнага кіраўніцтва, наданне афіцэрскіх рангаў, в) пакліканне і адкліканне радных БЦР, г) вызначэнне і прыманне адстаўкі старшыні Калегіі БЦР, д) зацверджанне складу Калегіі[559].

Наступнікам прэзідэнта БЦР у выпадку смерці ці адстаўкі быў 1-шы віцэ-прэзідэнт БЦР, а ягоным наступнікам — 2-гі віцэ-прэзідэнт.

БЦР складалася з сябраў (радных), зацверджаных Другім Усебеларускім кангрэсам; прадстаўнікоў палітычных партыяў, асобаў, пакліканых індывідуальна; прадстаўнікоў грамадскіх арганізацыяў і ўстановаў, індывідуальных запрашэнняў.

«Вырашаючым» (заканадаўчым) органам БЦР абвяшчаўся Пленум Рады на чале з прэзідыумам (старшыня, намеснік і сакратар, якія выбіраліся на

---

557 Рэзалюцыі 12-га Пленуму БЦР.

558 Статут БЦР [Другая рэдакцыя] // За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі… С. 173–175.

559 Рэзалюцыі 12-га Пленуму БЦР…

адзін год), у склад Пленуму ўваходзілі ўсе сябры БЦР (агульны лік сябраў не мусіў перавышаць 25 чалавек, але потым гэтую лічбу адмянілі). Да кампетэнцыі Пленуму Рады належала: перагляд Статуту БЦР; выбар кандыдатаў на наступнікаў прэзідэнта БЦР; разгляд і прыняцце праграмы і палітычнае лініі БЦР; ратыфікацыя ўмоваў з нацыянальнымі прадстаўніцтвамі; прапановы прэзідэнту БЦР кандыдатаў у радныя і аб адкліканні радных[560].

Фактычна Пленум, як і сама БЦР, павінен быў выконваць ролю беларускага парламенту ў эміграцыі. Гэтая папраўка — пра функцыі парламенту на эміграцыі — потым прывяла да выхаду са складу БЦР шэрагу дзеячаў, якія палічылі, што, прыняўшы амерыканскае грамадзянства і склаўшы адпаведную прысягу, яны не могуць належаць да палітычных структураў іншай дзяржавы, нават да сімвалічнай БНР, якую ў гэтым выпадку рэпрэзентавала Беларуская Цэнтральная Рада.

Выканаўчым органам БЦР (урадам) абвяшчалася Калегія, у склад якой уваходзілі кіраўнікі ўсіх аддзелаў БЦР і шэф Калегіі[561].

Калегія (з сярэдзіны 1950-х часцей гэтак і звалася — выканаўчы орган БЦР) мусіла ахопліваць усю працу ў розных галінах, вызначаных Пленумам і прэзідэнтам.

Калегія БЦР мелася складацца са старшыні, двух віцэ-старшыняў і кіраўнікоў наступных аддзелаў: а) замежных справаў і эміграцыі, б) нутраных справаў і веравызнанняў, в) Краёвай абароны, г) прэсы і прапаганды, д) культуры і асветы, е) фінансаў, ж) грамадскай апекі і аховы здароўя, з) грамадскага кантролю. Усю бягучую дзейнасць вёў сакратарыят БЦР на чале з старшынём Рады Міністраў (ці кіраўніком Калегіі) Юрыем Сабалеўскім.

## ЦАРКОЎНАЕ СУПРАЦЬСТАЯННЕ

Пасля эвакуацыі з Беларусі ў 1944 г. кіраўніцтва Беларускай аўтакефальнай царквы адразу пачало перамовы з Расійскай зарубежнай праваслаўнай царквой. Гэта тлумачылася незавершанасцю акту аўтакефаліі; эміграцыйным станам, таксама зазначалася, што супольнымі высілкамі РЗПЦ, БПЦ і Украінскай аўтаномнай праваслаўнай царквы будзе прасцей апекавацца ўцекачамі.

Істотным быў і фінансавы складнік: РЗПЦ была багацейшая і магла забяспечыць святароў як грашова, гэтак і людскімі рэсурсамі. У Нямеччыне і

---

[560] Рэзалюцыі 12-га Пленуму БЦР…

[561] Тамсама.

ЗША можна было адкрыць некалькі дзясяткаў, калі не сотні праваслаўных прыходаў (у тым ліку і для новых эмігрантаў) і забяспечыць іх настаяцелямі. Перамовы паміж сінодам БАПЦ і РЗПЦ актывізаваліся ўзімку 1945–1946 гг. Чуткі пра гэта дайшлі да беларускага актыву. Каб супрацьстаяць сыходу епіскапату ў РЗПЦ, быў створаны царкоўны камітэт на чале з айцом Мікалаем Лапіцкім — настаяцелем праваслаўнага прыходу ў Рэгенсбурзе.

5 траўня 1946 г. ініцыятыўная група (Наталля Арсеннева, Аляксандр Асіпчык, Юрка Віцьбіч, Іван Касяк, Хведар Шыбут) склікала ў Рэгенсбурзе З’езд беларускіх праваслаўных вернікаў, у якім узялі ўдзел 136 дэлегатаў з трох акупацыйных зонаў Нямеччыны і Аўстрыі[562]. Старшынём з’езду, на які прыехалі епіскапы Філафей і Апанас, абралі Мікалая Шчорса.

Дэлегаты, упрошваючы епіскапаў не далучацца да РЗПЦ, не ведалі, што ў лютым 1946 г. епіскапат Расійскай зарубежнай царквы ўжо пераход ухваліў, а 7 траўня 1946 г. на саборы епіскапаў у Мюнхене пад старшынёўствам мітрапаліта Анастасія Грыбаноўскага далучэнне меліся зацвердзіць юрыдычна. З траўня 1946 г. Сінод БАПЦ быў зліквідаваны, а замест яго паўстала Беларуская мітраполія ў складзе РЗПЦ. Беларускія іерархі атрымалі высокія пасады: архіепіскап Філафей быў прызначаны вікарыем (кіраўнічым) у Вісбадэне (Wiesbaden, амерыканская зона), епіскап Апанас — у Гамбурзе (брытанская зона), епіскап Грыгоры (Барышкевіч) — у Бамбэргу (Bamberg), епіскап Сцяпан (Сеўба) — у аўстрыйскім Зальцбурзе, архіепіскап Венядзікт быў уведзены ў склад Сіноду РЗПЦ[563].

Крок беларускага епіскапату шакаваў беларускую грамаду. Больш за тое, самі епіскапы спрычыніліся да разгортвання канфлікту, вырашыўшы ўзорна пакараць арганізатараў з’езду. Старшыні з’езду і кіраўніку новастворанага Беларускага праваслаўнага аб’яднання на эміграцыі а. Мікалаю Лапіцкаму

---

[562] Сярод удзельнікаў з’езду былі: Мікола Сільвановіч (Вярба), Мікола Шчаглоў-Куліковіч, Міхал Ігнатовіч, Леанід і Лідзія Стаднікавы, Масей Сяднёў, Уладзімір Тамашчык, тры браты Шчорсы: Мікалай, Ігар, Барыс — і іхны бацька Васіль, Уладзімір Сядура, Парфіры Трысмакоў, Міхась Белямук, браты Міхась і Уладзімір Сенькі, Аляксандр Асіпчык, Юрка Віцьбіч, Раіса Жукоўская (будучая жонка старшыні Рады БНР Вінцэнта Жук-Грышкевіча), Хведар Ілляшэвіч, Аляксандар Калодка, Васіль Стома, Уладзімір Пеляса, Кастусь Сіткоўскі, Уладзімір Русак, Аўген Кабяка, Мікола Грэбень, Хведар Шыбут, Васіль Кендыш, Іван Касяк ды інш. — тыя, хто праз два гады апынуўся ў розных палітычных групах беларускай эміграцыі: лагерах прыхільнікаў Рады БНР і БЦР (Гл.: Лапіцкі, Мікалай. У служэньні Богу й Беларусі / Укладанне Ю. Гарбінскага. Нью-Ёрк—Варшава, 2005. С. 589–590).

[563] Касяк, Іван. З гісторыі праваслаўнай царквы беларускага народу… С. 145.

было забаронена служыць, а Івана Касяка — ініцыятара і аўтара рэзалюцыі — пазбавілі на тры гады святога прычасця (досыць жорсткае пакаранне ў той час)[564].

Спачатку Беларускае праваслаўнае аб’яднанне заняло ў дачыненні епіскапаў вострую пазіцыю. 31 траўня 1946 г. сярод эмігрантаў распаўсюдзілі адозву да *«праваслаўных братоў беларусаў»*, у якой епіскапы называліся здраднікамі, а іхны пераход у РЗПЦ параўноўваўся са здрадаю праваслаўных іерархаў, якія перайшлі ва унію ў 1596 г.[565]

Але хутка градус пратэстаў моцна знізіўся. Гэта было звязана з пераводам пры канцы ліпеня 1946 г. беларускага лагеру з Рэгенсбургу ў Міхэльсдорф[566]. 4 ліпеня 1946 г. лагер у Рэгенсбурзе наведалі епіскап Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы на эміграцыі Сава (Саветаў) і епіскап Апанас. Прыезд іерархаў беларуская грамада ўспрыняла халодна, адмовіўшыся пускаць у царкву епіскапаў адслужыць літургію. Саву частка эміграцыі ўвогуле лічыла польскім агентам, які будзе *«навяртаць беларусаў у «польскасць»* — ён быў упаўнаважаны эміграцыйным урадам у Лондане апекавацца на эміграцыі праваслаўнымі вернікамі з былых «польскіх земляў». Сава паскардзіўся ў Польскі камітэт, які, у сваю чаргу, напісаў скаргу ў штаб амерыканскай дывізіі і *UNRRA*. Справе далі ход, і 26 ліпеня 1946 г. згодна з пастановаю начальніка акругі *UNRRA* беларускі лагер перавялі пад чэшскую мяжу ў вёску Міхэльсдорф каля гораду Кам (Cham). Умовы там былі няважныя, што моцна кантраставала з побытам у Рэгенсбурзе[567]. Як небяспека ўспрымалася і блізкасць чэшскай (г. зн. фактычна савецкай) мяжы. Таму, магчыма, большая частка эмігрантаў палічыла за лепшае больш не ўмешвацца ў супрацьстаянне, каб не займець яшчэ праблемаў[568].

---

[564] Касяк, Іван. З гісторыі праваслаўнай царквы беларускага народу… С. 144.

[565] Тамсама.

[566] [Вініцкі, Алесь?] Падзел беларускай эміграцыі // Вініцкі, Алесь. Матар’ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне. Ч. ІІ. Рэлігійныя справы. Лос-Анджэлес, 1968. С. 39.

[567] Максімюк, Ян. Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне… С. 74.

[568] Наталля Арсеннева ў сваіх успамінах, малюючы жыццё ў Міхэльсдорфе, адзначала, што сумны быт справакаваў і сумныя адносіны паміж людзьмі: *«Міхельсдорф улетку выглядаў нішто сабе. Сенажаці, рака, лясы — усё цешыла вока. Але ўзімку, а асабліва ўвосень, тут было да роспачы шэра й нудна. Ці ж дзіва, што й людзі зрабіліся шэрыя, нудныя, і благія, спадлелі, за лішнюю банку кансэрваў ці фунт мукі адракаліся і свайго сумленьня і свае людзкое годнасьці? Разумееца, дарма, што ўвесь гэты бруд навокал, дарма, што людзі, якія былі на Бацькаўшчыне*

З іншага боку, з пераходам епіскапаў у РЗПЦ вонкава нічога не змянілася. Службы ў цэрквах адбываліся, святары па-ранейшаму звярталіся да вернікаў па-беларуску, вучылі дзяцей Закону Божаму, апекаваліся беларускаю грамадой, бралі ўдзел у беларускіх нацыянальных святах, у прыватнасці, 25 Сакавіка, выступалі з прамовамі па-беларуску[569]. Ісці насуперак іерархам шараговаму верніку здавалася недапушчальным.

---

*адно беларусамі, падзяліліся тут, сталіся сьмяротнымі ворагамі, дарма, што ўсякія інтрыгі й перашкоды — культурная праца ішла і далей»* (Арсеньнева, Натальля. Аўтабіяграфічны нарыс // Юрэвіч, Лявон. Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі. Нью-Ёрк, 1999. С. 257).

Вітаўт Кіпель у каментарах да кнігі ўспамінаў Дз. Сямёнава згадваў: *«Міхельсдорф — былыя баракі каля вёскі Michelsdorf, зробленыя для лётчыкаў. Тут жа за баракамі былі зробленыя ангары, утрамбаваныя некалькі дарожак і адна-дзве асфальтаваныя для нямецкае лярнічае «адзінкі» — знішчальнікаў, якія лёталі на фронт, усходні і заходні. Гэтае лётнішча паўстала ў вайну. Тады там было каля 20–30 знішчальнікаў мэсэршмітаў. Калі наступіла капітуляцыя, амаль усе самалёты былі пазнішчаныя, ангары разбураныя, а лётчыкі забраныя ў палон. Селішча было пустое — дзясятак баракаў, адзін з іх уборная, другі — душ-умывалка. Гэта UNRRA забрала пад сваю апеку. Як толькі мы прыехалі — адразу ж была добраўпарадкавана царква — спачатку а. М. Лапіцкі, а потым — а. Кайка»* (Сямёнаў, Дзмітрый. Дзённік 1943–1947… С. 279–280).

Зрэшты, Галіна Руднік у сваіх успамінах пра Міхэльсдорф выказвалася збольшага пазітыўна, у асноўным прыгадваючы навучанне ў гімназіі ды культурнае жыццё, зазначаючы, што, як і ў Мінску, увесь час хацелася есці. *«У лягеры Міхельсдорф апынулася шмат працаўнікоў мастацтва: кампазытары Шчаглоў-Куліковіч і Равенскі, опэрныя сьпявачкі Чамярысава й Вержбаловіч, артысты балету й драмы. Усе яны ахвотна ўлучыліся ў культурнае жыцьцё лягеру. Пад іхным кіраўніцтвам і мы, моладзь, вучні гімназіі, прымалі актыўны ўдзел у гэтым жыцьці. Яны пісалі вершы, жартоўныя скетчы, песьні на тэмы лягернага жыцьця. Танцоркі менскага тэатру развучвалі з намі народныя танцы. Нашы выступы мелі вялікі посьпех на частых лягерных канцэртах. Амаль уся моладзь у лягеры Міхельсдорфе належала да скаўцкай арганізацыі. Душой скаўтаў быў Вітаўт Кіпель…»* Аўтарка пісала, што ўмовы ў наступным лагеры, Віндышбэргердорфе, што па іншы бок гораду Кам, куды перавялі частку насельнікаў увосень 1948 г., былі значна горшыя: *«Усяго ў лягеры апынулася каля 500 асобаў. Гэта быў найгоршы лягер: баракі развальваліся й проста ўрасталі ў зямлю, таму што былі збудаваныя без фундамэнта. Пасьля дажджу наогул было лепш не выходзіць з баракаў — бруд па калена. Узімку засыпала сьнегам. Жыцьцё ў Віндышбэргэрдорфе было досыць манатоннае, хаця мы й далей адзначалі нацыянальныя сьвяты, ладзілі канцэрты самадзейнасьці. Але таго ўздыму, які быў у Міхельсдорфе, ужо не было…»* (Руднік, Галіна. Птушкі пералётныя… С. 78–79, 82–83).

[569] Архіепіскап Апанас (Антон Мартас). На ніве Хрыстовай… С. 108–109.

Беларускі епіскапат пазіцыянаваў сябе як незалежны ў РЗПЦ. Апроч таго, РЗПЦ займала бескампрамісную пазіцыю ў дачыненні СССР, бальшавізму і Маскоўскага патрыярхату ды гарантавала абарону ад савецкіх рэпатрыяцыйных камісіяў.

У адным з сваіх пасланняў епіскапы адкідалі абвінавачанні ў здрадзе беларускаму народу і зноў звярталі ўвагу на тое, што на Царкоўным саборы 1942 г. у Мінску толькі выказалі жаданне наконт аўтакефаліі, але яе не абвясцілі, бо, на думку іерархаў, аўтакефалія абвяшчаецца пасля прызнання іншымі цэрквамі, а таксама ў вольнай дзяржаве. Сваё з'яднанне з РЗПЦ (далучылася таксама Украінская аўтаномная праваслаўная царква без вернікаў) яны тлумачылі як малітоўным злучэннем, гэтак і неабходнасцю супольна лепш апекавацца справаю рускіх, украінскіх і беларускіх уцекачоў з-пад савецкай улады[570].

Іерархі заклікалі беларускі народ цвёрда трымацца праваслаўнай веры, аднак не быць у сваіх палітычных поглядах непахіснымі, а браць пад увагу наяўную сітуацыю: *«Памятайце, што вы не на роднай зямлі сваёй, а на чужыне, сярод чужых па крыві і веры людзей, якія не заўсёды вас зразумеюць і не заўсёды вам дапамогуць»*[571], а таксама засцерагалі ад уплыву уніі. Епіскапы рэзка крытыкавалі ідэю Крывіі, назваўшы гэту акцыю антыбеларускаю паводле свайго зместу:

> У надыходзячым 1948 годзе Рым зьбіраецца ўрачыста адсьвяткаваць 350-я ўгодкі Берасьцейскай вуніі і робіць вялікую падрыхтоўку да гэтай урачыстасьці, заклікаючы праз сваіх агентаў, якіх нямала працуе сярод нашых беларусоў, і наш беларускі народ пайсьці па дарозе вуніі, абяцаючы вялікія выгады і малюючы ў самых прыгожых колерах тыя часы, калі на землях беларускіх вунія рабіла свае цёмныя справы.
>
> Хітрыя ворагі праваслаўя на Беларусі для посьпеху сваёй дзейнасьці праз сваіх агентаў імкнуцца пасеяць падзел паміж беларускім праваслаўным народам і выклікаць недавер да вышэйшага духоўнага кіраўніцтва — да Беларускага Епіскапату, высьвятляючы яго перад беларускай праваслаўнай эміграцыяй як здраднікаў беларускага народу й ворагаў беларускай дзяржаўнасьці і аўтакефальнасьці Беларускай Праваслаўнай Царквы. Мала гэтага, ворагі Сьвятога Праваслаўя імкнуцца ўбіць яшчэ й другі клін падзелу ў масу беларускага

[570] Касяк, Іван. З гісторыі праваслаўнай царквы беларускага народу… С. 153.
[571] Тамсама.

народу. Яны ўмаўляюць яму, што праўдзівае імя беларуса й Беларусі ёсць «Крывіч» і «Крывія». Сапраўды, быў час, калі ў дагістарычную эпоху нашага народу частка нашых продкаў звала сваё племя крывічамі, але гэта было яшчэ тады, калі нашыя продкі былі паганымі й Хрыстовай веры ня ведалі. У гэты далёкі час другая, большая частка нашых продкаў належала да іншых плямёнаў, якія звалі сябе радзімічамі, дрыгвічамі й люцічамі. Але калі ўсе гэтыя плямёны ў гістарычным працэсе зьліліся ў адно, прынялі Хрыстовую веру, яны зь бегам часу сталі называць сваю зямлю беларускай, а сябе — беларусамі. Чаму ж мы мусім вяртацца да тых часоў мінуўшчыны, калі беларускі народ быў яшчэ не аформлены? Можа быць патрыёты «Крывіі» захочуць яшчэ па прыкладу некаторых нямецкіх нацыстаў вярнуцца да першабытнага стану і ў рэлігійных дачыненьнях, г. зн. да паганства, у якім калісь жылі крывічы[572].

Таксама Беларускі епіскапат абрынуўся з жорсткаю крытыкаю на рэвалюцыйны шлях здабыцця аўтакефаліі УАПЦ, што на думку беларускіх іерархаў звяло ўкраінскую царкву да секты ў заходнім свеце. Сваё далучэнне да РЗПЦ іерархі тлумачылі геаграфічнай акалічнасцю:

Калі б апынуліся не на тэрыторыі Нямецкай епархіі, падпарадкаванай Расейскаму Праваслаўнаму Зарубежнаму Сыноду, а на тэрыторыі, напрыклад, Грэцкай ці іншай Праваслаўнай Царквы, то мы былі б змушаныя ўвайсьці ў такія самыя суадносіны з Грэцкай ці іншай Праваслаўнай Царквой, як цяпер з Расейскай Зарубежнай Царквой[573].

Частка эміграцыі па-ранейшаму спадзявалася знайсці кампраміс. Дэлегаты ад Беларускага дапамаговага камітэту ў амерыканскай зоне (Мікалай Шчорс і Юрый Стукаліч) спрабавалі дабіцца аўдыенцыі ў епіскапаў[574]. Потым Юрый Стукаліч, Аляксандр Орса і Хведар Шыбут як прадстаўнікі Беларускага нацыянальнага камітэту ў Рэгенсбурзе склалі мемарандум, у якім прасілі адмяніць забарону служыць Мікалаю Лапіцкаму ды акрэсліць сітуацыю з епіскапскай юрысдыкцыяй. Аднак мітрапаліт Панцеляймон

---

[572] Адозва беларускіх праваслаўных епіскапаў да Беларускай праваслаўнай эміграцыі // Летапіс беларускай эміграцыі. №36. Красавік—травень 1986. С. 68–72.

[573] Тамсама.

[574] Ліст Ю. Віцьбіча да А. Асіпчыка ад 27 траўня 1955 г. // Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі. №21. Кастрычнік 1984. С. 3–4.

адмовіўся прыняць дэлегацыю, а архіепіскап Венядзікт заявіў, што дзейнасць іерархаў — адзіна правільная[575]. Праз нейкі час забарону служыць з а. Лапіцкага знялі, святар жа, каб захаваць царкоўны прыход, адмовіўся ад супрацьстаяння.

Да канца 1946 г. на баку іерархаў БАПЦ / РЗПЦ апынуліся ўсе беларускія святары, за выняткам Сцяпана Войтанкі, Хведара Данілюка і Анатоля Кунцэвіча[576].

12 верасня 1946 г. у Рэгенсбурзе з ініцыятывы беларускіх епіскапаў прайшоў Другі з'езд праваслаўных беларусаў, у якім узялі ўдзел 50 дэлегатаў[577]. Архіепіскап Венядзікт распусціў управу Беларускага праваслаўнага аб'яднання, выбраную на папярэднім з'едзе, ды зыніцыяваў выбары ў новую, кіраўніком якой стаў архіепіскап Філафей. У склад управы ўвайшлі святары: Мікалай Лапіцкі, Іосіф Грынкевіч, Васілій Пястун, Іван Жарскі, Мікалай Смірноў, са свецкіх асобаў: Аляксандр Асіпчык і Хведар Шыбут[578]. Аляксандр Асіпчык і Хведар Шыбут падалі ад імя БПА зварот-пратэст мітрапаліту Панцеляймону, у якім чарговы раз заяўлялі пра непрыманне кроку епіскапаў БАПЦ[579].

---

575 Касяк, Іван. З гісторыі праваслаўнай царквы беларускага народу… С. 144. Юрка Віцьбіч у сваім лісце да Аляксандра Асіпчыка ад 27 траўня 1955 г. пісаў, што Хведар Шыбут потым вярнуўся, каб атрымаць блаславенне ад мітрапаліта Панцеляймона, прагутарыў з іерархам цягам 10 хвілінаў, пасля чаго перайшоў у стан зарубежнікаў.

576 Падзел беларускай эміграцыі // Вініцкі, Алесь. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне. Ч. II. Рэлігійныя справы… С. 45.

577 Другі зьезд праваслаўных беларусаў // Вініцкі, Алесь. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне. Ч. II. Рэлігійныя справы… С. 39.

578 Максімюк, Ян. Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне… С. 86.

579 У звароце было сказана:

*«Год практыкі ад самавольнага акту паказаў, што нашая Іерархія ў сваім бясчынным становішчы адыходзіць усё далей ад нашага народу, а чужыя ўплывы (расейскія) дэградуюць самастойную ідэю беларусаў.*

*Мы просім пачуць наш голас і перагледзець справу далучэньня да Расейскай Замежнай Царквы і даць тэрміновы адказ. У праціўным разе Воля Народу, як голас Бога, асудзіць Ваш крок (былой беларускай Іерархіі) як здраду супроць Яго свабоды і будзе далей шукаць дарогу да Праўды-Хрыста як сымбалю свайго ўкрыжаваньня і ўваскрашэньня бяз Вас, паддаўшыся пад юрысдыкцыю тых чыньнікаў праваслаўных, якія ня стануць на перашкодзе нашай свабоды царкоўнай і дзяржаўнай незалежнасьці»* (Да яго блажэнства Блажэньнейшага Мітрапаліта Панцялеймана ў Цірсгайме // Вініцкі, Алесь. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне. Ч. II. Рэлігійныя справы… С. 44).

Іерархі БАПЦ зноў даводзілі слушнасць свайго кроку і абвінавачвалі апанентаў у палітыканстве. Епіскап Апанас 27 траўня 1947 г. распаўсюдзіў ліст «Да Беларускага Дапамаговага Камітэту ў Ватэнштэце», у якім пратэставаў супраць таго, што Беларускі епіскапат абвінавачваюць у здрадзе беларускай справе, ды заяўляў, што ўсе закіды іерархам ідуць на шкоду праваслаўю і беларускаму народу[580].

Неўзабаве да ўнутрыцаркоўных чыннікаў дадаліся вонкавыя фактары, якія канчаткова пахавалі ідэю маналітнай Беларускай праваслаўнай царквы на Захадзе і, наадварот, прывялі да раздзімання канфлікту. І спрычыніліся да гэтага як Мікола Абрамчык, гэтак і Радаслаў Астроўскі.

Па-першае, паглыбленню супрацьстаяння паспрыяла наладжванне сувязяў прыхільнікаў Міколы Абрамчыка з Ватыканам, а таксама недальнабачная папулярызацыя ідэі уніі на старонках прэсы. У «Беларускіх навінах» з'явілася некалькі артыкулаў, прысвечаных значным дзеячам уніі (Язэпу Руцкаму, Язафату Кунцэвічу), а таксама вялікі артыкул пра 350-я ўгодкі Берасцейскай царкоўнай уніі. Для эмігрантаў, абсалютную большасць якіх складалі праваслаўныя выхадцы з Заходняй Беларусі, папулярызацыя ўніі была проста непрымальная.

Паспрыялі разгаранню канфлікту ўрачыстая сустрэча ў Рэгенсбурзе расійскага епіскапа Мікалая Аўтаномава, што добраахвотна перайшоў ва ўніяцтва, а таксама «Пасланне апостальскага візітатара і адміністратара грэка-каталіцкай царквы ў Нямеччыне» Мікалая Ваякоўскага да беларусаў, апублікаванае 29 чэрвеня 1946 г. У пасланні, скіраваным *«да ўсяго беларускага народу»*, Ваякоўскі заклікаў беларусаў гарнуцца да грэка-каталіцкай царквы ды ісці спавядацца менавіта да грэка-каталіцкіх душпастыраў. Апеляваў дзеяч і да Папы, адзначаючы, што адзіны паратунак для беларусаў — адзінства з Каталіцкім касцёлам[581].

Падліло алею ў агонь стварэнне беларускіх грэка-каталіцкіх місіяў у Францыі, Італіі, Нямеччыне, Брытаніі, дзе колькасць беларускіх грэка-каталікоў (уніятаў) вымяралася адзінкамі. Палітычныя праціўнікі ўмела распускалі чуткі пра наведванне Міколам Абрамчыкам і Барысам Рагулем

[580] Зварот епіскапа Апанаса да Беларускага дапамаговага камітэту ў Ватэнштэце ад 27 траўня 1947 г. // Летапіс жыцця беларускай эміграцыі. №35. Сакавік 1986. С. 58–59.

[581] Пасланне да беларусаў // Вініцкі, Алесь. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне. Лос-Анджэлес. Ч. ІІ. Рэлігійныя справы… С. 105–107.

Ватыкану і пра пераход ва унію, пра шчодрыя датацыі Рымскага Папы на беларускія справы *«ўзамен на вырачэнне ад праваслаўя»*[582].

Усе гэтыя фактары выкарыстоўвалі прыхільнікі Радаслава Астроўскага. У кастрычніку 1946 г. прэзідэнт БЦР наведаў лагер у Ватэнштэце, дзе заклікаў падтрымаць епіскапаў РЗПЦ і зняважліва назваў праціўнікаў іх пераходу *«гоп-кампаніяй»*. Астроўскі апеляваў да таго, што «крывічы» прапагандуюць ідэі уніі, працуючы на шкоду праваслаўю. Згадаў ён і лінгвістычны канфлікт, заявіўшы пра небяспеку страты беларускай ідэнтычнасці, каб дагадзіць ідэі «крывіцызму» пры супрацьпастаўленні яе «беларускасці». Аналагічная агітацыя разгарнулася ў іншых беларускіх лагерах і групах[583].

## АДНАЎЛЕННЕ БАПЦ

Ужо ў пачатку 1947 г. прыхільнікі Міколы Абрамчыка сталі шукаць шляхі аднаўлення БАПЦ. Напачатку яны звярнуліся па дапамогу да іерархаў Украінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Упаўнаважаны ад Беларускага цэнтральна-дапамаговага камітэту (БЦДК) Алесь Вініцкі наведаў 8 красавіка 1947 г. украінскага епіскапа Паладзія, які таксама жыў у Рэгенсбурзе як звычайны Ды-Пі, ды азнаёміў яго з сітуацыяй БАПЦ на эміграцыі. Аднак канкрэтных прапановаў зроблена не было[584]. Грамадскія дзеячы вялі перамовы з мітрапалітам Пінскім Аляксандрам (Іназемцавым) — адзіным іерархам, які не прызнаў далучэння да РЗПЦ, — каб той узначаліў Беларускую аўтакефальную царкву. Аднак мітрапаліт параіў актыву не спяшацца з аднаўлен-

---

[582] Касяк, Іван. З гісторыі праваслаўнай царквы беларускага народу… С. 144–146.

[583] [Вініцкі, Алесь?] Падзел беларускай эміграцыі… // Вініцкі, Алесь. Матар’ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне. Лос-Анджэлес. Ч. ІІ. Рэлігійныя справы… С. 46.

[584] *«8 красавіка 1947 г. я наведаў у Рэгенсбургу япіскапа Паладзія. Жыў ён у ўкраінскім лягеры на правах Ды-Пі. Прыняў ветліва. Як япіскап, рэпрэзэнтаваўся вельмі добра: сярэдняга росту, сівыя густыя валасы на галаве й барадзе, прыемны выраз твару, сымпатычны, рухлівы й вясёлы. У гутарцы зь ім выявілася, што ён добра ведаў у якой рэлігійнай сытуацыі апынуліся беларусы пасьля адыходу япіскапаў БАПЦ у Расейскую Зарубежную Царкву. Гутарка мела чыста інфармацыйны характар на тэму аўтакефаліі царквы. Ніякіх канкрэтных прапановаў япіскапу Паладзію не было зроблена, а гэта таму, што мною ўжо вяліся сакрэтныя гутаркі з мітрапалітам Пінскім Аляксандрам. Належаў ён да БАПЦ, але не далучыўся да Расейскай Зарубежнай Царквы»* ([Вініцкі, Алесь?] Падзел беларускай эміграцыі… С. 47).

нем, а спачатку падрыхтаваць як епіскапаў, гэтак і маладых святароў. Алесь Вініцкі вусна дамовіўся з кіраўніцтвам украінскай духоўнай семінарыі пра навучанне 20 беларускіх кандыдатаў. Аднак заўчасная смерць мітрапаліта Аляксандра (Іназемцава) 9 лютага 1948 г. у Мюнхене (ён зваліўся з лесвіцы, што нарадзіла розныя чуткі пра смерць) пахавала праект, які выглядаў юрыдычна беззаганным і мог стаць прымальным для ўсіх бакоў эміграцыі.

Тады беларускія дзеячы звярнуліся наўпрост да мітрапаліта аднаго з крылаў Украінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы Палікарпа (Сікорскага). Рэч у тым, што ў кастрычніку 1947 г. Украінская аўтакефальная праваслаўная царква раскалолася на дзве (была яшчэ і аўтаномная ў складзе РЗПЦ): ад УАПЦ была адлучаная частка епіскапаў на чале з Грыгорыем (Агійчуком), якая ўтварыла сваю аўтакефальную царкву[585]. Кіраўніцтва першаснай УАПЦ (на чале з Палікарпам) пагадзілася паспрыяць беларускай аўтакефаліі, дэлегаваўшы на дапамогу свайго епіскапа Сяргея (Ахатэнку). Ён жыў у французскай зоне акупацыі, апякуючыся там праваслаўнымі вернікамі з Усходу.

5 чэрвеня 1948 г. (на гэтую дату ў Беларускай царкве прыпадаў дзень св. Еўфрасінні Полацкай) у паўднёванямецкім гістарычным Констанцы (Konstanz, у французскай зоне акупацыі над Бодэнскім возерам, дзе ў 1415 г. прайшоў Царкоўны сабор) пад старшынёўствам епіскапа Сяргея адбыўся саборык праваслаўных беларусаў-вернікаў БАПЦ. Саборык афіцыйна быў скліканы з ініцыятывы новастворанага Беларускага часовага праваслаўнага рэлігійнага камітэту ў Нямеччыне (старшыня — протаіерэй Сцяпан Войтанка). У ім удзельнічалі мітрафорны протаіерэй Ананій Сагайдакіўскі, протаіерэі Барыс Маслоўскі, Якаў Мефодзіўскі, дыякан Уладзімір Піндзюра — усе яны былі ўкраінцы, беларускія праваслаўныя вернікі былі выключна грамадскімі асобамі.

Удзельнікі саборыку сцвердзілі вернасць традыцыям БАПЦ (ад абвяшчэння аўтакефаліі мітрапалітам Мелхіседэкам у 1922 г.), прызналі пастанову пра стварэнне Беларускай аўтакефальнай царквы, прынятую на Царкоўным саборы ў Мінску ў 1942 г. Таксама саборык заявіў кананічнасць (законнасць) існавання БАПЦ праз наданне царкоўнай незалежнасці тром епархіям: Віленскай, Гродзенскай і Пінскай. Дазвол на гэта даў мітрапаліт Варшаўскі Дзяніс у 1941 г. у выніку намаганняў беларускага актыву на чале з Міколам Шчорсам. Саборык вынес пастанову *«працягваць дзейнасьць БАПЦ на*

[585] Менавіта гэта частка УАПЦ (г. зн. УАПЦ-2) высвяціла ў епіскапы БАПЦ-2 у 1958 г. у Чыкага архімандрыта Уладзіміра Фінькоўскага (гэтага высвячэння не прызнала БАПЦ-1).

*эміграцыі пад часовым кіраўніцтвам япіскапа УАПЦ Сяргея (Ахатэнкі) да моманту зьяўленьня двух япіскапаў-беларусаў»*[586].

Такім чынам БАПЦ, вонкава захоўваючы незалежнасць, часова перайшла праз епіскапа Сяргея (Ахатэнку) у персанальную ўнію з УАПЦ. У юрысдыкцыю БАПЦ перайшлі святары Анатоль Кунцэвіч, Хведар Данілюк, Сцяпан Войтанка (ён узначаліў кіраўніцтва справамі БАПЦ), дыякан Уладзімір Зялінскі, высвячаны падчас саборыку ў святары свецкі актывіст Міхась Шчурко[587], а таксама ўкраінскі святар Аляксандр Казлоўскі-Майсеенка.

5 чэрвеня таксама падпісалі пагадненне паміж Радаю БНР і БАПЦ, згодна з якім справа высвячэння епіскапаў павінна была ўзгадняцца з кіраўніцтвам Рады БНР[588]. 12 красавіка 1949 г. урад БНР разаслаў інструкцыі ўсім сваім прадстаўнікам у ЗША, Брытаніі, Францыі, Канадзе, Аргентыне, Швецыі, Бельгіі і Аўстраліі з патрабаваннем прызнаць Беларускую аўтакефальную праваслаўную царкву пад кіраўніцтвам Сяргея (Ахатэнкі) за адзінапраўную[589].

Следам Рада БНР вырашыла высвяціць свайго беларускага епіскапа. Аднак праз тое, што адпаведных духоўных асобаў не было, пастанавілі выбраць кандыдата на епіскапа з трох свецкіх дзеячаў: кіраўніка Беларускага нацыянальнага камітэту, намесніка старшыні Сусветнага аб’яднання беларускай эміграцыі Уладзіміра Тамашчыка, журналіста Уладзіміра Бортніка ці грамадска-вайсковага дзеяча Міколу Дзямідава[590]. Усе яны былі сябрамі Рады

[586] Мінулай датай у пратакол саборыку былі ўнесеныя беларускія святары Сцяпан Войтанка і Аляксандр Казлоўскі. Гл.: Ліст епіскапа Сяргея да а. Сьцяпана Войтанкі ад 7 чэрвеня 1948 г. // Збор дакумантаў сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (на выгнаньні). Authorized by Metropolitan Andrew. Compiled by the Consistory of BAOChurch. [Б. м.], 1983. С. 11.

[587] Першыя трое выехалі ў Аўстралію, дзе спрычыніліся да разбудовы беларускага праваслаўнага жыцця, Хведар Данілюк і Сцяпан Войтанка — у ЗША, дзе стварылі прыходы БАПЦ у Нью-Брансўіку і Нью-Ёрку. Аляксандр Казлоўскі праз некалькі месяцаў пасля высвячэння перайшоў у юрысдыкцыі УАПЦ.

[588] Ліст Рады БНР да архіепіскапа Сяргея Ахатэнкі ад 5 кастрычніка 1967 г. // Збор дакумантаў сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы… С. 77.

[589] Ліст прэм’ер-міністра Ураду БНР А. Каха免оўскага да епіскапа Сяргея (Ахатэнкі) ад 12 красавіка 1949 г. // Збор дакумантаў сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы… С. 23. У тым жа лісце Аўген Каханоўскі раіў еп. Сяргею беспасярэдне «карэспандаваць у беларускіх царкоўных справах з усімі прадстаўніцтвамі Ураду БНР».

[590] Мікола Дзямідаў у кастрычніку 1948 г. выказаў жаданне прыняць манаскі пострыг і далей рукапакладацца ў манашаскі сан, Рада БНР ухваліла такую ініцыятыву. Аднак епіскап Сяргей своечасова звярнуў увагу на тое, што Дзямідаў мае жонку, і

БНР. На паседжанні прэзідыуму Рады БНР 14 сакавіка 1949 г. выбар быў спынены на кандыдатуры Уладзіміра Тамашчыка. Бортнік узяў самаадвод, а наконт Дзямідава высветлілі, што ён жанаты, таму епіскапам быць не можа[591].

У гэтым знакавым для далейшай гісторыі БАПЦ і Рады БНР паседжанні брала ўдзел усё кіраўніцтва БНР: прэзідэнт Мікола Абрамчык, першы намеснік старшыні Рады Баляслаў Грабінскі і другі намеснік старшыні Рады Аляксандр Стагановіч, сакратар Рады Станіслаў Станкевіч, чальцы прэзідыуму Мікалай Дзямідаў, Міхась Міцкевіч, Мікола Панькоў, Вацлаў Пануцэвіч, Пётра Манькоўскі, Уладзімір Тамашчык, Мікола Кунцэвіч, старшыня ўраду Аўген Каханоўскі, міністр вайсковых справаў Франц Кушаль, міністр унутраных справаў БНР Станіслаў Грынкевіч, міністр юстыцыі Леанід Галяк, дзяржаўны сакратар ураду БНР Гіпаліт Паланевіч[592].

23 красавіка 1949 г. Уладзімір Тамашчык прыняў манаскі пострыг пад імем Васіль, 25 красавіка епіскап Сяргей высвяціў яго на ієрадыякана, а 5 чэрвеня 1949 г. у Тубінгене, ва ўніверсітэцкай капліцы[593], дзе адбываліся набажэнствы БАПЦ, рукапаклаў у сан іераманаха[594].

Высвячаны Васіль (Уладзімір Тамашчык) не меў адпаведнае тэалагічнай адукацыі, бо толькі паступіў завочна ва ўкраінскую духоўную семінарыю, а скончыў яе з дыпломам магістра ў 1951 г. Апроч таго, за некалькі дзён да высвячэння, 10 лістапада 1949 г., епіскап Сяргей звярнуўся да епіскапа Дубененскага з просьбаю з разуменнем паставіцца да іспытаў Васіля (Тамашчыка), бо яго высвячэнне разглядалася як важны палітычны крок, і правал на іспыце меў бы непапраўныя наступствы:

> …Уладыка! Беларусы належна прыгатоўваюцца на 4-га сьнежня спаткаць гістарычную царкоўную падзею. Я са свайго боку прашу на

---

рэкамендаваў для пачатку яму развесціся. Справа затармазілася, і дзеяч спыніўся на «пасадзе» псаломшчыка.

[591] Пратакол №3 паседжаньня Прэзыдыюму Рады БНР дня 14 сакавіка 1949 г. у Остэргофэне (Нямеччына) // Збор дакумантаў сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы… С. 154.

[592] Тамсама.

[593] *«Дазвол на праваслаўныя службы ва ўніверсітэцкай капліцы атрымліваў я [Вітаўт Кіпель. — А. Г.], бо мы зарэгістраваліся ва ўніверсітэце як беларуская група (Вітаўт Кіпель, Зора Савёнак, Оля Харытончык, Галіна Ганчарэнка). Служыў а. Сцяпан Войтанка, арганізацыйна залагоджваў а. Міхаіл Шчурко»* (Інфармацыя ад В. Кіпеля. Ліпень 2012).

[594] Жыцціпис иераманаха Василия Тамашчыка // Збор дакумантаў сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы… С. 95.

экзамэн айца Васіля нарэшце зрабіце форму экзамэнаў. Тут, цяпер вельмі патрэбны епіскап. Бо калі Вы, або Ўладыка Генадзій, зрэжаце яго, то нам будзе нялоўка з гэткаю дапамогаю Беларусам. [...] А як гэтае дзела правaліце — скандал. Нам і Вам. А ворагі тады пасьмяюцца над намі...[595]

4 лістапада 1949 г. сабор епіскапаў УАПЦ у Дылінгене (Dillingen) задаволіў просьбу Сяргея (Ахатэнкі) аб поўным пераходзе ў БАПЦ — мітрапаліт Палікарп выдаў адпускную грамату. Кансісторыя БАПЦ прасіла Палікарпа прыняць пад сваю апеку намінальна Брэсцка-Пінскую епархію[596], а 4 лістапада 1949 г. БАПЦ атрымала поўную незалежнасць ад УАПЦ.

Урад БНР таксама рэкамендаваў Духоўнай кансісторыі БАПЦ узнагародзіць епіскапа Сяргея тытулам архіепіскапа — за праробленую ім вялікую працу для разбудовы царквы і з прычыны ягонага поўнага пераходу ў склад БАПЦ. Рэкамендавалася абраць яго кіраўніком Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, а архімандрыта Васіля (пасля хіратоніі) — намеснікам[597].

Хіратанізацыя Васіля прайшла 19 снежня 1949 г. у Розэнгайме, куды перавялі беларускія лагеры з Остэргофэну, Віндышбэргердорфу ды іншых, якія падтрымлівалі палітычную платформу Рады БНР[598]. Хіратанізацыя адбылася ў памяшканні праваслаўнай царквы, у якой служыў Васіль[599]. Урачыстую службу адправілі ўкраінскія епіскапы Сяргей, Платон і Вячаслаў з беларускімі святарамі Сцяпанам Войтанкам, Хведарам Данілюком, грузінскім святаром Дэмітрышвілі, украінскімі — Царыкам, Шэмецілам, Сцарбанам і некалькімі дыяканамі. Удзел ва ўрачыстай багаслужбе браў прадстаўнік беларускага каталіцкага духавенства ў Нямеччыне а. Уладзіслаў Салавей[600].

Высвячэнне, што адбывалася ў прысутнасці сябраў ураду БНР на чале са старшынём Аўгенам Каханоўскім, не абышлося без канфлікту. 18 сне-

---

595 Збор дакумантаў сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы… С. 20.

596 Пастанова сяброў Духоўнай Кансісторыі БАПЦ ад 10 лістапада 1949 г. // Збор дакумантаў сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы… С. 95.

597 Збор дакумантаў сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы… С. 184.

598 Іншая частка грамады была перавезеная ў лагер у Бакнангу.

599 Канчаткова БАПЦ адасобілася ад Украінскай царквы ў 1968 г., калі былі высвячаныя два епіскапы: Мікалай (Мацукевіч) і Андрэй (Крыт).

600 Хіратонія іераманаха Уладзімера // Вініцкі, Алесь. Матар’ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне. Ч. ІІ. Рэлігійныя справы… С. 82.

жня ўкраінскі епіскап Платон заявіў, што калі Васіля (Тамашчыка) будуць высвячаць на епіскапа Пінскага або Брэсцкага (а УАПЦ лічыла гэтыя землі сваёй кананічнай тэрыторыяй), то Платон адразу пакіне Розэнгайм і не будзе ўдзельнічаць ва ўрачыстасцях. Пасля кароткіх перамоваў пастанавілі, што іераманах Васіль будзе высвячаны пад тытулам епіскапа Віленскага[601]. Відаць, каталіцкая, аднак савецкая Літва паставілася б да такога тытула індыферэнтна, не выказаўшы ніякіх пратэстаў.

Аднаўленне БАПЦ з актыўнаю дапамогаю Рады БНР раззлавала прыхільнікаў Радаслава Астроўскага. Яшчэ да высвячэння Васіля яны рабілі захады, каб не дапусціць такога развіцця падзеяў. Прэзідэнт БЦР спецыяльна наведваў мітрапаліта Палікарпа, заклікаючы яго не дапускаць хіратоніі. 15 снежня 1949 г. выйшла Пастанова былога епіскапату БАПЦ у *«справе ўмяшання ўкраінскага епіскапату ва ўнутраныя справы Беларускай Праваслаўнай царквы на эміграцыі»*. Іерархі зазначалі, што яны, г. зн. Беларуская царква, цалкам суверэнная структура на Захадзе, цалкам самастойная ў сваіх рашэннях.

> а) Іерархія Беларускай Праваслаўнай Царквы на эміграцыі існуе і выконвае свае архіпастырскія абавязкі сярод беларускага народу на эміграцыі, кіруючыся ў сваіх унутраных царкоўных справах самастойна, як было на Беларусі;
>
> б) праз часовае далучэньне да Іерархіі Расейскай Праваслаўнай Царквы за граніцаю Беларуская Іерархія ня страціла тых правоў, якія яна мела на Беларусі;
>
> в) Беларуская Праваслаўная Іерархія не зраклася папярэдніх сваіх тытулаў і кафэдраў, якія яна мела на Беларусі;
>
> г) Беларуская Праваслаўная Іерархія апекавалася і апякуецца сваёю беларускай паствою на чужыне беспасярэдне і праз падпарадкаванае ёй духавенства[602].

Епіскапы выказалі УАПЦ пратэст супраць умяшання ў беларускія ўнутраныя царкоўныя справы, а таксама пагражалі паведаміць пра *«шкодныя чыны УАПЦ»* іншым праваслаўным цэрквам. Зварот падпісалі архіепіскап Венядзікт, архіепіскап Філафей, епіскап Апанас, а таксама святар Мікалай Лапіцкі[603].

---

[601] Хіратонія іераманаха Уладзімера… С. 82.

[602] Пастанова беларускага епіскапату // Вініцкі, Алесь. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне. Ч. II. Рэлігійныя справы… С. 93.

[603] Тамсама.

Аляксандр Русак ад імя Цэнтральнага прадстаўніцтва беларускай эміграцыі напісаў ліст мітрапаліту УАПЦ Палікарпу (копія ліста была пасланая міністру замежных справаў украінскага ўраду на эміграцыі) з просьбаю:

> 1. Пакінуць праваслаўна-нацыянальныя справы беларусаў самому Беларускаму Народу і не даваць умешвацца ў іх тым ці іншым дзейнікам, падлягаючым Вашаму Высокапрэасьвяшчэнству;
> 2. Не падтрымліваць сэктанцка-ўнійна-палонафільскай акцыі крывічоў, якія толькі дзеля паніжэньня праваслаўя і ўтварэньня шляху да ўніі распачалі авантуру ў Канстанцы з так званай «крывіцкай» аўтакефаліяй;
> 3. Адклікаць Уладыку Сяргея Ахатэнку ад ачольваньня так званай Аўтакефальнай Беларускай праваслаўнай царквы і не дазваляць іерархам УАПЦ умешвацца ў беларускія праваслаўна-нацыянальныя справы[604].

Аднак стаўленне БЦР да праблемы беларускіх іерархаў змянілася менш чым праз год, калі асноўны беларускі актыў перабраўся ў ЗША: патрэба ў дапамозе ад Беларускай мітраполіі РЗПЦ знікла, а БЦР стала прапагандаваць падтрыманне беларускіх прыходаў у падпарадкаванні канстанцінопальскаму (сусветнаму) патрыярхату. Тактычнае супрацоўніцтва з беларускімі іерархамі скончылася.

## СТАЎЛЕННЕ ДА «АКЦЫІ АСТРОЎСКАГА»

Ініцыятыва Радаслава Астроўскага аднавіць дзейнасць БЦР у 1948 г. па-рознаму ацэньвалася ў эміграцыйным асяроддзі. Ягоныя прыхільнікі ўхвалялі гэты акт, бо лічылі БЦР прадаўжальніцай ідэяў Рады БНР і Акту 25 сакавіка, пацверджаных Другім Усебеларускім кангрэсам. Асобаў, што аднавілі дзейнасць Рады БНР пры канцы 1947 г., яны называлі самазванцамі, не прымаючы тастаменту Васіля Захаркі[605].

Дзеячы, што належалі да кола Рады БНР, і шмат хто ў эміграцыйным грамадстве меркавалі, што Радаславу Астроўскаму не варта было аднаўляць БЦР, пакінуўшы яе гісторыі ў верасні 1945 г. У гэтым выпадку цікавымі

---

[604] Касяк, І. З гісторыі праваслаўнай царквы беларускага народу… С. 146.

[605] Цікава, што шмат пазней менавіта ў такі спосаб (своеасаблівага тастаменту) перад смерцю перадавалі свае паўнамоцтвы другі і трэці прэзідэнты БЦР: Нікандр Мядзейка — на карысць Міхася Зуя, а Міхась Зуй — на карысць Віталя Цярпіцкага. Але апошні адмовіўся стаць чацвертым прэзідэнтам БЦР.

падаюцца супрацьлеглыя погляды на сітуацыю 1948 г., выказаныя ў лістах Леаніда Галяка і Юрыя Сабалеўскага.

Першы быў вучнем Радаслава Астроўскага ў Віленскай беларускай гімназіі ў 1920-х гг., паплечнікам у першай палове 1940-х, сакратаром Другога Усебеларускага кангрэсу. Але ў 1947 г. ён падтрымаў аднаўленне Рады БНР, а пазней напісаў яе Канстытуцыю. Леанід Галяк адмоўна паставіўся да вяртання на палітычную арэну БЦР і катэгарычна адмовіўся ад мандату раднага ў красавіку 1948 г. (а потым адмовіўся яшчэ ў 1974 г.). У лісце да Юрыя Сабалеўскага ад 9 ліпеня 1948 г. ён акрэсліваў дзейнасць Радаслава Астроўскага ў гэтыя месяцы як шкодную і дэструктыўную, бо цяпер адзіным праўным прадстаўніком беларускага народу была Рада БНР на чале з Міколам Абрамчыкам. Ён таксама звяртаў увагу на тое, што аднаўленне Рады БНР падтрымала большасць грамадскага актыву. Прывядзем гэтую цытату цалкам, бо яна адлюстроўвае погляды часткі дзеячаў, што бралі актыўны ўдзел у грамадскім жыцці ў часы акупацыі, у тым ліку ў БЦР.

> Калі ходзіць агульна аб нашае становішча да Астроўскага, дык мы ў асноўным не займаемся ягонай папярэдняй дзейнасьцю, але перадусім як найбольш нэгатыўна ацэньваем сучасную дзейнасьць. Адносна ягонага спрыту, дык пэўнай дозы спрыту адмовіць яму нельга, але добра ацэньваючы магчымасьці здабыцьця невялікіх карысьцяў, Астроўскі не заўважае шкодаў з гэтым зьвязаных.
>
> Мы стаімо на становішчы, што ў цяперашні мамэнт *праўным прадстаўніком Беларускага Народу зьяўляецца Прэзыдэнт Беларускай Народнай Рэспублікі*. Гэта становішча не выклікае пэрсанальнай сымпатыі да спадара Прэзыдэнта, але вынікае з разважаньня ўсіх акалічнасьцяў гэтай справы. За яго прамаўляе праўная традыцыя, заангажаваньне ў палітычнае жыцьцё Заходняй Эўропы, а таксама і асабістая ідэёвасьць, хаця да гэтага шмат хто і не прывязвае значаньня, як да рэчы нематэрыяльнай. Ня меней важным фактарам зьяўляецца тое, што за гэтай канцэпцыяй выказалася пераважная большасьць беларускай інтэлігенцыі[606].

Іншы погляд на асобу Радаслава Астроўскага і справу аднаўлення БЦР выказаў ягоны доўгагадовы паплечнік, яшчэ ў час БСРГ, Юры Сабалеўскі, які ў лісце да Леаніда Галяка тлумачыў як сваё права падтрымліваць прэзідэнта

---

[606] Ліст Л. Галяка да Ю. Сабалеўскага ад 9 ліпеня 1948 г. // Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі. №15 (1). Кастрычнік 1984.

БЦР, гэтак і няпросты выбар аднаго з крылаў эміграцыі. Юры Сабалеўскі прызнаваў, што Радаслаў Астроўскі не ідэальная кандыдатура, але іншай фігуры на эміграцыі на той час, на ягоную думку, не было:

> Пагаджаюся поўнасьцю, што вопратка ў Астроўскага даволі папэцканая. Сядзеў каля многіх лінючых сьценаў і на плячох пазасталіся ад гэтых сьцен сьляды. Ніхто больш за мяне аб гэтых сьценах і аб лаўках ня ведае. Добра і Вам ведама, як мы рассталіся з Астроўскім[607]. Ніхто больш за мяне ў сваіх успамінах «З прошлага і перажытага» і сваіх «З галерэі партрэтаў» не прысьвяціў месца Астроўскаму. Здавалася, што я павінен быў бы сяньня Астроўскага заатакаваць, пайсьці за прыкладам Вашым. Гэтага не раблю і, мала таго, у цесным супрацоўніцтве з Астроўскім. А чаму? Скажу больш, бяру шчотку й чышчу зь ягонай ужо прыгорбленай фігуры мел з вопраткі. Пах нямілы, але мушу гэта рабіць…
>
> А сталася вось што. Надыходзяць вырашаючыя хвілі: трэба рашаць вельмі складаную палітычную задачу, вымаецца надзвычайны спрыт і ўмельства, патрабуецца на гэтую працу чалавек з акрэсьленымі дадзенымі, фаховец. І колькі я не ламаў галаву над гэтым пытаньнем, колькі не ўглядаўся ў нашу прэсу, у тым ліку й Вашу, я ня ўбачыў падказкі — хто, на кім затрымацца?
>
> Хто здольны разыграць гэты ход на палітычнай шахаўніцы? і я прыйшоў да выснаву, што гэта можа зрабіць сярод нас толькі Астроўскі. І гэта я ініцыятар: падтрымаць Астроўскага і заплюшчыць вочы на «содееное им».
>
> Зьмяню свой погляд, прылучуся да Вас, раскрою сваю «З галерэі партрэтаў», але гэта зраблю тады, калі Вы мне ўдаводніце, што з гэтым пытаньнем можам некалькі гадоў чакаць. Замкну пад цяжкі свой замок свае «Успаміны» й падпіраю аўтарытэт Астроўскага…[608]

Прызнавалі аўтарытэт Радаслава Астроўскага, зароблены ім у час нямецкай акупацыі, і ягоныя палітычныя апаненты. У траўні 1948 г. старшыня Згуртавання беларусаў у Вялікай Брытаніі Вінцэнт Жук-Грышкевіч, негатыўна характарызуючы асобу прэзідэнта БЦР, зазначаў, што той, няг-

---

607 Сабалеўскі мае на ўвазе адрачэнне ад раднага «першай» БЦР і пасады віцэ-прэзідэнта 28 лютага 1945 г. у Берліне, прычынаю былі непаразуменні з Радаславам Астроўскім.

608 Ліст Ю. Сабалеўскага да Л. Галяка ад 19 чэрвеня 1948 г. // Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі. №15 (1). Кастрычнік 1984.

ледзячы на ўсе мінусы, карыстаецца вялікаю папулярнасцю сярод моладзі ў адрозненне ад дзеяча Рады БНР Янкі Станкевіча, які нажыў сабе многа ворагаў дзякуючы прапанове замяніць этнонімы «Беларусь» і «беларускі» на «Крывія» і «крывіцкі»:

> …моладзь з часоў нямецкай акупацыі помніць яго з добрага боку: аўра прэзыдэнта для яе пакінула добрае ўражаньне. З другога боку, БНР і Абрамчык зьяўляюцца нечым незразумелым… З прыкрасьцю мушу сьцьвердзіць яшчэ, што вельмі шкодзяць справе крывіцкія тэндэнцыі і прапаганда «Крывіі». Гэта абурае і зьнеахвочвае людзей да падтрыманьня лініі БНР. Вось, упёрліся, далібог, як сабе на згубу.
>
> Столькі бяды нам прынесла крывіцкая акцыя, і людзі яе прапануючыя бачаць, а ўсё лезуць, як на ражон. Па-мойму, Янка [Станкевіч] нарабіў ня менш шкоды са сваёй Крывіяй, чым цяпер Рыжы [Астроўскі]) з БЦР[609].

Магчыма, сапраўды Радаславу Астроўскаму не варта было рэанімаваць БЦР увесну 1948 г., бо палітычны раскол прывёў да вонкавай раздробленасці і без таго нямоцнай эміграцыі. Раскол меў наступствы не толькі ўнутры беларускага асяродку, але і навонкі — прадстаўнікі афіцыйных уладаў у ЗША, Брытаніі з падазрэннем і недаверам ставіліся да двух палітычных цэнтраў эміграцыі, якія змагаліся за права рэпрэзентаваць беларускі народ на эміграцыі.

Ці мела эміграцыя шанец у канцы 1940-х застацца маналітнаю? Падзеі 1945–1947 гг. засведчылі, што палітычныя апаненты Абрамчыка: Іван Касяк, Мікола Шчорс, Юры Сабалеўскі, Юрка Віцьбіч — паступова выціскаліся з Беларускага цэнтральна-дапамаговага камітэту, а яшчэ раней — з БНЦ, арганізацыяў, якія напачатку задумваліся як кансалідоўныя. Таму праблема была не ў самім Радаславе Астроўскім, а ў ягоным атачэнні і паплечніках, якім у любым выпадку не знайшлося б месца ў Радзе БНР. Вакол прэзідэнта БЦР рана ці позна пачалося б фармавацца кола аднадумцаў. Нават калі б яны падтрымалі аднаўленне Рады БНР і ўвайшлі ў яе структуры, то цягам найбліжэйшых месяцаў іх выціснулі б адтуль, ці яны вырашылі б стварыць уласную арганізацыю, не пагадзіўшыся з палітыкаю кіраўніцтва. Таму сітуацыя 1948 г. была п*а*тавай для эміграцыі, і раскол быў непазбежны.

---

[609] Ліст В. Жук-Грышкевіча да С. Станкевіча ад 19 траўня 1948 г. Захоўваецца ў архіве Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лондане.

Для Міколы Абрамчыка пагадненне з Астроўскім было немагчымае, і барацьба за лідарства ў 1947–1948 гг., калі яшчэ нічога не было вырашана, мела прынцыповы характар[610]. У лісце да Вінцэнта Жук-Грышкевіча, старшыні Згуртавання беларусаў Вялікай Брытаніі, ён пісаў:

> Пішуць мне аб памылках, нятактах па адношаньні Астр[оўскага]. А той, пасьміхіваючыся сабе ў вус, адно й знае сыстэматычна і ўпорыста праводзіць дэструктыўную працу, дакаціўшыся да таго, што, сабраўшы навокал сябе самы чорны з гледзішча бел. нац. элемэнцік, зьбірае цяпер подпісы між беларусаў і маскалёў аб закрыцьці «Бацькаўшчыны» як газэты, выклікаючай закалот і абурэньне сярод беларускай эміграцыі. А тут лісты: З Астр. нетактоўна паступілі… трэба было да яго паехаць, дагаварыцца… можа-б ён гэтага і не рабіў… Астроўскі адыграў пазытыўную ролю на Бацькаўшчыне, як гэта яго падтрымлівае Вашая перадавіца «Б[еларусы] на чужыне». Дык якое ж ліха гэты тады Абрамчык так прымаецца свайго таго «прэзыдэнцкага» крэсла — як мае ў такім разе рацыю Астроўскі…
>
> Вось жа, даражэнькія, мая сытуацыя такая, што калі ня змусіць цяпер аддаць «тога прэзыдэнскага крэсла» Астр. (чаго я ніколі не зраблю) дык могуць быць пэўныя (усе тыя, што мяркуюць справу палагоджаньня з Астр. магчымай) — мець «гэта Прэзыд. крэсла» ў кожную ад мяне хвіліну. Гэта я зраблю зь вялікай прыемнасьцю, абы толькі знайшоўся чэсны чалавек ды згадзіўся гэта на сябе ўсё пераняць. Тое-ж, што я не спаткаўся і ня гутарыў з Астроўскім, ніколі ня каюся, а цяпер тым больш задаволены, бо пераканаўся ў 100%, што гэта агэнт, калі не бальшавікоў, дык прынамся белых маскалёў. […]
>
> Астроўскі сягоньня, падобна, мае шансы выйграць (у Нямеччыне) такую кумпанію сярод масаў. І калі яе выйграе, дык толькі дзякуючы жыткацеласьці тае нашае інтэлігенцыі, якая ўсё яшчэ шукае згоду з Астроўскім, а той кпіць і лупіць нам усім ускуру, даўно ўжо згаварыўшыся з розным чорным і варожым нам элемэнтам[611].

Такім чынам, увесну 1948 г. канчаткова аформіўся палітычны раскол у беларускай эміграцыі на паслядоўнікаў Рады БНР і БЦР. Кожная з гэтых інстытуцыяў прэтэндавала на тое, каб быць прадстаўніком беларускага народу і нацыянальным урадам (ці парламентам, як у выпадку з БЦР) на эміграцыі. Супрацьстаянне доўжылася больш за дзесяць гадоў, пасля чаго

[610] Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР 1947–1970… С. 21.
[611] Тамсама. С. 21–22.

БЦР паступова адышла ў цень, хоць і працягвала прэтэндаваць на ролю сімвалічнага беларускага прадстаўніцтва ў вольным свеце.

## ДЗЕЙНАСЦЬ БЦР У 1948–1950 ГГ.

У снежні 1948 г. сакратарыят БЦР, сябры якога жылі тады ў Міхэльсдорфе, выдаў мемарыял, у якім востра крытыкавалася дзейнасць БССР на міжнароднай арэне, а менавіта, у Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў. Сакратарыят звяртаў увагу, што сапраўдная беларуская дзяржава — гэта абвешчаная 25 сакавіка 1918 г. незалежная БНР, а БССР — не больш як фікцыя, якая не мае права выступаць на міжнароднай арэне як самастойны суб'ект. У мемарыяле падкрэслівалася, што ідэя незалежнасці БНР была пацверджаная Другім Усебеларускім кангрэсам у Мінску. Пра аднаўленне ў 1947–1948 гг. Рады і ўраду БНР не згадвалася.

> Беларускі народ ні ў якім выпадку ня можа пагадзіцца з *status quo nunc* на Беларусі, абапёртым на фізычнай перавазе акупанта й пагвалчаньні ўсіх элемэнтарных правоў народаў і асобы і стаячым у выразнай калізіі з пастановамі Атлянтыцкай хартыі, у імя каторых вялася Другая сусьветная вайна. Беручы вышэй сказанае пад увагу, калегія БЦР як выканаўчы орган БЦР — адзінага легітымнага і дэмакратычнага прадстаўніка сувэрэнных правоў Беларускага народу:
>
> 1) выражае востры пратэст супраць рэпрэзэнтацыі Беларусі на Асамблеі Аб'яднаных Народаў прадстаўнікамі дзяржаўнай фікцыі, званай БССР.
>
> 2) просіць Высокую Асамблею змусіць СССР вывесьці савецкія акупацыйныя войскі з тэрыторыі Беларусі, а Беларускаму народу даць магчымасьць на дэмакратычных асновах ды пад міжнародным кантролем выказаць на міжнародным плебісцыце сваю сапраўдную волю ў культурным, сацыяльным і дзяржаўным жыцьці[612].

За кароткі час БЦР знайшла нямала прыхільнікаў у новых краінах. 26 снежня 1948 г. у Лондане прайшоў Першы з'езд Хрысціянскага аб'яднання беларускіх работнікаў (ХАБР) — арганізацыі, створанай дзеячамі, што выйшлі са Згуртавання беларусаў Вялікай Брытаніі, незадаволеныя арыентацыяй на Раду БНР. Удзельнікі з'езду выслалі прывітальныя тэлеграмы Радаславу Астроўскаму, Юрыю Сабалеўскаму, а таксама Беларускаму цэнтральнаму

[612] Мэмарыял Сактарарыяту БЦР // Беларускае слова. №1. 17 снежня 1948.

прадстаўніцтву[613]. У 1949 г. стаў на платформу БЦР і Злучаны беларуска-амерыканскі дапамаговы камітэт у Амерыцы[614].

17 снежня 1948 г. у Міхэльсдорфе была заснаваная газета «Беларускае слова». Першы нумар выйшаў на чатырох старонках накладам 2000 асобнікаў. З прычынаў юрыдычнага характару газета спачатку была зарэгістраваная як дадатак да перыёдыку «Українські Вісти» і толькі пазней атрымала ліцэнзію на самастойнае выданне. На старонках «Беларускага слова» з'яўляліся праграмныя дакументы БЦР, навіны, вялася палеміка з палітычнымі апанентамі[615].

У 1950 г. Пленум і Калегія БЦР прынялі рэзалюцыю, у якой рэзка раскрытыкавалі пазіцыю былых іерархаў БАПЦ. У дакуменце адзначалася, што адзінае правільнае і справядлівае развязанне царкоўна-рэлігійнага пытання для Беларусі — поўная аўтакефалія Беларускай праваслаўнай царквы. Заяўлялася таксама, што БЦР ніколі не пагаджалася з пераходам іерархаў да РЗПЦ[616].

БЦР зазначала, што, *«улічваючы аграмаднае значэньне царкоўна-рэлігійнага пытаньня»*, падыход да гэтай справы быў асцярожны, а таму рабіліся ўсе захады для перагляду рашэння іерархаў. Сцвярджалася, што ні епіскапы, ні БАПЦ, адноўленая пры дапамозе Рады БНР, ні Маскоўскі патрыярхат, ні Польская праваслаўная царква на эміграцыі не могуць кіраваць беларускім праваслаўным жыццём. Таму да часу аднаўлення незалежнасці беларускімі праваслаўнымі прыходамі на эміграцыі павінна апекавацца царква, не зацікаўленая ў нацыянальнай асіміляцыі[617]. Такою структураю БЦР лічыла Сусветны (канстанцінопальскі) патрыярхат, пры якім з пачатку 1950-х пачалося стварэнне беларускай царкоўнай адзінкі.

23 лістапада 1950 г. на сходзе праваслаўнага беларускага актыву ў Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі) быў заснаваны прыход св. Еўфрасінні Полацкай (настаяцель — Мікалай Лапіцкі) у юрысдыкцыі амерыканскага экзарха сусветнага патрыярхату. У 1952 г. да яго далучыўся прыход св. Еўфрасінні

---

613 Першы зьезд Хрысціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў у Вялікай Брытаніі // Беларускае слова. №2. 13 студзеня 1949. С. 1.

614 Гардзіенка, А. Беларускі кангрэсавы камітэт Амэрыкі (БККА)… С. 60–67.

615 Газета выдавалася да 1950 г. у Міхэльсдорфе і Бакнангу, потым, у 1954 г., выданне перанеслі ў ЗША (выходзіла да ліпеня 1958 г.). У розны час яе рэдагавалі Юрка Віцьбіч, Юры Сабалеўскі, Яўхім Кіпель.

616 Касяк, І. З гісторыі праваслаўнай царквы беларускага народу… С. 157.

617 Асьветчаньне Прэзыдыюму Пленуму і Калегіі Беларускай Цэнтральнай Рады // Беларуская трыбуна. 25 снежня 1950.

Полацкай у Таронта, а ў 1958 г. — прыход св. Юрыя ў Чыкага. Гэтыя парафіі заснавалі Царкоўную раду БПЦ у Паўночнай Амерыцы (старшыня — Мікалай Лапіцкі), якая спрабавала цягам некалькіх дзесяцігоддзяў вырашыць пытанне з прызначэннем асобнага епіскапа для беларусаў. Шлях высвячэння свецкай асобы, як адбылося з епіскапам БАПЦ Васілём (свецкім дзеячам Уладзімірам Тамашчыкам) быў непрымальны. Таму Царкоўная Рада — і БЦР у гэтым актыўна дапамагала — спрабавала працягваць перамовы з былымі епіскапамі БАПЦ Філафеем і Апанасам, такія перамовы вяліся да сярэдзіны 1970-х. Найбольшую ролю ў спробах дамовіцца адыгралі а. Мікалай Лапіцкі, старшыня БККА Іван Касяк, а таксама Радаслаў Астроўскі. Але ўгаворы былі марныя, епіскапы так і не наважыліся адысці ад РЗПЦ, у тым ліку і з фінансавых меркаванняў. Таму пытанне прызначэння асобнага епіскапа для беларусаў у структуры БПЦ у юрысдыкцыі канстанцінопальскага патрыярхату застаецца актуальнае і да сёння.

У 1950 г. быў прыняты дакумент адносна тэрытарыяльных спрэчак з суседзямі. Радаслаў Астроўскі ў артыкуле «Гранічныя спрэчкі беларусаў з іх суседзямі ды спосаб іх вырашэння», надрукаваным у часопісе «Аб'еднаньне» (№6. 1950) пад псеўданімам А. Калюш, прапанаваў цікавы варыянт развязання беларуска-літоўскага канфлікту наконт Вільні. Ён выказаў ідэю падзяліць сталіцу на два сектары: адпаведна, беларускі (сімвалічны) і літоўскі, патлумачыўшы гэта тым, што *«Вільня як гандлёва-прамысловы асяродак павінен у аднолькавай меры служыць абодвум народам, расьселеным у яго ваколіцы»*[618]. Мяжою паміж беларускай і літоўскай часткамі гораду Радаслаў Астроўскі прапаноўваў зрабіць чыгунку Беласток—Даўгаўпілс:

> Спрэчны тэрытарыяльны адрэзак, як ведама, паложаны паабапал чыгункі Беласток—Даўгаўпілс (Дзьвінск) паміж станцыямі Араны *[сёння горадВарэна (Varėna). — А. Г.]* і Турмонты *[Турмантас (Turmantas). — А. Г.]*. Самае справядлівае рашэньне, паводле мяне, было бы правесьці граніцу паміж Літвою і Беларусьсю якраз па гэтай чыгунцы, з тым разьлікам, каб усе землі, паложаныя на ўсход ад чыгункі, належалі да Беларусі, а на захад — да Літвы. Акром таго, сама чыгунка павінна была бы быць таксама папалам (яна між іншым дзьвюхпалотная). Адным палатном карысталася б Літва, а другім —

[618] Калюш, А. Гранічныя спрэчкі беларусаў з іх суседзямі ды спосаб іх вырашэньня // Аб'еднаньне. №6 (27). Чэрвень 1950.

> Беларусь. Усе станцыі, паложаныя на захад, належалі б да Літвы, а на ўсход — да Беларусі.
>
> Такім чынам як насельніцтва Літвы, так і Беларусі зусім не ўцярпела б эканамічна, а адначасна было б разьвязана і пытаньне б Віленскае. Уся Вільня, паводле гэтага праекту, засталася б на баку Літвы разам з галоўным вакзалам і чатырма чыгуначнымі палотнамі. Для Беларусі зь Вільні застаўся б толькі прыгарад Новы сьвет зь Ліпоўкай, ды ўсходняя (апошняя плятформа з двума чыгуначнымі палотнамі й выхадам з гэтага маленькага вакзалу на былую Тарговую вуліцу).
>
> Ясна, што больш справядліва было б падзяліць Вільню ад вакзала далей па рацэ Віленцы, а пасьля па Вільлі да Немянчына, што дало б беларусам прыгарады Антокаль *[сёння прадмесце Вільні Антакальніс (Antakalnis). — А. Г.]* ды Зарэчча *[сёння раён Вільні Ужупіс (Užupis). — А. Г.]*, але такі падзел парушыў бы сам прынцып разьмежаваньня ўздоўж чыгункі, і таму беларусы, да ўмацаваньня добрасуседзкіх суадносінаў, павінны былі б задаволіцца гэтым чыста сымбалічным валоданьнем Вільні.
>
> Такі, аднак, сымбалізм ня быў бы пазбаўлены і практычнага значэньня, бо гэты невялікі кусочак Вільні служыў бы надалей базаю гандлёва-прамысловага цэнтру на беларускім боку і абслугоўваў бы з посьпехам мясцовае жыхарства[619].

Аднак гэтая прапанова Радаслава Астроўскага, як і іншыя — у тым жа артыкуле ён прапаноўваў таксама развязанне тэрытарыяльных спрэчак з украінцамі, палякамі і рускімі, — так і засталася на паперы. Рада БНР, хоць і пры супраціве ўнутранай апазіцыі, правяла ў 1951 г. пастанову аб прызнанні літоўскіх правоў на Вільню, што выклікала крызіс у Радзе і сыход шэрагу дзеячаў. Пазней пастанова была ануляваная[620].

Іншая адозва Радаслава Астроўскага выклікала куды большую дыскусію і справядлівую крытыку. У чэрвені 1950 г. распачалася вайна паміж Паўночнай і Паўднёвай Карэяй. КНДР актыўна падтрымлівалі СССР і Кітай, за Рэспубліку Карэя заступіліся краіны Захаду на чале з ЗША, а таксама ААН. Падзеі ў Карэі спарадзілі ў эмігрантаў нямала надзеяў на тое, што халодная вайна перарасце ў «гарачую», і сусветная супольнасць зладзіць крыжовы

---

619 Калюш, А. Гранічныя спрэчкі беларусаў зь іх суседзямі ды спосаб іх вырашэньня // Аб’еднаньне. №6 (27). Чэрвень 1950.

620 Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР: 1947–1970. Мінск, 2013. С. 46–48.

паход супраць камунізму і СССР. У гэтым кантэксце Радаслаў Астроўскі выдаў адозву «Да ўсяе беларускае эміграцыі», у якой заклікаў былых жаўнераў і камандзіраў Беларускай краёвай абароны запісвацца добраахвотнікамі на карэйскі фронт, адкуль і павінна было пачацца вызваленне радзімы ад бальшавізму. Зварот быў апублікаваны ў першым нумары газеты «Беларуская трыбуна» (27 жніўня 1950 г.) і стаў адным з цэнтральных матэрыялаў[621]. Адзін з аддзелаў, дзе павінна была весціся рэгістрацыя добраахвотнікаў, быў створаны ў Брытаніі. У Францыі прапагандаваў ідэі запісу на карэйскі фронт прадстаўнік БЦР Нікандр Мядзейка[622]. Аднак ініцыятыва Радаслава Астроўскага знайшла мізэрнае кола прыхільнікаў сярод ягоных паплечнікаў, большасць нацыянальна актыўнай грамады паставілася да яе або індыферэнтна, або адмоўна.

Такім чынам, цэнтральныя падзеі гісторыі БЦР ад капітуляцыі Нямеччыны да канца 1940-х гг. былі звязаныя з аднаўленнем яе дзейнасці ў новых, ужо мірных умовах ды афармленнем палітычнага расколу эміграцыі. Пры гэтым падзел Рада БНР / БЦР не быў светапоглядным. І прыхільнікі Радаслава Астроўскага, і прыхільнікі Міколы Абрамчыка былі патрыётамі-дзяржаўнікамі, вызнавалі ідэалы 25 Сакавіка і лічылі галоўнаю мэтаю змагання — стварэнне незалежнай беларускай дзяржавы з усімі яе дэмакратычнымі атрыбутамі. Аднак кожная з плыняў імкнулася даказаць свае выключныя правы на рэпрэзентацыю беларускага народу на эміграцыі, а таксама права супрацоўніцтва з замежнымі чыноўнікамі і спонсарскімі арганізацыямі.

Карані расколу палягалі хутчэй у рэчышчы міжасабовых дачыненняў і персанальных амбіцыяў лідараў, чым у ідэалагічных супярэчнасцях іх праграмаў[623].

---

[621] Да ўсяе беларускае эміграцыі // Беларуская трыбуна (Нью-Ёрк). 27 жніўня 1950 г. №1.

[622] Ліст Н. Мядзейкі да А. Русака ад 31 кастрычніка 1952 г. Захоўваецца ў архіве БЦР [перададзены А. Русаком] у царкве св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі, ЗША). Тэчка «Дэлегатура БЦР у Нямеччыне». (Да тэчкі падшытыя таксама дакументы, што адносяцца да справаў Дэлегатуры БЦР у Францыі.)

[623] Вітаўт Кіпель у сваіх успамінах выказаў погляд на палітычны падзел на беларускай эміграцыі: *«У 1945 годзе паўстала магчымасьць наладзіць кантакт і супрацоўніцтва, але над гэтым трэба было працаваць. Сытуацыя была няпростая: была магчымасьць зачыніць старонку дзейнасьці БЦР, бачачы ў ёй нацыянальную дзейнасьць, хоць і часовую, і ўлучаючы яе ў рэчышча нацыянальнага руху пад гаслам БНР — руху краевугольнага ў новай беларускай гісторыі. Магчымасьць асягнуць гэта была толькі праз даўгую дыпляматычную працу й удумлівыя перамовы. Але*

Для людзей, заангажаваных у грамадскае жыццё, раскол не меў зусім непераадольнага характару: хоць яны фармальна і прызнавалі найвышэйшым палітычным прадстаўніком адну з дзвюх інстытуцыяў, але ставілі за галоўную мэту лакальную рэпрэзентацыю ды забеспячэнне беларускіх інтарэсаў праз мясцовыя грамадскія арганізацыі, а пры неабходнасці наладжвалі супрацоўніцтва з палітычнымі апанентамі ў розных сферах. Асабліва гэта датычыла маладзейшага пакалення, якое больш ліберальна глядзела на палітычны раскол, не засяроджваючыся на сутнасці і толькі аўтаматычна прымаючы пазіцыю аднаго ці другога лагеру. У якасці прыкладу можна прывесці юнакоў, што аб'ядналася ў пачатку 1960-х у ЗША пры выданні часопісу «Беларуская моладзь». У склад рэдакцыі ўваходзілі як прыхільнікі БНР, гэтак і БЦР. Ладзіліся таксама супольныя спартовыя сустрэчы, рыхтаваліся агульныя выступы на палітычнай арэне, сведчанні ў амерыканскім Кангрэсе. Аднак пры канцы 1940-х гэта ўсё было яшчэ наперадзе. Супрацьстаянне двух палітычных цэнтраў беларускай эміграцыі толькі пачыналася і было даволі зацятае.

---

*Абрамчык падумаў, што хопіць ягонага аўтарытэту як дасьведчанага замежніка, дыплямата, знаўцы Заходняй Эўропы, і справа прызнаньня яго як беларускага эўрапейскага лідэра будзе вырашана — грамадзтва прызнае яго як лідэра беларускай палітычнай эміграцыі. Аднак рэальнасьць сталася іншай — адзіным аўтарытэтам, бесканкурэнцыйным лідэрам Абрамчык ня стаўся.*

*На мой пагляд, самаўпэўненасьць абодвух дзеячоў прычынілася да падзелу грамадзтва. На гэтую тэму ў мяне была нагода гутарыць і з Астроўскім — які ці раз маўляў аб гэтым у Лювэне, і ў Нью-Ёрку — з Абрамчыкам. Як ні дзіўна, кожны зь іх уважаў, што мае найбольш рацыі, а апазыцыйная ім частка грамадзтва была «дывэрсійным зборышчам». Астроўскі быў перакананы, што ў выпадку, калі будзе патрэбнае яднаньне, ягоны, Астроўскага, грамадзкі стаж пераканае ўсё беларускае грамадзтва ў патрэбе ягонага лідэрства, а Абрамчык уважаў, што ягоная заходнясьць, эўрапейскасьць, далёкасьць ад немцаў — тыя фактары, што давалі падставы для ачоленьня беларускага палітычнага руху, а эвэнтуальна — і кіраўніцтва дзяржавай. Як мне здаецца, такая самаўпэўненасьць ня мела поўнай падставы, і рэакцыя на гэта — раскол грамадзтва — гэта пацьвердзіла»* (Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць: успаміны… С. 353).

# БЕЛАРУСКАЯ ЦЭНТРАЛЬНАЯ РАДА Ў 1950–1960-Х ГГ.

## ДЗЕЙНАСЦЬ У ЗША

Выезд беларускіх Ды-Пі з Нямеччыны і Аўстрыі пачаўся ў 1948 г. і працягваўся да канца 1951 г. Найбольшую колькасць прынялі ЗША, сюды ў 1948–1951 гг. перасяліліся 380 тысяч чалавек з Еўропы (таксама палякі, балты, украінцы). Другою краінай паводле колькасці прынятых эмігрантаў стала Аўстралія (182 тысячы чалавек), трэцяю — Канада (125 тысячаў чалавек). Вялікая Брытанія прыняла 80 тысячаў Ды-Пі[624]. Сюды ж былі эвакуяваныя пасля выезду з Італіі салдаты Арміі Андэрса (у тым ліку некалькі тысяч беларусаў). Эмігранты выязджалі таксама ў Францыю, Бразілію, Аргентыну, Венесуэлу, Новую Зеландыю, Данію, іншыя краіны.

Вызначыць дакладную колькасць нашых суайчыннікаў, што рассяліліся па іншых краінах, немагчыма. Большасць праз пагрозу прымусовай рэпатрыяцыі ў СССР, а таксама слабую нацыянальную свядомасць імкнулася схаваць сваю нацыянальнасць, таму рэгістравалася і выязджала пераважна як польскія грамадзяне. Ёсць толькі асобныя статыстычныя звесткі. Напрыклад, з пачатку 1948 г. да чэрвеня 1949 г. з лагеру ў Міхэльсдорфе выехалі 216 чалавек: з іх у ЗША — 92, Аўстралію — 45, Бельгію — 34, Бразілію — 17, Канаду — 15, Венесуэлу — 5, Францыю — 3, Нарвегію — 2[625]. 11 чалавек (прадстаўнікі будучай «Дванаццаткі») выехалі на часовыя працы ў Вялікую Брытанію.

Беларускі нацыянальны камітэт ацэньваў колькасць беларускіх Ды-Пі ў Нямеччыне на 75 тысячаў чалавек, таму можна казаць, што амаль усе яны выехалі ў іншыя краіны, у Нямеччыне засталіся каля 2 тысяч беларусаў (паводле звестак грамадскіх дзеячаў).

---

[624] Гардзіенка, А. Беларускі кангрэсавы камітэт Амэрыкі (БККА)… С. 40–41.
[625] Хроніка // Беларускае слова. 18 чэрвеня 1949.

Большая частка эмігрантаў з Беларусі выехала ў ЗША, туды ж скіраваўся і актыў Беларускай Цэнтральнай Рады. У канцы 1949 г. у Амерыку перабраліся больш за дзясятак сяброў БЦР: Эмануіл Ясюк, Юрка Стукаліч (Віцьбіч), Іван Касяк, Мікалай Сцяпанаў, Пётра Орса, Часлаў Найдзюк, Святаслаў Коўш, Анатоль Плескачэўскі, Хведар (Тодар) Шыбут. Самымі першымі прыехалі Іван Ермачэнка, які яшчэ на пачатку 1948 г. быў прызнаны прадстаўніком БЦР у ЗША, і Барыс Кіт, што шмат спрычыніўся да стварэння беларускай калоніі ў мястэчку Саўт-Рывэр.

Пры канцы 1949 г. у Саўт-Рывэры адбыўся «першы агляд сілаў». 20 лістапада 1949 г. тут прайшло паседжанне, у якім узяў удзел дзясятак сяброў БЦР, што пераехалі ўжо ў ЗША. Старшыняваў Эмануіл Ясюк, намеснікам быў Юрка Віцьбіч, сакратаром — Іван Касяк. На сходзе пастанавілі стварыць прадстаўніцтва БЦР у ЗША (паўстала ў студзені 1950 г., узначаліў Эмануіл Ясюк)[626].

Цягам наступных некалькіх месяцаў беларуская калонія ў ЗША значна папоўнілася. З новых эмігрантаў узніклі асяродкі ў Нью-Ёрку, Кліўлэндзе, Чыкага, Дэтройце. Аднак адным з самых «беларускіх» стаў Нью-Джэрзі — штат, які быў побач з Нью-Ёркам, усходняю брамаю ЗША. Тут не было вялікіх гарадоў, таму новыя эмігранты сяліліся кампактна ў розных мястэчках штату. На поўначы: у Пасэіку (Passaic, тут была значная калонія беларусаў з пачатку XX ст.), Ірвінгтане (Irvington), Гарфілдзе (Garfield), Ўолінгтане (Wallington); у сярэдняй частцы: у Нью-Брансўіку (New Brunswick), Іст-Брансўіку (East Brunswick), Гайлэнд-Парку (Highland Park), Баўнд-Бруку (Bound Brook). Некалькі дзясяткаў беларускіх сем'яў пасялілася ў мястэчку Саўт-Рывэр, дзе з канца XIX ст. жыла вялікая калонія выхадцаў з Беларусі і была нават заснаваная праваслаўная царква ў юрысдыкцыі РЗПЦ.

На 1 кастрычніка 1952 г. у Злучаных Штатах з 41 чальца БЦР ужо жылі 24: Пётра Орса, Яўхім Кіпель, Іван Касяк, Мікалай Лапіцкі, Часлаў Найдзюк, Юры Сабалеўскі, Мікалай Шчорс, Хведар Шыбут, Эмануіл Ясюк, Мікалай Сцяпанаў, Аляксандр Русак, Уладзімір Лазарэвіч, Святаслаў Коўш, Аляксандр Буглай, Аляксей Сянькевіч, Раіса Евец, Анатоль Плескачэўскі, Аляксей Шудзейка, Барыс Кіт, Віктар Чабатарэвіч, Язэп Лешчанка (Міхась Кавыль), Майк Філіповіч, Міхаіл Завістовіч, Масей Сяднёў[627].

---

[626] Ліст аб паседжанні актыву БЦР у Саўт-Рывэры ад 20 лістапада 1949 г. Копія захоўваецца ў архіве аўтара.

[627] Па шэсць сяброў БЦР жылі ў Нямеччыне: Радаслаў Астроўскі (перабраўся ў ЗША ў 1962 г. з Вялікай Брытаніі), Надзея Абрамава, Іван Жарскі, Міхаіл Маеўскі,

З сябраў БЦР у Нью-Ёрку спачатку жылі: Мікола Шчорс, Іван Касяк, Юры Сабалеўскі, Віктар Чабатарэвіч. У Пасэіку, Гарфілдзе, Ўолінгтане, Ірвінгтане — Аляксандр Русак, Мікалай Лапіцкі, Анатоль Плескачэўскі, Эмануіл Ясюк, Аляксей Шудзейка ды інш. Значная частка актыву БЦР таксама асела ў Саўт-Рывэры ды яго ваколіцах: Пётра Орса, Святаслаў Коўш, Аляксей Сянькевіч, Язэп Лешчанка (Міхась Кавыль), Масей Сяднёў.

Саўт-Рывэр паступова стаў, поруч з Нью-Ёркам, адным з цэнтраў беларускай прысутнасці на амерыканскім кантыненце. У мястэчку паўсталі некалькі арганізацыяў, праводзіліся нарады прыхільных да БЦР аб’яднанняў, адбываліся пленумы БЦР і з’езды беларусаў ЗША і Канады, якія трымаліся палітычнай платформы БЦР[628]. Тут паўстаў шэраг моладзевых і спартовых арганізацыяў ды клубаў, музычных калектываў, быў створаны праваслаўны прыход св. Еўфрасінні Полацкай (у 1950 г.), у падпарадкаванні канстанцінопальскага экзарха. Вакол гэтага прыходу і віравала грамадскае і культурнае жыццё.

Цягам больш як 10 гадоў БЦР у ЗША не мела непасрэднага кантакту са сваім прэзідэнтам. Радаслаў Астроўскі ўпершыню наведаў Штаты толькі ў 1957 г., а на стала перабраўся туды ў 1962 г. У 1950 г. прэзідэнт з Нямеччыны выехаў у Аргентыну разам з дачкою ды зяцем, у чэрвені 1952 г. — вярнуўся ў Нямеччыну, а ў 1954 г. з прычыны праблемаў са здароўем пераехаў да сына ў Вялікую Брытанію. Некалькі разоў ён збіраўся ў ЗША, але спачатку яму адмовілі ў візе як Ды-Пі, а затым узніклі і фінансавыя цяжкасці[629].

---

Аркадзь Арэхва (прыехаў у ЗША у 1953 г.), Уладзімір Сенька; а таксама ў Аўстраліі: епіскап Апанас, Усевалад Родзевіч, Сымон Шаўцоў, Янка Бекіш, Анатоль Шкутка, Міхась Зуй. Па двое радных жылі ў Аргентыне: Мікалай Мінкевіч (пераехаў у ЗША ў 1954 г.), Пятро Саўчыц (пераехаў у ЗША ў 1960-х), з невялікімі перапынкамі ў Аргентыне жыў і архіепіскап Апанас; у Вялікай Брытаніі — Сцяпан Рудзь, Барыс Суравы; у Бельгіі — Васіль Рагуля (выехаў у ЗША ў 1953 г., але з пачатку 1950-х ён не браў удзелу ў грамадскім жыцці).

[628] Прыхільнікі палітычнай платформы БНР, што стварылі ў 1949 г. грамадскую арганізацыю Беларуска-амерыканскае задзіночанне, таксама мелі ў Нью-Джэрзі вельмі моцны аддзел і заснавалі ў блізкім ад Саўт-Рывэру Нью-Брансўіку / Гайлэнд-Парку парафію БАПЦ Жыровіцкай Божай Маці. Пра маштаб асяродку ў Нью-Брансўіку / Гайлэнд-Парку сведчыць той факт, што былі заснаваныя парафіяльныя беларускія могілкі (месцяцца ў Іст-Брансўіку). Такім чынам атрымалася, што ў сярэдзіне 1950-х у Нью-Джэрзі паўсталі два моцныя беларускія асяродкі дзвюх розных палітычных платформаў. Цікава, што ад беларускіх могілак у Саўт-Рывэры да беларускіх могілак у Іст-Брансўіку — прыкладна 5 кіламетраў.

[629] Квіткі на самалёт каштавалі ў той час каля 600 даляраў, што было значнай сумай (тры-чатыры месячныя заробкі для амерыканскага беларуса) як для БЦР,

У 1950-х гг. камунікацыя між Радаславам Астроўскім і актывам БЦР ішла выключна праз ліставанне. Напісанае ў лістах, часта з прычыны намёкаў і недагаворак, можна інтэрпрэтаваць па-рознаму. Аляксандр Русак скардзіўся на тое, што астатнія чальцы арганізацыі не прыкладаюць дастаткова сілаў для дзейнасці БЦР. Юры Сабалеўскі канфліктаваў з Аляксандрам Русаком: 8 красавіка 1951 г. ён заявіў, што пакідае становішча кіраўніка сакратарыяту БЦР. Яго ўсё ж удалося пераканаць застацца на пасадзе яшчэ на год. У траўні 1952 г. Сабалеўскі канчаткова пакінуў пасаду, аднак у снежні 1952 г. стаў старшынём прэзідыуму Пленуму БЦР і займаў гэту пасаду да верасня 1954 г.

У траўні 1952 г. Калегія (выканаўчы орган БЦР) мела наступны склад: выканальнік абавязкаў кіраўніка — Аляксандр Русак, ён таксама быў кіраўніком аддзелу замежных справаў і эміграцыі ды аддзелу фінансаў; аддзел унутраных справаў і веравызнанняў узначаліў Іван Касяк; аддзел Краёвай абароны — Сцяпан Шнэк; аддзел прэсы і прапаганды — Юры Стукаліч (Віцьбіч). Аддзелы культуры і асветы, грамадскай апекі і аховы здароўя на той час кіраўнікоў не мелі[630].

Аляксандр Русак ачоліў Калегію БЦР у снежні 1952 г. Ён мусіў займацца стварэннем структураў Рады ў новых умовах. Дзеяч аддаваў БЦР увесь свой вольны час (па 4–5 гадзінаў на дзень) пасля працы на фабрыцы. Аляксандр Русак аб’ездзіў на машыне, выдаткоўваючы ўласныя грошы, не толькі Нью-Джэрзі, але і Нью-Ёрк, Канэтыкут, наведваў Канаду — з адной толькі мэтаю: заахвоціць беларусаў да грамадскай працы.

Такая актыўнасць не падабалася іншым дзеячам, і яны (Іван Касяк, Юры Сабалеўскі, Эмануіл Ясюк) супрацьстаялі Русаку, які ператварыўся ў асобу №2 у БЦР. Ён цалкам падтрымліваў пазіцыю Радаслава Астроўскага, увогуле адмаўляючы наяўнасць любой апазіцыі ў БЦР.

---

гэтак і для Радаслава Астроўскага, які зарабляў на жыццё інтэлектуальнаю працаю (напісаннем аналітычных запісак, навуковых працаў), перакладамі і маніторынгам прэсы аб СССР (зарабляў 200–250 даляраў за месяц). Прычым ён увесь час выдаткоўваў з уласнай кішэні значныя сумы на грамадскую дзейнасць (паштовыя выдаткі, паездкі), дапамагаў паплечнікам. У 1953 г. ён сам аплаціў абарону доктарскай дысертацыі Аркадзя Арэхвы (больш за 200 даляраў). Радаслаў Астроўскі зазначаў, што за гэтыя 600 даляраў можна выдаць 8–10 нумароў газеты або цэлую кнігу пра БЦР. (Паводле ліста Р. Астроўскага да А. Русака ад 4 верасня 1953 г. Захоўваецца ў архіве аўтара кнігі.)

[630] Ліст А. Русака да Р. Астроўскага ад 20 траўня 1952 г. Копія захоўваецца ў архіве аўтара.

У 1952 г. Аляксандр Русак звярнуўся ў Міністэрства юстыцыі ЗША з запытам наконт магчымасцяў легальнай дзейнасці БЦР у гэтай краіне. У адказе зазначалася, што Вашынгтон не можа прызнаць БЦР урадам у эміграцыі, але дазваляе ёй палітычную і грамадскую дзейнасць як грамадскай арганізацыі. Русак разаслаў адказ па розных дэлегатурах і асяродках, у тым ліку і для таго, каб узняць настрой і заахвоціць да больш актыўнай працы, бо грамадская актыўнасць з пачатку 1950-х пачала згасаць. Эмігранты ў гэты час заняліся зарабляннем грошай, і многім даводзілася рабіць няпросты выбар: або дабрабыт сям'і і кар'ера, або актыўная грамадская дзейнасць[631].

Аляксандр Русак разумеў, што раз'яднанасць беларускай эміграцыі — адмоўная з'ява. 25 чэрвеня 1953 г. ён звярнуўся да Міхася Тулейкі, аднаго з лідараў Беларуска-амерыканскага задзіночання (што падтрымоўвала Раду БНР), з просьбаю сустрэцца і абмеркаваць наяўнае становішча. Спатканне мелася быць амаль канспіратыўным: дзеячы павінны былі пабачыцца на аўтобуснай станцыі ў пэўны час пры апошняй білетнай касе[632]. Невядома, ці адбылася сустрэча, прынамсі, далей справа не пайшла, і ў архівах не захавалася дакументаў пра яе наступствы.

## МІЖНАРОДНАЕ СТАНОВІШЧА І ВОНКАВАПАЛІТЫЧНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ БЦР У 1950-Я

У канцы 1940-х, калі мінула захапленне ад перамогі над нацызмам, паміж ранейшымі саюзнікамі пачалося супрацьстаянне, што атрымала ў гістарыяграфіі назву «халодная вайна». ЗША разам з краінамі заходняга блоку сталі разглядаць СССР як галоўнага праціўніка ў барацьбе за ўплыў у свеце. Прыярытэтным бачылася не столькі ваеннае вырашэнне супрацьстаяння, колькі мірнае. За аснову ўзялі метады палітычнай прапаганды, а на

---

631 У лісце да Барыса Кіта Аляксандр Русак пісаў: *«Адносна дазволу, атрыманага зь Міністэрства юстыцыі USA аб прызнаньні права афіцыйнага дзеяньня БЦР і калегіі БЦР як Эміграцыйнага Ураду Беларускай Дэмакратычнай Рэспублікі на тэрыторыі Амэрыкі ў барацьбе за вызваленьне Беларусі — адчыняе вялікія магчымасьці ў грамадзка-палітычнай працы за вызваленьне нашай Бацькаўшчыны і здабыцьцё поўнай незалежнасьці»* (Ліст А. Русака да Б. Кіта ад 12 кастрычніка 1952 г. Захоўваецца ў архіве БЦР у царкве св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі, ЗША). Тэчка «Дэлегатура БЦР у Каліфорніі»).

632 Ліст А. Русака да М. Тулейкі ад 25 чэрвеня 1953 г. Захоўваецца ў архіве БЦР у царкве св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі, ЗША). Тэчка «Сакратарыят нутраных справаў і веравызнаньняў».

дапамогу былі пакліканыя ў якасці важнага сродку ў супрацьдзеянні СССР некалькі сотняў тысяч эмігрантаў.

У жніўні 1948 г. была выдадзеная сакрэтная дырэктыва Рады нацыянальнай бяспекі 20/1 «Мэты ЗША адносна Расіі». Найлепшым варыянтам лічылася палітычнае ўрэгуляванне крызісу, а ў перспектыве — замена кіроўнай вярхоўкі ў СССР на дэмакратычны ўрад[633]. Абаперціся ў гэтай справе вырашылі на розныя эмігранцкія суполкі. 18 студзеня 1951 г. Дзярждэпартамент ЗША ініцыяваў стварэнне Амерыканскага камітэту барацьбы за вызваленне народаў Расіі (да 1970-х гэтага факту не афішавалі, арганізацыя паўстала як недзяржаўная структура). Галоўнаю задачаю Камітэту было фармаванне адзінага каардынацыйнага цэнтру для змагання з бальшавізмам. Камітэт завязаў шчыльныя кантакты з эмігранцкімі арганізацыямі ў ЗША і Заходняй Еўропе. Стаўка рабілася на паваенную эміграцыю: былых Ды-Пі, уцекачоў ад савецкай улады, жаўнераў вайсковых адзінак — усіх тых, хто варожа ставіўся да СССР. Разам з этнічнымі рускімі ўдзельнічаць у паступовым разлажэнні СССР меліся прадстаўнікі іншых народаў. Каб заахвоціць іх да супрацоўніцтва, дэкларавалася стварэнне магутнай радыёстанцыі для трансляцыі на СССР, а таксама шырокая фінансавая дапамога розным выдавецкім ды іншым праектам[634].

17–20 жніўня 1951 г. на з’ездзе ў Штутгарце пры падтрыманні Амерыканскага камітэту быў створаны Саюз вызвалення народаў Расіі (СОНР) са штаб-кватэрай у Мюнхене. У арганізацыю ўвайшлі Ліга барацьбы за свабоду народаў СССР, Народна-працоўны саюз (НТС), Расійскі народны рух (РНР), Саюз барацьбы за свабоду Расіі (СБСР), Саюз барацьбы за вызваленне народаў Расіі (СБОНР)[635]. Дактрына СОНР палягала ў барацьбе з камуністычнай дыктатураю да яе поўнай ліквідацыі, прызнанні раўнапраўя ўсіх народаў, права на вызначэнне ўласнага лёсу на падставе ўсенароднага галасавання, пераглядзе тэрытарыяльных захопаў, ажыццёўленых камуністамі, аднаўленні дзяржаўнага суверэнітэту краінаў, далучаных да СССР[636].

Рада СОНР павінна была складацца з 60 сябраў: 20 рускіх, 20 прадстаўнікоў нацыянальнасцяў СССР: беларусы, украінцы, грузіны і г. д. — і 20 вя-

---

[633] Гардзіенка, А. Беларускі кангрэсавы камітэт Амэрыкі (БККА)… С. 85.

[634] Карпов, С. В. Российская эмиграция в информационной войне против Советского Союза // http:// nature.web.ru/db/msg.html?mid=1187221

[635] Панямонскі, М. [Мікалай Шчорс]. Аб’еднаньне расейскай эміграцыі, а паняволеныя Масквою народы? // Беларуская трыбуна. №5 (8). 30 верасьня 1951.

[636] Юрэвіч, Лявон. Архіў Рады БНР // Запісы БІНіМ. №31. Нью-Ёрк—Менск, 2008. С. 112–122.

домых палітычных ды культурных дзеячаў, незалежна ад нацыянальнасці (мелі вылучацца першымі 40 сябрамі паводле ўзаемнага пагаднення)[637]. Саюз распачаў актыўныя перамовы з іншымі этнічнымі арганізацыямі, у тым ліку з прэзідэнтам БНР Міколам Абрамчыкам. У выніку 7 лістапада 1951 г. у Вісбадэне (Нямеччына) падпісалі пагадненне аб супрацоўніцтве. Аўтографы пад дакументам паставілі прадстаўнікі 12 эмігранцкіх арганізацыяў: пяці расійскіх — НТС, СБОР, СБОНР, РНР, Лігі барацьбы за народную свабоду, а таксама Азербайджанская народная рада, Грузінская нацыянальная рада, Туркестанскі нацыянальны камітэт, Саюз за свабоду Арменіі, Паўночнакаўказскі антыбальшавіцкі нацыянальны рух і Рада БНР[638]. Ад імя апошняй падпісаўся М. Брагулія — такі псеўданім узяў намеснік старшыні Рады БНР Барыс Рагуля. Афіцыйна Рада БНР адмежавалася ад гэтага подпісу[639].

Вісбадэнскае пагадненне замацоўвала г. зв. прынцып «непрадрашэнства»: спачатку перамога над бальшавізмам, а пасля шляхам склікання Устаноўчага сходу — развязанне нацыянальных пытанняў. Беларускія грамадскія дзеячы на эміграцыі выказвалі перасцярогі, што ў выніку нацыянальнае пытанне павісне ў паветры. Улічваючы далёкія перспектывы магчымай перамогі над СССР, частка беларускіх дзеячаў палічыла прынцып непрадрашэнства за фактычную адмову ад прыярытэту нацыянальнай дзяржаўнасці, хоць і сімвалічнага прызнання незалежнасці Беларусі. Таму кіраўніцтва Рады БНР сутыкнулася з жорсткаю крытыкай як з боку апазіцыі ўнутры Рады, гэтак і з боку палітычных апанентаў з БЦР.

У ЗША зацікаўленыя чыноўнікі аддалі перавагу не БЦР, а Радзе БНР як больш масавай і прадстаўнічай арганізацыі. Адыграла ролю актыўная дзейнасць Міколы Абрамчыка і ягоных паплечнікаў, што навязалі шчыльныя кантакты з амерыканскімі высокімі чыноўнікамі яшчэ ў другой палове 1940-х. Апроч таго, Рада БНР накіравала ў Амерыканскі камітэт і Каардынацыйны цэнтр антыбальшавіцкай барацьбы звесткі, дзе сцвярджалася, што толькі актывістаў Рады БНР у ЗША налічвалася пад 10 тысячаў чалавек. Паводле іх, на гэтай платформе стаялі: Беларуска-амерыканскае задзіночанне, Саюз беларускіх жанчын (кіраўніца — Наталля Орса), Саюз беларусаў у Чыкага (кіраўнік — Янка Чарапук), Беларускі скаўтынг (кіраўнік — Вацлаў Пануцэвіч), Саюз настаўнікаў і выкладчыкаў (кіраўнік — Міхась Міцкевіч),

---

[637] Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР 1947–1970… С. 53–55.

[638] Карпов, С. В. Российская эмиграция в информационной войне против Советского Союза…

[639] Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. БНР 1947–1970… С. 53.

Таварыства паэтаў і пісьменнікаў (кіраўніца — Наталля Арсеннева), Саюз беларускіх лекараў (кіраўнік — Вітаўт Тумаш), Саюз беларускіх журналістаў (кіраўнік — Мікола Панькоў), Саюз беларускіх студэнтаў (кіраўнік — Лявон Трусевіч), Беларуская вольная акадэмія навук і мастацтва (кіраўнік — Леанід Галяк), Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква, а таксама рух беларускіх баптыстаў, рух метадыстаў, Саюз былых беларускіх камбатантаў — усяго 14 арганізацыяў. Сцвярджалася, што ў ЗША налічваецца 5 партыяў, прыхільных да платформы Рады БНР: Беларуская нацыянал-дэмакратычная (кіраўнік — Аўген Каханоўскі), Хрысціянска-дэмакратычная (кіраўнік — Баляслаў Грабінскі), Крывіцкая партыя (кіраўнік — Антон Адамовіч), Сялянская (кіраўнік — Мікола Гарошка) і Беларуская незалежніцкая партыя (кіраўнік — Барыс Рагуля)[640].

Падкрэслівалася, што шэрагі іх палітычных апанентаў — мізэрныя: *«група Шчорса»* (г. зн. Беларускі кангрэсавы камітэт Амерыкі), паводле мемарандуму, налічвала 40 чалавек, ХАБР у Брытаніі — 60 чалавек. Пра БЦР з тактычных мэтаў у мемарандуме не згадвалася[641].

Сябры БЦР, у сваю чаргу, пісалі мемарандумы, вінавацілі дзеячаў БНР у супрацоўніцтве з расійскімі шавіністычнымі групамі, але разам з тым БЦР таксама шукала кантактаў з Амерыканскім камітэтам ды Фондам вольнай Расіі, напісаўшы шэраг прапановаў у Фонд з просьбаю вылучыць грошы.

Ініцыятыва скончылася нічым. Прыхільнікі платформы БЦР толькі ўвайшлі ў створаную 14 кастрычніка 1951 г. у Нью-Ёрку арганізацыю паняволеных народаў Расіі — клуб «Праметэй» (аналагічныя арганізацыі існавалі ў Еўропе). Яе амерыканскае бюро ў 1953 г. узначаліў Мікалай Шчорс[642].

Першая згадка пра беларусаў у «Congressional Record» («Запісах Кангрэсу ЗША») у 1953 г. датычыла менавіта БЦР, а ў 1952 г. на адным з нью-ёркаўскіх радыё з віншаваннем да беларускіх эмігрантаў у ЗША і ўсяго амерыканскага народу з нагоды 25 Сакавіка звярнуўся кіраўнік дэлегатуры Эмануіл Ясюк. У сваім выступе ён зазначыў, што менавіта БЦР — сапраўдны выразнік інтарэсаў беларускага народу на эміграцыі[643]. Сябры БЦР здолелі прабіцца ў 1954 г. у камісію Кангрэсу ЗША пад кіраўніцтвам Чарлза Керстэна (Charles Kersten, сенатар ад штату Ўісконсін, Wisconsin), створаную для аналізу

---

[640] Ліст А. Русака да У. Пелясы ад 30 чэрвеня 1953. Захоўваецца ў архіве БЦР у царкве св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі, ЗША).

[641] Тамсама.

[642] Гардзіенка, Алег. Беларускі кангрэсавы камітэт Амэрыкі (БККА)… С. 88.

[643] Рэха Сакавіка // Беларуская Трыбуна. №15–16. Ліпень 1953. С. 6.

савецкай сістэмы і яе ўздзеяння на насельніцтва. Камісія сабрала больш за 300 сведчанняў злачынстваў савецкай улады, у тым ліку і супраць беларусаў. Ад БЦР выступалі Мікола Шчорс, Юры Сабалеўскі, Васіль Місюль, ад БІНіМу — Вітаўт Тумаш і Антон Шукелойць.

Шмат інфармацыі пра БЦР і Другі Усебеларускі кангрэс даходзіла да амерыканскіх палітыкаў праз розныя мемарандумы ды інфармацыйныя лісты, якія рассылаліся беларуска-амерыканскімі арганізацыямі ды такімі дзеячамі, як Аляксандр Русак. Са словаў гісторыка эміграцыі Вітаўта Кіпеля, інфармацыйная плынь пра Беларусь у амерыканскія ўстановы і Кангрэс была настолькі вялікая, што ў гэтым выпадку супрацьстаянне БНР—БЦР адыграла пазітыўную ролю.

Цікава, што пра падзел беларускай палітычнай эміграцыі нават ускосна напісалі ў «New York Times» — у рэпартажы пра адзначэнне 40-х угодкаў незалежнасці БНР у 1958 г. у Нью-Ёрку. Карэспандэнт пісаў, што беларуская дыяспара ў Нью-Ёрку адзначыла гэтую дату дзвюма сходкамі: 200 чалавек прысутнічалі ў гатэлі «Білтмор» (Biltmore) на святкаванні Рады БНР, а 150 чалавек узялі ўдзел у імпрэзе, зладжанай Беларускім кангрэсавым камітэтам у гатэлі «Эстар» (Astor). Газета таксама пісала, што ў «Білтморы» на святе выступіў прэзідэнт БНР Мікола Абрамчык, а ў «Эстары» галоўную прамову сказаў былы консул БНР у Турцыі доктар Іван Ермачэнка[644].

## 13-ТЫ ПЛЕНУМ БЦР

Важным у паваеннай гісторыі БЦР стаў 13-ты Пленум, першая сесія якога прайшла 27–28 снежня 1952 г. у Саўт-Рывэры[645]. Радаслаў Астроўскі не змог прыехаць з Нямеччыны — яму адмовілі ў візе. На Пленуме (старшынём прэзідыуму абралі Юрыя Сабалеўскага) прысутнічалі 33 чалавекі, якія рэпрэзентавалі 68 дэлегатаў ад розных арганізацыяў: Злучанага беларуска-амерыканскага дапамаговага камітэту, Беларускага цэнтральнага прадстаўніцтва, Саюзу беларуска-амерыканскай моладзі, Беларускага жаночага камітэту, Аб'яднання беларускіх студэнтаў, Сялянска-работніцкай партыі вызвалення Беларусі, Беларускай народнай партыі, Беларускай незалежніцкай партыі, Беларускага праваслаўнага царкоўнага камітэту, ХАБР у Вялікай Брытаніі,

---

[644] New York Times. 31 March 1958.

[645] 2-я сесія прайшла 28–29 сакавіка, 3-я — 12 красавіка, 4-я — 28 чэрвеня 1953 г. На гэтых сесіях дапрацоўваліся працоўныя дакументы, прымаліся да іх паправкі, уносіліся паправкі ў Статут.

Згуртавання беларускіх патрыётаў у Нямеччыне, Беларускага аб'яднання ў Аўстраліі. Частка дэлегатаў рэпрэзентавала свае арганізацыі непасрэдна, іншыя даслалі ў Саўт-Рывэр упаўнаважанні. Паводле колькаснага складу, найбольш дэлегатаў было ад ЗБАДК і Беларускага цэнтральнага прадстаўніцтва. ЗША мелі 47 мандатаў, Нямеччына — 9, Англія — 8, Аўстралія — 6, Аргентына — 3, Іспанія — 1, Францыя — 1[646].

У шэрагі БЦР на Пленуме прынялі 10 чалавек: *«за заслугі на карысьць грамадзкай дзейнасьці»*. Сябрамі Рады сталі Масей Сяднёў, Барыс Кіт, Віктар Чабатарэвіч, Язэп Лешчанка (Міхась Кавыль), Міхась Зуй, Барыс Суравы, Пятро Саўчыц, Аркадзь Арэхва, Майк Філіповіч і Міхаіл Маеўскі. Цэнтральным на форуме быў выступ Юрыя Сабалеўскага, які ў дакладзе акрэсліў мэты БЦР на будучыню: *«барацьба за вызваленьне Беларусі з-пад акупацыі і рэалізацыя поўнай дзяржаўнай незалежнасьці ў доўгатэрміновай пэрспэктыве»*[647]. Дзеяч чарговы раз выказаўся супраць Рады БНР, назваўшы яе паланафільскай групаю ды абвінаваціўшы ў тым, што падпісала з лонданскім эміграцыйным польскім урадам «акт прыязні», у якім адмовілася ад правоў на Заходнюю Беларусь[648]. Гэты факт не адпавядаў рэчаіснасці.

На агульным фоне дысанансам прагучаў выступ дэлегата з Нямеччыны Юрыя Попкі, які прапанаваў лічыць Пленум Усебеларускім эміграцыйным кангрэсам[649]. Дэлегаты зазначылі, што Пленум усяго толькі склікаўся на чарговую сесію, а пытанне Усебеларускага кангрэсу — больш сур'ёзнае і грунтоўнае.

Склад новай Калегіі (ураду) быў зацверджаны на 2-й сесіі ў сакавіку 1953 г.: Аляксандр Русак — старшыня Калегіі БЦР і сакратар замежных справаў, Аркадзь Арэхва — сакратар унутраных справаў і веравызнанняў, Віктар Чабатарэвіч — сакратар дзяржаўнай абароны, Аляксей Шудзейка — сакратар культуры, прэсы і прапаганды, Анатоль Плескачэўскі — сакратар грамадскай апекі і аховы здароўя, Пётра Орса — сакратар дзяржакантролю, Уладзімір Сенька — заступнік сакратара дзяржабароны, Юры Попка — другі заступнік сакратара культуры, прэсы і прапаганды[650].

---

[646] 13-я Сэсія Пленуму Беларускай Цэнтральнай Рады [Бюлетэнь Беларускай Цэнтральнай Рады]. Саўт-Рывэр, 1954. С. 7.

[647] Бюлетэнь Беларускай Цэнтральнай Рады. №1. 1974. С. 20.

[648] Тамсама.

[649] 13-я Сэсія Пленуму Беларускай Цэнтральнай Рады [Бюлетэнь Беларускай Цэнтральнай Рады]… С. 7.

[650] Ліст А. Русака да У. Пелясы ад 30 снежня 1952 г. Захоўваецца ў асабістым архіве аўтара.

Пленум увёў «нацыянальны падатак»: вызначыў стаўкі ахвяраванняў на Беларускі нацыянальны фонд: той, хто зарабляў меней за 50 даляраў за тыдзень, павінен быў ахвяраваць 2% заробку, больш за 50 даляраў — 3%[651].

## 14-ТЫ ПЛЕНУМ БЦР

У 1954 г. у БЦР здарыўся новы канфлікт. Юры Сабалеўскі раскрытыкаваў Радаслава Астроўскага за супрацоўніцтва з Амерыканскім камітэтам вызвалення народаў Расіі. Сабалеўскі казаў, што БЦР не можа ніякім чынам увязвацца ў справы палітычнага «непрадрашэнства». Прэзідэнт даводзіў пра палітычны кампраміс. Для развязання спрэчак пастанавілі склікаць новы Пленум.

Фармальна падставаю была неабходнасць абмеркаваць папраўкі да Статуту БЦР, прынятага яшчэ ў студзені 1945 г. Дыскусія разгарнулася вакол артыкулаў 4 і 5.

> Арт. 4. На чале Беларускай Цэнтральнай Рады стаіць Прэзыдэнт БЦР, выбраны 2-м Усебеларускім Кангрэсам, як адзіны жывы носьбіт законнай улады.
>
> Арт. 5. Прэзыдэнт БЦР зьяўляецца галавою дзяржавы — Беларускай Народнай Рэспублікі і кіраўніком усіх беларускіх збройных сілаў[652].

Радаслаў Астроўскі жадаў, каб словы *«Выбраны 2-м Усебеларускім Кангрэсам»* былі прыбраныя. Ён лічыў, што такая фармулёўка можа стварыць

---

[651] Асноваю для пастановы была ініцыятыва, распрацаваная Аляксандрам Русаком у снежні 1952 г. *«Крытычнае фінансавае становішча нашых нацыянальна-грамадзкіх арганізацый, асабліва БЦР і яе выканаўчых органаў вельмі крытычна адбіваюцца на іх дзейнасьці. Уведзены пастановай Калегіі БЦР Беларускі нацыянальны фонд па 50 цэнтаў ад кожнай працуючай асобы ў месяц, пачнецца ад 1.1.1953 года і можа даць пазытыўныя вынікі празь некалькі месяцаў. Але час няцерпіць. Абставіны сёньняшняй міжнароднай сытуацыі вымагаюць неадкладнага ўдзелу нашых адпаведных чыньнікаў. Дзеля гэтага калегія БЦР дайшла да выснаву зьвярнуцца з заклікам да нашага нацыянальна сьведамага актыву, у тым ліку і да Вас. Калегія БЦР уважае, што Вы, як і кожны грамадзянін і грамадзянка, каму дарагі ідэал вызваленьня нашай Бацькаўшчыны Беларусі, неадкладна вышлеце 10 даляраў аднаразовай ахвяры ў касу Беларускага нацыянальнана фонду на адрас А. Русак, 44 Пасэйк, ст. Гарфілд»* (Ліст А. Русака да У. Пелясы ад 30 снежня 1952 г…).

[652] [Абвяржэньне]. Паважанаму спадару рэдактару газэты «Беларускае слова» // Беларускае слова. №3 (17). 27 чэрвеня 1954. С. 3.

цяжкасці пры абранні новага прэзідэнта. Таксама ён прапанаваў дапісаць новы артыкул пра фіксаваны прэзідэнцкі тэрмін[653].

У выніку былі прынятыя названыя папраўкі прэзідэнта, але 30 чэрвеня 1954 г. Юры Сабалеўскі падаў у адстаўку, цяпер патлумачыўшы сваё незадавальненне пазіцыяй Радаслава Астроўскага наконт пытання «непрадрашэнства».

Прэзідэнт БЦР у лісце да грамадскага актыву ад 12 жніўня 1954 г. вымушаны быў тлумачыць пазіцыю, заяўляючы, што зацятыя незалежныя пазіцыі (супраціў «непрадрашэнству») не прынясуць жаданых вынікаў.

> Я асабіста і сябры БЦР зь Нямеччыны ўважалі, што байкот намі гэтай арганізацыі *[Амерыканскага камітэту. — А. Г.]* нам нічога пазытыўнага ня дасьць, і таму хацелі, не зыходзячы з нашых незалежніцкіх пазыцый, не прызнаючы так званага прынцыпу непрэдрашэнства, аднак знайсьці нейкі «модус лабарандзі» з гэтым камітэтам.
>
> Матывы да нашае тактыкі на гэтым адрэзку былі наступныя: будучы толькі эміграцыяй і то вельмі невялічкаю, расьсеянай даслоўна па ўсім сьвеце, мы ў сваёй вызвольнай барацьбе, самастойна не дасягнем абсалютна ніякіх рэзультатаў[654].

14-ты Пленум БЦР прайшоў 3–4 верасня 1954 г. у дзень Свята працы (Лэйбар Дэй) у Саўт-Рывэры ў зале «Вілюс» (вул. Джэксана)[655]. Удзел у ім узялі 56 чалавек, што рэпрэзентавалі больш за 90 дэлегатаў[656].

---

[653] Астроўскі, Радаслаў. Мае ўвагі да праекту зьмены Статуту і абгрунтаваньня ўнесеных папраўак і дапаўненьняў. Захоўваецца ў архіве БЦР у царкве св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі, ЗША). Тэчка «Звычайная сэсія 14-га Пленуму БЦР».

[654] Ліст «Да сяброў БЦР — удзельнікаў Пленумнае нарады ў дзень 22.8.54» ад 12 жніўня 1954 г. Захоўваецца ў архіве БЦР у царкве св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі, ЗША). Архіў Р. Астроўскага.

[655] Спіс сябраў БЦР, што жылі ў ЗША, па стане на восень 1954 г.: Аркадзь Арэхва, Аляксандр Буглай, Ксенафонт Вайцяхоўскі, Раіса Евец, Міхась Завістовіч, Іван Касяк, Яўхім Кіпель, Святаслаў Коўш, Мікалай Лапіцкі, Язэп Ляшчынскі, Нікандр Мядзейка, Пётра Орса, Анатоль Плескачэўскі, Аляксандр Русак, Юры Сабалеўскі, Аляксей Сянькевіч, Масей Сяднёў, Майк Філіповіч, Аляксей Шудзейка, Ігар Шчорс, Мікалай Шчорс, Віктар Чабатарэвіч, Эмануіл Ясюк. У гэтым годзе Барыс Кіт і Часлаў Найдзюк выйшлі з БЦР, патлумачыўшы гэта атрыманнем амерыканскага грамадзянства, што нібыта супярэчыла прынцыпам БЦР.

[656] Дэлегаты прадстаўлялі наступныя арганізацыі: Беларускае цэнтральнае прадстаўніцтва, БККА, ЗБАДК (Беларуска-амерыканскі дапамаговы камітэт), Саюз беларуска-амерыканскай моладзі, Саюз беларуска-амерыканскіх студэнтаў, Беларус-

Пленум пераабраў Радаслава Астроўскага на яшчэ адзін трохгадовы тэрмін, а таксама зацвердзіў склад новага выканаўчага органу БЦР. Аляксандр Русак застаўся на пасадзе кіраўніка Калегіі. Аркадзь Арэхва (ён пераехаў у ЗША ў красавіку 1953 г.) заняў пасаду віцэ-старшыні, кіраўніка замежных справаў і юрыдычнага аддзелу. Эмануіл Ясюк быў абраны кіраўніком аддзелу ўнутраных справаў і эміграцыі. Дзмітры Касмовіч як кіраўнік Беларускага вызвольнага фронту ўзначаліў аддзел вызвольнай барацьбы, Яўхім Кіпель — аддзел прэсы і прапаганды, Вячаслаў Качанскі (Селях) — аддзел культуры і мастацтва, Барыс Шчорс — аддзел фінансаў, Віталь Цярпіцкі — аддзел грамадскай апекі[657].

Асобнай структурай пры БЦР стаў Беларускі нацыянальны фонд (БНФ), у функцыі якога ўваходзіла збор сродкаў і матэрыяльнае забеспячэнне грамадскай працы. З 1955 г. БНФ узначальваў Барыс Шчорс, Віталь Цярпіцкі быў намеснікам, Пётра Орса — галоўным скарбнікам, Анатоль Шурак — сакратаром[658].

Прэзідыум Пленуму быў сфармаваны ў наступным складзе: Нікандр Мядзейка — старшыня, Аўген Занкавіч — заступнік, Святаслаў Коўш — сакратар. 30 красавіка 1955 г. Коўш пакінуў шэрагі БЦР, і ягонае месца заняў Віталь Цярпіцкі.

З прычыны змяншэння колькасці грамадскага актыву канчаткова замацавалася дубляванне структуры намеснікаў прэзідэнта і прэзідыуму Пленуму. Старшыня прэзідыуму Пленуму (у гэтым выпадку — Нікандр Мядзейка) цяпер быў 1-м віцэ-прэзідэнтам, а ягоны намеснік (Аўген Занкавіч) — 2-м віцэ-прэзідэнтам. На гэтыя пасады дзеячаў абіралі на тры гады[659].

Юры Сабалеўскі ў Пленуме ўдзелу не браў. У лісце да Часлава Найдзюка ад 23 студзеня 1955 г. ён пісаў:

> Спадзяюся, што справаздачу з 14-га Пленуму БЦР вы маеце і ў зьмесьце зарыентаваліся. Жыцьцё БЦР сяньня афіцыйна аформле-

кая незалежніцкая партыя, Беларуская народная партыя, Беларускі праваслаўны царкоўны камітэт у Амерыцы, Беларускі праваслаўны прыход у Саўт-Рывэры, Беларускі праваслаўны прыход у Аргентыне, Беларускі вызвольны рух, Інстытут беларусаведы ў Мадрыдзе, Згуртаванне беларускіх патрыётаў у Нямеччыне, Беларускае аб'яднанне ў Аўстраліі, ХАБР, Беларускі камітэт сацыяльнай і праўнай апекі ў Нямеччыне, Згуртаванне беларускага аб'яднання ў Швецыі, Беларуская незалежніцкая партыя ў Канадзе (Бюлетэнь 14-га Пленуму Беларускай Цэнтральнай Рады. Нью-Ёрк, 1959).

[657] Бюлетэнь 14-га Пленуму Беларускай Цэнтральнай Рады…

[658] Тамсама.

[659] Тамсама.

на 14-м Пленумам БЦР. Мяне і многіх Вам ведамых у складзе 14-га Пленуму няма.

А сталася гэта таму, што фактам 14-га Пленуму БЦР зачыняўся этап унутранай нашай барацьбы. Група БЦР у Нямеччыне палічыла за адпаведнае ўключыцца ў супольную палітычную лінію розных камітэтаў з фондамі на барацьбу з бальшавізмам на загадах «непрадрашэнства». Наша невялікая група востра гэтаму супрацьпаставілася і перасекла ўсе дарогі да супрацоўніцтва па гэтым напрамкам. Утварылася падобная арыентацыя і пасярод нашай эміграцыі ў Амэрыцы. Лічбава перавага была на баку супрацоўніцтва, але свае намеры прыкрывалі зусім іншымі дэкарацыямі і востра атакавалі наш напрамак, але спосабам і матывамі, якіх нельга палічыць за спакойныя і вытрыманыя. Фінал 14-га Пленуму тады, калі праўны тэрмін кадэнцыі 13-га Пленуму ня выгас, і па Статуту БЦР перадчасна кадэнцыю разьвязаць ніхто ня можа. На мове папулярнага ахарактарызаваньня — «дзяржаўны пераварот» і адкліканьне дзяржаўнай інстытуцыі.

Так я разумею зьмест падзей. Ад ідэалёгіі вызвольнага змаганьня не адступаю, але зь сёньняшняй тактыкай пагадзіцца не магу і лічу 14-ты Пленум за акт гвалту.

Тым не менш, Юры Сабалеўскі застаўся верны прынцыпам БЦР, якую лічыў галоўным прадстаўніцтвам беларускай эміграцыі. У чарнавіку да публіцыстычнага артыкулу ў 1955 г. ён пісаў:

БЦР — ідэалёгія дзяржаўнай незалежнасьці беларускага народу, пабудаваная на базе акту 25 сакавіка 1918 году, якім абвешчана ўзнаўленьне беларускай дзяржаўнасьці. БЦР мае тое павучальнае значэньне, што ў пару жорсткае акупацыі Беларусі пытаньне аб дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі было ўзнята зноў, а вастрыня высілку БЦР накіравана ня толькі супраць бальшавіцкай акупацыі, але супраць кожнае акупацыі Беларусі, як з прошласьці, так і на прышласьць. […] Зьмест БЦР у цэлым пяройдзе ў нашу гісторыю і на ім будуць выхоўвацца нацыянальная падмена ў барацьбе за нашу незалежную дзяржаўнасьць[660].

[660] Копія захоўваецца ў архіве аўтара.

# КАНФЛІКТ БЦР І БККА

У пачатку 1950-х гг. на грамадскую арэну ў ЗША выйшла наваствораная арганізацыя — Беларускі кангрэсавы камітэт Амерыкі. Структура была заснаваная 11 лютага 1951 г. у Саўт-Рывэры на Кангрэсе беларусаў Амерыкі, які сабраў прыхільнікаў палітычнай платформы БЦР (ці праціўнікаў адноўленай Рады БНР). Першым старшынём стаў Мікалай Шчорс (1951–1957). Меркавалася, што БККА будзе каардынаваць працу беларускіх арганізацыяў у ЗША і рэпрэзентаваць іх на штатным і федэральным узроўнях[661].

У пачатку 1950-х БЦР і БККА ўзаемадзейнічалі ды нават праводзілі супольныя паседжанні. Улетку 1953 г. узнікла думка аб скліканні 5 ліпеня 1953 г. у ЗША шырокай нарады наконт правядзення 1-га Усеэміграцыйнага кангрэсу. У рабочую групу павінны былі ўвайсці больш за 70 актывістаў БККА і БЦР, таксама запрашэнні ўзяць удзел у нарадзе атрымалі 12 дзеячаў іншага палітычнага лагеру: Аляксандр Махноўскі, Аляксандр Орса, Мікола Гарошка, Міхась Тулейка, Леанід Галяк, Лявон Савёнак, Антон Шукелойць, Вітаўт Тумаш, Міхась Рагуля, Уладзімір Русак, Мікола Шчаглоў, Баляслаў Грабінскі. Аднак нарады не адбылося, бо наўрад ці дзеячы БАЗА і Рады БНР пагадзіліся ў ёй удзельнічаць, маючы такую малую квоту.

У 1953 г. Мікалай Шчорс узяў курс на самастойнасць на пасадзе старшыні БККА. Прызнаючы палітычную платформу БЦР, БККА імкнуўся дыстанцыявацца ад Рады на полі грамадскага жыцця ў ЗША. Гэта добра выявілася ў рознасці поглядаў на выданне газеты «Беларуская трыбуна» (1950–1953), а таксама на ініцыятыву Міколы Шчорса стварыць агульную Беларускую кангрэсавую раду.

Выданне «Беларускай трыбуны», першы нумар якой выйшаў 27 жніўня 1950 г., спынілася ў лістападзе 1953 г. Выйшла 17 нумароў. Мікола Шчорс лічыў, што БЦР не павінна ўмешвацца ў грамадскія справы, а газета мусіць быць выключна органам БККА і голасам беларусаў у ЗША (газета «Беларус» у 1950-х гг. выдавалася нерэгулярна). Дзеячы лагеру БЦР (Аляксандр Русак, Аркадзь Арэхва, Яўхім Кіпель) лічылі, што газета, якая выдаецца на сродкі спецыяльна заснаванага БЦР для гэтай мэты Беларускага выдавецкага фонду, павінна не толькі больш ясна акрэсліваць сваю пазіцыю датычна БЦР, але і ў большасці пытанняў салідарызавацца з ёй[662]. У выніку рознагалоссі прывялі да спынення выхаду газеты.

---

661 Гардзіенка, Алег. Беларускі кангрэсавы камітэт Амэрыкі (БККА)… С. 107–114.
662 Тамсама. С. 121.

Мікола Шчорс меркаваў, што БЦР і Рада БНР павінны адысці ў мінулае, бо наспела патрэба глыбейшай інтэграцыі ў жыццё на чужыне[663]. Але ягоныя захады ў 1955–1956 гг. дзеля стварэння агульнай структуры аказаліся марныя. З аднаго боку, дзве галоўныя арганізацыі амерыканскіх беларусаў (БАЗА і БККА) не былі гатовыя да аб'яднання, з другога — і дзеячы БЦР актыўна супрацiўляліся, нават арганізаваўшы цкаванне старшыні БККА ў прэсе[664].

У выніку Мікола Шчорс вырашыў пакінуць актыўную грамадскую дзейнасць. Да ягонага адыходу спрычынілася, у тым ліку, і сталая лекарская практыка: у пачатку 1950-х гг. ён адчыніў прыватны кабінет у Нью-Ёрку, а праз колькі гадоў перабраўся на поўнач штату, у горад Плэтсбург (Plattsburgh), дзе адчыніў прыватную клініку. Мікола Шчорс, як і шэраг дзеячаў, аказаўся перад няпростым выбарам: або прафесійная кар'ера, або грамадская дзейнасць. Не шмат каму ўдавалася сумяшчаць гэта, і толькі адзінкі, відаць, рабілі выбар на карысць грамадскай дзейнасці, як было ў выпадку з доктарам Вітаўтам Тумашам[665].

І ў далейшым паміж БЦР і БККА, ужо за часамі наступнага старшыні Камітэту, Івана Касяка (1957–1989), склаліся аналагічныя адносіны. Камітэт імкнуўся вонкава дыстанцыявацца ад Рады, не пускаючы палітычную арганізацыю на поле грамадскай дзейнасці ў ЗША. Іван Касяк добра разумеў, што з БККА ў ЗША можна значна больш зрабіць беларускай прапаганды. Разам з тым, ён заўсёды падкрэсліваў, што арганізацыі — чальцы БККА лічаць дзейнасць БЦР падчас вайны за правільную, а таксама падкрэсліваў важнасць Другога Усебеларускага кангрэсу[666].

І БЦР, і БККА мелі часам адных і тых жа сяброў, бо пленумы БЦР 1957 і 1960 гг. праходзілі на наступны дзень пасля кангрэсаў БККА. Між тым, і ўнутры БЦР хапала рознагалоссяў, а часам новых амбітных ініцыятываў. Аляксандр Русак у лісце 12 траўня 1952 г. пісаў Радаславу Астроўскаму пра незразумелую акцыю, інспіраваную ў ЗША вайскоўцам Аляксандрам Буглаем дзеля стварэння *«асобнай парашутнай брыгады»* (працягвалася вайна

---

[663] Мікола Шчорс больш цвяроза глядзеў на БЦР, бо не атаясамліваў сябе з арганізацыяй, што дзейнічала пад нямецкай акупацыяй.

[664] Падрабязней пра гэта ў: Гардзіенка, Алег. Беларускі кангрэсавы камітэт Амэрыкі (БККА)… С. 122.

[665] Вітаўт Кіпель згадваў: *«Колькі разоў доктар Тумаш адмаўляўся ад павышэньня на працы, выключна з-за таго, каб мець больш часу для беларускае дзейнасьці»* (Ліст В. Кіпеля да аўтара кнігі ад 3 снежня 2007 г.).

[666] Гардзіенка, Алег. Беларускі кангрэсавы камітэт Амерыкі (БККА)… С. 124–126.

ў Карэі ды ішла барацьба з камунізмам у ЗША, таму зерне часам падала на ўрадлівую глебу), а таксама дзеля стварэння г. зв. «трэцяй сілы»:

> Пачала тут арганізоўвацца без увязкі з Калегіяй БЦР парашутная брыгада пад кіраўніцтвам гаспадара[667] Буглая і ў паразуменьні з гасп. Каўшом і іншымі афіцэрамі, будучымі ў блізкім кантакце зь сябрамі БЦР. Адносная адзінка паводле атрыманых інфармацыяў мела тварыцца, а ўласьціва часткова ўжо паўстала ў характары так званае трэцяе сілы, не прызнаючае ні БЦР, ні БНР.
>
> Я даведваюся аб гэтым дня 11.5.52, спаткаўся з гаспадаром Буглаем у Саўт Рывэры, які знаходзіцца тут па-за рамкамі грамадзкага жыцьця і ёсьць руховым і фактычным ініцыятарам гэтае справы. На ўступе ён асьведчыў, што фактычна ён стаіць на плошчы III сілы і ў гэтым кірунку і на гэтай плошчы арганізуе парашутную брыгаду. Пасьля даўжэйшай дыскусіі ён канчальна згадзіўся з маімі вывадамі і ўжо заявіў, што канчальна стаіць на плошчы II Ўсебеларускага Кангрэсу і ежэлі пры Калегіі БЦР будзе ўтвораны Сакратарыят Нацыянальнай Абароны, то ён поўнасьцю падпарадкуецца загадам БЦР Калегіі БЦР і загадам Прэзыдэнта Астроўскага[668].

Аляксандра Буглая ўдалося пераканаць адмовіцца ад ідэі стварэння «трэцяй сілы», і, трэба сказаць, да канца жыцця ён заставаўся верным прынцыпам БЦР. Аднак неабходна зазначыць, што ў пачатку 1950-х яшчэ быў моцны вайсковы асяродак, які лічыў, што неўзабаве пачнецца вайна з СССР, і патрэба ў вайскоўцах стане актуальнай. Гэта датычыла не толькі беларусаў, вайсковы ўздым быў моцны і ва ўкраінцаў, у рускіх, казакоў.

## СПРАВА БЕЛАРУСКАГА ВЫЗВОЛЬНАГА РУХУ

У 1951 г. грамадскі дзеяч у Нямеччыне Людвік Зарэчны-Галубовіч, які ў 1948 г. браў удзел у аднаўленчым Пленуме БЦР, скантактаваўся з Радаславам Астроўскім, які тады жыў у Аргентыне, і прапанаваў стварыць Беларускі вызвольны рух (БВР). Людвік Зарэчны казаў пра свае кантакты з брытанскай і нямецкай выведкамі ды сяброўскія дачыненні з важнымі чыноўнікамі.

---

[667] Дзеячы БЦР стараліся не выкарыстоўваць зварот «спадар», на іх думку, прапагандаваны Янкам Станкевічам, а звярталіся і падпісваліся «гаспадар».

[668] Ліст А. Русака да Р. Астроўскага ад 12 траўня 1952 г. Копія захоўваецца ў архіве аўтара.

Прэзідэнт ідэю падтрымаў, аднак у лісце да Людвіка Зарэчнага ад 7 снежня 1951 г. стараўся ўзяць ініцыятыву ў свае рукі:

> Галоўнае адносна Беларускага Вызвольнага Руху: абсалютна згаджаюся з Вашым плянам, але яго трэба распрацаваць рэальна. […] У Вашай службовай акцыі, а також пры распрацоўцы ўсялякіх плянаў адносна БВР стаўце стаўку на маладую, яшчэ нездэмаралізаваную, патрыятычную і самаахвярную чарназёмную сілу. Яна можа быць нягаматнай палітычна, гэта праўда, але яе трэба вышкаліць і тады можа што добрага атрымаем…[669]

Людвік Зарэчны шмат дапамог Радаславу Астроўскаму ў вяртанні ў Нямеччыну ўлетку 1952 г. Але прэзідэнт лічыў, што БВР мусіць цалкам падпарадкавацца БЦР, будучы ў структуры аддзелам краёвай (нацыянальнай) абароны.

У той жа час Людвік Зарэчны ўжо паспеў развіць актыўную дзейнасць і ўзяць курс на самастойнасць. БВР афіцыйна быў арганізаваны 27 лютага 1952 г., у сакавіку таго ж года ў Манчэстэры (Брытанія) прайшла канферэнцыя *«беларускага жаўнерства і афіцэрства»*, на якой стварылі разгалінаваны штаб. Больш за тое, Людвік Зарэчны абвясціў пра набор на курс афіцэрства[670].

Першымі небяспеку ў асобе кіраўніка БВР і ягонай ініцыятыве ўбачылі Юры Сабалеўскі і Іван Касяк. Яны спрабавалі пераканаць Радаслава Астроўскага паўстрымаць запал новага дзеяча. Паплечнікі прэзідэнта лічылі Людвіка Зарэчнага авантурнікам, які можа ўнесці раскол у грамадскае жыццё эміграцыі, і заклікалі адмежавацца ад ягоных ініцыятываў. У хуткім часе да іх просьбаў далучыліся Аляксандр Русак і Мікалай Шчорс. Усе чацвёра ў траўні 1952 г. напісалі адкрыты ліст да прэзідэнта БЦР з заклікам зняць Людвіка Зарэчнага з пасады кіраўніка БВР і прызначыць на ягонае месца або Сымона Серафіновіча (грамадскага дзеяча ў Вялікай Брытаніі), або Уладзіміра Сеньку з Нямеччыны як больш дысцыплінаваных і адказных асобаў, лепш вядомых кіраўніцтву Рады[671].

---

669 Ліст Р. Астроўскага да Л. Зарэчнага ад 7 снежня 1951 г. Захоўваецца ў архіве БЦР у царкве св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі, ЗША).

670 Найбольш поўна пра Беларускі вызвольны рух у: Гардзіенка, Наталля. Беларусы ў Вялікабрытаніі. Мінск, 2010. С. 285–309.

671 Тамсама. С. 293.

Радаслаў Астроўскі, пажыўшы некалькі месяцаў поруч з Людвікам Зарэчным у Нямеччыне, пераканаўся ў ягоным авантурызме. 10 кастрычніка 1952 г. ён выдаў загад, што БВР выводзіцца з-пад структуры БЦР[672]. Такое рашэнне не задаволіла ні Зарэчнага (які працягваў прыкрывацца БЦР), ні Сабалеўскага з Касяком, якія лічылі, што БЦР мусіць адмежавацца ад БВР, бо дзейнасць Зарэчнага можа ёй пашкодзіць як на міжнароднай арэне, гэтак і ў ЗША. Але толькі ў лютым 1954 г. пытанне аб БВР развязалася канчаткова. Радаслаў Астроўскі адхіліў Людвіка Зарэчнага ад пасады кіраўніка БВР.

Пытанне БВР разглядалася на грамадскай нарадзе 14 сакавіка 1954 г. у Пасэіку. Удзел у нарадзе ўзялі Аляксандр Русак, Эмануіл Ясюк, Сымон Жамойда, Ксенафонт Вайцяхоўскі, Яўхім Кіпель, Святаслаў Коўш, Кастусь Новік, Жорж Барташэвіч, Віталь Цярпіцкі, Уладзімір Пеляса, Аўген Занкавіч, Сяргей Казакоў, Міхась Сенька. Падтрымаў Людвіка Зарэчнага толькі Кастусь Новік, які заявіў, што дзейнасць БВР — правільная. Эмануіл Ясюк і Яўхім Кіпель крытыкавалі Радаслава Астроўскага за палітычную блізарукасць[673]. У кастрычніку 1954 г. прэзідэнт стварыў пры БЦР іншую арганізацыю, Беларускі вызвольны фронт, даручыўшы яго фармаванне кіраўніку дэлегатуры на Нямеччыну Дзмітрыю Касмовічу. Людвік Зарэчны не прызнаў загаду Радаслава Астроўскага, БВР працягнуў самастойнае існаванне, зазнаўшы пазней некалькі расколаў.

## ВЫДАВЕЦКАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ БЦР

25 сакавіка 1954 г. у Нямеччыне аднавіўся выхад газеты «Беларускае слова», 14 першых нумароў якой пабачылі свет у Міхэльсдорфе і Бакнангу ў 1948–1950 гг. Гэтым разам рэдактарскія абавязкі на сябе ўзяў Палікарп Манькоў, якому дапамагаў Радаслаў Астроўскі. Зазначалася, што газета не ёсць афіцыйным органам БЦР, а такім будзе «Бюлетэнь Беларускай Цэнтральнай Рады».

У першым нумары, які выйшаў 25 сакавіка 1954 г., цэнтральным быў вялікі артыкул прэзідэнта БЦР пра міжнародную сітуацыю. У ім паведамлялася, што газета не плануе друкаваць аніякіх артыкулаў, якія змяшчаюць у сабе нападкі на палітычныя і грамадскія групы. Аднак падкрэслівалася, што *«выразнае шкодніцтва і варожая агентурнасьць будзе кляйміцца»*[674].

---

672 Гардзіенка, Наталля. Беларусы ў Вялікабрытаніі… С. 293.

673 Пратакол нарады ад 14 сакавіка 1954 г. Копія захоўваецца ў архіве аўтара.

674 Ад рэдакцыі // Беларускае слова. №1 (15). 25 сакавіка 1954.

Таму, як і раней, «шкодніцкая» пазіцыя Рады БНР заставалася пад пільнай увагаю рэдакцыі.

Паказальнай выглядае перадавая Радаслава Астроўскага «Ці магчыма пагадненне?», змешчаная ў нумары газеты за люты 1957 г. Спыняючыся на міжнароднай сітуацыі, а таксама ролі БССР, прэзідэнт параўноўваў «крывіцкае» змаганне за незалежнасць з бальшавіцкім прынцыпам суверэнных правоў, адмаўляў Радзе БНР у праве рэпрэзентаваць беларускі народ на эміграцыі ды адзінай установай, якая можа гэта рабіць, называў БЦР[675].

Спачатку меркавалася, што «Беларускае слова» будзе выдавацца раз на два тыдні. Але з-за цяжкага фінансавага становішча газета выходзіла ў найлепшым выпадку раз на месяц. У 1956 г. рэдакцыя пераехала ў Нью-Ёрк, а выданне ўзялі на сябе беларусы ЗША (Аркадзь Евец, Аркадзь Арэхва ды інш.). Канчаткова выданне спынілася ў 1958 г., усяго выйшаў 41 нумар.

БЦР надавала важнае значэнне дакументальнаму абгрунтаванню сваіх правоў гаварыць ад імя беларусаў на эміграцыі. Дзеячы БЦР даказвалі, што пастановы Другога Усебеларускага кангрэсу — гэта чарговы этап змагання за незалежнасць Беларусі, а БЦР — працяг гістарычнай Рады БНР. У 1954 г. выйшла кніга «Другі Усебеларускі Кангрэс» накладам 1000 асобнікаў, а каб аплаціць выданне, давялося нават узяць крэдыт. Старшыня калегіі Аляксандр Русак з нагоды выхаду кнігі пісаў:

> Сёньня я атрымаў лятнічаю поштаю экзэмпляр кнігі «Другі Ўсебеларускі Кангрэс», мушу сказаць, што яна выйшла надспадзявана, беспараўнаньня, як мы гэтага чакалі. Гэта найважнейшы гістарычны дакумэнт барацьбы беларускага народу за сваю незалежнасьць. Кніжка мае праўдзівы дзяржаўны характар і моцна паднімае наш аўтарытэт у вачох чужынцаў[676].

---

675 Радаслаў Астроўскі пісаў: *«Крывіцкая групоўка з Акта 25 сакавіка выхапіла толькі прынцып дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі, за які быццам яна змагаецца. Але бальшавікі таксама змагаюцца за сваю незалежнасьць і сувэрэннасьць СССР… аднак, мы ведаем, што такая «сувэрэннасьць» зусім не азначае незалежнасьці народаў, воля якіх абсалютна ігнаруецца кіруючай элітай, а ўсякае імкненьне да свабоды падаўляецца самым брутальным спосабам узурпатарамі народнае ўлады»* (Ці магчыма пагадненьне? // Беларускае слова. №4 (33). Люты 1957).

676 Ліст А. Русака да Ю. Попкі ад 30 лістапада 1954 г. Захоўваецца ў архіве БЦР у царкве св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі, ЗША). Пасля таго, як Лофтус выдаў знакамітую сваю кнігу, і «Другі Ўсебеларускі Кангрэс», і «За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі» былі цалкам перакладзеныя на англійскую мову.

Кніга была зробленая досыць прафесійна, з вялікай колькасцю ілюстрацыйнага матэрыялу, былі таксама надрукаваныя 2-я і 3-я Устаўныя граматы БНР.

У 1960 г. БЦР у Лондане выдала яшчэ адну кнігу, падрыхтаваную І. Касяком, якая мела таксама важнае значэнне: зборнік дакументаў «За дзяржаўную незалежнасць Беларусі»[677].

## НУТРАНЫЯ СПРАВЫ БЦР

31 кастрычніка 1955 г. Аляксандр Русак падаў у адстаўку (ён захварэў на рак і ў сакавіку 1957 г. памёр). Быў сфармаваны новы выканаўчы орган на чале з Аркадзем Арэхвам (ён жа быў кіраўніком аддзелу замежных справаў), Яўхім Кіпель стаў віцэ-старшынём і кіраўніком аддзелу прэсы і інфармацыі, Мікалай Дзямідаў — кіраўніком аддзелу ўнутраных справаў, Дзмітры Касмовіч — кіраўніком аддзелу вызвольнай барацьбы, Вячаслаў Качанскі (Селях) — кіраўніком аддзелу культуры і веравызнанняў[678].

Першая сесія 15-га Пленуму БЦР прайшла 30 лістапада 1957 г. у традыцыйнай для беларускіх сустрэчаў зале Шакаў (Ўайтгэд-авеню, Whitehead Avenue 25) у Саўт-Рывэры. Непасрэдны ўдзел у ёй узялі 28 чалавек, якія таксама рэпрэзентавалі дэлегатаў, што не змаглі прыехаць з Аўстраліі, Брытаніі, Нямеччыны, Аргентыны або іншых штатаў ЗША (усяго — 65 мандатаў)[679]. Цікава, што гэта быў першы Пленум у ЗША, у якім браў удзел прэзідэнт БЦР.

---

[677] За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі. Дакуманты і матар’ялы, сабраныя і падрыхтаваныя для публікацыі І. Касяком, прагледжаныя і апрабаваныя для друку камісіяй БЦР пад кіраўніцтвам праф. Р. Астроўскага. Лёндан, 1960. — 198 с.

[678] Ліст Аляксандра Русака да Дэлегатураў Беларускай Цэнтральнай Рады, упаўнаважаных в[ыканаўчага] в[органу] БЦР і сяброў БЦР ад 15.11.1955. Копія захоўваецца ў архіве аўтара.

[679] У Пленуме ўдзельнічалі 28 чалавек: Радаслаў Астроўскі, Нікандр Мядзейка, Вячаслаў Селях-Качанскі, Ігар Шчорс, Пётра Орса, Ксенафонт Вайцяхоўскі, Міхаіл Завістовіч, Раіса Евец, Аркадзь Евец, Хведар Высоцкі, Іван Аўдзей, Палікарп Манькоў, Аркадзь Арэхва, Яўхім Кіпель, Віталь Цярпіцкі, Мікалай Карповіч, Леў Высоцкі, Аркадзь Сацэвіч, Аляксей Сянькевіч, Уладзімір Пеляса, Мікалай Лапіцкі, Васіль Місюль, Эмануіл Ясюк, Аляксей Шудзейка, Іван Ермачэнка, Бернард Букатка, Аляксандр Буглай, Янка Цупрык. Ім перадалі свае галасы: Надзея Абрамава-Тэадаровіч, Мікола Пратасевіч, Аляксандр Малаха, Мікола Клютко, Павел Гуза, Юры Весялкоўскі, Янка Бекіш, Усевалад Родзевіч, Анатоль Шкутка, Кастусь Новік, Ян Панкевіч, Уладзімір Сідлярэвіч, Канстанцін Хаванскі, Галіна і Мікалай Мінкевічы, Міхась Зуй, Надзея і Дзмітры Касмовіч, Хведар Шыбут, Барыс Суравы, Уладзімір Грэмяка, Сяргей Розмысл, Янка Бунчук, Іван Калоша, Алесь Алехнік, Васіль Гладкі,

Перад самым пачаткам Пленуму Радаслаў Астроўскі прыслаў ліст старшыню прэзідыуму, Нікандру Мядзейку, ды старшыню выканаўчага органу, Аркадзю Арэхву, у якім прасіў паставіць на парадак дня ягоную просьбу аб сыходзе з пасады прэзідэнта БЦР, гэтым разам з прычыны веку (70 гадоў) і стану здароўя. Пазней ён з невядомых прычынаў адклікаў ліст.

Важным разгледжаным на Пленуме пытаннем было заснаванне новай арганізацыі прыхільнікаў БЦР у ЗША. Частка грамадскіх дзеячаў у ЗША лічыла, што сябра БЦР не можа быць амерыканскім грамадзянінам, г. зн. складаць прысягу на вернасць амерыканскай дзяржаве і народу. І наадварот, чалавек, які прыняў амерыканскае грамадзянства, не можа належаць да БЦР (якая лічыла сябе ўрадам БНР). Аднымі з першых прынялі амерыканскае грамадзянства ў 1954 г. Барыс Кіт і Часлаў Найдзюк, пасля чаго зракліся сяброўства ў БЦР.

Іншыя дзеячы (як Аляксандр Русак, Радаслаў Астроўскі) меркавалі, што прыналежнасць да БЦР не шкодзіць атрыманню грамадзянства іншай краіны. У 1957 г. Іван Касяк звярнуўся з запытам у Міністэрства юстыцыі наконт легальнай дзейнасці БЦР у ЗША. Адказ быў адмоўны, і БЦР было прапанавана рэгістравацца як грамадскай арганізацыі, дапасаваўшы свае мэты пад заканадаўства краіны[680].

З гэтай прычыны і пастанавілі стварыць грамадскую арганізацыю прыхільнікаў БЦР. Спачатку паўстала ініцыятыўная група ў складзе Бернарда Букаткі, Эмануіла Ясюка і Ксенафонта Вайцяхоўскага, яны займаліся рэгістрацыяй патэнцыйных сябраў, падрыхтоўкай Статуту. Афіцыйна пра з'яўленне арганізацыі ***«Амерыканскія прыхільнікі БЦР»*** з рэгістрацыяй у штаце Нью-Джэрзі абвесцілі на 15-м Пленуме[681]. Паколькі агульная ге-

---

Хведар Пагуда, Аркадзь Варава, У. Лазар, Юры Попка, В. Дуброўскі (Касацкі), Лявон Стоцька, Пётра Саўчыц, Янка Шымчык, Уладзімір Гуцька, Уладзімір Шнэк, Сяргей Дубіна. Спіс паводле выдання: Biuleteń BCR. XV-ty Plenum Biełaruskaje Centralnaje Rady. 1-ja sesija. 30.XI.1957. London, 1959.

[680] Аркадзь Арэхва пісаў Радаславу Астроўскаму: *«Іван Іванавіч Касяк атрымаў ужо адказ на ягонае запытаньне ў Міністэрства Юстыцыі: ці амэрыканцы беларускага паходжаньня могуць належаць да Беларускай Цэнтральнай Рады або выконваць функцыі ў яе органах. З адказу вынікае, што ён прадставіў БЦР як урад на выгнаньні. Нягледзячы аднак на такое прадстаўленьне, адказ выпаў не на душы»* (Ліст А. Арэхвы да Р. Астроўскага ад 22 студзеня 1958. Захоўваецца ў архіве БЦР у царкве св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рывэры).

[681] У справе афармлення Амерыканскіх прыхільнікаў БЦР шмат дапамог амерыканскі адвакат Сільскі.

неральная дэлегатура на ЗША гэтак і не была канчаткова афармленая, то «Амерыканскія прыхільнікі БЦР» меліся выконваць яе функцыі.

Пры канцы 1950-х гг. да «Амерыканскіх прыхільнікаў БЦР» належалі 24 чалавекі: Анатоль Плескачэўскі (старшыня), Эмануіл Ясюк, Бернард Букатка, Мікалай Карповіч, Барыс Шчорс, Ксенафонт Вайцяхоўскі, Расціслаў Завістовіч, Мікалай Новік, а. Святаслаў Коўш, а. Мікалай Лапіцкі, Васіль Місюль, Рыгор Арцюшэнка, Іван Ермачэнка, Уладзімір Траскевіч, Аркадзь Арэхва, Нікіфар Кавалёў, Васіль Пунтус, Хведар Пагуда, Янка Лічко, Янка Шымчык, Аўген Занкавіч, Пётра Орса, Хведар Высоцкі, Яўхім Цыган, Віталь Цярпіцкі, Аляксей Шудзейка[682]. У 1960 г. арганізацыя ўвайшла ў Кангрэс беларусаў Амерыкі і БККА, а затым фактычна замяніла БЦР у перыяд яе бяздзейнасці ў 1962–1974 гг. «Амерыканскія прыхільнікі БЦР» праіснавалі да канца 1970-х, калі памерлі кіраўнікі Эмануіл Ясюк (1977) і Анатоль Плескачэўскі (1980). Іншыя дзеячы палічылі бессэнсоўным далейшую дзейнасць.

Сябры БЦР таксама бралі актыўны ўдзел у працы арганізацыі «Амерыканскія прыхільнікі Антыбальшавіцкага блоку народаў» (Анатоль Плескачэўскі, Іван Касяк, Аркадзь Арэхва), якой, фактычна, кіравалі ўкраінцы.

На 15-м Пленуме БЦР было вырашана стварыць Дысцыплінарны суд БЦР, які мусіў сачыць за развязаннем розных непаразуменняў. У склад суда ўвайшлі: Яўхім Кіпель (старшыня), Аляксей Сянькевіч і Іван Аўдзей. Паўстала таксама Кантрольная камісія, якую ўзначаліў Нікандр Мядзейка, а ў яе склад увайшлі Вячаслаў Качанскі (Селях), Хведар Высоцкі. Камісія мелася весці кантроль за фінансавай, гаспадарчай і адміністрацыйнай дзейнасцю выканаўчага органу[683].

Апроч таго, удзельнікі Пленуму даручылі Радаславу Астроўскаму *«ўвайсьці ў беспасярэднія зносіны зь Філафеем і Апанасам, просячы выйсьці зь юрысдыкцыі РЗПЦ на эміграцыі, а Апанаса пераехаць у ЗША».* Дэлегаты зазначалі, што гарантуюць іерархам забеспячэнне матэрыяльнага боку, а таксама заснуюць прыходы ў Чыкага, Кліўлэндзе (Агаё) і Рокфардзе (Rockford, Іліной)[684]. Пра спадзеў на вяртанне архіепіскапа Філафея (прычым менавіта з ягонай ініцыятывы) і зварот у РЗПЦ пісаў Аляксандру Русаку ў прыватным лісце (не для шырокага розгаласу) Дзмітры Касмовіч у чэрвені 1955 г.

---

682 Спіс сябраў «Амерыканскіх прыхільнікаў БЦР». Захоўваецца ў архіве БЦР у царкве св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі, ЗША). Архіў А. Плескачэўскага.

683 Беларускае слова. №5 (37). Снежань 1957.

684 Тамсама.

У Гамбургу спаткаўся з архіяпіскапам Філафеем, зь якім вялі гутарку адносна Беларускай Аўтакефальнай Царквы. Душой і сэрцам хварэе, што абставіны так злажыліся, што ён часова не прымае актыўнага ўдзелу ў царкоўным жыцьці беларускай эміграцыі.

Зь вялікай прыемнасьцяй адышоў бы ад Заграні́чнай Расейскай Царквы і ў малітвенным абшчэньні з Канстанцінопальскім Патрыярхам вёў бы Беларускую Праваслаўную Царкву. Ён бы гэтага хацеў бы зрабіць, калі яго пераводзілі зь Вісбадэну ў Гамбург. Напісаў тады ў Сабор расейскіх япіскапаў аб вызваленьні царквы, але пытаньне тады падвісла ў паветры. Япіскапы беларускія Сьцяпан і Апанас яго не падтрымалі і нічога не адказалі. Эміграцыя беларуская таксама пасіўна аднеслася, хоць Прэзыдэнт тады вёў зь ім перамовы, але канкрэтнай дапамогі ці падтрыманьня тады не атрымаў. Аднак думку выдзяленьня БПЦ ён зрэалізуе і ўнезалежніць.

Просіць гэтымі думкамі падзяліцца з Вамі, але да агульнага ведама не пускаць[685].

Аднак архіепіскап Філафей так і не адышоў ад РЗПЦ, як не наважыўся ўзначаліць Беларускую праваслаўную царкву і архіепіскап Апанас.

У 1957 г. Астроўскі, які ў той час жыў у Лондане, вырашыў стварыць паралельны выканаўчы орган БЦР у Англіі. Кіраўніком ён прызначыў старшыню дэлегатуры і былога вучня Віленскай беларускай гімназіі Кастуся Глінскага[686].

Аднак перанос дзейнасці выканаўчага органу ў Англію (забіранне функцыяў кіраўніка ўраду ад Аркадзя Арэхвы) актывізацыі дзейнасці БЦР не паспрыяў. У пачатку 1958 г. Кастусь Глінскі прыняў брытанскае грамадзянства і, мяркуючы, што ён больш не мае права належаць да кіраўнічых структураў іншай дзяржавы, адышоў ад справаў БЦР[687]. Аднак пазней ён браў удзел у дзейнасці БВФ.

---

[685] Ліст Д. Касмовіча да А. Русака ад 5 чэрвеня 1955 г. Захоўваецца ў архіве БЦР у царкве св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі, ЗША). Тэчка «Дэлегатура БЦР у Нямеччыне».

[686] Кастусь Глінскі быў вучнем Радаслава Астроўскага ў Віленскай беларускай гімназіі, а ў 1930-х узначальваў студэнцкую арганізацыю «Скарынія». Апроч таго, ён быў сябрам Віктара Астроўскага — сына прэзідэнта. У іх нават быў падобны лёс. Абодвух бальшавікі арыштавалі ўвосень 1939 г. і выслалі пад Варкуту. Кастусь Глінскі змог запісацца ў Армію Андэрса, а Віктару Астроўскаму давялося ўцячы з лагеру, каб дабрацца да «польскага войска».

[687] Ліст Р. Астроўскага да А. Арэхвы ад 3 студзеня 1958 г. Захоўваецца ў архіве БЦР у царкве св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі, ЗША).

Ізноў асобаю нумар два ў БЦР стаў Аркадзь Арэхва, які працягваў узначальваць выканаўчы орган. Але і ён праз некаторы час спыніў грамадскую дзейнасць. Пры канцы 1950-х дзеяч прыйшоў да разумення, што за пяць гадоў жыцця ў ЗША з прычыны актыўнага ўдзелу ў грамадскім жыцці не меў часу, каб вырашыць усе фармальнасці наконт медычнай прафесіі ды здаць экзамен на доктара. Аркадзю Арэхву ў той час было ўжо пад 50 (нарадзіўся ў 1910 г.). Атрыманую ў 1930-х гг. юрыдычную адукацыю давялося забыць у паваеннай Нямеччыне як непатрэбную і перавучвацца. Там жа ён абраў перспектыўную медыцыну і нават скончыў Мюнхенскі ўніверсітэт (1953)[688]. Але цяжкія ўмовы жыцця прымусілі яго з жонкаю Вольгай і двума сынамі, Юркам і Васілём, эміграваць у ЗША. Аркадзь Арэхва меркаваў, што ў новай краіне здолее рэалізавацца ў прафесійным плане. Нямецкі дыплом неабходна было пацвярджаць у новай краіне на іспытах, якіх было больш за 20, таму справа доўга адкладалася[689]. Да кардынальнага развязання праблемы дзеяч прыйшоў у 1958 г. У лістах да сваякоў і Радаслава Астроўскага ад 31 снежня 1957 г. і 22 чэрвеня 1958 г. ён зазначаў, што прафесійна ў краіне, дзе дактары зарабляюць прыстойныя грошы, не рэалізаваўся, пяты год працуючы практыкантам у шпіталі з малым заробкам. Пісаў Аркадзь Арэхва і пра тое, што яму надакучылі сваркі сярод грамадскіх дзеячаў:

> Мне самому крыху дзіўна, але факт застаецца фактам — здарэньні і канфлікты, аб якіх я калісь расьпісваўся, мне нейк ужо астачарцелі. Не таму, што я расчараваўся, як некаторыя з нашых расчароўваюцца, каб пасьля апраўдаць гэтую сваю неактыўнасьць, мне нечым было расчароўвацца, бо я ад нікога нічога не чакаў, але безнадзейшчына нашых пачынаньняў дзейнічае на мяне прыгнятаюча[690].

Вольга Арэхва прасіла прэзідэнта БЦР абмежаваць перапіску з мужам, бо ў яго з'явілася перспектыва зрэалізаваць сябе ў прафесійным сэнсе. За гэтую магчымасць Аркадзь Арэхва ўхапіўся, з'ехаўшы ў канцы чэрвеня 1959 г. у горад Дыксан (Dixon, Ілінoй). Ягонае ліставанне з грамадскім актывам і Радаславам Астроўскім спынілася, як спынілася і праца на пасадзе старшыні выканаўчага органу БЦР.

---

688 Аркадзь Арэхва таксама паспеў павучыцца ў Марбурзе і Лювэне.

689 Лісты І. Ермачэнкі да А. Арэхвы за 1958 г. Захоўваюцца ў архіве БЦР у царкве св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі, ЗША).

690 Ліст А. Арэхвы да Р. Астроўскага ад 31 снежня 1958 г. Захоўваецца ў архіве БЦР у царкве св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі, ЗША).

## АДСТАЎКА РАДАСЛАВА АСТРОЎСКАГА

Спробы ажывіць сітуацыю ў БЦР былі зробленыя на 16-м Пленуме БЦР, які прайшоў у Саўт-Рывэры 22 кастрычніка 1960 г. У ім узялі ўдзел 29 чалавек. З прычыны адсутнасці Аркадзя Арэхвы паседжанне вёў намеснік старшыні прэзідыуму Мікалай Карповіч. На Пленуме Радаслаў Астроўскі папрасіў разгледзець пытанне аб яго адстаўцы, матывуючы сталым узростам (73 гады). Сваім пераемнікам ён назваў Яўхіма Кіпеля. Іншыя патэнцыйныя кандыдаты або адышлі ад грамадска-палітычнай дзейнасці, або сканцэнтраваліся на прафесійнай кар'еры. Гэтак, Іван Касяк узначальваў Беларускі кангрэсавы камітэт Амерыкі і вельмі раўніва ўспрымаў ціск БЦР на БККА. Апошні займеў аўтарытэт у ЗША і мяняць гэтую ўплывовую пасаду на вельмі сімвалічную ў БЦР дзеяч, якога за дзень да таго абралі на новы тэрмін у БККА, не збіраўся. Іван Ермачэнка цалкам заняўся лекарскаю практыкай. Ён быў у дырэкцыі шпіталю ў горадзе Бінгэмтан (Binghamton) на поўначы штату Нью-Ёрк. Праца не давала магчымасці прысвячаць сябе актыўнай грамадскай дзейнасці, якая патрабавала частых выездаў у Саўт-Рывэр. Дый для грамадскай дзейнасці Іван Ермачэнка, чыя палітычная кар'ера пачалася ў 1920 г., лічыў сябе старым. Далейшы ягоны ўдзел абмяжоўваўся прыездам на буйныя грамадскія святкаванні ды фінансавымі ахвяраваннямі на розныя праекты[691].

Эмануіл Ясюк, Анатоль Плескачэўскі, Ксенафонт Вайцяхоўскі, даўшы згоду балатавацца на пасаду прэзідэнта БЦР, паставілі б пад сумнеў мэтазгоднасць дзейнасці «Амерыканскіх прыхільнікаў БЦР», стварэння якіх дамагаліся на мінулым Пленуме. Супраць кандыдатуры Яўхіма Кіпеля запратэставала частка дэлегатаў. Таму просьбы прэзідэнта БЦР аб добраахвотным сыходзе на пенсію не задаволілі, а пераабралі яго на наступныя тры гады[692].

Старшынём выканаўчага органу абралі Аляксея Сянькевіча. Абнавіліся Кантрольная камісія (Нікандр Мядзейка — старшыня, Вячаслаў Качанскі і Хведар Высоцкі — сябры) і Дысцыплінарны суд (Язэп Бабр оўскі з Канады,

---

[691] Вітаўт Кіпель згадвае: *«Апошняй ягонай дзейнасьцю была хіба прысутнасьць у 1969 годзе на «Бэлэйр-Менску» ў адзначэньне 25-х угодкаў Другога Кангрэсу. Там ён меў даклад. Меўся чытаць і мой бацька, але ён у канцы ліпеня 1969 года памёр, дык запрасілі мяне. Я даклад зрабіў і ўпершыню пазнаёміўся (і апошні раз) з Ермачэнкам. Галава яго працавала вельмі добра. Казаў, што парадкаваў свой архіў»* (Ліст В. Кіпеля да аўтара кнігі ад 2 чэрвеня 2011 г.).

[692] Пратакол з 16-га Пленуму Беларускай Цэнтральнай Рады, адбыўшыгася дня 10.22.1960 у Саўт-Рывэры (Амэрыка). Копія захоўваецца ў архіве аўтара.

Раіса Евец, Ксенафонт Вайцяхоўскі). На Пленуме зацвердзілі і новы склад «Амерыканскіх прыхільнікаў БЦР», якіх узначальваў Эмануіл Ясюк. Ва ўправу цяпер увайшлі Ксенафонт Вайцяхоўскі, Аляксей Шудзейка, Уладзімір Пеляса, Віталь Цярпіцкі[693].

Склад прэзідыуму Пленуму пакінулі ранейшым: Аркадзь Арэхва — старшыня (нягледзячы на ягоны адыход ад грамадскіх справаў), Мікалай Карповіч — намеснік, Ігар Шчорс — сакратар. Першыя двое цяпер былі віцэ-прэзідэнтамі БЦР[694].

Прычыны рэзкага змяншэння кіроўнага кола і паступовае згортванне дзейнасці БЦР былі зразумелыя: да 1960 г. стала відавочна, што вяртанне на радзіму, як і скліканне Трэцяга Усебеларускага кангрэсу — далёкая перспектыва. Палітычнае месца БЦР у ЗША трывала занялі БККА і «Амерыканскія прыхільнікі БЦР», на міжнароднай арэне дзейнічаў Беларускі вызвольны фронт. Усе гэтыя арганізацыі рэальна спраўляліся са сваімі абавязкамі.

Таксама ў палітычнай вонкавай дзейнасці БЦР не вытрымлівала канкурэнцыі з Радай БНР. Своеасаблівую сімвалічнасць сваёй дзейнасці разумеў і Радаслаў Астроўскі, які пісаў:

> …няма чаго нам гуляць у нейкія міністэрствы на эміграцыі, БЦР павінна існаваць фактычна як сымбаль легітымнага беларускага прадстаўніцтва, якое павінна час ад часу даваць аб сабе знаць на міжнародным форуме, пратэстуючы супраць акупацыі нашага краю[695].

Праз два гады, 1 верасня 1962 г., і сам Радаслаў Астроўскі склаў з сябе паўнамоцтвы прэзідэнта БЦР, падаўшы ў адстаўку. Сыход у лісце да Аркадзя Арэхвы ён патлумачыў узростам (75 гадоў), кепскім станам здароўя, а таксама жаданнем узяцца за напісанне ўспамінаў:

> 6 лістапада 1962 г. канчаецца мне 75 год, г. зн. надыйдзе максымальны рубеж веку, калі чалавек яшчэ мог пры нармальных абставінах быць актыўным у грамадзкім і палітычным жыцьці.
>
> У сувязі з гэтым і прыймаючы пад увагу яшчэ іншыя фактары, як стан майго здароўя, а таксама жаданьне пакінуць для будучых пакаленьняў зафіксаваныя на паперы некатарыя, нікому дагэтуль невядомыя фрагмэнты з больш як поўвяковае барацьбы беларускага

---

693 Пратакол з 16-га Пленуму Беларускай Цэнтральнай Рады…

694 Тамсама.

695 Biuleteń BCR. XV Plenum Biełaruskaje Centralnaje Rady, 1-ja sesija 30.XI, 1957. London, 1959.

народу за сваю дзяржаўную незалежнасьць, я пастанавіў з дня 1 верасьня 1962 г. адыйсьці ад актыўнае палітычнае дзейнасьці і зрачыся Прэзыдэнтуры ў Беларускай Цэнтральнай Радзе.

Падаючы аб гэтым да Вашага ведама, я адначасна выказваю Вам асабіста, усім сябрам Прэзыдыюму і Выканаўчага органу БЦР, а таксама ўсім іншым супрацоўнікам БЦР сваю шчырую падзяку за тую дапамогу, якую Вы й усе іншыя сябры БЦР выказвалі падчас нашай супольнай працы на працягу апошніх 20 год.

З шчыраю пашанаю Ваш Радаслаў Астроўскі[696].

Аркадзь Арэхва склікаў на 26 жніўня 1963 г. паседжанне сябраў усіх органаў БЦР у Саўт-Рывэры. Удзел у ім узялі дзевяць чалавек з 12, аднак вынік не быў дасягнуты. Пастанавілі адкласці пытанне на наступнае паседжанне, але даты не прызначылі[697]. Ні Аркадзь Арэхва, ні старшыня выканаўчага органу Аляксей Сянькевіч не здолелі, а можа і не жадалі, павесці за сабою БЦР пасля адстаўкі Радаслава Астроўскага.

Грамадскі дзеяч у Нямеччыне Дзмітрый Касмовіч вінаваціў прэзідэнта БЦР у бяздзейнасці. Касмовіч быў актыўны амбітны дзеяч, які фактычна аднаасобна цягнуў працу БВФ. Але ён стараўся рэальна глядзець на рэчы і ацэньваць свае магчымасці. Здаровы сэнс падказваў, што кіраўніцтва ў БЦР стане для яго дадатковаю цяжкай ношаю. Са свайго боку Радаслаў Астроўскі быў вымушаны апраўдвацца:

Я, як Вам ведама, тры гады таму зрокся становішча Прэзыдэнта БЦР і адышоў ад усякай дзейнай палітыкі. Матыў Вам ведамы — гэта немагчымасьць выконваць свой абавязак у сувязі з сваім здароўем і сваім векам. Я, дзякуй Богу, хоць і стары, але яшчэ пры «здравом уме і цьвёрдай памяці», каб ня ведаць, што я магу, а чаго не магу. Што ж датычыць добрае рады, дык па сёньняшні дзень кожнаму, хто да мяне зварочваецца, я перадаю сваю шчырую раду, а ці добрая яна, ці благая — судзіць ня мне.

[…] БЦР упала ў летаргічны сон не таму, што нічога ніхто не хацеў або ня хоча рабіць[698], а таму што Старшыня Прэз. Пленуму *[Аркадзь*

---

[696] Ліст Р. Астроўскага да А. Арэхвы ад 30 ліпеня 1962 г. Копія захоўваецца ў архіве аўтара кнігі.

[697] Запіс Н. Мядзейкі на лісце да яго А. Арэхвы ад 9 жніўня 1962 г. Копія захоўваецца ў архіве аўтара.

[698] Дзмітры Касмовіч у сваіх лістах увесь час пісаў, што БЦР — бяздзейная, і амерыканскія дзеячы нічога не робяць.

> *Арэхва — А. Г.]*, на нашае няшчасьце, захварэў паважна і вось у працягу трох гадоў нельга было і думаць аб скліканьні Пленуму. Цяпер, дзякуй Богу, ён крыху акрыяў і хоча склікаць Пленум на ліпень г. г. *[1966. — А. Г.]*, аб чым, зразумела, усіх паведаміць. Ці гэты Пленум дасьць нам нейкі пажаданы вынік? Цяжка на гэта адказаць, але гэта для нас вялікая праблема, бо цяжка знайсьці ахвотніка на гэты пасад. Але забягаць наперад ня будзем.
>
> Тое, што на Вас вешаюць сабак бальшавікі, не праймайцеся, бо на мяне яны вешаюць такіх сабак ужо 48 год, але, аднак, «жыве Курылка» — Бог ня выдасьць — сьвіньня ня зьесьць — кажа нашая прыказка. Урэшце, горай было б, каб бальшавікі нас хвалілі, бо тады трэба было б шукаць тую памылку, якую мы робім. А калі ганяць, дык усё ў парадку і займаная намі пазыцыя правільная[699].

Запланаваны на 1966 г. Пленум БЦР гэтак і не адбыўся. З канца 1960-х з палітычнага жыцця часова на некалькі гадоў выпаў саўт-рывэрскі асяродак, які цалкам сканцэнтраваўся на будаўніцтве новай царквы прыходу св. Еўфрасінні Полацкай. У той самы час ладная частка беларускага грамадства ў ваколіцах Нью-Джэрзі / Нью-Ёрку займалася securityнованабытай грамадскай гаспадаркай — рэсортам «Бэлэйр-Менск» (Belair-Miensk).

Такім чынам, дзейнасць БЦР з адстаўкай Астроўскага чарговы раз прыпынілася.

## ДЭЛЕГАТУРЫ БЦР

Для дзейнасці ў розных краінах і больш шчыльнай працы з палітыкамі і грамадскімі дзеячамі, каардынацыі працы беларускіх арганізацыяў на месцах у БЦР прадугледжвалася ствараць дэлегатуры. Кожная з іх павінна была складацца з чатырох чалавек: старшыні, ягонага намесніка (сакратара), кіраўніка аддзелу фінансаў, а таксама кіраўніка аддзелу культуры, прэсы і прапаганды.

Першыя дэлегатуры БЦР былі створаныя ў 1950 г. у Вялікай Брытаніі (першы кіраўнік — Аркадзь Варава), Аўстраліі (кіраўнік — Міхась Зуй), ЗША (кіраўнік — Эмануіл Ясюк).

---

[699] Ліст Р. Астроўскага да Дз. Касмовіча ад 6 студзеня 1966 г. Копія захоўваецца ў архіве аўтара.

У **Нямеччыне** спачатку дзейнічалі дзве дэлегатуры: на паўднёвую частку ў 1950-х была створаная дэлегатура на чале з Аркадзем Арэхвам; на заходнюю частку краіны — дэлегатура з сядзібай у Боне (ёй кіраваў Уладзімір Сенька).

Пасля таго, як Аркадзь Арэхва ў красавіку 1953 г. выехаў у ЗША, пастанавілі аб'яднаць дэлегатуры, і агульную ўзначаліў Уладзімір Сенька, а з 30 кастрычніка 1954 г. — кіраўнік БВФ Дзмітры Касмовіч. Ягоным намеснікам быў сакратар Мікалай Карповіч[700], у склад прадстаўніцтва таксама ўвайшлі Палікарп Манькоў (выехаў у ЗША ўлетку 1957 г.) і Сцяпан Стоцька. У функцыі дэлегатуры ўваходзілі: збор ахвяраванняў на грамадскія справы, удзел і арганізацыя святкаванняў пад эгідаю БЦР, а таксама праца з мясцовымі чыноўнікамі і грамадскімі дзеячамі. Пасля таго, як дэлегатуру ўзначаліў Дзмітры Касмовіч, яго праца ў БВФ пачала дубляваць яе дзейнасць.

Вялікая дэлегатура, якой кіраваў Міхась Зуй, была створаная ў **Аўстраліі** (Алесь Алехнік быў прызначаны сакратаром арганізацыі, Усевалад Родзевіч — кіраўніком аддзелу фінансаў, Барыс Стукач — кіраўніком аддзелу культуры, прэсы і прапаганды). Дэлегатура шчыльна кантактавала з Беларускім аб'яднаннем у Сіднэі, супольна праводзячы святкаванні, у тым ліку 25 Сакавіка, угодкі Другога Усебеларускага кангрэсу, Слуцкага збройнага чыну. Пры пасярэдніцтве дэлегатуры заснавалі Беларускі нацыянальны фонд у Аўстраліі, які налічваў 39 чалавек і рэгулярна збіраў ахвяраванні на грамадскую дзейнасць, прэсу, дабрачынныя мэты. У пачатку 1950-х сабраныя дэлегатурай у Аўстраліі грошы былі накіраваныя на дапамогу беларусам у Нямеччыне.

У пачатку 1950-х, пасля заснавання агульнай дэлегатуры на **ЗША** і далейшага пашырэння шэрагаў беларускай грамады, планавалася зрабіць некалькі прадстаўніцтваў у гэтай краіне: асобныя дэлегатуры ў Нью-Ёрку, Чыкага, Клíўлэндзе, Каліфорніі (Лос-Анджэлесе). Але гэтая ідэя не ажыццявілася.

Паказальны ў гэтым сэнсе прыклад Каліфорніі, дзе дэлегатура праіснавала, і то на паперы, няпоўныя паўтара года, дублюючы дзейнасць аддзелу Злучанага беларуска-амерыканскага дапамаговага камітэту і прадстаўніцтва БККА. Кіраўнік аддзелу ЗБАДК Часлаў Найдзюк быў вызначаны кіраўніком дэлегатуры, але хутка адмовіўся ад абавязкаў[701].

700 Было два Мікалаі Карповічы: адзін жыў у Нямеччыне, другі — у ЗША.
701 Гардзіенка, Алег. Беларускі кангрэсавы камітэт Амэрыкі (БККА)… С. 188–189.

У **Вялікай Брытаніі** былі заснаваныя дзве дэлегатуры: агульная на Англію (па чарзе ўзначальвалі Аркадзь Варава (1950–1953), Барыс Суравы (1953–1955), Аркадзь Варава (1955–1957), потым — Кастусь Глінскі), і ў 1953 г. была заснаваная асобная дэлегатура ў рэгіёне Ёркс-Ланшайр, дзе жыла значная беларуская грамада. Кіраўніком рэгіянальнай дэлегатуры быў вызначаны Сяргей Шчэрба (Аляксандр Калько — сакратар, Міхась Пратасевіч — кіраўнік аддзелу фінансаў, Міхась Іскрыцкі — кіраўнік аддзелу культуры, прэсы і прапаганды). Але яна праіснавала не больш за год: яе чальцы падтрымалі ў канфлікце з Радаславам Астроўскім кіраўніка БВР Людвіка Зарэчнага, і прэзідэнт БЦР развязаў структуру[702].

У пачатку 1950-х гг. была заснаваная дэлегатура БЦР у **Аргентыне** (кіраўнік — Пятро Саўчыц), але яе дзейнасць была сімвалічнай. Колькасна прыхільнікаў БЦР у гэтай лацінаамерыканскай краіне было мала, і сімпатыкі БЦР і БНР мусілі супрацоўнічаць, каб супрацьстаяць прадстаўнікам прасавецкіх арганізацыяў.

Аналагічныя праблемы з адсутнасцю патрэбных людзей меў і кіраўнік дэлегатуры ў **Францыі** Нікандр Мядзейка. На пасаду яго прызначылі ў верасні 1952 г., і фармальна ён выконваў свае абавязкі да лютага 1954 г., пакуль не выехаў у ЗША. Старшыня не меў магчымасці весці шырокую грамадскую працу з раз’ездамі з прычыны складанага матэрыяльнага становішча, да таго ж колькасць прыхільнікаў БЦР была настолькі малая, што гублялася на фоне дзейнасці БНРаўцаў і Хаўрусу беларускіх арганізацыяў. Сярод прычынаў гэтага Нікандр Мядзейка называў ведзеную прыхільнікамі БНР прапаганду ў выглядзе бясплатнай рассылкі прэсы (газетаў «Бацькаўшчына», «Беларус», часопісу «Божым шляхам»), а таксама дабрачынную акцыю Беларускай каталіцкай місіі ўсходняга абраду сярод эмігрантаў для размеркавання амерыканскай адзежы[703]. Дэлегатура спыніла дзейнасць з ад’ездам яе старшыні ў ЗША.

У **Іспаніі** актыўных прыхільнікаў БЦР было ўсяго два: Уладзіслаў Рыжы-Рыскі і Генрык Юзэфовіч. Першы здолеў развіць бурную дзейнасць як кіраўнік дэлегатуры, ён заснаваў у Мадрыдзе грамадскі Інстытут беларусаведы імя Льва Сапегі, які, праўда, складаўся з лічаных асобаў. Уладзіслаў Рыжы-Рыскі таксама паспрабаваў заснаваць на Іспанскім нацыянальным радыё беларускія праграмы, але зазнаў паразу. У 1950-х праграмы былі ство-

---

702 Гардзіенка, Наталля. Беларусы ў Вялікабрытаніі… С. 329–331.

703 Ліст Н. Мядзейкі да А. Русака ад 31 кастрычніка 1952 г. Захоўваецца ў архіве аўтара кнігі.

раныя радным БНР Янка Сурвілам. Пазней Уладзіслаў Рыжы-Рыскі трапіў у цяжкае матэрыяльнае становішча, і БЦР нават высылала яму штомесяц па 20 даляраў. Урэшце Рыжы-Рыскі выехаў у 1959 г. у ЗША[704].

Сімвалічнае значэнне мела і дэлегатура ў **Канадзе**, дзе спачатку прадстаўніком БЦР быў Язэп Пітушка, затым — Барыс Сладкоўскі, а потым — Віктар Ждан.

Такім чынам, дзейнасць дэлегатураў БЦР у большасці краінаў зводзілася да фармальнага ўдзелу ў грамадскім жыцці, пераважна для прэзентацыі платформы БЦР перад уладамі. Галоўную ролю ў гэтых краінах адыгрывалі грамадскія арганізацыі.

---

704 Свой прыезд у ЗША Уладзіслаў Рыжы-Рыскі разрэкламаваў як прыезд у Прыстанскі ўніверсітэт на запрашэнне рэктара чытаць курс тэалогіі, што было няпраўдай.

# АПОШНІ ПЕРЫЯД ДЗЕЙНАСЦІ БЕЛАРУСКАЙ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ (1970–1990-Я ГГ.)

## ЧАРГОВАЕ АДНАЎЛЕННЕ БЦР

Радаслаў Астроўскі вярнуўся да актыўнай палітычнай дзейнасці ў жніўні 1974 г. ва ўзросце 86 гадоў. У 1973 г. ён перанёс апаплексічны ўдар. Магчыма, актывізацыі палітычнай дзейнасці паспрыяў ціск зяця і дачкі: Мікалая і Галіны Мінкевічаў.

17 жніўня 1974 г. Радаслаў Астроўскі заявіў, што вяртаецца на пасаду прэзідэнта, і даручыў новаму старшыню выканаўчага органу, быломy прадстаўніку БЦР у Аргентыне Пятру Саўчыцу, склікаць на 26 кастрычніка 1974 г. у Саўт-Рывэры 17-ты Пленум БЦР[705]. У склад новага выканаўчага органу ўвайшлі: сакратар — Віталь Цярпіцкі, скарбнік — Нікандр Мядзейка, чальцы — а. Мікалай Лапіцкі, Іван Касяк, Андрэй Мінчук, Янка Шымчык, Эмануіл Ясюк; прадстаўнікі БЦР у розных краінах: ад Вялікай Брытаніі — Кастусь Глінскі, ад Нямеччыны — Дзмітры Касмовіч, ад Канады — Барыс Сладкоўскі (Таронта), Уладзімір Гуцька (Ўініпэг, Winnipeg), ад Аўстраліі — Міхась Зуй. Апроч таго, Радаслаў Астроўскі прапанаваў некалькім дзеячам далучыцца да грамадскай працы, але атрымаў шэраг адмоваў.

Сярод тых, хто адмовіўся, былі Леанід Галяк і Вітаўт Кіпель. Першы рабіў гэта неаднойчы (першы раз у 1948 г.). Вітаўт Кіпель прапаноўваў прэзідэнту БЦР не спрабаваць зноў умешвацца ў грамадска-палітычнае жыццё эміграцыі, а заняцца больш карыснай і стваральнай працаю, напрыклад, выданнем зборнікаў дакументаў па гісторыі БЦР:

---

[705] Загад Прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага ад 17 жніўня 1974 г. Копія захоўваецца ў архіве аўтара.

Вельмі Паважаны Спадар Астроўскі!

Унасьледак за атрыманымі 2-а лістамі: першы ад спадара Н. Мядзейкі за Вашым подпісам аб наданьні вайсковай рангі, а другі ліст апытальны з Брукліну, аднак з Вашым адваротным адрасам, гэтта адказваю наступнае:

— я не згаджаюся ўступіць у сябры БЦР, ні выконваць якоенебудзь функцыі гэтага органу;

— настойліва прашу выкрасьліць мяне зь лісты асобаў, якім Вамі былі нядаўна наданыя афіцэрскія рангі.

Лічу нацыянальным абавязкам выказаць мой погляд на паўсталую сытуацыю. Гэтая чародная акцыя з боку БЦР — ёсьць непаважная і, літаральна, не вытлумачальная. У беларускае грамады, у Вольным сьвеце, перадусім у тае часткі, якая лічыць беларускім здабыткам і астатнім словам у дзялянцы нашага дзяржаўна-адміністрацыйнага жыцьця, нацыянальную працу пры немцах, а другая частка нашага грамадзтва, як Вам ведама, жыцьцё і дзейнасьць БЦР лічыць скончанай у 1945 г. — выкліча незадавальненьне, абурэньне, пачуцьцё нялоўкасьці і абаснаваную насьмешку. На мой погляд, БЦР зрабіла б значна большую паслугу беларускаму нацыянальнаму руху, каб падрыхтавала і надрукавала паважныя тамы матэрыялаў да гісторыі Беларусі пэрыяду 1941–1945 гг., заміж імкненьня ўвайсьці ў адміністрацыйна-грамадзкае жыцьцё беларускае грамады ў Злучаных Штатах[706].

У прыведзеным лісце згадваецца неадназначная ініцыятыва БЦР: Радаслаў Астроўскі і старшыня прэзідыуму Нікандр Мядзейка распрацавалі праект надання рангаў высокіх вайсковых званняў: генералаў, палкоўнікаў, маёраў і ніжэй — грамадскім, царкоўным і палітычным дзеячам. Так, згодна з дэкрэтам прэзідэнта БЦР, у 1974 г. генераламі сталі: Алесь Алехнік, Віктар Астроўскі, Аркадзь Арэхва, архіепіскап Апанас (Мартас), Леанід Галяк, Канстанцін Глінскі, Аркадзь Евец, Міхаіл Зуй, Іван Касяк, Дзмітры Касмовіч, а. Мікалай Лапіцкі, Мікалай Мінкевіч, Пётра Орса, Юры Стукаліч (Віцьбіч), Мікалай Шчорс, Эмануіл Ясюк. Палкоўнікамі — Вітаўт Кіпель, Мікалай Карповіч, Мікола Латушкін, Андрэй Мінчук, Галіна Мінкевіч, Нікандр Мядзейка, Янка Панкевіч, Язэп Пітушка, Анатоль Плескачэўскі, Юры Попка, Васіль Пунтус, Усевалад Родзевіч, Пятро Саўчыц, Уладзімір

[706] Ліст В. Кіпеля да Р. Астроўскага ад 21 верасня 1974 г. Копія захоўваецца ў архіве аўтара.

Сенька, Барыс Сладкоўскі, Барыс Суравы, а. Пётра Татарыновіч, Макар Аблажэй, Міхась Шэка, Віктар Гладкі. 26 чалавек сталі капітанамі (у тым ліку Вольга Арэхва, Лянгіна Брылеўская, Надзея Касмовіч і Надзея Абрамава), 5 — старшымі лейтэнантамі, 12 — лейтэнантамі. Былі таксама ўведзеныя ордэны Пагоні, Крыж Заслугі БКА, медаль «Беларускія ветэраны на чужыне», якія замаўляў у Нямеччыне Юры Попка[707]. У такіх намінаваннях была і практычная карысць. Дыплом аб узвядзенні ў той ці іншы ранг каштаваў ад 30 да 50 даляраў, што магло прыцягнуць у БЦР дадатковыя фінансы, а намінаваную асобу — да больш актыўнай грамадскай дзейнасці[708]. Праўда, пазней аплата дыпломаў стала неабавязковай.

Як у шэрагах БЦР, гэтак і ўвогуле сярод грамадскіх дзеячаў на эміграцыі знайшлося багата крытыкаў такой ініцыятывы. Старшыня «Амерыканскіх прыхільнікаў БЦР» Эмануіл Ясюк рэзка пісаў Радаславу Астроўскаму:

> Гэта выглядае вельмі непаважна, а нават сьмешна. Аж 16 генэралаў. Не тварэце вайсковае хунты. Калі ходзіць аб генэралах, дык на маю думку мянуйце толькі двух. Гэта Камандзіра ЗБАВ *[Згуртавання беларуска-амерыканскіх ветэранаў. — А. Г.]* А. Мінчука на Амэрыку і Д. Касмовіча на Эўропу, як людзей сапраўды вайсковых. Сьпісак на рангі афіцэраў, які падаў Камандзір ЗБАВ Мінчук ды які зацьвердзілі, гэта вельмі, вельмі лягічна і слушна, але не ў якім выпадку не другую лісту.
>
> Я асабіста шчыра дзякую за такі вялікі гонар стацца генэралам, але, на вялікі жаль, прыняць не магу. Я працаваў і надалей буду працаваць па лініі палітычнай. [...] Прашу Вас ветліва, Спадар Прэзыдэнт, перадумаць і не рабіць гэтай камэдыі. Прашу ня гневацца на мяне, бо пішу шчыра, ад сэрца, як патрыёт[709].

---

707 У 1976 г. Радаславу Астроўскаму на зацверджанне былі пададзеныя 147 кандыдатаў, каго варта было ўзнагародзіць ордэнамі і медалямі. Падлікі аўтара.

708 Прывядзем у якасці доказу ліст, напісаны храналагічна пазней, у 1979 г., але які закранае гэтую ж праблему і паразітуе на неабходнасці ўлучэння згаданай асобы ў грамадскае жыццё:

*«Прэзыдэнту БЦР Нікандру Мядзейку… Вы далі яму [М. Монічу] рангу старшага сяржанта, гэта проста сьмешна, быў малады хлопец страціў нагу, 13-ць цэнтрымэтраў каротшая, на якой ходзіць, але ня гнецца. [...] На маю думку гэта можна лепяй зрабіць, каб чалавек быў задаволены, гэта паперка дае толькі патрымку душы, што ён нешта варты беларус. Далі бы яму рангу старшы лейтэнант, бо ён ёсьць такі і ад ніякай нашай справы не адкажацца. Палкоўнік П. Нягода»* (Ліст П. Нягоды да Н. Мядзейкі ад 28 студзеня 1979 г. Копія захоўваецца ў архіве аўтара).

709 Ліст Э. Ясюка да Р. Астроўскага ад 17 верасня 1974 г. Копія захоўваецца ў архіве аўтара.

Адмовіўся ад рангу генерала і архіепіскап Апанас (Мартас), выказаўшы здзіўленне і неразуменне з прычыны сваёй намінацыі:

> Я епіскап праваслаўнай царквы гражданскі, не вайсковец. Як бы я састаяў на вайсковай службе і быў галоўным вайсковым капэлянам, можа такая ўзнагарода апраўдалася б. Але ў маім стане цяпер ніяк гэты высокі вайсковы чын не належыцца. Таму шчыра я дзякую Вам, Гаспадар Прэзыдэнт, за высокую ацэнку маёй дзейнасьці для Беларусі на Беларусі, але не на эміграцыі…[710]

Адмовіўся ад звання генерала і Юрка Віцьбіч, патлумачыўшы ў сваім кароткім лісце, што куды больш камфортна пачуваецца ў набытым справядлівым шляхам званні лейтэнанта артылерыі, але сваім галоўным прызваннем лічыць пісьменніцтва[711].

«Генеральскае» пытанне абмяркоўвалася на грамадскай нарадзе ў Саўт-Рывэры, дзе яно выклікала абурэнне сярод ветэранаў. Нікандр Мядзейка пісаў з гэтай прычыны прэзідэнту БЦР:

> Я змушаны Вас праінфармаваць, што гэтыя намінацыі выклікалі абурэньне і незадавальненьне. Дня 28 верасьня 1974 г. у Саўт-Рывэры адбыўся сход вэтэранаў, якія напісалі Вам пратэст проціў гэтых намінацый, а таксама грозячы, што ніхто на Пленум БЦР ня прыйдзе[712].

Адбылося, як прагназаваў Нікандр Мядзейка. Абурэнне вайсковымі званнямі ды рэанімацыяй БЦР прывялі да таго, што Радаслаў Астроўскі мусіў перанесці дату Пленуму. Варта зазначыць, што практыка надання высокіх званняў працягнулася і надалей, у часы наступнага прэзідэнта[713].

---

[710] Ліст архіепіскапа Апанаса да Р. Астроўскага ад 4 кастрычніка 1984 г. Копія захоўваецца ў архіве аўтара кнігі.

[711] Ліст Ю. Віцьбіча да Н. Мядзейкі. Без даты. Копія знаходзіцца ў прыватным архіве аўтара.

[712] Ліст Н. Мядзейкі да Р. Астроўскага ад 23 верасня 1974 г. Захоўваецца ў архіве БЦР у царкве св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі, ЗША). Тэчка «17-ты Пленум БЦР».

[713] Паказальны ліст да другога прэзідэнта БЦР Нікандра Мядзейкі ад чыкагаўскага актыву:

*Ваша Высокая Эксцэленцыя Прэзыдэнт БЦР Нікандр Мядзейка!*

*Мы, беларускія афіцэры Беларускай Краёвай Абароны, у складзе: палкоўнік Пётр Нягода, палкоўнік Васіль Пунтус, Мікалай Латушкін палкоўнік, палкоўнік Даніла Швэфэль, зьвяртаемся да Вас Прэзыдэнт з наступнай просьбай.*

Радаслаў Астроўскі прызначыў Пленум на 5 ліпеня 1975 г. у Саўт-Рывэры, але і гэтым разам Пленум не адбыўся. Цяпер яго адцягнула чарговая хвароба прэзідэнта, а таксама тэлефанаванні з пагрозамі на адрас Івана Касяка і Пятра Саўчыца. Прадстаўнікі габрэйскай грамады вінавацілі БЦРаўцаў у супрацоўніцтве з нацыстамі[714]. Таксама ў Саўт-Рывэры 6 чэрвеня 1975 г. памёр адзін з кіраўнікоў беларускага грамадскага жыцця, ініцыятар стварэння Беларуска-амерыканскага грамадскага цэнтру Барыс Шчорс. Смерць гэтага дзеяча стала вялікім ударам для грамады.

Не ўдалося склікаць Пленум і ўвосень 1975 г. 31 жніўня ў Лондане памёр Віктар Астроўскі. Смерць сына, які за некалькі дзён перад гэтым вярнуўся з паездкі ў ЗША ад бацькі, стала моцным ударам для Радаслава Астроўскага. Цяпер прэзідэнт БЦР цвёрда пастанавіў склікаць Пленум, на якім мусіла вырашыцца пытанне ягонага пераемніка, а таксама пытанне архіву.

Старшыня БККА Іван Касяк лічыў, што неабходна даць магчымасць Радаславу Астроўскаму адбыць прэзідэнцтва да канца, а пасля гэтага паступова пачаць згортваць дзейнасць БЦР, пакінуўшы справу сям'і.

> Астроўскі мае адбыць свой тэрмін да сканчэньня жыцьцёвага шляху, каб закончыць пэрыяд гістарычнай установы, якую ён стварыў, што будзе карысна, як для гісторыі БЦР, так і для самога сп. Астроўскага, на што ён поўнасьцю заслужыў сваёй доўгатрывалай карыснай і ахвярнай дзейнасьцю на беларускай нацыянальнай ніве.
>
> Магчыма, што сп. Астроўскі хацеў, каб прэзыдэнтура БЦР захавалася пры яго сям'і, якая зможа найлепш годна ўтрымліваць традыцыю гэтай гістарычнай установы. Штосьці падобнае маецца ва ўкраінцаў пры перахоўваньні традыцый гетмана Скарападскага — яго дачка зьяўляецца носьбітам гэтай традыцыі ў сучаснасьці[715].

---

*У сувязі з 65-годзьдзем, якое споўніцца 23-га сакавіка 23 красавіка 1984 г. палкоўніку Ўладзіміру Хмелю просім Вас Высокая Эксцэленцыя, Прэзыдэнт БЦР, прысвоіць высокае званьне генэрал-маёра Уладзіміру Хмелю за выдатныя заслугі на ніве Беларускага Адраджэнскага Руху на Бацькаўшчыне і на эміграцыі.*

*З глыбокай пашанай усе мы Палкоўнікі да Вас Прэзыдэнта БЦР.*

*З пасылкай 50 даляраў* (Ліст захоўваецца ў архіве БЦР у царкве св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы (Нью-Джэрсі, ЗША). Тэчка «17-ты Пленум БЦР»).

[714] Ліст М. Мінкевіча да М. Зуя ад 22 лютага 1976 г. Копія захоўваецца ў архіве аўтара.

[715] Ліст І. Касяка да К. Глінскага ад 21 верасня 1975 г. Копія захоўваецца ў архіве аўтара.

Іван Касяк таксама не выключаў пераемнасці ды нават сам шукаў адпаведную кандыдатуру па-за колам сям'і Астроўскага. Такімі людзьмі ён бачыў Дзмітрыя Касмовіча і Кастуся Глінскага. Але абодва адмовіліся ад ганаровай місіі, матываваўшы праблемамі са здароўем[716].

17-ты Пленум БЦР прайшоў 3–4 ліпеня 1976 г. у Чыкага ў грамадскай зале царквы св. Юрыя. Старшынём Пленуму абралі Нікандра Мядзейку, у склад мандатнай камісіі ўвайшлі Мікалай Мінкевіч, Міхась Каленік, Віталь Цярпіцкі. Не прысутнічалі старшыня 16-га Пленуму Аркадзь Арэхва (ён меўся паводле Статуту адкрываць паседжанне)[717], а таксама сакратар 16-га Пленуму Ігар Шчорс і былы старшыня выканаўчага органу Аляксей Сянькевіч.

Удзел у 17-м Пленуме ўзялі 43 чалавекі — усе яны былі з ЗША, прычым большасць складалі прадстаўнікі Чыкага. Сябры з Аўстраліі (6), Канады (6), Вялікай Брытаніі (3), Нямеччыны (3), Швецыі і Францыі (па адным мандаце) традыцыйна перадалі паўнамоцтвы амерыканскім калегам. Дэлегаты рэпрэзентавалі наступныя арганізацыі: Беларускі кангрэсавы камітэт Амерыкі, Злучаны беларуска-амерыканскі дапамаговы камітэт, намінальна існае Беларускае цэнтральнае прадстаўніцтва, дэлегатуры БЦР у Аўстраліі, Вялікай Брытаніі, Нямеччыне і Канадзе, краёвыя штабы Беларускага вызвольнага фронту ў Вялікай Брытаніі, Аўстраліі, Ўініпэгу (Канада), Кліўлэндзе (ЗША), беларускія аб'яднанні ў Канадзе, Аўстраліі, Швецыі, Францыі, Згуртаванне беларуска-амерыканскіх ветэранаў (галоўны штаб і аддзел у Саўт-Рывэры), прыходы ў Саўт-Рывэры, Чыкага, Рычманд-Гіле (Richmond Hill), Таронта, Беларуска-амерыканскую нацыянальную раду ў Чыкага, «Амерыканскіх прыхільнікаў БЦР»[718].

З прамоваю-справаздачай выступіў Радаслаў Астроўскі. Ён без папярэдняга абмеркавання вызначыў будучы кіраўнічы апарат: 1-шы віцэ-прэзідэнт — Нікандр Мядзейка, 2-гі віцэ-прэзідэнт — Міхась Зуй (старшыня дэлегатуры ў Аўстраліі, кіраўнік Беларускага нацыянальнага фонду), планавалася ўвесці

---

[716] Дзмітры Касмовіч зазначаў: *«Маю праблемы са здароўем, высокі ціск крыві і кепскі рытмус сэрца. Дактары не рэкамэндавалі ўсякія высілкі, вымагаюць спакою»* (Ліст Дз. Касмовіча да І. Касяка ад 5 кастрычніка 1975 г. Захоўваецца ў архіве БЦР у царкве св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі, ЗША). Тэчка «17-ты Пленум БЦР»).

[717] У 1970-х Аркадзь Арэхва кантактаваў з іншымі дзеячамі БЦР або перасылкай чэкаў-ахвяраванняў, або пераказанняў паўнамоцтваў на іншых людзей.

[718] Пратакол 17-га Пленуму БЦР, які адбыўся 3 і 4 ліпеня 1976 г. у Чыкага, Злучаныя Штаты Амэрыкі. Копія захоўваецца ў архіве аўтара.

спецыяльную пасаду 3-га віцэ-прэзідэнта пад Кастуся Глінскага, але той адмовіўся[719].

Сакратаром БЦР стаў Алесь Алехнік. Пятро Саўчыц застаўся старшынём выканаўчага органу. У склад выканаўчага органу ўвайшлі: Аркадзь Сацэвіч і Янка Шымчык (Кліўлэнд), Міхась Каленік і Пятро Нягода (Чыкага), Кастусь Глінскі і Павел Юнах (Вялікая Брытанія), Уладзімір Гуцька, Іван Бурдзь (Ўініпэг, Канада), Барыс Сладкоўскі і Міхась Кухарчык (Таронта, Канада). Пытанне пра пераемніка Астроўскага на пасадзе прэзідэнта БЦР не абмяркоўвалася[720].

Радаслаў Астроўскі памёр 17 кастрычніка 1976 г., на 89-м годзе жыцця, у шпіталі гораду Бэнтан-Гарбар (Benton Harbor, Мічыган)[721]. Пахавалі першага прэзідэнта БЦР у Саўт-Рывэры на беларускім могільніку св. Еўфрасінні Полацкай 23 кастрычніка 1976 г. пры вялікай колькасці народу (адпявалі пяць святароў) і ганаровай варце ветэранаў.

Такім чынам, Радаслаў Астроўскі ўдзельнічаў у грамадскім руху амаль 70 гадоў, з іх 33, з перапынкам, з 1943 да 1976 г., ён узначальваў Беларускую Цэнтральную Раду. Часопіс «Божым шляхам», адгукнуўшыся на смерць дзеяча некралогам, адзначыў сімвалічнасць імя «Радаслаў», адзначыўшы, што чалавек з такім імем увесь час нёс цяжар прэзідэнцтва ў БЦР.

За тры дні да смерці, 14 кастрычніка 1976 г., Радаслаў Астроўскі выдаў апошні дэкрэт: «Аб выданні бюлетэня Беларускай Цэнтральнай Рады — афіцыйнага органу БЦР»:

> Бюлетэнь Беларускай Цэнтральнай Рады, які мусіць быць рэдагаваны праз Рэдакцыйную Калегію Выканаўчага Органу БЦР.
>
> Зьмест Бюлетэню мусіць быць паважны, гістарычна праўдзівы і выключна грамадзкі, маючы на ўвазе дабро Беларускай справы ў духу ідэалаў 25 Сакавіка і згодны з пастановамі 2-га Ўсебеларускага Кангрэсу і Статутам БЦР.
>
> Кошты выданьня «Бюлетэню БЦР» мусяць быць пакрываныя празь Беларускі Нацыянальны Фонд з тым, што дабравольныя ахвя-

[719] Пратакол 17-га Пленуму БЦР, які адбыўся 3 і 4 ліпеня 1976 г. у Чыкага…

[720] Тамсама.

[721] У перыяд, што прайшоў з часу 17-га Пленуму, памерлі тры прыкметныя асобы ў БЦРаўскім руху: святар Мікалай Лапіцкі (8 жніўня 1976), які разам з паплечнікамі стварыў асяродак у Саўт-Рывэры, Вячаслаў Селях-Качанскі (8 жніўня 1976) — вядомы дзеяч культурніцкага кірунку, Хведар Высоцкі — актывіст БККА і прыходу св. Еўфрасінні Полацкай.

ры на БНФ за атрыманы Бюлетэнь пакрываюць цалкавіта або часткова кожнае выданьне «Бюлетэняя БЦР».

Асабіста ўважаю, што найлепшым месцам выдаваньня Бюлетэня БЦР ёсьць Беларуская Парафіяльная Друкарня ў Саўт-Рывэры[722].

Першы нумар «Бюлетэню БЦР» выйшаў у снежні 1976 г. Выданне друкавалася ў Саўт-Рывэры, але яго рэдагаваў у Нямеччыне Юры Попка (псеўданім Кастусь Каліна)[723]. Усяго да лістапада 1986 г. выйшла 12 нумароў (колькасць старонак вагалася ад 20 да 36). Наклад складаў 100–120 асобнікаў, хоць паасобныя нумары Юры Попка з уласнай ініцыятывы выдаваў пашыраным накладам да 200 асобнікаў, рассылаючы па бібліятэках і з прапагандысцка-рэкламнымі мэтамі[724]. Выдаванне спынілася ў 1986 г. Прычынаў было некалькі: хранічны недахоп матэрыялаў, паважаны ўзрост Юрыя Попкі, якому стала ўжо зацяжка займацца рэдактарствам, а таксама незацікаўленасць у бюлетэні. Ахвяраванні на выданне паступалі слаба, у тым ліку і з прычыны нізкай яго якасці.

## БЦР У 1977–1995 ГГ.

Пасля смерці Радаслава Астроўскага на згортванні дзейнасці БЦР настойваў саўт-рывэрскі асяродак, на актывізацыі — аўстралійскі. Дзеяч з Аўстраліі Міхась Зуй прапанаваў на пасаду прэзідэнта БЦР Дзмітрыя Касмовіча. Кіраўнік БВФ адмовіўся, але выказаўся супраць спынення дзейнасці арганізацыі:

---

[722] Дэкрэт Радаслава Астроўскага ад 14 кастрычніка 1976 г. Копія захоўваецца ў архіве аўтара.

[723] Рэакцыя Дзмітрыя Касмовіча на першы нумар «Бюлетэню» была рэзка негатыўная: *«Гасп. Ю. Попка даслаў Бюлетэнь БЦР №1'76. Сорамна чытаць… Які рэдактар, такі і Бюлетэнь. А гэты Бюлетэнь ёсьць афіцыйным Органам БЦР — Беларускага Ураду… і ёсьць ягоным абліччам. Сьв. Памяці Прэзыдэнт БЦР, каб чытаў гэты Бюлетэнь, напэўна самлеў-бы, бо ў бюлетэні «там-сям адчуваецца адрыжка яшчэ…» і хоць «нашы ворагі ня маюць ужо сілы, бо выстралілі свой порах, ды самі залезьлі ў балота так, што ані сюды, ані туды» (бач. 4). А сам Прэзыдэнт БЦР «адгуляў» на «падмостку» «ролю» (глядзі перадавіцу — «Вялікая Страта») і г. д. Сумна… што не знайшоўся ў Амэрыцы хоць адзін беларус, які б усю гэтую пісаніну хоць бы паправіў»* (Ліст Дз. Касмовіча да Н. Мядзейкі ад 12 лютага 1977 г. Копія захоўваеццаў архіве аўтара).

[724] Kipel V., Kipel Z. Belarusian Publishing in the West: A Bibliography = Беларускі друк на Захадзе: Бібліяграфія / Пад рэд. Юрася Гарбінскага й Лявона Юрэвіча. Нью-Ёрк—Варшава, 2006. С. 587.

> Ліквідаваць БЦР мы ня маем абсалютнага права, бо гэта будзе гістарычнае праступства супраць волі Беларускага Народу, які ўпаўнаважыў БЦР на 2-м Усебеларускім Кангрэсе быць: адзіным праўным прадстаўніком Беларускага Народу і ягонага Краю *[падкрэслена ў лісце Дз. Касмовічам. — А. Г.]*.
>
> Гэтага народнага мандату мы ня маем права самавольна, бяз волі народу, без 3-га Ўсебеларускага Кангрэсу, зракацца. Калі ж, у сучасны мамэнт, няма адпаведных людзей, каб ачолілі і вялі актыўна працу БЦР, дык заўтра гэтыя людзі з маладога пакаленьня знойдуцца і будуць весьці далей у вольным сьвеце вызвольнае змаганьне[725].

Дзмітры Касмовіч раіў перадаць функцыі прэзідэнта БЦР аднаму з намеснікаў (у дадзеным выпадку Нікандру Мядзейку або Міхасю Зую) ці кіраўніку выканаўчага органу (Пятру Саўчыцу).

18-ты Пленум БЦР прайшоў 3–4 ліпеня 1977 г. у рэсорце (доме адпачынку) «Бэлэйр-Менск» (Глэн-Спэй, Glen Spey, Нью-Ёрк). Удзел у ім узялі 43 грамадскія дзеячы з ЗША, якія мелі мандаты яшчэ ад 16 дэлегатаў: з Аўстраліі (5), Канады (5), Вялікай Брытаніі (3), Нямеччыны (3). Удзельнікі рэпрэзентавалі намінальна некалькі арганізацыяў і структураў[726].

Старшынём Пленуму абралі 1-га віцэ-прэзідэнта Нікандра Мядзейку. Асноўным пунктам парадку дня было абранне новага прэзідэнта. Прапанавалі некалькі кандыдатураў, але галоўнаю быў Нікандр Мядзейка. Апроч яго, на пасаду прэзідэнта БЦР раілі Мікалая Мінкевіча і Івана Касяка.

На паседжанні дэлегатаў ад прыходу св. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле Васіль Захаркевіч прапанаваў вылучыць на пасаду прэзідэнта БЦР сына старшыні Другога Усебеларускага кангрэсу Яўхіма Кіпеля — Вітаўта. Аднак

---

[725] Ліст Дз. Касмовіча да М. Зуя ад 30 красавіка 1977 г. Копія захоўваецца ў архіве аўтара.

[726] Выканаўчы орган БЦР, дэлегатуры ў Аўстраліі, Брытаніі, Нямеччыне, Канадзе, Беларускі кангрэсавы камітэт Амерыкі, Злучаны беларуска-амерыканскі дапамаговы камітэт у ЗША, аддзелы БВФ (Краёвыя штабы) у Нямеччыне, Брытаніі, Аўстраліі, Кліўлэндзе, Ўініпэгу і Таронта (абодва — Канада), Згуртаванне беларуска-амерыканскіх ветэранаў (Галоўны штаб і аддзел у Саўт-Рывэры), беларускія праваслаўныя прыходы ў Саўт-Рывэры, Рычманд-Гіле (Нью-Ёрк), Таронта (Еўфрасінні Полацкай) і Лондане, Беларуска-амерыканскі грамадска-рэлігійны цэнтр у Саўт-Рывэры і грамадска-рэлігійны цэнтр у Глэн-Спэй, дзе праходзіў Пленум, «Амерыканскія прыхільнікі БЦР». Сваё ўпаўнаважанне даслалі на Пленум і Ян ды Аліцыя Пятроўскія як прадстаўнікі сямейнага Беларускага харытатыўнага фонду (Пратакол 18-га Пленуму БЦР, які адбыўся 3-га і 4-га ліпеня 1977 г. у Рэсорце Бэлер-Менску, Злучаныя Штаты Паўночнай Амэрыкі. Копія захоўваецца ў архіве аўтара).

той адмовіўся, матывуючы занятасцю ў Рэспубліканскай партыі[727]. Вітаўт Кіпель меркаваў, што, аддаючы належнае БЦР і прызнаючы яе дзяржаўнай установай, яе дзейнасць варта скончыць: Рада зрабіла належную работу — аб’яднала нацыянальны актыў[728]. Знялі свае кандыдатуры і Мікалай Мінкевіч (на ягонай асобе настойвалі старшыня «Амерыканскіх прыхільнікаў БЦР» Анатоль Плескачэўскі і протаіерэй Святаслаў Коўш), і старшыня БККА Іван Касяк, чыю кандыдатуру прапанавалі Янка Шымчык і Аркадзь Сацэвіч з Кліўлэнду. На безальтэрнатыўнай аснове прэзідэнтам БЦР быў абраны Нікандр Мядзейка. За яго прагаласавалі 39 чалавек, супраць — нікога, устрымаліся — чатыры[729].

1-м віцэ-прэзідэнтам стаў Мікалай Мінкевіч, 2-м віцэ-прэзідэнтам — Міхась Зуй. Старшынём выканаўчага органу застаўся Пятро Саўчыц, але ўжо ў лістападзе 1977 г. ён адышоў ад справаў, высвяціўшыся ў святары. Аляксандр Дарафейчык стаў галоўным скарбнікам выканаўчага органу, сакратаром прэзідыуму — Віталь Цярпіцкі. Усе дэлегатуры БЦР і краёвыя штабы засталіся без зменаў[730]. Апарат БЦР (а значыць, прэзідыум Пленуму) з 1977 г. прыпыніў дзейнасць.

Падчас прэзідэнцтва Нікандра Мядзейкі праца звялася пераважна да віншаванняў суайчыннікаў са святамі (25 Сакавіка, Слуцкі збройны чын), а таксама разваг, як актывізаваць дзейнасць арганізацыі. Куды большую актыўнасць на міжнароднай арэне зноў выяўлялі прыязныя да БЦР арганізацыі — Беларускі вызвольны фронт (прадстаўнікамі якога былі Дзмітры Касмовіч, Іван Касяк і Алесь Алехнік), а ў ЗША — Беларускі кангрэсавы камітэт Амерыкі (Іван Касяк). Дзеячы гэтых структураў ад імя БЦР бралі ўдзел у розных антыкамуністычных форумах, у тым ліку канферэнцыях Сусветнай антыкамуністычнай лігі (*WACL*), Еўрапейскай рады свабоды, філіялаў Антыбальшавіцкага блоку народаў. Таксама гэтыя арганізацыі рассылалі сотні мемарандумаў з розных нагодаў, у якіх казалі і пра БЦР, асаблівая ўвага надавалася Другому Усебеларускаму кангрэсу 1944 г.

Спакойнае існаванне БЦР у пачатку 1980-х спыніла справа Джона Лофтуса (John Loftus). У траўні 1982 г. у папулярнай праграме «60 хвілінаў» на тэлеканале *CBS* паказалі сюжэт, прысвечаны Беларусі, які базаваўся на паказаннях былога супрацоўніка Бюро спецыяльных расследаванняў

[727] Пратакол 18-га Пленуму БЦР, які адбыўся 3-га і 4-га ліпеня 1977 г…
[728] Тамсама.
[729] Тамсама.
[730] Тамсама.

(*OSI — Office of Special Investigations*) пры Дэпартаменце юстыцыі Джона Лофтуса. Апошні сцвярджаў, што пасля Другой сусветнай вайны ЗША спрыялі пры пераездзе ў краіну беларусам, якія ў час нямецкай акупацыі актыўна супрацоўнічалі з нацыстамі — падчас службы ў паліцыі або на высокіх адміністрацыйных пасадах[731]. Джон Лофтус «выявіў» каля 300 такіх асобаў, якія нібыта па пераездзе ў ЗША былі завербаваныя амерыканскаю выведкай. У праграме было прадэманстраванае таксама інтэрв'ю з грамадскім дзеячам, што рэпрэзентаваў кірунак Рады БНР, Антонам Адамовічам, які падчас нямецкай акупацыі працаваў у «Беларускай газэце» і быў у ёй аўтарам сотні артыкулаў. Лофтус абвінаваціў шэраг беларусаў у супрацоўніцтве з нацыстамі падчас нямецкай акупацыі, а Адамовіч «нібыта» гэтага факту не адмаўляў[732].

Сярод абвінавачаных апынуліся і дзеячы БЦР: прэзідэнт Радаслаў Астроўскі, Антон Адамовіч (радны БЦР са студзеня 1945 г.), Станіслаў Станкевіч (намеснік БЦР на Баранавіцкую акругу), дзеяч БЦР на эміграцыі Эмануіл Ясюк (начальнік Клецкага раёну), Святаслаў Коўш, а таксама кіраўнік БКА Франц Кушаль ды іншыя памерлыя і жывыя лідары беларускага грамадскага жыцця ў ЗША.

Як праграма «60 хвілінаў», гэтак і кніга Лофтуса «The Belarus Secret», выдадзеная ў 1982 г. камерцыйным выдавецтвам, імгненна раскалыхалі беларускую эміграцыю ў ЗША. Аднак такім арганізацыям, як БЦР ды Рада БНР, было не пад сілу самастойна ўзяць удзел у сутычцы з Джонам Лофтусам. За БЦР заступіўся Беларускі кангрэсавы камітэт Амерыкі, з боку Рады БНР абарону вяло Беларуска-амерыканскае задзіночанне (БАЗА). БККА адрэагаваў на праграму «60 хвілінаў» ужо 14 чэрвеня 1982 г., калі выпусціў адпаведную рэзалюцыю з адмаўленнем абвінавачанняў[733]. Але праз некалькі месяцаў сюжэт на *CBS* паўтарылі, а хутка выйшла і кніга Джона Лофтуса «The Belarus Secret», пабудаваная вонкава на дакументах, якія сведчылі пра дзейнасць беларускіх дзеячаў падчас нямецкай акупацыі на пасадах бургамістраў, а таксама адміністрацыйных, прапагандысцкіх пасадах або ў вайсковых фармаваннях. У Амерыцы, дзе адну з галоўных роляў адыгрывала

---

[731] Гардзіенка, Алег. Беларускі кангрэсавы камітэт Амэрыкі (БККА)… С. 212–216.

[732] Інтэрв'ю Антона Адамовіча пакладзена ў аснову дакументальнай драмы Лявона Юрэвіча «Сакрэт Антона Адамовіча» (Урачыстасьць у садзе. Драматургія беларускай эміграцыі XX стагодзьдзя. Мінск, 2007. С. 283–310).

[733] Vitaut Kipel, Zora Kipel. Belarusian Publishing in the West: A Bibliography… P. 401.

моцнае габрэйскае лобі ды не прымаліся розныя праявы нацызму, гэта быў значны ўдар па беларусах.

Кніга «The Belarus Secret» карысталася такою папулярнасцю, што праз год яна была перавыдадзеная, а ў 1985 г. на тэлеканале *CBS* паказалі серыю з папулярнага паліцэйскага баевіка — «Беларускае дасье» («Kojak: The Belarus File»). У аснову серыі лёг сюжэт, звязаны з жыццём паваеннай беларускай эміграцыі. Ньюёркаўскі інспектар паліцыі сутыкаецца з шэрагам таямнічых забойстваў і пачынае расследаванне, якое прыводзіць яго ў шэрагі беларускай дыяспары: высвятляецца, што яе прадстаўнікі былі звязаныя з нацыстамі ў Беларусі. Кансультантам фільму быў Джон Лофтус[734].

18 лютага 1985 г. Джон Лофтус выступіў на канферэнцыі ў Роклэндзе (Rockland, штат Масачусэтс), дзе яшчэ раз паўтарыў свае тэзы: амерыканская выведка дала прытулак некалькім сотням нацысцкіх злачынцаў з Беларусі[735]. Ён таксама абвінаваціў настаяцеля царквы св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рывэры Святаслава Каўша ў тым, што той быў нацысцкім чыноўнікам падчас Другой сусветнай вайны. Журналісты звярнуліся па каментар да а. Каўша. Той быў катэгарычны:

> Гэты хлопец Лофтус — манюка. Чаму, калі мы былі антыкамуністамі, Дэпартамент юстыцыі лічыць, што мы былі нацыстамі?[736]

Святаслаў Коўш заявіў, што ён падчас нямецкай акупацыі толькі цягам шасці месяцаў быў чыноўнікам (*county clerk*) у беларускім Засуллі[737]. Але святар, відаць, прызабыў мінулае: у парафіі Засулле Стаўбцоўскага раёну ён працаваў да пачатку вайны ў 1938–1939 гг., а падчас нямецкай акупацыі быў начальнікам Клецкага павету, пра што было добра вядома Джону Лофтусу, як і ўсёй беларускай дыяспары, а таксама савецкім прапагандыстам у Мінску. Настаяцелю парафіі ў Саўт-Рывэры, напэўна, не варта было адмаўляць факту свайго кіравання паветам. ЗША ўжывалі захады толькі супраць тых, хто насамрэч быў вінаваты ў ваенных злачынствах.

У сваіх высновах Джон Лофтус базаваўся на рэальных дакументах, але інтэрпрэтаваў іх па-свойму. Па-першае, ён проста не ведаў, што армія рабіла свае скрынінгі (праверкі), базуючыся не на іміграцыйных законах, а на

---

734 Гардзіенка, Алег. Беларускі кангрэсавы камітэт Амэрыкі (БККА)… С. 213.

735 Papers list S. River priest as Nazi aide // The Home News (New Branswik). Tuesday, February 19, 1985.

736 Тамсама.

737 Тамсама.

ўнутраных паняццях. Апроч таго, падчас канферэнцыі ў Роклэндзе ён прадэманстраваў тры дакументы, якія, на ягоную думку, пацвярджалі наяўнасць у ЗША нацысцкіх злачынцаў з Беларусі. Згодна з дакументам «А», у Саўт-Рывэры да 1954 г. жылі 100 «нацысцкіх злачынцаў» з Беларусі. Насамрэч гэта быў проста спіс беларусаў, што пасля вайны перабраліся ў Саўт-Рывэр. Дэманструючы дакумент «В» (1948), Джон Лофтус сцвярджаў, што гэта спіс 30 *«кіраўнікоў беларускай эміграцыі, што перабывалі ў лагерах для перамешчаных асобаў у амерыканскай і брытанскай зонах акупацыі Нямеччыны і сярод якіх былі нацысцкія злачынцы»*. Насамрэч гэта быў спіс дэлегатаў аднаўленчага з'езду БЦР у Эльвангене. І нарэшце дакумент «С», які ўяўляў з сябе, на думку Джона Лофтуса, «мірнае пагадненне» паміж беларускімі эмігрантамі — нацысцкімі злачынцамі ды ўрадам ЗША 1952 г., насамрэч быў праектам супрацоўніцтва Радаслава Астроўскага і БЦР з Амерыканскім камітэтам вызвалення народаў Расіі[738].

Нягледзячы на яўнае скажэнне фактаў, інфармацыю, агучаную Лофтусам, падхапіла рэгіянальная амерыканская прэса. Цытаваныя вышэй «The Home News» некалькі разоў надавалі ўвагу «беларускаму сакрэту». Колькі публікацыяў было прысвечана беларускім могілкам у Саўт-Рывэры, дзе, паводле Лофтуса, пахавалі «нацы-прэзідэнта» Радаслава Астроўскага. Таксама былі зладжаныя лакальныя паляванні на вядзьмарак. Высветлілася, што жыхар Іст-Брансўіку Васіль Арцюшэнка падчас нямецкай акупацыі служыў у паліцыі ў Хойніках, чаго не ўказаў пры запаўненні іміграцыйных папераў. Гэта быў адзіны факт выяўлення «нацысцкага злачынцы» ў Саўт-Рывэры і яго ваколіцах[739].

Магчыма, інфармацыйную і інтэлектуальную падтрымку Джону Лофтусу аказваў і савецкі Мінск. Інфармацыю пра канферэнцыю ў Роклэндзе ўжо праз дзень перадрукавала мінскай «Сельская газета»[740]. Зважаючы на розніцу ў часе паміж Амерыкай і СССР, а таксама на тагачасныя механізмы і хуткасці ў выданні газетаў, складвалася ўражанне, што «справа Лофтуса» — добра спланаваная акцыя, ініцыяваная з боку БССР і Масквы. Як высветлілася

---

[738] Гардзіенка, Алег. Беларускі кангрэсавы камітэт Амэрыкі (БККА)… С. 212–216.

[739] Вітаўт Тумаш і Антон Адамовіч, запаўняючы іміграцыйныя паперы, падалі ўсе факты са свайго жыцця ў Другую сусветную вайну, і таму не былі пазбаўленыя амерыканскага грамадзянства. На справу супрацоўніцтва з немцамі амерыканцы глядзелі проста: «Трэба было камусьці апекавацца жыхарствам».

[740] «Белорусское досье» на американских телеэкранах // Сельская газета. 21 февраля 1985. Гл. таксама: Голас Радзімы. 28 лютага 1985.

пазней, за некалькі месяцаў да свайго скандальнага інтэрв'ю Джон Лофтус сышоў з бюро спецыяльных даследаванняў Дэпартаменту юстыцыі, прыхапіўшы з сабою некаторыя дакументы. Прыкладна ў 1981–1982 гг. на дом дачкі Радаслава Астроўскага ў Флорыдзе быў здзейснены напад[741]. Мэтаю невядомых злодзеяў мог быць менавіта архіў прэзідэнта БЦР. Прынамсі, гэтым нападам можна вытлумачыць тую боязь і празмерную асцярожнасць, з якою Галіна Мінкевіч доўгі час потым перадавала архівы свайго бацькі ў Саўт-Рывэр, зрэшты, аддаўшы далёка не ўсё.

Хоць удар Джона Лофтуса і тых, хто за ім стаяў, быў накіраваны на ўсю беларускую дыяспару, аўтар слаба разбіраўся ў палітычным расколе на эміграцыі. Баранілася беларуская эміграцыя паасобку: БККА (БЦР) — сваімі сіламі, БАЗА (БНР) — сваімі, але дапаўняючы адно аднога.

> …На кніжку, апублікаваную пад прозьвішчам Лофтуса, трэба даць адказ па ўсіх закранутых у ёй асноўных справах. Адказ протапр. Сьвятаслава (Каўша) на ангельскай мове, апублікаваны ў №34 за 1983 «Царкоўнага Сьветача», дае добрыя насьвятленьні аб ілжывасьці парадаў, але пераважна на мясцовыя дачыненьні ў Вашых аколіцах. Цыркуляцыя гэтага часапісу досыць абмежаваная і да кіруючых дзейнікаў амаль не трапляе. Трэба насьвятліць фактычную сутнасьць гэтага чарненьня і разаслаць гэты матэрыял для кіруючых дзейнікаў перадусім. Я зьбіраю дадзеныя па гэтай справе, а апрацаваньне зойме шмат часу[742].

Мемарандумы адыгралі станоўчую ролю — было бачна, што беларусы прыводзяць свае аргументы ці на канкрэтных фактах выкрываюць хлусню. Інфармацыі было шмат. Беларусы на фоне змагання з Джонам Лофтусам таксама атрымалі і пэўныя дывідэнды, прапагандуючы і расказваючы пра Беларусь амерыканскаму свету.

У сувязі са «справай Лофтуса» ў беларускім асяроддзі ў ЗША паўстала ідэя стварэння праўдзівай кнігі пра Другую сусветную вайну ў Беларусі. Але імпэт да яе ажыццяўлення знік у 1989 г., калі выйшла кніга Івана Касяка «Byelorussia: historical outline», дзе даволі падрабязна распавядалася пра падзеі нямецкай акупацыі. У той жа час пабачыла свет на польскай мове

[741] Ліст Л. Брылеўскай да А. Гардзіенкі ад 20 жніўня 2007. Захоўваецца ў прыватным архіве аўтара кнігі.

[742] Ліст І. Касяка да В. Цярпіцкага ад 9 траўня 1983 г. Захоўваецца ў архіве Івана Касяка ў Аляксандраўскай бібліятэцы Ратгерскага ўніверсітэту ў Нью-Брансўіку (Нью-Джэрзі, ЗША).

кніжная версія доктарскай дысертацыі беларускага гісторыка з Варшавы Юрыя Туронка «Беларусь пад нямецкай акупацыяй». Польская кніга была вельмі папулярная сярод беларусаў ЗША[743].

«Справа Лофтуса» стала згасаць у сярэдзіне 1980-х, калі яе ініцыятар заняўся іншымі тэмамі: напісаў аналагічную кнігу пра злачынствы Ватыкану, потым стаў радыёкаментарам у справе габрэйска-арабскіх дачыненняў, чым даволі сур'ёзна падарваў давер да сябе ў амерыканскім грамадстве. Зменшылася з 1986 г. і цікавасць амерыканцаў да беларускіх справаў, на першы план выйшлі падзеі ў СССР, перабудова і паступовы распад савецкай імперыі. У той самы час чарговы раз змянілася кіраўніцтва ў БЦР.

У сярэдзіне 1980-х Нікандр Мядзейка захварэў і паступова адышоў ад актыўнай дзейнасці, незадоўга да смерці перадаўшы свае паўнамоцтвы Міхасю Зую. Другі прэзідэнт БЦР памёр 6 снежня 1987 г.

Міхась Зуй пагадзіўся ўзяць на сябе абавязкі прэзідэнта БЦР, але для афіцыйнага зацверджання патрабавалася склікаць Пленум. Першапачаткова ён быў прызначаны на 13–14 жніўня 1988 г. у рэсорце «Бэлэйр-Менск». Усе арганізацыйныя функцыі ўзяў на сябе сакратар Віталь Цярпіцкі. Але з прычынаў сямейнага характару апошні быў вымушаны перанесці Пленум на 19 верасня 1988 г.

19-ты (апошні) Пленум БЦР быў самым малаколькасным за ўсю яе гісторыю. Непасрэдна на ім прысутнічалі 8 чалавек: Ігар Шчорс (рэпрэзентаваў цэнтр «Бэлэйр-Менск»), Віталь Цярпіцкі (як дэлегат ад БЦР у ЗША), Антон Даніловіч (часопіс «Беларуская думка»), Язэп Лешчанка (удзельнік Другога Усебеларускага кангрэсу), Алег Махнюк (парафія св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рывэры), Мікалай Манцывода (Згуртаванне беларуска-амерыканскіх ветэранаў), Рыгор Арцюшэнка (БККА), Міхась Сенька (БККА). Праўда, усяго мандатаў і запрашэнняў выслалі 46[744]. На Пленум не прыехалі не

[743] У 1993 г. кніга Юрыя Туронка выйшла па-беларуску ў Менску, а ў 2007 г. была перавыдадзеная з улікам правак аўтара. Але ў саўт-рывэрскім архіве захоўваецца некалькі асобнікаў менавіта польскага выдання.

[744] Апроч згаданых удзельнікаў Пленуму запрашэнні былі дасланыя: Янку і Сафіі Шымчыкам, Ганне Лазар (усе БВФ, Кліўлэнд), Вользе Слесарэвіч, Надзеі Грушы (Беларускі жаночы камітэт, Мэльбурн, Аўстралія), Усеваладу Родзевічу (удзельнік Другога кангрэсу, Аўстралія), Міхасю Ціхану (Беларускае аб'яднанне ў Аўстраліі), Міхасю Каленіку (парафія св. Юрыя ў Чыкага), Уладзіміру Гуцьку (БВФ, Уініпэг, Канада), Міхасю Шэку (Беларускае аб'яднанне ў штаце Вікторыя, Аўстралія), Паўлу Гузу (БНФонд, Аўстралія), Уладзіміру Шнэку (БВФ, Аўстралія), Уладзіміру Сідлярэвічу (удзельнік Другога кангрэсу, Аўстралія), Аляксандру Гры-

толькі дэлегаты з Аўстраліі, Еўропы ці аддаленых штатаў ЗША, але нават з Саўт-Рывэру і Нью-Ёрку, тым самым засведчыўшы незацікаўленасць у працягу дзейнасці БЦР.

Кастусь Мерляк разам з упаўнаважаннем чарговы раз паставіў пытанне аб неабходнасці стварэння беларускага епіскапату Беларускай праваслаўнай царквы ў юрысдыкцыі Сусветнага патрыярхату[745]. Пытанне беларускага епіскапату адышло на другі план яшчэ ў пачатку 1980-х, бо людзі былі незацікаўленыя з фінансавых прычынаў у стварэнні асобнай беларускай царкоўнай адзінкі.

Нікандр Мядзейка пісаў з гэтай нагоды Юрыю Попку:

> Людзі ня хочуць япіскапа, бо гэта ёсьць каштоўна ўтрымаць і забясьпечыць чалавека: мы апеку маем і падатку ня плацім у грэцкі епіскапат[746].

Удзельнікі 19-га Пленуму ўхвалі абранне Міхася Зуя прэзідэнтам БЦР, а таксама прынялі рашэнне актывізаваць дзейнасць Беларускага нацыянальнага фонду[747]. Не былі выбраныя 1-шы і 2-гі віцэ-прэзідэнты БЦР. Толькі

---

цуку (беларуская парафія ў Мэльбурне), Янку Ролсану (БАА, Аўстралія), Паўлу Юнаху (БВФ, Лондан), Міколу Залогу (парафія св. Еўфрасінні ў Лондане), Аркадзю Сацэвічу (БВФ, Пенсільванія), Міхасю Бурносу (парафія св. Пятра і Паўла, Адэлаіда), Уладзіміру Пелясу (парафія св. Кірылы Тураўскага, Рычманд-Гіл, Нью-Ёрк), Кастусю Мерляку (Беларуска-амерыканскае аб’яднанне ў Нью-Ёрку), Валянціне Лапіцкай, Аляксандру Банкету (парафія св. Еўфрасінні ў Саўт-Рывэры), Сцяпану і Жоржу Навумчыкам (Беларуска-амерыканскі грамадскі цэнтр у Саўт-Рывэры), Канстанціну і Валянціне Вайцяхоўскім (БККА ў Каліфорніі), Юрыю Попку (Інстытут беларусаведы, Нямеччына), Алесю Алехніку (БАА, Сіднэй), Паўлу Вялікаму (парафія св. Еўфрасінні Полацкай у Таронта), Пятру Нягоду, Канстанціну Загонаку (БВФ, Чыкага), Льву Высоцкаму (БККА), Аўгену Занкавічу (БЦР, ЗША), Міхасю Палюховічу (БККА), Уладзіміру Сітніку (Згуртаванне беларуска-амерыканскіх ветэранаў), Уладзіміру Сеньку (БЦР у Нямеччыне), Міхаілу Грэбеню (удзельнік Другога кангрэсу). Скрыня «Архіў Нікандра Мядзейкі». Тэчка «Карэспандэнцыя Прэзыдэнта Нікандра Мядзейкі».

745 Ліст К. Мерляка да В. Цярпіцкага ад 15 жніўня 1988 г. Копія захоўваецца ў архіве аўтара.

746 Ліст Н. Мядзейкі да Ю. Попкі ад 2 красавіка 1980 г. Захоўваецца ў архіве БЦР у царкве св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі, ЗША). Скрыня «Архіў Нікандра Мядзейкі». Тэчка «Карэспандэнцыя прэзідэнта Нікандра Мядзейкі».

747 Пратакол 19-га Пленуму Беларускай Цэнтральнай Рады, які адбыўся 17-га верасьня 1988 г. у рэсорце Белэр—Менск, Злучаныя Штаты Паўночнай Амэрыкі. Копія захоўваецца ў архіве аўтара.

потым Міхась Зуй сваім дэкрэтам прапанаваў на гэтае становішча Віталя Цярпіцкага і Міхася Сеньку[748].

У наступныя гады сусветная палітычная сітуацыя карэнным чынам змянілася. Пачаліся трансфармацыі ў палітычнай сістэме Еўропы: спачатку адбылося паступовае разбурэнне камуністычнага лагеру, а затым спыніў існаванне СССР.

БЦР паступова памірала: патрэба ў яе дзейнасці ўвогуле адпала, апроч таго, у пачатку 1990-х сур'ёзна захварэў Міхась Зуй (у 1988 г. яму было 79 гадоў). Дзейнасць БЦР у гэты перыяд абмяжоўвалася віншаваннямі беларускай грамады, у тым ліку і ў метраполіі, з нацыянальнымі святамі. Усведамлялі паміранне БЦР і некалі актыўныя дзеячы. У 1989 г., аналізуючы стан на эміграцыі, сакратар БЦР Віталь Цярпіцкі пісаў беларускаму актывісту ў Аўстраліі Паўлу Гузу пра тое, што «палітычнае жыццё» не вытрымала канкурэнцыі з царкоўнымі асяродкамі:

> Ня варта гуляць у саламяныя салдацікі. Трэба быць рэалістамі. Я зрабіў усё, што мог, па скліканьні 19-га Пленуму БЦР. Важны сам факт, што Пленум адбыўся, хоць у скромнай форме. У архіве застануцца ўсе акты. Дайшло да таго, што няма каго склікаць. Добра, што людзі цікавяцца крыху царкоўным жыцьцём. Жыцьцё паказала, што нацыянальныя асяродкі ўтрымаліся там, дзе асталася царква[749].

23 кастрычніка 1994 г. Міхась Зуй прызначыў старшыню БККА Расціслава Завістовіча 1-м заступнікам прэзідэнта БЦР[750]. У выпадку смерці прэзідэнт БЦР перадаваў паўнамоцтвы і абавязкі старшыні выканаўчага органу Віталю Цярпіцкаму да склікання 20-га Пленуму БЦР або да склікання Трэцяга Усебеларускага кангрэсу ў Беларусі.

> У сувязі з маім цяжкім станам здароўя, на прапанову сябраў БЦР у выпадку маёй сьмерці ўсе паўнамоцтвы і абавязкі Прэзыдэнта БЦР даручаю да выкананьня Старшыні Выканаўчага Органу сп. Віталю

---

[748] Ліст Міхася Зуя да Віталя Цярпіцкага ад 25 кастрычніка 1988 г. Копія захоўваецца ў архіве аўтара.

[749] Ліст В. Цярпіцкага да П. Гуза ад 13 кастрычніка 1989 г. Копія захоўваецца ў архіве аўтара.

[750] Дэкрэт Прэзыдэнта БЦР М. Зуя ад 23 кастрычніка 1994 г. Копія захоўваецца ў архіве аўтара. Тым жа дэкрэтам Уладзімір Сідлярэвіч быў вызначаны кіраўніком Дэлегатуры БЦР у Аўстраліі.

Цярпіцкаму да скліканьня 20-га Пленуму БЦР, або передачы іх 3-му Ўсебеларускаму Кангрэсу ў Вольнай і Незалежнай Беларусі[751].

Апошнім зваротам Міхася Зуя да беларускай грамадскасці было віншаванне з 77-мі ўгодкамі БНР (сакавік 1995 г.)[752].

Трэці прэзідэнт БЦР памёр 24 красавіка 1995 г. Згодна са Статутам Рады цягам 90 дзён меўся быць скліканы Пленум для абрання наступнага, чацвёртага прэзідэнта, але гэтага не адбылося. Віталь Цярпіцкі адмовіўся збіраць Пленум, гэтым самым падводзячы фінальную рысу ў гісторыі Беларускай Цэнтральнай Рады.

У 1996 г. беларускія дзеячы паспрабавалі дэ-юрэ ліквідаваць палітычны раскол — аб'яднаць Раду БНР і БЦР. З такой ініцыятываю на прапанову старшыні Рады БНР Язэпа Сажыча выступіў ягоны намеснік Барыс Рагуля. Пастанавілі склікаць прадстаўнікоў абедзвюх структураў на нараду ў Нью-Брансўіку. Па дапамогу ў справе вызначэння кандыдатаў Барыс Рагуля звярнуўся да старшыні БККА Расціслава Завістовіча[753]. У нарадзе, якая адбылася ў гатэлі «Гэят Рыджэнсі» (Hayat Regency), узялі ўдзел прадстаўнікі БАЗА і БККА. Дэлегатамі ад БККА былі Міхась Бахар, Віталь Цярпіцкі, Жорж (Юрка) Навумчык. Але нягледзячы на заявы аб супрацоўніцтве, афіцыйна злучыць БЦР і Раду БНР на нарадзе не ўдалося, і кантакты паміж прыхільнікамі дзвюх палітычных групаў спыніліся[754]. Праўда, цяпер гэта ўжо не выклікала новага супрацьстаяння. Дзейнасць Беларускай Цэнтральнай Рады, пачатая ў 1943 г., скончылася праз 52 гады.

---

[751] Упаўнаважаньне Прэзыдэнта БЦР М. Зуя ад 23 кастрычніка 1994 г. Копія захоўваецца ў архіве аўтара.

[752] Дарагія суродзічы на Бацькаўшчыне і на эміграцыі. [Зварот]. Копія захоўваецца ў архіве аўтара.

[753] Факс Барыса Рагулі да Расціслава Завістовіча ад 30 сакавіка 1996 г. Архіў Расціслава Завістовіча. Копія захоўваецца ў архіве аўтара.

[754] Ліст В. Кіпеля да Алега Гардзіенкі ад 4 верасня 2007 г. Захоўваецца ў архіве аўтара кнігі.

# ЗАКАНЧЭННЕ

Беларускае пытанне ў канцы 1930-х было не вырашанае: у БССР адбыўся разгром нацыянальнага руху, а ў польскай дзяржаве беларусы зазналі палітычны ўціск. Таму пасля пачатку нямецкай акупацыі грамадскія дзеячы звязалі вырашэнне беларускага пытання з новымі ўладамі. Але немцы з недаверам паставіліся да беларусаў, як і да ўсіх астатніх акупаваных народаў. Яны верылі ў хуткую перамогу над СССР, таму не пайшлі на стварэнне дзяржаваў на захопленых землях. Патэнцыял беларускага грамадскага руху яны ацэньвалі песімістычна. Сітуацыя змянілася ў канцы 1943 г., калі Усходні фронт пачаў каціцца ў адваротным кірунку, а нямецкая армія стала цярпець паражэнні.

Для мабілізацыі насельніцтва на барацьбу вырашылі зрабіць стаўку ў тым ліку і на беларускі нацыянальны актыў. Беларусам паабяцалі аўтаномію ў выглядзе самаўраду — Беларускай Цэнтральнай Рады на чале з Радаславам Астроўскім. Генеральны камісар Готбэрг напісаў кароткі, з шасці пунктаў, Статут БЦР, цалкам паставіўшы новаўтварэнне пад свой кантроль. БЦР дзейнічала на тэрыторыі, што падпарадкоўвалася цывільнаму кіраўніцтву, г. зн. адной чацвертай часткі сучаснай Беларусі. Задачы акрэсліваліся ў трэцім пункце Статуту: *«У межах пастаўленых ёй заданьняў яна будзе самастойна вырашаць і праводзіць усе неабходныя мерапрыемствы ў галінах сацыяльнага, культурнага і школьнага жыцьця».*

Тым не менш грамадскія дзеячы ўхапіліся нават за такі мінімальны шанец. У Мінску і ў акругах за кароткі тэрмін была створаная ўласная адміністрацыя і нават праведзены Другі Усебеларускі кангрэс дзеля шырэйшай падтрымкі. Для стварэння ў будучыні органаў дзяржаўнага кіравання засноўваліся адпаведныя структуры. Аднак каб утрымацца на тэрыторыі Беларусі, у БЦР не было ні сілаў, ні магчымасцяў. Увесь апарат з сем'ямі разам з немцамі ў канцы чэрвеня 1944 г. эвакуяваўся на Захад.

У Берліне БЦР паспрабавала ўзначаліць беларускую дзейнасць на эміграцыі. Рада захавала сваю незалежнасць, не ўліўшыся ў прарасійскі ўласаўскі рух, а супрацоўніцтва з немцамі ў ваенным плане было зведзенае да мінімуму. Г. зв. Беларуская брыгада, заданнем якой было змаганне з бальшавізмам, была

канчаткова сфармаваная толькі ў сакавіку 1945 г. Статут БЦР быў грунтоўна перапрацаваны, а задачы Рады перафармуляваныя пад патрэбы эміграцыі.

Але стаць урадам на эміграцыі БЦР не здолела. Капітуляцыя Нямеччыны і дэнацыфікацыя паваеннага грамадства вымусілі БЦР часова прыпыніць дзейнасць. У гэты час на палітычную арэну выйшла адноўленая з ініцыятывы Міколы Абрамчыка Рада БНР. Шэраг дзеячаў БЦР падтрымаў аднаўленне, палічыўшы, што гэта найлепшы выхад з сітуацыі, а БЦР трэба пакінуць гісторыі. Іншыя не пагадзіліся з вяртаннем Рады БНР і засталіся верныя Астроўскаму. Канфлікт дзеячаў, што працягваўся ў 1945–1947 гг., спрычыніўся да палітычнага расколу эміграцыі. Абрамчык і Астроўскі не перамаглі ўласных палітычных амбіцыяў і не здолелі зрабіць крокаў да аб’яднання. Беларуская эміграцыя падзялілася, і падзел закрануў як грамадскі, гэтак і моладзевы рух, а таксама і царкоўнае жыццё.

Вакол БЦР згуртавалася значна меней грамадскага актыву, чым вакол палітычнай платформы Рады БНР. Кантакты дзеячаў БНР з грамадскімі і палітычнымі структурамі ў ЗША, Канадзе, Вялікай Брытаніі ды Аўстраліі былі больш плённыя, чым іхных апанентаў.

Таксама варта заўважыць, што ў 1940–1950-я гады ў БЦР шмат што залежала ад асобы кіраўніка. На кожным з пленумаў Астроўскі выстаўляў сваю кандыдатуру на новы тэрмін, гэтак і не здолеўшы знайсці сабе пераемніка. Дзеячы БЦР адмаўляліся ад кіравання, спасылаючыся або на занятасць у іншых легальных арганізацыях, або на незацікаўленасць. У выніку Астроўскі ў 1962 г. сышоў у адстаўку, а дзейнасць БЦР прыпынілася. З рэпрэзентацыяй беларусаў у ЗША давалі рады афіцыйныя беларускія арганізацыі: Беларускі кангрэсавы камітэт Амерыкі, «Амерыканскія прыхільнікі БЦР» ды інш. Дзейнасць БЦР уяўляла сімвалічнае значэнне, бо яна афіцыйна не мела права існаваць як урад на эміграцыі. Праца Рады ў час кіравання Нікандра Мядзейкі і Міхася Зуя таксама была сімвалічная.

Дзейнасць БЦР спынілі ў 1995 г., канчаткова закрыўшы гэтую старонку нацыянальнага руху. Значэнне БЦР і яе досведу для гісторыі беларускага нацыянальнага руху палягае ў тым, што яна была адною са спробаў рэалізацыі беларускага імкнення да незалежнасці.

# КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА

## ПААСОБНЫЯ ДАКУМЕНТЫ І ЗБОРНІКІ

1. Аб канстанцкай «Аўтакефаліі» Беларускай Праваслаўнай Царквы. Цірсгайм, Канцылярыя Беларускае Мітраполіі, 8.07.1948. — 3 с.

2. Абвешчаньне аб скліканьні чарговага 14-га Пленуму Беларускай Цэнтральнай Рады. ЗШАмэрыкі, 3 ліпеня 1954. — 2 с.

3. Абвешчаньне Прэзыдыюму Пленуму БЦР аб 13-м Пленуме Беларускай Цэнтральнай Рады. New York, 20.10.1952. — 2 с.

4. Адказ ураду Беларускай Міжлягернай Рады (БМР) на заяву ўраду Беларускага Камітэту на Амэрыканскую зону Нямеччыны, датаваную 22 ліпеня 1947 года. Міхельсдорф, 10.08.1947. — 2 с.

5. Адозва Агульнага Беларускага Саюза Вайскоўцаў (АБСВ). ЗША, 1950. — 1 с.

6. Адозва беларускіх праваслаўных епіскапаў да Беларускай Праваслаўнай Эміграцыі. Да Цябе, Праваслаўны Беларускі Народзе на Эміграцыі. [Нямеччына, 1947. — 5 с.]

7. Адозва да праваслаўных беларусаў [у справе ратаваньня БАПЦ]. [Нямеччына], 1947. — 2 с.

8. Адозва кіраўніка арганізацыйнага бюро Галоўнага Штабу Беларускага Вызвольнага Руху да жаўнераў і афіцэрства… Лёндан, БВР, маёр Л. Зарэчны, 27.02.1952. — 4 с.

9. Адозва Прэзыдэнта Беларускай Цэнтральнай Рады праф. Р. Астроўскага да ўсяе беларускай эміграцыі (на фронт у Карэі). [Швайцарыя], 7.07.1950. — 3 с.

10. Архіпастырскае Пасланьне Епіскапаў Беларускай Праваслаўнай Царквы да Духавенства і веруючых праваслаўных беларусаў на Эміграцыі. Нямеччына, 25 сьнежаня 1949 года паводле старога стылю. — 2 с.

11. Асіпчык, А. «Для ведама беларусаў», «Салдаты Астроўскага». ЗША, 1950. — 2 с.

Улёткі, скіраваныя супраць БЦР, за БВР.

12. Асновы беларускай дыплёматычнай палітыкі. [Тэзы]. Беларускі нацыянальны цэнтр. [Нямеччына], 1947. — 8 с.

13. Афанасі, епіскап. Да праваслаўных прыхаджан Беларускага прыходу ў Рэгенсбургу. Тырсгайм, 22 траўня 1946. — 1 с.

Паведамленне аб пакаранні а. М. Лапіцкага.

14. Беларуская Міжпартыйная Канфэрэнцыя ў Міхельсдорфе [падрыхтоўка, пратаколы, дакумэнты], 4–5 сьнежня 1948. Міхельсдорф, 20 лютага, 1949. — 20 с.

15. Беларуская Народная Партыя. Дэклярацыя. Гарміш-Партэнкірхен, 1947. — 4 с.

16. Беларуская Народная Партыя. Праграма. Мітэнвальд, 1947. — 6 с.

17. Беларуская Народная Рэспубліка – Беларуская Цэнтральная Рада. Нью-Ёрк, Прэзыдыюм Пленуму БЦР. Сэсія 13-га Пленуму БЦР. 1953. — 37 с.

18. Беларускі Вызвольны Фронт. Рэзалюцыя аб незалежнасьці Беларусі. 1971. — 2 с.

19. Беларускі Нацыянальны Фронт. [Статут, мэты]. [Нямеччына, ЗША], 1956. 24 параграфы.

20. Беларусы і беларускі: У 1944 годзе, калі тварылася Беларуская Цэнтральная Рада. Адозва Р. Астроўскага, прэзыдэнта БЦР. Эміграцыя, сьнежань 1947. — 2 с.

21. Беларусы і беларускі Остэргофэну. [Адозва]. 1948. — 1 с.

22. [Віцьбіч, Ю.] Загад старое казы барабаншчыка. Міхельсдорф, 19.04.1947.

Памфлет, які выклікаў вострую палеміку ў лагерах.

23. Да Беларускага Грамадзянства на Эміграцыі. [Саўт-Рывэр, 1952]. — 1 с.

Заклік стварыць Беларускі Нацыянальны Фонд.

24. «Да цябе Праваслаўны Беларускі Народзе на Эміграцыі»: Адозва Беларускіх Праваслаўных Епіскапаў да Беларускай Праваслаўнай Эміграцыі. Нямеччына, 1947. — 5 с.

25. Да яго Блажэнства Блажэньнейшага Мітрапаліта Панцілеймана ў Ціргсгайме. Рэгенсбург, 1947. — 1 с.

«На пятым годзе… пратэстуем супраць самавольнага далучэньня Беларускай Гіерархіі да замежнай расійскай праваслаўнай царквы».

26. Другі Ўсебеларускі Кангрэс. Матар'ялы, сабраныя і апрацаваныя на падставе пратакольных запісаў камісіі БЦР. Пад рэдакцыяй Р. Астроўскага. [Мюнхен], 1954. — 94 с.

27. Дэклярацыя беларусаў-незалежнікаў, Нью-Ёрк, 1956. — 2 с.

Заклік стварыць адзіны грамадска-палітычны цэнтр. Ініцыятыўная група: Я. Ліманоўскі, Л. Галяк, М. Шчорс, В. Чабатарэвіч, М. Панькоў, Краўцэвіч, Я. Шакун, Старасельскі і М. Махноўскі.

28. Дэклярацыя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР), прынятая 31 сьнежня 1947 г. Нямеччына, 1947. — 1 с.

29. Ермачэнка, І. Беларуска-Амэрыканскі Дапамогавы Камітэт у Амэрыцы: «Паважаны грамадзянін… Беларуска-Амэрыканскаму Камітэту ўдалося дабіцца таго, што ў дзень ляяльнасьці 30 красавіка магчыма будзе ісьці беларусам адзінай калёнай». Нью-Ёрк, 21 красавіка 1949. — 2 с.

30. Жубровіч, Б. Што далей? [Артыкул пра палітычнае становішча беларускай эміграцыі]. Бон, 2 сакавіка 1954. — 3 с.

31. За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі. Дакуманты і матар'ялы, сабраныя і падрыхтаваныя для публікацыі І. Касяком, прагледжаныя і апрабаваныя для друку камісіяй Беларускай Цэнтральнай Рады пад кіраўніцтвам праф. Р. Астроўскага. Лёндан, 1960. — 198 с.

32. [Завістовіч, Янка]. Хто-ж такі Мікола Абрамчык? Таронта, 1964. — 11 с.

33. Загад Прэзыдэнта Беларускай Цэнтральнай Рады праф. Р. Астроўскага ўсім дэлегатам БЦР у Амэрыцы, Англіі, Аўстраліі ды іншых краінах. Швайцарыя, 8.07.1950. — 1 с.

34. Закон аб Паняволеных Народах: Public Law 86–90. Captive Nation. Нью-Ёрк, БАЗА—БІНіМ, 1959. — 4 с.

35. Збор дакумэнтаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (на выгнаньні). Пад рэдакцыяй мітрапаліта Андрэя (Крыта). [Аўстралія], 1983. — 193 с.

36. Зборнік песьняў беларускага жаўнера. ЗША, 1975 — 261 с.

Прадмова Н. Мядзейкі, рэдактар В. Селях-Качанскі.

37. Зварот Начальніка Галоўнага Штабу Беларускага Вызвольнага Руху да ўсіх сяброў БВР, вайскоўцаў, моладзі і да ўсяе беларускае грамадзкасьці на эміграцыі. Лянгенфэльд, Заходняя Нямеччына, 18 лютага 1954. — 9 с.

38. Інтэрв'ю з Прэзыдэнтам Беларускай Цэнтральнай Рады праф. Р. Астроўскім. [Нямеччына]. Эміграцыя, сьнежань 1947. — 4 с.

39. [Камунікат]. Міхэльсдорф, 28.06.1947. — 1 с.

«Дня 27 чэрвеня гэтага году ў Міхэльсдорфе адбыўся зьезд у справе арганізацыі Беларускай Міжлягернай Рады».

40. Камунікат Беларускай Незалежніцкай Партыі з дня 23 студзеня 1950 г. Нямеччына, 1950. — 2 с.

41. Камунікат Галоўнага Штабу БВР у справе далейшай дзейнасьці органаў БВР. Лянгенфэльд, 28 лютага 1954. — 2 с.

42. Кіпель, Я. Другі Ўсебеларускі Кангрэс. [Рэферат, чытаны 26 чэрвеня 1949 у лягеры Бакнанг]. Бакнанг, 1949. — 12 с.

43. Кіраўніцтва Беларускага Вызвольнага Руху ў В. Брытаніі. [Запросіны на Надзвычайны Зьезд беларусаў у Вялікабрытаніі ў горадзе Манчэстар]. Манчэстар, 23.09.1952. — 2 с.

44. Коўш, Сьвятаслаў. Адкрыты ліст да беларускай грамадзкасьці. Ватэнштэт, 2 чэрвеня 1949. — 1 с.

45. Маніфэст Беларускага Вызвольнага Руху. Манчэстар, 1960. — 18 с.

46. Мы ня хочам крывіцкай улады. [Віндзішбергердорф], 30 студзеня 1949. — 1 с.

47. Палітычныя пляны Р. Астроўскага. [Нямеччына], Інфармацыйная служба БНР, 20.06.1949. — 1 с.

48. Панькоў, Мікола. Хроніка беларускага жыцьця на чужыне (1945–1984). Менск, 2002. — 330 с.

49. Папраўкі да Статуту Беларускага Вызвольнага Фронту, прынятыя на паседжаньні Галоўнага Штабу Беларускага Вызвольнага Фронту дня 29 жніўня 1955 году. Лёндан, 1955. — 1 с.

50. Пастанова Беларускага Епіскапату ў справе ўмяшаньня ўкраінскага епіскапату ўва ўнутраныя справы Беларускай Праваслаўнай Царквы на эміграцыі. Нямеччына, сьнежань 1949. — 1 с.

51. Праграма Згуртаваньня Беларускіх Патрыётаў. Эміграцыя, лістапад 1950. — 1 с.

52. Праграма і статут ЗБП. Эміграцыя, 1951. — 8 с.

53. Пратакол Другога Ўсебеларускага Кангрэсу ў Менску Дня 27-га чэрвеня 1944-га году. Выдаецца паводле арыгіналу, перапісанага на машынцы ў Менску адразу пасьля Другога Ўсебеларускага Кангрэсу ў 1944 годзе. 1985. — 48 с.

54. Пратакол 17-га Пленуму БЦР, які адбыўся ў Чыкага 3–4 ліпеня 1976. Нью-Брансьвік, 1976. — 10 с.

55. Статут Беларускага Вызвольнага Фронту. Эміграцыя, 1955. — 5 с.

56. Статут Беларускага Нацыянальнага Цэнтра. [Рэгенсбург], 1945. — 4 с.

57. Статут Згуртаваньня Беларускіх Патрыётаў. Нямеччына, эміграцыя. 1951. — 3 с.

58. Статут Камітэту Незалежнай Беларусі. Нью-Ёрк, 29 кастрычніка 1955. — 3 с.

59. Статут Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. [Остэргофэн, 28 сьнежня 1947]. — 3 с.

60. Стенограмма совещания высшего руководства Генерального Округа «Белоруссия» (Минск, 8–10 апреля 1943 года), под редакцией С. Жумаря, С. Новикова, Р. Черноглазовой. Минск, 2006. — 219 с.

61. Стукаліч, Ю. Адкрыты ліст да беларускай грамадзкасьці. Міхельсдорф. 14.11.1947. — 2 с.

62. Характарыстыкі «крывічоў» і іх прыбочнікаў. Эміграцыя, 27.07.1948. — 11 с. Машынапіс.

63. Хто такія крывічы? [Нямеччына], 1948. — 12 с.

64. Хто такія крывічы? Лёндан, 1949. — 2 с. Скарот.

65. Armija Krajowa w dokumentach 1939–1945. T. 3. Kwiecień, 1943 – lipiec, 1944. Londyn, 1976. — 627 s.

66. Belaruskaje Cantralnaje Pradstaŭnictva Suśvietnaj Emihracyji = Belorusian Central Administration. Regensburg, 1949. — 4 s.

67. Byelorussian Americans: A surwey of current political attitudes and activities… New York, Common Council for American Unity, Report March 1951. — 7 p.

68. Byelorussian Central Administration. Weissruthenische Vertretung. Backnang, 27.XII.1949. — 7 с.

69. Communist takeover and occupation of Byelorussia. Special Report no 9 of the Select Committee, 83rd Congress, 2nd Session. H.Res, 346 and H.Res. 438; House Report no 2684, pt. 11. Washington, GPO, 1955. — 29 p.

70. Ermachenko, John, dr. The Aspirations of the White Ruthenians. New York, 1949. — 4 s.

71. Institute for the Study of the USSR. New York, 1958. — 2 p.

Пра беларускія арганізацыі пад нямецкай акупацыяй у 1941–1943.

72. Memorandum der Vereinigte Gemeinde der Weissruthenischen D.P.'s der Westlishen Okkupations Zonen Deutschland. Regensburg, 1948. — 4 s.

73. Memorandum of Central Council of Byelorussian Democratic Republic to: President of the USA, Dwaight D. Eisehhower; Prime Minister of Great Britain, Sir Winston Churchil; Prime Minister of France, Sir Joseph Lanlel. [USA], July 15, 1953. — 2 p.

74. Resolution of the 13th Assembly of the Byelorussian Central Council. [South River, N. J.], 1952. — 1 p.

75. Resolutions adopted by the National Conference on Freedom and Peace Through Liberation. Washington, D.C. December 5, 1953. — 2 p.

76. Statutes of the Belarussian Central-Administration. Regensburg, 1948. — 6 p.

## АРХІВЫ БЕЛАРУСІ (НАРБ)

1. Ф. 283 (Намесніцтва БЦР пры Глыбоцкім акруговым камісарыяце), 2 адз. зах.

2. Ф. 370 (Генеральны камісарыят Беларусі), 3421 адз. зах.

3. Ф. 373 (Небен-бюро пры Генеральным камісарыяце Беларусі, 1941), 131 адз. зах.

4. Ф. 381 (Беларуская Цэнтральная Рада), 45 адз. зах.

5. Ф. 382 (Беларуская краёвая абарона), 20 адз. зах.

6. Ф. 382 (БКА, Менская акруга), 21 адз. зах.

7. Ф. 383 (Галоўнае ўпраўленне вайсковых справаў БЦР), 13 адз. зах.

8. Ф. 384 [Цэнтраля Беларускай народнай самапомачы], 287 адз. зах.

9. Ф. 385 [Кіроўны штаб Саюзу беларускай моладзі], 114 адз. зах.

10. Ф. 386 [Беларускае навуковае таварыства], 14 адз. зах.

11. Ф. 400 (Намесніцтва БЦР па Мінскай акрузе), 7 адз. зах.

12. Ф. 458 [Асабісты фонд Канстанціна Езавітава], 133 адз. зах.

13. Ф. 460 [Асабісты фонд Уладзіміра Сядуры], 7 адз. зах.

14. Ф. 555 [Цэнтральнае бюро прафсаюзаў Беларусі], 6 адз. зах.

15. Ф. 557 [Беларускае культурнае згуртаванне], 2 адз. зах.

16. Ф. 908 [Асабісты фонд Івана Ермачэнкі].

## ПУБЛІКАЦЫІ

1. А. М. [Мартас, Антон]. Матар’ялы да гісторыі Праваслаўнае Беларускае Царквы (пэрыяд савецкай і нямецкай акупацыі Беларусі). Нямеччына, 1948. — 138 с.

2. Антысавецкія рухі ў Беларусі 1944–1956. Мінск, 1999. — 192 с.

3. [Астроўскі, Віктар]. Paškvilantam na pamiatku. Лондан, 1966. — 18 с.
Палеміка пра нацыянальныя назовы «крывічы» і «беларусы».

4. Астроўскі, Радаслаў. Хлусьня-хвальшаваньне і правакацыя — неадлучныя атрыбуты бальшавіцкай прапаганды. Лондан, 1965.

5. Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне. Энцыклапедыя. Мінск, 1990. — 679 с.

6. Беларусь у гады Другой сусветнай вайны (1941–1945) / Аляксандр Каваленя, Аляксей Літвін, Уладзімір Кузьменка і інш. Мінск, 2005. — 540 с.

7. Беляев, Алексей. Местная вспомогательная администрация в системе немецко-фашистского оккупационного режима в Беларуси (1941–1944): автореф. дис. … канд. ист. наук. Минск, 2005. — 22 с.

8. Блінец, Андрэй. Яшчэ раз пра Наваградзкі эскадрон // Запісы БІНіМ. №34. 2011. С. 657–681.

9. Блізнюк, Дзмітрый. З гісторыі нацыянальнай палітыкі нямецкіх акупацыйных уладаў на тэрыторыі Беларусі ў 1941–1944 // Этнічныя супольнасці ў Беларусі: гісторыя і сучаснасць. Матэрыялы навуковай канферэнцыі. Мінск, 6–7 снежня 2001 г.

10. Валаханович, Игорь. Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944–1953 гг. Минск, 2002. — 144 с.

11. Валаханович, Игорь. Специальный батальон «Дальвиц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях вайны Вялікай Айчыннай вайны. Масавыя забойствы нацыстаў / Пад рэд. К. Козака. Мінск, 2005. С. 107–117.

12. Весялкоўскі, Юрый. Па сьлядах II сусветнай вайны. Вільня, 2002. — 212 с.

13. Віленскі, Сяргей. Дапаўненьні да біяграфіі Р. Астроўскага. [Памфлет, скіраваны супраць асобы прэзідэнта БЦР]. Лондан (?), 1948. — 6 с.

14. Вініцкі, Алесь. Матар’ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939–1951 гг. Ч. I. Лос-Анджэлес, 1968. — 290 с.

15. Вініцкі, Алесь. Матар’ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939–1951 гг. Ч. II. Рэлігійныя справы. Лос-Анджэлес, 1968. — 119 с., [дадаткі].

16. Вініцкі, Алесь. Матар’ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939–1951 гг. Ч. III. Арганізацыі. Лос-Анджэлес, 1968. — 173 с.

17. Вініцкі, Алесь. Матэрыялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939–1951 гг. Мінск, 1994. — 234 с.

18. Волаціч, Мікола [Пануцэвіч, Вацлаў]. Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква // Запісы БІНіМ, №27. С. 155–222.

19. Гардзіенка, Алег. Беларускі кангрэсавы камітэт Амэрыкі (БККА). Смаленск, 2009. — 428 с.

20. Гардзіенка, Алег. Беларуская народная самапомач. Яшчэ адна спроба атрымання незалежнасці // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 2001, №16. С. 181–188.

21. Гардзенка, Алег. Беларуская Цэнтральная Рада: ад эвакуацыі зь Беларусі да капітуляцыі Нямеччыны // Запісы БІНіМ, №28, 2005. С. 169–178.

22. Гардзіенка, Алег. Беларуская Цэнтральная Рада (1977–1995) // Запісы БІНіМ. №33. 2010. С. 542–546.

23. Гардзіенка, Алег. БНС: спроба стварэння беларускага ўраду // Беларусь у XX стагоддзі. Мінск, 2002.

24. Гардзіенка, Алег. Бэрлін як асяродак беларускага жыцьця першай паловы 40-х гг. XX ст. // Запісы БІНіМ. №26. 2002. С. 90–97.

25. Гардзіенка, Алег. Палітычны раскол на беларускай эміграцыі ў 1940-я гг. // Беларускі гістарычны агляд. Т. 16. Сш. 2 (31). Снежань 2009. С. 452–475.

26. Гардзіенка, Наталля. Беларусы ў Вялікабрытаніі. Мінск, 2010. — 617 с.

27. Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947–1970): Падзеі. Дакументы. Асобы. Мінск: Кнігазбор, 2013. — 647 с.

28. Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1970–1982): Падзеі і дакументы. Мінск: Кнігазбор, 2014. — 300 с.

29. Гардзіенка, Натальля. Архіў Дзьмітрыя Касмовіча // Запісы БІНіМ. №32. 2009. С. 482–498.

30. Гардзіенка, Натальля. Беларусы ў Аўстраліі: да гісторыі дыяспары. Менск, 2004. — 465 с.

31. Гардзіенка, Натальля. Людвік Галубовіч (Зарэчны) і Дзьмітрый Касмовіч у лістах 1951–1953 гг. // Запісы БІНіМ. 2011. №34. С. 271–301.

32. Гелагаеў, Алесь. Арганізацыя беларускіх узброеных адзінак на тэрыторыі Генэральнай акругі «Беларусь» у 1941–1944 гг. // ARCHE. 2010. №5.

33. Гелагаеў, Алесь. Беларускія нацыянальныя вайсковыя фармацыі ў часе Другой сусьветнай вайны. Мінск, 2002. — 70 с.

34. Грыбоўскі, Юры. Беларускі камбатанцкі рух на Захадзе пасьля Другой сусьветнай вайны // Запісы БІНіМ. №32. 2009. С. 404–431.

35. Грыбоўскі Юры. Беларускі легіён СС // Беларускі гістарычны агляд. Т. 14. Сш. 1–2 (26–27). Снежань 2007. С. 97–140.

36. Грыбоўскі, Юры. Наваградскі эскадрон Барыса Рагулі: вядомае і невядомае // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 2008. №30. С. 101–114.

37. Грыбоўскі, Юры. Польска-беларускі канфлікт у генеральнай акрузе «Беларусь» (1941–1944) // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 2006. №26. С. 116–167.

38. Грыбоўскі, Юры. Службы бяспекі ПНР і польскія нацыяналісты і іх палітычныя цэнтры на Захадзе // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 2007. №28. С. 158–192.

39. Грыбоўскі, Юры; Екабсонс, Эрык. Кастусь Езавітаў і яго дзённік // Запісы БІНіМ. №36. 2013. С. 216–243.

40. Доморад, Константин. Разведка и контрразведка в партизанском движении Беларуси. 1941–1944. Минск, 1995. — 256 с.

41. Екабсонс, Эрык. Беларусы ў Латвіі ў часы савецкай і нямецка-фашысцкай акупацыі (1940–1945) // Беларускі гістарычны агляд. Т. 13. Сш. 2 (26–27). 2006. С. 199–234.

42. Ёрш, Сяргей. Вяртаньне БНП. Асобы і дакумэнты Беларускай Незалежніцкай Партыі. Мінск—Слонім, 1998. — 185 с.

43. Жумарь, С. В. Оккупационная периодическая печать на территории Беларуси в годы Великой Отечественной войны. Минск, 1996. — 283 с.

44. Жывіца, Ю. Радаслаў Астроўскі — Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады, ягонае жыцьцё, праца і змаганьне. 1964. — 74 с.

Пашыранае выданне выйшла ў 1984 г. (104 старонкі).

45. Запруднік, Янка. Беларусь на гістарычных скрыжаваннях. Мінск, 1996. — 264 с.

46. Запруднік, Янка. Маё ліставаньне зь Міколам Абрамчыкам, старшынём Рады БНР (1953–1969) // Запісы БІНіМ. №33. 2010. С. 217–340.

47. Знешняя палітыка Беларусі: зборнік дакументаў і матэрыялаў. Т. 4 (чэрвень 1941 — жнівень 1945). Мінск, 2001. — 394 с.

48. Зьніч, Максім. Здрада (Як запрадаўся былы епіскапат маскоўскаму зарубежжу). Нямеччына, 1948. — 31 с.

49. Каваленя, Аляксандр. Прагерманскія саюзы моладзі на Беларусі (1941–1944). Вытокі. Структура. Дзейнасць. Мінск, 1999. — 235 с.

50. Казіцкі, Аляксандр. Беларуская палітычная эміграцыя ў 1945–1953 гг. вачыма польскіх спецслужбаў // ARCHE. 2009. №5.

51. Калубовіч, Аўген. Крокі гісторыі: Дасьледаваньні, артыкулы, успаміны. Беласток—Вільня—Менск, 1993. — 283 с.

52. Касяк, Іван. З гісторыі праваслаўнай царквы беларускага народу. Нью-Ёрк, выданьне БЦР, 1956. — 190 с.

53. Каханоўскі, Аўген [Калубовіч]. Фактычныя дадзеныя аб стане беларускай эміграцыі // Запісы БІНіМ. №28. 2005. С. 273–284.

54. Кіпель, Вітаўт. Беларусы ў ЗША. Мінск, 1993. — 350 с.

55. Кіпель, Вітаўт. Моладзь у лягерах Ды-Пі // Запісы БІНіМ. №34. 2011. С. 176–184.

56. Клыкоўская, Ціна. Саюз беларускай моладзі: вяртанне з небыцця. Беласток, 2004. — 226 с.

57. Коваль, Вольга. Перыядычныя выданні беларускай дыяспары як гістарычная крыніца (1939–1960). Мінск, 2008. — 164 с.

58. Козак, Кузьма. Оккупационный режим на территории Беларуси 1941–1944: историография и источники. Минск, 2006. — 267 с.

59. Коўш, Сьвятаслаў. Беларускі лягер у Ватэнштэт. Альбом — гістарычная даведка. [Саўт-Рывэр], 1981. — 88 с.

60. Коўш, Сьвятаслаў. Лягер Ватэнштэт. Саўт-Рывэр, 1976. — 6 с.

61. Крывашэй, Дзмітрый. Нацыянальныя супольнасці Беларусі ў перыяд германскай акупацыі: чэрвень 1941 — ліпень 1944. Мінск, 2009. — 196 с.

62. Кузьменко, В. И. Интеллигенция Беларуси в период немецко-фашистской оккупации (1941–1944). Минск, 2001. — 199 с.

63. Кузьменко, Владимир; Токарев, Николай. Политика немецко-фашистских оккупационных властей в отношении научной интеллигенции Беларуси 1941–1944). Минск, 2007. — 132 с.

64. Кушаль. Франц. Спробы стварэньня беларускага войска. Мінск, 1999. — 164 с.

65. К’яры, Бернхард. Штодзённасьць за лініяй фронту: Акупацыя, калябарацыя і супраціў у Беларусі (1941–1944 гг.). Мінск, 2008. — 389 с.

66. Лапіцкі, Мікалай. У служэньні Богу й Беларусі = In the service of God and Belarus. Варшава, 2005. — 672 с.

67. Літвін, А. Акупацыя Беларусі (1941–1944): пытанні супраціву і калабарацыі. Мінск, 2000. — 287 с.

68. Літвін, А. Антысавецкія ваенна-палітычныя фарміраванні на тэрыторыі Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. 1941–1944. Вытокі, структура, дзейнасць: аўтарэф. дыс. … докт. гіст. навук: 07.00.02. Мінск, 2000. — 37 с.

69. Літвін, А. Вяртанне ў рабства: Прымусовая праца насельніцтва Беларусі / А. Літвін, Я. Грэбень, С. Новікаў. Мінск, 2010. — 581 с.

70. Літвін, Аляксей. Беларуская самаахова: да пытання стварэння і дзейнасці // Старонкі ваеннай гісторыі Беларусі. 1998. №2.

71. Літвін, Аляксей. Калабарацыя ў Беларусі падчас Другой сусветнай вайны // Гістарычны альманах. 2007. №13. С. 89–98.

72. Литвин, Алексей. Местная вспомогательная полиция на территории Беларуси (июль 1941 — июнь 1944) // Беларусь у ХХ ст. Ч. 2. Мінск, 2003.

73. Максімюк, Ян. Аднаўленьне Рады БНР пасьля Другой сусьветнай вайны // Запісы БІНіМ. №25. 2001.

74. Максімюк, Ян. Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне ў 1945–1950 гг. Нью-Ёрк—Беласток, 1994. — 196 с.

75. Мартос, Афанасий. Белорусь в исторической, государственной и церковной жизни. Буэнос-Айрес, 1966. — 262 с.

76. Мігунова, Алена. Прапагандысцкая і культурна-асветная дзейнасць нямецкай акупацыйнай улады ў Генеральнай акрузе «Беларусь»: аўтарэф. дыс. … канд. гіст. навук. Мінск, 1999. — 24 с.

77. Надсан, Аляксандр. Біскуп Чэслаў Сіповіч, сьвятар і беларус. Мінск, 2004. — 299 с.

78. Найдзюк, Язэп; Касяк, Іван. Беларусь учора і сяньня. Мінск, 1993. — 414 с.

79. Новікаў, Іван. Дарогі скрыжаваліся ў Мінску. Мінск, 1964. — 431 с.

80. Окороков, Александр. Антисоветские воинские формирования в годы Второй мировой войны. Москва, 2000. — 173 с.

81. Пануцэвіч, Вацлаў. 30-я ўгодкі «так званага» ІІ Ўсебеларускага Кангрэсу. Чыкага, Беларуская Выдавецкая Сябрына. 1974. — 11 с.

82. Пачобут, Анджэй. Байкі для патрыётаў // ARCHE. 2008. №5. С. 87–93.

83. Поспеловский, Д. В. Русская православная церковь в ХХ веке. М.: Республика, 1995. — 511 с.

84. Раманоўскі, В. Саўдзельнікі ў злачынствах. Мінск, 1964. — 288 с.

85. Романько, Олег. Белорусские коллаборационисты: сотрудничество с оккупантами на территории Белоруссии, 1941—1945. Москва, 2013. — 478 с.

86. Романько, Олег. Коричневые тени в Полесье: Белоруссия в 1941–1944 гг. Москва, 2008. — 428 с.

87. Рыдлеўскі, Лявон. Да біяграфіі М. Абрамчыка. Парыж, 1948–1951. — 10 с.

88. Рыдлеўскі Лявон. З жыцьця й дзейнасьці М. Абрамчыка // З гісторыяй на «Вы». Артыкулы, дакументы, успаміны. Мінск, 1994.

89. Рэйн, Леанід. Недачалавекі ўва ўніформе СС: 30-я ваффэн-грэнадзёрская дывізія Ваффэн-СС // ARCHE. 2008. №5. С. 452–496.

90. Рэйн, Леанід. Праваслаўная царква ў Беларусі за нямецкай акупацыяй (1941–1944) // ARCHE. 2008. №5. С. 260–284.

91. Савік, Лідзія. Космас беларуса: Жыцьцяпіс Б. У. Кіта, асветніка, вучонага, патрыёта. Мінск, 1996. — 269 с.

92. Сачанка, Барыс. Беларуская эміграцыя. Мінск, 1991. — 111 с.

93. Селеменев, Вячеслав, Шимолин, Виктор. Охота на палача. Мінск, 2007. — 288 с.

94. Семиряга, М. И. Коллаборационизм. Природа, типология и проявления в годы Второй мировой войны. Москва, 2000. — 862 с.

95. Сервачинский, И. Коллаборационизм на оккупированной территории Беларуси (июнь 1941 — август 1944): автореф. … канд. ист. наук. Минск, 1999. — 16 с.

96. Силова, Светлана. Православная церковь в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941–1945). Гродно, 2003. — 105 с.

97. Снапкоўскі, Уладзімір. Беларуская палітычная эміграцыя (1945–1990) // Полымя. 1997. №2. С. 201–239.

98. Снапкоўскі, Уладзімір. Беларусь у геапалітыцы і дыпламатыі Другой сусветнай вайны і пачатку халоднай вайны (1939–1947) // Внешняя политика Беларуси в исторической ретроспективе. Материалы междунар. науч. конф., 24–25 мая 2002 г., г. Минск / Редкол.: В. Астапенко и др. Минск: Адукацыя і выхаванне, 2002.

99. Соловьев, А. К. Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах. Минск, 1995. — 176 с.

100. Соловьев, А. К. Они действовали под разными псевдонимами. Минск, 1994. — 200 с.

101. Сямашка, Яўген. Армія Краёва на Беларусі. Мінск, 1994. — 269 с.

102. Туронак, Юры. Беларускае пытаньне ў палітыцы лёнданскага лягеру (1941–1944) // Туронак, Юры. Мадэрная гісторыя Беларусі. Вільня, 2006.

103. Туронак, Юры. Беларуская кніга пад нямецкім кантролем (1939–1944). Менск, 2002. — 144 с.

104. Туронак, Юры. Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі. Мінск: Медысонт, 2006. — 180 с.

105. Туронак, Юры. Генэза і дзейнасьць Беларускай Цэнтральнай Рады (сьнежань 1943 — чэрвень 1944) // Туронак, Юры. Мадэрная гісторыя Беларусі. Вільня, 2006. С. 485–500.

106. Туронак, Юры. Да генезы БНП, або як ствараліся міфы // Беларускі гістарычны агляд. Т. 6. Сш. 1–2. 1999. С. 273–279.

107. Туронак, Юры. Людзі СБМ. Беларусь пад нямецкай акупацыяй. Смаленск, 2008. — 588 с.

108. Туронак, Юры. Польска-беларускія ўзаеміны падчас другой сусьветнай вайны // Туронак, Юры. Мадэрная гісторыя Беларусі. Вільня, 2006. С. 501–509.

109. Туронак, Юры. Роля Мікалая Пахлябаева ў падрыхтоўцы замаху на Вільгельма Кубэ // Беларускі гістарычны агляд. Т. 16. Сш. 1–2. Снежань 2009. С. 220–238.

110. Трагічнае лета 1941: напамін гісторыі. Матэрыялы міжнароднай навукова-тэарэтычнай канферэнцыі. Мінск, 22 чэрвеня 2001 / Гал. рэд. А. Каваленя. У 2 ч. Мінск. 2001, 2003. — 188 с.

111. Факторович, Анатолий. Крах аграрной политики немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии. Минск, 1979. — 148 с.

112. Цанава, Лаврентий. Всенародная партизанская война в Белоруссии против фашистских захватчиков. Т. 1. Минск, 1951. — 414 с.; Т. 2. Минск, 1951. — 1034 с.

113. Чуев, Сергей. Проклятые солдаты. Москва, 2004. — 574 с.

114. Шкаровский, Михаил. Крест и свастика. Нацистская оккупация и Православная Церковь. Москва, 2007. — 505 с.

115. Шкялёнак, Мікалай. Беларусь і суседзі. Гістарычныя нарысы. Беласток, 2004. — 297 с.

116. Шнэк, Уладзімір. Беларуская Краёвая Абарона. Уніформа і адзнакі. Ілюстраваны альбом. Мэльбурн, 1984. — 75 с.

117. Шыла, Мікола. А што далей? Кароткі нарыс узаемаадносінаў сярод беларускай эміграцыі. [Нямеччына], 1948. — 16 с.

118. Юрэвіч, Лявон. Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі. Мінск, 2005. — 360 с.

119. Юрэвіч, Лявон. Краіна Ды-Пі: замалёўкі побыту й нораваў зь лягерных часоў // Запісы БІНіМ. №34. 2011. С. 8–147.

120. Юрэвіч, Лявон. Летапісны звод сусьвету Чалавека Сьведамага. Мінск, 2006. — 254 с.

121. Юрэвіч, Лявон. Мэмуары на эміграцыі. Крыніцазнаўчае дасьледаваньне. Мінск, 2005. — 229 с.

122. Юрэвіч, Лявон. Шматгалосы эпісталярыум. Гісторыя людзей і ідэй на эміграцыі ў ліставанні. Мінск, 2012. — 657 с.

123. Astroŭski, V. S. Hmara (Siniak) «Pad Hitleroŭcami». London, 1969. — 2 s.

124. Borodin, Zygmunt. Nieman — rzeka niezgody. Polsko-radziecka wojna partyzanska na Nowogrodczyznie 1943–1944. Warszawa, 1999. — 336 p.

125. Dallin, Alexander. German Rule in Russia, 1941–1945. New York—London: Macmillan, 1957. — 695 p.

126. Grzybowski, Jerzy. Pogoń między Orłem Białym, Swastyką i Czerwoną Gwiazdą. Białoruski ruch niepodleglosciowy w latach 1939–1956. Warszawa, 2011. — 908 s.

127. Kalush, V. In the Service of the People for a Free Byelorussia. Biographical notes on Professor Radoslaw Ostrowski. London, 1964. — 94 p.

128. Kasiak, Ivan. Byelorussia: historical outline. London, 1989. — 346 p.

129. Kipel, Vitaut. Byelorussians in the United States. University Press of America. Lanham—New York—Oxford, 1984. — 569 p.

130. Kipel, Vitaut; Kipel, Zora. Belarusian Publishing in the West. A Bibliography. New York—Warsaw, 2006. — 858 p.

131. Vakar, Nicholas. A bibliographical guide to Byelorussia. Cambridge, Mass., Harvard University Press, 1956. — 63 p.

132. Vakar, Nicholas. Belorussia. The making of a Nation. A case study. Cambridge, Mass., Harvard University Press, 1956. — 297 p.

133. Wilson, Andrew. Belarus. The last European dictatorship. Yale University Press, New Haven and London, 2011. — 304 p. Illustrations.

134. Zaprudnik, Jan. Belarus at a Crossroads in History. Boulder, Westview Press, 1993. — 278 p.

У 1996 г. кніга была перавыдадзеная ў Мінску па-беларуску.

135. Zaprudnik, Jan. Historical Dictionary of Belarus. Lahnam, Md., & London, 1998. — 298 p.

## МЕМУАРЫ

1. Адзінец, Аляксандр. Паваенная эміграцыя: скрыжаваньні лёсаў: Зборнік успамінаў. Мінск, 2007. — 703 с.

2. Акула, Кастусь. Змагарныя дарогі. Мінск, 1994. — 572 с. Перавыданне: Акула К. Россыпы. Мінск, 2005. — 623 с.

3. Алехнік, Алесь. Пад бел-чырвона-белым. Вільня, 1999. — 223 с.

4. Белямук, Міхась. Свайго лёсу не мінеш. Вільня, 2006. — 203 с.

5. Весялкоўскі, Юры. Няясна мроіліся новыя дарогі: [успаміны]. Лондан, 1997. — 141 с.

6. Весялкоўскі, Юры. Прэзыдэнт БЦР у доме ХАБРу. Лондан, 1966. — 16 с.

7. Галубовіч, Людвіг. Кароткая біяграфія. Мёнхэнгладбах, 23.12.1960. Перадрукоўвалася ў: Юрэвіч, Л. Танальнасьць біяграфіі як энцыклапедычнага жанру // Запісы БІНіМ. №30. 2006. С. 223–230.

8. Галяк, Леанід. Успаміны: у 2 кн. Кн. 1. 1982. — 248 с.; Кн. 2. 1983. — 166 с.

9. Ганько, Марыя. Каб сьведчылі пра Беларусь: Жыцьцё і дзейнасьць Міколы Ганька. Мінск, 2005. — 189 с.

10. Геніюш, Ларыса. Споведзь. Мінск, 1993. — 271 с.

11. Грыцук, Вольга. Мы стваралі сваю Беларусь: Жыцьцё і дзейнасьць Аляксея Грыцука. Мінск, 2007. — 253 с.

12. Данілюк, Барыс. Азіраючыся расой выетымі вачамі: успаміны. Мінск, 2012. — 522 с.

13. Дземідовіч, Надзея. Век так не будзе. Мінск, 2002. — 171 с.

14. Езовитов, Константин. Воспоминания // Нёман. [Минск], 1993. №3.

15. Жук-Грышкевіч, Раіса. Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча. Таронта, 1993. — 797 с.

16. З гісторыяй на «Вы»: артыкулы, дакументы, успаміны / Пад рэд. Янкі Запрудніка. Вып. 3. Мінск, 1994. — 347 с.

17. Запруднік, Надзея. Блуканьні па лягерах у паваеннай Нямеччыне (1945–1950) // Запісы БІНіМ. №34. 2011. С. 163–175.

18. Запруднік, Янка. Дванаццатка. Дакумэнтальная аповесьць пра 12-х беларускіх хлапцоў у Нямеччыне, Вялікабрытаніі і Бэльгіі (1946–1954). Нью-Ёрк—Беласток: БІНіМ, 2002. — 510 с.

19. Змагар, Алесь. Успаміны [машынапіс].

20. Зуй, Міхась. Мая аўтабіяграфія // Ёрш, С. Вяртанне БНП. Мінск, 1998.

21. Касмовіч, Дзьмітры. За вольную і сувэрэнную Беларусь. Вільня, 2006. — 223 с.

22. Катковіч, Анеля; Катковіч-Клентак, Вераніка. Успаміны. Беласток, 1999. — 142 с.

23. Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць: успаміны. Мінск, 2015. — 442 с.

24. Кіпель, Зора. Дні аднаго жыцця: успаміны, артыкулы, дзённікі. Мінск, 2010. — 933 с.

25. Кіпель, Яўхім. Эпізоды: успаміны. Выд. 2-е, дапрац. Мінск, 2013. — 386 с.

26. Лёс аднаго пакалення: Успаміны Кастуся Сідаровіча, Юстына Пракаповіча, Янкі Жамойдзіна, Віктара Ермалковіча. Беласток, 1996. — 213 с.
27. Малецкі, Язэп. Пад знакам Пагоні. Таронта, 1976. — 198 с.
28. Мартас, Апанас. На ніве Хрыстовай: у пяцідзясятыя ўгодкі святарства 1928–1978. Нью-Ёрк—Мінск—Варшава, 2008. — 192 с.
29. Мерляк, Кастусь. Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі: пранілівасьць і практычны падыход. Нью-Ёрк, 1992. — 476 с.
30. Пазьняк, Зянон. Гутаркі з Антонам Шукелойцем. Варшава—Вільня, 2003. — 143 с.
31. Рагуля, Барыс. Беларускае студэнцтва на чужыне. Выд. 2, выпраўл. і дапоўн. Мінск, 2006. — 181 с.
32. Руднік, Галіна. Птушкі пералётныя. Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2011. — 184 с.
33. Стагановіч, Аляксандр. Успаміны пасла. Мінск, 2011. — 268 с.
34. Сурвіла, Івонка. Дарога: Стоўпцы—Капэнгаген—Парыж—Мадрыд—Атава—Менск. Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2008. — 140 с.
35. Туронак, Юрый. За кардонам Бацькаўшчыны: успаміны. Мінск, 2010. — 274 с.
36. Урбан, Павел. Успаміны // Запісы БІНіМ. №34. 2011. С. 459–490.
37. Шабовіч, Святаслаў. З фальварка Марцінова да Фармінгтонскіх узгоркаў: гісторыя аднаго падарожжа. Мінск, 2015. — 257 с.
38. Шнэк, Сьцяпан. Узброеная Случчына: Да гісторыі Беларускай Краёвай Абароны // Беларускі рэзыстанс. 2004. №1.
39. Юрэвіч, Лявон. Вырваныя бачыны: Да гісторыі Саюзу беларускай моладзі. Мінск, 2001. — 211 с.
Успаміны Міколы Ганька, Валера Навіцкага, ліставанне Надзеі Абрамавай.
40. Юрэвіч, Лявон. Жыцьцё пад агнём: Партрэт беларускага ваеначальніка і палітычнага дзеяча Барыса Рагулі на фоне яго эпохі. Мінск, 1999. — 254 с.

## АСНОЎНЫЯ ГАЗЕТЫ І ЧАСОПІСЫ ЧАСУ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ (ЯК КРЫНІЦЫ):

1. Беларус на варце. [Менск], 1942–1944.
2. Беларуская газэта. [Менск], 1942–1944.
3. Беларуская школа. [Менск], 1942–1944.
4. Беларускі работнік. [Бэрлін], 1942–1944.
5. Газэта Случчыны. 1943–1944.

6. Жыве Беларусь! [Менск], 1943–1944.

7. Менская газэта. 27 ліпеня 1941 — 5 лютага 1942 [далей выдавалася як «Беларуская газэта»].

8. Новы шлях. [Рыга—Менск], 1942–1944.

9. Новая Дарога. [Беласток], 1942–1944.

10. Раніца. [Бэрлін], 1939–1945.

11. Слонімскі кур'ер. [Слонім], 1943–1944.

## БІБЛІЯГРАФІЯ ПЕРЫЯДЫЧНЫХ ВЫДАННЯЎ НА ЭМІГРАЦЫІ, ШТО НАЎПРОСТ ЦІ ЎСКОСНА ПАДТРЫМЛІВАЛІ БЦР (ПАВОДЛЕ БІБЛІЯГРАФІІ ВІТАЎТА І ЗОРЫ КІПЕЛЯЎ «БЕЛАРУСКІ ДРУК НА ЗАХАДЗЕ»)

Асноўныя друкаваныя органы на эміграцыі, газеты **«Бацькаўшчына»** і **«Беларус»**, змяшчалі шмат палемічнага, карыснага, важнага матэрыялу і пра БЦР.

1. **Abiežnik**.
Stuttgart, Biełaruski Wyzwolny Front. Haloŭny Štab.
№1, 1958 — №1/90, чэрв. 1990.

2. **Аб'еднаньне**.
London, Chryścijanskaje Abjednańnie Biełaruskich Rabotnikaŭ u W. Brytanii.
№1, 23 сакавіка 1948 — №108, чэрвень 1966.

3. **Апошнія Весткі**.
Інфармацыйны лісток.
Ватэнштэт, Браўншвайг.
№1, 26 студзеня — №1 (38), 2 ліпеня 1948 г.

4. **Барацьба**.
Цэнтральны Орган Беларускага Вызвольнага Фронту.
Штутгарт, Палітычна-Прапагандовы Аддзел Галоўнага Штабу БВФ.
№1, сакавік 1955 — №87–88, студзень—жнівень 1979.
№89–95 — храналогія падзеяў.
№96–101 — дакументацыя.

5. **Беларускае Слова**.

Michelsdorf, Cham, West Germany, [рэд. А. Русак, Ю. Стукаліч, Ю. Сабалеўскі].

№1, 17 сьнеж. 1948 — №2 (39), крас.—чэрв. 1958.

Напачатку газета выходзіла як: Appendix to the *Ukrainian newspaper «Ukrainian News»*, з №4 (5), 25 сак. 1949 — самастойнае выданне.

З №7/8, 18 чэрв. 1949 — *Backnang bei Stuttgart.*

№2 (14), 25 сак. 1950 — адмысловае выданне. Зменшаны фармат.

З №1 (15), 25 сак. 1954, год 4-ты — назоў таксама *Weissruthenisches Word*.

З №3 (32), сьнеж. 1956, год 6-ты, выходзіла ў South River, N.J., [рэд. Я. Кіпель].

6. **Беларускае Слова ў Амэрыцы**. **Byelarussian Word in America**.

Грамадзка-Літаратурны часапіс.

New Brunswick, N.J., Redakcyjnaja kalehija, [рэд. С. Коўш].

№1, студз. 1950.

№2, люты 1950.

На правох рукапісу. Выйшла 2 нумары.

7. **Беларуская Воля**.

[Garmisch-Partenkirchen, Беларуская Народная Партыя, рэд. Я. Кіпель, выд. С. Жамойда].

№1, 10 сьнеж. 1947 — №18–1 (19–20), сьнеж. 1949 — студз. 1950.

З №3/4, 5 лют. 1948 — загаловак таксама *Bielarusien Volition*.

З №16/17, 26 кастр. 1948 — падзагаловак «Орган Беларускай Народнай Партыі».

8. **Беларуская Думка**. **Byelorussian Thougth**.

Грамадзка-Палітычны і літаратурна-мастацкі часапіс.

Нью-Ёрк, Саўт-Рывэр, Беларускае Выдавецкае Таварыства ў ЗША, [рэд. калегія: Л. Галяк, А. Даніловіч, М. Кавыль, інж. І. Касяк, протапр. М. Лапіцкі, др. М. Шчорс].

№1, кастр. 1960, год 1-шы — №8 (мае падзагаловак па-англійску: *The Byelorussian Outlook on Society, Politics, Literature and Arts*).

Выданне працягваецца.

9. **Беларуская Зарніца**.

Царкоўна-народны часапіс.

South River, N.J., Орган праваслаўных беларусоў (у эміграцыі), рэд. а. Сьвятаслаў Коўш.

№1 на эміграцыі, [1987].

№2 на эміграцыі, трав. 1988.

№3, сьнеж. 1989 — апошні вядомы нумар.

Аднаўленне аднайменнага часопісу, які выходзіў у 1920-х гадах у Вільні, рэдагаванага а. Аляксандрам Каўшом.

10. **Беларуская Праўда**. **Die Bielorussische Wahrheit**.

Часапіс Нацыянальна-Дзяржаўных Спраў.

Windsberg, West Germany, [рэд. Ю. Попка].

№1, крас. 1965 — №43/88, трав. 1988, год 24-ты.

З №14, люты 1973 — падзагаловак таксама *Byelorussian Truth*.

З №21, трав. 1974 — няма англійскага і нямецкага загалоўкаў.

№43/88, 1988 — апошні вядомы нумар.

11. **Беларуская Трыбуна**. **Byelorussian Tribune**.

Орган Незалежнае Беларускае Думкі.

Jackson Heights, N.Y., Злучаны Беларуска-Амэрыканскі Дапамаговы Камітэт, рэд. М. Шчорс, Я. Ляшчынскі.

Vol. 1, no. 1, Aug. 27, 1950 — vol. 4, no. 3 (17), list. 1953.

З vol. 1, no. 2, Nov. 5 — Wallington, N. J.

З no. 2 (5), March 25, 1951 — Garfield, N. J.

No. 5 (8), Sept. 30, 1951 — выдае Беларускі Выдавецкі Фонд у ЗША.

12. **Беларускі Каляндар**. **Byelorussian Calendar**.

South River, Byelorussian Press UABRC, друкар А. Даніловіч.

Выдаваўся з 1952 г.

Часам называўся **Беларускі Насьценны Каляндар**.

Назвы месяцаў — на беларускай і англійскай мовах.

З 1990 года выдаецца Злучаным беларуска-амэрыканскім дапамаговым камітэтам.

13. **Беларускі Патрыёт**.

Орган Нацыянальна-Патрыятычнай Думкі.

Lindich b/Hechingen, Germany, выд. Саюз Беларускіх Патрыётаў, рэд. А. Даніловіч.

№1, ліст. 1950 — №3 (40), кастр. 1954, год 5-ты.

З №2 , сьнеж. 1950 — выд. Згуртаваньне Беларускіх Патрыётаў.

З №9–10 (11–12), верас.—каст. 1951 — Відсбэрг б/ Пірмасэнс, Нямеччына, Выд. ЗБП, рэд. Ю. Попка.

З №2–3 (30–31) люты—сак. 1953 выходзіць у Oneida, N.Y., рэд. А. Даніловіч.

№3 (40), кастр. 1954 — апошні вядомы нумар.

Літаратурны дадатак да газэты «Беларускі Патрыёт»: №1, студзень 1955; №2 [верас. 1955] — была аддрукаваная толькі 1-я старонка.

14. **Б І С** [Беларуская Інфармацыйная Служба].

[Міхэльсдорф].

[№1 — 16], 1946–1947 — напачатку выходзіў без нумарацыі і нерэгулярна.

З №17, 25 чэрв. 1948 — штодватыдні.

№18, 10 ліп. 1948.

№19, 25 ліп. 1948.

№20, 10 жніўн. 1948.

№21, 1 верас. 1948.

№22 , 25 верас. 1948.

№23, 25 кастр. 1948 — падзагаловак: Беларускі дэмакратычны незалежніцкі двутыднёвік. Рэд. Ігнат Тур.

№24, 1 люты 1949 — апошні вядомы нумар.

15. **Бюлетэнь Беларускай Цэнтральнай Рады**.

Саўт Рывэр, Штат Нью Джэрсі, Спалучаныя Штаты Паўночнай Амэрыкі.

№1, 1954 — 13-я сэсія Пленуму БЦР.

[№3] ?, 1959 — Biuleteń B.C.R., XV Plenum Biełaruskaje Centralnaje Rady. 1-šaja sesija, 30.XI. 1957, London.

16. **Бюлетэнь Беларускай Цэнтральнай Рады — Жыве Беларусь**.

South River, N. J., гал. рэд. Кастусь Каліна (Ю. Попка).

№1, сьнеж. 1976, год 1-шы.

№2, ліст. 1977, год 2-гі.

№3, сьнеж. 1978, год 3-ці.

№4, сьнеж. 1979, год 4-ты.

№5, трав. 1980, год 5-ты.
№6, кастр. 1981, год 6-ты.
№7, верас. 1982, год 7-мы.
№8, верас. 1983, год 8-мы.
№9,1984, год 9-ты.
№10, студз. 1985, год 10-ты.
№11, люты 1986.
№12, ліст. 1986, апошні вядомы нумар.

17. **Бюлетэнь Злучанага Беларуска-Амэрыканскага Дапамаговага Камітэту**, **Аддзел Нью Ёрк**.
Нью Ёрк.
№1, жнів. 1953.
№2, ліст. 1953.
№3, сьнеж.—студз. 1954, год 2-гі.
№2 (4), сак. 1954 — апошні вядомы нумар.

18. **Бюлетэнь Саюзу Беларуска-Амэрыканскае Моладзі**. **Аддзел Саўт Рывэр**.
№1, сьнеж. 1954, год 1-шы.
№2, сак. 1955, год 2-гі.
№3, крас. 1955.
№1/3 [1/4 ?], трав. 1957, год 4-ты.
№5, чэрв. 1957.
№[6], сак. 1961 — апошні вядомы нумар.

19. **Вызваленьне. The Liberation**.
Беларускі Дэмакратычна-незалежніцкі тыднёвік.
Michelsdorf bei Cham.
№1, 1 сак. 1948 — №14, 14 жнів. 1948.
№14, 14 жнів. 1948 — падзагаловак: Інфармацыйны бюлетэнь лягеру Міхельсдорф.

20. **Дакумэнты і факты**.
Архіў Беларускага Вызвольнага Руху.
Brooklyn, N.Y.
№1, жнів. 1952.

№1, сак. 1953, год 2-гі, Торонто, Канада, выд. Беларускі Інстытут імя Кастуся Каліноўскага.

№3, трав. 1954, год 3-ці.

З №4, ліст.—сьнеж. 1954, год 2-гі — Торонто—Нью-Ёрк, выд. Беларускі Дасьледчы Інстытут.

№5 , студз.—люты 1955, год 3-ці (?).

З №6–7, сак.—чэрв. 1955, год 3-ці (?) — падзагаловак: Часапіс Беларускага Дасьледчага Інстытуту імя К. Каліноўскага.

З №9–10, вер.—сьнеж. 1955, год 3-ці (?) — падзагаловак таксама: *Magazine of Whiteruthenian Research Institute of K. Kalinouski*.

№11, студз.—сак. 1957, год 4 (?) — апошні вядомы нумар.

21. **Дзіда**.

Лісток сатыры і гумару.

[Міхэльсдорф, Зах. Нямеччына], Выдавецтва «Дзіда». Рэдактар Авадзень [Янка Золак].

№1, 1 верас. 1948.

№2, 15 верас. 1948 — апошні друкаваны нумар.

№1/3, чэрв. 1952, год 2-гі — машынапісная копія. Не распаўсюджаная.

22. **Ёрш**.

Пэрыядычны часапіс сатыры і гумару.

Мэльбурн, Аддзел Моладзі пры БВР [Беларускі Вызвольны Рух].

№1, чэрв. 1953, год 1-шы.

№2, ліп. 1953.

№3, жнів. 1953.

№4, верас. 1953.

№5, кастр. 1953.

№6, ліст. 1953.

№7, сьнеж. 1953.

№1 (8), студз. 1954, год 2-гі.

№[9]–12 выходзілі ў часопісе «На варце»: №1–4, 1955–1956.

23. **Камунікат**. **Беларускі Вызвольны Рух**. **Цэнтральны Камітэт**.

Gladbach, Germany.

№1, 21 верас. 1954.

Адзіны вядомы нумар.

24. **Камунікат**. **Беларускі Вызвольны Фронт**. **Галоўны Штаб**.
[Stuttgart].
№1, сак. 1955 — напачатку друкаваўся ў «Барацьбе»: Барацьба. №1. Сак. 1955.
З 1969 года выходзіць асобнымі лісткамі.
З №1, 04.05.1991 — Мэльбурн.
№2, 05.05.1991.
№4, 09.11.1991.
З 1991 г. выдаецца паралельна па-англійску: **Communique**. **Byelorussian Liberation Front**. **Headquarters**.
Гл. таксама: **Abiežnik.** Biełaruski Wyzwolny Front. Halouny Štab.

25. **Kamunikat Biełaruskaha Sektaru Eurapejskaj Rady Svabody**.
Stuttgart, Germany, [падпісаны] D. Kasmovič.

26. **На Варце**.
Інфармацыйны часапіс ЗП БВП.
[Мэльбурн, Аўстралія], Аддзел прэсы і прапаганды ЗП БВП у Аўстраліі.
Выдаецца квартальна на правох рукапісу.
№1, [студз.—люты—сак. 1955].
№2, крас.—трав.—чэрв. 1955.
№3, ліп.—жнів.—верас. 1955 — Інфармацыйны часапіс БВФ [Беларускі Вызвольны Фронт].
№4, студз.—люты—сак. 1956, год 2-гі — апошні вядомы нумар.
№1–4 уключаюць таксама №[9]–12 часопісу **«Ёрш»**.

27. **Наша Царква**.
Рэлігійна-грамадзкі Часапіс Праваслаўных Беларусаў у Аўстраліі.
Baywater, Vic. [Мэльбурн], Выд. Епархіяльная Ўправа Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Мэльбурне.
[№1], 31 сьнеж. 1961 — у нумары сказана, што наступны нумар выйдзе на Вялікдзень 1962 г.
[№2], 13 крас. 1962 — апошні вядомы нумар.

28. **Незалежная Беларусь**. **Unabhängiges (sic) Weissruthenien**; **Independent Byelorussia**.
Цэнтральны ворган Беларускага Вызвольнага Руху.

Langenfeld, Germany, Выдае Бюро Прэсы Прапагандова-палітычнага аддзелу штабу БВР.

№1, чэрв. 1952, год 1-шы — №1–2 (16–17), верас.—кастр. 1954, год 3-ці.

З №2, чэрв. 1952 — нямецкі падзагаловак папраўлены на: Unabhängiges.

№1 (7), студз. 1953, год 2-гі — газетны фармат.

Выйшла 17 нумароў.

29. **Праца і Воля**.

Орган Беларускай Незалежніцкай Партыі.

[Зах. Нямеччына], выходзіць на правах рукапісу.

№1, студз. 1949.

№2, 1949 — апошні вядомы нумар.

30. **Царкоўны Сьветач**.

Орган Беларускага Праваслаўнага Царкоўнага Камітэту ў Амэрыцы. Царкоўна-грамадзкі часапіс.

South River, N.J., Рэдакцыйная калегія.

№1, трав.—чэрв.—ліп. 1951 — №41, 1988, год 38-мы.

З №1 (10), 1960, год 10-ты — Царкоўна-грамадзкі часапіс. Выдае Царкоўная Рада Беларускае Праваслаўнае Царквы, гал. рэд. С. Коўш.

№41, 1988 — Editor-in-chief Rev, Mieczyslaw Brynkiewicz, апошні вядомы нумар.

31. **Цыркуляр БЦР**.

[ЗША].

№1–2, 1974.

# ХРАНАЛОГІЯ БЦР

## 1943

*21 снежня*

Загад генеральнага камісара Курта фон Готбэрга аб стварэнні БЦР на чале з Радаславам Астроўскім. Абнародаванне Статуту БЦР, напісанага Готбэргам.

Пастанова №1 прэзідэнта БЦР Радаслава Астроўскага аб тым, што ён пагаджаецца ўзначаліць БЦР.

## 1944

*10 студзеня*

Адозва Радаслава Астроўскага да беларускага народу з заклікам падтрымаць БЦР і ўключыцца ў нацыянальную працу.

*15 студзеня*

Пакліканне ў БЦР 14 сябраў: на пасаду 1-га віцэ-прэзідэнта — *Мікалая Шкялёнка,* на той час рэферэнта пры прэсавым аддзеле Генеральнага камісарыяту; на 2-га віцэ-прэзідэнта — *Юрыя Сабалеўскага*, галоўнага старшыню Цэнтралі Беларускай Самапомачы; *Франца Кушаля,* галоўнага апекуна-інспектара беларускай паліцыі; *Сямёна Кандыбовіча*, кіраўніка Беларускага сектару Цэнтральнага гандлёвага таварыства (ЦГА); *Паўла Свірыда*, старшыню Акруговага суда ў Баранавічах; *Аўгена Калубовіча*, кіраўніка Беларускай культурнай рады; *Станіслава Грынкевіча*, старшыню Беларускага навуковага таварыства ў Вільні; *Усевалада Родзьку*, старшыню гораду Віцебску; *Міхаіла Астроўскага*, дырэктара настаўніцкай семінарыі ў Слоніме; *Мікалая Буляка*, старшыню гораду Навагрудку; *Пётру Орсу*, загадчыка мяснога і ляснога аддзелу ЦГА; *Сцяпана Стаськевіча*, дырэктара

раменай школы ў Мінску; *Вячаслава Селяха*, кіраўніка аддзелу культуры. Сядзібаю БЦР вызначылі Менск.

*24 студзеня*

Першае (устаноўчае) паседжанне БЦР. Стварэнне прэзідыуму БЦР у складзе: Радаслава Астроўскага, Міколы Шкялёнка, Юрыя Сабалеўскага, Франца Кушаля, Усевалада Родзькі, Сымона Кандыбовіча.

Стварэнне аддзелаў пры БЦР: асветы, навукі і культуры (кіраўнік — Радаслаў Астроўскі), з пададдзеламі: школьным (Я. Скурат), культуры, мастацтва (А. Калубовіч), навукі (Я. Кіпель), прапаганды і прэсы (М. Шкялёнак), сацыяльнага забеспячэння (Ю. Сабалеўскі), фінансавым (М. Астроўскі), кантролю (кантрольная палата), моладзі (У. Родзька), агульна-адміністрацыйным (С. Кандыбовіч), гаспадарчым (Г. Барташэвіч), праектаў (П. Свірыд), Краёвай абароны (Ф. Кушаль), бюро нацыянальнасцяў.

Пётру Орсу прызначылі ў аддзел праектаў для распрацоўвання зямельных пытанняў, Сцяпана Стаськевіча — для працы ў справе прафесійнай асветы і Сцяпана Калядку — у прафесійным руху.

*7 лютага*

Загадам №5 прэзідэнта БЦР Станіслаў Станкевіч вызначаны намеснікам БЦР у Баранавіцкай акрузе, Аляксандр Аўдзей — у Слонімскай, Барыс Рагуля — у Навагрудскай (прыступілі да выканання абавязкаў 8 лютага).

*18 лютага*

Праект Радаслава Астроўскага і Франца Кушаля аб стварэнні Беларускай краёвай абароны.

*23 лютага*

Загад генеральнага камісара Беларусі, найвышэйшага паліцэйфюрэра Цэнтральнай Расіі і Беларусі Курта фон Готбэрга аб утварэнні Беларускай краёвай абароны для барацьбы супраць бальшавізму. Дакумент рэгламен-

таваў тэрыторыю, дзе мелі праводзіць мабілізацыю, а таксама форму і механізм мабілізацыі.

*25 лютага*

У Мінску прайшоў мітынг, на якім «беглы капітан» Чырвонай Арміі Ігар Капор абнародаваў нібыта тайны загад Сталіна аб вынішчэнні беларускага народу пасля вяртання на тэрыторыі краю. Прагучаў заклік запісвацца ў Беларускую краёвую абарону.

Радаслаў Астроўскі на прапанову начальніка БКА Франца Кушаля вызначыў акруговых начальнікаў: Менская акруга — капітан Міхась Пугачоў, Навагрудская — Барыс Рагуля, Слуцкая — Сцяпан Шнэк, Баранавіцкая — Уладзімір Русак, Глыбоцкая — Рыгор Зыбайла, Слонімская — Язэп Дакіневіч, Вілейская — в. а. начальніка Якуб Бабіч (пастанова №5 БЦР).

Зацверджаны Статут Беларускага культурнага згуртавання (кіраўнік — Аўген Калубовіч). Пастанова №6 БЦР.

*29 лютага*

Івана Касяка прызначылі намеснікам БЦР на Глыбоцкую акругу, Язэпа Малецкага — на Вілейскую, Піліпа Жука — на Мінскую, Івана Гінько — на Слуцкую (адклікалі 1 сакавіка ў распараджэнне БЦР, на ягонае месца прызначылі Івана Хіхлушу).

Мікалая Барташэвіча прызначылі загадчыкам аддзелу веравызнанняў.

*6 сакавіка*

Радаслаў Астроўскі выдаў загад аб прызыве ў Беларускую краёвую абарону. У БКА паклікалі афіцэраў ва ўзросце да 57 гадоў, падафіцэраў ва ўзросце да 55 гадоў, а таксама мужчынаў, народжаных у 1917, 1921–1924 гадах.

*19 сакавіка*

Астроўскі (пастанова БЦР №12) зацвердзіў Статут Беларускага навуковага таварыства: старшыня — прафесар Эдуард Шыперка, намеснікі старшыні —

дацэнт Платон Жарскі і прафесар Дакунін, неадменны сакратар — Бухвалаў, кіраўнік аддзелу гуманітарных навук — Янка Станкевіч, кіраўнік аддзелу прыроды, медыцыны і сельскай гаспадаркі — прафесар Дарошкін, кіраўнік аддзелу матэматыкі і тэхнічных навук — прафесар Уладзімір Сірачынскі.

*20 сакавіка*

Радаслаў Астроўскі прысвоіў званне маёра начальніку галоўнага кіраўніцтва БКА Францу Кушалю.

*26 сакавіка*

Прайшла прысяга стральцоў і афіцэраў БКА ў Мінску, акруговых гарадах, павятовых цэнтрах. Прыняць прысягу мусілі ўсе афіцэры, падафіцэры і стральцы (жаўнеры) БКА. У акруговых гарадах прысяга прымалася намеснікамі БЦР, у паветах — батальённымі камандзірамі БКА. Акт прысягі пацвердзілі ўласнаручнымі подпісамі стральцы і афіцэры.

*28–30 сакавіка*

Паседжанне акруговых намеснікаў БЦР і акруговых начальнікаў БКА ў Мінску ў памяшканні Беларускай Цэнтральнай Рады: падсумаванне вынікаў мабілізацыі ды абмеркаванне бягучых праблемаў.

Усяго мабілізавалі 20 206 чалавек.

Нарада акруговых намеснікаў БЦР і акруговых начальнікаў БКА пастанавіла:

– ад імя БЦР настойліва прасіць генеральнага камісара за самы кароткі тэрмін і не пазней як 20 красавіка вырашыць станоўча пытанне аб забеспячэнні батальёнаў БКА;

– давесці да ведама генеральнага камісара, што ў Баранавіцкай, Слонімскай, Глыбоцкай і др. акругах гебітскамісары і загадчыкі аддзелаў гебітскамісарыятаў зусім непрыхільна паставіліся да правядзення мабілізацыі, перашкаджалі ў прызначэнні памяшканняў для мабілізаваных, і наадварот, з боку нямецкіх ваенных уладаў была поўная падтрымка ва ўсіх пытаннях мабілізацыі.

*5 красавіка*

Анатоля Комара вызначылі намеснікам БЦР на горад Мінск, Адольфа Клімовіча — на Ліду, Антона Сокал-Кутылоўскага — на Ганцавіцкую акругу.

Пастанова №20 БЦР аб палажэнні афіцэрскіх рангаў БКА. Увяла наступныя рангі: лейтэнант, старшы лейтэнант, капітан, маёр, падпалкоўнік, палкоўнік.

Зазначалася, што афіцэрскія рангі надае прэзідэнт БЦР на прапанову начальніка Галоўнага кіраўніцтва БКА. Згодна з пастановаю, за афіцэрамі царскай, польскай, савецкай ды іншых арміяў захоўваліся іхныя рангі. Доказ захавання рангу — атэстат аб сканчэнні афіцэрскіх школаў і вайсковыя загады аб наданні вышэйшых афіцэрскіх рангаў або загады аб наданні рангу за выключную баявую адвагу. Таксама за праяўленую на полі бою адвагу прадугледжвалася прысваенне афіцэрскага звання падафіцэрам.

Пастанова №21 аб утварэнні афіцэрскіх і падафіцэрскіх школаў БКА:

– у афіцэрскую школу прымаліся асобы, годныя для службы, якія маюць адукацыю, не ніжэйшую за закончаную сярэднюю. Па сканчэнні школы прысвойвалася званне лейтэнанта;

– у падафіцэрскую школу залічваліся жаўнеры БКА з адукацыяй, не ніжэйшай за чатыры класы. Па сканчэнні школы прысвойвалася званне падафіцэра.

*12 красавіка*

Пастанова аб падафіцэрскіх службовых ступенях БКА: дружынны, звязны, старшыня, сцяжны.

*25 красавіка*

Пастановаю БЦР №26 Франц Кушаль прызначаны камандуючым усімі аддзеламі БКА.

*26 красавіка*

Пастановаю БЦР №27 Іван Хіхлуша вызначаны наместнікам БЦР на Слуцкую акругу. Выкананне абавязкаў — з 15 красавіка.

*27 красавіка*

Радаслава Астроўскага, Франца Кушаля і Аўгена Калубовіча дэлегавалі ў Вільню на 25-я ўгодкі Віленскай беларускай гімназіі. Праз гэтую гімназію прайшлі некалькі дзясяткаў працаўнікоў беларускай адміністрацыі, у тым ліку і сябраў БЦР.

На паседжанні БЦР пастанавілі ўсталяваць у актавай зале Віленскай беларускай гімназіі мемарыяльную дошку ад імя БЦР; прызначыць 5 стыпендыяў імя 25-гадовага юбілею па 100 рэйхсмарак — для найлепшых студэнтаў беларускага Медычнага інстытуту; за адданую 25-гадовую педагагічную працу ў Віленскай беларускай гімназіі ўзнагародзіць срэбным Крыжам заслугі III ступені настаўніцу гімназіі Алену Сакалову-Лекант і ксяндза Адама Станкевіча.

*28 красавіка*

Пастанова Радаслава Астроўскага аб утварэнні Фонду дапамогі жаўнерам БКА. Галоўную ўправу Беларускай самапомачы забавязалі неадкладна пералічыць у фонд 50 тыс. рэйхсмарак.

*5 траўня*

Паседжанне прэзідыуму БЦР (Р. Астроўскі, Ю. Сабалеўскі, Ф. Кушаль, У. Родзька, С. Кандыбовіч) аб утварэнні Беларускай пракуратуры і першае планаванне Другога Усебеларускага кангрэсу.

*12–13 траўня*

Паседжанне з удзелам акруговых намеснікаў БЦР і начальнікаў БКА. Дыскутавалася пытанне аб цяжкім становішчы БКА з прычыны недахопу зброі ды абмундзіравання.

Астроўскі прапанаваў зменшыць лік жаўнераў да стану зброі. Супраць выказаліся Я. Малецкі і У. Русак.

Пастанавілі рэдукцыі БКА не праводзіць; пазбыцца палітычна ненадзейных і фізічна няздольных да службы ў БКА; стварыць у Мінску чатырохмесячную афіцэрскую школу, адначасова праводзячы перападрыхтоўку былых афіцэраў; для рыхтавання падафіцэрскіх кадраў утварыць у кожнай акрузе школьныя батальёны; забараніць пераводзіць людзей з лінейных батальёнаў у сапёрныя.

Таксама чарговы раз было пастаўленае пытанне пра неабходнасць скліканя Усебеларускага кангрэса для выбару ці зацверджання БЦР.

*16 траўня*

Папярэдняе прызначэнне Усебеларускага кангрэсу на 22–24 чэрвеня.

*20 траўня*

Прызначэнне Усевалада Родзькі камандзірам 15-га батальёну БКА (на ягонае жаданне) з захаваннем становішча сябры Рады.

*21 траўня*

Прыняцце прысягі 2-м курсам Мінскай афіцэрскай школы БКА.

*25 траўня*

Пастанова прэзідэнта БЦР аб арганізацыі акруговых фондаў дапамогі сем’ям жаўнераў БКА.

Пратэст Радаслава Астроўскага да генеральнага камісара Беларусі Готбэрга наконт арганізацыі акруговым камісарам «узброеных вёсак» на Случчыне. Астроўскі пісаў: *«…прычым узбраеньне гэтых вёсак палягае на 5–10 паломаных вінтоўках. Такая «збройная сіла», зразумела, ня можа супрацьпаставіцца добра ўзброеным партызанскім аддзелам і ў выніку — гінуць ня толькі добраахвотнікі, якія прымаюць такую зброю ад гебітскамісара, але і іх сем’і. У сувязі з гэтым я ветліва прашу Вас, г. Генэрал, спыніць*

*такую шкодную дзейнасць Слуцкага Гебітскамісара, а я дам адпаведны загад Акруговаму афіцэру БКА Слуцкай акругі пасылаць лепш у небясьпечныя вёскі ў паразуменьні з Гебітскамісарам адпаведна ўзброеныя аддзелы батальёнаў БКА»*.

6 чэрвеня Готбэрг даў загад слуцкаму гебітскамісару скантактавацца з акруговым камендантам БКА і развязаць праблему.

*6 чэрвеня*

Пастанова БЦР аб улётцы «К русскому народу», выдадзенай ад імя генералаў Уласава і Малышкіна, камбрыга Камінскага, ст. лейтэнанта Октана і нібы аб імя прэзідэнта БЦР Радаслава Астроўскага. Апошні на паседжанні прэзідыуму паведаміў, што ён ніякага подпісу пад улёткаю не ставіў і, адпаведна, дачынення да яе не мае.

*10 чэрвеня*

Пастанова аб наданні вайсковых рангаў для лекараў БКА. Батальённаму лекару прысвойвалася званне старшага лейтэнанта, акруговаму лекару — капітана, галоўнаму лекару БКА — маёра, дырэктару акруговага шпіталю — капітана, другім лекарам акруговага шпіталю — старшага лейтэнанта, дырэктару раённага шпіталю Краёвай абароны — старшага лейтэнанта, другім лекарам шпіталю — лейтэнанта.

*15 чэрвеня*

Адкрыццё Менскай афіцэрскай школы БКА. Планаваўся чатырохмесячны курс навучання. Школа набрала 280 курсантаў.

*27 чэрвеня*

Правядзенне Другога Усебеларускага кангрэсу ў Мінску з удзелам 1039 дэлегатаў з усіх рэгіёнаў Беларусі і замежжа.

*28 чэрвеня*

Францa Кушаля вызначылі падпалкоўнікам БКА. Канстанціна Езавітава запрасілі радным у БЦР, надаўшы яму ранг палкоўніка БКА.

*30 чэрвеня*

Эвакуацыя сябраў БЦР з сем'ямі з Беларусі асобным эшалонам у Кёнігсберг.

*10–12 ліпеня*

Прыбыццё эшалона ў Берлін. Праз некаторы час частка сябраў БЦР выехала ў Познань, дзе заставалася некалькі дзён.

*20 ліпеня*

Дырэктыва Міністэрства ўсходніх акупаваных тэрыторыяў (А. Розэнбэрга) аб новых «рэальных задачах і паўнамоцтвах» БЦР на эміграцыі: барацьба з бальшавізмам шляхам стварэння беларускіх вайсковых фармаванняў, партызанскіх групаў за лініяй фронту; актыўная прапагандысцкая дзейнасць сярод беларускіх рабочых; аб'яднанне ўсіх беларусаў у Саюзе вызвалення Беларусі; культурная, сацыяльная і прававая апека над усімі беларусамі ў Нямеччыне; моладзевая праца (СБМ, вайсковая дапаможная служба); жаночая праца.

*27 ліпеня*

Пастанова Астроўскага аб тым, што БЦР — адзінае прадстаўніцтва беларускага народу і павінна на эміграцыі працягваць сваю дзейнасць. Іншыя беларускія арганізацыі ў Нямеччыне пераходзілі ў яе падпарадкаванне.

*8 жніўня*

Падчас перабывання БЦР у Познані горад наведаў шэф СБМ Міхась Ганько, які заявіў, што Саюз беларускай моладзі пераходзіць у юрысдыкцыю БЦР.

*20 жніўня*

Мемарандум БЦР аб наяўнай вонкавапалітычнай сітуацыі. Заняцце тэрыторыі Беларусі Чырвонай Арміяй БЦР бачыла як чарговую часовую акупацыю і заклікала да супольнага змагання разам з нямецкім народам.

*26 жніўня*

Выступ Радаслава Астроўскага перад беларускімі рабочымі Берліну. Прамова транслявалася праз Берлінскае радыё на ўсю Нямеччыну.

*1 верасня*

Першае на эміграцыі паседжанне БЦР. Абмяркоўваліся бягучыя праблемы, у тым ліку і аднаўленне (а фактычна стварэнне нанова) беларускага войска.

*13 верасня*

Зацвердзілі кіраўнічы штат БКА: камандуючы БКА, ад'ютант, начальнік штабу, машыністка, перакладчык. Стварылі Кіраўніцтва вайсковых справаў пры БЦР (фактычна, ваеннае міністэрства) на чале з Канстанцінам Езавітавым. Начальнікам Канцылярыі прызначылі Аляксея Васіленю, справаводам — Канстанціна Вадэйку, перакладчыкам — Альберта Ракіцкага, супрацоўнікам Статутнай камісіі — Уладзіміра Гуцьку (Дудзіцкага, былога начальніка аддзелу прапаганды БКА). На пасаду ад'ютанта камандуючага БКА быў прызначаны Дзмітры Чайкоўскі.

*14 верасня*

Першае паседжанне прэзідыуму БЦР на эміграцыі (Берлін). Бралі ўдзел Р. Астроўскі, М. Шкялёнак, К. Езавітаў, С. Кандыбовіч, Ф. Кушаль і П. Свірыд. Парадак дня: аплата афіцэраў, якія не працуюць у БЦР, Статут і праграма Саюзу вызвалення Беларусі, пытанні беларускай прэсы.

*15 верасня*

Утварэнне Кіраўніцтва вайсковых справаў БЦР (кіраўнік — К. Езавітаў). Канцылярыя павінна была налічваць 12 чалавек.

Пленум БЦР, у якім бралі ўдзел Р. Астроўскі, першы віцэ-прэзідэнт Мікалай Шкялёнак, радныя: К. Езавітаў, С. Кандыбовіч, Ф. Кушаль, А. Калубовіч, В. Селях, М. Ганько, Н. Абрамава, С. Стаськевіч, С. Калядка, П. Свірыд.

На Пленуме разглядалася: справа моладзі, арганізацыя жанчын, арганізацыя Саюзу вызвалення Беларусі.

М. Ганько запэўніў, што СБМ будзе праводзіць агульную нацыянальна-палітычную лінію БЦР і зачытаў дэкларацыю аб пераходзе Саюзу беларускай моладзі пад апеку і кампетэнцыю Беларускай Цэнтральнай Рады.

Надзея Абрамава прызначалася кіраўнічкаю Жаночага аддзелу БЦР.

*21 верасня*

Газеты «Раніца» і «Беларускі работнік» на рашэнне кіраўніка аддзелу прэсы Міністэрства Усходу становяцца органамі БЦР.

*26 верасня*

На паседжанні прэзідыуму БЦР абмяркоўвалі арганізоўванне Беларускага батальёну. Ф. Кушаль прапанаваў паклікаць 500 афіцэраў для будучай мабілізацыі ў батальён.

*27 верасня*

Сустрэча Радаслава Астроўскага з міністрам усходніх тэрыторыяў Альфрэдам Розэнбэргам. Абмяркоўвалі пытанні: аб праўным становішчы БЦР, становішчы беларусаў у Нямеччыне, арганізацыі беларускага войска.

Сустрэча Р. Астроўскага з прадстаўнікамі ўкраінскага гетмана Скарападскага наконт супрацоўніцтва.

*1 кастрычніка*

Аляксандра Орсу прызначылі рэферэнтам пачатковай агульнай асветы ў аддзеле прапаганды, прэсы і культуры БЦР.

*11 кастрычніка*

Прэзідэнт БЦР зацвердзіў кадры і штаты 1-га кадравага батальёну БКА: 71 афіцэр, 122 падафіцэры, 149 салдат, 2 машыністкі — усяго 344 асобы. 24 кастрычніка іх колькасць павялічылі да 492 чалавек: кадравых афіцэраў — 22, афіцэраў пераменнага складу — 66, кадравых падафіцэраў — 80, падафіцэраў пераменнага складу — 111, стральцоў — 191, духавы аркестр — 22.

*15 кастрычніка*

Пастанова Радаслава Астроўскага аб стварэнні Першага кадравага батальёну БКА ў Берліне (Пятро Касацкі — камандзір афіцэрскіх курсаў і часовы в. а. камандзіра батальёну, Антон Сокал-Кутылоўскі — камандзір падафіцэрскіх курсаў, Дзмітрый Сажыч — камандзір вучэбнай каманды, Іван Кісель — камандзір каманды аховы і гаспадаркі), Мікалай Дзямідаў — заступнік камандзіра падафіцэрскіх курсаў, доктар Баляслаў Грабінскі — старшы лекар батальёну).

*16 кастрычніка*

Зацверджаны склад Статутовай камісіі Кіраўніцтва вайсковых справаў: старшыня — палкоўнік Канстанцін Езавітаў, намеснік старшыні — палкоўнік Ф. Кушаль, штатны супрацоўнік — надлейтэнант Уладзімір Гуцька, штатны сакратар — Леанід Галяк. На аснове ганарараў працавалі: Віталь Мікула, Барыс Рагуля, Віктар Чабатарэвіч, Антон Адамовіч, перакладчыкі — Аркадзь Арэхва, Андрэй Бароўскі, Вольга Зубко.

*19 кастрычніка*

Вайсковы аддзел БЦР канчатковаператвораны ў Галоўнае кіраўніцтва вайсковых справаў БЦР на чале з кіраўніком вайсковых справаў БЦР (К. Езавітаў).

*27 кастрычніка*

Загад №6 Галоўнага кіраўніцтва вайсковых справаў: згодна з пастановаю прэзідэнта БЦР часова, да моманту вяртання на радзіму, уводзіліся адзнакі для жаўнераў беларускага войска:

– пагоны, як у нямецкай арміі, з усімі адзнакамі паводле рангаў, ступеняў і становішчаў; на шапцы — Пагоня, як у БКА; на каўняры — пятліцы, як у БКА, з шасціканцовым двухкрыжам Ярылы; на правым рукаве, вышэй за локаць — бел-чырвона-белы шчыток і белы надпіс на цёмна-шэрым фоне: «Беларусь» (лацінкай).

*5 лістапада*

Начальнікам Штабу БКА вызначаны падпалкоўнік Язэп Гуцька.

*14 лістапада*

У Празе адбыўся ўстаноўчы сход Камітэту вызвалення народаў Расіі (КВНР). У складзе КВНР быў створаны Беларускі камітэт, у які ўвайшлі як прыватныя асобы радныя БЦР: Вячаслаў Селях, Яўхім Кіпель, Уладзімір Лазарэвіч, супрацоўнік БЦР у Мінску Мікалай Будзіловіч (узначаліў камітэт), наменік БЦР на Мінск Анатоль Комар, былы кіраўнік аддзелу прапаганды ГК БКА ў Берліне Уладзімір Гуцька (Дудзіцкі), акруговы начальнік БКА на Мінскую акругу Міхаіл Пугачоў ды інш. БЦР афіцыйна адмовілася ад супрацоўніцтва з КВНР, а радных, што далучыліся да Камітэту, востра крытыкавала.

*18 лістапада*

Удзел прадстаўнікоў БЦР (Р. Астроўскі) у нарадзе паняволеных народаў Расіі, якую склікаў у Берліне ў адказ на абнародаванне Пражскага маніфесту Камітэту вызвалення народаў Расіі Альфрэд Розэнбэрг. Удзельнічалі таксама прадстаўнікі камітэтаў армянаў, азербайджанцаў, волжскіх татараў, туркестанскіх народаў, крымскіх татараў, украінцаў ды інш. Удзельнікі нарады звярнуліся з мемарандумам да Розэнбэрга, выказаўшы катэгарычны пратэст на акцыю Уласава.

*12 снежня*

Стварэнне Вайсковай камісіі пры БЦР для *«вырашэньня неадкладных спраў і падрыхтоўкі пытаньняў прынцыповага значэньня, зьвязаных з арганізацыяй Беларускага Войска, а таксама каардынацыі працы паміж асобнымі вайсковымі аддзеламі»*. Старшыня — Мікола Шкялёнак, намеснік старшыні — Канстанцін Езавітаў, сябры камісіі — Ф. Кушаль і Я. Гуцька.

Былі створаныя дзве падкамісіі: адміністрацыйна-праўная (кіраўнік — Язэп Гуцька) і страявая (Барыс Рагуля).

Паседжанне прэзідыуму БЦР. Прысутнічалі прэзідэнт Р. Астроўскі, віцэ-прэзідэнт М. Шкялёнак, радныя: К. Езавітаў, С. Кандыбовіч, П. Свірыд, С. Стаськевіч, П. Орса, С. Калядка, В. Селях, У. Родзька, У. Лазарэвіч. На паседжанні БЦР падзялілася наконт стаўлення да акцыі генерала Уласава і Камітэту вызвалення народаў Расіі. Родзька, Селях, Калядка і Лазарэвіч выступілі за шчыльнае супрацоўніцтва і супольнае змаганне супраць бальшавізму. Р. Астроўскі, Ф. Кушаль, К. Езавітаў, А. Калубовіч, П. Свірыд выступілі супраць такой супрацы (а фактычна падпарадкавання), заявіўшы, што дзейнасць мусіць весціся на парытэтных асновах.

*17 снежня*

Урачыстае святкаванне 24-х угодкаў Слуцкага паўстання ў 1-м кадравым батальёне БКА ў Берліне.

*18 снежня*

Пленум БЦР. Абмеркаванне Статуту і магчымасці пашырэння складу Рады да 20 чалавек.

*21 снежня*

Паседжанне прэзідыуму БЦР. Бралі ўдзел Р. Астроўскі, М. Шкялёнак, Ю. Сабалеўскі, К. Езавітаў, Ф. Кушаль, С. Кандыбовіч, А. Калубовіч, П. Свірыд, С. Стаськевіч, П. Орса, С. Калядка.

Аўген Калубовіч прапанаваў у дадатак да Рады (што выступала б як Пленум) стварыць Выканаўчы камітэт, які б складаўся з дэпартаментаў:

замежных справаў, вайсковых справаў, культуры і прапаганды, сацыяльнай апекі, фінансаў і адміністравання, галоўнага вайсковага камандавання і канцылярыі.

Радаслаў Астроўскі прапанаваў наступную разгалінаваную структуру дзяржаўнай будовы: дэлегацкі з’езд, які б сфармаваў ніжнюю палату, Рада — верхняя палата (сенат), выканаўчы орган — Сакратарыят Рады (або Дырэкторыя з шэфам на чале).

## 1945

*1 студзеня*

Навагодні загад-віншаванне Канстанціна Езавітава да ўсіх беларускіх вайскоўцаў *«ад Балтыйскага мора да Адрыятыкі»* з заклікам трымацца лініі БЦР.

*10 студзеня*

Стварэнне Вайсковага найвышэйшага суда і ўвядзення дысцыплінарных пакаранняў за дысцыплінарныя праступкі і цяжэйшыя злачынствы ў войску.

*12 студзеня*

Прэзідэнт БЦР прысвоіў званне генерал-маёра Канстанціну Езавітаву.

*14–17 студзеня*

Прыняцце Другога Статуту БЦР. Паводле гэтай рэдакцыі БЦР абвяшчалася *«адзіным праўным прадстаўніцтвам суверэнных правоў беларускага народу, пакліканым Другім Усебеларускім кангрэсам у Менску»*. Галоўным палітычным заданнем вызначалася *«арганізацыя ўсіх сілаў беларускага народу для змаганьня за вызваленьне Беларусі і здабыцьцё сваёй незалежнасьці»*. Паўнамоцтвы БЦР мелі трываць да Трэцяга Усебеларускага кангрэсу, які Рада абавязаная склікаць неадкладна пасля вызвалення Беларусі.

На чале БЦР быў *прэзідэнт*, які мусіў рэпрэзентаваць Раду перад урадамі ды нацыянальнымі прадстаўніцтвамі іншых дзяржаваў. *Вырашаючым* (заканадаўчым) органам БЦР абвяшчаўся *Пленум Рады* на чале з прэзідыумам

(старшыня, намеснік і сакратар, што выбіраліся тэрмінам на адзін год), у склад Пленуму ўваходзілі ўсе сябры БЦР (агульны лік не мусіў перавышаць 25 чалавек).

Выканаўчым органам БЦР абвяшчалася Калегія (першым шэфам Калегіі вызначаўся Мікалай Шкялёнак), у склад якой уваходзілі кіраўнікі ўсіх аддзелаў БЦР і шэф Калегіі. Калегія павінна была выконваць усю працу БЦР у розных галінах, вызначаных Пленумам і прэзідэнтам.

*15 студзеня*

БЦР выдае камунікат аб арганізацыі Беларускай штурмовай брыгады.

*20 студзеня*

У склад Рады ўлучылі: журналіста Антона Адамовіча, рэдактара «Раніцы» Станіслава Станкевіча, журналіста Сяргея Хмару, інжынера Івана Касяка, юрыста Леаніда Галяка, дзеячаў берлінскага асяродку: інжынера Кастуся Калошу, Бернарда Букатку, Пётра Бакача, кіраўніка БСП Лявона Бяленіса, як прадстаўніка беларускага афіцэрства Барыса Рагулю. Быў падрыхтаваны праект Канстытуцыі БНР.

*21 студзеня*

Канчаткова сфармавалі Калегію (урад). У склад Калегіі ўвайшлі: Мікалай Шкялёнак (старшыня / прэм’ер-міністр), Канстанцін Езавітаў (начальнік ваеннага кіраўніцтва), Бернард Букатка (загадчык адміністрацыйнага аддзелу, які павінны быўператварыцца ў Міністэрства ўнутраных справаў), Аўген Калубовіч (загадчык аддзелу прапаганды і культуры), Сяргей Хмара (намеснік загадчыка аддзелу прапаганды), Уладзімір Каракулька (загадчык аддзелу фінансаў), Уладзімір Тамашчык (загадчык аддзелу планавання), Лявон Бяленіс (сацыяльнага забеспячэння), Павел Свірыд (юрыспрудэнцыі ды веравызнання).

*24 студзеня*

Супольнае беларуска-нямецкае паседжанне ў Берліне ў справе фармавання Беларускай штурмовай брыгады. З беларускага боку ўдзел бралі Радаслаў Астроўскі і Канстанцін Езавітаў, з нямецкага — Ганс Зыглінг. Было пастаноўлена, што легіён атрымае назву «1-я грэнадзёрская штурмовая брыгада “Беларусь”». Месцам дыслакацыі вызначылі мястэчка Гіршаў (паўночная Баварыя).

*25 студзеня*

Адозва Радаслава Астроўскага, у якой ён заклікаў усіх баяздольных мужчынаў і жанчын запісвацца ў Беларускі легіён.

*28 студзеня*

Загад Канстанціна Езавітава аб добраахвотным прызыве ў легіён. Праз тое, што людзі слаба адрэагавалі на заклік, паўторны загад быў выдадзены 25 сакавіка 1945 г.

*Люты*

Эвакуацыя большай часткі сябраў і супрацоўнікаў БЦР разам з сем’ямі з Берліну. Месцам жыцця абралі горад Гёкстэр, што за 350 км на захад ад Берліну (Паўночны Рэйн-Вэстфалія). Узначаліў групу БЦР у Гёкстэры Ю. Сабалеўскі.

*21 сакавіка*

Выйшаў апошні нумар беларускай берлінскай газеты «Раніца».

*25 сакавіка*

Радаслаў Астроўскі пакінуў Берлін і выехаў у Гіршаў, дзе ў гэты дзень прайшло святкаванне Дня Волі і прысяга Беларускай брыгады.

*9 красавіка*

БЦР атрымлівае загад эвакуявацца з Гёкстэру ў Шнайдлінген. Рэшта беларускіх дзеячаў выязджае з Берліну.

*30 красавіка*

Пераход брыгады «Беларусь» разам з расійскімі фармаваннямі на бок амерыканцаў і здача ў палон каля гораду Кам на ўсходзе Баварыі. Палон доўжыўся 13 месяцаў. Па стане на 30 красавіка брыгада «Беларусь» налічвала 1094 чалавекі: афіцэраў — 50, падафіцэраў — 132, стральцоў — 912 і складалася з трох батальёнаў.

*8–9 траўня*

Капітуляцыя Нямеччыны, БЦР спыняе дзейнасць.

*6 чэрвеня*

Заснаваны беларускі лагер (для перамешчаных асобаў, Ды-Пі) у Рэгенсбурзе (стваральнік Аляксандр Русак). Паўстаў Беларускі нацыянальны камітэт.

*15 ліпеня*

Радаслаў Астроўскі выдаў адозву «Да ўсіх беларускіх камітэтаў і бюро ў Нямеччыне», у якой заклікаў беларускія камітэты апекавацца ўцекачамі.

*30 ліпеня*

Стварэнне беларускага лагеру АВС у Ватэнштэце (Ніжняя Саксонія, камендант Святаслаў Коўш), што пазней, падчас расколу, стаў адным з цэнтраў прыхільнікаў Радаслава Астроўскага. На 1 студзеня 1948 г. у лагеры жылі 716 чалавек. Працаваў садок, пачатковая школа, беларуская гімназія, праваслаўны прыход (а. Аўген Сурвіла, а. Мікалай Смірноў, а. А. Ражановіч), быў створаны адзіны ў Нямеччыне беларускі каталіцкі прыход (а. Міхась Маскалік).

*6 жніўня*

Радаслаў Астроўскі ад імя БЦР звярнуўся да кіраўніка польскага эміграцыйнага ўраду ў Лондане Уладзіслава Рачкевіча і нагадаў, што ўдзельнікі Другога Усебеларускага кангрэсу сваім рашэннем анулявалі не толькі пастановы Савецкай Расіі, датычныя Беларусі, але і рашэнні Рыжскай мірнай дамовы адносна падзелу Беларусі, падпісаныя Варшаваю.

*15 жніўня*

У памяшканні БНК у Рэгенсбурзе прайшоў сход грамадскага актыву (12 чалавек). На сустрэчу прыехаў прэзідэнт БЦР Радаслаў Астроўскі ў суправаджэнні радных Барыса Рагулі і Сцяпана Стаськевіча. Паседжанне вёў Аўген Калубовіч, які азнаёміў прысутных з бягучаю сітуацыяй ды прапанаваў, каб БЦР передала новай інстытуцыі — Беларускаму нацыянальнаму цэнтру — мандат на кіраванне справамі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне. Р. Астроўскі пагадзіўся з ідэяй стварэння БНЦ, але ўзяў час на роздум.

*23–24 верасня*

11-ты Пленум БЦР, што адбыўся ў Эшэрсбэкене пад Вюрцбургам (Баварыя). Удзел у гэтым паседжанні, якое прайшло пад старшынёўствам Радаслава Астроўскага, бралі радныя БЦР Франц Кушаль, Аўген Калубовіч, Сымон Кандыбовіч, Пётра Орса, Станіслаў Станкевіч, а таксама грамадскія дзеячы Мікола Шчорс і Аляксей Сянькевіч. Прынялі рашэнне часова прыпыніць дзейнасць БЦР.

**1946**

*25 лютага*

На з’ездзе прадстаўнікоў беларусаў трох акупацыйных зонаў, што прайшоў у Рэгенсбурзе, стварылі Беларускі цэнтральны дапамаговы камітэт (першы старшыня — а. Мікалай Лапіцкі). У функцыі БЦДК уваходзіла сацыяльная апека над хворымі, сіротамі ды інвалідамі, культурна-асветная праца, прававая дапамога. Уводзіліся таксама пасады трох намеснікаў, па прадстаўніку ад кожнай з зонаў: Леанід Галяк (брытанская), Аляксей Вініцкі (амерыканская), доктар Віктар Войтанка (французская). Пазней амеры-

канская зона як найбольшая паводле колькасці беларусаў была падзеленая на тры акругі: Грос-Гэсэнская (Барыс Рагуля), Штутгарцкая (Мікола Сільвановіч) і Мюнхенская (Мікола Гарошка). У склад управы БЦДК увайшлі Янка Станкевіч, Іван Касяк, Аляксей Вініцкі і Франц Кушаль.

У хуткім часе прыхільнікаў Р. Астроўскага (М. Шчорса, А. Багдановіча, Ю. Віцьбіча-Стукаліча) выціснулі з БЦДК і замянілі на паплечнікаў М. Абрамчыка, які распачаў кампанію для аднаўлення Рады БНР.

*5 траўня*

З'езд праваслаўных беларусаў у Рэгенсбурзе (136 чалавек), на якім удзельнікі прасілі іерархаў БАПЦ не пераходзіць у Расійскую зарубежную праваслаўную царкву. З'езд быў адной з падставаў для далейшага расколу эміграцыі.

*29 чэрвеня*

Абнародавалі «Пасланне апостальскага візітатара і адміністратара грэка-каталіцкай царквы ў Нямеччыне Мікалая Ваякоўскага да беларусаў», у якім прагучаў заклік гарнуцца да грэка-каталіцкай царквы ды ісці спавядацца менавіта да грэка-каталіцкіх душпастыраў. Частка беларускай грамады ўспрыняла гэта як трывожны сігнал аб апалячванні праваслаўных беларусаў.

*Кастрычнік*

Радаслаў Астроўскі вярнуўся на палітычную арэну. Ён наведаў лагер у Ватэнштэце, дзе заклікаў падтрымаць беларускіх епіскапаў РЗПЦ і зняважліва назваў праціўнікаў іх пераходу «гоп-кампаніяй». Выказаўся Р. Астроўскі і супраць ідэі ўніі, што нібыта працуе на шкоду праваслаўю. Аналагічная агітацыя разгарнулася ў іншых беларускіх лагерах і групах.

**1947**

*27 чэрвеня*

У Міхэльсдорфе на З'ездзе прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў стварылі Беларускую міжлагерную раду (старшыня — Міхаіл Ігнатовіч), якая аб'яднала прыхільнікаў Р. Астроўскага.

Удзельнікі з’езду пастанавілі прызнаць БМР за адзіны орган, што мае права рэпрэзентаваць беларускія асяродкі, аб’яднаныя ў БМР, перад амерыканскімі ўладамі, *UNRRA*, *IRO* і г. д., а таксама перад арганізацыямі іншых нацыянальнасцяў. БМР стваралася ў піку структурам Беларускага цэнтральна-дапамаговага камітэту (БЦДК), якім кіравалі прыхільнікі Абрамчыка.

*6 ліпеня*

У беларускім лагеры ў Остэргофэне прайшоў сход грамадскага актыву, што правёў перавыбары ў Беларускі нацыянальны камітэт. У новы склад БНЦ увайшлі выключна прыхільнікі Міколы Абрамчыка: Васіль Кендыш, Антон Адамовіч, Алесь Вініцкі, Франц Кушаль, Аўген Каханоўскі (Калубовіч), Леў Гарошка, Барыс Рагуля, Станіслаў Грынкевіч, Станіслаў Станкевіч, Аляксандр Стагановіч ды інш.

*24 жніўня*

З’езд у Ватэнштэце прыхільнікаў Радаслава Астроўскага. Праз некаторы час 27 чалавек — праціўнікаў лагернай адміністрацыі на чале з Леанідам Галяком пакінулі лагер.

*1 лістапада*

У Марбурзе прайшоў сход, у якім бралі ўдзел 45 дзеячаў розных поглядаў: Франц Кушаль, Пётра Манькоўскі, Аляксандр Орса, Барыс Рагуля; з іншага боку — Іван Касяк, Святаслаў Коўш, Міхаіл Ігнатовіч. Прыйсці да кампрамісу не ўдалося.

*10 снежня*

Выйшаў першы нумар газеты «Беларуская воля» (Гарміш-Партэнкірхэн, рэд. Я. Кіпель) — афіцыйнага органу Беларускай народнай партыі, што падтрымала потым Р. Астроўскага. Выдавалася да студзеня 1950 г. (выйшла 18 нумароў).

*29 снежня*

Паседжанне грамадскага актыву ў Остэргофэне, прысвечанага 30-годдзю Першага Усебеларускага кангрэсу. Аднаўленне Рады БНР на чале з Міколам Абрамчыкам.

*31 снежня*

Радаслаў Астроўскі выдаў зварот «Беларусы і беларускі», у якім заклікаў спыніць усе спрэчкі паміж грамадскім актывам і прапанаваў правесці выбары ў Беларускае цэнтральнае прадстаўніцтва (БЦП), якое мелася, з аднаго боку, прыйсці на змену Беларускай міжлагернай радзе, а з іншага, на думку Р. Астроўскага, — аб'яднаць усе сілы на эміграцыі. Прэзідэнт пакуль не ведаў пра аднаўленне Рады БНР.

## 1948

*Студзень*

Зварот «Да беларускай эміграцыі», падпісаны сенатарам польскага Сейму Васілём Рагулем, паслом польскага Сейму Юрыем Сабалеўскім, рэктарам Медычнага інстытуту Міколам Сцяпанавым, сябрам Рады БНР у 1918–1920 гг. Міколам Шылам ды камендантам беларускага лагеру ў Ватэнштэце Святаславам Каўшом. Аўтары дакументу ўхвалілі снежаньскі зварот Р. Астроўскага ды таксама заклікалі правесці выбары ў агульнае беларускае прадстаўніцтва, зазначыўшы, што бяруць на сябе рыхтаванне выбараў.

*26 студзеня*

У Ватэнштэце выйшаў першы нумар інфармацыйнага лістка «Апошнія весткі». Выдаваўся да ліпеня 1948 г. Выйшла 39 нумароў. Падтрымліваў палітычную платформу БЦР.

*23 сакавіка*

У Лондане выйшаў першы нумар часопісу «Аб'еднаньне» — органу Хрысціянскага аб'яднання беларускіх работнікаў, якое гуртавала прыхільнікаў Р. Астроўскага.

*25 сакавіка*

Радаслаў Астроўскі выдаў дэкрэт пра аднаўленне дзейнасці БЦР. У дэкрэце ён апеляваў да пастановаў Другога Усебеларускага кангрэсу, дэлегаты якога ўпаўнаважылі БЦР *«выконваць функцыі прадстаўніцтва Беларускага народу і краю»,* бо Другі Усебеларускі кангрэс *«узлажыў на БЦР абавязак часова заступаць парлямэнт Беларускай Народнай Рэспублікі».*

*9 траўня*

12-ты Пленум БЦР (удзельнічалі 48 чалавек), на якім рашэнне аб аднаўленні арганізацыі было афармленае статутна.

Радаслава Астроўскага аднагалосна абралі прэзідэнтам БЦР на чатырохгадовы тэрмін. Першым віцэ-прэзідэнтам БЦР стаў Васіль Рагуля, 2-м віцэ-прэзідэнтам — Мікалай Шчорс. Старшынём Рады Міністраў прызначылі Юрыя Сабалеўскага, сакратаром БЦР — Івана Касяка.

Эмануіл Ясюк выбраны міністрам замежных справаў, Юры Стукаліч (Віцьбіч) — міністрам прэсы і прапаганды, Мікалай Сцяпанаў — міністрам культуры і асветы. Аляксандр Русак — міністрам фінансаў, Сцяпан Шнэк — міністрам Краёвай абароны, Іван Касяк — міністрам унутраных справаў, Мікалай Мінкевіч — міністрам аховы здароўя і грамадскай апекі, Уладзімір Каракулька — першым віцэ-міністрам фінансаў, Усевалад Родзевіч — другім віцэ-міністрам фінансаў, Уладзімір Сенька — віцэ-міністрам унутраных справаў, Ксенафонт Вайцяхоўскі — віцэ-міністрам культуры і асветы, Анатоль Шкутка — віцэ-старшынём Рады Міністраў БНР. Янка Бекіш і Сцяпан Рудзь як удзельнікі Першага Усебеларускага кангрэсу былі прызначаныя раднымі БЦР, а Іван Ермачэнка вызначаны паўнамоцным паслом БЦР у ЗША.

З 48 удзельнікаў 12-га Пленуму ў склад БЦР абралі 32 радных: Васіля Рагулю, Юрыя Сабалеўскага, Яўхіма Кіпеля, Івана Касяка, Янку Бекіша, Паўла Свірыда, епіскапа Апанаса (Мартаса), Пётру Орсу, а. Мікалая Лапіцкага, У. Бруя, У. Родзевіча, Часлава Найдзюка, Мікалая Шчорса, Хведара Шыбута, Эмануіла Ясюка, а. Івана Жарскага, Аляксандра Русака, Мікалая Сцяпанава, Уладзіміра Лазарэвіча, Сымона Шаўцова, Анатоля Плескачэўскага, Святаслава Каўша, Сцяпана Шнэка, Аляксандра Буглая, Анатоля Шкутку, Аляксея Сянькевіча, Мікалая Мінкевіча, Аркадзя Евеца, Хведара Ілляшэвіча, Радаслава Астроўскага, Уладзіміра Сеньку, Міхаіла Завістовіча.

*5 чэрвеня*

Пры актыўным спрыянні Рады БНР на саборыку ў Констанцы (Бадэн-Вюртэмбэрг) аднавілі Беларускую аўтакефальную праваслаўную царкву, якую ўзначаліў дэлегаваны з УАПЦ епіскап Сяргей (Ахатэнка).

Было падпісанае пагадненне паміж Радай БНР і БАПЦ у асобе епіскапа Сяргея, згодна з якім справа высвячэння епіскапаў павінна была ўзгадняцца з кіраўніцтвам Рады БНР.

БЦР рэзка адмоўна паставілася да такога механізму аднаўлення БАПЦ і не прызнала саборыку.

*Снежань*

Сакратарыят БЦР у Міхэльсдорфе выдаў мемарыял, у якім выступаў супраць дзейнасці БССР на міжнароднай арэне, у прыватнасці, у ААН, і звяртаў увагу на тое, што сапраўдная беларуская дзяржава — гэта абвешчаная 25 сакавіка 1918 г. незалежная БНР.

*4 снежня*

У Міхэльсдорфе прайшла Беларуская міжпартыйная канферэнцыя, у якой узялі ўдзел прадстаўнікі партыяў, якія падтрымлівалі палітычную платформу БЦР: Беларускай народнай партыі (Я. Кіпель), Беларускай незалежніцкай партыі, Сялянска-работніцкай партыі вызвалення Беларусі (Ю. Сабалеўскі, Р. Астроўскі), Беларускай сялянскай грамады (В. Рагуля).

*17 снежня*

У Міхэльсдорфе выйшаў першы нумар газеты «Беларускае слова» (рэдактары А. Русак, Ю. Стукаліч, Ю. Сабалеўскі), што фактычна была неафіцыйным органам БЦР. Была зарэгістраваная як дадатак да выдання «Українські Вісти». З 25 сакавіка 1949 г. — самастойнае выданне. З чэрвеня 1949 г. выдавалася ў Бакнангу каля Штутгарту, куды пераехаў беларускі лагер. Выданне рэгулярна выходзіла да 25 сакавіка 1950 г. (пабачылі свет 14 нумароў), аднавілася 25 сакавіка 1954 г. у Мюнхене, са снежня 1956 г. (№32) да красавіка—чэрвеня 1958 г. (№39) выходзіла ў Саўт-Рывэры (ЗША).

*26 снежня*

У Лондане прайшоў 1-шы З’езд Хрысціянскага аб’яднання беларускіх работнікаў (ХАБР) — арганізацыі нязгодных, што выйшлі са Згуртавання беларусаў Вялікай Брытаніі (ЗБВБ). На з’ездзе была прынятая спецыяльная рэзалюцыя, што ХАБР афіцыйна падтрымлівае платформу БЦР.

**1948–1995**

Выезд беларускіх дзеячаў, у тым ліку і прыхільнікаў БЦР, у розныя краіны. Агулам з 75–100 тысячаў (паводле ацэнак БНК на 1945 г.) беларусаў, у Нямеччыне ў пачатку 1950-х засталося 2 тысячы беларускіх выгнанцаў.

*20 лістапада 1949 г.*

У Саўт-Рывэры (ЗША) прайшло першае паседжанне сябраў БЦР. Бралі ўдзел дзесяць чалавек (Эмануіл Ясюк (старшыня), Юры Стукаліч (намеснік), Іван Касяк (сакратар), Мікалай Сцяпанаў, Пётра Орса, Часлаў Найдзюк, Святаслаў Коўш, Анатоль Плескачэўскі, Хведар Шыбут, Іван Ермачэнка).

*Студзень 1950 г.*

Стварэнне прадстаўніцтва БЦР у ЗША (узначаліў Э. Ясюк).

*Чэрвень 1950 г.*

У часопісе «Аб’еднаньне» (№6 (27)) змешчаны артыкул Р. Астроўскага «Гранічныя спрэчкі беларусаў з іх суседзямі ды спосаб іх вырашэння», дзе агучана ідэя развязаць тагачасную спрэчку аб беларуска-літоўскай прыналежнасці Вільні і Віленскага краю, перададзенага ў 1939 г. ад акупаванай саветамі Заходняй Беларусі Літве. Радаслаў Астроўскі прапанаваў падзяліць край на два сектары: беларускі і літоўскі. У якасці мяжы Р. Астроўскі рэкамендаваў выкарыстаць чыгунку Беласток—Даўгаўпілс.

*27 жніўня 1950 г.*

Зварот Радаслава Астроўскага да беларускай эміграцыі з заклікам запісвацца добраахвотнікамі на Карэйскі фронт. Збольшага зварот выклікаў адмоўную рэакцыю.

*25 снежня 1950 г.*

«Асведчанне» прэзідыуму Пленуму і Калегіі БЦР у справе былых епіскапаў БАПЦ. У дакуменце заяўлялася, што БЦР не прызнае пераходу былых беларускіх епіскапаў у РЗПЦ, але таксама не ўхваляе стварэння Беларускай аўтакефальнай царквы пад кіраўніцтвам епіскапаў Сяргея Ахатэнкі і Васіля (Тамашчыка), а ўважае за правільны крок стварэнне беларускіх прыходаў у юрысдыкцыі канстанцінопальскага патрыярха.

*14 кастрычніка 1951 г.*

Прыхільнікі БЦР увайшлі ў арганізацыю паняволеных народаў Расіі «Клуб Праметэй» (створаная ў Нью-Ёрку). З 1953 г. яе ўзначальваў Мікалай Шчорс.

*25 сакавіка 1952 г.*

Выступ кіраўніка дэлегатуры (прадстаўніцтва) БЦР у ЗША Эмануіла Ясюка на радыё ў Нью-Ёрку. У прамове Ясюк падкрэсліў, што менавіта БЦР — сапраўдны выразнік інтарэсаў беларускага народу на эміграцыі.

*1 кастрычніка 1952 г.*

«Агляд сілаў» БЦР. Высветлілі, што з 41 чальца БЦР у ЗША жывуць 24 дзеячы, у Нямеччыне і Аўстраліі — па 6 чалавек, па два — у Аргентыне і Англіі, у Бельгіі — 1.

*27–28 снежня 1952 г.*

У Саўт-Рывэры прайшоў 13-ты Пленум БЦР, у якім узялі ўдзел 33 чалавекі, што рэпрэзентавалі 68 дэлегатаў ад розных арганізацыяў. Радаслава Астроўскага пераабралі прэзідэнтам.

*Сакавік 1953 г.*

Зацверджаны склад новай калегіі: Аляксандр Русак — старшыня калегіі БЦР і сакратар замежных справаў, Аркадзь Арэхва — сакратар унутраных справаў і веравызнанняў, Віктар Чабатарэвіч — сакратар дзяржаўнай абароны, Аляксей Шудзейка — сакратар культуры, прэсы і прапаганды, Анатоль Плескачэўскі — сакратар грамадскай апекі і аховы здароўя, Пётра Орса — сакратар дзяржаўнага кантролю, Уладзімір Сенька — заступнік сакратара дзяржаўнай абароны, Юры Попка — 2-гі заступнік сакратара культуры, прэсы і прапаганды.

*30 чэрвеня 1954 г.*

Сабалеўскі склаў з сябе абавязкі старшыні Пленуму БЦР.

*3–4 верасня 1954 г.*

У Саўт-Рывэры прайшоў 14-ты Пленум БЦР. Бралі ўдзел 56 чалавек, якія рэпрэзентавалі 90 дэлегатаў.

Радаслава Астроўскага пераабралі на новы тэрмін. Зацвердзілі склад новага выканаўчага органу БЦР. Аляксандр Русак застаўся на пасадзе кіраўніка ВО, ягоным намеснікам стаў Аркадзь Арэхва, заняўшы таксама пасаду кіраўніка замежных справаў і праўнага аддзелу. Эмануіл Ясюк абраны кіраўніком аддзелу ўнутраных справаў і эміграцыі. Дзмітры Касмовіч як кіраўнік Беларускага вызвольнага фронту ўзначаліў аддзел вызвольнай барацьбы, Яўхім Кіпель — аддзел прэсы і прапаганды, Вячаслаў Селях — кіраўнік аддзелу культуры і мастацтва, Барыс Шчорс — кіраўнік аддзелу фінансаў, Віталь Цярпіцкі — кіраўнік аддзелу грамадскай апекі.

Прэзідыум Пленуму: Нікандр Мядзейка — старшыня, Аўген Занкавіч — заступнік, Святаслаў Коўш — сакратар. 30 красавіка 1955 г. Коўш зрокся сяброўства ў БЦР і на пасадзе сакратара Пленуму яго замяніў Віталь Цярпіцкі.

*Кастрычнік 1954 г.*

Паўстаў Беларускі вызвольны фронт (ачоліў Дзмітры Касмовіч), што прыйшоў на змену створанаму ў 1952 г. Беларускаму вызвольнаму руху, кіраўнік якога Людвіг Зарэчны адмовіўся падпарадкавацца БЦР.

*31 кастрычніка 1955 г.*

Аляксандр Русак праз стан здароўя падаў у адстаўку з пасады кіраўніка выканаўчага органу. Быў сфармаваны новы выканаўчы орган, які ўзначаліў Аркадзь Арэхва (ён жа кіраўнік аддзелу замежных справаў), Яўхім Кіпель стаў віцэ-старшынём і кіраўніком аддзелу прэсы і інфармацыі, Мікалай Дзямідаў — кіраўніком аддзелу нутраных справаў, Дзмітры Касмовіч — кіраўніком аддзелу вызвольнай барацьбы, Вячаслаў Селях — кіраўніком аддзелу культуры і веравызнанняў.

*30 лістапада 1957 г.*

15-ты Пленум БЦР у Саўт-Рывэры. Удзел у працы Пленуму ўзялі 28 чалавек, якія рэпрэзентавалі 65 дэлегатаў. Гэта быў першы Пленум, у якім змог узяць непасрэдны ўдзел прэзідэнт Радаслаў Астроўскі.

Р. Астроўскі напярэдадні паставіў пытанне аб адстаўцы, але пазней адмовіўся ад гэтай ідэі, і ягоны сыход на Пленуме не абмяркоўваўся.

*20 лістапада 1957 г.*

Абвяшчэнне пра заснаванне і рэгістрацыю «Амерыканскіх прыхільнікаў БЦР», каб дзейнічаць у ЗША легальна як грамадская арганізацыя. Фактычна аб’яднанне пераняло функцыі дэлегатуры БЦР у Злучаных Штатах.

Пры канцы 1950-х да арганізацыі належалі 24 чалавекі: Анатоль Плескачэўскі (старшыня), Эмануіл Ясюк, Бернард Букатка, Мікалай Карповіч, Барыс Шчорс, Ксенафонт Вайцяхоўскі, Расціслаў Завістовіч, Мікалай Новік, а. Святаслаў Коўш, а. Мікалай Лапіцкі, Васіль Місюль, Рыгор Арцюшэнка, Іван Ермачэнка, Уладзімер Траскевіч, Аркадзь Арэхва, Нікіфар Кавалёў, Васіль Пунтус, Фёдар Пагуда, Янка Лічко, Янка Шымчык, Аўген Занкавіч, Пётра Орса, Хведар Высоцкі, Яўхім Цыган, Віталь Цярпіцкі, Аляксей Шудзейка — усе сябры БЦР, што жылі ў ЗША.

*1957–1958 гг.*

У Англіі, дзе жыў Р. Астроўскі, стварылі структуру, якая дублявала выканаўчы орган БЦР.

*28 чэрвеня 1959 г.*

Канчатковы адыход Аркадзя Арэхвы ад грамадскіх абавязкаў у БЦР (быў кіраўніком выканаўчага органу) і ягоны выезд у Дыксан (Іліной).

*22 кастрычніка 1960 г.*

16-ты Пленум БЦР у Саўт-Рывэры. Бралі ўдзел 29 чалавек, што рэпрэзентавалі 60 дэлегатаў. З прычыны адсутнасці Аркадзя Арэхвы паседжанне вёў і рабіў выніковую справаздачу намеснік старшыні прэзідыуму Мікалай Карповіч.

Радаслава Астроўскага пераабралі прэзідэнтам БЦР. Старшынём выканаўчага органу абралі Аляксея Сянькевіча. Склад прэзідыуму Пленуму пакінулі ў ранейшым складзе: Аркадзь Арэхва — старшыня (нягледзячы на ягоны адыход ад грамадскіх справаў), Мікалай Карповіч — намеснік, Ігар Шчорс — сакратар.

*30 ліпеня 1962 г.*

Радаслаў Астроўскі заявіў, што з 1 верасня афіцыйна складае з сябе паўнамоцтвы прэзідэнта БЦР.

*26 жніўня 1962 г.*

Сход сябраў БЦР у Саўт-Рывэры аб бягучай сітуацыі. Прынялі рашэнне перанесці разгляд пытання на наступнае паседжанне, але даты не прызначылі. Нават фармальная дзейнасць БЦР спыняецца больш як на дзесяцігоддзе.

*17 жніўня 1974 г.*

Радаслаў Астроўскі абвяшчае, што вяртаецца на пасаду прэзідэнта БЦР, а таксама даручае новаму старшыню выканаўчага органу, Пятру Саўчыцу, склікаць на 26 кастрычніка 1974 г. у Саўт-Рывэры 17-ты Пленум БЦР.

У склад новага выканаўчага органу ўвайшлі: сакратар — Віталь Цярпіцкі, скарбнік — Нікандр Мядзейка, чальцы — а. Мікалай Лапіцкі, Іван Касяк, Андрэй Мінчук, Іван Шымчык, Эмануіл Ясюк і прадстаўнікі БЦР у розных краінах: ад Англіі — Канстанцін Глінскі, Нямеччыны — Дзмітры Касмовіч, Канады — Барыс Сладкоўскі (Таронта), Уладзімір Гуцька (Ўініпэг), Аўстраліі — Міхась Зуй.

Пазней скліканне 17-га Пленуму некалькі разоў пераносілася.

*3–4 ліпеня 1976 г.*

У Чыкага прайшоў 17-ты Пленум БЦР, узялі ўдзел 43 чалавекі. Р. Астроўскі без папярэдняга абмеркавання вызначыў наступны апарат: першы віцэ-прэзідэнт — Нікандр Мядзейка, другі віцэ-прэзідэнт — Міхась Зуй.

Сакратаром БЦР стаў Алесь Алехнік; Пятро Саўчыц застаўся старшынём выканаўчага органу, Віталь Цярпіцкі — сакратар. У склад ВО ўвайшлі: Аркадзь Сацэвіч і Янка Шымчык (Кліўлэнд), Міхась Каленік і Пятро Нягода (Чыкага), Канстанцін Глінскі і Пятро Юнах (Англія), Уладзімір Гуцька, Іван Бурдзь (Ўініпэг, Канада), Барыс Сладкоўскі і Міхась Кухарчык (Таронта, Канада).

*14 кастрычніка 1976 г.*

Радаслаў Астроўскі апублікаваў дэкрэт «Аб выданні бюлетэню Беларускай Цэнтральнай Рады — афіцыйнага органу БЦР».

*17 кастрычніка 1976 г.*

На 89-м годзе жыцця памёр Радаслаў Астроўскі. Пахаваны 23 кастрычніка на Беларускіх могілках у Саўт-Рывэры.

*Снежань 1976 г.*

Выйшаў першы нумар «Бюлетэню БЦР» (рэдактар Юры Попка). Да канца 1986 г. выйшла 12 нумароў.

*3–4 ліпеня 1977 г.*

У беларускім асяродку «Бэлэйр-Менск» (Глэн-Спэй, штат Нью-Ёрк) прайшоў 17-ты Пленум БЦР, у якім узялі ўдзел 43 грамадскія дзеячы з ЗША, якія рэпрэзентавалі 16 дэлегатаў з Аўстраліі, Канады, Брытаніі, Нямеччыны.

Нікандр Мядзейка абраны прэзідэнтам БЦР. Першым віцэ-прэзідэнтам стаў Мікалай Мінкевіч, другім віцэ-прэзідэнтам — Міхась Зуй. Старшынём выканаўчага органу застаўся Пятро Саўчыц (але ўжо ў лістападзе 1977 г. ён адышоў ад справаў, высвяціўшыся на святара), Аляксандра Дарафейчыка абралі галоўным скарбнікам выканаўчага органу, Віталя Цярпіцкага — сакратаром прэзідыуму.

*6 снежня 1987 г.*

Памёр прэзідэнт БЦР Нікандр Мядзейка. Перад смерцю ён перадаў свае абавязкі Міхасю Зую.

*18 кастрычніка 1988 г.*

У Саўт-Рывэры прайшоў апошні, 19-ты Пленум БЦР. Прысутнічалі восем чалавек. Удзельнікі Пленуму ўхвалілі абранне Міхася Зуя прэзідэнтам БЦР (сам удзелу не браў). Першы і другі віцэ-прэзідэнты не абіраліся. Пазней Зуй дэкрэтам прызначыў на гэтыя пасады Віталя Цярпіцкага і Міхася Сеньку.

*23 кастрычніка 1994 г.*

Міхась Зуй прызначыў старшыню Беларускага кангрэсавага камітэту Амерыкі Расціслава Завістовіча 1-м заступнікам прэзідэнта БЦР і на выпадак сваёй смерці перадаў паўнамоцтвы і абавязкі прэзідэнта старшыні выканаўчага органу Віталю Цярпіцкаму да склікання 20-га Пленуму БЦР або да склікання Трэцяга Усебеларускага кангрэсу ў Беларусі.

*Сакавік 1995 г.*

Міхась Зуй віншуе беларусаў з 77-мі ўгодкамі БНР.

*24 красавіка 1995 г.*

Памёр прэзідэнт БЦР Міхась Зуй. Сакратар Віталь Цярпіцкі адмовіўся склікаць Пленум (адсутнасць кадраў, актыўнасць беларусаў у іншых арганізацыях), гэтым самым падводзячы фінальную рысу ці паставіўшы кропку ў гісторыі Беларускай Цэнтральнай Рады. БЦР спыняе дзейнасць.

# ДАКУМЕНТЫ

## СТАТУТЫ БЕЛАРУСКАЙ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ

### Першая рэдакцыя

1. Беларуская Цэнтральная Рада зьяўляецца пакліканым у рамах самакіраўніцтва прадстаўніцтвам беларускага народу. Яна мае сваё месцазнаходжаньне ў Менску.

2. Беларуская Цэнтральная Рада мае за асноўную задачу змабілізаваць усе сілы беларускага народу для зьнішчэньня бальшавізму і праз гэта канчаткова вызваліць беларускі народ ад бальшавіцкага крывавага панаваньня.

3. Беларуская Цэнтральная Рада мае за сваё права і абавязак, у паразуменьні зь нямецкім кіраўніцтвам, праводзіць у жыцьцё ўсе патрэбныя мерапрыемствы. У рамах пастаўленых перад ёю заданьняў яна будзе прыймаць і ажыцьцяўляць усе неабходныя мерапрыемствы ў галіне сацыяльнага, культурнага і школьнага жыцьця. Яна будзе даваць усе ўказаньні існуючым у гэтых галінах беларускім арганізацыям.

4. На чале Беларускай Цэнтральнай Рады стаіць Прэзыдэнт, які прызначаецца і звальняецца генэральным камісарам. Астатніх сяброў Рады прызначае генэральны камісар паводле прадстаўленьня Прэзыдэнта.

5. Свае распараджэньні і кіраўнічыя пастановы выдае Беларуская Цэнтральная Рада паводле згоды генэральнага камісара.

6. Статут Беларускай Цэнтральнай Рады ўваходзіць у моц зараз жа.

*Менск, 21 сьнежня 1943 г. Ген. фон Готбэрг*

## Другая рэдакцыя

1. ПАЎНАМОЦТВЫ, МЭТЫ І ЗАДАНЬНІ БЦР

Арт. 1. Беларуская Цэнтральная Рада выяўляецца адзіным праўным прадстаўніцтвам сувэрэнных правоў беларускага народу, пакліканым 27.6.1944 г., Другім Усебеларускім Кангрэсам у Менску.

Арт. 2. Палітычныя заданьні Беларускай Цэнтральнай Рады вызначаны пастановамі 2-га Ўсебеларускага Кангрэсу:

Галоўным палітычным заданьнем БЦР ёсьць арганізацыя ўсіх сілаў беларускага народу для змаганьня за вызваленьне Беларусі і здабыцьцё ейнае незалежнасьці.

Апроч таго, БЦР ажыцьцяўляе праўную, сацыяльную і культурную апеку над усімі беларусамі, якія апынуліся па-за межамі Беларусі.

Арт. 3. Атрыманыя ад 2-га Ўсебеларускага Кангрэсу паўнамоцтвы БЦР трываюць да часу склiканьня 3-га Ўсебеларускага Кангрэсу.

3-ці Ўсебеларускі Кангрэс Беларуская Цэнтральная Рада абавязаная склікаць неадкладна пасьля вызваленьня Беларусі.

II. ПРЭЗЫДЭНТ БЕЛАРУСКАЙ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ

Арт. 4. На чале БЦР стаіць Прэзыдэнт, вызначаны 2-м Усебеларускім Кангрэсам.

Арт. 5. Прэзыдэнт БЦР зьяўляецца правадыром усіх збройных беларускіх сілаў і пратэктарам арганізацыі беларускай моладзі.

Арт. 6. Да кампэтэнцыі Прэзыдэнта БЦР належаць:

а) рэпрэзэнтацыя БЦР перад урадамі і нацыянальнымі прадстаўніцтвамі іншых дзяржаваў і народаў;

б) мабілізацыя ў беларускае войска, вызначэньне ягонага галоўнага кіраўніцтва, надаваньне і пазбаўленьне афіцэрскіх рангаў;

в) вызначэньне наступнікаў Прэзыдэнта БЦР, згодна з арт. 17 б Статуту;

г) пакліканьне і адкліканьне радных БЦР згодна з арт. 17-м Статуту;

д) вызначэньне і прыймо дымісіі Шэфа Калегіі БЦР, згодна з арт. 30 Статуту;

б) зацьверджаньне на прапанову Шэфа Калегіі БЦР складу Калегіі, дабранай згодна з арт. 33 гэтага Статуту;

ж) права ініцыятывы пры складаньні прапановаў Пленуму Рады.

У межах сваёй кампэтэнцыі Прэзыдэнт БЦР выдае Дэкрэты, Пастановы і Загады.

Арт. 7. Заступнікамі Прэзыдэнта БЦР зьяўляюцца 1-шы і 2-гі віцэ-прэзыдэнты БЦР.

III. СЯБРЫ БЦР

Арт. 8. Беларуская Цэнтральная Рада складаецца зь сяброў:

а) зацьверджаных 2-м Усебеларускім Кангрэсам;

б) прадстаўнікоў беларускіх арганізацый і ўстаноў;

в) пакліканых індывідуальна.

Арт. 9. Сябрамі-прадстаўнікамі зьяўляюцца пакліканыя ў склад БЦР старшыні ці кіраўнікі беларускіх арганізацый або ўстаноў.

Арт. 10. Індывідуальна паклікаюцца ў склад БЦР беларускія грамадзкія дзеячы.

Арт. 11. Агульны лік сяброў у Радзе не павінен перавышаць 25 асобаў.

Арт. 12. Усе сябры БЦР маюць аднолькавыя правы ў Радзе.

Арт. 13. Сябры БЦР адклікаюцца з Рады Прэзыдэнтам БЦР у выпадках:

а) калі іхняя дзейнасьць пярэчыць Пастанове 2-га Ўсебеларускага Кангрэсу ці пастановам БЦР;

б) сябра-прадстаўнік — апрача таго і ў выпадку, калі скончыліся яго паўнамоцтвы як старшыні ці кіраўніка арганізацыі або ўстановы, якую ён прадстаўляе ў БЦР;

в) індывідуальна пакліканы сябра БЦР — яшчэ і ў тым выпадку, калі будзе сьцьверджана, што ён спыніў сваю грамадзкую дзейнасьць.

IV. ПЛЕНУМ РАДЫ

Арт. 14. Вырашаючым органам БЦР зьяўляецца Пленум Рады.

Арт. 15. У склад Пленуму БЦР як ягоныя правамоцныя сябры ўваходзяць усе сябры БЦР.

Арт. 16. На чале Пленуму Рады стаіць ягоны Прэзыдыюм у складзе Старшыні, Заступніка і Сакратара, выбраных Пленумам Рады на адзін год.

Арт. 17. Да кампэтэнцыі Пленуму БЦР належыць:

а) перагляд статуту БЦР;

б) выбар кандыдатаў на наступнікаў Прэзыдэнта БЦР;

в) разгляд і прыняцьцё праграмы і палітычнай лініі БЦР;

г) ратыфікацыя ўмоваў з нацыянальнымі прадстаўніцтвамі іншых народаў;

д) выбар складу дысцыплінарнага Суду БЦР;

е) прадстаўленьне Прэзыдэнту БЦР кандыдатаў у сябры БЦР і прапазыцыі аб адкліканьні радных;

ж) прыняцьцё пастановаў вырашаючага значэньня;

з) апрабата складу Калегіі БЦР;

і) нагляд і кантроль за працаю Калегіі БЦР.

У межах сваёй кампэтэнцыі Пленум БЦР выдае Пастановы.

Арт. 18. Сэсіі Пленуму БЦР склікаюцца ягоным Старшынёю адзін раз на месяц.

Арт. 19. Тры і болей сябраў БЦР маюць права ўнесьці ў парадак дня сэсіі Пленуму рады прапанавае імі пытаньне.

Арт. 20. У выпадку пільнае патрэбы склікаецца нечарговая ці надзвычайная сэсія Пленуму Рады.

Арт. 21. Нечарговая або надзвычайныя сэсіі Пленуму рады склікаюцца Старшынёю Пленуму Рады на пісьмовую прапанову:

а) Прэзыдэнта БЦР;

б) Шэфа Калегіі БЦР;

в) ня меней 5 сяброў Пленуму Рады і

г) з уласнае ініцыятывы.

Арт. 22. Паседжаньні Пленуму рады правамоцныя ў наяўнасьці 2/3 усіх яго сяброў.

Арт. 23. На паседжаньні пленуму Рады з правам дарадчага голасу могуць запрашацца сябры Грамадзкіх Камісіяў і ў выпадку патрэбы адпаведныя спэцыялісты і дакладчыкі.

Арт. 24. Сэсіяй Пленуму Рады кіруе Старшыня Пленуму Рады, або — пры ягонай адсутнасьці — ягоны Заступнік.

Арт. 25. Пастановы Пленуму Рады прымаюцца звычайнай большасьцю галасоў прысутных на паседжаньні Сяброў Пленуму Рады.

Арт. 26. Кожная пастанова Пленуму Рады зацьвярджаецца Прэзыдэнтам БЦР. У выпадку адмовы яе зацьверджаньня Прэзыдэнтам, яна перасылаецца ў Пленум Рады на паўторны разгляд, па якім набывае праўную моц, будучы паўторна прынятай бальшынёй усяго складу Пленуму Рады.

Арт. 27. Пратаколы паседжаньня Пленуму Рады вядзе сакратар Пленуму Рады.

Арт. 28. Падпісваюць пратаколы паседжаньня Пленуму Рады Старшыня і Сакратар.

КАЛЕГІЯ БЦР

Арт. 29. Выканаўчым органам Беларускае Цэнтральнае Рады зьяўляецца Калегія БЦР.

Арт. 30. На чале Калегіі БЦР стаіць ейны Шэф, вызначаны Прэзыдэнтам БЦР.

Арт. 31. Калегія БЦР складаецца з Шэфа Калегіі і Кіраўнікоў усіх аддзелаў БЦР.

Арт. 32. Кіраўнікамі аддзелаў БЦР могуць быць і не сябры Рады.

Арт. 33. Пасьля апрабаты складу Калегіі БЦР Пленумам Рады Шэф Калегіі прадстаўляе яго на зацьверджаньне Прэзыдэнту БЦР.

Арт. 34. Да кампэтэнцыі Калегіі БЦР належыць:

а) права ініцыятывы пры складаньні прапановаў Пленуму Рады;

б) вядзеньне ўсяе працы БЦР у галінах і кірунках, вызначаных Пленумам Рады і Прэзыдэнтам.

У межах свае кампэтэнцыі Калегія БЦР выдае Пастановы і Распараджэньні.

VI. КАНЦАВЫЯ ВЫЗНАЧЭНЬНІ

Арт. 36. Афіцыйным органам БЦР зьяўляецца «Бюлетэнь БЦР».

Арт. 37. Статут БЦР можа быць перагледжаны ці зьменены на патрабаваньне ўсяго складу сяброў БЦР.

Арт. 38. Статут БЦР прымаецца Пленумам Рады і набывае праўную сілу з днём яго зацьверджаньня Прэзыдэнтам БЦР.

*г. Бэрлін, 14.1.1945 г.*

Статут гэты прыняты аднагалосна Пленумам Рады на сэсіях з дня 14, 15 і 17 студзеня 1945 г.

## Апошняя рэдакцыя з папраўкамі, прынятымі 12-м, 13-м і 14-м пленумамі БЦР

І. ПАЎНАМОЦТВЫ, МЭТЫ І ЗАДАНЬНІ БЕЛАРУСКАЙ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ

Арт. 1. Беларуская Цэнтральная Рада выяўляецца адзіным прадстаўніцтвам сувэрэнных правоў беларускага народу, пакліканым 27 чэрвеня 1944 г., Другім Усебеларускім Кангрэсам у Менску, які ў п. 4-тым сваіх паўнамоцтваў прыняў, што «4. Адзіным праўным прадстаўніцтвам беларускага народу і

ягонага краю зьяўляецца сёньня Беларуская Цэнтральная Рада з Прэзыдэнтам на чале».

У сувязі з гэтым Беларуская Цэнтральная Рада заступае сабою часова найвышэйшыя дзяржаўныя органы Беларускай Народнай Рэспублікі.

Арт. 2. Палітычныя заданьні Беларускай Цэнтральнай Рады вызначаны пастановамі 2-га Ўсебеларускага Кангрэсу:

а) галоўным палітычным заданьнем Беларускай Цэнтральнай Рады ёсьць арганізацыя ўсіх сілаў беларускага народу для змаганьня за вызваленьне Беларусі і здабыцьцё ейнае незалежнасьці ў форме Беларускай Народнай Рэспублікі;

б) Апрача таго, Беларуская Цэнтральная Рада ажыцьцяўляе праўную, сацыяльную і культурную апеку над усімі беларусамі, якія апынуліся па-за межамі свае Бацькаўшчыны;

в) адбудаваная Беларуская Народная Рэспубліка мае быць дэмакратычнай Народнай Дзяржаваю, з забесьпячэньнем усіх палітычных, сацыяльных, гаспадарчых, рэлігійных і культурных свабодаў і правоў як для беларусаў, так і для нацыянальных меншыняў.

Арт. 3. Атрыманыя ад 2-га Ўсебеларускага Кангрэсу паўнамоцтвы Беларускай Цэнтральнай Рады трываюць да часу склíканьня 3-га Ўсебеларускага Кангрэсу.

3-ці Ўсебеларускі Кангрэс Беларуская Цэнтральная Рада абавязаная склíкаць неадкладна пасьля вызваленьня Беларусі.

II. ПРЭЗЫДЭНТ БЕЛАРУСКАЙ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ

Арт. 4. На чале Беларускай Цэнтральнай Рады стаіць Прэзыдэнт БЦР, як адзіны жывы носьбіт законнае ўлады, кадэнцыя якога трывае пяць гадоў.

Арт. 5. Чарговы, або надзвычайны Пленум БЦР можа прадоўжыць кадэнцыю Прэзыдэнта на наступнае пяцігодзьдзе большынёй галасоў сяброў Пленуму БЦР, або выбраць новага Прэзыдэнта.

Арт. 6. Прэзыдэнт БЦР зьяўляецца галавой дзяржавы — Беларускай Народнай Рэспублікі і правадыром усіх збройных беларускіх сілаў.

Да кампэтэнцыі Прэзыдэнта БЦР належаць:

а) рэпрэзэнтацыя дзяржавы — Беларускай Народнай Рэспублікі перад урадамі і нацыянальнымі прадстаўніцтвамі іншых дзяржаваў і народаў;

б) мабілізацыя ў беларускае войска і вызначэньне ягонага галоўнага кіраўніцтва на прапанову Выканаўчага органу БЦР, а такжа надаваньне афіцэрскіх рангаў на прапанову кіраўніка аддзелу Вызвольнай барацьбы.

Зацемка: Пазбавіць афіцэрскіх рангаў можа ваенны суд або Дысцыплінарны суд, прыгаворы якіх уваходзяць у сілу пасьля зацьвярджэньня іх Прэзыдэнтам БЦР.

в) пакліканьне радных БЦР згодна з арт. 18 п. «е» гэтага статуту;

г) вызначэньне і прыймо дымісіі старшыні Выканаўчага Воргану БЦР, згодна з арт. 31 гэтага Статуту;

д) зацьверджаньне на прапанову старшыні Выканаўчага Воргану БЦР складу гэтага Органу, згодна з арт. 34 гэтага Статуту;

е) права ініцыятывы пры складаньні прапановаў Пленуму БЦР. У межах сваёй кампэтэнцыі Прэзыдэнт БЦР выдае дэкрэты, дазволы і загады.

Арт. 8. Наступнікам Прэзыдэнта Беларускай Цэнтральнай Рады зьяўляецца 1-шы віцэ-прэзыдэнт БЦР, а яго заступнікам — 2-гі віцэ-прэзыдэнт БЦР. У выпадку сьмерці ці абдыкацыі Прэзыдэнта БЦР абавязкам яго наступніка ёсьць скліканьне надзвычайнай сэсіі Пленуму БЦР не пазьней як у працягу 90 дзён для выбару Прэзыдэнта БЦР. Другі віцэ-прэзыдэнт заступае Прэзыдэнта БЦР на выпадак яго хваробы ці адпачынку.

III. СЯБРЫ БЕЛАРУСКАЙ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ

Арт. 9. У склад Беларускай Цэнтральнай Рады ўваходзяць:

а) дэлегаты 1-га і 2-га Ўсебеларускага Кангрэсаў і былыя сябры Рады Беларускай Народнай Рэспублікі;

б) дзейныя сябры БЦР, якія былі ў яе складзе падчас 2-га Ўсебеларускага Кангрэсу;

в) сэнатары і паслы Заходняй Беларусі ад беларускага народу;

г) прадстаўнікі беларускага праваслаўнага, рыма-каталіцкага ды іншых веравызнаньняў ад духавенства;

д) дэлегаты Беларускага Цэнтральнага Прадстаўніцтва, выбраныя дэмакратычным шляхам на эміграцыі ў 1948 г.;

е) прадстаўнікі беларускіх палітычных партый, грамадзкіх арганізацый і ўстановаў;

ж) прадстаўнікі арганізацый нацыянальных мяншыняў на Беларусі;

з) сябры, індывідуальна пакліканыя Пленумам БЦР, згодна з арт. 11, і арт. 18 п. «е» гэтага Статуту.

Зацемка 1: Колькасьць дэлегатаў, азначаных у п.п. г) і ж) гэтага артыкулу, устанаўліваецца прапарцыянальна да ліку іх сяброў, паводле нормы, акрэсьленай каждаразова Прэзыдыюмам Пленуму БЦР і згодна з арт. 12 гэтага Статуту.

Зацемка 2: Усе сябры БЦР перад Сэсіяй Пленуму каждаразова рэгіструюцца ў Прэзыдыюме Пленуму БЦР і падаюць свой адрас.

Зацемка 3: Колькасьць сяброў, азначаных у п. з) гэтага артыкулу, ня можа перавышаць 15% усяго ліку сяброў БЦР.

Зацемка 4: Кожны сябра БЦР, які ня можа асабіста прыбыць на Пленум БЦР, можа перадаць сваё паўнамоцтва (пісьмова) іншаму сябру БЦР, які будзе непасрэдна прыймаць удзел у Пленуме БЦР, прычым, аднак, ніхто ня можа мець больш чым 2 паўнамоцтвы.

Арт. 10. Сябрамі прадстаўнікамі беларускіх арганізацый і ўстановаў зьяўляюцца, выбраныя на дэмакратычных асновах, прадстаўнікі гэтых арганізацый і ўстановаў.

Арт. 11. Індывідуальна паклікаюцца Прэзыдэнтам у склад БЦР з пасярод кандыдатаў, прадстаўленых Пленумам БЦР, такія асобы, якія маюць ці то бясспрэчны мандат беларускага народу, ці то палажылі вялікія заслугі ў барацьбе за незалежнасьць свае бацькаўшчыны-Беларусі, ці рэпрэзэнтуюць асабліва важныя галіны беларускага жыцьця або выдатныя навукоўцы.

Арт. 12. Палітычныя партыі, грамадзкія арганізацыі і ўстановы, якія не выяўляюць свае дзейнасьці, трацяць прадстаўніцтва ў Пленуме БЦР на падставе пастановы пленуму БЦР.

Арт. 13. Усе сябры БЦР маюць аднолькавыя правы ў Радзе.

Арт. 14. Сябры БЦР адклікаюцца з складу Пленуму бальшынёй галасоў гэтага ж Пленуму ў выпадках:

а) калі іхняя дзейнасьць пярэчыць пастановам 2-га Ўсебеларускага Кангрэсу ці пастановам Пленуму БЦР;

б) сябра-прадстаўнік — апрача таго і ў выпадку, калі скончыліся яго паўнамоцтвы як прадстаўніка арганізацыі ці ўстановы, якую ён рэпрэзэнтаваў у БЦР;

в) індывідуальна пакліканы сябра БЦР — яшчэ і ў тым выпадку, калі будзе сьцьверджана, што ён спыніў сваю грамадзкую дзейнасьць.

IV. ПЛЕНУМ БЕЛАРУСКАЙ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ

Арт. 15. Вырашаючым органам заканадаўчага характару БЦР зьяўляецца Пленум Беларускай Цэнтральнай Рады.

Арт. 16. У склад Пленуму БЦР, як ягоныя правамоцныя сябры, уваходзяць усе сябры Беларускай Цэнтральнай Рады.

Арт. 17. На чале Пленуму БЦР стаіць Прэзыдыюм у складзе 3-х сяброў: старшыні, які адначасна зьяўляецца 1-м віцэ-прэзыдэнтам БЦР, заступніка

старшыні, які адначасна зьяўляецца 2-м віцэ-прэзыдэнтам БЦР, і сакратара, выбраных Пленумам на 3 гады і адказных перад Пленумам БЦР.

Зацемка: У выпадку немагчымасьці скліканьня Пленуму БЦР у прадбачаным часе, паўнамоцтвы Прэзыдыюму трываюць да найбліжэйшага пленуму БЦР.

Арт. 18. Да кампэтэнцыі Пленуму БЦР належыць:

а) перагляд статуту БЦР;

б) разгляд і прыняцьцё праграмы і палітычнай лініі Выканаўчага Воргану БЦР;

в) ратыфікацыя ўмоваў з нацыянальнымі прадстаўніцтвамі іншых народаў і дзяржаваў;

г) прыняцьцё пастановаў аб заснаваньні пасольстваў, дыплёматычных місіяў, дэлегатураў і консулятаў у іншых краінах;

д) выбар складу Дысцыплінарнага Суду БЦР;

е) прадстаўленьне Прэзыдэнту кандыдатаў у сябры БЦР;

ж) апрабата складу Выканаўчага Воргану БЦР.

У выпадку пільнае патрэбы і немагчымасьці хуткага скліканьня Пленуму БЦР, справы, азначаныя ў пунктах в), г) і ж) арт. 18 гэтага статуту, могуць быць, на прапанову старшыні Выканаўчага Воргану БЦР, вырашаны Прэзыдыюмам Пленуму БЦР пры захаваньні ў сіле арт. 27 гэтага Статуту з пазьнейшай апрабатай прынятых пастановаў бліжэйшаю чарговаю сэсіяй Пленуму БЦР.

У межах сваёй кампэтэнцыі Пленум БЦР выносіць пастановы і падае іх старшыні Выканаўчага Воргану БЦР для іх выкананьня.

Арт. 19. Сэсіі Пленуму БЦР склікаюцца ягоным старшынёй па меры патрэбы, але па магчымасьці ня менш як адзін раз на год.

Арт. 20. У выпадку пільнае патрэбы старшыня Прэзыдыюму Пленуму БЦР склікае надзвычайныя сэсіі Пленуму БЦР на пісьмовую прапанову:

а) Прэзыдэнта БЦР;

б) старшыні Выканаўчага Воргану БЦР;

в) ня меней 1/5 сяброў БЦР;

г) з собскае ініцыятывы.

Зацемка 1: Старшыня Прэзыдыюму Пленуму або ягоны заступнік, абавязаны абвесьціць аб скліканьні надзвычайнай сэсіі Пленуму рассылкаю паведамленьняў сябром Пленуму не пазьней як у працягу 2-х тыдняў ад даты атрыманьня пісьмовае прапановы ад асобаў, зазначаных у пунктах а), б) і в) гэтага артыкулу, прычым дата скліканьня надзвычайнай сэсіі павін-

на быць вызначана не раней, як за 4 і не пазьней, як за 6 тыдняў ад даты абвяшчэньня Прэзыдыюмам.

Зацемка 2: У выпадку няскліканьня Прэзыдыюмам пленуму надзвычайнай сэсіі ў прадбачаным гэтым артыкулам тэрміне, Прэзыдэнт БЦР даручае скліканьне пленуму старшыні Выканаўчага Воргану БЦР.

Арт. 21. Найменш трох прысутных на пленуме сяброў могуць на пісьме з собскаручнымі подпісамі запрапанаваць зьмены, альбо папраўкі да парадку дня сэсіі Пленуму БЦР, або ўнесьці новую справу.

Арт. 22. Паседжаньні Пленуму БЦР лічацца правамоцнымі пры наяўнасьці 2/3 ягоных сяброў або іх упаўнаважаных.

Арт. 23. Сябры БЦР, перадаўшыя свае паўнамоцтвы, лічацца наяўнымі пры наяўнасьці іх упаўнаважаных (пленіпатэнтаў).

Арт. 24. На паседжаньні Пленуму БЦР з правам дарадчага голасу могуць запрашацца, у выпадку патрэбы, адпаведныя спэцыялісты і дакладчыкі.

Арт. 25. Сэсіяй Пленуму БЦР кіруе старшыня прэзыдыюму Пленуму або, пры ягонай адсутнасьці, ягоны заступнік.

Арт. 26. Пастановы Пленуму БЦР прыймаюцца звычайнай бальшынёй галасоў прысутных на паседжаньні сяброў Пленуму, калі паасобныя артыкулы гэтага статуту не вымагаюць інакш. У выпадку парытэту галасоў вырашае старшыня.

Арт. 27. Кожная пастанова Пленуму БЦР зацьверджаная Прэзыдэнтам БЦР. У выпадку адмовы яе зацьверджаньня Прэзыдэнтам яна перасылаецца на паўторны разгляд, па якім набірае сілы, будучы прынятай паўторна бальшынёй 2/3 галасоў усяго складу Пленуму БЦР.

Арт. 28. Пратаколы паседжаньня Пленуму БЦР вядзе сакратар Прэзыдыюму.

Арт. 29. Падпісваюць пратаколы паседжаньня Пленуму БЦР старшыня Прэзыдыюму Пленуму і сакратар Прэзыдыюму.

## ВЫКАНАЎЧЫ ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ

Арт. 30. Абавязкі дэмакратычнага ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі часова поўніць Выканаўчы Ворган Беларускай Цэнтральнай Рады.

Арт. 31 На чале Выканаўчага Воргану стаіць ягоны старшыня, вызначаны Прэзыдэнтам БЦР.

Арт. 32. Выканаўчы Ворган БЦР складаецца з старшыні і кіраўнікоў наступных аддзелаў:

а) замежных спраў;

б) нутраных спраў і эміграцыі;
в) вызвольнае барацьбы;
г) праўды;
д) прэсы і інфармацыі;
е) культуры і веравызнаньняў;
ж) фінансаў;
з) грамадзкае апекі.

Арт. 33. Кіраўнікамі аддзелаў Выканаўчага Воргану БЦР могуць быць і не сябры Беларускай Цэнтральнай Рады.

Арт. 34. Пасьля апрабаты складу Выканаўчага Воргану БЦР, або кандыдатаў у яго, старшыня Выканаўчага Воргану БЦР праводзіць распадзел функцыяў паміж сябрамі і прадстаўляе ўвесь склад на зацьверджаньне Прэзыдэнту БЦР.

Арт. 35. Да кампэтэнцыі Выканаўчага Воргану БЦР належыць:
а) вядзеньне ўсяе працы, зьвязанае з барацьбой за вызваленьне Беларусі ў галінах і кірунках, акрэсьленых Пленумам БЦР і Прэзыдэнтам;
б) грамадзкая апека над беларускай эміграцыяй;
в) дбаньне аб матар’яльных рэсурсах БЦР;
г) падгатоўка праўных нормаў, патрэбных пасьля вызваленьня бацькаўшчыны ад бальшавіцкага панаваньня;
д) права ініцыятывы пры складаньні прапановаў Пленуму БЦР.

У межах сваіх кампэтэнцыяў Выканаўчы Ворган выдае пастановы і распараджэньні.

## VI. БЮДЖЭТ БЕЛАРУСКАЙ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ

Арт. 36. Бюджэт Беларускай Цэнтральнай Рады і яе Выканаўчага Воргану складаецца з сум Беларускага Нацыянальнага Фонду, доўгатэрміновай нутраной пазыкі, дабравольных ахвяраў і датацый ад прыватных асобаў і арганізацый, а такжа іншых даходных крыніцаў, якія створыць Выканаўчы Ворган БЦР.

Арт. 37. Прэлімінарны бюджэт складаецца Выканаўчым Ворганам БЦР і прадстаўляецца на зацьверджаньне Пленуму БЦР.

## VII. КАНТРОЛЬНАЯ КАМІСІЯ

Арт. 38. Для кантролю над гаспадарчаю, адміністрацыйнаю і фінансаваю дзейнасьцю Выканаўчага Воргану БЦР, Пленум выбірае, згодна з арт. 18 гэтага Статуту, тэрмінам на тры гады кантрольную камісію ў складзе: старшыні, ягонага заступніка і сакратара.

Арт. 39. Кантрольная камісія абавязана правесьці дакладны кантроль над фінансавую, гаспадарчаю і адміністрацыйнаю дзейнасьцю Выканаўчага Воргану БЦР найменш 1 раз у год і скласьці сваю пісьмовую справаздачу Пленуму БЦР.

Арт. 30. У выпадку пільнае патрэбы кантрольная камісія можа зажадаць ад старшыні Прэзыдыюму Пленуму склíканьня надзвычайнай сэсіі Пленуму БЦР.

VIII. ДЫСЦЫПЛІНАРНЫ СУД БЦР

Арт. 41. Для падтрыманьня дысцыпліны сярод сяброў БЦР і разгляду розных непаразуменьняў паміж імі, а такжа парушэньня Статуту БЦР, Пленум БЦР выбірае Дысцыплінарны Суд, зложаны з 3-х асобаў: старшыні, ягонага заступніка і сакратара, тэрмінам на тры гады.

Арт. 42. Пастановы Дысцыплінарнага Суду становяцца правамоцнымі пасьля зацьвярджэньня іх Прэзыдэнтам БЦР.

IX. КАНЦОВЫЯ ВЫЗНАЧЭНЬНІ

Арт. 43. Афіцыйным ворганам Беларускай Цэнтральнай Рады і яе Выканаўчага Воргану зьяўляецца «Бюлетэнь Беларускай Цэнтральнай Рады».

Арт. 44. На жаданьне Выканаўчага Воргану БЦР, або 1/4 усяго складу сяброў БЦР, Статут гэты можа быць перагледжаны, зьменены або папоўнены Пленумам БЦР, пастановы якога вымагае зацьверджаньня Прэзыдэнтам БЦР з захаваньнем вымогаў арт. 22) і 27) гэтага Статуту.

Арт. 45. Статут Беларускай Цэнтральнай Рады прымаецца Пленумам і набірае праўную сілу з дня яго зацьверджаньня Прэзыдэнтам Беларускай Цэнтральнай Рады.

Статут гэты прыняты згодна з арт. 22, 27 і 45 Пленумам Беларускай Цэнтральнай Рады на сэсіі 14-га Пленуму БЦР *дня 5 верасьня 1954 г.*

*Інж. Н. Мядзейка*
*Старшыня Прэзыдыюму Пленуму БЦР*
*С. Коўш*
*Сакратар Прэзыдыюму Пленуму БЦР*

Зацьверджаны*: дня 5 кастрычніка 1954 г.,*

*Праф. Р. Астроўскі*
*Прэзыдэнт БЦР*

## АСЬВЕДЧАНЬНЕ

Ад 15 ліпеня 1941 г. да 30 верасьня 1941 г. я быў кіраўніком Менскае акругі Беларусі. Арміі Савецкае Расеі былі адагнаны нямецкімі войскамі далёка на ўсход, і беларуская цывільная адміністрацыя наладжвала кіраўніцтва краю.

Пад маім кіраўніцтвам у Менскай Акруговай Управе працаваў статыстычны аддзел на чале з прафэсарам Менскага Ўнівэрсытэту. Будучы добра абазнаным зь мясцовымі дачыненьнямі, гэты прафэсар адшукваў і прыносіў мне са спаленага гораду розныя дакумэнты былых савецкіх уладаў.

Аднойчы ён прынёс мне частку парванага «зусім сакрэтнага» дакумэнту НКВД, які ён знайшоў у Доме Правительства, дзе была графа «Репрессированных по Советскому Союзу на 1 января 1941 года». У гэтай графе стаяла цыфра «32.672.484» (трыццаць два мільёны шасьцьсот семдзесят дзьве тысячы чатырыста восемдзесят чатыры). Гэту лічбу я вынатаваў сабе, бо выглядала, што за 23 гады свайго існаваньня камуністычная ўлада рэпрэсавала кожнага шостага жыхара Савецкага Саюзу.

Дакумэнт гэты быў здадзены нямецкім вайсковым уладам, якія акупавалі Беларусь у тую пару.

*Лёндан, 10 жніўня 1958. Радаслаў Астроўскі*

* * *

*Да галоўнага старшыні БСП сп. Ю. Сабалеўскага ў Менску*

Вясною 1943 года бандыты аграбілі маю сям'ю з вопраткі, абутку і запасаў ежы. Восеньню таго ж году бандыты пабілі на гаспадарцы сьвіней, у колькасьці 1-го кормнага кабана і 2 парасят. Два тыдні таму назад бандыты забралі з гаспадаркі 2 каровы і адну апошнюю карову ў аддзеленага брата, па-над гэтага выдралі і зьнішчылі ўсе пчолы. З квітнеючае калісьці гаспадаркі маёй сям'і бандыты зрабілі руіны, так што сям'я, у складзе 10 чалавек (у тым 6 душ непрацаздольных і сям'я майго старшага брата), змушаны сёньня хаваючыся пражываць у Новым Сьвержні і жыць страшэнныя недахопы і нястачы.

Вартасьць зрабаванага і зьнішчанага дабра маёй сям'і аблічваецца на сёньняшнія выніковыя цэны на 20 (дваццаць) тысяч РМ.

Тэрор над маёй сям'ёй і сям'ю майго брата вядзецца бандытамі галоўным чынам з прычыны маёй працы на адказных становішчах у БСП і Судзе. З гэтага вынікае мой сьвяты і людзкі абавязак апекавацца сям'ёю і хвіліны да

няшчасьця і гора. З пэнсіі, якую я атрымоўваю са сваёй працы, адпаведна і дастаткава я дапамагчы не магу, тым больш што маю сёньня і сваю сям'ю.

З увагі на вышэй сказанае ветліва прашу Вас сп. Галоўны Старшыня прызнаць мне дапамогу з фондаў БСП у суме 4 (чатырох) тысячаў рэйхсмарак, якія будуць прызначаны выключна на закуп жывёлы (парасят і цялушак перазімкаў) для маёй сям'і, якая бяз гэтай дапамогі загіне.

Па-над гэта зазначаю, што свайго часу Галоўны Старшыня БНС Д-р Ермачэнка прызнаў быў дапамогу для сям'і ў колькасьці 50 мэтраў палатна. Палатна гэтага я са свайго складу не атрымаў, бо яго якраз у нас не было. Прашу гэтым заапрабаваць пастанову д-ра Ермачэнкі а прызнаньні гэтай дапамогі і аб выдачы яе мне з нашага тут складу.

Да гэтага часу не зьвяртаўся з просьбаю аб дапамозе, бо ўсё думаў, што хаця і ў горы, але як-небудзь сям'я ўтрымаецца. З прычыны аднак жа апошніх грабяжоў падкошаны ўвесь быт сям'і і яна без дапамогі ніяк ня можа абысьціся.

*Акруговы Старшыня БСП у Баранавічах М. Тулейка*

*Рэзалюцыя Сабалеўскага: Пастанова БЦР выдаць ссуду 4 000 РМ з сум Цэнтралі БСП, што тычыцца вопраткі ў працягу 1 месяца ёсьць і аддзел атрымаць вопратку, у праціўным разе 1/VIII будзе закончана выдача са складаў БСП.*

## ПАСТАНОВА №1
## ПРЭЗЫДЭНТА БЕЛАРУСКАЙ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ

*Дадзена ў Менску 21 сьнежня 1943 г.*

У поўнай сьведамасьці важнасьці пераживанай хвіліны і адказнасьці перад народам і гісторыяй, з пачуцьцём шчырага жаданьня аддаць усяго сябе на службу многапакутнай маёй Бацькаўшчыны, каб супольна зь лепшымі сынамі беларускага народу вывесьці яе на шырокі шлях самастойнага і незалежнага існаваньня, я з гэтага 21 сьнежня 1943 г. абыймаю становішча Прэзыдэнта Беларускай Цэнтральнай Рады.

*Праф. Р. Астроўскі*

# ПАСТАНОВА №2
# ПРЭЗЫДЭНТА БЕЛАРУСКАЙ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ

*г. Менск, 15 студзеня 1944 г.*

У пастанове сваёй з дня 21.XII.43 я выказаў шчырае жаданьне вывесьці сваю бацькаўшчыну Беларусь на шырокі шлях самастойнага і незалежнага існаваньня.

Прымаючы пад увагу, што рэалізацыя пастаўленага заданьня вымагае супольнага дружнага высілку ўсіх лепшых сыноў беларускага народу, я паклікаю сяброў Беларускай Цэнтральнай Рады наступных асобаў:

1. Шкялёнка Мікалая
2. Сабалеўскага Юрыя
3. Кушаля Франца
4. Кандыбовіча Сямёна
5. Сьвірыда Паўла
6. Селяха Вячаслава
7. Калубовіча Аўгена
8. Грынкевіча Станіслава
9. Родзьку Ўсевалада
10. Астроўскага Міхаіла
11. Буляка Мікалая
12. Орсу Пятра
13. Стаськевіча Сьцяпана
14. Калядку Сьцяпана

Сядзібаю Беларускай Цэнтральнай Рады і ўсяго яе кіраўніцтва зьяўляецца сталічны горад Беларусі Менск.

*Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады Радаслаў Астроўскі*

# ПАСТАНОВА №3
# ПРЭЗЫДЭНТА БЕЛАРУСКАЙ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ

*г. Менск, 24 студзеня 1944 г.*

Прысутнічаюць усе сябры Рады на чале з Прэзыдэнтам Рады праф. Астроўскім.

§1

На прапанову Прэзыдэнта Рады вызначаецца Прэзыдыюм Рады ў наступным складзе: Прэзыдэнт Рады праф. Астроўскі Р. і (сябры) сп. Шкялёнак М., Сабалеўскі Ю., Кушэль Ф., Родзька Ў. і Кандыбовіч С.

Прызначаюцца: першым віцэ-прэзыдэнтам сп. Шкялёнак М.,
другім віцэ-прэзыдэнтам сп. Сабалеўскі Ю.

§2

Для ахопу ўсіх галін працы на бягучы пэрыяд арганізуюцца пры Беларускай Цэнтральнай Радзе наступныя аддзелы:

1. Аддзел асьветы, навукі і культуры з пададдзеламі: школьным, культуры, мастацтва і навукі
2. Прапаганды і прэсы
3. Сацыяльнага забесьпячэньня
4. Фінансавы
5. Кантролю (Кантрольная Палата)
6. Моладзі
7. Веравызнаньня
8. Агульна-адміністрацыйны
9. Гаспадарчы
10. Праектаў
11. Краёвай Абароны (галоўны)
12. Бюро нацыянальнасьцяў.

У акругі прызначаюцца сталыя намесьнікі Беларускай Цэнтральнай Рады, якія праводзяць працу ў адпаведнасьці з асабовымі паказаньнямі Рады.

§3

Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады непасрэдна кіруе Аддзелам асьветы, навукі і культуры і ажыцьцяўляе нагляд і агульнае кіраўніцтва аддзеламі: Веравызнаньня, Краёвай Абароны і Бюро нацыянальнасьцяў.

Першы Віцэ-прэзыдэнт непасрэдна кіруе Аддзелам прапаганды і прэсы і ажыцьцяўляе нагляд за працай Аддзелу Праектаў.

Другі Віцэ-прэзыдэнт непасрэдна кіруе Аддзелам Сацыяльнага Забесьпячэньня.

Сябра Прэзыдыюму Кандыбовіч кіруе Аддзелам агульна-адміністрацыйным і ажыцьцяўляе нагляд і агульнае кіраўніцтва Аддзеламі Фінансавым і Гаспадарчым.

Сябра Прэзыдыюму Ў. Родзька непасрэдна кіруе Аддзелам Моладзі.

Сябра Прэзыдыюму Кушэль непасрэдна кіруе Аддзелам Краёвай Абароны.

§4

Загадчыкамі аддзелаў Беларускай Цэнтральнай Рады прызначаюцца:

1. Аддзел асьветы, навукі і культуры Прэзыдэнт Астроўскі Р.
2. Пададдзелам Навукі — сп. Кіпель
3. Культуры і мастацтва — сп. Калубовіч А.
4. Школьным — сп. Скурат
5. Аддзелам прапаганды і прэсы — Шкялёнак М.
6. Сацыяльнага забесьпячэньня — сп. Сабалеўскі
7. Фінансавым — сп. Астроўскі М.
8. Кантролю (Кантрольная Палата) — вакансія
9. Моладзі — сп. Родзька Ўсевалад
10. Веравызнаньня — вакансія
11. Агульна-адміністрацыйным — сп. Кандыбовіч
12. Гаспадарчым — сп. Барташэвіч Г.
13. Праектаў — сп. Сьвірыд П.
14. Начальнік Краёвай Абароны — маёр Кушаль Ф.
15. Бюро нацыянальнасьцяў — вакансія.

Існуючыя беларускія арганізацыі падлягаюць апецы і кантролю наступных аддзелаў Беларускай Цэнтральнай Рады:

1. Саюз беларускай моладзі — Аддзелу моладзі
2. Культурнае згуртаваньне — Аддзелу культуры
3. Беларускае Навуковае Таварыства — Аддзелу Навукі

4. Самапомач, прафсаюзы і Каса хворых — Сацыяльнаму Аддзелу

Прызначыць у Аддзел праектаў сябру сп. Орсу Пятра для распрацоўкі зямельных пытаньняў, Стаськевіч Сьцяпана — для распрацоўкі пытаньняў прафэсіянальнай асьветы і сп. Калядка Сьцяпана — па прафэсіянальнаму руху.

§5

Рада абавязвае загадчыкаў усіх аддзелаў да 15 красавіка г.г. распрацаваць і падаць на разгляд і зацьверджаньне Рады агульныя палажэньні аб аддзелах.

*Р. Астроўскі*
*Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады*

## ЗАГАД № 5
## ПРЭЗЫДЭНТА БЕЛАРУСКАЙ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ, МЕНСК, ДНЯ 7 ЛЮТАГА 1944 Г.

На становішча Акруговых Намесьнікаў Беларускай Цэнтральнай Рады вызначаю наступных асобаў:

1) на Баранавіцкую акругу зь сядзібай у г. Баранавічах — д-р Станкевіч Станіслаў

2) на Слонімскую акругу зь сядзібай у г. Слоніме — Аўдзей Аляксандар

3) на Наваградзкую акругу зь сядзібай у Наваградку — Рагуля Барыс.

Вышэйпамянёныя намесьнікі БЦР вызначаюцца на свае становішчы ад дня 8 лютага 1944 г. і з моманту атрыманьня назначэньняў абавязаны прыступіць да выконваньня сваіх абавязкаў.

*Р. Астроўскі, прэзыдэнт*

# ПАСТАНОВА № 5
# БЕЛАРУСКАЙ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ,
# МЕНСК, ДНЯ 25 ЛЮТАГА 1944 Г.

Аб прызначэньні акруговых начальнікаў Беларускай Краёвай Абароны.

Згодна з прадстаўленьнем Начальніка Галоўнага Кіраўніцтва Беларускай Краёвай Абароны маёра Кушаля Ф., зацьвердзіць наступны склад акруговых начальнікаў (Беларускай) Краёвай Абароны:

1. Менская акруга — капітана Пугачова Міхася
2. Наваградзкая — старшага лейтэнанта Рагулю Барыса
3. Слуцкая — капітана Шнэка Сьцяпана
4. Баранавіцкая — лейтэнанта Русака Ўладзіміра
5. Глыбоцкая — лейтэнанта Зыбайлу Рыгора
6. Слонімская — старшага лейтэнанта Дакіневіча Язэпа
7. Вялейская — ч.в.аб. начальніка — лейтэнанта Бабіча Якуба.

*Р. Астроўскі, Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады*

* * *

*Вышэйшы СС і Паліцэйфюрэр Цэнтральнай Расіі і Беларусі МП*
*23.ІІ.1944*
*Толькі для службовага карыстаньня*

Адносна: Утварэньня Беларускай Краёвай Абароны

1. На прапанову Прэзыдэнта БЦР ад 18.ІІ.1944 загадваю ўтварэньне БКА для барацьбы супраць бальшавізму.

2. Утварэньне БКА праводзіць паступова крок за крокам па ўсіх Акругах Генэральнага Абшару Беларусь за выняткам акругі СС Паліцэйфюрэра Прыпяці і Акругі Ліда. Ва ўжо ўтвораных ці меркаваных абаронных вёсках мабілізацыя не праводзіцца. Далей выключаюцца ад мабілізацыі:

У Менскай акрузе — раёны Узда і Івянец;

У Вялейскай акрузе — раёны Валожын і Мядзел;

У Глыбоцкай акрузе — раён Браслаў;

У Слонімскай акрузе — Казлоўшчына і разьмешчаная на ўсход ад Шчары частка Дзярэчынскага раёна;

У Наваградзкай акрузе — знаходзячаяся на захад ад Моўчадзі частка Дзятлаўскага раёну.

3. БЦР праводзіць праз сваіх акруговых намесьнікаў найсамперш мабілізацыю ўсіх былых афіцэраў ва ўзросьце да 55 гадоў, якія не знаходзяцца на кіруючых становішчах, ці не працуюць як спэцыялістыя ў нямецкіх установах.

Аб вызваленьні ад службы вырашае акруговы камісар у паразуменьні з акруговым камэндантам паліцыі.

4. Для набору мабілізаваных афіцэраў і падафіцэраў у кожнай акрузе ўводзяцца прыймовыя камісіі ў складзе:

а) намесьніка БЦР — як старшыні;

б) вызначанага Прэзыдэнтам БЦР афіцэра (акруговага афіцэра);

в) аднаго павятовага старшыні гэтай акругі або старшыні Акруговага гораду;

д) двух лекараў.

5. Намесьнік цераз акруговага камэнданта паліцыі перадае фюрэру СС і Паліцыі і БЦР колькасьць мабілізаваных афіцэраў і падафіцэраў. БЦР паведамляе акруговым камэндантам Паліцыі цераз намесьнікаў, колькі афіцэраў і падафіцэраў і дзе затрымаць дзеля вышкалу радавых і колькі накіраваць неадкладна дзеля вышкалу ў Менск.

6. Намесьнік са згодаю акруговага камэнданта Паліцыі прыдзяляе затрыманых у акрузе афіцэраў і падафіцэраў павятовым прыймовым камісіям, вызначаючы адначасова павятовага афіцэра.

7. Афіцэры і падафіцэры, прызначаныя для праводжаньня мабілізацыі, праходзяць спэцыяльны інструктаж у акруговым цэнтры пад кіраўніцтвам намесьніка.

8. Падрыхтоўку да мабілізацыі праводзіць намесьнік павятовых старшыняў.

Мабілізацыя пачынаецца ў 3 дні пасьля заканчэньня інструктажу афіцэраў і падафіцэраў і абымае годнікі 1908 да 1917 і 1921 да 1924 [Годнікі 1925, 1926, 1927 мабілізуюцца ў СБМ. Дата мабілізацыі апошніх 3-х гадавікоў будзе пададзена пасьля].

9. Для мабілізацыі радавых творацца ў паветах прыймовыя камісіі ў складзе:

а) павятовага старшыні, як старшыні камісіі,

б) павятовага афіцэра (пункт 6),

в) аднаго іншага афіцэра;

г) двух лекараў.

10. З кожнага раёну, паводле выдадзеных БЦР інструкцыяў, будзе паклікана каля 500 чалавек, аб якіх начальнік раёну складае сьпіс з кароткай апініяй аб палітычнай надзейнасьці кожнай асобы.

11. Вышкаленьне радавых пачаць зараз жа ў раённым цэнтры пад адказным кіраўніцтвам камандзіра афіцэра і акруговага афіцэра. Вышкаленьне знаходзіцца пад наглядам акруговага камэнданта паліцыі.

12. Пасланыя ў Менск афіцэры і падафіцэры павінны прайсьці трохтыднёвыя курсы вышкалу, лік курсантаў не павінен перавышаць 50 афіцэраў і 250 падафіцэраў. Расквартараваньне мае быць у Паўночных казармах. Вайсковы і тэхназброявы вышкал праводзіць СС — паліцэйфюрэр Беларусі, палітычны вышкал — БЦР у паразуменьні з капітанам «шутцпаліцыі» Кумэрам. Як афіцэр вышкалу прадстаўляецца ў распараджэньне СС і Паліцэйфюрэр Беларусі капітан шутц-паліцыі Шнайдэр, Нахкаманда СС — Паліцай, Рэгімэнт 2 [полк].

13. Скіраваныя ў Менск афіцэры і падафіцэры атрымліваюць дакумэнты на выезд ад намесьніка акруговага камэнданта паліцыі, перад ад’ездам яны павінны прайсьці санпрацоўку. Іх суправаджае нямецкі праваднік. Пасьля заканчэньня першага курсу склікаецца другі курс і г. д., пакуль усе афіцэры ня пройдуць вышкалу.

14. Удзельнікі курсаў атрымліваюць зброю ад аддзелу 1 Bad Вышэйшага СС і Паліцэйфюрэра Цэнтральнае Расеі і Беларусі, сьцягнутыя ў раённыя цэнтры радавыя праз акруговага камэнданта паліцыі ў паразуменьні з аддзелам 1 b.

15. Па сканчэньні вышкалу афіцэры і падафіцэры разьмяркоўваюцца па раёнах і прымаюць ад павятовага афіцэра ўтвораныя аддзелы. Пасьля вышкалу раней прызначаны павятовы афіцэр прымае ўзноў свой аддзел.

16. Удзельнікаў курсаў прымае СС і Паліцэйфюрэр Беларусі на час курсаў на ваеннае харчаваньне. Харчаваньне аддзелаў праводзіць начальнік раёну ў паразуменьні з акруговым камэндантам.

17. Афіцэры і падафіцэры застаюцца ў цывільнай вопратцы, але дзеля адзнакі атрымліваюць запраектаваныя Цэнтральнай Радай пагоны.

18. СС і Паліцэйфюрэр Беларусі да дня 29.II.44 падае плян вышкалу ў паразуменьні з БЦР на працягу 3-х тыдняў.

*Падпісаў Курт фон Готбэрг,*
*СС Групэнфюрэр і Генэрал-лейтэнант Паліцыі*

# МАБІЛІЗАЦЫЙНЫ ЗАГАД У БЕЛАРУСКУЮ КРАЁВУЮ АБАРОНУ

Для поўнай ліквідацыі бальшавіцкіх бандаў, якія рабуюць і нішчуць наш край, забіваюць нявіннае жыхарства і адбіраюць яго майно — на аснове 2-га артыкулу статуту Беларускай Цэнтральнай Рады загадваю:

1. Арганізаваць Беларускую Краёвую Абарону для абароны нашай Бацькаўшчыны Беларусі.

2. На дзень 7 сакавіка 1944 г. паклікаць Краёвую Абарону ўсіх афіцэраў і падафіцэраў былых арміяў: царскай расейскай, польскай і савецкай, як і добраахвотніцкіх з 1918–1920 гг. і іншых у акругах: Менскай, Слуцкай, Баранавіцкай, Слонімскай, Вялейскай, Глыбоцкай і Наваградзкай. Гэтаму пакліканьню падлягаюць афіцэры ў веку да 57 гадоў і ўсе падафіцэры ў веку да 55 гадоў.

3. Адначасна паклікаць на службу ў Беларускай Краёвай абароне ўсіх мужчын, народжаных у гадох: 1908, 1909, 1910, 1911, 1912, 1913, 1914, 1915, 1916, 1917, 1922, 1922, 1923 і 1924, вызначаючы пакліканьне іх у акругах, пералічаных у п. 2 на дзень 10 сакавіка 1944 г.

4. Пакліканьне ў акругах выканаюць Намесьнікі Беларускай Цэнтральнай Рады, Акруговыя Начальнікі Беларускай Краёвай Абароны і Старшыні паветаў.

5. Не пазьней, як праз 3 гадзіны пасьля абвешчаньня гэтага загаду, кожная асоба, падлягаючая пакліканьню, павінна скіравацца на зборны пункт у воласьці, вызначаны Старшынёй воласьці, адкуль яна будзе скіравана ў паветавы цэнтар для мэдычнага агляду.

Належыць узяць з сабой:

Вопратку і абутак у добрым стане,

3 пары бялізны, прылады для ежы і мыцьця (лыжка, ручнік), асабістыя рэчы.

6. Тыя, хто па атрыманьні гэтага загаду ня зьявяцца ў вызначаным часе і месцы, будуць уважацца за здраднікаў і будуць асуджаныя адумысловым судом на кару сьмерці.

7. Я, як Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады, буду асабіста наглядаць за арганізацыяй і пакліканьнем у Беларускую Краёвую Абарону. Ад імя

Беларускай Цэнтральнай Рады я ўскладаю кіраўніцтва справамі пакліканьня на маёра Ф. Кушаля.

Я ўпэўнены, што кожны беларус выканае свой абавязак у справе хуткага ачышчэньня нашай бацькаўшчыны ад бальшавіцкіх бандаў, пасьля чаго асобы, пакліканыя гэтым загадам, змогуць вярнуцца да мірнай працы на гаспадарках, фабрыках і заводах.

*Менск, 6 сакавіка 1944 г.*
*Р. Астроўскі — Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады*

## ТЭКСТ ПРЫСЯГІ ЖАЎНЕРА БКА

Я, жаўнер Беларускай Краёвай Абароны, прысягаю на Ўсемагутнага Бога і жаўнерскі гонар, што буду верна служыць свайму Беларускаму Народу, сумленна і прыкладна выконваць усе загады сваіх камандзіраў і начальнікаў.

Я прысягаю, што ня выпушчу з рук зброі да тых пор, пакуль ня будзе ўстаноўлены поўны спакой і бясьпека ў нашых сёлах і гарадах, пакуль ня будзе зьнішчаны на нашай зямлі апошні вораг Беларускага Народу.

Я прысягаю, што хутчэй аддам сваё жыццё, чымся дапушчу, каб мая жонка і дзеці, бацькі і сёстры, браты і ўвесь Беларускі Народ зноў цярпелі бальшавіцкі зьдзек і няволю.

Калі ж з свае слабасьці ці злога намеру я парушу гэтую прысягу, то няхай пакарае мяне Бог ганебнай сьмерцю здрадніка свайго Народу і Бацькаўшчыны.

* * *

*[Без даты]*
*Спадару інжынэру Абрамчыку*
*Парыж*

Да мяне дайшло многа інфармацый аб тым, што ў сувязі з ваеннымі падзеямі на тэрыторыі Францыі, асабліва Парыжу, ёсьць многа беларусаў, якія апынуліся ў цяжкіх матэрыяльных абставінах.

Беларуская Самапомач у Менску ня можа ні ўдзяліць ім дапамогі па прычынах і неабходна мець уласную арганізацыю «Самапомачы» на Францыю.

Ветліва прашу паклапаціцца аб адкрыцьці і залегалізаваньні «Самапомачы» і паведаміць нас аб пэрсанальным складзе і адрасе. На выдачу дапамогі ў абставінах вылучна неадкладных і неабходных высылаю Вам

падсправаздачна 4000 РМ у атрыманьні прашу паведаміць нас — Менск, Цэнтраля БСП, Садовая, 13 (б. Камсамольская).

Пры гэтым далучаецца наш статут у нямецкай і беларускай мове.

*Віцэ-прэзыдэнт Сабалеўскі*

## ПАСТАНОВА №21 БЕЛАРУСКАЙ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ

*5 красавіка 1944 г.*

### ПАЛАЖЭНЬНЕ

### Аб афіцэрскіх рангах Беларускай Краёвай Абароны

1. У Беларускай Краёвай Абароне ўстанаўліваюцца наступныя афіцэрскія рангі:

а) лейтэнант
б) старшы лейтэнант
в) капітан
г) маёр
д) падпалкоўнік
е) палкоўнік

2. Афіцэрскія рангі надае Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады па прадстаўленьні Начальніка Галоўнага Кіраўніцтва Беларускай Краёвай Абароны.

3. За афіцэрамі царскай, польскай, савецкай і іншых арміяў захоўваюцца іх рангі. Доказам дзеля захаваньня ранга зьяўляюцца атэстаты аб сканчэньні афіцэрскіх рангаў або загады аб наданьні ранга за выключную баявую адвагу. У выключных выпадках пры адсутнасьці адпаведных дакумэнтаў прыналежнасьць да афіцэрскага ранга можа быць пасьветчаньне двух, заслугоўваючых даверу сьветак (вайскоўцаў).

Падцьвержаньне афіцэрскіх рангаў праводзіцца пастановай Прэзыдэнта Беларускай Цэнтральнай Рады.

4. За выключную баявую адвагу на полі бою па прадстаўленьні Начальніка Галоўнага Кіраўніцтва Краёвай Абароны Прэзыдэнтам Беларускай Цэнтральнай Рады могуць быць наданы афіцэрскія рангі падафіцэрам.

5. Афіцэры, непрайшоўшыя ніжэйшых рангаў, ня могуць быць прадстаўлены для наданьня ім вышэйшых афіцэрскіх рангаў.

6. Да канчатковага ўстанаўленьня афіцэрскіх рангаў у Беларускай Краёвай Абароне неабходна карыстацца назвамі згодна займаных пасад (камандзір батальёну, роты і г. д.).

*Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады Радаслаў Астроўскі*

## Аб утварэньні афіцэрскіх і падафіцэрскіх школаў Беларускай Краёвай Абароны

I.

1. Для падрыхтоўкі афіцэрскага пэрсаналу ўтвараюцца афіцэрскія школы Беларускай Краёвай Абароны.

2. У афіцэрскую школу прымаюцца асобы, годныя дзеля нясеньня вайсковай службы і маючыя не ніжэй чым сярэднюю асьвету.

3. Як выключэньне ў афіцэрскую школу могуць быць прыняты падафіцэры, якія выказалі выключную адвагу на полі бою і маюць вайсковыя ўзнагароды.

4. Пасьпяхова скончыўшым афіцэрскую школу пастановай Прэзыдэнта Беларускай Цэнтральнай Рады надаецца ранг лейтэнанта.

II.

1. Для падрыхтоўкі падафіцэраў Беларускай Краёвай Абароны ў акругах утвараюцца падафіцэрскія школы.

2. У падафіцэрскую школу залічваюцца жаўнеры Беларускай Краёвай Абароны, маючыя асьвету не ніжэй чатырохкляснай пачатковай школы, палітычна сьвядомыя і маральна вытрыманыя беларусы.

3. Як выключэньне ў падафіцэрскую школу могуць быць залічаныя жаўнеры, якія выказалі баявую адвагу і вайсковую здольнасьць.

4. Пасьпяхова скончыўшым падафіцэрскую школу загадам Акруговага Начальніка Беларускай Краёвай Абароны надаецца ранг падафіцэра Беларускай Краёвай Абароны.

*Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады Радаслаў Астроўскі*

# СТАТУТ БЕЛАРУСКАГА КУЛЬТУРНАГА ЗГУРТАВАНЬНЯ

§1

НАЗОЎ ЗГУРТАВАНЬНЯ

Згуртаваньне мае назоў «Беларускае Культурнае Згуртаваньне» — у скарочаньні БКЗ.

§2

МЭТА ЗГУРТАВАНЬНЯ

Беларускае Культурнае Згуртаваньне створана з мэтаю арганізацыі найбольш інтэнсіўнага разьвіцьця і пашырэньня сярод насельніцтва Беларусі нацыянальнае беларускае культуры і набліжэньня яе да эўрапейскага культурнага сьветагляду.

§3

КАМПЭТЭНЦЫІ ЗГУРТАВАНЬНЯ

Дзеля выкананьня заданьняў, паказаных у пар. 2 гэтага Статуту, Беларускае Культурнае Згуртаваньне гуртуе вакол сябе ў форме сяброўства ўсе творчыя беларускія культурныя сілы (паэтаў, пісьменьнікаў, кампазытараў, маляроў, скульптараў, рэжысэраў, актораў і г. д.) і пераймае ў свае рукі кіраўніцтва ўсімі беларускімі культурнымі ўстановамі (тэатрамі, народнымі дамамі, бібліятэкамі, музэямі і г. д.)

Беларускае Культурнае Згуртаваньне мае права арганізоўваць і адчыняць на тэрыторыі Генэральнага абшару Беларусі новыя культурныя ўстановы (тэатры, народныя дамы, бібліятэкі, музэі і г. д.)

§4

СЯБРОЎСТВА ЗГУРТАВАНЬНЯ

Сяброўства Беларускага Культурнага Згуртаваньня можа быць індывідуальнае і карпаратыўнае.

Індывідуальным сябрам Згуртаваньня можа быць кажны, хто ў той ці іншы спосаб творча працуе ў кірунку разьвіцьця і пашырэньня нацыянальнае беларускае культуры. Карпаратыўны сябра — цэлая воласьць або горад.

§5
БЮДЖЭТ ЗГУРТАВАНЬНЯ

Беларускае Культурнае Згуртаваньне мае свой собскі бюджэт, які складаецца як зь сяброўскіх складак, індывідуальных і карпарацыйных сяброў Згуртаваньня, прыбыткаў ад розных культурных імпрэзаў і собскае выдавецкае дзейнасьці, гэтак і з датацый БЦР.

§6
АРГАНІЗАЦЫЙНАЯ СТРУКТУРА ЗГУРТАВАНЬНЯ

Адпаведнай арганізацыйнай структурай Беларускага Культурнага Згуртаваньня ў Генэральным Абшары Беларусі ёсьць Згуртаваньне, ахопленае ў Цэнтральнае, акруговае і паветавыя культурныя згуртаваньні.

§7
УРАД ЗГУРТАВАНЬНЯ

Беларускае Культурнае Згуртаваньне знаходзіцца пад кіраўніцтвам Старшыні, які падлягае Прэзыдэнту Беларускай Цэнтральнай Рады, Старшыня Згуртаваньня стала належыць да Беларускае Цэнтральнае Рады.

Цэнтральны ўрад Беларускага Культурнага Згуртаваньня мае 5 наступных фаховых аддзелаў:

а) аддзел літаратуры,
б) — музыкі,
в) прафэсійнага мастацтва,
г) музэяў і краязнаўства,
д) прапаганды беларускай культуры.

На чале кажнага фаховага аддзелу стаіць ягоны кіраўнік.

Кіраўнікі фаховых аддзелаў і рэдактар літаратурна-мастацкага часапісу «Узвышша» твораць Цэнтральны ўрад Згуртаваньня.

Становішча Старшыні, кіраўнікоў фаховых аддзелаў Цэнтральнага Ўраду акруговых паветавых кіраўнікоў Згуртаваньня могуць займаць толькі Беларусы.

Старшыню Беларускага Культурнага Згуртаваньня вызначае і адклікае Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады.

Кіраўнікоў фаховых аддзелаў Цэнтральнага Ўраду і акруговых кіраўнікоў Згуртаваньня вызначае і адклікае на прапанову Старшыні Згуртаваньня Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады. Паветавых кіраўнікоў згуртаваньня на прапанову акруговых кіраўнікоў вызначае і адклікае Старшыня Згуртаваньня.

§8

РАСПАРАДЖЭНЬНІ СТАРШЫНІ ЗГУРТАВАНЬНЯ

Старшыня Беларускага Культурнага Згуртаваньня выдае ў паразуменьні з Прэзыдэнтам Беларускае Цэнтральнае Рады неабходныя дзеля выкананьня заданьняў распараджэньні і інструкцыі.

§9

БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРНАЕ ЗГУРТАВАНЬНЕ ЗЬЯЎЛЯЕЦЦА ПРАЎНАЙ АСОБАЙ

§10

СПРАВАЗДАТНЫ ГОД БЕЛАРУСКАГА КУЛЬТУРНАГА ЗГУРТАВАНЬНЯ ТРЫВАЕ З 1 СТУДЗЕНЯ ДА 31-ГА СЬНЕЖНЯ.

З арыгіналам згодна

*Старшыня БКЗ А. Калубовіч*
*5 сакавіка 1944*

## ІНСТРУКЦЫЯ АБ НАДАНЬНІ РАНГАЎ У БКА

У Беларускай Краёвай Абароне могуць служыць тыя афіцэры ці падафіцэры, якія апрача адданасьці беларускай справе выказваюцца як заўзятыя ворагі бальшавізму.

I.

1. У Беларускай Краёвай Абароне ўстанаўліваюцца наступныя чыны:

лейтэнант
старшы лейтэнант
капітан
маёр
падпалкоўнік

2. Афіцэрскія рангі падае Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады ў паразуменьні з вышэйшым СС і Паліцэйфюрэрам Сярэдняй Расеі і Беларусі на прапанову Акруговых Начальнікаў. Афіцэры, якія ўжо маюць рангі ў арміях: польскай, царскай, савецкай ці добраахвотніцкай Беларусі затрымоўваюць іх з тым, аднак што па прадстаўленьні доказаў праводзяцца загадам Прэзыдэнта.

3. Усе падхаронжыя быўшай польскай арміі атрымоўваюць рангу лейтэнанта.

4. Доказам атрыманай рангі ў быўшых арміях можа быць атэстат сканчэньня афіцэрскай школы ці дыплём узвышаючы ў адпаведную афіцэрскую рангу. У вынятковых выпадках прадставіць пасьведчаньне 2-х заслугоўваючых на давер сьведкаў.

5. Да часу наданьня рангаў паслугоўвацца назовамі залежна ад выкрываемай функцыі, напрыклад: камандзір зьвязу, камандзір роты і г. д.

6. Для пабольшаньня афіцэрскага пэрсаналу будуць утвораныя афіцэрскія школы. Афіцэрам можа быць жаўнер, адказваючы наступным умовам:

а) закончаная сярэдняя асьвета

б) закончаная афіцэрская школа

в) адданы беларускай справе

г) быць бяз закіду пад поглядам маральным

7. У выняткам парадку можа быць надана ранга жаўнерам не адказваючым умовам пунктаў а і б, але выказаўшыхся адвагаю і выдатнымі здольнасьцямі камандзіра на полі бою.

II.

8. У Беларускай Краёвай Абароне ўстанаўліваецца наступныя падафіцэрскія рангі:

а) дружыновы

б) зьвязовы.

9. Прызнаньне раней набытых падафіцэрскіх рангаў у Беларускай ці чужацкай арміях будзе праведзена загадам Акруговага Начальніка БКА і Гэбітскамэнданта па прадстаўленьні адпаведных дакумантаў. Кадравыя падафіцэры быўшых арміяў будуць узвышаныя на адну рангу.

10. Узвышае і надае падафіцэрскі чын Акруговы Начальнік у паразуменьні з Гэбітскамэндантам на прапанову павятовага Камандзіра БКА.

11. Для забесьпячэньня патрэбнага прыросту падафіцэрскага пэрсаналу будуць утвораныя падафіцэрскія школы. Падафіцэрам можа быць жаўнер, адказваючы наступным умовам:

а) скончыць падафіцэрскую школу,

б) агульныя асьвету ня ніжэй 4-х кляс пачатковай школы,

в) палітычна надзейным,

г) быць бяз закіду пад поглядам маральна-дысцыплінарным.

12. Падафіцэрам можа быць жаўнер не адказваючы 2-м першым умовам, але адзначыўшыся на полю бою

III.

13. Стральцы БКА дзеляцца на стральцоў і старшых стральцоў. Ступень старшага стральца надае камандзір роты. Старшым стральцом можа быць жаўнер, які сумленна выконвае службовыя абавязкі і надаецца на Камандзіра дружыны.

*Шэф аддзелу Беларускай Краёвай Абароны*
*Менск, дня 5.III.1944*

## ПАЛАЖЭНЬНЕ АБ ПАДАФІЦЭРСКІХ СЛУЖБОВЫХ СТУПЕНЯХ БЕЛАРУСКАЙ КРАЁВАЙ АБАРОНЫ

1. У Беларускай Краёвай Абароне ўстанаўліваюцца наступныя падафіцэрскія ступені:

а) дружынны, б) зьвязны, в) старшыня, г) сьцяжны

2. Першая ступень дружыннага надаецца па сканчэньні падафіцэрскай школы.

3. За падафіцэрамі царскай, савецкай, польскай і іншых арміяў захоўваюцца іх былыя ступені пры наяўнасьці адпаведных дакумантаў, сьцьвярджаючых падафіцэрскую ступень.

4. За выдатнае нясеньне службы, а таксама за баявую адвагу загадам Акруговага Начальніка Беларускай Краёвай Абароны падафіцэры падвышаюцца ў ступенях.

5. Падафіцэры, не прайшоўшыя ніжэйшых ступеняў, ня могуць быць прадстаўленыя да наданьня вышэйшых ступеняў.

6. Стральцам пяхоты, якія добрасумленна выконваюць жаўнерскія абавязкі, загадам камандзіра роты надаецца ступень старшага стральца.

## ПРАТАКОЛ №1 ПАСЕДЖАНЬНЯ ПРЭЗЫДЫЮМУ БЕЛАРУСКАЙ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ, Г. МЕНСК, 20 КРАСАВІКА 1944 Г.

Прысутнічалі: сп. Прэзыдэнт Астроўскі Р., сябры: спсп. Сабалеўскі Ю., маёр Кушэль Ф., Кандыбовіч С., Родзька Ў., Калубовіч А.; загадчыкі аддзелаў: спсп. Барташэвіч, Кіпель, Будзіловіч, Скурат, намесьнік БЦР па Баранавіцкай акрузе др. Станкевіч і Баранавіцкі акруговы начальнік БКА — Русак У.

Слухалі — пастанавілі

1. Прыняцьце прывітальнай тэлеграмы Правадыру Нямеччыны Адольфу Гітлеру ў сувязі з 55 гадавінай з дня нараджэньня.

2. Аб складаньні буджэту Беларускай Цэнтральнай Рады.

Даручыць усім Загадчыкам аддзелаў БЦР распрацаваць праекты буджэтаў па сваіх галінах і непазьней 25 красавіка гг. прадставіць на разгляд Фінансавага аддзелу БЦР.

Інструктаж па складаньню праекту буджэту атрымаць у сябры Рады сп. Кандыбовіча і загадчыка фінансавага аддзелу сп. Астроўскага М.

3. Аб прадстаўленьні агульных палажэньняў аб аддзелах БЦР.

Пацьвердзіць аб неадкладным прадстаўленьні ўсімі аддзеламі БЦР палажэньняў аб сваіх аддзелах.

*Р. Астроўскі*
*Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады*

## ПРАТАКОЛ №2 ПАСЕДЖАНЬНЯ ПРЭЗЫДЫЮМУ БЕЛАРУСКАЙ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ, Г. МЕНСК, 22 КРАСАВІКА 1944 Г.

Прысутнічалі: прэзыдэнт Рады сп. Астроўскі, віцэ-прэзыдэнт сп. Сабалеўскі, сябры Прэзыдыюму: маёр Кушэль, Родзька і Кандыбовіч.

Абвестка дня:

Інфармацыя намесьніка Рады сп. Касяка аб становішчы Краёвай Абароны ў Глыбоцкай Акрузе.

*Арганізацыйныя пытаньні:*

І. Заслухаўшы інфармацыю сп. Касяка пастанавілі:

1. Абавязаць сп. Касяка прыняць усе неабходныя крокі дзеля ўзмацненьня палітычна-выхаваўчай працы ў батальёнах, шляхам пастаноўкі добра падрыхтаваных дакладаў на актуальныя тэмы.

2. Асьветным афіцэрам навесьці працу дзеля стварэньня палітычна надзейнага актыву ў ротах і батальёнах.

3. Прыняць усе захады на мясцох па дапамозе сем'ям мабілізаваных шляхам прымацаваньня рабочай сілы ў часе палявых работ.

II. Арганізацыйныя пытаньні (даклад сп. Родзькі)

1. Паседжаньні Прэзыдыюму Беларускай Цэнтральнай Рады адбываюцца ў аўторкі і пятніцы з 8 да 10 гадзіны штотыдня.

2. Паседжаньні Пленуму Рады ў ліку другіх пытаньняў абавязкава ставіць на абгаварэньне па чарзе даклады загадчыкаў аддзелаў аб рабоце.

3. На паседжаньні Пленуму Рады маюць прысутнічаць, апрача сяброў Рады, загадчыкі аддзелаў і Акруговыя Намесьнікі Рады, іншыя асобы маюць права прысутнічаць на паседжаньні па выкліку Рады альбо з дазволу Старшыні паседжаньня.

4. На паседжаньні Прэзыдыюму Рады могуць прысутнічаць апрача сяброў Прэзыдыюму другія асобы толькі з дазволу Старшыні паседжаньня.

5. Ускласьці на Віцэ-прэзыдэнта сп. Сабалеўскага нагляд і дзейны кантроль за выкананьнем Акруговымі Намесьніцтвамі Рады пастаноў, распараджэньняў і іншых даручэньняў Беларускай Цэнтральнай Рады.

6. Даручыць Агульна-Адміністрацыйнаму Аддзелу распрацаваць парадак кантролю за своечасовым прыходам і выхадам з працы ўсіх супрацоўнікаў Рады.

7. Даручыць сп. Родзька штодзённа з 10 да 12 гадзін праводзіць папярэдні прыём наведвальнікаў да Прэзыдэнта Беларускай Цэнтральнай Рады.

8. Даручыць Загадчыку Гаспадарчага Аддзелу сп. Барташэвічу прадставіць на зацьверджаньне Прэзыдыюму Рады 28 красавіка праект разьмеркаваньня пакояў паміж аддзеламі Рады.

9. Устанавіць наступны парадак карыстаньня легкавымі аўтамашынамі Рады:

а) да пачатку заняткаў у 7 гадз. 45 хвілін штодзённага абедзьве аўтамашыны павінны зьяўляцца к дому №12 па Варшаўскай вуліцы і прывозіць на працу сп.сп. маёра Кушэля, Родзьку, Калубовіча, Будзіловіча і Арэхву.

б) па службовых справах аўтамашынай маюць права карыстацца сябры Рады і загадчыкі аддзелаў. Заяўкі на паездку па службовых справах павін-

ны быць паданы загадзя Сакратару Прэзыдэнта сп. Р. Евец з паказаньнем дакладна часу паездкі і тэрміну карыстаньня аўтамашынай.

10. Сакратаром Прэзыдыюму Рады прызначыць сп. Каракульку.

*Р. Астроўскі*
*Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады*

## ПРАТАКОЛ №4 ПАСЯДЖЭНЬНЯ БЕЛАРУСКАЙ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ

Прысутнічалі: Прэзыдэнт Рады сп. Астроўскі, віцэ-прэзыдэнт сп. Сабалеўскі, сябры Рады сп.сп. Кушэль, Калубовіч, Родзька, Селях, Кандыбовіч.

Абвестка дня:

Аб 25-гадовым юбілею Віленскай Беларускай Гімназіі.

Заслухаўшы даклад Прэзыдэнта Рады сп. Астроўскага аб 25-гадовым юбілею Віленскай Беларускай Гімназіі, БЦР адзначае:

Віленская Беларуская Гімназія на працягу свайго існаваньня адыграла выключную ролю ў адраджэнчым руху на Беларусі. Нягледзячы на надзвычайна неспрыяючыя ўмовы працы і варожую палітыку польскага ўраду, Віленская Гімназія з посьпехам выканала сваю пачэсную задачу, выхаваўшы ў сваіх сьценах многа сьвядомай нацыянальнай беларускай інтэлігенцыі. Віленская Гімназія цьвёрда трымае свой сьцяг і будзе яго трымаць і надалей.

1. У адзнаку славутага 25-гадовага юбілею Віленскай беларускай гімназіі мэмарыяльную дошку ад імя Беларускай Цэнтральнай Рады.

2. Устанавіць «5» стыпэндыяў імя 25-гадовага юбілею гімназіі па 100 РМ кожную штомесячна, якія выдаваць найлепшым студэнтам беларусам Беларускага Мэдычнага Інстытуту.

3. За адданую 25-гадовую пэдагагічную працу ў Віленскай Беларускай Гімназіі ўзнагародзіць срэбраным Крыжам заслугі ІІІ Ступені настаўніцу Гімназіі сп. Алену Сокалаву-Лекант і ксяндза Адама Станкевіча.

4. Для ўдзелу ў сьвяткаваньні 25-гадовага юбілею дэлегаваць у Вільню Прэзыдэнта праф. Астроўскага і сяброў Рады маёра Кушаля, Родзьку і Калубовіча.

*Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады*
*Р. Астроўскі*

# ПАСТАНОВА №30А БЕЛАРУСКАЙ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ, Г. МЕНСК, 2 ТРАЎНЯ 1944 Г.

Аб матэрыяльнай дапамозе эвакуіраваным студэнтам Магілёўскага Мэдычнага Інстытуту

Прымаючы пад увагу цяжкае матэрыяльнае становішча эвакуіраваных студэнтаў Магілёўскага Беларускага Мэдычнага Інстытуту, асабліва выпускнікоў, якія ня маюць ніякай дапамогі ад бацькоў і жывуць толькі з падтрыманьня ўрадавых органаў і дапамогі з боку грамадзян, а ў чэрвені месяцы павінны будуць выехаць на самастойную працу, Беларуская Цэнтральная Рада пастанавіла:

1. Закупіць на прыватным рынку па магчымасьці да 100 пар абутку на сродкі Самапомачы.
2. Перадаць у распараджэньне дырэктара Інстытуту сп. Сьцяпанава закуплены абутак і даручыць яму разьмеркаваць так, каб у першую чаргу атрымалі студэнты-выпускнікі, заслугоўваючыя і маючыя патрэбу ў абутку.
3. Даручыць Віцэ-прэзыдэнту сп. Сабалеўскаму прасачыць за выкананьнем гэтай пастановы.

*Р. Астроўскі*
*Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады*
*Ю. Сабалеўскі, віцэ-прэзыдэнт*

# ПРАТАКОЛ №10 ПАСЯДЖЭНЬНЯ ПРЭЗЫДЫЮМУ БЕЛАРУСКАЙ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ

*г. Менск 6 чэрвеня 1944 г.*

Присутнічалі: Прэзыдэнт Рады сп. Астроўскі, віцэ-прэзыдэнт спсп. Шкялёнак і Сабалеўскі, маёр Кушэль і Кандыбовіч

Слухалі — пастанавілі

1. Аб лістоўцы на расейскай мове «К русскому народу»

Прэзыдыюм Рады заслухаў паведамленьне Прэзыдэнта Рады сп. Астроўскага аб тым, што апошнімі днямі распаўсюджана лістоўка на расейскай мове «К русскому народу». Лістоўка выдана ад імя генэралаў Уласава і Малышкіна, камбрыга Камінскага, ст. лейтэнанта Октана і як быццам бы і ад прэзыдэнта Беларускай Рады. Сп. Астроўскі паведаміў Прэзыдыюм Рады,

што ён ні сваёй подпісі, ні згоды на подпіс пад лістоўкай не даваў і нават ня знаў, што лістоўка рыхтуецца да выпуску. Такім чынам лістоўка зьяўляецца фальшыўкай, аб чым і ставіць да ведама Прэзыдыюм Рады.

Пастанавілі:

Даручыць віцэ-прэзыдэнту сп. Шкялёнку дакладна высьвятліць, ад каго і зь якой мэтай выдана лістоўка для распаўсюджваньня і далажыць Прэзыдыюму Рады.

Прыняць да ведама паведамленьне Прэзыдэнта Рады сп. Астроўскага, што асабістая канцылярыя Прэзыдэнта даслала ліст у Беларускую Газэту для надрукаваньня аб тым, што ў лістоўку «К русскому народу» Прэзыдэнт Рады свайго подпісу не даваў.

2. Аб уніформе каманднага складу Беларускага Краёвай Абароны
(даклад сп. Сабалеўскага)

Пацьвердзіць яшчэ раз раней зацьверджаную Прэзыдэнтам Рады ўніформу для камандзерскага складу Беларускай Краёвай Абароны.

Прапанаваць маёру Кушэлю выдаць загад па Краёвай Абароне, абавязваючы камандзераў насіць сваю беларускую форму і без патрэбы не ўжываць афіцэрскіх адзнакаў чужых армій.

Маёру Кушэлю дабіцца ад нямецкага камандаваньня, каб вайсковай лініі быў аддадзены загад аб устаноўленай уніформе для вайскоўцаў Беларускай Краёвай Абароны.

Аддзелу прапаганды Краёвай Абароны правесьці растлумачэньне ў аддзелах аб высокім гонары для беларуса вайскоўца мець і насіць сваю ўласную беларускую ўніформу.

*Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады Р. Астроўскі*

## РЭЗАЛЮЦЫЯ II УСЕБЕЛАРУСКАГА КАНГРЭСУ

**Другі Ўсебеларускі Кангрэс, сабраўшыся ў Менску, праз чвэрць стагодзьдзя пасьля Першага Ўсебеларускага Кангрэсу і выслухаўшы даклады аб падзеях на Беларусі ў часе паміж абодвума кангрэсамі, аднагалосна пастанавіў:**

1. Вызнаць правільнай і зноў пацьвердзіць гістарычную пастанову Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, якая маючы паўнамоцтвы Першага Ўсебеларускага Кангрэсу 1917 г., на сваім сходзе 25 сакавіка 1918 г. урачыстай 3-й

Устаўнай Граматай вырашыла аб канчальным разрыве Беларусі з Бальшавіцкай Масквой і расейскай дзяржавай ва ўсіх яе формах.

2. Пацьвердзіць, што Беларускі Народ ніколі не прызнаваў, не прызнае цяпер і ніколі не прызнае ў будучыні за форму сваёй беларускай дзяржаўнасьці, накіненыя яму маскоўскімі захопнікамі формы БССР.

3. Паведаміць усе ўрады й народы сьвету, што голас Масквы й СССР у беларускіх справах ня мае ніякай праўнай сілы, а ўсе, твораныя Масквою нібыта беларускія ўрады, ня маюць ніякіх праўных кампэтэнцыяў, бо не вызнаюцца Беларускім Народам.

Таму ўсе ўмовы ці аднабаковыя пастановы ўрадаў СССР, былой Польшчы і сучаснага гэтак званага эміграцыйнага ўраду Польшчы, якія датычаць тэрыторыі Беларусі й Беларускага Народу і якія былі зробленыя раней, або будуць зроблены ў будучыні, — Другі Ўсебеларускі Кангрэс абвяшчае ня маючымі ніякай праўнай сілы; як ня будуць мець сілы й усялякія іншыя магчымыя спробы падзелу Беларусі з боку іншых дзяржаваў і народаў.

4. Адзіным прадстаўніком Беларускага Народу і ягонага краю зьяўляецца сягоньня Беларуская Цэнтральная Рада з Прэзыдэнтам Радаславам Астроўскім на чале.

## ПРЫВІТАЛЬНАЯ ТЭЛЕГРАМА А. ГІТЛЕРУ АД 2-ГА ЎСЕБЕЛАРУСКАГА КАНГРЭСУ З ДНЯ 27 ЧЭРВЕНЯ 1944 Г. У МЕНСКУ

*Правадыру Вялікай Нямеччыны Адольфу Гітлеру, галоўная кватэра*

Другі Ўсебеларускі Кангрэс, на які зьехаліся ў сталічны горад Беларусі — Менск 1039 прадстаўнікоў Беларускага Народу 27.6.1944 даручыў мне паслаць Вам, Фюрэр, прывітаньне і запэўніць Вас, што Беларускі народ будзе нязломна змагацца побач зь нямецкім жаўнерам супраць супольнага нашага ворага — бальшавізму.

Мы спадзяёмся і верым у канчатковую перамогу, каторая, пад Вашым кіраўніцтвам, пры будове Новае Эўропы, прынясе шчасьлівую будучыню вольнаму Беларускаму Народу. Няхай жыве перамога!

*Р. Астроўскі*

## ПАСТАНОВА № 44
## ПРЭЗЫДЭНТА БЕЛАРУСКАЙ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ

*Менск, дня 28 чэрвеня 1944 г.*

На падставе §3 палажэньня аб наданьні рангаў афіцэрам Беларускай Краёвай Абароны з дня 5 сакавіка 1944 г. ПРЫЗНАЕЦЦА РАНГ ПАЛКОЎНІКА Беларускай Краёвай Абароны ад дня 20 лютага 1918 году — палкоўніку Беларускага войска Езавітаву Канстанціну, народжанаму ў 1893 г., наданы яму пастановай Сакратарыяту 1-га Беларускага Ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі.

*Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады Р. Астроўскі*

## ПАСТАНОВА № 45
## ПРЭЗЫДЭНТА БЕЛАРУСКАЙ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ

*Менск, дня 28 чэрвеня 1944 г.*

На падставе §3 палажэньня аб наданьні рангаў афіцэрам Беларускай Краёвай Абароны з дня 5 сакавіка 1944 г. ад дня 1 ліпеня 1944 г. НАДАЕЦЦА РАНГ ПАДПАЛКОЎНІКА Камандуючаму Беларускай Краёвай Абароны маёру Кушэлю Францішку, народжанаму ў 1895 г.

*Прэзыдэнт Астроўскі*

## ПАСТАНОВА АД 27 ЛІПЕНЯ 1944 Г.

БЦР, прызнаная 2-м Усебеларускім Кангрэсам адзіным і поўнапраўным прадстаўніцтвам Беларускага Народу, працягвае і тут на эміграцыі сваю дзейнасьць. Ейная праца ўжо разгортваецца ўва ўсіх галінах нацыянальна-палітычнага і грамадзкага жыцьця. Усе існуючыя цяпер у Нямеччыне беларускія арганізацыі і ўстановы — Беларускае Прадстаўніцтва, Беларускі Камітэт Самапомачы і іншыя аб’ядноўваюцца для супольнага змаганьня пад сьцягам БЦР.

*Новая сядзіба БЦР — Бэрлін*

## ПАСТАНОВА АД 20 ЖНІЎНЯ 1944 Г.

БЦР як адзінае і поўнапраўнае прадстаўніцтва сувэрэнных правоў беларускага народу гэтым пратэстуе перад усімі ўладамі і народамі сьвету супраць гвалту і зьдзекаў, якія чыняць над беларускім народам бальшавіцкія ўлады ў акупаваных імі беларускіх тэрыторыях.

Гэтыя акты бальшавіцкай Масквы БЦР разглядае як новае гвалтоўнае парушэньне міжнароднага права.

Сучаснае заняцьце бальшавікамі тэрыторыі Беларусі БЦР разглядае як часовую ваенную акупацыю і мабілізуе ўвесь беларускі народ як у краі, так і за ягонымі межамі да хутчэйшага вызваленьня свае Бацькаўшчыны. Гэтае змаганьне беларускага народу яшчэ ня скончанае і будзе працягвацца надалей супольна зь нямецкім і іншымі нам саюзнымі народамі аж да канчальнага вызваленьня ўсяе тэрыторыі Беларусі з-пад чужацкага панаваньня.

*Бэрлін, 20.08.1944*

## АДОЗВА ПРЭЗЫДЭНТА БЦР Р. АСТРОЎСКАГА АД 1 СТУДЗЕНЯ 1945 Г.

Набліжаецца гістарычная для нас вырашальная хвіліна. Па ўсёй беларускай зямлі шырыцца жорсткае змаганьне за вызваленьне свае Бацькаўшчыны. Нашыя гарады і вёскі, лясы і балоты з кажным днём усё болей і болей пакрываюцца арганізацыю сеткаю Беларускага Вызвольнага Войска. Усюды кіпіць прысьпешаная праца для падрыхтоўкі канчальнага ўдару па нашаму найбольшаму ворагу — бальшавізму.

На дапамогу нашым адважным змагарам на Бацькаўшчыне ўжо ад некалькіх месяцаў таму назад тут, у Нямеччыне, БЦР вядзе падрыхтоўку па арганізацыі беларускае збройнае сілы, якая сёньня атрымала ад Нямецкага Ўраду канчальнае вырашэньне ў форме Штурмовых Дывізій Беларускага Вызвольнага Войска.

Дзеля гэтага я заклінаю вас, беларусы, — сяляне і работнікі, інтэлігенцыя і моладзь, ваеннапалонныя з польскае і савецкае арміяў — усіх боездольных мужчын і жанчынаў споўніць свой абавязак перад народам і Бацькаўшчынай, стаўшы ў шэрагі Беларускага Вызвольнага Войска.

Не забывайцеся, беларусы, што нашыя браты на Бацькаўшчыне сьцякаюць крывёю ў змаганьні зь яшчэ моцным сяньня ворагам, чакаючы ад нас дапамогі.

Гэту дапамогу мы павінны ім даць і мы ім дамо!

Не забывайцеся, што крывавы Сталін усьцяж гоніць усё новыя ды новыя бальшавіцкія горды праз Наш Край, нясучы яму поўнае зьнішчэньне і голад.

Ці ж мы ня чуем, як раздаецца стогн па ўсіх кутках нашае роднае Беларусі? Ці ж мы не ўяўляем сабе, як бальшавіцкія каты распраўляюцца з нашымі бацькамі і братамі? Ці ж не даносіцца да нас плач нашых матак з эшалёнаў, што накіроўваюцца агентамі сталінскага НКВД у далёкую тайгу Сібіру ды стэпы Казахстану, адкуль амаль няма павароту? Ці ж ня чуем мы плачу нашых малых дзетак, якія церпяць, будучы адарванымі ад сваіх бацькоў, холад ды голад і працягваюць свае кволыя ручкі да нас, просячы ратунку?

Каб палажыць канец гэтаму нечуванаму зьдзеку над беларускім народам, палепшыць ягоную долю ды не дапусьціць да канчальнага разбурэньня Нашага Краю і вынішчэньня народу, нам неабходна мець сваю собскую беларускую збройную сілу.

Практычным правядзеньнем у жыцьцё арганізацыі Беларускага Вызвольнага Войска займаецца Галоўнае Кіраўніцтва Вайсковых Спраў БЦР.

Дык да зброі, браты-беларусы!

На дапамогу нашым нязломным змагарам зь Беларускага Вызвольнага Войска на Бацькаўшчыне і на ратунак нашых сем’яў!

Бацькаўшчына кліча нас!

Да зброі, беларускія стральцы і камандзіры!

На вырашальны бой зь ненавісным для нас бальшавізмам!

Супольна з прыгнечанымі Сталіным народамі і ў саюзе ды пры дапамозе магутнае Нямецкае Арміі пад правадырствам Адольфа Гітлера мы пераможам нашага супольнага ворага!

*Прафэсар Р. Астроўскі*
*Прэзыдэнт Беларускае Цэнтральнае Рады*

# ЗАГАД КІРАЎНІКА ВАЙСКОВЫХ СПРАЎ БЕЛАРУСКАЙ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ

Браты Беларусы!

На моцы дамоўленасьці Беларускае Цэнтральнае Рады зь нямецкімі ўладамі, распачатыя новыя беларускія вайсковыя фармаваньні. Ужо фармуюцца асобныя беларускія штурмовыя брыгады, зь якіх паўстане Беларускі Лёгіён.

Кажны беларус, які здольны насіць зброю, а ў першую чаргу моладзь і мужчыны да 40 год, павінен лічыць сваім абавязкам уступіць у рады беларускага войска.

Беларускія вайскоўцы пройдуць добрае вайсковае вышкаленьне, атрымаюць добрую зброю ўсіх радоў і будуць змагацца пад камандаваньнем сваіх беларускіх камандзіраў за найхутчэйшае вызваленьне Беларусі ад бальшавіцкае навалы.

Наступіў той вырашальны мамэнт, калі кожны з нас павінен ня толькі на словах, але і ўсімі сваімі паводзінамі давесьці, што ён зьяўляецца запраўдным сынам свае Бацькаўшчыны. Наступіў мамэнт давесьці, што запраўдны беларус здольны ня толькі дамагацца ад Беларусі і свайго народу ўсялякіх выгадаў, але і сам здольны аддаць сябе на служэньне Роднаму краю і свайму Народу.

Заявы прыймаюцца ня толькі ў канцылярыі Галоўнага Кіраўніцтва Вайсковых Справаў Беларускай Цэнтральнай Рады ў Бэрліне, Strasse 28 (S-Bahn Weissensee) — Weissruthenischer Zentralrat, Hauptmillitarverwaltung, але заявы аб уступленьні ў беларускае войска можна складаць і ўва ўсіх канцылярыях і аддзелах Беларускага Прадстаўніцтва ў Нямеччыне, а таксама і ў аддзелах Беларускага Камітэту Самапомачы ды ўсіх іншых беларускіх арганізацыях.

Каб яшчэ больш павялічыць магчымасьць уступленьня ў Штурмовыя Брыгады Беларускага Вызвольнага Войска таксама і ў кажнай нямецкай паліцыйнай установе ўва ўстановах СС.

Калі беларускія добраахвотнікі будуць зьвяртацца ў нямецкія паліцыйныя ўстановы і ў СС, дык яны павінны ўзяць з сабой экзэмпляр газеты «Раніца» із зьмешчаным у ёй фармулярам заявы ў беларускай і нямецкай мовах, як гэта пададзена ў гэтым нумары ніжэй. Фармуляр гэты можа быць выразаны з газэты.

Пасьля падачы гэтага фармуляру, у які трэба ўпісаць: імя, прозьвішча, год нараджэньня і адрыс, добраахвотнік будзе агледжаны лекарам і накіраваны на месца фармаваньня.

Кажны жаўнер Беларускай Брыгады будзе атрымліваць вопратку, абутак і харчаваньне і грашовае ўтрыманьне на тых самых асновах і правох, як нямецкія жаўнеры.

Сем'і беларускіх жаўнераў будуць атрымоўваць апеку і грашовую падтрымку на тых-жа асновах, як і сем'і нямецкіх вайскоўцаў.

Заклікаю ўсіх беларусаў выканаць свой абавязак перад Бацькаўшчынай і неадкладна ўступаць у Беларускае Вызвольнае Войска.

Жыве Беларусь!

*Бэрлін, 28 студзеня 1945 г.*
*Генэрал-маёр К. Езавітаў,*
*Кіраўнік Вайсковых справаў*
*Беларускай Цэнтральнай Рады*

## ЗАГАД № 1

*ад 12 лютага 1945 г. (часовы)*

На час эвакуацыі для асблугоўваньня ўцекачоў-беларусаў і вядзеньня бягучай працы вызначаю наступны склад супрацоўнікаў БЦР:

1. Сацыяльны аддзел: загадчык — Пётра Орса, заступнік — Уладзімір Саўка, сакратарка-перакладчыца — Зоя Коўш, для абслугоўваньня жаночага і дзіцячага сэктару — Раіса Галяк. Абавязкам Сацыяльнага аддзелу зьяўляецца: афармленьне эвакуаваных у дакумэнты харчаваньня, загледжаньне ў начлег, падшуканьне працы, забесьпячэньне праяздымі дакумэнтамі, мэдычная дапамога, выдача грашовых дапамогаў, пасярэдніцтва ў арганізацыі працы беларусаў, памяшчэньне дзяцей у яслі і ў гэтых мэтах Сацыяльны аддзел павінен вязацца ў адпаведныя нямецкія арганізацыі.

2. Фінансава-гаспадарчы аддзел: загадчык — Уладзімір Каракулька, ён жа і касір, да яго бухгальтар — Галіна Палуйчык — вядуць усю фінансава-гаспадарчую частку, устанаўліваюць касу, аплачваюць рахункі, вядуць закупы, прычым аплаце падлягаюць рахункі візаваныя загадчыкамі адделаў і апрабаваныя мною.

3. Пэрсанальны аддзел: загадчыкам зьяўляецца Анатоль Сакалоў, машыністка — Раіса Евец. На іх абавязку ляжыць рэгістрацыя і дакумэнтацыя ўсіх праяжджаючых і прывядзеньне ў парадак вывезеных архіваў і дакумэнтаў.

Хаця ж выдаўніцтва газэты не належала да БЦР, але дзякуючы таму, што пры эвакуацыі я прыняў ад выдавецтва ўвесь гаспадарчы і адміністрацыйны архіў газэты, без чаго, калі б газэта выйшла, справа перасылкі, гаспадаркі і

адміністрацыі была б у такім стане, што адрасаты былі б ня ў стане атрымліваць газэту. Упарадкаваньне дакумэнтаў па выдавецтву газэты і падрыхтоўкі адрасоў даручыць працаўніку газэты і яе адміністрацыі Аркадзю Еўцу і залічыць яго працаўнікам газэты і акрэдытаваць яго аплату ў 325 РМ у месяц.

Разьлік з газэтай будзе выкананы па ўрэгуляваньні спраў эвакуацыі і ўстабілізаваньні дзейнасьці.

4. Аддзел аховы здароўя: др. Мікалай Мінкевіч — загадчык, да яго кампэтэнцыі належыць абслугоўваць хворых уцекачоў, увязка зь мясцовымі лекарскімі ўстановамі і падрыхтоўкі да магчымага пераводу школы сёстраў з Бэрліну ў Гёкстэр.

Для даручэньняў вызначаецца сп. Усевалад Радзевіч, які ў характары перакладчыка і спэцыяльнага кур'ера выконвае даручэньні сувязі паміж БЦР і нямецкімі ўстановамі і выяжджае ў камандзіроўкі. Усе былыя працаўнікі БЦР і тых установаў, якія былі на аплаце БЦР з днём 12.2. знаходзяцца ў стане ўрляпаваным.

Справу затрудненьня і аплаты ўрляпаваных працаўнікоў пакідаю да спэцыяльнага загаду Прэзыдэнта.

Загад гэты прадстаўляецца на апрабату сп. Прэзыдэнта праз адмысловага кур'ера.

*Ю. Сабалеўскі, віцэ-прэзыдэнт БЦР*

## ЗАГАД №2
## ПА ВАЙСКОВАМУ АДДЗЕЛУ

*ад 12 лютага 1945*

Сп. ген. Езавітаў ня вызначыў і не паведаміў мяне, што да ўзначальваньня Вайсковага аддзелу на эміграцыі. З пасярод прыбыўшых з Вайсковага аддзелу няма ні аднаго з кіраўнічага становішча, дзеля чаго даручаю шэфу канцылярыі сп. Васіленю прывесьці ў парадак дакумэнты і архіў Вайсковага аддзелу, саставіць сьпіс спакаваньня, пацэхаваць сваімі знакамі і да часу атрыманьня аб вызначэньні кіраўніка ўстрымацца з апэрацыямі па вайсковаму аддзелу. Адпаведны рапарт укладае сп. Васіленя і прадстаўляе празь мяне сп. ген. Езавітаву.

Усе справы сп. Васіленя павінен скончыць не пазьней 15 лютага 1945 г. З пункту гледжаньня рэчовасьці знаходжу за адпаведнае прыбылых супрацоўнікаў Вайсковага аддзелу накіраваць у пункт фарміраваньня беларускай брыгады і ў гэтых мэтах даручаецца сп. др. Мінкевічу, як афіцэру Вайсковага

аддзелу разам з сп. Васіленяй атрымаць тэлефанічнае або тэлеграфічнае палучэньне з сп. Прэзыдэнтам і ген. Езавітавым.

*Ю. Сабалеўскі, віцэ-прэзыдэнт БЦР*

## ЗАГАД № 3

*ад 13 лютага 1945 г.*

Заняткі пачынаюцца а 10 гадзіне 10 пакой №5. Загадчыкі аддзелаў вядуць даручаную працу. Адлучка пэрсаналу па-за месца працы ўзгадняецца з загадчыкам аддзелу. Самавольная адлучка не дапускаецца. Справа перапынку на сьнеданьне і абеды, а таксама вячэры залежна ад агульнага раскладу месц харчаваньня.

*Ю. Сабалеўскі*
*Віцэ-прэзыдэнт БЦР*

## СПАДАРУ ПРЭЗЫДЭНТУ БЕЛАРУСКАЙ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ Ў БЭРЛІНЕ

Датычыць: Справаздачы аб часовай арганізацыі працы БЦР на эвакуацыі

У адказ на Вашае пісьмо, сп. Прэзыдэнт, ад 17 лютага 1945 г. за №36-пр, данашу, што мае мерапрыемствы ў Гэкстэры насілі вылучна часовы характар. Неабходнасьць іх была выклікана абставінамі працы ў часе эвакуацыі і неабходнасьцю абслугоўваньня едучых з намі, а наступна і далучыўшыхся (згодна з Вашым даручэньнем павінна было ўсяго 25 асоб, а ехала 51).

Зьмест маіх мерапрыемстваў паўстаў у выніку нашае сумеснае працы з сп. Орсаю П. і др. Мінкевічам М. адпаведна да паўсталай канечнасьці і залежна ад мясцовых вымогаў. Кіруючая роля, безумоўна, належыць да мяне, і я свой абавязак выконваў па свайму разуменьню і наказам уласнага сумленьня ў добрай веры і перакана765ньню, што ў данай сытуацыі гэта адпавядае беларускай справе.

Што датычыцца пастаўленых мне Вамі, сп. Прэзыдэнт, закідаў аб перакрочаньні кампэтэнцыі, нерачовасьці і шкоднасьці маіх загадаў, нясу за гэта маральную адказнасьць і справа ацэнкі гэтых пытаньняў — гэта справа адкрытае дыскусіі, і я магу быць дапушчаны да голасу. Усе акалічнасьці неабходна спраўдзіць на месцы іх дзеяньня і паўставаньня.

Галоўны Ваш закід, сп. Прэзыдэнт, перадача нібыта мною звольненых супрацоўнікаў БЦР у кампэтэнцыю Арбайтсамту, не адпавядае фактычнаму стану. У бягучую працу магло быць уключана ня больш 13 асобаў службоўцаў (столькі было Вамі і вызначана), рэшта была часова вольнаю. Меў замер лічыць іх урляпавымі, але мне гэта было забаронена — нямецкія законы працы ўрлёпаў не дазваляюць. Наша ўстанова павінна была быць зарэгістравана і залегалізавана ў Арбайтсамце, і ўсе чаканьні ў гэтым пытаньні выконвалі прадстаўнікі Остміністэрства.

Агульная вытычная была дадзена паўнамоцнікам міністэрства сп. Кнюпфэрам. Я быў пастаўлены ў неабходнасьць падпарадкаваньня. Была прынята мая адна кляўзуля ў пытаньнях працы, што нашы супрацоўнікі, калі будуць пакліканы да працы па-за Радаю, рэгістравацца будуць на новай працы, як затрудненыя часова, і на нашае запатрабаваньне Арбайтсамт будзе іх звальняць, але пасьля прыдзяленьня нам сталага месца асядленьня. Асабіста з прадстаўнікамі Арбайтсамту я спатканьня ня меў і выключаўся мой удзел у пытаньнях затрудненьня. Па ўсёй лініі гэтага пытаньня я быў у ролі падпарадкаванага, а ніколі вырашальнікам. Кампэтэнтнымі ў гэтых пытаньнях былі прадстаўнікі нямецкіх установаў на месцы праз нашае Ляйтштэльле і яны могуць толькі сказаць, чаму так, а не іначай сталася.

Хто мог бы Вам, сп. Прэзыдэнт, прадставіць гэтую справу так, як Вы мне гэта пішаце, я ня ведаю і не стараюся даведацца. Для мяне ясна, што бярэ тут удзел інтрыга і закулісы. Яны Вам прадставілі справу, як гэта ім падабалася, і Вы гэтаму поўнасьцю паверылі. Жалю ня маю, я сябе стаўлю вышэй, каб узалежніцца ад людзей, працуючых з-за ўкрыцьця. Пазіраю на гэтых людзей пагардліва, лічыў і лічу нікчэмнасьцю, асабліва, калі, мажліва, даносчык браў удзел па абедзьвюх старанах. Выснавы Вашыя ў пісьме катэгарычныя, але пагадзіцеся самі з адным мамэнтам, што Вы, сп. Прэзыдэнт, разглядалі справу за значную адлегласьць і не пацікаваліся станам рэчы на месцы.

Пісьмом Вашым я пастаўлены ў неабходнасьць прыняць закіды ў пастаўленай мне форме безапэляцыйна. Загад сп. Орсе прыняць адміністраваньне і выканаць загад, з адначасовым даручэньнем яму адкамандзіраваць мяне ў Бэрлін, па форме і зьместу мае значэньне адкліка765ньня мяне як «апальнага» без дапушчэньня да спраў. Спорыць ня буду. Вашае гэта права, але і пагадзіцца з гэтым не хачу, хаця ад спраў поўнасьцю адышоў. Можа і сапраўды сёньняшняя мая праца пазбаўлена жыцьцёвасьці, непатрэбная і я толькі ўводжу дысананс у агульную работу. З многім, што сярод нас адбываецца, пагадзіцца не магу, расстаноўка пэрсанажаў і падбор кадраў не зусім адпаведны. Зьмяніць гэты стан — мне не пад сілу, падпарадкавацца поўнасьцю

фактычнаму стану — не дазваляе мне сумленьне… А можа я поўнасьцю неадпаведны?.. Іду за голасам свайго разважаньня далей і вырашаю гэты стан супярэчнасьці тым, што з днём 28.2.1945 зракаюся мандата раднага Беларускай Цэнтральнай Рады, становішча віцэ-прэзыдэнта яе і ўсіх выплываючых з гэтых становішч, службовых і палітычных становішч.

Жыве Беларусь!

*28.2.1945 — Ю. Сабалеўскі*

З арыгіналам згодна: Р. Евец.

## БЕЛАРУСЫ І БЕЛАРУСКІ ОСТЭРГОФЭНУ!

Беларус з тых 40 беларусаў, якіх прывёз у Пассаў Крэстовіч Барыс. Помні, што ты зробіш, як апошні мярзотнік, калі аддасі свой голас на пагарджаных даношчыкаў крывічоў, якія бясчэльна выкінулі беларуса Крэстовіча з Остэргофэну ў расейскі лягер Натэрнбэрг.

Беларус з тых 130 беларусаў, якіх прывёз зь Дзінгольфінгу Беня Іван. Помні, што ты зробіш, як ганебны здраднік, калі аддасі свой голас за польскіх падпанкаў крывічоў і за іхніх цыгарэтных халуёў, якія подла выкінулі беларуса Беню з Остэргофэну ў расейскі лягер Натэрнбэрг.

Беларус з тых 160 беларусаў, якіх прывёз з Ашафэнбургу Шостак Аляксандар. Помні, што ты зробіш, як брудны злачынца, калі аддасі свой голас за тых самых крывічоў, якія ідучы бальшавіцкім сьледам, пазбавілі беларуса Шостака на паўгода выбарчых правоў. Ты добра што тут ходзіць не аб коўдры, а вылучна пра тое, што сп. Шостак зьяўляецца кандыдатам на камэнданта.

Беларус паляшук! Крывічы зьдзекуюцца над тваім праваслаўным веравызнаньнем, над тваёй паляшуцкай мовай, над тваймі паляшуцкімі звычаямі. Іх цікавіць толькі ў часе выбараў твой голас, а паміж выбарамі — твая кішэня. Твайго сьвяшчэньніка айца Іоана Лупіша, які песьціў тваіх дзяцей, вянчаў цябе, хаваў тваіх бацькоў, які, як сапраўдны пастыр, прыйшоў разам з табой са сваім парафіянінам з Бацькаўшчыны на чужыну, яны называюць на сходзе бандытам. Твайму псаломшчыку, таксама палешуку, сп. Стасюку цяперашні камэндант Станіслаў Станкевіч, увёўшы ў блуд УНРРУ забараніў прыяжджаць у Остэргофэн. Тваю Царкоўную Раду, якую благаславіў архіяпіскап, езуіты крывічы разьвязалі. Яны гэта робяць дзеля таго, каб гвалтам накінуць польскі каталіцызм. Дык галасуй за крывіцкую зграю, калі ты хочаш як Юда Іскарыёт, зрачыся роднага праваслаўя і тым самым плю-

нуць на магілкі сваіх дзядоў і прадзедаў. Дык галасуй за крывічоў, калі Рэч Паспалітая табе даражэйшая за роднае беларускае праваслаўнае Палесьсе.

Беларус усходнік. Беларус з-пад Менска і Віцебска, з-пад Магілёва і Гомелю, з-пад Слуцку і Смаленску. Родны брат беларуса заходніка. Дваццаць год ты пакутваў пад бальшавіцкім ботам. Ад гора твая матка выплакала ўсе свае сьлёзы, твае сёстры адвучыліся сьмяяцца, тваіх братоў закатавалі ў Сібіры. Падлізьнікі крывічы, якія лізалі і ліжуць зады палякам, бальшавікам і немцам, з шляхецкай пагардай называюць цябе «калгасьнікам», «маскалём» і плявузгаюць, што ты «савецкі агент». Паводле свае партыйнае бандыцкае пастановы крывічы маюць перадаць цябе і ўжо перадаюць зь вяроўкай на шыі ў лягеры савецкіх падданых. Дык галасуй за крывічоў, калі ты хочаш трапіць на бальшавіцкую віселльню.

Беларус селянін і работнік. Злодзеі крывічы прывязьлі з Бацькаўшчыны мільёны крывавых гітлераўскіх марак у той час, як ты прыйшоў з хатылём за плячмі, хаваючы па дарозе сваіх дзяцей. Ужо тут крывічы прымусам выкалацілі зь цябе больш чым сто тысяч марак на свае асабістыя справы. Дык галасуй за крывічоў, калі хочаш, каб яны садралі зь цябе і з тваіх дзяцей апошнія кашулю і порткі. Дык галасуй за крывічоў, калі хочаш, каб за твае грошы яны набылі ў Амэрыцы фэрмы, а цябе зь сям’ёй спакінулі паміраць паб бальшавіцкім плотам.

Няхай жыве Маці-Беларусь!

Няхай загіне здрадніцкае насеньне — крывічы.

*[Юрка Віцьбіч]*

## ДАРАГІЯ ГРАМАДЗЯНЕ БЕЛАРУСЫ!

[Зварот В. Рагулі, М. Шылы, М. Сьцяпанава і С. Каўша]

Мінае чацьверты год, як мы ў імя асабістай і нацыянальнай свабоды пакінулі сваю Бацькаўшчыну. Наш народ, абясьсілены ў змаганьні з бальшавізмам за свае правы, нясе там, на Бацькаўшчыне, вялікія страты. Наш народ у гэтай барацьбе пакладае надзею і на нас тут, на эміграцыі, і мы павінны споўніць сваю місію: дапамагчы справе вызваленьня свайго народу і гэтым самым апраўдаць сваё існаваньне на эміграцыі. Дзеля гэтага мы пайшлі ў сьвет, пайшлі каб знайсьці ў ім прыхільнасьць, зразуменьне і падтрымку ў барацьбе нашага народу за сваё вызваленьне.

На жаль, мы мала яшчэ ў гэтым кірунку зрабілі. Пралітая лепшымі сынамі нашай Бацькаўшчыны кроў, вымагае ад нас выканаць свой грамадзкі абавязак. Аб усім, за што мы ўзяліся, а ня споўнім, гісторыя выдасьць свой прысуд. Зробім жа так, каб ён ня быў для нас абвінавачваючым.

Да гэтага часу мы ня маем яшчэ адзінага сапраўднага беларускага прадстаўніцтва, якое б годна прэзэнтавала нас, усіх эмігрантаў, і наш народ. Мы такога прадстаўніцтва яшчэ не стварылі. А чаму? Якія на гэта перашкоды? Адказу на гэта няма. Шматлікія другараднага значаньня арганізацыі, падзялілі нас на групы і гурткі і тым забыліся аб галоўным. Каб скончыць з гэтым, найвышэйшы час стварыць нашае цэнтральнае прадстаўніцтва, якое б гуртавала вакол сябе ўсіх адданых нашай справе людзей.

Сябры! З увагі на наша асабістае і міжнароднае палажэньне, разьліваючы на зрузуменьне і падтрымку ўсіх суродзічаў на чужыне, у імя нашай нацыянальнай справы, мы заклікаем да стварэньня нашай цэнтральнай рэпрэзэнтацыі на чужыне. Мы бярэм на сябе ініцыятыву ў падрыхтоўцы дэмакратычных выбараў у гэтае цэнтральнае беларускае эміграцыйнае прадстаўніцтва ў Нямеччыне. Распрацоўваецца выбарчая ардынацыя, якая неўзабаве будзе пададзена да агульнага ведама, забясьпечваючая дэмакратычныя выбары. Спадзяемся, што гэтая ардынацыя, пасьля абмеркаваньня, забясьпечыць магчымасьць абраньня ў прадстаўніцтва сумленных, здольных да працы людзей.

Беларусы і беларускі! Нашы асабістыя і агульна нацыянальныя інтарэсы патрабуюць ад нас павагі. Будзьма годнымі свайго народу, які мае свой запавет — Прэч акупантаў! Хай жыве Незалежная Беларусь!

*Эміграцыя, 1948.*

*Б.[ылы] Сэнатар беларускага народу В. Рагуля,*
*Б.[ылы] пасол беларускага народу Ю. Сабалеўскі,*
*Сьвяшчэньнік, прафэсар, доктар М. Сьцяпанаў,*
*Б.[ылы] Сябра БНР М. Шыла,*
*С. Коўш*

# ДЭКРЭТ ПРЭЗЫДЭНТА БЦР

БЦР у такім складзе, у якім яна прадстаўлялася на Другім Усебеларускім Кангрэсе, свае функцыі фактычна закончыла 27.VI.1944. У далейшым Рада павінна быць рэарганізаваная на такіх асновах, якіх вымагалі пастановы Кангрэсу.

З пастановаў жа Другога Ўсебеларускага Кангрэсу вынікала, што Кангрэс стоячы на грунце незалежнасьці і сувэрэннасьці Беларусі ўпаўнаважніў БЦР выконваць функцыі прадстаўніцтва Беларускага народу і краю.

Такім чынам Другі Ўсебеларускі Кангрэс узлажыў на БЦР абавязак часова заступаць парлямэнт Беларускай Народнай Рэспублікі.

Так разумела свае заданьні БЦР, прыймаючы на сэсіях 14, 15 і 17 студзеня 1945 г. новы статут БЦР, зацьверджаны мною дня 18 студзеня 1945 г.

Прыймаючы, аднак, пад увагу тыя абставіны, у якіх прыйшлося працаваць БЦР да капітуляцыі Нямеччыны, ёй нельга было рэарганізавацца на дэмакратычных асновах.

У сучасны момант варункі зьмяніліся, а папярэдняя Рада з розных прычын здэкамплектавалася.

Узнаўляючы спыненую часова дзейнасьць БЦР, лічу сваім абавязкам, згодна з духам пастановаў Другога Ўсебеларускага Кангрэсу і на падставе арт. 6 пункту Г Статуту БЦР, рэарганізаваць Раду на строга дэмакратычных асновах. Дзеля гэтага паклікаю ў Склад Рады тых асобаў, якія маюць бясспрэчны мандат да ўсяго Беларускага Народу, або яго часткі, якой зьяўляецца наша палітычная эміграцыя на чужыне.

Да такіх асобаў належаць:

1. Тыя сябры Рады, якія былі ў яе складзе падчас Другога Кангрэсу і дагэтуль дабравольна сваіх мандатаў не зракліся, а таксама статутова не былі адкліканыя.

2. Увесь Прэзыдыюм Другога Ўсебеларускага Кангрэсу.

3. Старыя Сябры Рады БНР — удзельнікі Першага Ўсебеларускага Кангрэсу.

4. Сэнатары і паслы з заходняй часткі Беларусі, якія ў сваім часе атрымалі мандат усяго беларускага народу шляхам дэмакратычных выбараў.

5. Прадстаўнікі Беларускага Праваслаўнага, Рыма-каталіцкага і др. веравызнаньняў духавенства.

6. Дэлегаты беларускага эміграцыйнага прадстаўніцтва, выбранага на дэмакратычных асновах, у лічбе роўнай колькасьці папярэдніх пяці групаў, узятых разам.

*Дадзена ў дзень 25 сакавіка 1948 г.*

*Праф. Р. Астроўскі, прэзыдэнт БЦР*[755]

## РЭЗАЛЮЦЫЯ ПЛЕНУМУ БЕЛАРУСКАЙ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ З ДНЯ 9 МАЯ 1948 Г. У СПРАВЕ ПРАЦЫ БЕЛАРУСКАЙ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ

Заслухаўшы экспозэ Прэзыдэнта БЦР праф. Радаслава Астроўскага аб дзейнасьці Рады за час ад 27.6.44 году да 8.5.45, матывы часовага спыненьня палітычнай дзейнасьці Рады 24.9.45 году і стварэньня ў пераходным часе Беларускага Нацыянальнага Цэнтру для працягваньня далейшай нацыянальна-палітычнай працы, а таксама яе далейшыя высілкі ў справе ўнармаваньня беларускага эміграцыйнага жыцьця (адозва зь сьнежня 1947 г., дэкрэт аб рэарганізацыі БЦР з дня 25.3.48 году) Пленум Беларускай Цэнтральнай Рады пастанаўляе:

1. Прызнаць, што БЦР на чале з Прэзыдэнтам Р. Астроўскім, як носьбіт ідэалаў I Ўсебеларускага Кангрэсу, БНР, Акту 25.3.1918 г., і адзіны праўны прадстаўнік Беларускага Народу ў сучаснасьці, у часе паміж Другім Усебеларускім Кангрэсам і капітуляцыяй Нямеччыны, не зважаючы на незвычайна цяжкія варункі эміграцыйнага жыцьця, дастойна рэпрэзэнтавала Беларускі Народ і наш край, выконваючы непахісна наказ, дадзены Другім Усебеларускім Кангрэсам;

2. Прызнаць правільным часовае спыненьне дзейнасьці БЦР ад мамэнту заканчэньня 2-й сусьветнай вайны да сьнежня 1947 г., маючы на ўвазе асаблівыя абставіны, якія вынікалі ў той час для беларускай эміграцыі зь Ялтанскіх і Потсдамскіх дагавораў заходніх саюзьнікаў з Савецкім Саюзам.

3. Сьцьвердзіць невыкананьне праз БНЦ узложаных на яго абавязкаў, які загубіў агульна-нацыянальны характар, стаўшы на вузка груповы грунт і горача вітаць выступленьне прэзыдэнта БЦР у сьнежні мінулага году, узнаўляючае дзейнасьць БЦР, з заклікам да ўтварэньня аўтарытэтнага агульна-эміграцыйнага Беларускага Цэнтральнага Прадстаўніцтва і шчыра дзякаваць ініцыятарам рэалізацыі гэтага закліку, якія, праводзячы выбары ў беларускае

755 Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі. №18. Красавік 1984. С. 2–3.

эміграцыйнае прадстаўніцтва, палажылі ўрэшце канец таму хаосу, які дасюль меў месца ў беларускім эміграцыйным жыцці і зактывізавалі беларускія эміграцыйныя масы, даючы ім сапраўднае аўтарытэтнае прадстаўніцтва.

4. Лічыць зусім абаснаванымі і справядлівымі тыя падставы рэарганізацыі БЦР, якія акрэсьленыя Дэкрэтам Прэзыдэнта з дня 25.3.48 году, бо яны кладуць канец усім тым фікцыйным «рэпрэзэнтацыям», якія, з шкодаю для Беларускага Народу, натвораныя невялікаю групкаю безадказных адзінак з-пад знаку «крывічоў» (так званых «Нацыянальных цэнтраў», «Радаў»і крывіцкіх «Урадаў БНР», а адначасна давядуць да канца кансалідацыю ўсёй беларускай эміграцыі пад кіраўніцтвам адзінай праўнай дзяржаўнай рэпрэзэнтацыі, якая неперарвана перетрывала па сягоньняшні дзень.

## ТЭКСТ ПРЫСЯГІ ДЛЯ РАДНЫХ БЦР

Прыракаю і клянуся Ўсемагутным Богам перад сьвятым яго Евангельлем і Жыватворным Крыжам, што як сябра БЦР буду верна служыць Беларускаму Народу, ад пастановаў I і II Усебеларускіх Кангрэсаў ніколі не адступлю, а ўсімі сваімі сіламі буду імкнуцца да зьдзяйсьненьня ідэалу поўнае незалежнасьці Беларусі.

Усе пастановы Рады, дэкрэты і загады Прэзыдэнта буду выконваць дакладна і няўхільна. Так дапаможа мне Божа!

Амін.

## БАЙЦЫ І КАМАНДЗІРЫ БЕЛАРУСКАЕ КРАЁВАЕ АБАРОНЫ!

Салдаты й афіцэры зь іншых не беларускіх вайсковых злучэньняў!

Беларусы й беларускі-эмігранты, раскіданыя па ўсіх краінах сьвету!

Першы выстрал Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў у Карэі быў першым выстралам па ўсясьветнаму камунізму наагул, быў першым выстралам у абароне вольнасьці й дэмакрацыі, быў урэшце першым выстралам па савецкім бальшавізьме, які паняволіў наш край і народ, па маскоўскім камунізьме, які выгнаў нас з бацькаўшчыну на чужыну, па крывавым таталізьме, які разлучыў нас з нашым роднымі й блізкімі, па чырвоным бандытызьме, які панявольвае мільёны беларусаў у канцлягерох прымусовае працы на Калыме, Котласе, Варкуце, Ухце, Сіблагу, Карагандзе ды іншых шматлікіх савецкіх мясцох павольнага кананьня!

Браты Беларусы!

Мы вышлі з Вамі на эміграцыю ня дзеля таго, каб за акіянамі шукаць сабе новае бацькаўшчыны!

Мы вышлі на барацьбу за вольную незалежную і сувэрэнную Беларусь!

І вось наступіла хвіліна, калі нарэшце засьвітаў *першы прамень надзеі* на рэалізацыю лятуценьняў беларускага народу, першы прамень надзеі на магчымасьць нашага павароту на вольную ад бальшавіцкага панаваньня, сваю дарагую бацькаўшчыну — Беларусь!

Дык кожны салдат і афіцэр Беларускай Краёвай Абароны, кожны салдат і афіцэр, якія дасюль змагаліся пад сьцягамі чужых арміяў, кожны, урэшце, баяздольны беларус і беларуска, у якіх б'ецца сапраўднае беларускае сэрца, **павінны ўзяцца за зброю, каб супольна з усімі свабодалюбнымі народамі сьвету, палажыць канец бальшавіцкім зьдзекам маскоўскага Крамля над нашым шматпакутным беларускім народам**! Я асабіста буду з Вамі ў першых радох!

Барацьба ў Карэі — гэта барацьба ня толькі за вызваленьне карэйскага народу ад камуністычнае навалы, заінсьпіраванае маскоўскім палітбюро, барацьба ў Карэі — гэта адначасна пачатак барацьбы за вольную незалежную й сувэрэнную Беларусь!

Дык да зброі, браты-беларусы!

Рэгіструйцеся добраахвотнікамі на карэйскі фронт у дэлегатурах Беларускае Цэнтральнае Рады ў сваіх мясцовых камітэтах у Амэрыцы, Англіі, Аўстраліі, Канадзе, Нямеччыне ды іншых краінах, каб пад сьцягам Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў да сваім нацыянальным бел-чырвона-белым сьцягам Беларускае Народнае Рэспублікі ўнесьці пасільны ўклад у справу вызваленьня ўсяго сьвету, а ў тым ліку і свае бацькаўшчыны — Беларусі, ад найбольшае зморы ўсяго чалавецтва — крывавага, збройнага камунізму!

Няхай дапаможа нам Усемагутны Бог у нашым сьвятым змаганьні за веру нашых дзядоў і прадзедаў і нашую дарагую Бацькаўшчыну!

Няхай жыве Арганізацыя Аб'еднаных Нацыяў!

Няхай жывуць свабодалюбныя народы Амэрыкі, Англіі ды іншых краінаў!

Няхай жыве вольная, незалежная й сувэрэнная Беларусь!

*Радаслаў Астроўскі,*
*прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады*

# ЛІСТ РАДАСЛАВА АСТРОЎСКАГА ДА ЯЗЭПА ВАРОНКІ

*Яго міласьці гаспадару Язэпу Варонка, Чыкага, ЗША*

Паважаны калега!

Пару дзён таму назад, я атрымаў пісьмо ад сваіх супрацоўнікаў з Амэрыкі, каторым яны, між іншым, паведамляюць, што Вы зьяўляецеся сябрам Беларускае Нацыянальнае Рады ў Чыкага.

На жаль, у пісьме гэтым паданы адрас толькі сакратара Рады — гасп. І. Лабача, і таму не магу зьвярнуцца да Вас безпасярэдне, я змушаны прасіць гасп. Лабача пераслаць неяк пісьмо Вам.

Доўгіх трыццаць два гады прайшло з таго часу, калі мы супольна з Вамі, у Менску ў 1918 г., закладалі падваліны незалежнасьці нашае Бацькаўшчыны. Пасьля, у хуткім часе, Вы выэміґравалі ў Амэрыку, а мне ўдалося яшчэ патрываць на Бацькаўшчыне да 1944 г., прыймаючы той ці іншы ўдзел у беларускім вызвольным руху.

Зусім зразумела, што шмат што за гэты час зьмянілася, а перадусім вырасла новае беларускае пакаленьне, якое ў большай ці меншай меры, добра ці кепска, так, як зразумела, працягвала надалей распачатую намі працу.

З былых удзельнікаў І Усебеларускага Кангрэсу ды Рады Беларускай Народнай Рэспублікі засталося нас вельмі мала. Сярод жывых няма ўжо ані С. Рак-Міхайлоўскага, ані Язэпа Лёсіка, ані А. Уласава, ані Б. Тарашкевіча, ані Я. Купалы, ані В. Гадлеўскага, ані К. Езавітава, ані Серады, Лявіцкага, Шылы, Мамонькі, Грыба, Крэчэўскага ды шмат-шмат іншых…

Ня многія зь іх памёрлі сваёй сьмерцяй, большасьць — згінула ў засьценках ВЧК, ОГПУ, НКВД ды ў шмат якіх лягерох прымусовае працы «не столь отдаленных мест» вялікага Савецкага Саюза…

Сёньня нас засталося даслоўна некалькі чалавек, але, не зважаючы на гэта, а можа і дзеля гэтага, на нас ляжыць абавязак яшчэ перад сьмерцю зрабіць усё, што ад нас залежыць, для будучыні як нашага народу, так і Бацькаўшчыны.

Сучаснае міжнароднае палажэньне, як Вам ведама, вымагае, ад усяго сьвядомага беларускага актыву як найцясьнейшага аб'яднаньня, як найбольшага напружаньня ўсіх сваіх сілаў, як найбольш нацыянальнай кансалідацыі. На жаль, у нас сёньня гэтага няма, а існуюць дзьве варожыя сабе групы — Беларуская Цэнтральная Рада, як адзіны носьбіт паўнамоцтваў ІІ Усебеларускага Кангрэсу ды «тэстамэнтовы» «прэзыдэнт» так зв. БНР — Мікола Абрамчык зь яго крывіцкаю «радаю» ды шматлікімі фікцыйнымі «ўстановамі».

Зусім зразумелая рэч, што такое разьбіцьцё беларускага вызвольнага руху ня служыць на карысьць беларускай справе, а толькі шкодзіць да абніжае нас у вачох чужынцаў.

Я, супольна з сваімі супрацоўнікамі Беларускай Цэнтральнай Рады, дакладалі найбольш высілку, каб зьліквідаваць гэты ненармальны і шкодны стан рэчы, аднак гэтага нам не ўдалося, бо праціўны бок паслугоўваўся сьвядома чыста камуністычнымі, дэмагагічнымі мэтадамі і ўхваткамі, каб не дапусьціць да кансалідацыі. У адказ на ўсе нашы прапановы з боку «яго эксцэленцыі» ды іжэ зь ім сыпаліся толькі бясконцыі даносы ды самая непрыстойная лаянка.

Усё гэта, аднак, не дае яшчэ нам права спакойна перайсьці да парадку дня, а змушае надалей шукаць выхаду із стварыўшыгася палажэньня. І выхад такі мне думаецца, пры добрай волі, калі ўжо не з абодвух бакоў, то хоць з аднаго знайсьці можна.

Але тут якраз, паважаны Коллега, патрэбна Вашая дапамога, бо ж Вы зьяўляецеся хоць і былым, але не тэстамэнтовым і не фікцыйным, а настаяшчым, жывым, першым прэм'ерам нашага легітымнага ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі. На Вашым абавязку паводле майго глыбокага пераканаьня ляжыць ініцыятыва для ліквідацыі гэткага шкоднага для беларускай справы стану рэчы. Гэта зрабіць Вы ня толькі можаце, але і павінны!

Паводле мае думкі, для ліквідацыі сёньняшняга шкоднага стану павінен быць скліканы ЎСЕБЕЛАРУСКІ ЭМІГРАЦЫЙНЫ КАНГРЭС, як найвышэйшая аўтарытэтная ўстанова для ўсёй беларускай эміграцыі.

У Кангрэсе гэтым павінны ўзяць удзел усе беларусы й беларускія эмігранты, маючыя 18 ці 20 гадоў, раскіданыя па ўсіх краінах: Аўстраліі, Англіі, Паўночнай і Паўднёвай Амэрыках, а такжа ўсіх некамуністычных краінах Эўропы.

Рэпрэзэнтацыя, зразумела, павінна быць не ад беларускіх арганізацый і ўстановаў, якіх, нотабене, крывічы натварылі больш, як маюць сяброў, а пэрсанальная. Кожны беларус ці беларуска павінны мець права ўзяць удзел у гэтым кангрэсе ці то асабіста, ці то шляхам упоўнаважаньня другой асобы.

Такім чынам на кангрэс з кожнай краіны можа прыбыць толькі пару асобаў (што з пункту гледжаньня матар'яльнага магчыма і рэальна), якія будуць карыстацца столькімі галасамі, колькі маюць упоўнаважаньняў. Урэшце нават, такія ўпоўнаважаньня могуць быць выданы асобам, пражываючым у месьце адбыцьця кангрэсу, ці перасланыя ім поштай.

Каб не было аднак упоўнаважаньняў ды рознага круцельства й фікцыяў, трэба каб кожнае ўпоўнаважаньне (ці то адзіночнае, ці то зборнае) было

пацьверджана мясцоваю ўрадаваю ўстановаю (натарыюсам, судом, паліцыяй ці камунальнаю ўстановаю) той краіны, дзе жыве эмігрант.

Скліканы такім шляхам Кангрэс павінен будзе затрымацца на нейкай адзінай праўнай беларускай рэпрэзэнтацыяй, г. зн. ці то прызнаць за такую Беларускую Цэнтральную Раду ды адначасна рэарганізаваць ягоную раду БНР, ці ўрэшце адкінуць адно і другое, а стварыць нейкую новую адзіную, агульна-беларускую рэпрэзэнтацыю на эміграцыі.

Гэта, па-моему, адзіны спосаб, Паважаны коллега, якім мы здолеем урэшце зьліквідаваць сёньняшні ненармальны стан рэчы ды ўзмацаваць нашую агульна-беларускую рэпрэзэнтацыю ў вачох усяго сьвету!

Я, асабіста, заяўляю апріорі, што злажу ўсе свае паўнамоцтвы такому Кангрэсу ды лёяльна падпарадкуюся ўсім ягоным пастановам.

Калі ў тэстамэнтовай «эксцэленцыі» б'ецца яшчэ сапраўднае беларускае сэрца, то і ён павінен зрабіць тое самае, каб не асьмешваць ані сябе, ані беларускай справы ў вачох чужынцаў.

Думаю, што ініцыятыва па скліканьні кангрэсу павінна выходзіць або ад Вас, як былога прэм'ера першага ўраду БНР, або ад Беларускай Нацыянальнай Рады, як найстарэйшай эміграцыйнай установы, або ўрэшце — супольна ад Беларускай Нацыянальнай Рады ў Чыкаго, Беларускай Цэнтральнай Рады і крывіцкае тэстамэнтовае Рады.

Месцам Кангрэсу найлепш было б выбраць той пункт у ЗША, дзе ёсьць найбольш беларускай эміграцыі.

Маючы надзею, што Вы не адмовіце падзяліцца са мной сваімі думкамі на гэтую тэму, застаюся

З поўнай пашанаю да Вас

*Р. Астроўскі*

## ТЭЛЕГРАМА 13-ГА ПЛЕНУМУ БЦР ДА ПРЭЗЫДЭНТА Д. ЭЙЗЭНГАЎЭРА, З ДНЯ 29.III.1953 Г. У САЎТ-РЫВЭРЫ, СШПАМЭРЫКІ

13-ты Пленум Беларускай Цэнтральнай Рады (беларускага парляманту на эміграцыі) вітае Вас з выбарам на высокае становішча Прэзыдэнта Спалучаных Штатаў Паўночнай Амэрыкі. Не на месцы свайго прызначэньня — Беларусі, адбываецца сэсія беларускіх прадстаўнікоў, а на эміграцыі, бо на Беларусі пануе варожая і чужацкая Савецкая Расея. Агрэсія Савецкай Расеі змусіла ў 1944 г. пакінуць родны край шмат беларускага жыхарства і дзяр-

жаўнае кіраўніцтва — Беларускую Цэнтральную Раду. 13-ты Пленум БЦР пры гэтым выражае вялікую ўдзячнасьць Амэрыканскаму Народу і ўраду СШПАмэрыкі за дапамогу пры эміграцыі, шырокую талеранцыю, свабоду і магчымасьць арганізаваць сваё нацыянальнае жыцьцё паводле собскае волі, дазнаваныя беларускімі эмігрантамі нароўні з даўнімі жыхарамі Амэрыкі.

Расейска-камуністычныя захопнікі паняволілі Беларусь і многа іншых краінаў, а ў сучаснасьці пагражаюць усяму вольнаму сьвету. Абарона ўсяго вольнага сьвету і вызваленьне народаў, раней паняволеных Саветамі, знаходзіцца перадусім у руках Амэрыкі. Таму ў асаблівасьці жадаем Вам асягненьня пастаўленых Вамі мэтаў у барацьбе з камунізмам і савецка-расейскім імпэрыялізмам, якія сваёй агрэсіяй звонку і дывэрсійнай дзейнасьцю знутры стараюцца паралізаваць Амэрыку, для падпарадкаваньня яе і ўключэньня ў камуністычна-расейскую сыстэму.

Жадаем Вам і ўсяму Амэрыканскаму народу поўных посьпехаў у абароне высокіх ідэяў волі, незалежнасьці, справядлівасьці і гуманнасьці ад таталітарнай тэрорыстычнай нявольніцкай пагрозы.

З глыбокай пашанай да Вас

*Ю. Сабалеўскі — старшыня Прэзыдыюму Пленуму БЦР*
*І. Касяк — сакратар Прэзыдыюму Пленуму БЦР*

## ЗВАРОТ ДА КАНСТАНТЫНОПАЛЬСКАГА ПАТРЫЯРХА

*Прэзыдыюм Пленуму Беларускай Цэнтральнай Рады*

*14 верасьня 1953 года*

*Яго Сьвяцейшаству Сьвяцейшаму Патрыярху Ўсяленскай Праваслаўнай Царквы ў Канстантынопалі*

Прыпадаючы да стопаў Вашага Сьвяцейшаства мы гэтым ветліва хацелі б падаць гістарычную даведку зь нядаўняга мінулага Праваслаўнай Беларускай Царквы, якая знаходзіцца ў дачыненьні да Высокага Пасаду Патрыярха ў Канстантынопалі.

Падчас 2-й сусьветнай вайны, па акупацыі Беларусі нямецкімі войскамі і вызваленьні ад бязбожнага бальшавізму ў 1941 г., беларускі народ атрымаў магчымасьць арганізаваць сваё рэлігійнае жыцьцё паводле сваёй волі. Таму ў часе ад 30 жніўня да 2-га верасьня 1942 года ў сталіцы Беларусі Менску, адбыўся Ўсебеларускі Праваслаўны Сабор, папярэджаны працамі Прадсаборнай Камісіі. Гэты Ўсебеларускі Праваслаўны Сабор:

1. Прыняў пастанову аб арганізацыі Праваслаўнай Беларускай Царквы на асновах аўтакефаліі і адпаведна гэтаму прыняў статут Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы;

2. пастанавіў зьвярнуцца да ўсіх Праваслаўных Аўтакефальных Цэркваў на сьвеце з просьбай аб прызнаньні Праваслаўнай Аўтакефальнай Беларускай Царквы;

3. апрабаваў адумысловы ліст да Яго Сьвяцейшаства Ўсяленскага Патрыярха ў Канстантынопалі, як Галавы Царквы-Мацеры Праваслаўнай Беларускай Царквы, аб прызнаньні ТОМОСА для праваслаўнай Аўтакефальнай Праваслаўнай Беларускай Царквы.

Ліст да Ўсяленскага Патрыярха ў Канстантынопалі, перагледжаны Саборам беларускіх Япіскапаў (копія далучаецца), быў высланы, але не дасягнуў месца свайго прызначэньня дзеля ваенных перашкодаў. Для беларускага народу было немагчымым здабыцьцё сваёй незалежнасьці і Беларусь ізноў была акупавана бязбожнай Савецкай Расеяй.

Вышэй успомнены (далучаны) ліст да Яго Сьвяцейшаства Патрыярха ў Канстантынопалі ў сучаснасьці зьяўляецца гістарычным дакумэнтам. Ён датыча важнай справы ўзаемных дачыненьняў паміж Усяленскай Праваслаўнай Царквой беларускага народу, які імкнецца быць палітычна незалежным і хоча мець Аўтакефальную Праваслаўную Беларускую Царкву.

Мы просім сьвятых малітваў Вашага Сьвяцейшаства за цяжка пакутуючы беларускі народ пад бязбожнай акупацыяй Савецкай Расеі.

З глыбокай пашанай

*Іван Касяк — сакратар,*
*Юры Сабалеўскі — старшыня*

## КАМУНІКАТ ДА ЎСІХ КРАЁВЫХ ШТАБОЎ БВР І ІХ АДДЗЕЛАЎ, КОПІІ СТАРШЫНІ КАЛЕГІІ БЦР, СТАРШЫНЯМ ДЭЛЕГАТУРАЎ БЦР, ПРЭЗЫДЫЮМУ ПЛЕНУМУ БЦР

*ад 13 лютага 1954 года*

У адказ на маю пастанову з дня 5.2.54 года аб адкліканьні г. Людвіка Зарэчнага-Галубовіча з займанага ім становішча Начальніка Галоўнага Штабу БВР, я атрымаў 8.2.54 пісьмовы адказ ад Галубовіча, што ён не падпарадкуецца гэтай пастанове і надалей уважае сябе начальнікам Галоўнага Штабу.

У сувязі з гэтым я змушаны дадаць да публічнага ведама ўсіх сяброў БВР і арганізацыяў, зьвязаных з БЦР тыя прычыны, якія змусілі мяне прыняць вышэйуспомненую пастанову:

1. Ужо ад даўжэйшага часу гасп. Л. Зарэчны-Галубовіч пачаў зачаста заглядаць у чарку, а пад уплывам алькаголю рабіць недарэчныя палітычныя выступленьні, паклікаючыся пры гэтым без упаўважненьня на аўтарытэт БЦР і паасобных палітычных дзеячаў. Так, напрыклад, у сваім мэмарыяле, фотакопія якога зьмешчана ў «Бацькаўшчыне», да Амэрыканскага камітэту і так званага КЦАБ'у, ён паклікаўся на калегію БЦР, мяне і доктара Шчорса. Апошні, як ведама, у №3 (17) зь лістапада 53 г. зусім слушна зрэагаваў на бутафорыю Зарэчнага сваім асьветчаньнем.

2. Пад уплывам, відаць, таго ж алькаголю Л. Зарэчны-Галубовіч выдаў ад імя Галоўнага Штабу БВР да ўсіх аддзелаў БВР недарэчна-небясьпечную інструкцыю аб нелегальнай высылцы яму грошай з Англіі, што, як ведама, супярэчна з ангельскімі законамі і што магло-б выклікаць для высылаючых вельмі прыкрыя рэзультаты адказнасьці перад ангельскімі судамі. На шчасьце, Краёвы Штаб БВР у Англіі востра запратэставаў супроць гэтае недарэчнае інструкцыі Галубовіча, а я на нарадзе прадстаўнікоў 26.12.53 у Лёндане прызнаў поўную рацыю Краёвага Штабу і папярэдзіў прадстаўнікоў аддзелаў аб недапушчальнасьці такой практыкі.

3. Загад мой з дня 10 кастрычніка 1952 года ад вывадзе БВР з сыстэмы БЦР вымагаў ад Галоўнага Штабуператварыць БВР у зусім самастойную грамадзкую арганізацыю. Для гэтае мэты трэба было правесьці краёвыя зьезды для апрацоўкі арганізацыйнага статуту і выбараў кіраўніцтва арганізацыі. У працягу 15 месяцаў нач. гал. штабу не парупіўся правесьці вымаганую абставінамі рэарганізацыю, а карыстаючыся з дадзенага мною ў свой час паўнамоцтва, абмежаваў сваю працу на нутраным адрэзку БВР выключна да зьбіраньня сяброўскіх складак.

4. Прыймаючы пад увагу, што, не зважаючы, на пастанову 13 пленуму БЦР з дня 29.3.53 і мае шматлікія заўвагі і перасьцярогі Зарэчны-Галубовіч надалей праводзіў сваю раскладовую акцыю сярод сяброў БВР супроць БЦР, будучы адначасна сябрам апошняй, а пастаяннае яго знаходжаньне пад уплывам алькагольнае п*а*ры не давала ніякай гарантыі, што гэта шкодная для нашае вызвольнае барацьбы дзейнасьць спыніцца, я змушаны быў адклікаць Л. Зарэчнага-Галубовіча з займанага становішча нач. гал. штабу БВР.

У сучасны момант трэба спадзявацца, што Л. Зарэчны-Галубовіч спробуе далей працягваць сваю акцыю сярод штабоў БВР, а таму лічу сваім мараль-

ным абавязкам папярэдзіць усіх сяброў, што пачынаючы ад 5 лютага 1954 г. ані я, ані БЦР нічога супольнага з акцыяй Зарэчнага-Галубовіча ня маем, а таксама нічога супольнага мець ня будзем з тою арганізацыяй, якая будзе ім ачольвацца.

Адначасна я гэтым абвяшчаю аб поўнай ліквідацыі Галоўнага Штабу БВР з днём 12 лютага 1954 году.

Тыя краёвыя штабы і іх аддзелы, якія застануцца надалей вернымі ідэалам БЦР, павінны апрацаваць самастойныя статуты для кожнай краіны ў залежнасьці ад мясцовых абставінаў і ў згодзе з існуючымі законамі краіны ды выбраць краёвае кіраўніцтва, якое ўвойдзе ў непасрэдны кантакт з калегіяй БЦР у ЗША…

*Р. Астроўскі*

## ЛІСТ АРКАДЗЯ АРЭХВЫ ДА РАДАСЛАВА АСТРОЎСКАГА

*Стэмфард, 31 сьнежня 1958 г.*

Дарагі Прафэсару,

Вы пэўна дзівіцеся, што я ўжо амаль перастаў да Вас пісаць. Мне самому крыху дзіўна, але факт застаецца фактам — здарэньні і канфлікты, аб якіх я калісь расьпісваўся, мне нейк ужо астачарцелі. Не таму, што я расчараваўся, як некаторыя з нашых расчароўваюцца, каб посьле апраўдаць гэтую сваю неактыўнасьць, мне нечым было расчароўвацца, бо я ад нікога нічога не чакаў, але безнадзейшчына нашых пачынаньняў дзейнічае на мяне прыгнятаюча.

На вонкавым фронце ўсё тая самая дэмакратычная незараднасьць, блізарукасьць, часта нават дзіцячая наіўнасьць, якая вядзе ўвесь вольны сьвет да немінучай катастрофы. Для нас беларусаў гэтая катастрофа не прынясе вызваленьня. На нашым унутраным, беларускім фронце таксама ня лепш, амэрыканізацыя сярод нашай эміграцыі ідзе сапраўды амэрыканскім тэмпам. Беларуская справа траціць тут агульнанацыянальны характар, а зводзіцца да лёкальных асаблівасьцяў нацыянальнага амэрыканскага фальклору. Некаторыя нацыянальна сьведамыя адзінкі ня могуць ужыцца ў існуючых арганізацыях і вось ужо восьмы год шукаюць надарэмна новай формы для сваёй дзейнасьці. Нядаўна паўстала ў Нью-Ёрку новая арганізацыя, Беларуска-амэрыканская ліга, ці як яе там назвалі, у склад якой увайшлі Станкевічы, Шчорсы (кажуць усе), Галяк ды Чабатарэвіч. Касяка, кажуць,

на арганізацыйным сходзе не было. Адным словам тыя самыя толькі пад іншым сьцягам.

А на маім асабістым фронце яшчэ горш. За пяць год пражываньня ў Амэрыцы я яшчэ ня стаў на ногі. Час праходзіў, я не падумаў сур'ёзна аб будучыні. Лайсанса яшчэ не здаваў і, дзякуючы сямейным абставінам, ня змог спэцыялізавацца. Цяпер, спусэціўшы крыху з тону, пачаў старацца, каб устроіцца дзе на рэзыдэнтуру ў псыхіятрычным шпіталі, але сяджу некалькі месяцаў бяз працы і падхадзяшчага месца знайсьці не магу. За апошнія тры гады абвастрылі для нашага брата законы, дый не вязець мне мусіць. Маю, аднак, надзею, што ў новым годзе мне больш пашчасьлівіцца.

Касяк падаўся, а лепш кажучы, паведаміў сакратара Кангр. Камітэту аб сваёй дымісіі. Непасрэднай прычынай было тое, што арганізацыйны камітэт нейкай імпрэзы ў Саўт-Рывэры пастанавіў перадаць даход на выдавецтва «Бел. Слова», а не Кангрэсаваму камітэту, як хацеў Касяк, за гэта раззлаваўся і падаўся да дымісіі. Іван Іванавіч ня любіць, калі ягоных думак не прымаецца пад увагу.

Аб Палягошку нічога ня ведаю, зь ягоным прозьвішчам першы раз спаткаўся ў Рэд. Калегіі, куды ён калісь прыслаў свой артыкул. Аб ягоным рукапісе таксама нічога ня ведаю, перад атрыманьнем Вашага пісьма, бачыўся зь Мядзейкам, але ён аб рукапісе не ўспамінаў.

Ад Мядзейкі я ведаў, што ён зьбіраецца выдаваць бюлетэнь разам з Каўшом і таму быў пэўным за ягоны зьмест. Да мяне ён таксама зварочваўся ў справе Вашага звароту, які быў адчытаны на 14-м Пленуме, я даў яму цэлую папку сьв. п. Русака з дакумэнтамі 14 Пленуму, але там не аказалася. Магчыма, падшыта ў іншай папцы.

Нядаўна, пераглядаючы свае паперы, я знайшоў цэлую папку з Вашай карэспандэнцыяй, здаецца, нічога такога няма, толькі архіўны матэрыял. У найбліжэйшым часе перашлю Вам у Лёндан.

Прыміце мае найлепшыя пажаданьні на новы год.

*Аркадзь Арэхва*

## ЛІСТ РАДАСЛАВА АСТРОЎСКАГА ДА АРКАДЗЯ АРЭХВЫ

*Ст. Джозэф, 30 ліпеня 1962*
*Яго дастойнасьці*
*Старшыні Прэзыдыюму Пленуму Беларускай Цэнтральнай Рады*
*Доктару Аркадзю Арэхву*

Высокапаважаны Доктару,

6 лістапада 1962 г. канчаецца мне 75 год, г. зн. надыйдзе максымальны рубеж веку, калі чалавек яшчэ мог пры нармальных абставінах быць актыўным у грамадзкім і палітычным жыцьці.

У сувязі з гэтым і прыймаючы пад увагу яшчэ іншыя фактары, як стан майго здароўя, а таксама жаданьне пакінуць для будучых пакаленьняў зафіксаваныя на паперы некатарыя, нікому дагэтуль невядомыя фрагмэнты з больш як поўвяковае барацьбы беларускага народу за сваю дзяржаўную незалежнасьць, я пастанавіў з дня 1 верасьня 1962 г. адыйсьці ад актыўнае палітычнае дзейнасьці і зрачыся Прэзыдэнтуры ў Беларускай Цэнтральнай Радзе.

Падаючы аб гэтым да Вашага ведама, я адначасна выказваю Вам асабіста, усім сябрам Прэзыдыюму і Выканаўчага органу БЦР, а таксама ўсім іншым супрацоўнікам БЦР сваю шчырую падзяку за тую дапамогу, якую Вы й усе іншыя сябры БЦР выказвалі падчас нашай супольнай працы на працягу апошніх 20 год.

З шчыраю пашанаю

*Ваш Радаслаў Астроўскі*

## ЛІСТ РАДАСЛАВА АСТРОЎСКАГА ДА ДЗЬМІТРЫЯ КАСМОВІЧА

*Масьсільён, 6 студзеня 1966*

Даражэнькі Дзіма!

Шчыра дзякую за сьвяточныя пажаданьні і з свайго боку жадаю Вам і ўсёй Вашай сям’і шчасьлівага Новага году і вясёлых надыходзячых Калядаў.

Я, Дзімачка, не хацеў парушаць прыкрых справаў, але паколькі Вы іх парушылі ў сваім апошнім пісьме з дня 28.XII.65, дык лічу сваім абавязкам шчыра вам адказаць. Вы пішаце, што ад часу свайго выезду ў Амэрыку, не хачу Вам прыйсьці ня толькі зь ніякай дапамогай, але нават і добрай

радай. Што датычыць дапамогі, дык я, сплачваючы Ваш апошні рахунак за вырасхадаваныя Вамі з собскай кішэні грошы, Вас папярэдзіў, што гэта раблю апошні раз, бо ніякай магчымасьці ня маю. Я, як ведама, тры гады таму зрокся становішча прэзыдэнта БЦР і адышоў ад усякай дзейнай палітыкі. Матыў Вам ведамы — гэта немагчымасьць выконваць свой абавязак у сувязі з сваім здароўем і з сваім векам. Я, дзякуй Богу, хоць ужо стары, але яшчэ пры здравом уме і цьвёрдай памяці, каб ня ведаць, што я магу і чаго не магу. Што ж датычыць добрае рады, дык па сёньняшні дзень кожнаму, хто да мяне зварочваецца, я перасылаю сваю шчырую раду, а ці яна добрая, ці благая — судзіць ня мне. Вы мае рады не пыталіся, выдаючы свой нетактоўны, мякка выражаючыся, абежнік. Я не хацеў Вам на яго адказваць і рашыў чакаць, просячы Др. Арэхву і гасп. А. Сякевіча прыслаць мне ўсе копіі тых пісем, якія яны атрымаюць у выніку Вашага заклiку. І што ж? да гэтага часу ані я, ані Др. Арэхва, ані г. А. Сянькевіч нічога ад нікога не атрымалі. Дык нашто ж было рабіць такую недарэчнасьць? Я ведаю, што вы хацелі яшчэ раз укалоць мяне, але… я так ужо прывык да Вашых уколаў, што яны болей на мяне ня дзеюць. Але, калі б Вы толькі хацелі ўкалоць мяне, дык гэта поўбяды — я прывык, аднак па-што Вы ў ім абразілі абсалютна ўсіх грамадзкіх нашых дзеячоў, абзываючы іх шкурнікамі, якія, калі што і рабілі, дык толькі для сваёй карысьці. Можа вы ўжо ня памятаеце, што Вы там напісалі? Дык прачытайце цяпер і самі пераканаецеся, што гэта быў вялікі нетакт з Вашага боку, Дзімачка, усё тое, што Вы робіце для грамадзкай справы на міжнародным форуме ўсім ведама і чэсьць Вам за гэта і слава, але пашто ж абражаць другіх?

БЦР упала ў «летаргічны сон» не таму, што нічога ніхто не хацеў, або ня хоча рабіць, а таму, што Старшыня Прэз. Пленуму, на нашае няшчасьце, захварэў паважна, і вось у працягу 3 гадоў нельга было і думаць аб скліканьні Пленуму. Цяпер, дзякуй Богу, ён крыху акрыяў і хоча склікаць пленум на ліпень г. г. аб чым, зразумела, усіх паведаміць. Ці гэты Пленум дасьць нам нейкі пажаданы вынік? Цяжка на гэта адказваць, але гэта для нас вялікая праблема, бо цяжка знайсьці ахвотніка на гэты пасад. Але забягаць наперад ня будзем.

А тое, што вешаюць сабак бальшавікі, не праймайцеся, бо на мяне яны вешаюць такіх сабак ужо вось 48 год, але аднак, «жыв Курылка» — Бог ня выдасьць — сьвіньня ня зьесьць — кажа наша прыказка. Урэшце, горай было б, каб бальшавікі нас хвалілі, бо тады трэба было б шукаць памылку,

якую мы робім. А калі ганяць, дык усё ў парадку і займаная намі пазыцыя правільная.

З пашанаю

*Ваш Р. Астроўскі.*

## ЛІСТ Ю. ВІЦЬБІЧА ДА Р. АСТРОЎСКАГА АД 20.9.74

Глыбокапаважаны сп. Прэзыдэнт, дарагі Радаслаў Казіміравіч!

Магчыма, Вы не атрымалі мой ліст ад 11.9., у якім я адмовіўся ад ветліва нададзенай Вамі мне рангі генэрала, бо надысь дастаў ад Вас ліст ад 12.9., дзе вы мянуеце мяне генэралам і ласкава прапануеце пасаду Старшыні Грамадзкай Апекі. Ад апошняга я цяпер таксама адмаўляюся, і вось чаму.

Слоў няма, у мяне, мабыць, ёсьць правы прысутнічаць на 17-е Сэсіі Пленуму БЦР, бо зьяўляўся:

а) дэлегатам Другога Ўсебеларускага Кангрэсу,

б) адным з трох арганізатараў беларускай партыі вызваленцаў у Эўропе,

в) сябраю Прэзыдыюму Беларускага праваслаўнага аб'яднаньня,

г) старшынёй беларускага літаратурнага згуртаваньня «Шыпшына»,

д) рэдактарам пэрыядычных выданьняў «Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі» і «Беларускае слова»,

дж) сябрам Беларускага (крывіцкага) цэнтральна-дапамаговага камітэту ў Нямеччыне,

дз) міністрам прэсы і прапаганды БЦР, абраным у 1948 г. у Эльвангене і г. д., але

Увосені 1951 г. я наўмысьля і добраахвотна адышоў ад палітычнае дзейнасьці БЦР, каб стацца вылучна літаратарам, якія па свайму фаху яшчэ з 20-х гадоў зьяўляюся.

З таго часу я дагэтуль знаходжуся, як літаратар, на перадавой лініі нашага агульнага фронту ў змаганьні з расейскім бальшавізмам за Незалежнасьць Беларусі, за ажыцьцяўленьне Акту 25 Сакавіка. У гэтым сьвятым змаганьні з нашым зацятым ворагам для мяне не існуе ўнутраных падзелаў нашай эміграцыі, чаму друкаваўся і друкуюся ня толькі ў «Беларускай трыбуне», «Беларускай думцы» і «Царкоўным сьветачу», але і ў «Бацькаўшчыне», «Беларусе», «Запісах», «Божым шляху», «Зьнічу», «Голасе царквы» і г. д., а таксама на расейскай мове ў «Новом Русском Слове», як і ў розных польскіх і ўкраінскіх выданьнях, прапагандуючы нашую вышэйшую нацыянальную

ідэю. І сталая плянка на мой адрас з савецкага боку сьведчыць вылучна аб тым, што мая зброя дасягае мэты.

Калі ўзяць пад увагу, што да скону жыцьця засталося няшмат, дык тым балей трэба й лепш ягоную рэштку скарыстаць паводле сваіх прыроджаных здольнасьцяў і галоўнага прызначэньня, як літаратар.

А што датычыць рангі генэрала, дык мяне і змагара цалкам задавальняе ранга лейтэнанта артылерыі, якую я набыў яшчэ да вайны, а пазьней, як гэткі беспасярэдне падпарадкоўваўся сьвятой памяці генэралу Езавітаву.

Жыве Беларусь!

*Ю. Віцьбіч*

## ЛІСТ АРКАДЗЯ АРЭХВЫ ДА НІКАНДРА МЯДЗЕЙКІ

*Union Hills, 6.26.1976*

*Старшыні 17-га Пленуму БЦР гасп. Н. Мядзейку*

Высокапаважаны Гаспадару!

З прычын ад мяне незалежных я не змагу прыняць удзел у 17-м Пленуме БЦР. Дзеля гэтага прашу перадаць мой голас доктару Мікалаю Мінкевічу, зь якім я ўжо дагаварыўся па тэлефоне.

Жадаю Вам посьпеху ў Пленуме.

З глыбокай пашанай

*Ваш Аркадзь Арэхва.*

## ПАСТАНОВА №1

*20 студзеня 1988 г.*

Выконваючага абавязкі прэзыдэнта БЦР

У сувязі з адыходам у вечнасьць прэзыдэнта БЦР, сьветлай памяці доктара Нікандра Мядзейкі, і згодна з арт. 8 Статуту БЦР, я, Міхаіл Зуй, будучы 1-м віцэ-прэзыдэнтам з гэтага дня, 20 студзеня 1988 г., абыймаю становішча выконваючага абавязкі прэзыдэнта Беларускай Цэнтральнай Рады.

Пераймаючы гэтае становішча, я поўнасьцю ацэньваю важнасьць і адказнасьць перажываючай хвіліны перад народам і гісторыяй і аддаю сябе на службу Бацькаўшчыне — каб супольна зь лепшымі сынамі Беларускага Народу дапамагчы вызваліць яе зь няволі акупантаў.

* * *

*Аўстралія, 23.10.1994*

*Яго міласьці Старшыні Выканаўчага Органу*

*Сп. Віталю Цярпіцкаму*

Ветліва паведамляю Вас, што ў сувязі зь цяжкім і пагаршаючым станам майго здароўя, ратуя ідэю БЦР высылаю дэкрэты назначэньня спадара Расьціслава Завістовіча на імя 1-га заступніка Прэзыдэнта БЦР і генэрала Ўладзіміра Сідлярэвіча на старшыню Дэлегатуры БЦР у Аўстраліі.

Адначасна ветліва прашу Вас навязаць зь імі супрацу па лініі БЦР на карысьць Беларусі.

Жыве Беларусь!

*М. Зуй, прэзыдэнт БЦР*

* * *

*27 чэрвеня 1995*

Дарагія суродзічы на Бацькаўшчыне і на Эміграцыі!

Вітаю Вас з 50 Угодкамі Другога Ўсебеларускага Кангрэсу, які адбыўся ў сталіцы Беларусі — Менску дня 27 чэрвеня 1944 года, пры ўдзеле 1039 дэлегатаў з этнаграфічнае тэрыторыі Беларусі, не ахопленай вайной.

Ніколі ў гісторыі беларускаму народу не прыйшлося перажыць столькі гора і ліхалецьця, як падчас ІІ Сусьветнае вайны. Беларусь апынулася ў пажары вайны паміж Савецкай Расіяй і Гітлероўскай Нямеччынай.

Ворагі беларускасьці забівалі лепшых сыноў нашага народу, палілі вёскі да хутары, вывозілі насельніцтва, ці то на ўсход, ці на захад. Папросту не было ратунку ў гэты ваенны хаотычны час.

Аднак знайшліся адважныя дзеячы нашага народу, якія, нат, пад пагрозай сьмерці, сарганізавалі пачаткавы самаўрад у форме — Беларускай Самапомачы, якая пазьней ператварылася ў Беларускую Цэнтральную Раду пад кіраўніцтвам праф. Радаслава Астроўскага.

Будучы добрым і мудрым палітыкам прэзыдэнт Р. Астроўскі неадкладна сарганізаваў Беларускую Краёвую Абарону, упарадкаваў дзяржаўнае жыцьцё Беларусі, нягледзячы на жорсткую нямецкую акупацыю і часты супраціў.

Усе гэтыя палітычныя дасягненьні былі ўвенчаныя скліканьнем ІІ Ўсебеларускага Кангрэсу, каб устанавіць у праўнай сіле Акт 25-га Сакавіка 1918 году, які быў юрыдычна пахіснуты Бэрлінскай канфэрэнцыяй у 1925 годзе.

Дарагія Беларусы — Эмігранты! Наша 50-цігадовая грамадзкая праца ня ёсьць змарнаванай. Мы зьяўляемся прыкладам нязломнай волі беларускага народу, каб быць гаспадаром на сваёй зямлі. Мы зьберагглі тут на чужыне чысьціню беларускай мовы, культуру, рэлігію і г. д. і ўсё гэта перадалі нашаму новаму пакаленьню.

Будзем верыць у тое, што ідэалы І-га і ІІ-га Ўсебеларускага Кангрэсаў будуць належна дацэненыя ў сучаснай Рэспубліцы Беларусь.

Жыве Беларусь!

*М. Зуй — прэзыдэнт,*
*Віталь Цярпіцкі — сакратар.*
*Сыднэй (Аўстралія)*

## УПАЎНАВАЖАНЬНЕ

У сувязі з маім цяжкім станам здароўя, на прапанову сябраў БЦР, у выпадку маёй сьмерці, усе паўнамоцтвы і абавязкі Прэзыдэнта БЦР даручаю да выкананьня Старшыні Выканаўчага органу сп. Віталю Цярпіцкаму да скліканьня 20-га Пленуму БЦР, або перадаючы іх 3-му Ўсебеларускаму Кангрэсу ў Вольнай і Незалежнай Беларусі.

Жыве Беларусь!

*М. Зуй*

# БІЯГРАФІІ

**Надзея Абрамава**. Нарадзілася 30 сакавіка 1907 г. на Міншчыне. Дачка мастака Аляксандра Абрамава-Сушынскага. Скончыла Мінскі вышэйшы педагагічны (1935) і Мінскі медычны інстытуты (1940), працавала ва ўніверсітэцкай псіхіятрычнай клініцы.

Падчас нямецкай акупацыі спалучала доктарскую практыку з грамадскаю дзейнасцю, з сярэдзіны 1942 г. узначальвала аддзел апекі над дзецьмі ў Беларускай народнай самапомачы. Удачарыла двухгадовую дзяўчынку габрэйскага паходжання.

22 чэрвеня 1943 г. прызначаная галоўнаю кіраўнічкай юначак СБМ. У ліпені 1943 г. прызначаная чальцом Рады даверу. 15 верасня 1944 г. узначаліла Жаночы аддзел пры БЦР.

Пасля вайны брала ўдзел у аднаўленчым Пленуме БЦР у Эльвангене (травень 1948 г.), радная БЦР. Працавала ў Мюнхенскім інстытуце вывучэння СССР, займалася пытаннямі рэлігіі і атэізму. Спрычынілася да пабудовы ў Мюнхене святаром Цімафеем Прохаравым Царквы міру Усходу і Захаду, шмат друкавалася.

У канцы 1950-х перажыла асабістую трагедыю: пры нявысветленых акалічнасцях загінула ейная прыёмная дачка Тамара, што калегі і сябры небеспадстаўна расцанілі як помсту савецкіх спецслужбаў.

Памерла 18 лютага 1979 г. у Мюнхене.

**Антон Адамовіч**. Нарадзіўся 26 чэрвеня 1909 г. у Мінску. Грамадскі дзеяч, літаратуразнавец, гісторык, публіцыст, літаратар.

У 1930 г. асуджаны ў справе Саюзу вызвалення Беларусі на пяць гадоў высылкі.

Падчас нямецкай акупацыі працаваў у Мінскай гарадской управе, «Беларускай газэце», галоўным рэдактарам выдавецтва «Менск», быў сябрам Цэнтралі БНС, рэферэнтам у справах прэсы і прапаганды Генеральнага камісарыяту. Увосень 1943 г. выехаў у Нямеччыну. Працаваў у Антыкамінтэрне і пры Міністэрстве прапаганды Нямеччыны. У студзені 1945 г. уключаны ў склад БЦР. Па вайне — адзін з ідэолагаў Рады БНР. З 1949 г. жыў у ЗША. Сябра БІНіМу.

Памёр 12 чэрвеня 1998 г. Пахаваны на могілках парафіі Жыровіцкай Божай Маці, што ў Іст-Брансўіку (Нью-Джэрзі).

Антон Адамовіч — аўтар па-над сотні большых і меншых друкаваных працаў на літаратурныя, гістарычныя, грамадска-палітычныя тэмы: Адамовіч, Антон. Творы. Нью-Ёрк: БІНіМ, 2003.

**Алесь Алехнік**. Нарадзіўся 31 ліпеня 1929 г. на хутары Перунова (цяпер Лунінецкі р-н Брэсцкай вобл.), у сялянскай сям'і. У 1944 г. разам з бацькамі выехаў у Нямеччыну, жыў у лагеры Ізармос каля Дынгольфінгу. Вучыўся на землямерных курсах у Мюнхене. З 1947 г. жыў у лагеры ў Міхэльсдорфе, падтрымаў прыхільнікаў Р. Астроўскага.

У снежні 1950 г. пераехаў у Аўстралію. Жыў у Сіднэі, браў актыўны ўдзел у грамадскім жыцці. Сябра і доўгагадовы сакратар Беларускага аб'яднання, ад імя якога прадстаўляў беларусаў на разнастайных міжнацыянальных форумах. У 1969–1982 гг. — кіраўнік Краёвага штабу Беларускага вызвольнага фронту, сакратар дэлегатуры БЦР.

Аўтар кнігі ўспамінаў: Алехнік, Алесь. Пад бел-чырвона-белым. Вільня, 1999.

Памёр у 2006 г. Ягоны архіў захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архівемузеі літаратуры і мастацтва ў Мінску.

**Епіскап Апанас** (**Антон Мартас**). Нарадзіўся 8 верасня 1904 г. у в. Завітая (сёння Нясвіжскі р-н Мінскай вобл.). У 1927 г. пастрыжаны ў манахі пад імем Апанас (сам па-беларуску падпісваўся Афанасій). Скончыў багаслоўскі факультэт Варшаўскага ўніверсітэту (1930). Быў намеснікам настаяцеля Яблочынскага манастыра. У 1942 г. у Мінску высвячаны на епіскапа Віцебскага і Полацкага БАПЦ.

З 1944 г. — на эміграцыі. Разам з іншымі іерархамі ўвесну 1946 г. перайшоў у юрысдыкцыю РЗПЦ. Адміністратар Паўночнанямецкага вікарыяту Нямецкай епархіі РЗПЦ. Выкладаў рэлігію ў беларускай гімназіі ў Ватэнштэце, супрацоўнічаў з беларускай праваслаўнай прэсай, выдаў па-беларуску падручнік Старога Запавету. Браў удзел у аднаўленчым пленуме БЦР у Эльвангене (травень 1948), прыняты ў склад БЦР. У 1950–1955 гг. — вікарны епіскап у Аўстраліі. Потым пераехаў у Аргентыну. Епіскап (пазней архіепіскап) Буэнас-Айрэсу і Аргентынска-Парагвайскі. БЦР амаль 20 гадоў беспаспяхова спрабавала пераканаць яго ўзначаліць Беларускую праваслаўную царкву на эміграцыі.

Выдаў кнігу (прадмова па-беларуску): Афанасий, епископ. Беларусь в исторической государственной и церковной жизни. Буэнос-Айрес, 1966. — 292 с. У 1971 г. Сінод РЗПЦ забараніў чытанне і распаўсюд кнігі, а аўтара адлучыў ад рэлігійнай дзейнасці.

Памёр у Буэнас-Айрэсе 3 лістапада 1984 г. Пахаваны на могілках Свята-Траецкага манастыра ў Джорданвіле (Jordanville, штат Нью-Ёрк, ЗША).

**Аркадзь Арэхва**. Нарадзіўся 1 траўня 1910 г. у Глыбоцкім павеце. У 1930-х скончыў юрыдычны факультэт Варшаўскага ўніверсітэту. Браў удзел у Царкоўным саборы 1942 г. Працаваў у аддзеле судоў Мінскай акругі, увесну 1944 г. — у Сакратарыяце БЦР, 20 траўня 1944 г. прызначаны пракурорам Мінскай акругі.

З ліпеня 1944 г. — на эміграцыі. Працаваў у Статутнай камісіі БЦР у Берліне. Скончыў медычны факультэт Мюнхенскага ўніверсітэту (1953). Кіраваў дэлегатураю БЦР на паўднёвую Нямеччыну. У 1953 г. разам з жонкаю Вольгай і двума сынамі, Юркам і Васілём, эміграваў у ЗША.

Браў актыўны ўдзел у БЦР, з 1953 г. — сакратар унутраных справаў і веравызнанняў, затым — віцэ-старшыня выканаўчага органу, кіраўнік замежнага аддзелу. Быў у складзе рэдакцыі адноўленага ў ЗША ў 1956 г. «Беларускага слова». З 31 кастрычніка 1955 г., пасля адстаўкі Аляксандра Русака, узначаліў Выканаўчы орган БЦР. У 1959 г. згарнуў грамадскую дзейнасць, выехаў у Дыксан (Іліной), дзе працаваў доктарам.

Памёр 27 лютага 1993 г.

**Віктар Астроўскі**. Нарадзіўся 28 жніўня 1912 г. у в. Засімавічы (сёння Пружанскі р-н Брэсцкай вобл.), сын Радаслава Астроўскага. Вучыўся на факультэце права Віленскага ўніверсітэту, быў сябрам Беларускага студэнцкага саюзу, арганізацыі «Скарынія». Скончыў агранамічны факультэт Пазнанскага ўніверсітэту (інжынер-аграном). У кастрычніку 1939 г. у Вільні арыштаваны Саветамі і асуджаны на восем гадоў лагераў, тэрмін адбываў у Варкуце (Расія). З канца 1941 г. — у Арміі Андэрса, што ваявала супраць нацыстаў у складзе брытанскіх узброеных сілаў.

З 1946 г. жыў у Вялікай Брытаніі, працаваў на вугальных шахтах, потым 20 гадоў — у друкарні. Займаўся вывучэннем картаграфіі Беларусі. Аўтар некалькі кніг па беларускай картаграфіі і старажытных назвах Беларусі, а таксама публіцыстычных брашураў і артыкулаў, прысвечаных гісторыі XX ст. ды скіраваных супраць апанентаў БЦР. У 1960-х займаўся выданнем часопісу «Аб’еднаньне», які ў 1960-х стаў фактычна друкаваным органам БЦР. Збіраў калекцыю мапаў, якую пасля ягонай смерці перадалі ў Скарынаўскую бібліятэку.

Памёр 31 жніўня 1975 г., пахаваны ў Лондане.

**Міхаіл Астроўскі**. У 1920–1930-я гады жыў у Мінску. У ліпені 1941 г. з сям’ёй пераехаў у Слонім, быў дырэктарам мясцовай настаўніцкай семінарыі.

15 студзеня 1944 г. запрошаны Р. Астроўскім у БЦР. Кіраваў фінансавым аддзелам БЦР. У 1945 г. арыштаваны савецкімі органамі бяспекі і асуджаны на 10 гадоў лагераў.

**Радаслаў Астроўскі**. Прэзідэнт Беларускай Цэнтральнай Рады. Нарадзіўся 6 лістапада (25 кастрычніка паводле старога стылю) 1887 года на хутары Заполле (сёння ў Слуцкім р-не) у заможнай сялянскай сям'і Казіміра і Эміліі Астроўскіх. Браў удзел у Рэвалюцыі 1905 г. (у Слуцку). Паступіў на матэматычны факультэт Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэту. У 1911 г. арыштаваны за ўдзел у студэнцкім страйку і высланы ў Пружаны (да сям'і). Вышэйшую адукацыю атрымаў, скончыўшы ў 1913 г. універсітэт у Тарту. Працаваў настаўнікам матэматыкі і фізікі.

У 1917 г. вярнуўся на Случчыну, абраны прадстаўніком Часовага ўраду, увайшоў у склад Цэнтральнага камітэту Беларускай сацыялістычнай грамады. У ліпені 1917 г. заснаваў Слуцкую беларускую гімназію. Удзельнік Першага Усебеларускага кангрэсу, міністр асветы БНР ва ўрадзе Рамана Скірмунта. У 1919–1920 гг. — у Арміі Дзянікіна, у 1920 г. вярнуўся ў Заходнюю Беларусь. Быў старшынём Польска-амерыканскага камітэту дапамогі пацярпелым ад вайны. У 1923 г. на запрашэнне беларускіх паслоў пераехаў у Вільню, каб узначаліць Віленскую беларускую гімназію, адначасова ў 1930–1932 гг. быў дырэктарам Беларускай духоўнай семінарыі імя Ф. Багушэвіча. У другой палове 1920-х выконваў абавязкі старшыні Таварыства беларускай школы, быў старшынём Беларускага дабрадзейнага таварыства, дырэктарам Беларускага кааператыўнага банку (1925–1926), праз які ішло з Масквы фінансаванне БСРГ. У пачатку 1930-х Астроўскі адышоў ад актыўнай палітычнай дзейнасці, сканцэнтраваўшыся на педагогіцы. У 1936 г. загадам міністра асветы Польшчы высланы ў Лодзь, дзе выкладаў у мясцовай гімназіі. З пачаткам Другой сусветнай вайны ўзначаліў у Лодзі Беларускі камітэт.

У ліпені—верасні 1941 г. узначальваў адміністрацыю Мінскай акругі (Мінскае намесніцтва). У выніку канфлікту з генеральным камісарам Беларусі В. Кубэ выехаў ва ўсходнія рэгіёны, узначальваў адміністрацыю Бранскай, Смаленскай, Магілёўскай акруг.

З 21 снежня 1943 г. — старшыня Беларускай Цэнтральнай Рады.

З ліпеня 1944 г. — на эміграцыі. У верасні 1945 г. быў вымушаны прыпыніць дзейнасць БЦР, аднавіў вясной 1948 г. Жыў у Нямеччыне, Аргентыне, у 1952 г. вярнуўся ў Нямеччыну, у 1954 г. выехаў да сына ў Англію. У 1962 г. пераехаў да дачкі і зяця ў ЗША пад лекарскі нагляд. У тым жа 1962 г. прыпыніў дзейнасць БЦР. Аднавіў дзейнасць БЦР у 1974 г.

Памёр у шпіталі Мэрсі (Mercy) у Бэнтан-Гарбары ў штаце Мічыган ва ўзросце 89 гадоў. Паводле тастаменту пахаваны на могілках Беларускай праваслаўнай царквы св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі, ЗША).

Больш падрабязна пра Р. Астроўскага можна прачытаць у ягонай аўтабіяграфічнай кнізе: Kalush, V. In the service of the people for a free Byelorussia: biographical notes on Professor Radoslav Ostrowski. London: Abjednannie, 1964. — 92 p.; Жывіца, Юры. Радаслаў Астроўскі — прэзідэнт БЦР. [Нямеччына], Вехі, 1984. — 104 с.

**Аляксандр Аўдзей**. 7 лютага 1944 г. прызначаны намеснікам прэзідэнта БЦР на Слонімскую акругу.

**Якуб Бабіч**. У 1930-х — падхаружы польскага войска. 25 лютага 1944 г. прызначаны камендантам БКА на Вілейскую акругу.

**Пётра Бакач**. Нарадзіўся ў 1910 г. у Вільні. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, браў удзел у заходнебеларускім грамадскім руху, належаў да арганізацыі «Змаганне». Быў асуджаны польскімі ўладамі на 4 гады зняволення. Па вызваленні выехаў у Чэхію, скончыў Карлаў універсітэт у Празе. Даследаваў гісторыю беларускай літаратуры, друкаваўся ў часопісах «Іскры Скарыны» і «Рэха». Аўтар «Падручніка нямецкага языка для Беларусаў». У канцы 1943 г. узначаліў Берлінскі аддзел Беларускага камітэту самапомачы, працаваў у беларускім аддзеле Міністэрства прапаганды. 20 студзеня 1945 г. стаў радным БЦР.

Пад канец вайны арыштаваны савецкімі органамі бяспекі і вывезены ў СССР. Асуджаны, пакаранне адбываў у Магаданскай вобл. Вызвалены, у Беларусь не вярнуўся.

**Аляксандр Буглай**. Нарадзіўся 7 кастрычніка 1910 г. Скончыў Беларускую вайсковую школу ў Мінску. З лета 1944 г. — на эміграцыі. Браў удзел у аднаўленчым Пленуме БЦР у Эльвангене (травень 1948). У канцы 1940-х выехаў у ЗША. Жыў некаторы час у Саўт-Рывэры. Належаў да БЦР. Памёр 22 кастрычніка 1990 г.

**Бернард Букатка**. Нарадзіўся ў 1910 г. на Лідчыне. Вучыўся ў Лідскай гімназіі. У канцы 1920-х быў карэспандэнтам газеты «Голас Віленскі». Быў прызваны ў польскае войска, трапіў у нямецкі палон. Па вызваленні жыў у Берліне. Працаваў у Беларускім прадстаўніцтве, створаным пры Міністэрстве ўнутраных справаў Нямеччыны. З 1943 г. быў яго кіраўніком. 20 студзеня 1945 г. уключаны ў БЦР, прызначаны кіраўніком адміністрацыйнага аддзелу.

У канцы 1940-х пераехаў у ЗША. Жыў у Кліфтане (Clifton, Нью-Джэрзі), у 1957–1959 гг. быў віцэ-старшынём Беларускага кангрэсавага камітэту Амерыкі, належаў да арганізацыі «Амерыканскія прыхільнікі БЦР». У пачатку 1960-х адышоў ад грамадскай дзейнасці.

Памёр 1 лістапада 1990 г.

**Мікалай Буляк**. Нарадзіўся 20 студзеня 1915 г. у Варшаве. Скончыў юрыдычны факультэт Віленскага ўніверсітэту. У часе Другой сусветнай вайны быў старшынём павету ў Навагрудку. 24 студзеня 1944 г. Р. Астроўскі запрасіў яго ў БЦР, але Буляк не змог пакінуць пасады ў Навагрудку.

З лета 1944 г. — на эміграцыі. У Вялікай Брытаніі — з 1946 г. Браў удзел у Першым з’ездзе Згуртавання беларусаў Вялікай Брытаніі (18–19 студзеня 1947 г.), абраны віцэ-старшынём Галоўнай управы. У хуткім часе стаў на чале прыхільнікаў БЦР (апазіцыі ў ЗБВБ), з сакавіка 1948 г. узначаліў Часовую ўправу Хрысціянскага аб’яднання беларускіх работнікаў. Быў адным з заснавальнікаў часопісу «Аб’еднаньне», аднак неўзабаве моцна захварэў і адышоў ад грамадскай дзейнасці.

**Ксенафонт Вайцяхоўскі**. Нарадзіўся 27 жніўня 1899 г. у Старым Свержні (сёння Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.). У 1930-я гг. арганізоўваў культурнае жыццё на Стаўбцоўшчыне, падчас нямецкай акупацыі працаваў у структурах БНС, цывільнай адміністрацыі, быў дэлегатам Другога Усебеларускага кангрэсу. З лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1945 г. узначальваў сацыяльны аддзел пры Беларускім нацыянальным камітэце ў Рэгенсбурзе. Браў удзел у аднаўленчым Пленуме БЦР у Эльвангене (травень 1948), прызначаны віцэ-міністрам асветы і культуры ўраду БЦР.

У верасні 1949 г. разам з сям’ёй выехаў у Арканзас (ЗША), дзе працаваў на зборы бавоўны. Праз некаторы час пераехаў у Саўт-Рывэр. Далучыўся да актыўнага грамадскага жыцця. Браў удзел у жыцці парафіі св. Еўфрасінні Полацкай, належаў да кіраўнічых структураў Беларускага кангрэсавага камітэту. У другой палове 1950-х — пачатку 1960-х узначальваў Злучаны беларуска-амерыканскі дапамаговы камітэт (ЗБАДК), быў актывістам арганізацыі «Амерыканскія прыхільнікі БЦР», уваходзіў у рэдакцыю саўт-рывэрскага часопісу «Беларуская думка», рэгулярна браў удзел у пленумах БЦР.

Памёр 15 траўня 1986 г. Пахаваны на Беларускіх могілках у Саўт-Рывэры.

**Аркадзь Варава**. Нарадзіўся 21 сакавіка 1918 г. у в. Вялікія Жухавічы (сёння Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл.). Падчас нямецкай акупацыі вучыўся ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі, быў курсантам Мінскай афіцэрскай школы.

З лета 1944 г. — на эміграцыі, перайшоў на бок саюзнікаў у Францыі, уступіў у 2-гі Польскі корпус (Армія Андэрса). У Вялікай Брытаніі — з 1946 г. Жыў у Лондане. Быў сябрам ЗБВБ, стаў адным з арганізатараў ХАБР, у 1950–1952 гг. абіраўся на пасаду старшыні арганізацыі, пазней выконваў функцыі сакратара Галоўнай управы. Уклаў уласныя грошы ў набыццё Дому ХАБР у Лондане. Дапамагаў у выданні часопісу «Аб’еднаньне». У 1950–1953, 1955–1957 гг. — старшыня дэлегатуры БЦР у Англіі. Быў сакратаром Беларускага праваслаўнага камітэту ў Лондане.

Памер 13 траўня 1966 г. Пахаваны на *Greenford cemetery* ў Лондане.

**Аляксей Васіленя**. Нарадзіўся 27 сакавіка 1899 г. у в. Малая Бераставіца (сёння Бераставіцкі р-н Гродзенскай вобл.). Ваяваў у генерала Дзянікіна. У 1921 г. вярнуўся на радзіму, працаваў у Беларускім аб’езным тэатры. У 1927–1928 гг. — сакратар Палескага аддзелу БСРГ, Беларускага пасольскага клубу «Змаганне». У часе нямецкай акупацыі — кіраўнік БНС у Слоніме, маёр БКА, кіраўнік канцылярыі Галоўнага камандавання БКА, удзельнік Другога Усебеларускага кангрэсу.

З лета 1944 г. — на эміграцыі, быў сакратаром канцылярыі БЦР у Берліне. У лагерах для перамешчаных асобаў рэдагаваў сатырычны часопіс «Смехам па галаве», у Гамбурзе разам з Сяргеем Хмарам і Міколам Паньковым выдаваў сатырычны часопіс «Маланка». З 1949 г. жыў у Аўстраліі. Браў актыўны ўдзел у жыцці беларускай грамады.

Памёр 26 ліпеня 1977 г. у Сіднэі.

**Юрка Віцьбіч** (ад нараджэння Серафім Шчарбакоў, на эміграцыі — Юры Стукаліч). Нарадзіўся 2 чэрвеня 1906 г. у Веліжы Віцебскай губ. (сёння Расія) у сям’і святара. Уваходзіў у літаб’яднанне «Узвышша», у 1939 г. быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў СССР. Падчас Другой сусветнай вайны выдаў два зборнікі публіцыстыкі: «Вяліжскія паўстанцы» і «Нацыянальныя святыні» (Берлін, 1944). Быў сябрам Беларускага культурнага згуртавання, рэдактарам адноўленага часопісу «Узвышша», адзіны нумар якога быў падрыхтаваны вясной 1944 г. Удзельнік Другога Усебеларускага кангрэсу.

З лета 1944 г. — на эміграцыі. З 1946 г. — у Нямеччыне, жыў у Міхэльсдорфе, стварыў літаратурнае аб’яднанне «Шыпшына», выдаваў аднайменны часопіс, а таксама часопісы «Звіняць званы Святой Сафіі», «БІС». Быў адным з кіраўнікоў Беларускага праваслаўнага аб’яднання, супрацьстаяў пераходу беларускіх епі-

скапаў у РЗПЦ. Уваходзіў у кіраўніцтва Беларускага цэнтральна-дапамаговага камітэту, але неўзабаве быў адхілены. Падтрымаў прыхільнікаў Астроўскага, стаў адным з ідэолагаў БЦР, друкаваў публіцыстычныя артыкулы, рэдагаваў «Беларускае слова». Браў удзел у аднаўленчым Пленуме БЦР у Эльвангене (травень 1948), у першым урадзе БЦР быў міністрам прэсы і прапаганды.

У 1949 г. пераехаў у ЗША. Браў удзел у першым сходзе прыхільнікаў БЦР у ЗША (20 лістапада 1949 г.). Ва ўрадзе БЦР 1952 г. — міністр прапаганды. У сярэдзіне 1950-х адышоў ад актыўнай палітычнай дзейнасці. Супрацоўнічаў з расійскамоўным друкам, прапагандуючы беларускую ідэнтычнасць, з радыё «Свабода». Быў сябрам БІНіМу.

Памёр 6 студзеня 1975 г. Пахаваны на Беларускіх могілках у Саўт-Рывэры.

У эміграцыі шмат друкаваўся, найшырэй разышлася ягоная кніга: Віцьбіч, Юрка. Плыве з-пад Святое Гары Нёман. Мюнхен, 1956. — 94 с. Ягоныя творы перадрукоўваліся ў Беларусі: Віцьбіч, Юрка. Лшоно Габоо Бійрушалайм: даваенная проза. Мінск: Кнігазбор, 2011. — 232 с. Падрабязней пра дзейнасць Віцьбіча можна пачытаць: Юрэвіч, Лявон. Шматгалосы эпісталярыум: Гісторыя людзей і ідэй на эміграцыі ў ліставанні. Мінск: Кнігазбор, 2012.

**Леў Высоцкі**. Нарадзіўся 9 красавіка 1913 г. у Лібаве (сёння Ліепая, Латвія). Сын грамадскага дзеяча Хведара Высоцкага, які ў той час працаваў у Латвіі на чыгунцы. Пасля Першай сусветнай вайны сям'я Высоцкіх вярнулася ў Новы Свержань. Скончыў сярэднюю тэхнічную школу ў Ломжы. У польскім войску служыў на флоце. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у банку ў Стоўбцах. З лета 1944 г. — на эміграцыі. З 1949 г. жыў у ЗША. Браў актыўны ўдзел у грамадскім жыцці беларускай грамады, быў скарбнікам Беларускага кангрэсавага камітэту, радным БЦР. Рэгулярна ўдзельнічаў у пленумах БЦР.

Памёр 31 сакавіка 2002 г. Пахаваны на Беларускіх могілках у Саўт-Рывэры побач з бацькамі.

**Хведар Высоцкі**. Нарадзіўся 26 кастрычніка 1887 г. у Новым Свержні (сёння Стаўбцоўскі р-н) у сялянскай небагатай сям'і. Працаваў чыноўнікам на чыгунцы.

З 1944 г. — на эміграцыі. У верасні 1949 г. пераехаў у ЗША, пасяліўся ў Саўт-Рывэры. Браў актыўны ўдзел у беларускім грамадскім жыцці: Злучаным беларуска-амерыканскім дапамаговым камітэце і Беларускім кангрэсавым камітэце, быў радным БЦР, належаў да яе кантрольных органаў. Стараста (1950–1971, з невялікімі перапынкамі) парафіі св. Еўфрасінні Полацкай.

Памёр 17 верасня 1976 г. Пахаваны на Беларускіх могілках у Саўт-Рывэры.

**Леанід Галяк**. Нарадзіўся 31 кастрычніка 1910 г. у Вільні. У 1930–1935 гг. вучыўся на хімічным, але скончыў юрыдычны факультэт Віленскага ўніверсітэту. У часе нямецкай акупацыі працаваў юрыстам у Мінскай акрузе, быў адным з ініцыятараў абвяшчэння аўтакефаліі БПЦ. Увесну 1944 г. — адзін з блізкіх паплечнікаў Астроўскага, браў удзел у нарадах аб арганізацыі Другога Усебеларускага кангрэсу, сакратар Кангрэсу і аўтар пратаколу. З лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1944–1945 гг. — супрацоўнік Галоўнага кіраўніцтва вайсковых справаў БЦР, сакратар Статутнай камісіі. 20 студзеня 1945 г. уключаны ў склад БЦР. У лютым 1945 г. эвакуяваўся разам з іншымі сябрамі Рады ў Гёкстэр. Па капітуляцыі Нямеччыны апынуўся ў Брытанскай зоне акупацыі Нямеччыны. Быў адным з заснавальнікаў Беларускага бюро ў Брытанскай зоне. Адзін з заснавальнікаў Саюзу беларускіх журналістаў на чужыне і выдання «Летапіс беларускай эміграцыі» (1947 г.). Падтрымаў аднаўленне Рады БНР на чале з Міколам Абрамчыкам, увесну 1948 г. афіцыйна адмовіўся ад прапановы Астроўскага далучыцца да БЦР.

З 1949 г. жыў у ЗША (напачатку ў Нью-Ёрку). Адзін з заснавальнікаў і першы рэдактар газеты «Беларус» (1950–1951), неўзабаве адхілены ад выдання. Сябра БАЗА. У 1953 г. пераехаў у Стэмфард (Канэтыкут), у 1953–1956 гг. уваходзіў ва ўправу Стэмфардскага аддзелу БАЗА. У 1955 г. выйшаў з Рады БНР, а ў наступным годзе і з БАЗА. Далучыўся да Камітэту незалежнай Беларусі.

Памёр 3 красавіка 1980 г. Пахаваны на Беларускіх могілках у Іст-Брансўіку.

Аўтар мемуараў: Галяк, Леанід. Успаміны: у 2 кн. Кн. 1. ЗША: Летапіс, 1982; Кн. 2. ЗША: Летапіс, 1983. У 2-й кнізе дэталёва расказваецца пра жыццё на выгнанні (Нямеччына, ЗША).

**Міхась Ганько**. Нарадзіўся 28 лютага 1918 г. на хутары Калядзіна пад Маладзечнам у заможнай сялянскай сям'і. Скончыў Маладзечанскую гімназію (1938), паступіў на медычны факультэт Віленскага ўніверсітэту. У 1939–1941 гг. настаўнічаў, працаваў бухгалтарам. У траўні 1941 г. прызваны ў Чырвоную Армію, у ліпені 1941 г. трапіў у палон. Стараннямі Фабіяна Акінчыца вызвалены, скончыў школу прапагандыстаў у Вустраве (Wustrow) пад Берлінам. У пачатку 1942 г. накіраваны ў Мінск на працу ў Генеральны камісарыят. Прызначаны Кубэ кіраўніком Саюзу беларускай моладзі, заснаваў часопіс «Жыве Беларусь!». 26 чэрвеня 1944 г. уключаны ў БЦР. З ліпеня 1944 г. — на эміграцыі. Аднавіў дзейнасць штабу СБМ у Судэтах, у горадзе Тропаў (Troppau, сёння — Опава, Opava), прапагандаваў ідэю стварэння Саюзу вызвалення Беларусі.

24 студзеня 1945 г. пакінуў Тропаў, у канцы красавіка 1945 г. жыў у Празе. Паводле адных звестак, загінуў у Празе ў траўні 1945 г., паводле іншых — вярнуўся ў Беларусь ці Польшчу, дзе ўдзельнічаў у антысавецкім партызанскім руху.

**Іван Гінько**. Нарадзіўся 3 студзеня 1912 г. Скончыў Варшаўскі політэхнічны інстытут (1939), спецыяльнасць — інжынер-геадэзіст. Падчас нямецкай акупацыі — кіраўнік БНС у Глыбоцкай акрузе, 29 лютага 1944 г. прызначаны Астроўскім намеснікам БЦР на Слуцкую акругу, але ў сакавіку пакінуў пасаду. Пераведзены ў Мінск, але 20 траўня 1944 г. канчаткова выключаны са складу БЦР.

З лета 1944 г. — у батальёне «Дальвіц», 17 лістапада 1944 г. дэсантаваўся ў Лідскім р-не, быў арыштаваны, праходзіў у справе шасці кіраўнікоў БНП, атрымаў 25 гадоў лагераў. Высланы ў Інту (сёння Рэспубліка Комі). Вызвалены ў 1956 г. Памёр у 1980-х.

**Кастусь Глінскі**. Нарадзіўся 8 лютага 1906 г. у в. Прытычына Дзісенскага павету. Скончыў юрыдычны факультэт Віленскага ўніверсітэту. Належаў да Беларускага студэнцкага саюзу, быў яго старшынём, выдаваў часопіс «Студэнцкая думка». Пазней — старшыня Згуртавання беларускіх студэнтаў «Скарынія», у 1931–1934 гг. выдаваў часопіс «Новая Варта». Працаваў суддзём у Ашмянах. Увосень 1939 г. арыштаваны саветамі ды асуджаны на 8 гадоў, высланы ў Архангельскую вобл. З кастрычніка 1941 г. — у Арміі Андэрса, працаваў пры вайсковым трыбунале.

З 1946 г. — у Вялікай Брытаніі. Быў сябрам ЗБВБ, аднак у выніку расколу пакінуў арганізацыю. Быў сябрам Беларускага вызвольнага руху, потым кіраўніком Лонданскага аддзелу БВФ і з 1969 г. — ганаровым сябрам Галоўнага штабу гэтай арганізацыі. У 1957–1958 гг. і з 1974 г. — старшыня дэлегатуры БЦР у Вялікай Брытаніі. Быў старшынём філіялу Антыбальшавіцкага блоку народаў у Брытаніі. Удзельнік розных міжнародных форумаў. У 1979–1981 гг. выдаваў часопіс «Званіца».

Аўтар англійскамоўнай брашуры, прысвечанай Беларусі ды яе гісторыі: Glinski, K. Byelorussia. London, 1982.

Памёр 14 чэрвеня 1987 г., пахаваны пры касцёле Андрэя Баболі ў Лондане.

**Станіслаў Грынкевіч-старэйшы**. Нарадзіўся 2 лістапада 1902 г. у в. Новы Двор (сёння Сакольскі павет Падляскага ваяводства Польшчы). Скончыў Пазнанскі ўніверсітэт (спецыяльнасць — псіхіятрыя). Працаваў у клініцы для псіхічна хворых у Познані, з 1934 г. — у псіхіятрычным шпіталі ў Хорашчы пад Беластокам, у 1937 г. перабраўся ў Вільню. Працаваў у 1-й Віленскай палікілі-

ніцы. Быў адным з лідараў БХД. Аўтар шматлікіх артыкулаў па медыцыне на беларускай і польскай мовах, перакладаў рэлігійных тэкстаў на беларускую мову.

Падчас нямецкай акупацыі жыў у Вільні, узначальваў Беларускае навуковае таварыства, належаў да нацыянальнага падполля. У студзені 1944 г. запрошаны Астроўскім у БЦР, але ад прапановы адмовіўся. Улетку 1944 г. не эвакуяваўся. У хуткім часе арыштаваны саветамі і расстраляны 25 ліпеня 1945 г. пад Магілёвам.

**Уладзімір Гуцька**. Нарадзіўся 25 снежня 1921 г. у в. Цякалаўшчына Нясвіжскага павету. Служыў у Арміі Андэрса, разам з якой апынуўся ў Вялікай Брытаніі. Быў сябрам ЗБВБ, заснавальнікам і першым старшынём аддзелу ў Манчэстэры. У 1950-х гг. выехаў у Канаду, жыў у Ўініпэгу, уваходзіў у Беларускі нацыянальны камітэт, быў кіраўніком дэлегатуры БЦР у Ўініпэгу.

**Язэп Гуцька**. Нарадзіўся 24 снежня 1883 г. у в. Брацянка Навагрудскага павету. Скончыў пяхотнае вучылішча ў Вільні, у жніўні 1904 г. у чыне падпаручніка накіраваны ў 22-гі ўсходнесібірскі стралковы полк. Удзельнік Расійска-японскай вайны. За баявыя заслугі ўзнагароджаны найвышэйшымі ордэнамі Расіі — св. Ганны 4-й ступені і св. Станіслава 3-й ступені. У 1909 г. паступіў у Імператарскую ваенную акадэмію. З 23 жніўня 1916 г. у чыне падпалкоўніка займаў пасаду памочніка старшага ад’ютанта аддзелу генерал-квартэрмайстара штабу 9-й арміі.

Пасля рэвалюцыі 1917 г. вярнуўся на Навагрудчыну, працаваў адвакатам пад кіраўніцтвам Паўла Свірыда. У 1939–1941 гг. арыштаваны НКВД, з пачаткам нямецка-савецкай вайны вярнуўся на Навагрудчыну. 15 ліпеня 1942 г. быў прызначаны начальнікам Галоўнага штабу Беларускай самаахoвы (у чыне падпалкоўніка).

У 1944 г. адмовіўся ўзначаліць Штаб БКА. З лета 1944 г. — на эміграцыі. Быў пры 1-м кадравым батальёне БКА, 27 лістапада 1944 г. прысвоенае званне палкоўніка.

У канцы 1940-х выехаў у ЗША, удзелу ў грамадскім жыцці не браў праз кепскі стан здароўя. Памёр 8 ліпеня 1956 г. у Спрынгфілдзе (Springfield, Канэтыкут).

**Язэп Дакіневіч**. Нарадзіўся ў 1906 г. на Слонімшчыне. У 1930-х — падхаружы польскай арміі. Быў у самаахове ў Слонімскай акрузе. 25 лютага 1944 г. прызначаны акруговым намеснікам БКА. Пасля вайны выехаў у Бразілію, быў дэлегатам Беларускага цэнтральнага прадстаўніцтва.

**Антон Даніловіч** (асноўны псеўданім — **Янка Золак**). Нарадзіўся 1 лістапада 1912 г. у в. Лучнікі Слуцкага павету. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у «Газэце Случчыны».

З лета 1944 г. — на эміграцыі. У Заходняй Нямеччыне памнажаў на друкарскай машынцы творы беларускіх пісьменнікаў і гісторыкаў: У. Дубоўкі, У. Жылкі, Т. Лебяды, У. Ігнатоўскага ды інш.

У 1950 г. пераехаў у ЗША, пасяліўся ў Нью-Джэрзі. Працягваў выдаваць кнігі беларускіх пісьменнікаў, а таксама насценныя беларускія календары. Заснаваў Беларускае культурна-мастацкае і навуковае таварыства. З 1960 г. — галоўны рэдактар часопісу «Беларуская думка» (рэдагаваў №1–6, №10— №26 да 1983 г.). Браў удзел у кангрэсах беларусаў Амерыкі, належаў да кіраўнічых органаў БККА, быў сябрам БЦР, выбіраўся на пленумы як дэлегат ад «Беларускай думкі» ці ад Згуртавання беларускіх патрыётаў.

Памёр 30 снежня 2000 г. Пахаваны на Беларускіх могілках у Саўт-Рывэры.

Кнігі: Золак, Янка. Творы: у 2 т. Т. 1. Саўт-Рывэр, 1979; Т. 2. Саўт-Рывэр, 1981; Золак, Янка. Вятрыска з радзімай краіны / Укл. Л. Пранчак. Мінск, 1996. — 311 с.

**Аляксандр Дарафейчык** (1915–1985), грамадскі дзеяч, прыхаджанін царквы св. Еўфрасінні Полацкай. На 13-м Пленуме БЦР у 1977 г. абраны галоўным скарбнікам выканаўчага органу БЦР. Пахаваны на Беларускіх могілках у Саўт-Рывэры.

**Мікалай Дзямідаў**. Нарадзіўся 10 снежня 1888 г. У 1918 г. займаўся арганізацыяй беларускіх вайсковых фармаванняў супраць Чырвонай Арміяй, быў камендантам Гродна, удзельнічаў у Палескім паходзе Булак-Балаховіча. З 1923 г. жыў у Латвіі. Арганізаваў таварыствы «Беларуская хатка» і «Рунь»; працаваў у грамадскіх арганізацыях. Рэдагаваў часопіс «Школа і жыццё» (1930). Падчас нямецкай акупацыі настаўнічаў у Латгаліі. У 1942 г. пераехаў у Беларусь, быў школьным інспектарам у Лідскай акрузе. Удзельнік і прамоўца Другога Усебеларускага кангрэсу.

З лета 1944 г. — на эміграцыі. Быў намеснікам кіраўніка падафіцэрскіх курсаў БКА ў Берліне. Падтрымаў аднаўленне БНР у 1947 г. на чале з Абрамчыкам. З 1950 г. — у ЗША, пасяліўся ў Чыкага, перайшоў у БЦР, у 1955 г. прызначаны кіраўніком аддзелу ўнутраных справаў.

Памёр 23 траўня 1967 г. у Чыкага.

**Аркадзь Евец**. Нарадзіўся 3 чэрвеня 1904 г. у в. Каўшова на Гродзеншчыне. Падчас Другой сусветнай вайны жыў у Беластоку, займаўся музычнаю дзейнасцю. З лета 1944 г. — на эміграцыі. Разам з жонкаю Раісай Евец па вайне жыў

у Ватэнштэце, браў удзел у аднаўленчым Пленуме БЦР у Эльвангене (травень 1948), абраны радным БЦР.

З 1949 г. — у ЗША, жыў у Саўт-Рывэры. Браў актыўны ўдзел у грамадскім жыцці беларусаў Саўт-Рывэра і Нью-Джэрзі. Заснаваў царкоўны хор пры парафіі св. Еўфрасінні Полацкай, выкладаў у парафіяльнай школе. З 1956 г. — адзін з адміністратараў адноўленай у ЗША газеты «Беларускае слова».

Памёр 3 ліпеня 1985 г., пахаваны на Беларускіх могілках у Саўт-Рывэры.

**Раіса Евец** (дзявочае **Палуйчык**). Нарадзілася 2 ліпеня 1915 г. у Гродне. Паводле адукацыі — настаўніца. Працавала сакратаром БЦР. З лета 1944 г. — на эміграцыі. Па сканчэнні вайны апынулася ў Браўншвайгу. Была сакратаром Беларускага бюро. Брала ўдзел у аднаўленчым Пленуме БЦР у Эльвангене (травень 1948).

У 1949 г. разам з мужам Аркадзем Еўцам пераехала ў ЗША, жыла ў Саўт-Рывэры. Брала актыўны ўдзел у жыцці беларускай грамады, спявала ў свецкім хоры. Належала да БЦР, уваходзіла ў склад Палітычнай камісіі БЦР, Дысцыплінарнага суда.

Памерла 9 ліпеня 1966 г. Пахаваная на Беларускіх могілках у Саўт-Рывэры.

**Канстанцін Езавітаў**. Грамадскі і вайсковы дзеяч, выдавец, педагог. Нарадзіўся 5 лістапада 1893 г. у Дзвінску (сёння Даўгаўпілс, Латвія). У Першую сусветную вайну праводзіў работу сярод салдатаў-беларусаў Паўночнага фронту, у 1917-м — намеснік старшыні Цэнтральнай беларускай вайсковай рады. Удзельнік Першага Усебеларускага кангрэсу (снежань 1917 г.), у лютым 1918 г. — беларускі вайсковы камендант Мінску. Народны сакратар вайсковых справаў, браў удзел у абвяшчэнні незалежнасці БНР. У 1919–1920 гг. быў кіраўніком Вайскова-дыпламатычнай місіі БНР у Латвіі ды Эстоніі. У 1921–1944 гг. узначальваў Беларускае нацыянальнае аб’яднанне ў Рызе, займаўся арганізацыяй беларускіх школаў. Чатыры разы арыштоўваўся ўладамі Латвіі.

У часе Другой сусветнай вайны займаўся арганізацыяй у Латвіі беларускіх школаў. 26 чэрвеня 1944 г. увайшоў у склад БЦР. З лета 1944 г. — на эміграцыі. Удзельнічаў у берлінскіх паседжаннях БЦР, з кастрычніка 1944 г. — кіраўнік Вайсковага ўпраўлення БЦР (г. зн. фактычна міністр абароны БЦР), вёў перамовы з украінцамі і латышамі аб стварэнні супольнага блоку барацьбы супраць бальшавікоў у піку Уласаўскаму камітэту. 12 студзеня 1945 г. Астроўскі прысвоіў яму званне генерал-маёра Беларускага войска.

У красавіку 1945 г. быў арыштаваны супрацоўнікамі савецкай дзяржбяспекі і перавезены ў Мінск. Паводле афіцыйнай версіі, памёр падчас следства ад

сухотаў і дыстрафіі 23 траўня 1946 г., паводле іншых звестак — расстраляны. У турме напісаў пад дыктоўку НКУС успаміны («Воспоминания») пра сваю дзейнасць, у тым ліку і падчас вайны (ягоны «Кароткі жыццяпіс» прыводзіцца ў кнізе: Юрэвіч, Лявон. Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі. Нью-Ёрк: БІНіМ, 1999. С. 261–270.

**Іван Ермачэнка**. Нарадзіўся 13 траўня 1894 г. у в. Капачэўка Барысаўскага павету. Скончыў гімназію ў Маскве, куды пераехаў бацька — чыгуначны рабочы. Вучыўся на электратэхнічным факультэце, з пачаткам Першай сусветнай вайны быў добраахвотнікам у арміі. Скончыў школу прапаршчыкаў, адпраўлены на фронт. Даслужыўся да паручніка. У 1917 г. трапіў у палон, па вызваленні далучыўся да Белай арміі, быў ад'ютантам (у званні палкоўніка) генерала Урангеля — камандуючага Паўднёвай арміяй. Разам з арміяй у 1920 г. з Крыму эвакуяваўся ў Канстанцінопаль (Турцыя). У Канстанцінопалі далучыўся да беларускай грамадскай працы, у 1921 г. заснаваў Беларускі камітэт, атрымаў паўнамоцтвы ад кіраўніка ўраду БНР Ластоўскага, быў прадстаўніком БНР у Канстанцінопалі ды генеральным консулам БНР на Балканах. Каардынаваў выезд беларусаў з Арміі Урангеля ў Літву, Польшчу, Заходнюю Еўропу, ЗША. Заснаваў консульскія аддзелы ў Балгарыі ды Югаславіі. У 1922 г. ажаніўся з Верай Шэфер — дачкою буйнога землеўласніка з Малдовы. У 1922 г. пераехаў у Прагу, паступіў на медычны факультэт Карлава ўніверсітэту, які скончыў у 1929 г. Падчас Берлінскай канферэнцыі беларускіх дзеячаў (1925) не пагадзіўся прызнаваць савецкі Мінск цэнтрам беларускага руху. Застаўся ў Празе, адчыніў лекарскі кабінет, меў добрую практыку, браў актыўны ўдзел у грамадскім жыцці, фундаваў розныя беларускія праекты, узначальваў беларускі аддзел спартовага таварыства «Сокал».

20 красавіка 1939 г. разам з Васілём Захаркам напісаў мемарандум Гітлеру з просьбай улічыць беларускае пытанне ў выпадку вайны. Развіў бурную палітычную дзейнасць, з 22 кастрычніка 1941 г. — старшыня Беларускай народнай самапомачы. У 1942 г. узначаліў Раду мужоў даверу пры генеральным камісары, Беларускі корпус самааховы, стварыў Беларускае навуковае таварыства. Увесну 1943 г. у часе канфлікту СС з цывільнай адміністрацыяй быў зняты з пасадаў па абвінавачанні ў эканамічных злоўжываннях і высланы ў Прагу пад хатні арышт. Пасля забойства Кубэ арыштоўваўся як падазраваны ў арганізацыі замаху. Быў адным з ініцыятараў абвяшчэння аўтакефаліі Беларускай праваслаўнай царквы.

Увесну 1945 г. выехаў з Прагі ў Заходнюю Нямеччыну, па сканчэнні вайны працаваў доктарам у органах *UNRRA*. Выехаў у ЗША ў 1947 г., быў адным з заснавальнікаў Злучанага беларуска-амерыканскага дапамаговага камітэту, які

займаўся запрашэннем і пераездам беларусаў у ЗША. На Пленуме БЦР 1948 г. завочна прызначаны прадстаўніком БЦР у ЗША.

У пачатку 1950-х адышоў ад актыўнай грамадскай дзейнасці, прысвяціўшы сябе доктарскай практыцы (быў у дырэкцыі шпіталю ў горадзе Бінхэмтан (штат Нью-Ёрк). Далейшы ягоны ўдзел абмяжоўваўся прыездам на буйныя грамадскія святкаванні ў Саўт-Рывэр і фінансавымі данацыямі на розныя праекты. Адна з апошніх імпрэзаў, у якой браў удзел доктар Ермачэнка, — святкаванне 25-х угодкаў Другога Усебеларускага кангрэсу ў рэсорце «Бэлэйр-Менск» у жніўні 1969 г. На гэтым святкаванні Ермачэнка выступаў з асноўным дакладам.

Памёр 25 лютага 1970 г. у Дэлрэй-Біч (Delray Beach, Флорыда).

**Іван Жарскі**. Нарадзіўся 16 ліпеня 1899 г. у в. Жары каля Даўгінава (сёння Вілейскі р-н) у сялянскай сям'і. Скончыў Віленскую духоўную семінарыю. Служыў у мястэчку Мураванка каля Шчучына, затым у Рудоміне каля Вільні. З 1929–1936 гг., 1939–1944 гг. быў святаром у Радашковічах.

З лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у лагерах для перамешчаных асобаў, служыў у Гайдэльбэргу (Heidelberg) і Мангайме (Mannheim). У 1946 г. быў у складзе ўправы Беларускага праваслаўнага аб'яднання, перайшоў у РЗПЦ, але трымаўся беларускага грамадскага жыцця, падтрымаў прыхільнікаў Астроўскага, браў удзел у аднаўленчым Пленуме БЦР у Эльвангене (травень 1948). Радны БЦР.

У 1954 г. пераехаў з сям'ёй у ЗША, належаў да юрысдыкцыі Паўночнаамерыканскай мітраполіі РПЦ, служыў у царкве Хрыста-Збаўцы ў Нью-Ёрку (1954–1958), затым другім святаром у царкве св. Феадосія ў Кліўлэндзе.

Памёр 21 верасня 1968 г. у Кліўлэндзе. Пахаваны на могілках Свята-Ціхаўскага манастыра ў Пенсільваніі.

**Платон Жарскі**. Нарадзіўся ў 1901 г. у Слуцкім павеце. Дацэнт Беларускага ўніверсітэту (мовазнаўства). Падчас нямецкай акупацыі працаваў у гарадской адміністрацыі, быў загадчыкам школьнага аддзелу гарадской управы, інспектаваў беларускія школы ў Мінску. Уваходзіў у Беларускае навуковае таварыства (намеснік старшыні). Распрацаваў праект адкрыцця за немцамі Беларускага ўніверсітэту. Падчас Другога Усебеларускага кангрэсу — старшыня мандатнай камісіі.

Застаўся ў Мінску. Павешаны ў 1945 г.

**Піліп Жук**. Аграном паводле адукацыі, кіраваў зямельным аддзелам гарадской управы. 29 лютага 1944 г. прызначаны намеснікам прэзідэнта БЦР на Мінскую акругу.

**Віктар Ждан**. Нарадзіўся 11 лістапада 1922 г. у Новым Снове Нясвіжскага павету. Падчас нямецкай акупацыі служыў у 13-м Беларускім батальёне, затым у БКА. З лета 1944 г. — на эміграцыі. У канцы 1940-х пераехаў у Канаду, пасяліўся ў Манрэалі, некаторы час быў кіраўніком дэлегатуры БЦР на Канаду. Памёр 23 красавіка 1973 г.

**Міхаіл Завістовіч**. Нарадзіўся 11 траўня 1893 г. на Случчыне. Грамадскі дзеяч. Браў удзел у аднаўленчым Пленуме БЦР у Эльвангене (травень 1948). Эмігравáў у ЗША. Жыў у Саўт-Рывэры. Належаў да БЦР, быў актывістам царкоўнага камітэту парафіі св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рывэры. Памёр у ліпені 1983 г. у Мэрылэндзе (Maryland), дзе жыў ягоны сын Расціслаў Завістовіч.

**Расціслаў Завістовіч**. Нарадзіўся 1 верасня 1928 года на Случчыне. Сын грамадскага дзеяча Міхаіла Завістовіча. З 1944 г. — на эміграцыі, з 1949 г. жыў у Саўт-Рывэры, браў удзел у моладзевым руху: Аб'яднанне беларуска-амерыканскай моладзі. У першай палове 1950-х служыў у амерыканскай арміі ў Нямеччыне. Па дэмабілізацыі вучыўся ў Ратгерскім універсітэце (Нью-Джэрзі), браў удзел у грамадскім руху, фармальна належаў да БЦР. Па сканчэнні ўніверсітэту пераехаў у Вашынгтон. Перакладаў звароты Беларускага кангрэсавага камітэту на англійскую мову, рыхтаваў тэксты, прысвечаныя беларускай тэматыцы, для *Congressional Record* («Запісаў Кангрэсу ЗША»). З сярэдзіны 1960-х на пэўны час адышоў ад актыўнай грамадскай працы, вярнуўшыся да яе толькі ў 1990 г., калі ўзначаліў Беларускі кангрэсавы камітэт Амерыкі. Выступіў з дакладам на 1-м З'ездзе беларусаў свету (ліпень 1993, Мінск).

23 кастрычніка 1994 г. Міхась Зуй прызначыў Р. Завістовіча першым намеснікам прэзідэнта БЦР. Па смерці Зуя ў 1995 г. вёў перамовы з Барысам Рагулем аб аб'яднанні БНР і БЦР.

Памёр 28 лістапада 2006 г. у Вашынгтоне.

**Аўген Занкавіч** (**Занковіч**). Нарадзіўся 21 кастрычніка 1923 г. у Шаркаўшчыне, быў малодшым сынам у сям'і праваслаўнага святара Міхаіла Занкавіча. Падчас нямецкай акупацыі вучыўся ў Пастаўскай настаўніцкай семінарыі, быў кіраўніком СБМ у Паставах.

З лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Беларускім лагеры ў Ватэнштэце, быў кіраўніком лагернай паліцыі, адным з арганізатараў валейбольнай каманды «Нёман». У канцы 1940-х пераехаў у ЗША, жыў у Саўт-Рывэры, браў удзел у грамадскім жыцці беларусаў у Нью-Джэрзі, спяваў у беларускім царкоўным і свецкім харах. Пасля 14-га Пленуму БЦР (верасень 1954) быў прызначаны намеснікам старшыні прэзідыуму Пленуму, г. зн. быў 2-м віцэ-прэзідэнтам БЦР. Меў пяць дачок (жонка Надзея Занкавіч).

Памёр 7 снежня 1997 г. Пахаваны на Беларускіх могілках у Саўт-Рывэры.

**Людвік Зарэчны** (сапр. **Галубовіч**). Нарадзіўся 17 траўня 1915 г. у Ратамцы пад Мінскам. У 1935 г. быў асуджаны на шэсць гадоў зняволення, працаваў у Хабараўску. У Беларусь вярнуўся ў 1941 г., быў мабілізаваны ў Чырвоную Армію. Трапіў у нямецкі палон, вызвалены ўвесну 1942 г. Быў інспектарам нагляду за дзейнасцю мясцовых аддзелаў паліцыі 9-й Арміі Вермахту.

Пасля капітуляцыі Нямеччыны больш за два гады заставаўся пад арыштам. Па вызваленні навязаў кантакты з Брытанскаю вайсковай адміністрацыяй у Нямеччыне. Браў удзел у аднаўленчым Пленуме БЦР у Эльвангене (травень 1948), у 1949–1953 гг. працаваў у Брытанскай кантрольнай камісіі на Нямеччыну дарадцам у пытаннях савецкай сістэмы і яе органаў. Зацікавіў брытанскую выведку арганізацыяй збройнага супраціву ў БССР, ладзіў навучанне дыверсійных групаў.

У 1952 г. пры падтрымцы Р. Астроўскага заснаваў арганізацыю беларускіх вайскоўцаў на эміграцыі — Беларускі вызвольны рух. У 1955 г. адышоў ад справаў арганізацыі і беларускага жыцця ўвогуле. Праз некаторы час стаў падпісвацца як «ксёндз Людвік Тытулярны Пастар Копыльскага Рэфармаванага Каталіцкага Кальвінскага Касцёлу».

Памёр 15 верасня 1964 г. у Мёнхэнглядбаху (Mönchengladbach, Нямеччына).

**Міхась Зуй**. Нарадзіўся 23 кастрычніка 1909 г. у в. Вялікае Сяло (цяпер Шаркаўшчынскі р-н Віцебскай вобл.). У 1932 г. арганізаваў у вёсцы асветны гурток «Кола вясковай моладзі». У 1940–1941 гг. вучыўся ў сельскагаспадарчым паляводчым тэхнікуме ў Глыбокім. Падчас нямецкай акупацыі быў кіраўніком воласці ў Германавічах, затым — кіраўніком Шаркаўшчынскага павету. Належаў да Беларускай незалежніцкай партыі. Быў дэлегатам Другога Усебеларускага кангрэсу. Па эвакуацыі з Беларусі быў у дыверсійным батальёне «Дальвіц», вербаваў у батальён.

Пасля адступлення батальёну апынуўся ў Чэхіі. Быў мабілізаваны ў Чырвоную Армію, уцёк. У 1945–1948 гг. жыў на тэрыторыі Польшчы, пасля пагрозы арышту і арышту сваякоў быў на нелегальным становішчы. У 1948 г. перабраўся

ў савецкую зону акупацыі Нямеччыны, а затым у амерыканскі сектар Берліну, адкуль — у беларускі лагер у Ватэнштэце.

У кастрычніку 1949 г. выехаў у Аўстралію, браў актыўны ўдзел у жыцці беларускай грамады. Удзельнік 1-га З'езду Беларускага аб'яднання ў Аўстраліі (на платформе БЦР) у сакавіку 1950 г., пазней — стваральнік і нязменны старшыня БАА. Ад імя гэтай арганізацыі рэпрэзентаваў беларусаў на імпрэзах і сустрэчах аўстралійскіх грамадскіх ды ўрадавых арганізацыяў. У 1950–60-х — арганізатар і кіраўнік беларускага драматычнага гуртка ў Сіднэі. Кіраўнік дэлегатуры БЦР у Аўстраліі. У 1978 г. — старшыня Беларускага культурна-грамадскага клубу ў Сіднэі. У 1977–1978 гг. — старшыня выканаўчага камітэту Федэральнай рады беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі.

Трэці і апошні прэзідэнт БЦР (афіцыйна абраны на 19-м Пленуме БЦР у кастрычніку 1988 г.).

Памёр 24 красавіка 1995 г. Пахаваны на беларуска-ўкраінскай секцыі могілак Рокўуд (Rookwood) у Сыднэі.

**Рыгор Зыбайла**. Нарадзіўся 15 верасня 1913 г. у в. Ёлкі (цяпер Івацэвіцкі р-н Брэсцкай вобл.). Паводле адукацыі — ляснічы. У 1939 г. трапіў у нямецкі палон, уцёк. Пры пераходзе савецкай мяжы затрыманы памежнікамі. Быў завербаваны савецкімі органамі дзяржбяспекі (псеўданім Ёлкін). У 1942–1943 гг. быў кіраўніком Акруговай управы БНС у Слоніме, з 27 чэрвеня 1943 г. — намеснік старшыні Беларускай самапомачы ў Мінску, сябра ЦК Беларускай незалежніцкай партыі. 25 лютага 1944 г. прызначаны акруговым камендантам БКА ў Глыбокім у званні лейтэнанта. 1 ліпеня 1944 г. прысвоена званне старшага лейтэнанта. Удзельнік Другога Усебеларускага кангрэсу. Быў у дыверсійным батальёне «Дальвіц», потым у 1-м кадравым батальёне БКА, адзін з кіраўнікоў афіцэрскай школы. 1 студзеня 1945 г. прысвоена званне капітана.

Быў арыштаваны савецкімі органамі дзяржбяспекі, асуджаны. Пасля адбыцця пакарання вярнуўся на радзіму.

Памёр 15 лістапада 1987 г. Пахаваны ў Яглевічах Івацэвіцкага р-ну.

**Хведар Ілляшэвіч** (псеўданім **Святаслаў Залужны**). Нарадзіўся 17 лютага 1910 г. у Вільні. Скончыў гістарычны факультэт Віленскага ўніверсітэту. Падчас нямецкай акупацыі жыў у Беластоку, кіраваў Беларускім камітэтам, рэдагаваў штотыднёвік «Новая дарога», друкаваў у ім літаратуразнаўчыя артыкулы, кніжныя рэцэнзіі. Дэлегат Другога Усебеларускага кангрэсу. У ліпені 1944 г. выехаў у Берлін, працаваў у рэдакцыі газеты «Раніца», у Берліне выдаў восем кніжачак у серыі «Народная бібліятэчка» (нарысы і апавяданні Ю. Віцьбіча,

В. Ластоўскага, У. Сядуры, К. Езавітава, М. Шчаглова. Л. Радзіміча). Пасля капітуляцыі Нямеччыны жыў у лагеры Ватэнштэт, настаўнічаў у Беларускай гімназіі імя Багдановіча, апекаваўся скаўтынгам, рэдагаваў часопіс «Шляхам жыцьця» (Ватэнштэт, 1948), які лаяльна ставіўся да Астроўскага і яго прыхільнікаў, рэдагаваў бюлетэнь «Апошнія весткі» (студзень—ліпень 1948). Удзельнік 1-га З'езду праваслаўных беларусаў, што прайшоў у Рэгенсбурзе ў траўні 1946 г., удзельнічаў у 2-м З'ездзе праваслаўных беларусаў (Рэгенсбург, верасень 1946) як дэлегат ад Брытанскай акупацыйнай зоны.

Браў удзел у аднаўленчым Пленуме БЦР у Эльвангене (травень 1948). Загінуў у аўтамабільнай аварыі 6 лістапада 1948 г. пад Ватэнштэтам.

Аўтар кніг: Залужны, С. Навагоднія запросіны: навагодні скэтч. Ватэнштэт, 1946; Залужны, С. У Купальскую ноч: літаратурна-мастацкі мантаж для дзіцячага тэатру. Ватэнштэт, 1946; Песні выгнання. Ватэнштэт: Гаспода Х. І., 1947; Ільляшэвіч, Хведар (Сьвятаслаў Залужны). Апавяданні. Ватэнштэт, 1948; Ілляшэвіч, Хведар. Творы / Рэд., укл. М. Казлоўскі. Варшава, 2000. У 1981 г. на эміграцыі выйшла кніга «Недапетая песня. Жыццё і творчая спадчына Хведара Ілляшэвіча».

**Міхась Іскрыцкі**. Нарадзіўся 23 студзеня 1923 г. У часе Другой Сусветнай вайны працаваў на гаспадарцы, потым служыў у паліцыі. З лета 1944 г. — на эміграцыі, трапіў у 2-гі Польскі корпус пры Брытанскіх узброеных сілах. З 1946 г. жыў у Вялікай Брытаніі. З 1952 г. належаў да Беларускага вызвольнага руху.

У 1953 г. пасля стварэння асобнай дэлегатуры БЦР на Ёркс-Ланкшайр быў абраны кіраўнікам аддзелу культуры, прэсы і прапаганды. У 1958 г. на з'ездзе ў Манчэстэры абраны старшынёй Галоўнай управы БВР. Быў актывістам прыходу БПЦ св. Мікалая ў Манчэстэры. У 1964 г. высвячаны ў святары ў юрысдыкцыі канстанцінопальскага патрыярха.

Аўтар кнігі: Іскрыцкі, Міхась. З майго жыцьця мітрафорнага пратаярэя Міхаіла Іскрыцкага. [Манчэстэр, 2005].

**Міхась Кавыль** (сапр. **Язэп Лешчанка**). Нарадзіўся 1 снежня 1915 г. у в. Пакрашава (сёння Слуцкі р-н Мінскай вобл.). Пісьменнік, рэдактар, грамадскі дзеяч. У 1930–1933 гг. вучыўся ў Беларускім педагагічным тэхнікуме. Быў сябрам літаратурнага аб'яднання «Маладняк». 23 лютага 1933 г. арыштаваны і асуджаны на 3 гады. Пакаранне адбываў на Далёкім Усходзе. У кастрычніку 1935 г. датэрмінова вызвалены. Жыў у расійскім Варонежы (1935–1938), вучыўся ў Педагагічным інстытуце на літаратурным факультэце (1936–1938), працаваў настаўнікам. У 1941 г. — у Чырвонай Арміі, трапіў у нямецкі палон, быў вы-

звалены. Скончыў прапагандысцкія курсы ў Вустраве пад Берлінам, працаваў у аддзеле прапаганды ў Мінску.

З 1944 г. — на эміграцыі. У 1950 г. выехаў у ЗША, пасяліўся ў Саўт-Рывэры. Першы рэдактар газеты «Беларуская трыбуна». У 1950-х гг. браў актыўны ўдзел у працы Беларускага кангрэсавага камітэту Амерыкі. Радны БЦР, сябра Беларускага інстытуту навукі і мастацтва. З 1983 г. быў сталым рэдактарам часопісу «Беларуская думка» (Саўт-Рывэр).

Выдаў зборнікі паэзіі: «Ростань» (Рэгенсбург, 1947), «Пад зорамі белымі» (Нью-Ёрк, 1954), «Першая рана» (Манчэстэр, 1960), «Цяжкія думы» (Саўт-Рывэр, 1961), «Міжагнёўе» (Нью-Ёрк, 1990).

**Аўген Калубовіч** (на эмігр. **Каханоўскі**). Нарадзіўся 5 сакавіка 1912 г. (паводле анкеты БІНіМу — у 1910 г.) у в. Ціхінічы (сёння Рагачоўскі р-н Гомельскай вобл.). У 1930 г. скончыў Бабчынскі педтэхнікум (Хойніцкі р-н), быў арыштаваны і асуджаны на тры гады. У 1934–1939 гг. выкладаў у Мінску, вучыўся ў Мінскім педагагічным інстытуце. Па сканчэнні ВНУ працаваў кансультантам-метадыстам у Наркамаце асветы БССР.

З пачаткам нямецка-савецкай вайны мабілізаваны ў Чырвоную Армію, трапіў у палон пад Масквою. Быў вызвалены, вярнуўся ў Мінск. Кіраваў Беларускай культурнай радай, уваходзіў у Раду даверу, са студзеня 1944 г. кіраваў аддзелам культуры БЦР, узначальваў Беларускае культурнае згуртаванне. На Другім Усебеларускім кангрэсе быў аўтарам асноўнага дакладу: «Аб канчальным разрыве Беларусі з Масквой і аб уневажненні маскоўскага голасу ў беларускіх справах».

З лета 1944 г. — на эміграцыі. У берлінскі перыяд дзейнасці распрацоўваў унутраную структуру БЦР, выступаў за захаванне незалежнасці Рады ад Камітэту вызвалення народаў Расіі (Камітэт Уласава). З 20 студзеня 1945 г. — загадчык аддзелу прапаганды і культуры Калегіі (ураду) БЦР.

15 жніўня 1945 г., па капітуляцыі Нямеччыны, — намеснік кіраўніка новастворанага Беларускага нацыянальнага цэнтру, у верасні 1945 г. удзельнічаў у Пленуме БЦР, на якім была прыпыненая дзейнасць Рады. З 15 жніўня 1948 г. — кіраўнік ураду БНР. Таксама выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы, вёў актыўную грамадска-літаратурную працу па-за гімназіяй, заснаваў літаратурны гурток, чытаў шмат дакладаў. Спрабаваў аднавіць партыю нацдэмаў.

З 1950 г. жыў у ЗША, спачатку ў Нью-Ёрку, а з сярэдзіны 1950-х гг. — у Кліўлэндзе. Быў адным з лідараў беларускага жыцця ў Кліўлэндзе. У 1953 г. — старшыня Злучанага беларускага камітэту ў Кліўлэндзе, выдаваў «Бюлетэнь».

Сябра БАЗА, у 1952–1955 гг. — старшыня Кліўлэндскага аддзелу. У сярэдзіне 1950-х гг. выйшаў з Рады БНР і БАЗА.

Памёр 25 траўня 1987 г. Пахаваны ў беларускай секцыі гарадскіх могілак у Кліўлэндзе.

Аўтар шэрагу працаў па гісторыі і культуры Беларусі. Адна з найважнейшых — «“Айцы” БССР і іхны лёс», выйшла некалькі выданняў: 1982, 1985, 1988. Перавыдадзеная ў зборніку: Калубовіч, Аўген. Крокі гісторыі: дасьледаваньні, артыкулы, успаміны. Беласток—Вільня—Менск, 1993.

Таксама займаўся гісторыяй беларускай эміграцыі. Быў сябрам БІНіМу.

**Сямён Кандыбовіч** (на эміграцыі **Кабыш**). Нарадзіўся 21 ліпеня 1891 г. у в. Старыца (сёння Капыльскі р-н Мінскай вобл.). Скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, у 1917–1917 г. служыў у расійскай арміі, у 1922 г. — старшыня валаснога выканкаму ў Бабруйскім павеце, дэлегат 4-га Усебеларускага з’езду саветаў, з 1926 г. — чалец кампартыі. У 1931–1933 гг. — кіраўнік справаў Саўнаркаму (г. зн. ураду БССР), у 1935 г. — начальнік нарыхтовак упаўнаважанага Наркамхарчпраму СССР пры СНК БССР. У 1940 г. быў арыштаваны.

Падчас нямецкай акупацыі займаў пасаду кіраўніка беларускай секцыі Цэнтральнай гандлёвай арганізацыі, якая займалася арганізацыяй паставак у Нямеччыну. 24 студзеня 1944 г. уключаны ў склад прэзідыуму БЦР, узначальваў агульна-адміністрацыйны аддзел, затым — аддзел фінансаў.

З 30 чэрвеня 1944 г. — на эміграцыі. Браў удзел у Пленуме БЦР 22–23 верасня 1945 г., на якім прынялі рашэнне аб прыпыненні дзейнасці Рады.

З 1954 г. працаваў у Беларускай секцыі радыё «Вызваленне» («Свабода»), з 1963 г. — у Інстытуце вывучэння СССР у Мюнхене. Даследаваў пытанні эканамічнай гісторыі, аўтар працы: Кандыбовіч, Сымон. Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі. Менск: БГА, 2000. — 160 с.

З 1956 г. Кандыбовіч быў рэферэнтам сакратарыяту Рады БНР у пытаннях народнай гаспадаркі. Цесць пісьменніка Янкі Юхнаўца.

Памёр 27 верасня 1972 г. у Мюнхене, дзе і пахаваны.

**Уладзімір Каракулька**. Нарадзіўся 1 студзеня 1902 г. у Мінску. У БЦР працаваў у аддзеле праектаў. З лета 1944 г. — на эміграцыі. З 21 студзеня 1945 г. — загадчык аддзелу фінансаў БЦР, браў удзел у аднаўленчым Пленуме БЦР у Эльвангене (травень 1948), прызначаны першым віцэ-міністрам фінансаў. Памёр 14 ліпеня 1982 г. Пахаваны на Беларускіх могілках у Саўт-Рывэры.

**Мікалай Карповіч** (1897–1988). Нарадзіўся ў Клецку. Па эвакуацыі быў у адміністрацыі беларускіх лагераў у Рэгенсбурзе і Міхэльсдорфе. Дзеяч БЦР. У 1958 г. — намеснік старшыні Пленуму БЦР. Пахаваны на Беларускіх могілках у Саўт-Рывэры.

**Дзмітры Касмовіч**. Нарадзіўся 21 верасня (4 кастрычніка) 1909 г. у Нясвіжы. Скончыў гімназію ў Радашковічах, вучыўся ў ВНУ Бельгіі, Польшчы і Югаславіі, скончыў Бялградскі ўніверсітэт (1939). Браў удзел у студэнцкім руху. У 1940–1941 гг. вучыўся ў Мінскім політэхнічным інстытуце.

З пачаткам нямецкай акупацыі кіраваў аддзелам забеспячэння Мінскай управы, а таксама мінскаю гарадскою паліцыяй. У кастрычніку 1941 г. у выніку канфлікту з цывільнай нямецкай адміністрацыяй Беларусі разам з Радаславам Астроўскім і Міхасём Вітушкам пакінуў Мінск і выехаў ва ўсходнія франтавыя раёны. З канца 1941 г. да вясны 1943 г. выконваў абавязкі інспектара дапаможнай паліцыі прыфрантавой зоны групы нямецкіх арміяў «Цэнтр». Браў актыўны ўдзел у беларускім руху, удзельнічаў у паседжанні, на якім абвясцілі пра ўтварэнне аўтакефаліі Беларускай праваслаўнай царквы, Царкоўным саборы (1942), Другім Усебеларускім кангрэсе. Быў адным з лідараў Беларускай незалежніцкай партыі.

З лета 1944 г. — на эміграцыі. Ва Усходняй Прусіі служыў у дэсантным батальёне «Дальвіц», які займаўся рыхтаваннем дыверсійных сілаў для барацьбы на тэрыторыі СССР. Па вайне жыў у Штутгарце.

З кастрычніка 1954 г. прызначаны прадстаўніком БЦР у Цэнтральны камітэт Антыбальшавіцкага блоку нацыяў (АБН), кіраўніком дэлегатуры на Нямеччыну. У 1954 г. узначаліў Беларускі вызвольны фронт. Доўгачасовы радны БЦР, быў кіраўніком Аддзелу вызвольнай барацьбы БЦР, рэдактарам і выдаўцом часопісу «Барацьба», дзе прасочвалася як дзейнасць БВФ, гэтак і БЦР. Шэраг матэрыялаў з «Барацьбы» трапляў у іншыя перыядычныя выданні.

Памёр 23 красавіка 1991 г. Ягоныя ўспаміны: Касмовіч, Дзьмітры. За вольную і сувэрэнную Беларусь. Вільня, 2006.

**Іван Касяк**. Нарадзіўся 1 лістапада 1909 г. у в. Гіры (сёння Вілейскі р-н Мінскай вобл.). Скончыў політэхнічны факультэт Львоўскага ўніверсітэту (1941) па спецыяльнасці архітэктар. Падчас нямецкай акупацыі жыў у Мінску, уваходзіў у склад Цэнтралі БНС, быў прыхільнікам аўтакефаліі БПЦ, адзін з арганізатараў Царкоўнага сабору БПЦ (1942). 29 лютага 1944 г. прызначаны намеснікам прэзідэнта БЦР на Глыбоцкую акругу.

З лета 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне — адзін з кіраўнікоў Беларускага праваслаўнага аб’яднання. Не прызнаў аднаўлення БАПЦ пад кіраўніцтвам Сяргея Ахатэнкі і аднаўлення Рады БНР пад кіраўніцтвам Міколы Абрамчыка. У траўні 1948 г. узяў удзел у аднаўленчым Пленуме БЦР у Эльвангене (травень 1948), у 1948–1951 гг. узначальваў Сакратарыят БЦР.

У ЗША з 1949 г. Спачатку жыў у Нью-Ёрку, а з 1978 г. — у Рывэр-Форэсце (River Forest, Іліной). У 1957–1989 гг. — старшыня БККА. Быў сябрам Беларускага вызвольнага фронту, браў удзел у антыкамуністычных канферэнцыях у розных краінах.

Аўтар кніг: Касяк, І. З гісторыі Праваслаўнай Царквы беларускага народу. Нью-Ёрк, 1956; Kasiak, Ivan. Byelorussia: historical outline. London, 1989. Актыўна друкаваўся ў англійскамоўнай перыёдыцы: *ABN—corrensporidence*, *Ukrainian Quarterly* ды інш. Артыкулы былі заўсёды арыентаваныя на Другі Усебеларускі кангрэс і БЦР. Быў вельмі актыўны ў Сусветнай антыкамуністычнай лізе.

Памёр 13 сакавіка 1989 г. у Рывэр-Форэсце. Паводле тастаменту пахаваны на беларускіх могілках у Саўт-Рывэры.

**Яўхім Кіпель**. Нарадзіўся 12 кастрычніка 1898 г. у Байлюках (сёння Глускі р-н Магілёўскай вобл.). Служыў у царскай, затым — Чырвонай Арміі. У 1920 г., дэмабілізаваўшыся, пераехаў у Мінск. Заняўся навукаю. Працаваў у Тэрміналагічнай камісіі, займаўся педагагічнаю дзейнасцю: працаваў у мінскім дзіцячым доме №2, працоўнай школе, выкладаў на 6-месячных курсах пры Белпедтэхнікуме ды інш. У сярэдзіне 1920-х ажаніўся са студэнткаю лінгвістычна-літаратурнага факультэту педінстытуту Марыяй Зубкоўскай (1904–1992).

У чэрвені 1930 г. арыштаваны ў справе «Саюзу вызвалення Беларусі», высланы на 5 гадоў у Налінск Вяцкай вобл.; па адбыцці пакарання сасланы паўторна, гэтым разам на Далёкі Усход. У пачатку 1941 г. пасяліўся ў Бранскай вобл., затым жыў у Арле. Пасля заняцця гораду немцамі вярнуўся ў Мінск, працаваў у «Беларускай газэце», рэдагаваў «Голас вёскі», у 1944 г. быў кіраўніком навуковага пададдзелу пры БЦР. Старшыня Другога Усебеларускага кангрэсу.

З ліпеня 1944 г. — разам з сям’ёй на эміграцыі. Браў актыўны ўдзел у БЦР, з восені 1944 г. стаў адным з прыхільнікаў стварэння Беларускага нацыянальнага камітэту пры Камітэце вызвалення народаў Расіі (Уласава). Пры канцы вайны апынуўся ў Гарміш-Партэнкірхэне (Баварыя). У 1946 г. разам з Сымонам Жамойдам, Сымонам Шаўцовым, Міколам Сцяпанавым, Мікалаем Падлазнікам стварыў Беларускую народную партыю (БНП). Падчас палітычнага расколу эміграцыі падтрымаў прыхільнікаў Астроўскага. Удзельнічаў у аднаўленчым Пленуме БЦР у Эльвангене (травень 1948). Са снежня 1947 г. — рэдактар

рататарнага часопісу «Беларуская Воля», друкаванага органу БНП (выдаваўся да снежня 1949 г.).

У снежні 1949 г. Яўхім і Марыя Кіпелі выехалі ў ЗША, дзе жылі ў горадзе Пасэік (Нью-Джэрзі).

Браў актыўны ўдзел у грамадскім жыцці ў ЗША, уваходзіў у кіраўнічыя органы БЦР: быў актывістам БЦР, у 1950-х узначальваў аддзел прэсы і прапаганды, у 1954 г. — Дысцыплінарны суд БЦР. На Пленуме 1957 г. Астроўскі прапанаваў кандыдатуру Кіпеля на пасаду прэзідэнта, аднак чальцы Пленуму адхілілі прапанову. Яўхім Кіпель належаў да Беларускага кангрэсавага камітэту Амерыкі (БККА), Амерыканскіх прыхільнікаў БЦР, Аб’яднання былых палітвязняў савецкіх канцлагераў, быў аўтарам Кароткага спісу некаторых беларускіх інтэлектуалаў, знішчаных Савецкай Расіяй (1956). Са снежня 1956 г. да чэрвеня 1958 г. быў рэдактарам «Беларускага Слова», адноўленага ў ЗША. У 1964 г. заняўся напісаннем успамінаў.

Памёр 27 ліпеня 1969 г. у Ратэрфардзе (Rutherford, Нью-Джэрзі). Пахаваны на Беларускіх могілках у Саўт-Рывэры.

Біяграфію і дзейнасць гл.: Кіпель, Яўхім. Эпізоды. Нью-Ёрк: Беларус, 1998. — 305 с.

**Барыс Кіт** (**Кіта**). Нарадзіўся 6 красавіка 1910 г. у Санкт-Пецярбурзе. Выкладчык і дырэктар Віленскай беларускай гімназіі, у 1939–1941 гг. — дырэктар Навагрудскай беларускай гімназіі. У 1943–1944 г. — заснавальнік і дырэктар Маладзечанскай гандлёва-тэхнічнай школы.

З лета 1944 г. — на эміграцыі. У студзені 1948 г. пасяліўся ў ЗША, спачатку жыў у Саўт-Рывэры, у 1949–1950 гг. узначальваў Злучаны беларуска-амерыканскі дапамаговы камітэт. Найбольш спрычыніўся да запрашэння і размяшчэння новых беларускіх эмігрантаў у Нью-Джэрзі і Саўт-Рывэры. Належаў да БЦР. У 1950 г. выехаў у Лос-Анджэлес (Каліфорнія), дзе стварыў аддзел ЗБАДК. У 1951–1955 г. — другі віцэ-старшыня БККА. Адмовіўся ўзначаліць дэлегатуру БЦР у Каліфорніі. У сярэдзіне 1950-х, з пераездам у Вашынгтон, адышоў ад актыўнай грамадскай дзейнасці.

З 1972 г. жыве ў Франкфурце-на-Майне (Нямеччына).

**Адольф Клімовіч**. Нарадзіўся 20 красавіка 1900 г. у в. Казаноўшчына (сёння Астравецкі р-н Гродзенскай вобл.). Дзеяч заходнебеларускага грамадскага руху. Падчас нямецкай акупацыі жыў у Лідзе, узначальваў Лідскую акруговую БНС.

5 красавіка 1944 г. прызначаны намеснікам прэзідэнта БЦР на Лідскую акругу. Пры канцы нямецкай акупацыі выехаў у Вільню, затым перабраўся ў

мястэчка Жыліны Трокскага (Тракайскага) павету. 14 жніўня 1952 г. арыштаваны, перавезены ў Маскву, дзе прысуджаны да смяротнага пакарання як «беларускі буржуазны нацыяналіст», расстрэл заменены 25 гадамі лагераў. 20 верасня 1957 г. вызвалены.

Памёр 24 лістапада 1970 г. у Вільні.

**Анатоль Комар**. Нарадзіўся ў 1902 г. у Мінску. У 1920-я — сябра гуртка беларускай моладзі «Хата». У 1930-я — дацэнт Мінскага політэхнічнага ўніверсітэту, рэпрэсаваны, высланы ў Сібір. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у гарадской управе, пасля смерці Вацлава Іваноўскага ў снежні 1943 г. прызначаны начальнікам (бургамістрам) Мінску. 5 красавіка 1944 г. прызначаны намеснікам БЦР на горад Мінск. Удзельнік Другога Усебеларускага кангрэсу.

З лета 1944 г. — на эміграцыі, браў удзел у берлінскіх паседжаннях БЦР, выступаў за супрацоўніцтва з Уласавым, увайшоў у Беларускі камітэт пры Камітэце вызвалення народаў Расіі. Пасля вайны нейкі час меў кантакты з БНР, браў удзел у З’ездзе беларускай эміграцыі ў Парыжы (1948) і стварэнні Сусветнага аб’яднання беларускай эміграцыі (САБЭ).

Эміграваў у Бельгію, дзе адышоў ад беларускай дзейнасці, ушчыльную заняўшыся радыёвынаходніцтвамі. Затым пераехаў у Канаду, змяніў прозвішча, меў патэнты.

**Святаслаў Коўш**. Нарадзіўся 7 студзеня 1917 г. у Ілье (сёння Вілейскі р-н), паводле іншых звестак — у Вільні. Сын грамадскага дзеяча, а затым святара Аляксандра Каўша. Скончыў факультэт права Віленскага ўніверсітэту, сябра Беларускага студэнцкага саюзу. У 1938 г. высвячаны на дыякана. У 1938–1939 гг. — псаломшчык у Засуллі (Стаўбцоўскі р-н), у 1939–1941 гг. — настаўнік у Засуллі. Падчас нямецкай акупацыі — начальнік Клецкага павету.

З лета 1944 г. — на эміграцыі. У паваеннай Нямеччыне — заснавальнік і нязменны камендант беларускага лагеру ў Ватэнштэце. Падтрымліваў прыхільнікаў Астроўскага. Адзін з аўтараў звароту да беларускай эміграцыі, у якім заяўлялася пра неабходнасць падтрымкі Астроўскага і неабходнасці правядзення выбараў у агульнае прадстаўніцтва. Браў удзел у аднаўленчым Пленуме БЦР у Эльвангене (травень 1948).

З 1949 г. — у ЗША. Адзін з ініцыятараў стварэння беларускай парафіі ў Саўт-Рывэры, віцэ-старшыня Галоўнай управы БККА ў 1951–1957 гг. У 1952–1955 гг. — сакратар прэзідыуму Пленуму БЦР. Адзін з заснавальнікаў беларускага прыходу св. Кірылы Тураўскага ў юрысдыкцыі канстанцінопальскага патрыярха ў Рычманд-Гіле (Нью-Ёрк), што стварыўся ў выніку сыходу

прыхаджанаў з бруклінскай парафіі св. Кірылы. З 22 лютага 1969 г. да 5 сакавіка 1977 г. — першы настаяцель парафіі ў Рычманд-Гіле, у 1977–1986 гг. — настаяцель парафіі св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рывэры ды па смерці а. Мікалая Лапіцкага — адміністратар беларускіх парафіяў у Паўночнай Амерыцы ў юрысдыкцыі канстанцінопальскага патрыярхату. З 1986 г. — на пенсіі.

Памёр 5 лістапада 1997 г., пахаваны на Беларускіх могілках у Саўт-Рывэры.

**Францішак Кушаль**. Нарадзіўся 16 лютага 1895 г. у Пяршаях (сёння Валожынскі р-н Мінскай вобл.). У 1915–1917 гг. служыў у царскім войску. У 1919–1920 гг. быў сябрам Беларускай вайсковай камісіі, якая займалася стварэннем беларускіх вайсковых адзінак у складзе польскага войска. У 1924–1939 гг. — афіцэр польскага войска. Падчас нямецкай акупацыі кіраваў афіцэрскімі курсамі, быў галоўным апекуном-інспектарам беларускай паліцыі. 15 студзеня 1944 г. пакліканы ў БЦР, прызначаны кіраўніком БКА.

З лета 1944 г. — на эміграцыі. Стваральнік 1-га кадравага батальёну БКА ў Берліне, намагаўся з’яднаць вакол яго расцярушаных па Нямеччыне вайскоўцаў.

Браў удзел у Пленуме БЦР у верасні 1945 г., на якім прынялі рашэнне спыніць дзейнасць БЦР. Быў камендантам Беларускага лагеру ў Рэгенсбурзе, падтрымаў БНР Міколы Абрамчыка. У 1950 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Браў актыўны ўдзел у працы Рады БНР, БАЗА (у 1952–1954 г. — старшыня арганізацыі), быў сябрам БІНіМу. Усе ягоныя працы, напісаныя на вайсковую тэматыку, зачытваліся і дыскутаваліся на зборках БІНіМу.

У 1967 г. пераехаў з жонкаю (Наталляй Арсенневай) да сына ў Рочэстэр (Rochester, штат Нью-Ёрк).

Памёр 25 траўня 1968 г. Пахаваны ў Рочэстэры.

**Уладзімір Лазарэвіч**. Нарадзіўся ў 1908 г. у Мінску. У 1930-я — афіцэр польскага войска. У 1941–1944 гг. жыў у Мінску, працаваў загадчыкам гарадскога аддзелу ўліку насельніцтва. З лета 1944 г. — на эміграцыі. Радны БЦР у Берліне. Старшы лейтэнант БКА. Быў адзіным выхадцам з Заходняй Беларусі ў БЦР, які выступаў за супрацоўніцтва з Камітэтам вызвалення народаў Расіі (Уласавым). Браў удзел у аднаўленчым Пленуме БЦР у Эльвангене (травень 1948), радны БЦР у ЗША. Жыў у Кліўлэндзе, скончыў жыццё самагубствам у 1965 г.

**Айцец Мікалай Лапіцкі**. Нарадзіўся 31 снежня 1907 г. у засценку Грэлікі (сёння ваколіцы Іжы Вілейскі р-н Мінскай вобл.). Скончыў тэалагічны факультэт Варшаўскага ўніверсітэту, абараніў магістарскую дысертацыю «Праваслаўе ў ВКЛ у часы вялікага князя Ягайлы». Быў настаяцелем у прыходах у Ашмянах,

Стэфанпалі Дзісненскага павету. Падчас нямецкай акупацыі жыў у Мінску, быў прыхільнікам аўтакефаліі БПЦ.

З 1944 г. — на эміграцыі. Быў заснавальнікам царквы св. Еўфрасінні Полацкай у Рэгенсбурзе (Нямеччына), быў старшынём Беларускага цэнтральнадапамаговага камітэту. Старшыня З'езду праваслаўных беларусаў 5 траўня 1946 г. у Рэгенсбурзе. Падчас расколу падтрымаў бок Астроўскага, браў удзел у аднаўленчым Пленуме БЦР у Эльвангене (травень 1948).

У 1950 г. выехаў у ЗША. Арганізаваў парафію ў св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рывэры і быў яе настаяцелем у 1950–1976 гг. Рэдагаваў часопіс «Царкоўны Сьветач». У 1960–1970-х узначальваў Злучаны беларуска-амерыканскі дапамаговы камітэт, браў удзел у Кангрэсах беларусаў Амерыкі, уваходзіў у кіраўнічыя структуры Беларускага кангрэсавага камітэту, браў удзел у пленумах БЦР, быў яе радным, у 1974 г. увайшоў у склад Выканаўчага органу.

Памёр 8 жніўня 1976 г. Пахаваны на Беларускіх могілках у Саўт-Рывэры.

Біяграфію і дзейнасць гл.: Лапіцкі, Мікалай. У служэньні Богу і Беларусі / Рэд. Ю. Гарбінскі. New York—Warsaw: BINIM, 2005. — 672 p.

**Мікола Латушкін** (да 1945 — Уладзімір Гарэлік). Нарадзіўся 20 студзеня 1922 г. у Сіпайлах Бялыніцкага р-ну. Скончыў сярэднюю школу ў Галоўчыне. Мабілізаваны ў Чырвоную Армію, служыў у савецкай Латвіі (Вэнтспілс), дзе скончыў афіцэрскую школу. Трапіў у нямецкі палон, быў вызвалены, скончыў курсы прапагандыстаў у Вустраве пад Берлінам, курс найвышэйшых кіраўнікоў СБМ. У чэрвені 1943 г. прызначаны ад'ютантам шэфа-праваднікa СБМ (М. Ганька), адначасова кіраваў службай унутранай бяспекі Кіраўнічага штабу СБМ, пісаў для часопісу «Жыве Беларусь!».

Летам 1944 г. эвакуяваўся, быў у штабе СБМ у Тропаў. Па вайне вучыўся ў сельскагаспадарчых школах Нямеччыны. Выехаў у ЗША, напачатку жыў у Філадэльфіі, затым у Кліўлэндзе. Абраны прадстаўніком БЦР на штат Агаё.

У 1956-м пераехаў у Чыкага, браў актыўны ўдзел у жыцці часткі беларускай грамады, што трымалася платформы БЦР. Быў прадстаўніком БЦР на штат Іліной, а таксама прадстаўніком Беларускага кангрэсавага камітэту Амерыкі, актывістам парафіі св. Юрыя ў Чыкага, шматгадовым сакратаром управы.

Памёр 6 студзеня 2006 г. Пахаваны ў Чыкага.

**Іван Любачка**. Нарадзіўся 1 траўня 1915 г. на Полаччыне. Скончыў матэматычны факультэт Віцебскага педагагічнага інстытуту. У 1940–1941 г. быў у Чырвонай Арміі, трапіў у нямецкі палон, вызвалены, вярнуўся да бацькоў, працаваў на гаспадарцы.

У 1943 г. вывезены на прымусовыя работы ў Нямеччыну. Па вайне працаваў настаўнікам у беларускіх школах у лагерах для перамешчаных асобаў (Ды-Пі). Браў удзел у аднаўленчым Пленуме БЦР у Эльвангене (травень 1948 г.), радны БЦР. На пачатку 1950-х прыехаў у ЗША. Скончыў Калумбійскі ўніверсітэт (Нью-Ёрк), доктар гісторыі. Працаваў ва ўніверсітэтах Блумінгтану (Bloomington) і Мары (Murray).

Аўтар шэрагу публікацыяў па гісторыі Беларусі, у т. л. англійскамоўнай «Беларусь пад савецкай уладай, 1917–1957»: Lubachko, Ivan. Bielorussia under Soviet Rule, 1917–1957. Lexington, Kentucky, 1972.

Заснавальнік стыпендыяльнага фонду (фонд імя І. Любачкі) для падтрымкі беларусазнаўчых даследаванняў. Памёр 20 ліпеня 1977 г. у Мары (Кентукі).

**Міхаіл Маеўскі**. Дзеяч у Нямеччыне. Быў радным БЦР, належаў да замежнага сектару БНП.

**Язэп Малецкі**. Нарадзіўся 12 студзеня 1906 г. у в. Якужы Дзісенскага павету (сёння Мёрскі р-н Віцебскай вобл.). Скончыў гімназію ў Друі, а пазней — медычны факультэт Віленскага ўніверсітэту. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у беларускай адміністрацыі — Віленскім беларускім камітэце, з 1942 г. быў дырэктарам Медычнай школы ў Баранавічах, з 29 лютага 1944 г. — намеснік прэзідэнта БЦР на Вілейскую акругу.

З 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне. Падтрымаў аднаўленне Рады БНР пад кіраўніцтвам Міколы Абрамчыка. У 1949 г. выехаў у Аўстралію. Здолеў пацвердзіць пасля дадатковага навучання дыплом медыка і атрымаў права доктарскай практыкі. Браў актыўны ўдзел у беларускім грамадскім жыцці. Старшыня Аўстралійскага сектару Рады БНР, быў сябрам БІНіМу.

Напісаў аўтабіяграфічную кнігу: Малецкі, Язэп. Пад знакам Пагоні. Таронта, 1976. — 198 с.

Памёр 6 чэрвеня 1982 г.

**Палікарп Манькоў**. Нарадзіўся 19 красавіка 1910 г. у Рэчыцы. Атрымаў вышэйшую адукацыю, настаўнічаў, у 1930-я быў рэпрэсаваны: яму было забаронена жыць у Беларусі. Пасяліўся на Смаленшчыне. У 1941 г. служыў у Чырвонай Арміі, трапіў у палон.

Служыў перакладчыкам у Слонімскім акруговым камісарыяце. У чэрвені 1943 г. скончыў курс кіраўнікоў Саюзу беларускай моладзі, прызначаны акруговым кіраўніком СБМ у Слуцку. Быў адным з арганізатараў і выдаўцоў «Газэты

Случчыны», адным з укладальнікаў зборніку «Песняры Случчыны» (які перавыдаў у 1985 г. у Саўт-Рывэры).

З лета 1944 г. — на эміграцыі. Быў кіраўніком групы юнакоў у Дэсаў (Dessau). Па вайне выкладаў у Беларускай гімназіі ў Міхэльсдорфе. З 1954 г. — рэдактар газеты «Беларускае слова», адзін з укладальнікаў кнігі «Другі Усебеларускі Кангрэс» (Мюнхен, 1954). У 1957 г. пераехаў у ЗША. Працаваў ва ўніверсітэце Блумінгтану (Індыяна), у структурах ААН у Нью-Ёрку.

Памёр 16 кастрычніка 1999 г.

**Віталь Мікула**. Нарадзіўся ў 1913 г. у в. Нялепава Нясвіжскага павету. Скончыў кадэцкі корпус войска польскага. Служыў у роце ў Хэлмне (Chełmno), якой камандаваў Франц Кушаль. Скончыў Артылерыйскую вайсковую школу ў Грудзёндзы (Grudziądz, 1939). Браў удзел у нямецка-польскай вайне 1939 г. Пасля разгрому польскага войска вярнуўся ў Нялепава, займаўся сельскай гаспадаркай. У 1942 г. Ф. Кушаль запрасіў яго ў Мінск намеснікам кіраўніка афіцэрскіх курсаў. Падрыхтаваў «Страявы вайсковы статут», распрацоўваў мабілізацыйныя планы БКА. У лютым 1944 г. прызначаны намеснікам кіраўніка БКА, затым — шэфа штабу БКА.

Па эвакуацыі з Беларусі імкнуўся захаваць адзінства беларускіх фармаванняў, канфліктаваў з нямецкім кіраўніцтвам і, праўдападобна, быў расстраляны ў канцы 1944 г.

**Мікалай Мінкевіч**. Нарадзіўся 8 красавіка 1909 г. у Лунінцы ў сям'і праваслаўнага святара. Скончыў Віленскую беларускую гімназію, вучыўся на медычным факультэце Віленскага ўніверсітэту, скончыў універсітэт Вітаўта Вялікага ў Каўнасе (1942). Ажаніўся з дачкою Радаслава Астроўскага Галінай. У 1942–1944 гг. працаваў доктарам у Баранавічах, быў дырэктарам Баранавіцкай медычнай школы, з сакавіка 1944 г. — галоўны доктар БКА. Дэлегат Другога Усебеларускага кангрэсу.

З лета 1944 г. — на эміграцыі, быў у Берліне, батальённым лекарам у Беларускім палку. Па капітуляцыі Нямеччыны працаваў лекарам пры *UNRRA* і *IRO* ў брытанскай зоне акупацыі Нямеччыны, удзельнічаў у грамадскім жыцці беларусаў у лагеры ў Ватэнштэце. Браў удзел у аднаўленчым Пленуме БЦР у Эвальнгене (травень 1948), прызначаны міністрам БЦР у сферы здароўя і грамадскай апекі. У 1949 г. выехаў з жонкаю, дзецьмі ды цесцем у Аргентыну, дзе працаваў галоўным лекарам пры шпіталі г. Сан-Люіс (San Luis).

У студзені 1954 г. пераехаў у ЗША. Працаваў у шпіталях у штатах Іліной, Агаё, Місуры, Індыяна, Мічыган. У 1976 г., пасля выхаду на пенсію, пераехаў

у Флорыду. На 18-м Пленуме БЦР (4 ліпеня 1977 г.) быў вылучаны на пасаду прэзідэнта, аднак узяў самаадвод. Выбраны віцэ-прэзідэнтам БЦР, уваходзіў ва ўправу Беларускага кангрэсавага камітэту, належаў да аддзялення Арганізацыі паняволеных народаў.

Памёр 29 красавіка 1980 г. у Флорыдзе.

Ягоны архіў, найперш ілюстраваныя альбомы з жыцця вучняў Віленскай беларускай гімназіі, захоўваецца ў архіўных зборах пры царкве св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рывэры.

**Нікандр Мядзейка**. Нарадзіўся 28 жніўня 1914 г. у в. Панькі (сёння Іўеўскі р-н Гродзенскай вобл.). Вучыўся ў настаўніцкай семінарыі ў Барунах, скончыў гімназію ў Вільні. У 1936–1939 гг. служыў у польскім войску. У 1939–1941 гг. працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў Маладзечне. Падчас нямецкай акупацыі працаваў школьным інспектарам у Маладзечанскім павеце, затым настаўнічаў у Лідскай акрузе. З лістапада 1942 г. да верасня 1943 г. кіраваў акруговай управай БНС у Глыбокім.

З лета 1944 г. — на эміграцыі. У паваеннай Нямеччыне скончыў універсітэт *UNRRA* ў Мюнхене з дыпломам інжынера меліярацыі. У лютым 1948 г. пераехаў у Францыю, дзе быў кіраўніком дэлегатуры БЦР.

У красавіку 1954 г. разам з сям'ёй выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Брансўіку (Нью-Джэрзі). 4 верасня 1954 г. прызначаны першым віцэ-прэзідэнтам БЦР. Займаў у БЦР розныя пасады, у 1970-я — старшыня прэзідыуму Пленуму БЦР, быў скарбнікам БККА, з 1977 г. (выбраны на 18-м Пленуме) — прэзідэнт БЦР. У 1975 г. уклаў і выдаў «Зборнік песняў беларускага жаўнера».

У 1984 г. адышоў грамадскай дзейнасці ў выніку хваробы. Памёр 6 снежня 1987 г. Пахаваны на Беларускіх могілках у Саўт-Рывэры.

**Іван Няронскі** (**Наронскі**). Нарадзіўся ў 1909 г. у Нясвіжы. У 1941–1944 гг. — памочнік Астроўскага падчас працы ў Бранскай і Смаленскай адміністрацыях, у 1944 г. — ягоны ад'ютант і шафёр, выконваў даручэнні. Пасля капітуляцыі Нямеччыны жыў у Браўншвайгу (Ніжняя Саксонія). Зусім адышоў ад беларускага грамадскага жыцця.

**Аляксандр Орса**. Нарадзіўся 24 ліпеня 1896 г. у Нягневічах (сёння Навагрудскі р-н Гродзенскай вобл.). У 1923–1929 гг. вучыўся ў Празе ва Украінскім педагагічным інстытуце, потым у Карлавым універсітэце. Доктар прыродазнаўчых навук. У 1929–1934 гг. выкладаў прыродазнаўства ў Навагрудскай беларускай гімназіі. У 1938 г. разам з сям'ёю прымусова выселены ў этнічную Польшчу,

аднак з пачаткам Другой сусветнай вайны вярнуўся ў Беларусь, настаўнічаў, працаваў школьным інспектарам у Навагрудскай акрузе.

З 1944 г. — на эміграцыі. 1 кастрычніка 1944 г. прызначаны рэферэнтам пачатковай агульнай асветы ў Аддзеле прапаганды, прэсы і культуры БЦР. Арганізоўваў беларускія школы.

Пасля капітуляцыі Нямеччыне быў дырэктарам Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Рэгенсбурзе (а пасля яе пераезду — у Міхэльсдорфе). Падтрымаў аднаўленне Рады БНР пад кіраўніцтвам Міколы Абрамчыка.

У 1949 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Працаваў лабарантам у шпіталі. Арганізоўваў першыя беларускія школкі ў ЗША. Адзін з заснавальнікаў БАЗА і БІНіМу. Старшыня Нью-Ёркаўскага сектару Рады БНР.

Памёр 2 лістапада 1959 г. Пахаваны на Беларускіх могілках у Іст-Брансўіку.

Падрабязней пра дзейнасць А. Орсы: Максімюк, Ян. Беларуская гімназія імя Янкі Купалы. Нью-Ёрк—Беласток, БІНіМ, 1994. — 196 с.

**Пётра Орса**. Нарадзіўся 21 чэрвеня 1898 г. у Нягневічах. Скончыў агранамічны факультэт у Празе, у заходнебеларускі перыяд працаваў у галіне малочнай гаспадаркі. У БЦР быў прызначаны ў аддзел праектаў для развязання зямельных пытанняў, у чэрвені 1944 г. быў кіраўніком аддзелу сельскай гаспадаркі.

З лета 1944 г. — на эміграцыі. Браў удзел у берлінскіх пленумах БЦР. У канцы 1940-х пераехаў у ЗША, пасяліўся ў Саўт-Рывэры, у БЦР быў сакратаром дзяржаўнага кантролю, скарбнікам Беларускага нацыянальнага фонду, належаў да Беларускага кангрэсавага камітэту Амерыкі, парафіі св. Еўфрасінні Полацкай.

Памёр 13 траўня 1990 г. Пахаваны паводле ягонага жадання на Беларускіх могілках у Іст-Брансўіку, побач з магілаю брата Аляксандра Орсы.

**Мікалай Партлезнік** (да 1945 г. **Падлазнік**). Нарадзіўся 4 студзеня 1904 г. у Мінску. У канцы 1920-х скончыў Беларускую вайсковую школу ў Мінску. Служыў у Чырвонай Арміі (капітан). Падчас нямецка-савецкай вайны трапіў у палон. Вызвалены, далучыўся да Арміі Уласава, уваходзіў у Беларускі камітэт пры Камітэце вызвалення народаў Расіі. У лагерах для перамешчаных асобаў у Нямеччыне далучыўся да беларускага руху. У 1946–1947 гг. разам з Я. Кіпелем, С. Шаўцовым, С. Жамойдам, М. Сцяпанавым заснаваў Беларускую народную партыю. Увайшоў у Арганізацыю беларускіх ветэранаў, створаную Францам Кушалем.

У канцы 1940-х пераехаў у ЗША. Жыў у Пасэіку (Нью-Джэрзі). Браў удзел у беларускіх арганізацыях, у тым ліку Арганізацыі беларускіх ветэранаў, БККА.

Памёр у 1983 г. Пахаваны ў Пасэіку, на праваслаўнай дзялянцы гарадскіх могілак.

**Анатоль Плескачэўскі**. Нарадзіўся 28 лютага 1911 г. у Глыбокім. Скончыў Агранамічна-жывёлагадоўчую школу ў Грудзёнцы. З 1939 г. — аграном-жывёлавод у Віленска-Трокскім павеце. Падчас нямецкай акупацыі — галоўны інтэндант БКА, ад'ютант Радаслава Астроўскага, працаваў у сакратарыяце БЦР у Берліне.

Пасля сканчэнні вайны вучыўся ў Вольным універсітэце *UNRRA* ў Мюнхене, затым ва Украінскім тэхнічна-сельскагаспадарчым інстытуце. Браў удзел у аднаўленчым Пленуме БЦР у Эльвангене (травень 1948).

У 1949 г. пераехаў у ЗША, пасяліўся ў гор. Ірвінгтан (Нью-Джэрзі). Працаваў у фармацэўтычнай кампаніі *Pinick* у г. Ньюарк (Newark), узначальваў аддзел антыбіётыкаў. Браў актыўны ўдзел у грамадскім жыцці: уваходзіў ва ўправу БККА, быў кіраўніком Амерыканскіх прыхільнікаў БЦР, віцэ-прэзідэнтам Амерыканскіх прыхільнікаў Антыбальшавіцкага блоку народаў, сябрам парафіі св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рывэры, належаў да Саюзу беларуска-амерыканскіх ветэранаў. Быў вельмі актыўны ў міжнародных сувязях, шчыльна супрацоўнічаў з Украінскім кангрэсавым камітэтам, Антыбальшавіцкім блокам народаў, амерыканскімі этнічнымі арганізацыямі. У БЦР быў сакратаром аддзелу грамадскай апекі і аховы здароўя.

Пасля выхаду на пенсію жыў у Лэксінгтане (Lexington, штат Нью-Ёрк).

Памёр 31 сакавіка 1980 г. Пахаваны на ўкраінскіх могілках у Баўнд-Бруку (Нью-Джэрзі).

Архіў Анатоля Плескачэскага захоўваецца ў зборах пры царкве св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рывэры.

**Язэп Пітушка**. Нарадзіўся 7 красавіка 1912 г. (паводле іншых звестак — у 1913 г.) на Браслаўшчыне ў каталіцкай сям'і. Браў удзел у заходнебеларускім руху. У 1939 г. арыштаваны і высланы ў Сібір, у 1941 г. трапіў у Армію Андэрса, браў удзел у штурме Монтэ-Касіна (Monte Cassino), быў паранены.

Па сканчэнні вайны выехаў у Канаду, працаваў паводле кантракту на вёсцы, потым 25 гадоў — кіроўцам аўтамабіля. Быў адным з заснавальнікаў Згуртавання беларусаў Канады, але праз унутраныя рознагалоссі пакінуў арганізацыю і стаў адным са стваральнікаў Беларускага нацыянальнага аб'яднання, доўгі час — старшыня. З 1992 г. быў кіраўніком дэлегатуры БЦР на Канаду.

Памёр 25 лютага 1984 г., пахаваны на могілках Парк Лон (Park Lawn) у Таронта.

**Юры Попка** (псеўданімы **Жывіца**, **Жубровіч**). Нарадзіўся 7 кастрычніка 1912 г. на хутары Высокі Груд Пружанскага павету. У 1943 г. стварыў і ўзначаліў у Пружанах аддзел Беларускага аб'яднання ў Беластоку, займаўся арганізацыяй беларускіх школаў.

З 1944 г. — на эміграцыі. Застаўся ў Нямеччыне, жыў у Ляймэне (Leimen). Сябра БЦР, браў удзел у пленумах як дэлегат Згуртавання беларускіх патрыётаў, у 1953 г. абраны 2-м намеснікам сакратара аддзелу культуры, прэсы і прапаганды. Быў кіраўніком палітычна-прапагандысцкага аддзелу Галоўнага штабу Беларускага вызвольнага фронту. Стварыў Беларускі музей у Ляймэне.

Выдаваў наступныя перыёдыкі: «Беларуская праўда» (1965–1988), «Весткі інстытуту беларусаведы» (1986–1993), а таксама «Бюлетэнь Беларускай Цэнтральнай Рады — Жыве Беларусь!» (1976–1986), Аўтар шэрагу кніг. Распрацаваў сістэму ўзнагародаў (медалі, ордэны, значкі) БЦР і БКА, якія замаўляў за ўласныя грошы.

Памёр 29 красавіка 1990 г., музей перадаў муніцыпалітэту.

**Міхаіл Пугачоў**. Нарадзіўся ў 1903 г. у Мінску, капітан Савецкай Арміі. Кадравы вайсковец, са словаў Ф. Кушаля, быў выдатным спецыялістам ваеннай справы. Трапіў у нямецкі палон. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у гарадской адміністрацыі, уваходзіў у Галоўную камісію Беларускай самааховы (1942). Быў намеснікам кіраўніка БЦР на Мінскую акругу (Піліпа Жука). 25 лютага 1944 г. прызначаны начальнікам БКА на Мінскую акругу. Распрацаваў дэталёвую канцэпцыю стварэння батальёнаў БКА, быў паплечнікам Кушаля.

З лета 1944 г. — на эміграцыі, жыў у Берліне, браў удзел у нарадах БЦР. Увосень 1944 г. далучыўся да Камітэту вызвалення народаў Расіі Уласава, увайшоў у Беларускі камітэт. У красавіку 1945 г. жыў у Судэтах (Чэхія). Падрыхтаваў перавыданне «Беларускага страявога статуту».

Летам 1945 г. вярнуўся ў БССР, расстраляны.

**Барыс Рагуля**. Нарадзіўся 1 студзеня 1920 г. у в. Турэц (сёння Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл.). Вучыўся ў Навагрудскай гімназіі. Удзельнік нямецка-польскай кампаніі 1939 г., трапіў у палон, быў вызвалены. Працаваў настаўнікам у савецкай школе, быў арыштаваны НКУС, з пачаткам вайны ўцёк з-пад варты. Падчас акупацыі выкладаў у Навагрудскай настаўніцкай семінарыі, быў перакладчыкам акруговага камісара. Адзін з акруговых кіраўнікоў СБМ і БНС, 7 лютага 1944 г. быў прызначаны намеснікам БЦР на Навагрудскую акругу, з 25 лютага — начальнік БКА на Навагрудскую акругу. У канцы 1943 г. арганізаваў і ўзначаліў Навагрудскі беларускі эскадрон.

З ліпеня 1944 г. — на эміграцыі. Адзін з кіраўнікоў разведвальна-дыверсійнай школы ў Дальвіцы. Потым быў у Берліне. 27 лістапада 1944 г. прызначаны ў 1-шы кадравы батальён БКА кіраўніком афіцэрскай школы для падрыхтоўкі новых афіцэрскіх кадраў (у званні маёра).

Удзельнічаў у Пленуме БЦР 1945 г., на якім была прыпыненая яе дзейнасць. Адзін з ідэолагаў аднаўлення Рады БНР. Вёў перамовы з заходнімі партнёрамі аб супрацоўніцтве з Радай БНР. Быў адным з каардынатараў і заснавальнікаў беларускага студэнцкага руху на чужыне. З 1948 г. жыў у Бельгіі, дзе скончыў Лювэнскі ўнівэрсітэт.

У 1954 г. пераехаў у Канаду. Пасяліўся ў Лондане (штат Антарыа). Стаў вядомым у краіне спецыялістам па ракавых захворваннях. Сябра Згуртавання беларусаў Канады. З 1971 г. — намеснік прэзідэнта Рады БНР, адначасова ў 1973–1989 гг. — старшыня Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады.

Памёр 21 красавіка 2005 г.

Падрабязней пра ягоную дзейнасць у кн.: Рагуля, Барыс. Беларускае студэнцтва на чужыне. Лёндан (Канада) — Нью-Ёрк, 1996. — 206 с.

**Васіль Рагуля**. Нарадзіўся 28 ліпеня 1879 г. у в. Ачукевічы (сёння Навагрудскі р-н Гродзенскай вобл.). У 1900 г. скончыў Віленскі настаўніцкі інстытут. Настаўнічаў. Удзельнік Першай сусветнай вайны. У 1917 г. уступіў у Расійскую дэмакратычную партыю. Удзельнік Першага Усебеларускага кангрэсу, у часе польскай акупацыі ўваходзіў у Расійскую аб'яднаную радыкальна-дэмакратычную групу, напачатку адмоўна ставіўся да беларускага руху. Улетку 1920 г. — у Чырвонай Арміі. У 1922 г. абраны дэпутатам польскага Сейму, увайшоў у Беларускі пасольскі клуб. Адзін са стваральнікаў і кіраўнікоў Беларускага сялянскага саюзу. У 1928 г. абраны сенатарам польскага Сейму. У чэрвені 1941 г. арыштаваны НКУС, уцёк з-пад варты. У часе нямецкай акупацыі — начальнік Дзятлаўскага павету. Удзельнік Другога Усебеларускага кангрэсу, ганаровы сябра прэзідыуму.

З лета 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне. Быў адным з падпісантаў ліста (разам з М. Сцяпанавым, С. Каўшом, М. Шылам, Ю. Сабалеўскім) аб падтрымцы звароту Астроўскага ад 30 снежня 1947 г. і выбарах у беларускае прадстаўніцтва.

Браў удзел у аднаўленчым Пленуме БЦР у Эльвангене (травень 1948), абраны на ім першым віцэ-прэзідэнтам БЦР. У пачатку 1950-х адышоў ад грамадскай дзейнасці, у 1953 г. выехаў у ЗША да сына Міхася Рагулі.

Памёр 16 чэрвеня 1955 г. у Нью-Ёрку.

Пакінуў успаміны пра міжваенную дзейнасць беларускага грамадскага актыву: Рагуля, Васіль. Успаміны. Нью-Ёрк, 1957. — 121 с.

**Усевалад Родзевіч**. Нарадзіўся 11 верасня 1916 г. Паводле адных звестак — у Мінску, паводле іншых — у Рудзенску ў сям'і святара Сяргея Родзевіча. Пазней сям'я пераехала ў Заходнюю Беларусь. Вучыўся ў польскай гімназіі ў Пінску, пазней у Гандлёвай акадэміі ў Львове. Мабілізаваны ў польскую армію, трапіў у нямецкі палон. Вызвалены. У 1944 г. быў ад'ютантам Радаслава Астроўскага. Лейтэнант БКА, удзельнік Другога Усебеларускага кангрэсу.

Па вайне некаторы час жыў у Мюнхене, адзін са стваральнікаў Беларускага камітэту. Браў удзел у аднаўленчым Пленуме БЦР у Эльвангене (травень 1948 г.) Прызначаны другім віцэ-міністрам фінансаў, затым узначальваў аддзел фінансаў. У 1948 г. разам з сям'ёй выехаў у Аўстралію. Пасяліўся ў Сіднэі. Быў сябрам Беларускага аб'яднання ў Аўстраліі, узначаленага Міхасём Зуём. Пазней удзельнічаў у нацыянальных імпрэзах, ладжаных Беларускім культурна-грамадскім клубам.

Памёр 17 верасня 1998 г.

**Усевалад Родзька**. Нарадзіўся 21 чэрвеня 1920 г. на хутары Паддубнае на Лунінеччыне. Сын грамадскага дзеяча і педагога Філарэта Родзькі. Служыў у Польскім войску, трапіў у палон. Увесну 1941 г. навязаў супрацоўніцтва з Абвэрам. З ліпеня 1941 г. быў бургамістрам Віцебску. З 1942 г. — старшынём ЦК БНП, арганізоўваў нацыянальную партызанку. Радны БЦР, курыраваў аддзел моладзі. З сакавіка 1944 г. быў камандзірам 15-га батальёну БКА. Арганізоўваў беларускі батальён «Дальвіц», на пленумах БЦР у Берліне выступаў за больш шчыльнае супрацоўніцтва з Уласавым і актыўную барацьбу на Усходнім фронце. 12 студзеня 1945 г. яму прысвоілі званне маёра Беларускага войска.

Пасля раззбраення батальёну ў Чэхіі нелегальна перабраўся ў Польшчу. Ствараў антысавецкую партызанку пад эгідай БНП. У 1945 г. арыштаваны і ў 1946 г. прыгавораны да найвышэйшай меры пакарання. Паводле іншых звестак, быў асуджаны да вялікага тэрміну, пакаранне адбываў у Сібіры.

**Сцяпан Рудзь**. Паходзіў з в. Сычавічы Вілейскага павету (сёння Маладзечанскі р-н Мінскай вобл.). Удзельнік Першага Усебеларускага кангрэсу. Па Другой сусветнай вайне жыў у Лондане, належаў да Хрысціянскага аб'яднання беларускіх работнікаў, уваходзіў у рэдакцыю часопісу «Аб'еднаньне», у 1948 г. быў уключаны ў склад БЦР як удзельнік Першага Усебеларускага кангрэсу.

**Аляксандр Русак**. Нарадзіўся 13 ліпеня 1907 г. у Баранавічах. У 1934 г. скончыў Пазнанскі ўніверсітэт. У 1939 г. заснаваў і да лета 1941 г. кіраваў Беларускім камітэтам у Познані. Летам 1941 г. арганізаваў Беларускі нацыянальны камітэт

у Гродне. У 1942 г. у Баранавічах заснаваў Адміністрацыйна-гандлёвую школу. Заснаваў Арганізацыю гандлёвых і прамысловых прадпрыемстваў. У 1943 г. — бургамістр Баранавічаў, сябра Рады даверу. На паседжанні Рады 25 жніўня 1943 г. выступіў з востраю крытыкаю палітыкі немцаў у дачыненні мясцовага насельніцтва. Быў удзельнікам Другога Усебеларускага кангрэсу.

З лета 1944 г. — на эміграцыі. У чэрвені 1945 г. атрымаў дазвол ад вайсковых уладаў на стварэнне Беларускага камітэту ў Рэгенсбурзе. У жніўні—кастрычніку 1945 г. пачалася рэгістрацыя людзей у камітэце, пасля чаго — стварэнне лагеру. Падтрымаў прыхільнікаў Астроўскага, узначаліў Цэнтральнае прадстаўніцтва беларускай эміграцыі, якое, як меркавалася, мусіла прыйсці на змену БЦР. Удзельнічаў у аднаўленчым Пленуме БЦР у Эльвангене (травень 1948), у першым паваенным урадзе БЦР — міністр фінансаў, а затым міністр замежных справаў.

Спрычыніўся да арганізаванага выезду беларусаў у ЗША і стварэння беларускага асяродку ў Саўт-Рывэры. У ЗША перабраўся ўлетку 1949 г., пасяліўся ў Гарфілдзе (Нью-Джэрзі). Адзін з ініцыятараў стварэння Кангрэсу беларусаў Амерыкі і Беларускага кангрэсавага камітэту. З 25 лістапада 1952 г. — старшыня Калегіі БЦР, а з 15 кастрычніка 1953 г. — старшыня Выканаўчага органу БЦР і кіраўнік замежных справаў арганізацыі.

У ліпені 1955 г. праз хваробу (рак страўніка) адышоў ад справаў. Памёр 7 сакавіка 1957 г. Пахаваны на Беларускіх могілках у Саўт-Рывэры.

**Уладзімір Русак**. Нарадзіўся 19 лістапада 1913 г. у в. Свяцілавічы (сёння Баранавіцкі р-н). Скончыў Віленскую тэхнічную школу (1935), школу падхаружых у Замбраве (Zambrów, 1939). У лютым 1944 г. прызначаны камендантам БКА на Баранавіцкую акругу. З лета 1944 г. — на эміграцыі. Па капітуляцыі Нямеччыны жыў у лагеры Шлясгайм. У ЗША — з 1949 г. Жыў у Нью-Ёрку, Рывэргэдзе (Riverhead). Належаў да БАЗА, быў сябрам рэдкалегіі «Беларуса». Памёр 6 лютага 2009 г.

**Уладзіслаў Рыжы-Рыскі**. Нарадзіўся ў 1925 г. у Латыгалі (сёння Глыбоцкі р-н Віцебскай вобл.). У гады Другой сусветнай вайны працаваў у структурах БНС у Глыбоцкай акрузе, потым быў сакратаром аддзелу моладзі БЦР. Удзельнік Другога Усебеларускага кангрэсу.

З 1944 г. — на эміграцыі. Па капітуляцыі нейкі час жыў у Нямеччыне, потым перабраўся ў Бельгію. У 1948 г. выехаў у Рым, некаторы час вучыўся ў Каталіцкім універсітэце. У чэрвені 1950 г. вярнуўся ў Бельгію, паступіў ва ўніверсітэт, дзе правучыўся да красавіка 1951 г., выехаў у Францыю, а затым Іспанію, дзе прымкнуў да БЦР.

Быў кіраўніком дэлегатуры БЦР на Іспанію. У 1958 г. выехаў у ЗША, запісаўся ў Прынстанскі ўніверсітэт. Заснаваў уласную рэлігійную структуру «Старакаталіцкая субожня» і са студзеня 1960 г. усклаў на сябе абавязкі апостальскага візітатара для беларусаў-каталікоў.

Памёр 2 сакавіка 1978 г.

**Юры Сабалеўскі**. Нарадзіўся 24 красавіка 1889 г. у Стоўбцах (сёння Мінская вобл.). Скончыў каморніцкія курсы ў Каўнасе (1910), працаваў да 1915 г. каморнікам.

У лістападзе 1922 г. удзельнічаў у выбарах у польскі Сейм як прадстаўнік Блоку нацыянальных меншасцяў. У 1923–1925 гг. жыў у Стоўбцах, арганізаваў у павеце сетку беларускіх кааператываў, бараніў сялянаў у канфліктах з уладамі. 2 красавіка 1925 г. арыштаваны, некалькі месяцаў зазнаваў судовы пераслед. Пасля таго, як Міхаіл Кахановіч зрокся дэпутацкага мандату (1925), Сабалеўскі (паводле ліста чакання) стаў паслом Сейму. Далучыўся да пасольскага клубу БСРГ, быў адным з кіраўнікоў БСРГ. Не быў арыштаваны. Афіцыйна разарваў адносіны з БСРГ як праектам Масквы, уступіў у Беларускі пасольскі клуб на чале з Фабіянам Ярэмічам. Пасля роспуску Сейму ў лістападзе 1927 г. браў удзел у выбарчай кампаніі, прайграў выбары. У траўні 1928 г. арыштаваны і ў верасні 1929 г. асуджаны да 6 гадоў турмы. Вызвалены ў красавіку 1930 г. У 1930-я хоць і адышоў ад актыўнага грамадскага жыцця, аднак працягваў праваабарончую дзейнасць.

Падчас нямецкай акупацыі быў бургамістрам Баранавічаў. З лета 1943 г. да студзеня 1944 г. — старшыня Беларускай самапомачы. У снежні 1943 г. Готбэрг прапанаваў Сабалеўскаму ўзначаліць БЦР, але той адмовіўся на карысць Астроўскага. У студзені 1944 г. прызначаны другім віцэ-прэзідэнтам БЦР, да 24 красавіка 1944 г. узначальваў аддзел сацыяльнага забеспячэння ў БЦР.

З лета 1944 г. — на эміграцыі. Адзін з лідараў БЦР у Берліне, у лютым 1945 г. кіраваў групай БЦР у Гёкстэры. 26 лютага 1945 г. пакінуў пасаду віцэ-прэзідэнта. Пасля капітуляцыі Нямеччыны перабраўся ў амерыканскую зону акупацыі, разам з Мікалаем Шчорсам і Юркам Віцьбічам арганізаваў камітэт дзеля стварэння Сялянска-работніцкай партыі вызвалення Беларусі. У студзені 1948 г. разам з Мікалаем Сцяпанавым, Святаславам Каўшом, Міколам Шылам і Васілём Рагулем выпусціў адозву «Да беларускай эміграцыі», у якой заклікаў падтрымаць адозву Астроўскага ад 30 снежня 1947 г. і правесці выбары ў агульнае беларускае прадстаўніцтва.

Узяў удзел у аднаўленчым Пленуме БЦР у Эльвангене (травень 1948), выбраны старшынём Рады Міністраў (Калегіі) БЦР. У 1949 г. выехаў у ЗША,

пасяліўся ў Нью-Ёрку, працаваў у шпіталі сталяром. Браў актыўны ўдзел у грамадскім жыцці.

У 1955–1956 гг. разам з І. Касяком, Л. Галяком, Л. Савёнкам, М. Паньковым стварыў Камітэт незалежнай Беларусі. У 1956 г. вярнуўся ў Нямеччыну з прычыны неспрыяльнага для здароўя клімату ў ЗША.

Памёр на чыгуначнай станцыі Кірхгайм-унтэр-Тэк 26 снежня 1957 г. ад сэрцавага прыступу, што паслужыла падставаю для спекуляцыяў наконт прычынаў смерці.

Пакінуў па сабе шэраг успамінаў пра розныя аспекты грамадскай дзейнасці, у тым ліку пра БСРГ (друкаваліся ў лонданскім часопісе «Аб’яднаньне»).

**Пётра Саўчыц**. Нарадзіўся ў 1923 г. на Вілейшчыне. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у Вілейскім акруговым камісарыяце, быў у БНС.

З лета 1944 г. — на эміграцыі. Эміграваў у Аргентыну, быў там кіраўніком дэлегатуры БЦР. У 1960-я пераехаў у ЗША. У 1974 г. прызначаны Астроўскім старшынём выканаўчага органу БЦР.

На Пленуме БЦР у ліпені 1977 г. пераабраны старшынём Выканаўчага органу, але ўвосень 1977 г. пакінуў грамадскую дзейнасць і высвяціўся ў святары. З 6 лістапада 1977 г. да 7 студзеня 1980 г. быў настаяцелем парафіі св. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле. У 1991 г. каталог цэркваў РЗПЦ фіксуе яго як настаяцеля праваслаўнага прыходу св. Касьмы і Дзям’яна ў Пасэіку (Нью-Джэрзі).

Памёр 9 лістапада 2006 г. у Бэргене (Bergen, штат Нью-Ёрк).

**Павел Свірыд**. Нарадзіўся ў 1886 г. Паводле адукацыі — юрыст, працаваў суддзём у Навагрудку. Падчас нямецкай акупацыі ўзначальваў нацыянальны камітэт у Баранавічах, быў старшынём акруговага суда, які аб’ядноўваў міравыя суды Баранавіцкай, Ганцавіцкай, Навагрудскай і Слонімскай акругаў. Браў удзел у Царкоўным саборы 1942 г., адзін з распрацоўнікаў праекту аўтакефаліі. Запрошаны ў БЦР Астроўскім 24 студзеня 1944 г., узначальваў аддзел праектаў, затым — рэлігійных справаў.

З лета 1944 г. — на эміграцыі, браў удзел у берлінскіх паседжаннях БЦР. Са снежня 1944 г. меў званне генеральнага сакратара БЦР. Праціўнік падпарадкавання Камітэту вызвалення народаў Расіі Уласава, адзін з распрацоўнікаў Статуту БЦР 1945 г. і Канстытуцыі БЦР. Браў удзел у аднаўленчым Пленуме БЦР у Эльвангене (травень 1948).

Памёр 1 лістапада 1948 г. у Равэнсбурзе (Ravensburg, Нямеччына).

**Вячаслаў Селях** (на эміграцыі некаторы час — **Усевалад Качанскі**). Нарадзіўся 15 снежня 1885 г. у Лагойску. Оперны спявак, тэатральны і грамадскі дзеяч. Скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. У 1910 г. паступіў у оперны клас Пецярбургскай кансерваторыі. Спяваў у Марыінскім імператарскім тэатры. Выконваў галоўныя партыі ў «Князі Ігары», «Рыгалета», «Дэмане», «Барысе Гадунове», супольна з вядомым спеваком Фёдарам Шаляпіным — у «Хаваншчыне» і «Кармен». У 1925 г. пераехаў у Мінск, дзе працаваў выкладчыкам у музычным тэхнікуме і кіраваў музычнаю секцыяй пры Інбелкульце. Паставіў першую оперу па-беларуску — «Русалка». З 1927 г. — дырэктар БДТ-1 (сёння — Купалаўскі тэатр). У 1933 г. рэпрэсаваны, па вызваленні жыў у Ленінградскай вобл. (горад — Луга), гэтая тэрыторыя трапіла ў 1941 г. пад нямецкую акупацыю.

У 1943 г. вярнуўся ў Беларусь, быў кіраўніком аддзелу культуры і мастацтва пры Беларускай народнай самапомачы, з лютага 1944 г. узначаліў аддзел культуры ў БЦР. У канцы 1944 г. падтрымаў супрацоўніцтва з Уласавым, далучыўся да Беларускага камітэту.

У 1948 г. у Нямеччыне стварыў тэатральную групу «Жыве Беларусь», з якой гастраляваў па беларускіх лагерах з п’есаю «Загубленае жыццё». З 1950 г. — у Саўт-Рывэры, браў удзел у жыцці мясцовай беларускай грамады, належаў да БККА, быў кіраўніком аддзелу культуры і мастацтва ва ўрадзе БЦР у 1950-я гады (затым — аддзел культуры і веравызнанняў), быў сябрам Кантрольнай камісіі БЦР.

У 1950-х у Саўт-Рывэры заснаваў Тэатральную студыю, якая аб’яднала маладых людзей, што жадалі вучыцца асновам тэатру і выканальніцкага майстэрства. Пад ягонаю рэдакцыяй у 1976 г. быў выдадзены «Зборнік песняў беларускага жаўнера» (1975).

Памёр 8 жніўня 1976 г. Пахаваны на Беларускіх могілках у Саўт-Рывэры.

**Міхась Сенька**. Нарадзіўся 2 лютага 1922 г. у Новым Свержні (сёння Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.) Падчас нямецкай акупацыі скончыў Баранавіцкую медычную школу, працаваў кіраўніком аптэкі ў Стоўбцах.

З лета 1944 г. — на эміграцыі. Па сканчэнні вайны знаходзіўся ў беларускім лагеры ў Ватэнштэце, дзе скончыў гімназію, браў актыўны ўдзел у скаўтынгу. У 1947–1949 гг. вучыўся ва Украінскім тэхнічна-гаспадарчым інстытуце ў Мюнхене. У 1949 г. пераехаў у ЗША, пасяліўся ў Саўт-Рывэры. Працаваў на заводзе «Форд». З самага пачатку браў удзел у беларускім грамадскім жыцці ў Амерыцы, спрычыніўся да запрашэння беларусаў у Саўт-Рывэр.

У 1950-х узначальваў Аб’яднанне беларуска-амерыканскай моладзі, уваходзіў у царкоўную ўправу прыходу св. Еўфрасінні Полацкай (сакратар), шматгадовы сакратар управы Беларускага кангрэсавага камітэту Амерыкі, быў радным БЦР. Ягоная кватэра ў Саўт-Рывэры была «штабам» для дзясятка беларускіх арганізацыяў.

**Уладзімір Сенька**. Старэйшы брат Міхася Сенькі. Нарадзіўся 21 ліпеня 1918 г. у Новым Свержні (Стаўбцоўскі р-н). Скончыў Стаўбцоўскую гімназію і Віленскі ўніверсітэт, быў сябрам Беларускага студэнцкага саюзу. Выпускнік польскай школы афіцэрскага рэзерву ў Замбраве (Польшча). У 1940–1941 гг. працаваў настаўнікам у Заходняй Беларусі. Падчас нямецкай акупацыі быў начальнікам паліцыі Нясвіжскага павету.

З 1944 г. — на эміграцыі. Працаваў у разведцы нямецкага бундэсверу, даслужыўся да звання маёра. Рэдагаваў па-нямецку бюлетэні-штоквартальнікі пра становішча ў Беларусі для нямецкага навукова-даследчага інстытуту (Die Wiessruthenische Sowietrepublic Informationshefte, Stuttgart, 1978–1991, Vierteljahresbericht, Dusseldorf, 1959–1960), а па-беларуску — газету «Жыве Беларусь!».

Браў удзел у аднаўленчым Пленуме БЦР у Эльвангене (травень 1948), прызначаны віцэ-міністрам унутраных справаў, у 1953 г. — намеснікам сакратара дзяржаўнай абароны БЦР. У 1953 г. узначаліў дэлегатуру БЦР на Нямеччыну (заходняя частка ФРГ).

Сябра Беларускага вызвольнага руху, замежнага сектару БНП, а пасля — Беларускага вызвольнага фронту (пад кіраўніцтвам Касмовіча). У студзені 1963 г. Міністэрства замежных справаў СССР беспаспяхова дамагалася ад нямецкага ўраду выдаць Сеньку як «ваеннага злачынца».

Памёр 2 лютага 1997 г. Пахаваны ў в. Ігель (Igel) каля Трыру (Trier).

**Яўхім Скурат**. Нарадзіўся 29 снежня 1906 г. У 1930-я скончыў аддзел французскай філалогіі Віленскага ўніверсітэту, Універсітэт Сарбоны, абараніў дысертацыю «Сімвалізм у раманах Радэнбаха». Падчас нямецкай акупацыі займаўся пытаннямі школьніцтва, быў школьным інспектарам у Глыбоцкай акрузе, пераехаў у Мінск. Узначальваў Генеральны інспектарат беларускіх школаў, у БЦР — пададдзел школьніцтва, уваходзіў у Навуковае таварыства.

З канца 1940-х пераехаў у Канаду, дзе вымушаны быў перавучвацца, бо дыплом філолага не прызнаваўся. Скончыў Тэхнічны інстытут электронікі. Браў удзел у грамадскім жыцці беларусаў Канады. Быў сябрам БІНіМу.

Памёр у 1992 г.

**Барыс Сладкоўскі**. Нарадзіўся 25 сакавіка 1916 г. у Цырыне (сёння Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл.). Скончыў Віленскую беларускую гімназію. У Канадзе — з 1949 г., быў актывістам парафіі св. Еўфрасінні Полацкай у Таронта. У канцы 1950-х — кіраўнік дэлегатуры БЦР на Канаду, з 1974 г. — сябра выканаўчага органу БЦР. Памёр у 1992 г.

**Антон Сокал-Кутылоўскі**. Нарадзіўся 7 лютага 1892 г. у Чырвонай Горцы Пінскага павету. У снежні 1920 г. узначаліў Слуцкую брыгаду, пасля здушэння Слуцкага паўстання разам з брыгадаю перайшоў савецка-польскую мяжу. У 1921–1939 гг. быў праваслаўным святаром, з прыходам саветаў афіцыйна выракся святарства. З кастрычніка 1941 г. да ліпеня 1944 г. працаваў школьным інспектарам у Ганцавічах, быў акруговым камендантам БКА. З лета 1944 г. — на эміграцыі, камандзір батальёну 30-й (беларускай) дывізіі войск СС. Потым быў у 1-м кадравым батальёне БКА, кіраўніком афіцэрскай школы для перападрыхтоўкі вайсковых афіцэраў (прызначаны 27 лістапада 1944 г.).

Выдадзены амерыканскімі войскамі саветам. У 1948 г. Ваенным трыбуналам МУС Беларускай ваеннай акругі асуджаны на 25 гадоў лагераў. Вызвалены ў лістападзе 1957 г. па амністыі. Выехаў у Польшчу, памёр 7 сакавіка 1983 г.

**Станіслаў Станкевіч**. Нарадзіўся 23 лютага 1907 г. у Арлянятах (сёння Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл.). Грамадска-культурны дзеяч, літаратуразнаўца, публіцыст, крытык, выдавец. Падчас нямецкай акупацыі — бургамістр Барысава (1941–1943), 7 лютага 1944 г. прызначаны намеснікам прэзідэнта БЦР на Баранавіцкую акругу (1944). Дэлегат Другога Усебеларускага кангрэсу. З лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1944 — пачатку 1945 гг. у Нямеччыне рэдагаваў берлінскую газету «Раніца». Быў актыўным прыхільнікам аднаўлення Рады БНР.

З 1947 г. — радны БНР. Быў старшынём Антыбальшавіцкага блоку народаў (1946). У 1948–1962 гг. — рэдактар газеты «Бацькаўшчына» (Мюнхен). Заснавальнік філіі БІНіМу ў Заходняй Нямеччыне. Быў навуковым сакратаром Інстытуту вывучэння СССР у Мюнхене. У 1963 г. выехаў у ЗША. Сябра БАЗА, у тым ліку старшыня арганізацыі ў 1963–1965 гг. Супрацоўнік радыё «Свабода». У 1963–1980 гг. — рэдактар газеты «Беларус» (Нью-Ёрк). Быў сябрам БІНіМу. Напісаў шэраг кніг па беларускай літаратуры, спецыялізаваўся на Купаліяне, адрэдагаваў зборнік «Спадчына» (Мюнхен, 1955).

Памёр 6 лістапада 1980 г. у Нью-Ёрку. Пахаваны на Беларускіх могілках у Іст-Брансўіку.

**Сцяпан Стаськевіч**. Паводле адукацыі інжынер. У вайну быў дырэктарам рамеснай школы ў Мінску. 24 студзеня 1944 г. пакліканы Астроўскім у БЦР, займаўся пытаннямі развіцця прафесійна-тэхнічнай асветы, разам са Сцяпанам Калядкам распрацоўваў аддзелы беларускай працы, прафесійнага руху і рамесніцтва пры БЦР. Эвакуяваўся на Захад разам з сям'ёй. У студзені 1945 г. быў залічаны да асобнай групы рэзервы беларускай вайскоўцаў пры Галоўным кіраўніцтве вайсковых справаў. Удзельнічаў у паседжаннях БЦР у Берліне. У канцы 1940-х пераехаў у ЗША, жыў у Нью-Ёрку, затым у Вашынгтоне, займаўся перакладамі тэхнічнай літаратуры. У беларускім грамадскім жыцці браў непрыкметны ўдзел.

**Барыс Суравы**. Нарадзіўся 15 верасня 1907 г. у Стаўбцоўскім павеце. Скончыў Віленскі ўніверсітэт. Падчас нямецкай акупацыі працаваў школьным інспектарам, быў кіраўніком СБМ на Слонімскую акругу.

Улетку 1944 г. выехаў у Нямеччыну, адкуль перабраўся ў Вялікую Брытанію, жыў у Лондане. Быў сябрам ЗБВБ, але за падтрымку апазіцыі пазбаўлены сяброўства. Увайшоў у часовую ўправу ХАБР (віцэ-старшыня), а таксама ў рэдакцыю часопісу «Аб'еднаньне». У снежні 1948 г. быў абраны старшынёй Галоўнай управы ХАБР (1948–1950 гг. і 1954–1966 гг.). У 1948–1953 гг. быў кіраўніком дэлегатуры БЦР у Вялікай Брытаніі. У 1960–1980-я браў актыўны ўдзел у жыцці лонданскай парафіі св. Еўфрасінні Полацкай.

Пры канцы жыцця быў паралізаваны. Памёр у Лондане ў снежні 1998 г.

**Мікалай Сцяпанаў**. Нарадзіўся ў 1896 г. Оталарынголаг. Быў рэпрэсаваны. У 1943–1944 гг. — дырэктар Магілёўскага медычнага інстытуту.

З лета 1944 г. — на эміграцыі. Стаў святаром пасля асабістай трагедыі, смерці сына. У 1946–1947 гг. разам з Я. Кіпелем, С. Шаўцовым, С. Жамойдам стварыў Беларускую народную партыю.

У студзені 1948 г. разам з Міколам Шылам, Святаславам Каўшом, Юрыем Сабалеўскім, Васілём Рагулем падпісаў зварот «Да беларускай эміграцыі» (ухваляў адозву Астроўскага ад 30 снежня 1947 г.) і заклікаў правесці выбары ў Агульнае беларускае прадстаўніцтва. Браў удзел у аднаўленчым Пленуме БЦР у Эльвангене (травень 1948), на пленуме быў прызначаны міністрам культуры і асветы, радны БЦР у ЗША. Працаваў у шпіталі на Лонг-Айлэндзе (Long Island), чытаў лекцыі аб Старым Запавеце ў духоўнай семінарыі РЗПЦ у Джорданвіле. Быў святаром царквы св. Мікалая ў Спрынгфілдзе (Масачусэтс), арганізаваў праваслаўны прыход «на раздарожжы» ў Пасэіку (Нью-Джэрзі). Быў сябрам БІНіМу.

Памёр 21 траўня 1972 г.

**Масей Сяднёў**. Нарадзіўся 19 жніўня 1915 г. (паводле новага стылю — 1 верасня) у в. Мокрае (сёння Касцюковіцкі р-н Магілёўскай вобл.). У 1933–1936 гг. вучыўся ў Мінскім педагагічным інстытуце. Быў рэпрэсаваны і высланы на Калыму.

У 1943 г. разам з бацькамі выехаў з Магілёўшчыны на Захад. Жыў у Беластоку, працаваў карэктарам у «Новай дарозе», быў у Беларускім камітэце. Браў удзел у аднаўленчым Пленуме БЦР у Эльвангене (травень 1948). У 1950 г. выехаў у ЗША, нейкі час жыў у Саўт-Рывэры. Выкладаў рускую мову ва ўніверсітэце ў Блумінгтане (Індыяна), належаў да БЦР. З канца 1960-х працаваў у Беларускай рэдакцыі радыё «Свабода», быў сябрам БІНіМу.

Памёр 5 лютага 2001 г. у Глэн-Коў (штат Нью-Ёрк). Пахаваны на Беларускіх могілках у Саўт-Рывэры.

**Аляксей Сянькевіч**. Нарадзіўся 15 лістапада 1904 г. у Новым Свержні (сёння Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.). Напярэдадні Другой сусветнай вайны выехаў у Нямеччыну, затым у 1940–1941 гг. кіраваў аддзелам Берлінскага беларускага камітэту ў Белай Падляскай. У 1942–1943 гг. рэдагаваў мінскую газету «Голас вёскі». З вясны 1944 г. — афіцэр прапаганды БКА.

З лета 1944 г. — на эміграцыі. Браў удзел у пленуме БЦР у верасні 1945 г., на якім была прыпыненая дзейнасць (быў сакратарам паседжання), а таксама ў аднаўленчым Пленуме БЦР у Эльвангене (травень 1948 г.). У 1949 г. выехаў у ЗША. Жыў у Саўт-Рывэры, браў удзел у грамадскім жыцці, быў радным БЦР, рэгулярна ўдзельнічаў у пленумах, уваходзіў у Дысцыплінарны суд БЦР. У 1960 г. абраны старшынём выканаўчага органу БЦР (г. зн. ураду). Быў таксама актывістам парафіі св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рывэры.

Памёр 12 снежня 1991 г. Пахаваны на Беларускіх могілках у Саўт-Рывэры.

**Майк Філіповіч**. Нарадзіўся 20 верасня 1918 г. у Кліўлэндзе. У 1921 г. бацькі вярнуліся на Вілейшчыну. У 1940 г. быў рэпрэсаваны, высланы. Далучыўся да 2-га Польскага корпусу (Армія Андэрса), з якім эвакуяваўся ў Англію.

Быў адным з першых прадстаўнікоў паваеннай эміграцыі, што пасля вайны прыехаў у ЗША і пачаў запрашаць і ўладкоўваць беларускія сем’і. Адзін з заснавальнікаў Злучанага беларуска-амерыканскага дапамаговага камітэту. У першым урадзе БККА — скарбнік і рэферэнт сацыяльнай апекі. У 1952 г. за грамадскія заслугі быў прыняты ў БЦР. Потым адышоў ад актыўнай грамадскай дзейнасці.

Памёр у 1975 г.

**Іван Хіхлуша**. Нарадзіўся ў 1920 г. у ЗША. Бацькі вярнуліся на радзіму. Падчас нямецкай акупацыі ўзначальваў Слуцкую акруговую ўправу БНС, з 15 красавіка 1944 г. — намеснік прэзідэнта БЦР на Слуцкую акругу. Дэлегат Другога Усебеларускага кангрэсу. З лета 1944 г. — на эміграцыі. Браў актыўны ўдзел у грамадскім жыцці беларусаў лагеру ў Міхэльсдорфе. У 1951–1955 гг. — выканаўчы сакратар Беларускага кангрэсавага камітэту.

**Сяргей Хмара** (сапраўднае **Сіняк**, на эміграцыі **Марыян Зіняк**). Нарадзіўся 25 траўня 1905 г. у в. Казлоўшчына (сёння Дзятлаўскі р-н Гродзенскай вобл.) — грамадскі дзеяч, выдавец, публіцыст, паэт. У часе нямецкай акупацыі працаваў у БНС у Слоніме. З лета 1944 г. — на эміграцыі. У Берліне ў верасні 1944 г. быў уведзены як прадстаўнік БЦР у прапагандысцкае бюро «Вінэта». 20 студзеня 1945 г. прыняты ў склад радных, а 21 студзеня 1945 г. прызначаны намеснікам кіраўніка аддзелу прапаганды. Адышоў ад БЦР, заснаваў палітычную суполку пад назвай «Двупагоня», таксама ініцыятар «трэцяй сілы»: ні БНР, ні БЦР.

У 1948 г. прыехаў у Канаду. Жыў у Таронта, быў адным з заснавальнікаў Згуртавання беларусаў Канады, а затым Беларускага нацыянальнага аб'яднання. У сваіх публікацыях (газета «Беларускі голас») востра крытыкаваў як Раду БНР, гэтак і БЦР. Рэдагаваў «Беларускі голас» (Таронта, 1952–1992).

Памёр 4 верасня 1992 г. у Таронта.

**Мікола Хмыз**. Нарадзіўся 27 сакавіка 1907 года ў Мінску. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у гарадской управе, з 24 красавіка 1944 г. узначальваў аддзел сацыяльнага забеспячэння БЦР (змяніў на гэтай пасадзе Юрыя Сабалеўскага). З лета 1944 г. — на эміграцыі. Быў у адміністрацыі лагеру ў Міхэльсдорфе.

У канцы 1940-х пераехаў у ЗША, напачатку жыў у Саўт-Рывэры, затым перабраўся ў Каліфорнію, жыў у Норт-Галівудзе (North Hollywood). Браў удзел у жыцці беларускай грамады ў Каліфорніі.

Памёр 8 верасня 1986 г.

**Янка Цупрык**. Нарадзіўся 18 лютага 1913 г. у Слоніме. Скончыў Навагрудскую беларускую гімназію, Варшаўскі ўніверсітэт. З лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1948 г. узяў шлюб з Ірэнай Жылінскай, з якой у 1950 г. пераехаў у ЗША (Саўт-Рывэр). Працаваў хімікам у аддзеле нуклеарнай медыцыны ў фармацэўтычнай кампаніі «Скўіб» (*Squibb*, Нью-Брансўік). Браў актыўны ўдзел у беларускім грамадскім жыцці. Належаў да БККА, царкоўнага камітэту парафіі св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рывэры, быў радным БЦР. Бацька старшыні БККА Роберта Цупрыка.

Памёр 21 верасня 1983 г. Пахаваны на Беларускіх могілках у Саўт-Рывэры.

**Віталь Цярпіцкі**. Нарадзіўся 3 лютага 1923 г. у Івянцы (сёння Валожынскі р-н Мінскай вобл.) у сям'і святара Антона Цярпіцкага. Вучыўся ў Віленскай гімназіі імя Пушкіна, затым — Навагрудскай гімназіі. Падчас нямецкай акупацыі — навучэнец настаўніцкай семінарыі ў Нясвіжы (1942–1944), у чэрвені 1944 г. паступіў у Мінскую афіцэрскую школу БКА.

З 1944 г. — на выгнанні. Разам з далучанымі да дывізіі Зыглінга беларускімі аддзеламі апынуўся ва Усходняй Францыі, дзе перайшоў на бок французскіх партызанаў. Пазней — у Арміі Андэрса. У 1946 г. разам з корпусам эвакуяваўся ў Вялікую Брытанію. Па дэмабілізацыі пасяліўся ў Брэдфардзе (Bradford). Узначальваў аддзел Хрысціянскага аб'яднання беларускіх работнікаў (арганізацыі, якая падтрымлівала БЦР) у Ёрку.

Пазней пераехаў у ЗША. Пасяліўся ў Саўт-Рывэры. Браў актыўны ўдзел у працы БККА, уваходзіў у яго кіраўнічыя органы. На 14-м Пленуме БЦР (1954) абраны кіраўніком аддзелу грамадскай апекі, з 1955 г. — сакратар Пленуму БЦР, намеснік старшыні Беларускага нацыянальнага фонду, уваходзіў у кіраўніцтва Амерыканскіх прыхільнікаў БЦР. У 1969–1972 гг. узначальваў камітэт будаўніцтва царквы парафіі св. Еўфрасінні Полацкай. З 1974 г. — сакратар выканаўчага органу БЦР. За прэзідэнцтвам Нікандра Мядзейкі быў сакратаром прэзідыуму БЦР, арганізаваў апошні Пленум БЦР (19 кастрычніка 1988 г.), падчас прэзідэнцтва Міхася Зуя — сакратар БЦР (фактычна намеснік Зуя і аўтар бягучага ліставання БЦР).

Перад смерцю М. Зуй перадаў паўнамоцтвы прэзідэнта В. Цярпіцкаму, але той адмовіўся афіцыйна прыняць на сябе абавязкі прэзідэнта і склікаць Пленум.

**Віктар Чабатарэвіч**. Нарадзіўся ў 1907 г. у Новым Свержні (сёння Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.) у малазямельнай сям'і. Скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, школу падхаружых. Настаўнічаў на Віленшчыне і ў Заходняй Польшчы. У 1939–1941 гг. — у Стоўбцах, працаваў настаўнікам. У 1941–1942 гг. працаваў у Галоўным школьным інспектараце, сакратаром Цэнтралі БНС. У сакавіку 1944 г. узначаліў афіцэрскія курсы Беларускай краёвай абароны, затым — Афіцэрскую школу БКА.

З лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1948 г. пераехаў у ЗША, пасяліўся на Лонг-Айлэндзе (Нью-Ёрк), быў адным з арганізатараў Злучанага беларуска-амерыканскага дапамаговага камітэту. Спрычыніўся да запрашэння ў ЗША і ўладкавання беларускіх эмігрантаў. З 1951 г. — у БККА (быў яго віцэ-старшынём), карэктаваў газету «Беларуская трыбуна», у 1955–1956 гг. — адзін з ініцыятараў стварэння Камітэту незалежнай Беларусі. Сябра БЦР, у 1953–1955 гг. узначальваў аддзел дзяржаўнай абароны.

Памёр 7 кастрычніка 1963 г. Пахаваны ў Нью-Ёрку на праваслаўных могілках Мэспэт (Maspeth).

**Сымон Шаўцоў**. Нарадзіўся 17 красавіка 1911 г. на Случчыне. У 1930-х працаваў на машынабудаўнічым заводзе імя Варашылава ў Мінску. У 1939 г. скончыў гістарычны факультэт БДУ. Настаўнічаў у в. Капцэвічы (Петрыкаўскі р-н), потым служыў у Чырвонай Арміі ды трапіў у нямецкі палон. Скончыў школу прапагандыстаў пад Берлінам, быў накіраваны на працу ў Мінск.

З лета 1944 г. — на эміграцыі. Разам з Я. Кіпелем, С. Жамойдам, М. Сцяпанавым, М. Падлазнікам стварыў Беларускую народную партыю. Настаўнічаў у беларускай школе лагеру ў Мітэнвальдзе (Нямеччына). Браў удзел у аднаўленчым Пленуме БЦР у Эльвангене (травень 1948).

З 1949 г. — у Аўстраліі. Падтрымліваў сувязі з беларускімі арганізацыямі Сіднэю. Быў сябрам Беларускага культурна-грамадскага клубу.

Аўтар кнігі, што змяшчае аўтабіяграфічны нарыс: Шаўцоў, Сымон. Мая Адысея. Вільня: Рунь, 1999.

Памёр 8 траўня 1999 г.

**Анатоль Шкутка**. Нарадзіўся 15 студзеня 1908 г. на Стаўбцоўшчыне. У 1930-х вучыўся ў Берлінскім універсітэце і атрымаў дыплом інжынера. Старшыня Беларускага прадстаўніцтва ў Берліне. Увайшоў у склад управы Беларускага нацыянальнага цэнтру ў 1941 г. У канцы лютага 1945 г. змяніў Сабалеўскага на пасадзе кіраўніка «Гёкстэрскай групы» сябраў БЦР (групы дзеячаў ды іхных сем'яў, што эвакуявалася з Берліну).

Па сканчэнні Другой сусветнай вайны стварыў Беларускі камітэт у Браўншвайгу (Ніжняя Саксонія). Браў удзел у аднаўленчым Пленуме БЦР у Эльвангене (травень 1948 г.), прызначаны віцэ-старшынём Рады Міністраў БЦР. Прайграў выбары другога віцэ-прэзідэнта БЦР Мікалаю Шчорсу.

У 1949 г. разам з сям'ёй выехаў у Аўстралію. Пасяліўся ў Брысбане (Brisbane, Кўінзлэнд), дзе спрабаваў наладзіць уласны бізнес. Да канца 50-х гадоў падтрымліваў сувязі з беларусамі Сіднэю. Быў кіраўніком аддзелу БАА ў Кўінзлэндзе.

**Мікола Шкялёнак**. Нарадзіўся ў 1899 г. у в. Пякоціна Дзісенскага павету (сёння Мёрскі р-н Віцебскай вобл.). Скончыў юрыдычны факультэт Віленскага ўніверсітэту (1932). Быў старшынём Беларускага студэнцкага саюзу, адным з заснавальнікаў студэнцкай арганізацыі «Скарынія», уваходзіў у кіраўніцтва Беларускага інстытуту гаспадаркі і культуры (Заходняя Беларусь), БНК. У 1936 г. разам з Вінцэнтам Гадлеўскім стварыў Беларускі нацыянальны фронт. З

1940 г. — у Берліне, быў адным з арганізатараў Беларускага камітэту самапомачы, а затым яе кіраўніком, рэдагаваў газету «Раніца». 19 чэрвеня 1941 г. увайшоў у склад Беларускага нацыянальнага цэнтру.

З лютага 1943 г. жыў у Мінску. Працаваў у «Беларускай газэце», уваходзіў у БНТ. Пасля забойства галоўнага рэдактара Уладзіслава Казлоўскага (лістапад 1943) стаў рэдактарам «Беларускай газэты». У снежні 1943 г. Астроўскі прапаноўваў Шкялёнку ўзначаліць БЦР, але той адмовіўся. З 24 студзеня 1944 г. — чалец прэзідыуму і першы віцэ-прэзідэнт БЦР; кіраўнік Аддзелу прэсы і прапаганды. Адзін з ініцыятараў склікання Другога Усебеларускага кангрэсу, дзе выступіў з дакладам «Аб прызнанні за няважныя пастановы ўраду СССР і былой Польшчы, якія датычацца Беларусі, яе тэрыторыі і народу».

У берлінскі перыяд дзейнасці падтрымліваў Астроўскага. Быў адным з распрацонікаў Канстытуцыі БЦР, 20 студзеня 1945 г. узначаліў Калегію БЦР. У сакавіку 1945 г. з Берліну выехаў у Польшчу, дзе быў арыштаваны савецкімі карнымі органамі, вывезены ў Мінск, асуджаны да найвышэйшай меры пакарання.

Аўтар шматлікіх артыкулаў па гісторыі Беларусі. Увайшлі ў зборнік: Шкялёнак, Мікола. Беларусь і суседзі. Беласток, 2003.

**Сцяпан Шнэк**. Нарадзіўся 12 кастрычніка 1900 г. у Лядных (сёння Слуцкі р-н Мінскай вобл.). У 1930–1936 гг. вучыўся ў Вайсковай акадэміі ў Ленінградзе. Затым кіраваў Домам палітпрасветы ў г. Чыта Забайкальскай вайсковай акругі. У 1938 г. выключаны з партыі і звольнены з войска, пасля чаго ўвосень 1939 г. вярнуўся на радзіму. Працаваў настаўнікам у Слуцку.

Падчас нямецкай акупацыі ўзначальваў слуцкую паліцыю, 25 лютага 1944 г. прызначаны кіраўніком БКА на Слуцкую акругу. Увесну 1944 г. арыштаваны нямецкімі ўладамі разам з усёй сям’ёй, але выпушчаны дзякуючы заступніцтву Астроўскага.

З лета 1944 г. — на эміграцыі. Быў мабілізаваны афіцэрам у Беларускую брыгаду (полк). Браў удзел у аднаўленчым Пленуме БЦР у Эльвангене (травень 1948 г.), прызначаны міністрам Краёвай абароны БЦР (пазней — аддзел Краёвай абароны).

У 1950 г. выехаў у Аўстралію. Спачатку працаваў у Новым Паўднёвым Ўэльсе, браў актыўны ўдзел у грамадскім жыцці, актыўна перапісваўся з дзеячамі ў розных краінах. Пісаў артыкулы ў «Беларускае слова», «Бацькаўшчыну».

Скончыў жыццё самагубствам 19 студзеня 1952 г.

**Аляксей Шудзейка**. Нарадзіўся 28 лютага 1913 г. у Мітаве (сёння Елгава, Jelgava, Латвія). У 1923 г. сям’я Шудзейкаў пераехала ў Заходнюю Беларусь.

Скончыў Варшаўскі ўніверсітэт. У 1939 г. быў мабілізаваны ў Польскую армію, трапіў у нямецкі палон. У 1941 г. вызвалены. Узначаліў Беларускае прадстаўніцтва ў Торуні, пазней працаваў у прапагандысцкім бюро «Вінэта». Пасля капітуляцыі Нямеччыны апынуўся ў французскай акупацыйнай зоне.

У ЗША — з 1949 г. Пасяліўся ў Ўолінгтане (Нью-Джэрзі), уваходзіў у ЗБАДК, браў удзел у структурах БККА, быў сакратаром 2-га Кангрэсу беларусаў Амерыкі і адным з распрацоўнікаў яго статуту. У 1953 г. — сакратар Аддзелу культуры, прэсы і прапаганды БЦР. Належаў да арганізацыі Амерыканскія прыхільнікі БЦР, уваходзіў у склад яе ўправы.

Памёр 21 снежня 1969 г.

**Барыс Шчорс**. Нарадзіўся 26 чэрвеня 1916 г. у Новым Свержні (сёння Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.). Брат Мікалая і Ігара Шчорсаў. Скончыў гімназію ў Стоўбцах (1937), настаўніцкі інстытут у Беластоку (1940). Працаваў у адміністрацыі ў Барысаўскай акрузе, узначальваў мясцовую БНС.

З лета 1944 г. — на эміграцыі. Быў камендантам беларускага лагеру ў Міхэльсдорфе: дапамагаў шматлікім беларускім пачынанням, ініцыяваў падарожжы на розныя міжнацыянальныя сустрэчы, супрацоўнічаў з іншымі лагерамі Ды-Пі. Браў удзел у аднаўленчым Пленуме БЦР у Эльвангене (травень 1948).

З 1949 г. — у ЗША, жыў у Саўт-Рывэры. У 1951 г. узначаліў Беларускае выдавецкае таварыства пры ЗБАДК, а потым пры БККА. У БЦР у 1950-я быў кіраўніком Аддзелу фінансаў, узначальваў Беларускі нацыянальны фонд, уваходзіў у склад рэдакцыі саўт-рывэрскага часопісу «Беларуская думка», кіраўнічыя органы БККА, шмат спрычыніўся да арганізацыі харавой і мастацка-выяўленчай дзейнасці ў Саўт-Рывэры, ініцыяваў выданне кружэлак (пласцінак) «Каліна».

Адзін з ініцыятараў будаўніцтва асобнага памяшкання для парафіі ў Саўт-Рывэры. Ініцыятар пабудовы Беларускага грамадскага цэнтру ў Саўт-Рывэры.

Памёр 6 чэрвеня 1975 г. Пахаваны на Беларускіх могілках у Саўт-Рывэры.

**Ігар Шчорс**. Нарадзіўся 25 жніўня 1918 г. у Новым Свержні (сёння Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.). Падчас нямецкай акупацыі працаваў у гарадской управе (аддзел дакументаў), потым быў начальнікам гарадской крымінальнай паліцыі. Антон Шукелойць у некралогу па І. Шчорсу (Беларус. Лістапад 1992) зазначае, што Ігар Шчорс выпісваў дакументы і пропускі габрэйскім дзецям на выезд з Мінску, такім чынам ратуючы іх ад смерці. У 1944 г. — камандзір 27-га батальёну БКА.

З лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у лагеры ў Міхэльсдорфе, належаў да тэатральнай трупы «Жыве Беларусь!» Вячаслава Селяха-Качанскага. З 1949 г. — у

ЗША. Жыў у Саўт-Рывэры. Браў актыўны ўдзел у дзейнасці парафіі св. Еўфрасінні Полацкай, розных грамадска-культурных арганізацыяў. Належаў да БККА, быў радным БЦР. Удзельнік апошняга Пленуму БЦР у 1988 г.

Памёр 18 кастрычніка 1992 г. Пахаваны на Беларускіх могілках у Саўт-Рывэры.

**Мікалай Шчорс**. Нарадзіўся ў 1913 у Новым Свержні (сёння Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.). Скончыў медычны факультэт Віленскага ўніверсітэту, займаўся актыўнай грамадскай дзейнасцю, у 1935–1937 гг. — старшыня Беларускага студэнцкага саюзу. У 1939 г. выехаў у Варшаву, з 1940 г. — старшыня Беларускага камітэту ў Варшаве. Дамогся ад мітрапаліта Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы Дзяніса прызнання самастойнасці праваслаўных прыходаў у Заходняй Беларусі, быў адным з ініцыятараў абвяшчэння аўтакефаліі БПЦ.

З восені 1944 г. — у Нямеччыне. Быў прызначаны палкавым доктарам Беларускай брыгады. Браў удзел у пленуме БЦР у верасні 1945 г., на якім прыпынілі дзейнасць Рады. Уваходзіў у першы склад Беларускага нацыянальнага камітэту ў Рэгенсбурзе. У 1946–1947 гг. быў адным з кіраўнікоў Беларускага праваслаўнага аб'яднання, браў удзел у аднаўленчым Пленуме БЦР у Эльвангене (травень 1948), абраны 2-м віцэ-прэзідэнтам БЦР.

З 1949 г. жыў у ЗША, пасяліўся ў Нью-Ёрку. У 1950–1951 гг. узначальваў Злучаны беларуска-амерыканскі дапамаговы камітэт, ініцыятар стварэння Беларускага кангрэсавага камітэту Амерыкі, яго першы старшыня (1951–1955), заснавальнік і рэдактар першай паваеннай рэгулярнай газеты ў ЗША — «Беларуская трыбуна» (1950–1953)[756]. У 1951–1954 гг. уваходзіў у кіраўнічыя органы БЦР, канфліктаваў у некаторых пытаннях з Астроўскім.

У 1955 г. падаў у адстаўку з пасады старшыні БККА, разам з Юрыем Сабалеўскім, Міколам Паньковым, Іванам Касяком, Віктарам Чабатарэвічам, Лявонам Савёнкам, Леанідам Галяком стварылі Камітэт Незалежнай Беларусі. У 1958 г. — адзін са стваральнікаў Беларуска-амерыканскага звязу.

У канцы 1950-х адышоў ад актыўнай грамадскай дзейнасці, з'ехаў у Плэтсбург (штат Нью-Ёрк), дзе меў клініку, з'яўляўся віцэ-прэзідэнтам Амерыканскай асацыяцыі хірургаў. Браў удзел у беларускіх святкаваннях, спансіраваў беларускія праекты. Пасля выхаду на пенсію пераехаў у Флорыду (мястэчка Даўнт-Мора). Памёр 22 снежня 1995 г.

---

[756] Узяў назву, як газета, што выдаваў у Чыкага Язэп Варонка — «Беларуская трыбуна».

**Сяргей Шчэрба**. Нарадзіўся 2 жніўня 1918 г. у в. Рушкава пад Баранавічамі. Падчас нямецкай акупацыі служыў у паліцыі. Летам 1944 г. эвакуяваўся, быў далучаны да 30-й грэнадзёрскай дывізіі СС, перайшоў на бок саюзнікаў, далучыўся да 2-га Польскага корпусу, разам з якім у 1946 г. прыбыў у Вялікую Брытанію. Быў сябрам ЗБВБ, адзін з заснавальнікаў акруговага аддзелу ў Ёркшыры (Yorkshire), потым — у ХАБР, быў старшынём акруговага цэнтру Ёркс.

Быў прадстаўніком дэлегатуры БЦР на Ёркс. З 1952 г. актыўна ўключыўся ў дзейнасць БВР. У расколе 1954 г. падтрымаў пазіцыю Людвіка Зарэчнага і быў абраны на пасаду генеральнага сакратара ЦК БВР. У выніку канфлікту з Манчэстэрскім асяродкам БВР у 1957 г. ініцыяваў новы раскол арганізацыі. У 1958 г. узначаліў дэлегатуру БЦР у Ёрксе.

**Хведар Шыбут**. Нарадзіўся 26 чэрвеня 1901 г. (паводле інш. звестак — 14 красавіка 1900) у в. Дунайчыцы, (сёння Клецкі р-н Мінскай вобл.). У 1920-х арганізоўваў беларускае культурнае жыццё, стварыў у Дунайчыцах тэатральны гурток. У 1924 г. далучыўся да паланафільскай Беларускай часовай рады, у 1925–1926 гг. — сябра Беларускага сялянскага саюзу, выбіраўся ў яго кіраўнічыя органы. Потым — зноў у Беларускай часовай радзе. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у цывільнай адміністрацыі.

З лета 1944 г. — на эміграцыі. Адзін з заснавальнікаў Беларускага нацыянальнага камітэту ў Рэгенсбурзе, БЦДК, кіраваў культурна-асветным аддзелам, спрычыніўся да стварэння Беларускай гімназіі, узначальваў бацькоўскі камітэт. Быў адным з арганізатараў Беларускага праваслаўнага аб’яднання. Браў удзел у аднаўленчым Пленуме БЦР у Эльвангене (травень 1948 г.)

З 1950 г. — у ЗША, пасяліўся ў штаце Каларада (г. Пуэбла, Pueblo). Быў прадстаўніком БККА на штат Каларада, радным БЦР.

Памёр 18 снежня 1990 г. у Норт-Плэце (North Platte, Нэбраска), дзе жыў у сына.

**Мікола Шыла**. Нарадзіўся ў 1888 г., грамадскі дзеяч, журналіст. Дэлегат Першага (1917) і Другога (1944) Усебеларускіх кангрэсаў. У 1917–1920 гг. — старшыня Партыі беларускіх эсэраў. У 1920–1930-х гг. браў удзел у заходнебеларускім нацыянальным руху. З лета 1944 г. — на эміграцыі. Падтрымліваў прыхільнікаў Радаслава Астроўскага. Аўтар брашуры «А што далей?» (два выданні), у якой выказвалася падтрымка крылу БЦР. Памёр 6 красавіка 1948 г. у Гасляры (Ніжняя Саксонія, Нямеччына).

**Генрык Юзэфовіч**. У 1946 г. вучыўся ва ўніверсітэце ў Рыме. З Італіі перабраўся ў Вялікую Брытанію. Належаў да ЗБВБ. Сябра БХАА «Жыццё». У 1949 г. выехаў у Аргентыну, дзе быў сябрам беларускіх нацыянальных арганізацыяў, стаў радным БЦР. Адтуль у 1952 г. выехаў на навучанне ў Іспанію, дзе таксама належаў да БЦР.

**Эмануіл Ясюк**. Нарадзіўся ў 1906 г. у Жухавічах (сёння Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл.). У 1930-х скончыў універсітэт у Льежы (Бельгія) з дыпломам інжынера. Падчас нямецкай акупацыі — старшыня Стаўбцоўскага р-ну, дэлегат Усебеларускага царкоўнага сабору (жнівень 1942 г.) і Другога Усебеларускага кангрэсу. З лета 1944 г. — на эміграцыі. Браў удзел у аднаўленчым Пленуме БЦР у Эльвангене (травень 1948), прызначаны міністрам замежных справаў БЦР.

У 1950 г. пераехаў у ЗША, пасяліўся ў Пасэіку (Нью-Джэрзі, ЗША); быў суўласнікам кампаніі «Крыс Электронікс». Старшыняваў на першым паседжанні сябраў БЦР у ЗША (лістапад 1949 г.), узначаліў прадстаўніцтва БЦР у ЗША. У 1953 г. узначаліў у БЦР аддзел замежных справаў і эміграцыі, з 1957 г. узначальваў арганізацыю Амерыканскія прыхільнікі БЦР, быў заснавальнікам арганізацыі беларускіх ветэранаў у Пасэіку, віцэ-старшынём Беларускага кангрэсавага камітэту Амерыкі.

Быў актыўным сярод амерыканскіх бізнесоўцаў. Праз свае кантакты ў бізнесе дамогся, каб у Пасэіку 25 Сакавіка мэр гораду выдаваў спецыяльную праклямацыю, а перад ратушаю вывешвалі бел-чырвона-белы сцяг.

Памёр 10 снежня 1977 г. Пахаваны на Беларускіх могілках у Саўт-Рывэры.

# ІМЕННЫ ПАКАЗНІК

# ЗМЕСТ

**Гардзіенка, А.**

Г20 Беларуская Цэнтральная Рада (БЦР): стварэнне — дзейнасць — заняпад (1943–1995) / Алег Гардзіенка ; прадм. В. Кіпеля, Я. Запрудніка. — Мінск : Кнігазбор, 2016. — 480 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны ; кн. 29).

ISBN 978-985-7144-02-0.

Кніга «Беларуская Цэнтральная рада (БЦР): стварэнне — дзейнасць — заняпад (1943–1995)» (29-я ў серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны») распавядае пра нацыянальны рух падчас нямецкай акупацыі і спробу стварэння ўраду са згоды немцаў. У кнізе апісваюцца ўмовы запачаткавання БЦР, надаецца ўвага арганізацыйным і побытавым пытанням. Таксама аўтар даследуе перыяд эвакуацыі з Беларусі, аднаўленне працы Рады ў паваеннай Нямеччыне, а затым і ва ўмовах эміграцыі ў іншыя краіны, найперш у ЗША. Публікуюцца асноўныя дакументы, хроніка галоўных падзеяў, біяграфічныя звесткі.

**УДК 329(476)“1943/1995”(093.2)**
**ББК 66.68(4Беи)**

Навукова-папулярнае выданне

Бібліятэка Бацькаўшчыны
Кніга 29

**Гардзіенка** Алег

# Беларуская Цэнтральная Рада (БЦР): стварэнне — дзейнасць — заняпад (1943–1995)

Адказны за выпуск Генадзь Вінярскі
Вёрстка Ларысы Гарадзецкай
Дызайн вокладкі Анатоля Лазара
Карэктар Настасся Мацяш

Падпісана да друку 11.12.2015. Фармат 60x84 $^1/_{16}$.
Папера афсетная. Друк на рызографе.
Ум. друк. арк. 28,0. Ул.-выд. арк. 24,12.
Наклад 200 асоб. Замова 542.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ААТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/167 ад 01.10.2014.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.